Etym. Brun. 1 = Studia Etym. Brun.

Etym. Brunensia – Etymologica Brunensia: Sborník Oddělení historickosrovnávací jazykovědy. Praha, 1978.

ЭШ = Сл. Эп.-Шып.

ЭШ, рук. – Слоўнік Б. Эпімаха-Шыпілы (рукапіс; Санкт-Пецярбург; Архіў Бібліятэкі РАН).

Юбил. слав. сб. – Юбилеен славистичен сборник: сб. с докл. от Междунар. славист. конф. <…> в Югозападния ун-т «Неофит Рилски». Благоевград, 2005.

Юнгман – Jungmann J. Slovník česko-německý. D. 1–5. Praha, 1835–1839.

Юргялевіч, Курс – Юргялевіч П. Я. Курс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі. Мінск, 1974.

Юркоўскі, Ukr. hydrogr. – Jurkowski M. Ukraińska terminologia hydrographiczna. Wrocław [etc.], 1971.

Юрч. – Юрчанка Г. Ф. Дыялектны слоўнік (З гаворак Мсціслаўшчыны). Мінск, 1966.

Юрч. Вытв. – Юрчанка Г. Ф. Народнае вытворнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны: слоўн.: у 3 вып. Мінск, 1981–1985.

Юрч. Жыв. = Мсцісл., Полымя, 1987, 7 – Юрчанка Г. Жывое народнае слова // Полымя. № 7. Мінск, 1987.

Юрч. Крыл. – Юрчанка Г. Крылатыя залацінкі Мсціслаўшчыны. Магілёў, 2001.

Юрч. Мудр. – Юрчанка Г. Ф. Народнае мудраслоўе. Мінск, 2002.

Юрч. Сін. – Юрчанка Г. Ф. Народная сінаніміка. Мінск, 1969.

Юрч. СНЛ – Юрчанка Г. Ф. Сучасная народная лексика: з гаворкі Мсціслаўшчыны: слоўн.: у 3 ч. Мінск, 1993–1998.

Юрч. СНС = Юрч. Суч. нар. сл. – Юрчанка Г. Ф. Сучаснае народнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны: слоўн.: – Мінск, 1988.

Юрч. Фр. = Юрч. Фраз. 3.

Юрч. Фраз. 1 – Юрчанка Г. Ф. І коціцца і валіцца: устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. [А–З]. – Мінск, 1972.

Юрч. Фраз. 2 – Юрчанка Г. Ф. І сячэ і паліць: устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. [І–П]. Мінск, 1974.

Юрч. Фраз. 3 – Юрчанка Г. Ф. Слова за слова: устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. [Р–Я]. Мінск, 1977.

Яблонскіс – Lietuviški žodžiai senosios Lietuvos raštinių kalboje. D. 1: Tekstai / Sudarė Konstantinas Jablonskis. Kaunas, 1941.

Яварніцкі, Словник – Яворницький Д. І. Словник української мови. Т. 1: А–К. Катеринослав, 1920.

Ягораў – Егоров В. Г. Этимологический словарь чувашского языка. Чебоксары, 1964.

Язык культуры – Язык культуры: семантика и грамматика: к 80-летию со дня рождения акад. Никиты Ильича Толстого. М., 2004.

Язык, слово, действительность – Язык, слово, действительность: материалы Междунар. науч. конф. Ч. 1–2. Минск, 2000.

ЯиМ – Язык и мышление = Le langage et la mentalite. Вып. 1–10. Л., 1933–1940.

Якабсон, Writings – Jakobson R. Selected Writings. Vol. 1–8. The Hague [etc.], 1962–1988.

Якубовіч, Drogi słów – Jakubowicz M. Drogi słów na przestrzeni wieków: zarys słownika motywacji semantycznych na materiale przymiotników słowiańskich odziedziczonych z prasłowiańszczyzny. Warszawa, 2010.

Ян. – Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. Мінск, 1982.

Янк. – Янкоўскі Ф. М. Дыялектны слоўнік. Вып. 1–3. Мінск, 1959–1970.

Янк. БП – Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы / склаў Ф. Янкоўскі. Мінск, 1962.

Янк. БФ = Янк. БФр – Янкоўскі Ф. Беларуская фразеалогія: фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне. Мінск, 1968.

Янк. Мат. – Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы / пад рэд. Ф. М. Янкоўскага. Мінск, 1960.

Янкоўскі, Бел. мова – Янкоўскі Ф. М. Беларуская мова. Мінск, 1978.

Яновіч, Наречие – Янович Е. И. Наречие в истории русского языка: генезис и функционирование основных морфологических типов производных наречий. Минск, 1978.

Янук. – Янукевіч В. С. Дыялектныя назвы ежы ў гаворцы в. Лісавічы Докшыцкага раёна // Весн. БДУ. Сер. IV, Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. 1971, № 1.

Яруш. – Ярушевич А. И. Русско-белорусский словарь (рукапіс; Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва; Мінск).

Яўс. – Яўсееў Р. Маці казала так... : З гаворкі Бялыніцкага раёна. Мінск, 1978; Рукапісныя матэрыялы для слоўніка Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці: Абарот – Сівун.

Яшк. = Яшкін – Яшкін І. Я. Беларускія геаграфічныя назвы. Мінск, 1971.

Яшк. Мясц. – Яшкін І. Я. Мясцовая беларуская лексіка 1851–1874 гадоў у матэрыялах фондаў Аддзела рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта // Acta Baltico-Slavica. Rocz. 22. Warszawa, 1994.

Яшкін, Слоўнік – Яшкін І. Я. Слоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмінаў: Тапаграфія. Гідралогія. Мінск, 2005.

Яшкін, Узаемадзеянне – Яшкін І. Я. Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм: фанетыка. Мінск, 1976.

## Мовы і дыялекты (т. 1–14)

а.-англ. – амерыканска-англійскае
авест. – авестыйскае
аг.-бел. – агульнабеларускае
агульнаслав. – агульнаславянскае
адэс. – адэскае
азерб. – азербайджанскае
азоўск. – азоўскае
акц. – акцябрскае
алб. – албанскае
алб.-тоск. – албанска-тоскскае
алон. = алан. – алонецкае
алт. – алтайскае
амур. – амурскае
англ. – англійскае
англ.-сакс. – англасаксонскае
анеж. – анежскае

апоч. – апочкаўскае
араб. – арабскае
арамей. – арамейскае
арл. – арлоўскае
арм. – армянскае
арум. – арумынскае
арханг. – архангельскае
арш. – аршанскае
арэнб. – арэнбургскае
асец. – асецінскае
асіп. – асіповіцкае
асір. – асірыйскае
асір.-вавіл. – асірыйска-вавілонскае
асм. – асманскае
асташ. – асташкаўскае
астрав. – астравецкае
астрах. – астраханскае
аўгуст. – аўгустоўскае
аўстр.-ням. – аўстрыйска-нямецкае
афг. – афганскае
ацтэк. – ацтэкскае
ашм. – ашмянскае
б.-каш. – буда-кашалёўскае
бабр. – бабруйскае
бавар. – баварскае
балг. – балгарскае
балкар. – балкарскае
балк.-лац. – балкана-лацінскае
балт. – балтыйскае
балт.-ням. – балта-нямецкае
балта-слав. – балтаславянскае
баран. = баранав. – баранавіцкае
барыс. – барысаўскае
баснійск. – баснійскае
баш. – башкірскае
бел. – беларускае
бел.-укр. – беларуска-ўкраінскае
беламор. – беламорскае
беласт. – беластоцкае
бельск. – бельскае
бераст. – берастовіцкае
бесар. – бесарабскае
беш. – бешанковіцкае
бібл.-гебр. – біблейска-гебрайскае
бойк. – бойкаўскае
болх. – болхаўскае
брагін. – брагінскае
бранск. – бранскае
брасл. – браслаўскае
брэсц. – брэсцкае
брэтонск. – брэтонскае
бук. – букавінскае
бурац. – бурацкае
бых. – быхаўскае
бягом. – бягомльскае
бялудж. – бялуджскае
бялын. – бялыніцкае
бяроз. – бярозаўскае
бярэз. – бярэзінскае
в.-дзв. = в.-дзвін. – верхнядзвінскае
в.-луж. – верхнялужыцкае
в.-ням. – верхненямецкае
вал. – валійскае, *гл.* кімр., уэл.
валаг. – валагодскае
валаш. – валашскае
валгагр. – валгаградскае
валд. – валдайскае
валож. – валожынскае
валын. – валынскае
варм.-мазур. – вармійска-мазурскае
варонеж. – варонежскае
васіл. – васілевічскае
ваўк. – ваўкавыскае
вацяцк. – вацяцкае
вед. – ведыйскае
веліж. – веліжскае
велікарус. – велікарускае
венг. – венгерскае
венец. – венецыянскае
венецк. – венецкае
вепск. – вепскае
ветк. – веткаўскае
візант. – візантыйскае
візант.-грэч. – візантыйска-грэчаскае
віл. – вілейскае
вілен. – віленскае
вільн. – вільнюскае
віц. – віцебскае

вод. – водскае
волжск. – волжскае
волх. – волхаўскае
воран. – воранаўскае
вышагар. – вышагародскае
вышневал. – вышневалоцкае
вял.-польск. – вялікапольскае
вяц. – вяцкае
гал. – галандскае, *гл.* нідэрл.
гала-раманск. – галараманскае
гальск. – гальскае
ганц. – ганцавіцкае
гарад. – гарадоцкае
гарадн. – гараднянскае
гдоўск. – гдоўскае
гебр. – гебрайскае, *гл.* семіц., яўр.
гегск. – гегскае
герм. – германскае
герцагавін. – герцагавінскае
глус. – глускае
глыб. – глыбоцкае
гом. – гомельскае
горац. – горацкае
горк. – горкаўскае
горыц. – горыцкае
гоц. – гоцкае
градзішч. – градзішчанскае
гродз. – гродзенскае
груз. – грузінскае
грэч. – грэчаскае
гуц. – гуцульскае
гэльск. – гэльскае
д.-гарад. – давід-гарадоцкае
далмацінск. – далмацінскае
дан. – данское
дар. – дарыйскае
даўг. – даўгаўпілскае
дац. – дацкае
джагатайск. – джагатайскае
дзвін. – дзвінскае
дзевяніш. – дзевянішскае
дзісн. – дзісненскае
дзярж. – дзяржынскае
дзятл. – дзятлаўскае
добр. – добрушскае
докш. – докшыцкае
драг. – драгічынскае
дрыб. – дрыбінскае
дрыс. – дрысенскае
дубр. – дубровенскае
дуброўн. – дуброўніцкае
духав. – духавішчанскае
ельн. – ельнінскае
ельск. – ельскае
еніс. – енісейскае
жабін. – жабінкаўскае
жамойц. – жамойцкае
жлоб. – жлобінскае
жмуд. – жмудскае
жыздр. – жыздрынскае
жыт. – жыткавіцкае
житом. – житомірскае
забайкальск. – забайкальскае
закарп. – закарпацкае
зах. – заходняе
зах.-бел. – заходнебеларускае
зах.-бранск. – заходнебранскае
зах.-гом. – заходнегомельскае
зах.-еўрап. – заходнееўрапейскае
зах.-палес. – заходнепалескае
зах.-слав. – заходнеславянскае
зах.-тунг. – заходнетунгускае
зах.-укр. – заходнеўкраінскае
зэльв. – зэльвенскае
і.-е. – індаеўрапейскае
іван. – іванаўскае (Беларусь)
іванаўск. – іванаўскае (Расія)
івац. – івацэвіцкае
івян. – івянецкае
ігн. – ігналінскае
ігум. – ігуменскае
ід. – ідыш
ілір. – ілірыйскае
інд.-іран. – індаіранскае
іран. – іранскае
іркуц. – іркуцкае
ірл. – ірландскае
ісп. – іспанскае

істр. – істраўскае
іт. – італійскае
італ. – італьянскае
іўеў. – іўеўскае
іўр. – іўрыт
іян. – іянічнае
йонаўск. – йонаўскае
кадн. – каднікаўскае
каз.-тат. – казанска-татарскае
казах. – казахскае
казял. – казялецкае
кайк. – кайкаўскае
калін. – калінінскае
калінк. – калінкавіцкае
калм. – калмыцкае
калуж. – калужскае
калым. – калымскае
кам. – камянецкае
капатк. – капаткевіцкае
капыл. – капыльскае
караім. – караімскае
каракалп. – каракалпацкае
карасц. – карасценскае
карач. – карачаеўскае
карм. – кармянскае
карнуэлск. – карнуэлскае
карп. – карпацкае
карэл. – карэльскае
карэліц. – карэліцкае
кастр. – кастрамское
касцюк. – касцюковіцкае
кацеўск. – кацеўскае
каш. – кашубскае
кемер. – кемераўскае
кіёўск. – кіёўскае (Чэхія)
кімр. – кімрскае, *гл.* вал., уэл.
кір. – кіраўскае (Расія)
кіраў. = кіраўск. – кіраўскае (Беларусь)
кірг. – кіргізскае
кіт. – кітайскае
клец. – клецкае
клім. – клімавіцкае
кліч. – клічаўскае
кобр. – кобрынскае
ковен. – ковенскае
кольск. – кольскае
копц. – копцкае
косава-мятох. – косава-мятохскае
крак. – кракаўскае
красл. – краслаўскае
краснап. – краснапольскае
краснаяр. – краснаярскае
кругл. – круглянскае
круп. – крупскае
крым.-тат. – крымскататарскае
крыч. – крычаўскае
крэўск. – крэўскае
кубан. – кубанскае
куйбыш. – куйбышаўскае
куман. – куманскае
кур. – курскае
курд. – курдскае
кыпч. – кыпчакскае
кялецк. – кялецкае
лаг. – лагойскае
лагіш. – лагішынскае
ламбард. – ламбардскае
лангаб. – лангабардскае
лат. – латышскае
латг. – латгальскае
лац. – лацінскае
лац.-гальск. – лацінскагальскае
лельч. – лельчыцкае
лемк. – лемкаўскае
ленінгр. – ленінградскае
леп. – лепельскае
лёзн. – лёзненскае
лігур. – лігурыйскае
лід. – лідскае
літ. – літоўскае
ліўск. – ліўскае
лоеў. – лоеўскае
лудз. – лудзенскае
лун. – лунінецкае
льв. – львоўскае
люб. – любанскае
лях. – ляхавіцкае
ляш. – ляшскае

маг. – магілёўскае
мазав. – мазавецкае
мазыр. – мазырскае
макед. – македонскае
маладз. – маладзечанскае
малайск. – малайскае
малапольск. – малапольскае
малар. – маларыцкае
малд. – малдаўскае
манг. – мангольскае
манс. – мансійскае
мар. – мараўскае
мар.-славац. – мараўска-славацкае
мард. – мардоўскае
марыйск. – марыйскае
маск. – маскоўскае
маст. – мастоўскае
мглін. – мглінскае
мекс. – мексіканскае
мёрск. = міёрск. – мёрскае (міёрскае)
мін. – мінскае
мінойск. – мінойскае
мір. – мірскае
міргар. – міргародскае
мсцісл. – мсціслаўскае
мундж. – мунджанскае
мядз. – мядзельскае
мяшч. – мяшчоўскае
н.-дан. – ніжнеданскоe
н.-луж. – ніжнялужыцкае
н.-ням. – ніжненямецкае
навагр. – навагрудскае
навазыбк. – навазыбкаўскае
наг. – нагайскае
нар.-лац. – народналацінскае
нараўл. – нараўлянскае
нарв. – нарвежскае
наўг. – наўгародскае
неж. – нежынскае
ненец. – ненецкае
нідэрл. – нідэрландскае, *гл.* гал.
ніжагар. – ніжагародскае
нова-в.-ням. – новаверхненямецкае
новаҥям. – новаҥямецкае
новагрэч. – новагрэчаскае
новалац. – новалацінскае
новаперс. – новаперсідскае
новарас. – новарасійскае
новасіб. – новасібірскае
ням. – нямецкае
ням.-аўстр. – нямецка-аўстрыйскае
нясвіж. – нясвіжскае
оск. – оскскае
охрыд. – охрыдскае
п'емонц. – п'емонцкае
падг. – падгальскае
падзв. – падзвінскае
падляш. – падляшскае
падмаск. – падмаскоўнае
пазн. – пазнанскае
палаб. – палабскае
палес. – палескае
палт. – палтаўскае
памор. – паморскае
парт. – партугальскае
парыц. – парыцкае
паст. – пастаўскае
паўд. – паўднёвае
паўд.-зах. – паўднёва-заходняе
паўд.-рус. – паўднёварускае
паўд.-слав. – паўднёваславянскае
паўд.-чэш. – паўднёвачэшскае
паўн. – паўночнае
паўн.-віц. – паўночнавіцебскае
паўн.-дзвін. – паўночнадзвінскае
паўн.-слав. – паўночнаславянскае
паўн.-рус. – паўночнарускае
паўн.-усх.-бел. – паўночна-ўсходне-беларускае
паўн.-італ. – паўночнаітальянскае
пенз. – пензенскае
перм. – пермскае
перс. – персідскае
петрык. – петрыкаўскае
пецярб. – пецярбургскае
пін. – пінскае
пірдоп. – пірдопскае
плешч. – плешчаніцкае

позналац. – позналацінскае
полац. – полацкае
польск. – польскае
praванс. – правансальскае
прагерм. – прагерманскае
пра-і.-е. – праіндаеўрапейскае
пракельт. – пракельцкае
пракр. – пракрыцкае
прасл. – праславянскае
протабулг. – протабулгарскае
пруж. – пружанскае
прус. – прускае
прыбалт. – прыбалтыйскае
прыкарп. – прыкарпацкае
прынёманск. – прынёманскае
прычарн. – прычарнаморскае
прэйл. – прэйльскае
пск. – пскоўскае
пух. – пухавіцкае
пячор. – пячорскае
рагач. – рагачоўскае
радашк. – радашковіцкае
радоп. – радопскае
радун. – радунскае
разан. – разанскае
рас. – расонскае
раст. – растоўскае
ров. – ровенскае
росл. – рослаўскае
рудзен. – рудзенскае
рум. – румынскае
рус. – рускае
рус.-ц.-слав. – руска-царкоўнаславянскае
рэз'ян. – рэз'янскае
рэтарам. – рэтараманскае
рэч. – рэчыцкае
с.-англ. – сярэднеанглійскае
с.-балг. – сярэднебалгарскае
с.-брэтонск. – сярэднебрэтонскае
с.-в.-ням. – сярэдняверхненямецкае
с.-вяк.-лац. – сярэдневяковалацінскае
с.-гебр. – сярэднегебрайскае
с.-грэч. – сярэднягрэчаскае
с.-ірл. – сярэднеірландскае
с.-лац. – сярэднелацінскае
с.-н.-ням. – сярэдненіжненямецкае
с.-тур. – сярэднетурэцкае
саам. – саамскае
сабін. – сабінскае
сагдз. – сагдзійскае
сакол. – сакольскае
саксон. – саксонскае
саліг. – салігорскае
салікам. – салікамскае
салун. – салунскае
самак. – самакаўскае
санскр. – санскрыцкае
сарат. – саратаўскае
светлаг. – светлагорскае
свісл. – свіслацкае
свянц. – свянцянскае
свярдл. – свярдлоўскае
себеж. – себежскае
сейненск. – сейненскае
семіц. – семіцкае, *гл.* гебр., яўр.
сен. – сенненскае
серб. – сербскае
серб.-луж. – сербалужыцкае
серб.-харв. – сербахарвацкае
серб.-ц.-слав. – сербска-царкоўнаславянскае
сіб. – сібірскае
сілез. – сілезкае
сімб. – сімбірскае
сканд. – скандынаўскае
скідз. – скідзельскае
слав. – славянскае
славац. – славацкае
славен. – славенскае
славін. – славінскае
славін.-каш. – славінска-кашубскае
славон. = славонск. – славонскае
слаўг. – слаўгарадскае
слонім. – слонімскае
слуц. – слуцкае
смал. – смаленскае
смаляв. – смалявіцкае

смарг. – смаргонскае
сміл. – смілавіцкае
соль-ілецк. – соль-ілецкае
ст.-англ. – старажытнаанглійскае
ст.-арм. – старажытнаармянскае
ст.-бел. – старабеларускае
ст.-булг. – старабулгарскае
ст.-в.-нiям. – старажытнаверхненямецкае
ст.-грэч. – старажытнагрэчаскае
ст.-дар. – старадарожскае
ст.-дац. – старажытнадацкае
ст.-егіпец. – старажытнаегіпецкае
ст.-інд. – старажытнаіндыйскае
ст.-іран. – старажытнаіранскае
ст.-ірл. – старажытнаірландскае
ст.-ісл. – старажытнаісландскае
ст.-літ. – старажытналітоўскае
ст.-нарв. – старажытнанарвежскае
ст.-перс. – старажытнаперсідскае
ст.-польск. – старажытнапольскае
ст.-прус. – старажытнапрускае
ст.-рус. – старарускае
ст.-сакс. – старасаксонскае
ст.-серб. – старажытнасербскае
ст.-серб.-харв. – старажытнасербахарвацкае
ст.-сканд. – старажытнаскандынаўскае
ст.-слав. – старaславянскае
ст.-славац. – стараславацкае
ст.-славен. – стараславенскае
ст.-тат. – старажытнататарскае
ст.-уйг. – старажытнауйгурскае
ст.-укр. – стараўкраінскае
ст.-франк. – старажытнафранкскае
ст.-фрыз. – старажытнафрызскае
ст.-цюрк. – старажытнацюркскае
ст.-чув. – старажытначувашскае
ст.-чэш. – старачэшскае
ст.-швед. – старажытнашведскае
ст.-яўр. – старажытнаяўрэйскае
старадуб. – старадубскае
станаж.-рус. – старажытнарускае
староб. – старобінскае
стаўб. – стаўбцоўскае
стаўрап. – стаўрапольскае
стол. – столінскае
стрэш. – стрэшынскае
сувалк. – сувалкійскае
сум. – сумскае
сядл. – сядлецкае
табол. – табольскае
табол.-тат. – табольска-татарскае
тагільск. – тагільскае
таіц. – таіцянскае
талач. – талачынскае
тамб. – тамбоўскае
тат. – татарскае
тат.-баш. – татарска-башкірскае
тахар. – тахарскае (А, В)
том. – томскае
трак. = трок – тракайскае (трокскае)
трубч. – трубчэўскае
тул. = тульск. – тульскае
тур. – турэцкае
тур.-араб. – турэцка-арабскае
тур.-перс. – турэцка-персідскае
тураў. – тураўскае
туркм. – туркменскае
тыбец.-бірм. – тыбецка-бірманскае
тырн. = тырнаўск. – тырнаўскае
удм. – удмурцкае
узб. – узбекскае
узд. – уздзенскае
уйг. – уйгурскае
укр. – украінскае
уладз. – уладзімірскае
ульян. – ульянаўскае
умбр. – умбрскае
урал. – уральскае
усх. – усходняе
усх.-літ. – усходнелітоўскае
усх.-палес. – усходнепалескае
усх.-прус. – усходнепрускае
усх.-сіб. – усходнесібірскае
усх.-слав. – усходнеславянскае
усх.-цюрк. – усходнецюркскае

ушац. – ушацкае
уэл. – уэльскае, *гл.* вал., кімр.
фін. – фінскае
фін.-угор. – фінаўгорскае
флам. – фламандскае
фрак. – фракійскае
франк. – франкскае
франц. – французскае
фрыз. – фрызскае
фурл. – фурланскае
халм. – халмагорскае
халоп. – халопеніцкае
ханты-мансійск. – ханты-мансійскае
харв. – харвацкае
харк. – харкаўскае
хец. – хецкае
хец.-лув. – хецка-лувійскае
ходск. – ходскае
хойн. – хойніцкае
хоцім. – хоцімскае
хэлм.-дабж. – хэлмска-дабжынскае
ц.-палес. – цэнтральнапалескае
ц.-слав. – царкоўнаславянскае
цвяр. – цвярское
церск. – церскае
цімак. – цімакскае
цірольск. – цірольскае
цыган. – цыганскае
цэнтр. – цэнтральнае
цюрк. – цюркскае
цюрк.-манг. – цюркска-мангольскае
чавус. – чавускае
чагат. – чагатайскае
чак. – чакаўскае
чарап. – чарапавецкае
чарнаг. – чарнагорскае
чарнамор. – чарнаморскае
чарніг. – чарнігаўскае
чач. – чачэрскае
чашн. – чашніцкае
чкалаўск. – чкалаўскае
чув. – чувашскае
чырв. – чырвонаслабодскае
чэрв. – чэрвеньскае
чэрык. – чэрыкаўскае
чэш. – чэшскае
шальч. – шальчынінкайскае
шарк. – шаркаўшчынскае
шатл. – шатландскае
швед. – шведскае
швейц.-ням. – швейцарска-нямецкае
швянч. – швянчонскае
шкл. – шклоўскае
шток. – штокаўскае
шуйск. – шуйскае
шуміл. – шумілінскае
шчуч. – шчучынскае
эвен. – эвенкійскае
эст. – эстонскае
этрус. – этрускае
якуц. – якуцкае
япон. – японскае
ярасл. – яраслаўскае
яўр. – яўрэйскае, *гл.* гебр., семіц.
яўр.-ням. – яўрэйска-нямецкае

# Т

**Трапкí** ‘ніцяныя канцы ў рушніку’ (Бяльк.), *трапкэ́* ‘карункі і махры ў рушніках’ (Уладз.), *трэ́пкі* ‘канцы ў кроснах’ (ТС). Гл. *страпкі*, *стрэпкі*, *трапка*.

**Трапло́**$_1$ ‘прылада, якой трэплюць лён’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Мядзв., Шат., Касп., Сл. Брэс., Дэмб. 2; глус., Янк. Мат.; нараўл., Арх. ГУ; мёрск., Ск. нар. мовы, Сл. ПЗБ), *трэпло́* ‘тс’ (Пятк. 2, Мат. Гом., Сл. Брэс.), *трапло́* і *трэпа́ло* ‘тс’ (Сл. Брэс.; пруж., Сл. ПЗБ); *трапло́* ‘мянташка’ (Ласт.), *трэ́пла* ‘калодачка, падстаўка, слупок – прыстасаванне трапаць лён’ (Сл. ПЗБ; докш., бых., карм., бяроз., пін., бабр., добр., ЛА, 5); *трепло́* ‘жменя лёну для трапання’ (петрык., ЛА, 4); *трэпло́* ‘трапанне’ (Мат. Гом.). Укр. *трепло́* ‘вясло ў плыце’, ‘трапачка для лёну’, рус. дыял. *трепло́* ‘тс’. Утворана ад асновы **trep-* (гл. *трапаць*$_1$) і суф. *-*lo*, які ўтварае пераважна nomina instrumenti (адносна апошняга гл. Слаўскі, SP, 1, 104).

**Трапло́**$_2$ ‘чалавек, які гаворыць бязглуздзіцу, балбатун, пустабрэх’ (ТСБМ, Шат., Касп.; ашм., Стан., Сцяшк., Брасл. сл., Мат. Гом.), *трэпло́* ‘тс’ (Арх. Вяр., ТС, Растарг.), *тряпло́* ‘тс’ (віц., ЛА, 2); сюды ж выраз *трапло́ вавіло́нскае* (астрав., Бел. дыял. 1), *траплава́ты* ‘які любіць гаварыць недарэчнасці’ (Сл. ПЗБ), *траплівый* ‘балбатлівы’ (Юрч. СНС). Вытворнае ад *трапаць*$_2$ у значэнні ‘многа гаварыць’ (Саевіч, Derywacja, 230), параўн. укр. *трепло́* ‘балбатун, хвалько’, рус. разм. *трепло́* ‘балбатун’; утварэнне, аманімічнае *трапло*$_1$, мажліва, аргатычнага паходжання, параўн. укр. аргат. *трепа́ти* ‘чытаць, спяваць’ (Горбач, Арго), што не выключае ўплыву т. зв. бурсацкай мовы.

**Трапнíк**$_1$ ‘рэшта палатнянай асновы’ (Мат. Гом.), ‘ручнік з доўгімі махрамі’ (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), ‘скарач – канцы кроснаў, у якія

ўвязвалі посуд з ядой' (лун., ЛА, 5), *трапнічо́к* 'тс' (ст.-дар., ЛА, 5), 'ануча' (Сцяшк. Сл.). Адыменнае ўтварэнне ад *трапкі* (гл.) аналагічна да *страпнік* (гл.); суф. *-нік*, тут, мажліва, пад уплывам *ручнік* 'тс', параўн. з іншай суфіксацыяй *трапкач* (гл.).

**Трапні́к$_2$** 'драсён птушыны, *Polygonum aviculare* L.' (івац., ЛА, 1). Параўн. укр. *тро́пник* 'сачавічнік вясенні, *Orobus vernus*'. Да *трапа́* (гл.), іншыя назвы гэтай расліны: *падарожнік*, *прыдарожнік*, *дарожнік*, чэш. *ucestka* (*u-* 'каля', *cesta* 'дарога'), ням. *Weggras* 'тс'.

**Трапну́цца** (*трэпну́цца*) 'уздрыгануцца, страпянуцца' (ТС). Магчыма, варыянт да *стрэпенуцца* 'тс' (гл. *страпянуць*) без пачатковага ("рухомага") *с-* зменены пад уплывам *трэ́пнуць*, *тро́пнуць* 'ударыць', гл. *трапаць$_1$*.

**Тра́пны** 'цэльны, меткі; надзейны' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Ласт.), сюды ж *тра́фны* 'меткі', *trápna* 'ўдала, добра' (Варл.). З польск. *trafny* 'ўдалы, меткі', аналагічна да *трапіць$_1$*, *трафіць* (гл.).

**Тра́пта** 'від плыта для сплаву шпал': *ходзіць на тра́пты* 'займацца лесасплавам' (ТС), *трапто́ўка* 'змацаванне разам двух, чатырох або шасці калачоў, што звязваюць дровы на плыту разам', *траптава́ць* 'рабіць траптоўку' (навагр., Жыв. сл.). Са ст.-польск. *trapta*, *trawta*, *tryfta*, запазычанага з с.-в.-ням. *trift* 'сплаў бярвенняў, лесаматэрыялу', н.-ням. *Trift* 'тс' < с.-в.-ням. *triften* 'гнаць, прыводзіць у рух, піхаць, спіхваць' (Борысь, 640; Брукнер, 575; ЕСУМ, 5, 623). Гл. таксама *трата*.

***Трапуга**, *трыпу́га*, *тырпу́га*, *тэрпуха́* 'мянташка', сюды ж *трэпуга́ты*, *тырпу́жыты* 'мянціць' (Сл. Брэс.). Мясцовае ўтварэнне ад *трапаць$_1$* з рэдкім суф. *-уга*, магчыма, з першаснага *-уха*, які часцей ужываецца пры называнні прадметаў дзеяння (Сцяцко, Афікс. наз., 71).

**Трапу́нак**, *трапу́нок* 'выпадак' (Касп., Сл. Брэс.; драг., З нар. сл.), *трапу́нкі* 'ліха' (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *трафунокъ* 'выпадак' запазычана са ст.-польск. *trafunek*, *trefunek* 'тс', якое з *trafić* > бел. *трапіць$_1$* (гл.). Гл. таксама *трафу́нак*.

**Трапы́шка** 'мянташка; трапалка (для лёну)' (Юрч., Яўс.), *трапы́шка*, *тряпы́шка* 'тс' (Бяльк.), сюды ж *трапы́шыць* 'мянташыць'

(Яўс., Мат. Маг.). Мясцовы фанетычна зменены варыянт да *трапушка*, гл. *трапашыць*.

**Трапэ́з** 'трапецыя' (Байк. і Некр.). Гл. *трапеза*$_2$, *трапецыя*.

**Трапяза́**: *й łaziè na trapiezie siedzić kazá na adnoj naze. – Hryb* (ваўк., Федар., 4, 470), што адпавядае зах.-палес. *трипиза́* 'непраходнае месца, бездарожжа', сюды ж *трэбеза́* 'густы зараснік на балоце і рацэ' (Бес.). Няясна (ЕСУМ 5, 640), параўн. *трапеза*$_1$. Параўн. таксама укр. *нетрипе́за* 'непраходны зараснік', якое Нікančук (Лесная лекс., 10) зближае з *нетра* (гл. *нетры*), што сумніўна. Сюды ж, магчыма, польск. *trepież*, *trepeza*, *trabeza*, *trepicha* 'балота, дрыгва', якія Талстой (Геогр., 176) спрабуе звязаць з дзеясловам **trepetati*, мяркуючы пра ўсходнеславянскае паходжанне, гл. *трапятаць*. Хутчэй за ўсё, звязана з *трапаць*$_1$ (< **trepati*: **trapiti*: **trap-*, сюды ж чэш. *střapiti* 'рваць на кавалкі, драць', гл. Куркіна, Культура, 104–105), першаснае значэнне 'неапрацаваная зямля' ва ўкраінскай форме з адмоўем. Гл. і *трупізнік*.

**Трапя́нка** 'страціўшая раўнавагу' (Варл.). Да *тарапянка* 'тс' (гл.) з пропускам галоснай, магчыма, пад уплывам літ. *trepénti* 'бегчы з падскокам', адносна апошняга гл. Смачынскі, 630.

**Трапяслі́вы** 'хуткі ў рабоце' (навагр., Нар. сл., ЛА, 2), *трэпеста́ць* 'трапятаць' (ТС), *трэпэста́ць* 'гаварыць абы-што, балбатаць' (Руб.), *трапяста́цца* 'кідацца, старацца зрабіць усё з апошніх сіл' (гродз., Сл. ПЗБ), *трэпесту́н* 'балбатун': *багато трэпе́шчэ езыком*, *трэпесту́ха*, *трэпету́ха* 'тс (аб жанчыне)' (ТС). Да *трапята́ць* (гл.) з т. зв. s-intensivum. Параўн. укр. *трепесі́ти* 'дрыжаць з перапалоху', рус. *трепеста́ть* 'трапятаць', *трепеска́ть* 'тс'. Магчыма, гэта ўплыў балцкага субстрату: у літоўскай мове дзеясловы на *-sėti* ўтвараюцца ад анаматапеічных дзеясловаў. Гістарычна засведчана форма ст.-бел. *трепетливый* 'трапяткі' (ГСБМ).

**Трапята́ць** 'трымцець, дрыжаць' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *трыпыта́ты* 'лапатаць крыламі (пра птушак)' (кобр., Жыв. НС), *трапята́цца* 'пастаянна рухацца, варушыцца, дрыжаць' (ТСБМ, Нас.), 'мігаць, мільгаць, няроўна гарэць (пра агонь)' (ТСБМ), 'дзейнічаць, імкнуцца штосьці зрабіць' (ТСБМ, Юрч. СНЛ), 'узмоцнена ў сполаху біцца (пра сэрца)' (Юрч. Сін., Касп., Ян.), 'моцна баяцца каго-небудзь', 'быць ахопленым непакоем' (ТСБМ), перан.

‘жыць, існаваць’ (Нас., Ян.), ‘перабіраць ножкамі’ (Жд. 1); ‘адчуваць небяспеку (пра каня)’: *конь трапе́ча, трапе́чыць, стрэ́пая вушамі* (петрык., клім., іўеў., ЛА, 1), сюды ж *трапата́цца*: *трапатаўся чырвоны сцяжок* (Ю. Віцьбіч), ст.-бел. *трепетати, трепетатися* ‘дрыжаць, хваляваца, баяцца’ (ГСБМ). Укр. *трепета́ти*, рус. *трепета́ть* ‘дрыжаць, трапятацца, матляцца, каладіцца, біцца’, польск. *trzepiotać (się)* (з XV ст.) ‘махаць крыламі’, ‘трэсціся’, ‘балбатаць’, з XVIII ст. *trzepotać* ‘хутка рухацца, выконваць хуткія рухі’, каш. *třepotac* ‘балбатаць, плявузгаць’, в.-луж. *třepotać, třepjetać* ‘дрыжаць, трэсціся’, чэш. *třepetać, třepotać* ‘махаць крыламі’, ‘узмахваць, махаць’, ‘дрыжаць, хістацца’, славац. *trepotat' (sa)* ‘тс’, ‘грукатаць’, ‘развявацца (пра сцяг)’, ‘біцца (аб сэрцы, аб рыбе на зямлі)’, славен. *trepetáti* ‘трэсціся, дрыжаць, уздрыгваць’, харв. *trepètati*, серб. *трепѐтати* ‘дрыжаць’, балг. *трептя́* ‘дрыжаць, матляцца, мігцець’, макед. *трепети* ‘дрыжаць, мігаць’, ст.-слав. **трепетати** ‘дрыжаць, трэсціся’. Прасл. **trepetati* / **trepotati* ‘інтэнсіўна выбіваць, трэсці, рухацца, размахваць’; звязана з **trepati* > *трапа́ць$_1$* (гл.), ад якога ўтворана пры дапамозе суф. *-et-/-ot-*, што абазначае гукаперайманне, роднаснае літ. *trepùtas* ‘спрытнасць’, ст.-грэч. τρέπω ‘паварочваю, схіляю’, лац. *trepidāre* ‘дробненька хадзіць’, ‘дрыжаць, уздрыгвацца’, ‘мігаць, мільгацець’, ‘мітусліва спяшацца’, ‘баяцца’, ‘кідацца’, ст.-інд. *tr̥práḥ* ‘неспакойны, мітуслівы’ < і.-е. **trep-* ‘тупаць, дробна хадзіць, ступаць’, ‘перабіраць нагамі’ (Фасмер, 4, 99; Чарных, 2, 261; Брукнер, 583; Шустар-Шэўц, 1543; Скок, 3, 496–497; ЕСУМ, 5, 630). Сюды ж *трапяткі́* ‘ахвочы да работы’ (Жд. 1), *трапятлі́вы* ‘рухавы, што без працы не пасядзіць’ (Варл.), *трапяту́н* ‘які знешне стараецца, а, па сутнасці, абыякава адносіцца да сваёй справы’ (Сцяшк. Сл.), ‘вельмі рухавы, вёрткі чалавек, здольны выкручвацца з непрыемнага становішча’ (Юрч., Вытв. сл.), ‘малое дзіця, якое перабірае ножкамі’ (Жд. 1), *трапяту́ха* ‘рухавая жанчына, старанная, працавітая, руплівая’ (лях., ЖНС; навагр., Жыв. НС; ганц., Нар. лекс., Сл. Брэс.), *трапята́нне* ‘спосаб жыцця’, *трапята́ннік* ‘той, хто спрабуе штосьці зрабіць у жыцці’ (Юрч. СНЛ).

**Трапяту́ха** ‘варэнік з бульбы, начынены мясам’ (ганц., Сл. Брэс.), *трапяту́хі, трапятушкі* ‘печыва з цёртай бульбы’ (ганц., Сл. ПЗБ). Відаць, ад назвы жаўранка (гл. наступнае слова), параўн.

*жаваранак*$_2$ ‘булачка, якая выпякаецца на 9 (22) сакавіка’ (Нас.) аналагічна да *галубцы*, *галёпа* (рытуальнае печыва на Саракі ў выглядзе буслінай лапкі) і інш.

**Трапяту́шка** (*трэпету́шка*) ‘жаваранак, *Alauda arvensis vel arborea’* (Мат. Гом.), параўн. укр. дыял. *трепету́ха*, *трепещу́к* ‘палявы жаўранак’. Да *трапята́ць* (гл.). Матывацыя: хуткае трапятанне птушкі крылцамі (Булахоўскі, Вибр. пр., 3, 222; ЕСУМ, 5, 631).

**Трапяці́на** ‘шкіпінар’ (Сл. Брэс.). *трапаты́н* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). Гл. *тарпатына.*

**Тра́са** ‘лінія на карце ці на зямлі, якая намячае кірунак’, ‘дарога, якая злучае два аб’екты, населеныя пункты’, ‘след трасіруючай кулі, снарада’ (ТСБМ). Праз польскую (*trasa*) ці рускую (*трасса*) мовы з нованям. *Trásse* ‘траса’, якое з франц. *tracé* ‘тс’ < *tracer* ‘намячаць, пазначаць калочкамі дарогу’, ‘пракладваць лыжню’, якое ўзыходзіць да нар.-лац. *tractiare* < *tractare* < лац. *trahere* ‘цягнуць’ (Чарных, 2, 258; Голуб–Ліер, 487; SWO, 1980, 772; ЕСУМ, 5, 623; Арол, 4, 96).

**Трасава́ць** ‘дрэсіраваць’ (Ласт.). З польск. *tresować* ‘тс’, варыянт *dresować*, з ням. *dressieren* ‘тс’ да франц. *dresser* ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 631).

**Трасаві́на** ‘багна; зыбкае, хісткае месца, парослае мохам’ (Нас., Байк. і Некр.), *трасувэ́на* ‘тс’ (кам., ЛА, 2), параўн. укр. *трясо́вина* ‘забалочаная нізіна’. Утворана ад прыметніка, які адпавядаў прасл. **tręsavъ*, параўн. в.-луж. *třasawy* ‘які трасецца’, параўн. таксама польскі назоўнік з іншай суфіксацыяй *trzęsawisko* ‘дрыгва, багна’ (Борысь, 650; Куркіна, Этимология–1967, 139). Да *трэсці*, параўн. *трасяніна* (гл.).

**Трасаві́ца** ‘ліхаманка’ (Ласт.), ‘дрыжыкі’: *усё цела яго дрыжэла ў дробнай трасавіцы* (Ю. Віцьбіч), ст.-бел. *тресавица*, *трясавица* ‘тс’ (ГСБМ). Параўн. ст.-рус. *трасавица* ‘ліхаманка; трасца’: *избави ... трасавиче* (берасц. грамата № 715; Залізняк, Исслед. в области балто-слав. духовной культуры. Заговор. М., 1993, 106), с.-балг. *трѧсавица* ‘тс’ (XIII ст.), макед. *трасавица* ‘тс’ (XIII ст.; MJ, 15, 1–2,97), ст.-слав. **трѧсавица** ‘тс’ (ССл.) пры старым польск. *trzęsawica* ‘дрыжыкі’, ‘няпэўнасць, хісткасць’. Да прасл. **tręsavъ*, гл. *трэсці.*

**Трасагу́зка** ‘белая сітаўка, пліска, *Motacilla alba*’ (навагр., Сл. ПЗБ), *трасагу́ска*, *трясогу́ска* ‘тс’ (кобр., лях., ЛА, 1), *трасогу́зка* (лун., стол., Ніканчук, матеріали), скаж. *трасогу́бка* (жыт., петрык., там жа). Птушка названа паводле рэзкага пагойдвання яе хваста. Да *трэ́сці* (гл.) і *гузка*, тут ‘зад, задняя частка цела’, што да *гуз*$_1$ (прасл. **gǫzъ / *guzъ*), гл. Фасмер, 4, 113. Аналагічна ўтвораны славац. *trasorítka* (< *rít*’ ‘задніца’), чэш. *třasořitka* (< *řit*’ ‘тс’), укр. *трясúдупа* (запазычана з польск., ЕСУМ, 5, 664). Назва рэдкая ў народнай мове, хутчэй за ўсё, пад уплывам рускай мовы, параўн. іншыя народныя назвы *пліска*, *сітаўка*, *трасу́шка* (гарад., Сл. ПЗБ), *стрыгу́ска* (в-дзв., ЛА, 1; відаць, ад *стрыгнуць* ‘торгнуць’, гл.).

**Трасару́бка** *(трэсару́бка)* ‘неахайная, нядбайная да свайго адзення жанчына’ (Растарг.). Да *трэсці* (гл.) і *руб-*, гл. *руб*, ст.-бел. *рубъ* ‘абрывак тканіны, рыззё’, стараж.-рус. *рубъ* ‘дрэннае адзенне, грубая тканіна’. Параўн. спалучэнне слоў у выразе укр. *треба прясти, щоб руб’ям не трясти* (Грынч., 4, 85) і назву расліны дрыжнік – *трісирубичка* (ЕСУМ, 5, 644), суадносную з *трасунька*, гл.

**Трасіна́** ‘дрыгва, топкае балота’ (шчуч., ЛА, 2), ‘багна’ (Мат. Гом., Цых.), ‘плаў на балоце, каля возера, дзе калышацца верхняе покрыва’ (слонім., навагр., ЛА, 2), *трэсіна́* ‘топкае месца на балоце’ (бяроз., драг., ЛА, 5), *трасíна* ‘тс’ (хойн., Шатал.; карэліц., лельч., лоеў., ЛА, 2), *трасы́на* ‘тс’ (пін., ЛА, 2), *трясіна́* ‘тс’ (шуміл., віц., чэрык., клім., ЛА, 2). Укр. дыял. *трасíна* ‘дрыгва’, рус. *трясúна* ‘наплаўнае балота, зыбучае месца, дзе глеба (з раслін) хістаецца і пад нагой выступае вада’. Да *трэсці* (гл.), першапачатковымі, відаць, былі формы з канцавым націскам з прасторавым значэннем тыпу *цаліна́*, *навіна́*, *цвердзіна́* і пад., аднак у арэальным плане размежавання формаў не назіраецца. Гл. і *трахіна*.

**Трасія́** ‘дрыгва, балота’ (Бяльк.), укр. *тресія́* ‘тс’. Да *трэсці* (гл.), зборны назоўнік роднасны рус. пск. *трясь*, *тре́сся*, *тря́сье* ‘дрыгва’.

**Траска́**$_1$ ‘прамысловая рыба, *Gadus morhua*’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). З рус. *треска́* ‘тс’, што збліжаюць з дыял. *тре́ска* (гл. *трэска*), нешта накшталт ‘рыба-трэска’ (сухая, нятлустая, а высушаная – расшчэпваецца, як дрэва), і аналагічна да ням. *Stockfisch* ‘траска’ (< *Stock* ‘палка’ і *Fisch* ‘рыба’) (Фасмер, 4, 100;

ЕСУМ, 5, 645; Чарных, 2, 261–262; Арол, 4, 100). Белы (Наша Ніва, 2007, 27 крас.) падтрымлівае версію паходжання ад ст.-нарв. *thorskr* 'штосьці, што належыць сушыць', 'сушаніна' і характарызуе нарыхтоўку рыбы ў запас, а таксама запазычанне непасрэдна з мовы вікінгаў, што адлюстравалася таксама ў ірл. *trosc* і шатл. *trosg* 'траска'.

**Траска́**$_2$ 'траста' (Мат. Гом.; докш., Янк. Мат.), 'дробныя частачкі, што застаюцца ад валокнаў лёну' (лаг., Гіл.), *трыска́* 'лён, падняты і звязаны пасля вылежвання' (Мат. Маг., 2). Параўн. рус. *треста́* 'кастрыца', 'сцябло лёну і канапель пасля сушэння'. Вынік своеасаблівага чаргавання спалучэння зычных **-st- /*-sk-: траста* (гл.) – *траска*, *трэскацца*, аналагічна: **pustiti* / **puskati* > *пусціць* / *пускаць* (Трубачоў, Ремесл. терм., 85).

**Траска́**$_3$ 'дранка, тоненькія дошчачкі для пакрыцця даху, танчэйшыя за гонт' (Жд. 1; докш., Янк. Мат.; лаг., Жыв. сл.; віл., Сл. ПЗБ), рус. пск. *тре́ска*, *тре́ски* 'дранка', 'трэскі'. Да *трэ́ска* (гл.). Націск на канцы, відаць, характарызуе сукупнасць, як у літ. *skiedrà*, *skalà* 'дранка' і ў рус. *щепа́*, – дарэчы, усе яны абазначаюць як 'трэска', так і 'дранка'.

**Тракканя́** 'журба, смутак, маркота' (паст., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тросканье* 'клопат' (ГСБМ). Запазычана з польск. *troskanie* 'клопат, неспакой' або ўтворана ад мясцовага *тро́скаць* 'турбаваць, непакоіць', што з польск. *troskać* 'тс' ад *troska* 'клопат' (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 119), афармленага пад уплывам існуючага ў гаворцы *трасканя́* 'траскатня'.

**Траско́тка** 'бразготка' (АБ, 6), *трыскӯотка* 'тс', *трыскота́ті* 'трашчаць' (Вруб.). Аналагічна да *трашчотка* < *трашча́ць*, гл. *троскат*.

**Траско́ўнік** 'дрывотнік', 'месца на двары, дзе сякуць дровы' (Мат. Гом., Мат. Маг.; бялын., Нар. сл., ЛА, 1), 'дробныя трэскі, смецце' (Ян.), *траско́ўня* 'дрывотнік' (Мат. Гом.), *траско́ўя* 'месца, дзе колюць дровы' (Бяльк.), *трасо́чнік* 'месца, дзе сохнуць трэскі' (Сцяшк., Янк. 2), *трасо́чнік* і *трасо́тнік* 'месца, дзе колюць дровы і куды высыпаюць смецце' (Сл. ПЗБ), 'смецце' (Мат. Гом.), 'перагной на дрывотні, які вывозяць на поле, на агарод' (докш., Янк. Мат.), 'дробныя трэскі, рознае смецце пад паветкай' (Янк. 2). Вытворныя ад *трэ́ска* (гл.). Параўн. рус. дыял. *тресо́ч-*

*нік* ‘перагной з трэсак і бур’яну’, якое Мюленбах і Эндзелін (4, 223) параўноўваюць з літ. *trèšti* ‘гніць’, лат. *tresêt* ‘тс’, гл. Фасмер, 4, 100.

**Траскýн** ‘жук сямейства лістаедаў, *Chrysomelidae*’ (ТСБМ). Сюды ж *traskunczyk* ‘сініца, *Parus* L.’ (Арх. Федар.), у спалучэнні *чырóк-траскунóк* ‘птушка *Anas guerguedula*’ (Цярохін, Охота). Да *трэск*, *трашчаць* (гл.) паводле выдаваных гукаў, параўн. ЕСУМ, 5, 623, 645. Апошняя назва, відаць, запазычана з рус. *чирóк трескунóк* ‘тс’, параўн. таксама ўкр. *чирóк тріскунóк* пры дыял. *тріскунка*, *трускуняць* (ЕСУМ, 5, 659).

**Траслíвы** ‘багністы’ (Сцяшк. Сл.), *траслíвы* ‘дрыгвяністы, гразкі’ (Сл. Брэс.), ст.-бел. *тросливый* ‘парослы трыснягом’: *тросливое болото* (ГСБМ). Утворана пры дапамозе суф. *-лів-* ад *тросць*$_1$, гл., набліжана да *трэсці*, гл.

**Траснíк** (*трыснíк*, *тріснíк*, *тряснíк*, *троснíк*) ‘трыснёг, *Phragmites communis* Trin.’ (Касп.; Байк. і Некр., Шатал.; гродз., віц., мін., маг., ЛА, 1, Кіс., Сл. ПЗБ; мёрск., Жыв. сл., Сцяшк. Сл.), ‘чарот, *Scirpius* L.’ (Ласт.; леп., лёзн., шчуч., Яшк., ЛА, 1), *траснíк* ‘рагоз, *Typha latifolia* L.’ (шуміл., віц., астрав., лаг., стаўб., ЛА, 1). Укр. дыял. *трóснúк*, *тростнúк* ‘чарот, трыснёг’, рус. *тростник* ‘тс’. Суфіксальны дэрыват ад *тросць*$_1$ (гл.), суф. *-ьн-ікъ* утварае фітонімы тыпу *сітнік*, *маліннік* і пад. (Новое в рус. этим., 238), або ад *трастá* (гл.), параўн. з пераносам націску *трасцéннік* ‘зараснік трыснягу’ (Др.-Падб.). Гл. таксама *троснік*, *трыснёг*.

**Траснíнка** ‘здоба з тварагом’ (Сцяшк. Сл.). Няясна; відаць, звязана з польск. дыял. *trzeszcz* ‘тварог’ (Варш. сл.) параўн. каш. *třešč* ‘сушаны сыр’ ад *třeščec* ‘трашчаць, скрыпець’ (SEK 5, 178).

**Трасóтнік** ‘месца на двары, дзе сякуць дровы’ (брасл., віл., чэрв., Сл. ПЗБ). Варыянт да *трасочнік* ‘тс’ (гл. *траскоўнік*), магчыма, у выніку ўплыву *дрывотнік* ‘дрывотня’, што да *драватóнь* ‘месца, дзе ляжаць дровы’ (Юрч.) <**drьvotonь* (ЭССЯ, 5, 143; гл. *дровы* і *цяць*, *тнуць*$_1$).

**Трастá** ‘прамая салома’ (Лекс. Бел. Палесся), ‘сцябло льну, канапель пасля мачэння, ляжання на лугах ці на льнішчы, з якога атрымліваюць валакно для пражы’ (ТСБМ, БелСЭ, 10), *тростá* ‘саломка льну’: *jак он нет'орты* (Уладз.); ‘кастрыца’ (Горбач, Зах.-пол. гов.); сюды ж *трастá* ‘дранка’ (Сл. ПЗБ), ‘галлё’: *масты памашчу з тонкае трасты* (лоеў., Песні нар. свят, 28);

*трыста́* ‘водмель на возеры, парослая трыснягом або чаротам’ (Нік., Оч.), *трасцё* ‘трыснёг, чарот’ (Тур., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тростье*, *тростие* ‘трысцё’ (ГСБМ). Параўн. укр. *треста́* ‘апрацаваная саломка льну, канопляў’ (паводле ЕСУМ, 5, 631 – з рускай мовы), рус. *треста́* ‘сцябло каноплі ці льну пасля высушвання’, ‘чарот’, рус. пск. *троста́*, *триста́* – зборная назва для балотных каленчатых раслін, *трестье́*, *тростье́* ‘тс’, стараж.-рус. *тростіе* ‘зараснік трыснягу’: *Игорь-князь поскочи горностаемъ къ тростію* (Слова аб паходзе Ігаравым); сюды ж, відаць, і ўкр. дыял. *тріще* ‘хмыз, дубцы’, а таксама балг. дыял. *тр̥ста* ‘высякаць хмызняк і маладняк у высокім лесе’ (БД, 4, 146). Прасл. **trъsta* Трубачоў (Ремесл. терм., 85) прапануе звязаць з **treskati* (гл. *трэск*) з магчымым чаргаваннем, *-sk- / -st-*, як у *пускать – пустить* (гл. *пускаць*, *пусціць*), параўн. *траска́*$_2$, у такім выпадку рэалізуецца мадэль ‘раздзіраць’ – ‘плясці’ > ‘назва расліны, што ўжываецца для пляцення’ (Мяркулава, Очерки, 57), у тым ліку і назва іншых матэрыялаў для тых жа мэт. Сюды ж *трасца́* ‘траста’ (ТС), якое з памяншальнай формы ⁺*трастьца́* > *трасцьца́* > *трастца́*.

**Трастка́** ‘трысцінка ў бёрдзе’ (беласт., Сл. ПЗБ), *трістка* ‘тс’ (малар., Сл. Брэс.), *трасці́на*, *трасціна́*, *тро́сціна*, *трасці́нка* ‘тонкая пласцінка ў бёрдзе’ (ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ; мёрск., Ск. нар. мовы), *трэ́сціна* ‘тс’ (Ян.), *тросці́на* ‘тс’ (ТС); *трості́на* ‘тс’ (лун., Шатал.), *трасцё*, *трысцё*, *трысце́* зборн. ‘пласцінкі ў бёрдзе’ (Сл. ПЗБ, Бяльк., Сцяшк., Мат. Гом., Ян., Скарбы; брагін., Нар. сл.), *трысте́* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *траста́* ‘трысцінкі ў бёрдзе’ (мёрск., Ск. нар. мовы). Параўн. укр. дыял. *тро́стка* ‘дэталь ткацкага стану’, рус. *треста́* ‘бёрда’, польск. *trzcinka* ‘дэталь ткацкага стану, цэўка’, *trestka* ‘пласцінка ў бёрдзе’, *trościna*, *trosta*, *treście*, *troście*, харв. *trst* ‘бёрда’. З прасл. **trostь*, **trъsta* (гл. *тросць*, *траста*) з пазнейшай суфіксацыяй і спецыялізацыяй. Сюды ж *трасці́ць* ‘рабіць новае бёрда, устаўляць у яго трасціны’ (в.-дзв., Шатал.).

**Трасу́нька** ‘расліна дрыжнік, *Briza* L.’ (ТС). Да *трэ́сці* (гл.). Магчыма, з рус. *трясу́нка* ‘тс’ або ўкр. *трясу́нка* ‘Briza’, матывацыя назвы грунтуецца на фізічных уласцівасцях расліны – дрыжанні каласкоў пад павевамі ветру, што адлюстравана ў ін-

шых славянскіх назвах: чэш. *třeslice*, серб.-харв. *трё̏слица* і інш. (ЕСУМ, 5, 665). Часцей *дрыжнік, мятліца, мятлічка* (Некр. і Байк.).

**Трасу́ха**$_1$ ‘ліхаманка, малярыя, трасца’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Нас.; рас., Шатал.; парыц., Янк. Мат., Сержп. Прык.), *трасу́чка* ‘тс’ (ТСБМ, Нас., Касп., Растарг.), ‘эпілепсія’ (Нар. Гом.). Параўн. укр. дыял. *трясу́ха, трясу́чка* ‘ліхаманка’. Да *трэсці* ‘калаціць’, параўн. *трасавіца, трасца*, гл.

**Трасу́ха**$_2$ ‘горшае льновалакно, што засталося пасля трапання’ (мёрск., Ск. нар. мовы). Магчыма, з $^+$*трасту́ха* < *траста́* (гл.) ‘валакно-траста, валакно з кастрыцай’.

**Трасу́шка** ‘сітаўка, пліска, *Motacilla*’ (беласт., Сл. ПЗБ). Да *трэ́сці* (гл.), параўн. *трасагу́зка* (гл.).

**Тра́сца**, *тря́сца* ‘ліхаманка, малярыя’, ‘дрыжыкі (ад перажывання)’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Сцяшк., Шпіл., Чач., Бяльк., Мядзв., Яруш., Др.-Падб., Гарэц., Маш., Сержп. Прык., Сл. ПЗБ), у такім значэнні пашырана паўсюдна на Беларусі (ЛА, 3); *тра́сца* (*trasca*) ‘эпілепсія’ (Брасл. сл.), ‘нешта няпэўнае, нядобрае, невядомае, ліха, злая сіла’ (ТСБМ, Нас., Шат.), ‘раптоўнае прыкрае гора’ (Юрч. Сін.), ‘нічога’ (абазначэнне адсутнасці) (Шат.; ашм., Стан.; Сержп. Прык.; лаг., Жд. 3): ‘нямнога, вельмі мала’ (Растарг.), ‘лаянкавае слова для называння незадавальнення, абурэння’ (ТС), *тра́сцы* ‘ні ў якім разе, нічога’ (Юрч. СНЛ): *няхай у іх гаршках трасца варыцца* (Нар. Гом.), сюды ж *трасса* ‘ліхаманка’ (Шымк. Собр.), *тра́сця* ‘тс’ (Арх. Вяр.). Параўн. укр. *тра́сця* ‘ліхаманка’, дыял. *тря́сця* ‘тс’, ст.-рус. *трѧсьца, трясца* ‘тс’ (XIV ст., Сразн.), рус. *трясца́* ‘тс’ (Даль), ст.-польск. *trząśca* ‘тс’. Утворана ад *трэсці* (< **tręsti*) пры дапамозе суф. *-ца*, характэрнага для асабовых назоўнікаў м. і ж. р., звычайна ўтварае т. зв. nomina agentis (Сцяцко, Афікс. наз., 74; Саевіч, Derywacja, 130); табуізаваная назва хваробы ў выніку персаналізацыі, параўн.: *на асіне заўсюды сядзяць трасцы* (Сержп. Прымхі, 57), параўн. сведчанні Стрыйкоўскага: *трꙗсцу або фебру хвалили за бога наши словꙗне, полꙗки, русь, литва* (XVII ст., ГСБМ) і Чачота: *przez uszanowanie trasca zwana bywa ciotka* (Чач. 214). Херэй-Шыманьска (JP, 56, 286–287) лічыць старой паўночнаславянскай назвай хваробы, якая фіксуецца толькі ў некаторых польскіх крыніцах XVI ст.,

параўн.: *tręsawica i trąśca różne choroby są.* Улічваючы малую прадуктыўнасць суф. *-ца* на беларускай моўнай тэрыторыі, можна меркаваць пра пранікненне з захаду, падтрыманае інфінітыўным суфіксам зыходнага дзеяслова, або хутчэй вынікам распадабнення спалучэння *-сс-*, зафіксаванага ў больш старых назвах у Шымкевіча і рускіх дыялектных назвах *тря́сса́*, *тря́сся́* 'малярыя' (1819 г., СРНГ). Кантамінацыю дзвюх назваў (гл. *трасуха*) уяўляе *трэсцу́ха* 'ліхаманка' (Растарг.), якую можна разглядаць як суфіксальнае ўтварэнне ад інфінітыва *трэсці*, гл. таксама Брукнер, 579 (*trząśćca* 'малярыя' < *trząść*); ЕСУМ, 5, 665.

**Трасце́ннік** 'зараснік трыснягу' (Др.-Падб.). Гл. *траснік*.

**Трасцё** 'трыснёг, чарот' (Тур., Сл. ПЗБ), 'тонкія пласцінкі ў бёрдзе' (Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), *трасце́* 'тс' (Скарбы, Мат. Гом., Сл. ПЗБ). Гл. *трысцё*.

**Трасці́** 'трэсці, калаціць' (Некр. і Байк., Касп., Яруш., Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'абшукваць' (Ласт.), *трясці́* 'трэсці' (Бяльк.), *трасты́* 'моцна трэсці; шукаць' (Клім.), ст.-бел. *трасти*, *трести*, *трясти* 'трэсці', 'рабіць вобыск' (ГСБМ). Гл. *трэсці*; сюды ж *трасці́*, *вытраса́ць* 'пчол падглядаць – падбіраць мёд' (брасл., паст., ЛА, 1), відаць, табуізаваны дзеяслоў з першасным значэннем 'шукаць, вышукваць'. Пад уплывам асабовых і прыставачных формаў утворана *траса́ць* 'трэсці' (брасл., Сл. ПЗБ).

**Трасці́на** 'тонкая пласцінка ў бёрдзе' (ТСБМ, Касп.), 'чарот, трыснёг' (Сцяшк., Скарбы; зэльв., віл., ЛА, 1), *трасціна́* 'пласцінка ў бёрдзе', 'трыснёг, чарот' (Сл. ПЗБ), *тросціна́* 'трыснёг, чарот' (Бес.), *трасці́на* 'багністае, зараслае чаротам месца' (слонім., ДАБМ), *тросці́на* 'пласцінка ў бёрдзе' (ТС), *трості́на* 'тс' (лун., Шатал.), *тро́стіна* 'чарот' (беласт., Сл. ПЗБ), *тросты́на* 'тс', 'буйное жыта' (Сл. Брэс.), ст.-бел. *тростина*, *тристина*, *трстина*, *трыстина*, 'чарот' (ГСБМ). Гл. *трысціна*.

***Трасцісты**, *тросты́сты* 'з буйной саломай (пра збожжа)' (Доўн.-Зап., Пін.), параўн. укр. дыял. *трости́стий* 'які мае тоўстае сцябло'. Вытворнае ад *тросць*$_1$ (гл.).

**Тра́сціць** 'прасейваць' (ТС). Гл. *трысціць*$_2$.

**Трасці́ць** 'злучаць разам дзве або некалькі нітак' (ТСБМ), 'звіваць дзве ніткі ў адну' (Сл. ПЗБ). Гл. *трысціць*$_1$.

**Трасця́ніца** ‘арэшнік’: *бегла цераз трасьця́ніцу, гарэхаў табе нарва́ла* (Сцяшк. Сл.). Вытворнае ад *тросць*$_1$ (гл.), самае пашыранае значэнне якога – сцяблістыя расліны, параўн. *трысцянка* (гл.), укр. *тростяни́ця* ‘травяністая расліна сямейства злакавых, *Scolochloa* Link.’, дыял. *тро́щі* ‘хмыз, дубцы’, а таксама мікратапонімы *Трасцяне́ц* ‘пералесак’, *Трасцянкі́* ‘лес’ (Мікратапанімія Бел.).

**Трасця́нка** ‘нейкае алкагольнае пітво?’: *з гора трасцянку якуюсь п’юць* (В. Дунін-Марцінкевіч, Сялянка). Няясна, хутчэй за ўсё, утворана ад *трасцяны́*, гл. *трысцяны*; параўн. вытворчасць алкаголю з цукровага трыснягу.

**Трасяні́на** (*трісяні́на*) ‘дрыгва’ (Бяльк.), *трасаньі́на* ‘тс’ (кам., ЛА, 2), сюды ж таксама з іншай суфіксацыяй *трасу́н* ‘тс’ (полац., ДАБМ; шчуч., З нар. сл.), *трасу́ха* ‘тс’ (навагр., ЛА, 2). Да *трэ́сці* (гл.). Лексемы пашыраны пераважна на ўскраінах сучаснай беларускай тэрыторыі. На суседніх моўных тэрыторыях таксама ўжываюцца назвы дрыгвы, утвораныя ад прасл. **tręsti*: польск. *trzęsawisko*, укр. *трясови́на*, рус. *трясі́на*, *трясу́н*. Параўн. *трасіна*, гл.

**Трася́нка**$_1$ ‘стрэсенае сена з саломай, якое ідзе на корм жывёле’ (ТСБМ; докш., Янк. Мат., Варл.; ашм., Стан., Сл. ПЗБ, Вруб., Брасл. сл., Лекс. Бел. Палесся; дрыс., Яшк. Мясц.; гродз., мін., віц., ЛА, 2), *трасяні́ца* ‘тс’ (пін., ЛА, 2), *трасе́нка* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *трэ́сенка* ‘тс’ (бяроз., ЛА, 2); сюды ж *страся́нка* ‘тс’ (гарад., віц., мядз., леп., ЛА, 2). Параўн. укр. дыял. *трясани́ця*, *трясени́ця* ‘салома з сенам’, балг. *тра́сени́на*, *тра́сени́ца* ‘тс’, а таксама рус. дыял. *тряха́нка* ‘тс’, дзе, паводле Талстой (Зб. Жураўлёву, 356), адзначана варыянтнасць каранёвых *с/х*, параўн. *траха́ць* ‘трэсці’ (гл.). Утворана ад дзеепрыметнікавай формы дзеяслова *трэсці* (гл.) і прыставачнага ўтварэння *страса́ць* ‘змешваць трасучы’ (гл. *трасці*). Адносна балгарскіх формаў выказваецца меркаванне аб іх праславянскім паходжанні, паколькі яны звязаны са спецыфікай догляду за жывёлай з даўніх часоў (Тадораў, Слов. етим., 406). Гл. таксама *трушанка*.

**Трася́нка**$_2$ ‘змешанае беларуска-рускае маўленне’ (ТСБМ, Улас.), *трас’а́нка* ‘моўная блытаніна’ (“językowy galimatias”, Вруб.).

Метафарычнае ўтварэнне на базе *трася́нка$_1$*, аналагічнае ўкр. *су́ржик* 'украінска-рускае змешанае маўленне' (гл. *суржык*). Актывізацыя ўжывання ў 80-я гады XX ст. прыпісваецца З. Пазняку (Рамза, Беларуская думка, 2010, 7, 113), аднак слова ў такім значэнні ўжывалася і раней (Свобада, Беларусіка, 30, 192; Запрудскі, Arche, 2009, 11–12, 176).

**Тра́та** 'страта, згуба, выдатак' (ТСБМ, Некр. і Байк., Нас., Бяльк.), сюды ж *тра́тня* 'выдаткі' (Ласт.), *тра́тны* (*тратный*) 'дарэмны, згубны' (Нас.). Да *тра́ціць* (гл.). Дапускаецца магчымасць паходжання прасл. **trata* з суф. *-t-*, як **vьr̥t-ta > вярста́* з і.-е. **ter- / *tr-* (ЕСУМ, 5, 623; Фасмер, 4, 94), прадстаўленага ў *церці* (гл.), укр. *теряти* 'губляць', рус. *терять* 'тс' і інш.

**Тратава́ць** 'растоптваць, таптаць' (Гарэц., Др.-Падб.), *тратова́ті* 'тс' (Вруб.). З польск. *tratować* (а таксама ст.-польск. *tretować*) 'таптаць нагамі, капытамі', якое з с.-в.-ням. *trëten / trëtten* 'таптаць', ням. *treten* 'тс' (Вінцэнц; Борысь, 640). Сюды ж, відаць, і мясцовае (з "пальшчызны крэсовай") *traty* 'дамбы' (Брасл. сл.). Гл. таксама фанетычны варыянт *дратаваць* 'вытоптваць'.

**Тра-та-та́** 'водгалас спеву, музыкі' (маладз., Дзіц. фальклор), *тратата́*, *тратата́м* 'тс' (Ф. Багушэвіч), польск. *tra-ta-ta* 'тс', славац. *tra-ta-ta* 'тс', 'водгалас стрэлаў з кулямёта' і інш. Гукапераймальнае.

**Тра́тва** 'плыт' (З нар. сл.), 'від плыта для невялікіх рэк', 'кладка для мыцця бялізны на рацэ' (ТС). З польск. *tratwa* 'платформа з бярвёнаў для рачнога транспарту', якое з больш ранняга *trafta*, *trawta* ў выніку перастаноўкі зычных *ft (wt) > tw*, што ад *tref* з с.-в.-ням. *tref* 'звязаны плыт', *trift* 'сплаў бярвенняў' < с.-в.-ням. *triften* 'гнаць, піхаць, прыводзіць у рух' (Вінцэнц; Борысь, 640); метатэза тлумачыцца ўплывам фіналі *-twa* ў словах тыпу *brzytwa*, *dratwa*. Семантычна і фармальна палескія словы набліжаны да *пратва* (гл.). Формы без метатэзы *трапта*, *трапты* (гл.) сведчаць аб больш раннім запазычанні спецыфічнай плытніцкай тэрміналогіі.

**Тратуа́р** 'дарожка для пешаходаў' (ТСБМ, Гарэц., Некр. і Байк.), *тратава́р* 'тс' (мін., Сл. ПЗБ). Запазычана з рус. *тротуа́р*, якое з франц. *trottoir*, утворанага з дапамогай прадметнага суфікса *-oir* (як *рэзервуар*) ад дзеяслова *trotter* 'ісці, маршыраваць, тапатаць,

ісці рыссю (пра каня)' > 'хадзіць, бегаць', які ад ст.-в.-ням. *trottōn* 'ісці, ступаць, крочыць' (Фасмер, 4, 107; ЕСУМ, 5, 652; Арол, 4, 107).

**Траты́л** 'хімічнае рэчыва з выбуховымі ўласцівасцямі' (ТСБМ). Запазычана з англ. *trotyl* са скарочанага *trinitrotoluen* 'трынітраталуол', хутчэй за ўсё, праз рускую мову (ЕСУМ, 5, 651).

**Траўле́нне** 'страваванне, ператраўліванне ежы' (Гарэц., Ласт.), 'спасванне (жывёлай)' (Некр. і Байк.), 'атрута' (віл., Сл. ПЗБ). Да *травíць*$_{1,2}$ (гл.).

**Траўлі́вы** *(траўлівый, траўліву)* 'зарослы пустазеллем, травой' (Мат. Маг.; Сцяшк. Сл.; ашм., Стан., Жд. 1, Жд. 2, Ян.), 'з пустазеллем (пра салому)' (Янк. 1). Адназоўнікавы якасны прыметнік з суф. *-лів-*. З іншай суфіксацыяй *траўляны́* (чэрв., Сл. ПЗБ), *траўлены́й* (Сл. Брэс.) 'травяністы, з травой'. Да *травá* (гл.). Ст.-бел. *травливый*, *травленый* 'знішчаны, спасены жывёлай', да *траўля*, гл.

**Тра́ўля** 'патрава' (Некр. і Байк.). Да *травíць* (гл.). Суф. *-л-я* азначае вынік дзеяння (Сцяцко, Афікс. наз., 54). Значэнне 'бязлітаснае праследаванне, ганенне' (Др.-Падб.), хутчэй за ўсё, пад уплывам рус. *трáвля* 'цкаванне'.

**Тра́ўма** 'пашкоджанне арганізма' (ТСБМ). Запазычанне з еўрапейскіх моў праз польскую *(trauma)* ці рускую *(травма)* мовы. Узыходзіць да ст.-грэч. τραῦμα, роднаснага іанічнаму τρῶμα 'рана, пашкоджанне' і далей τρώω 'раню, шкоджу, праколваю' (Чарных, 2, 255; Голуб–Ліер, 487; ЕСУМ, 5, 614).

**Тра́ўнік**$_1$ 'старадаўняя кніга, якая змяшчае апісанне лекавых раслін' (ТСБМ). Укр. *трáвник* 'гербарый', 'кніга пра лекавыя расліны', рус. *травни́к*, *трáве(я)ник* 'тс'. Да *травá* (гл.), першапачаткова, відаць, 'чалавек, які знае лекавыя травы', параўн. ст.-бел. *травникъ* 'знахар, шаптун' (ГСБМ).

**Тра́ўнік**$_2$ 'газон' (Жд. 2; гродз., Яшк.). Відаць, з польск. *trawnik* 'тс'. Параўн. аналагічна ўтвораныя чэш. *trávník* 'газон', славац. *trávnik* 'тс', 'футбольнае поле', славен. *trávnik* 'газон', 'паплавец, лужок', макед. *тревник* 'газон', 'травяністы луг, поле', харв. *trâvnik* 'газон' і пад.

**Тра́ўнік**$_3$ 'аднагадовае цялё' (Касп.; лельч., Мат. Гом.), *трáўніца* 'аднагадовая цялушка' (Касп.). Фармальна ад *трáўны*

'травяны' (Стан.), да *траві́* (гл.), г. зн. якія ўжо харчуюцца травой, пасуцца.

**Тра́ўнік$_4$** 'птушка чырвананожка, *Tringa totanus*' (рэч., петрык., Мат. Гом.). Да *трава́* (гл.), бо гняздуецца на сырых лугах і травяністых балотах, а травой не корміцца, гл. Дарафееў, Птушкі, 88. Тая ж матывацыя ў *траўніч́ок* 'валасянка перасмешка-мармытуха, *Sylvia curruca*' (Байк. і Некр.), параўн. славац. *trávníček* 'слаўка', і ў *тра́ўніца* 'тля, раслінная вош' (Байк. і Некр.).

*__Траўша́__, *троўша́* 'трапло' (пін., Жыв. сл.). Няясна, магчыма, ад аргат. *травіць* 'гаварыць лухту, жартаваць' на аснове *травіць* (гл.), словаўтваральна нагадвае балтызмы.

**Трафарэ́т** 'шаблон, узор' (ТСБМ), *трафарэ́тка* 'тс' (ТСБМ, Ласт.). У аснове слоў запазычанае італ. *traforetto* ад *traforare* 'свідраваць, праколваць' (ЕСУМ, 5, 624).

**Трафе́й** 'ваенная здабыча як вынік перамогі' (ТСБМ), *трафэ́й* 'тс' (Некр. і Байк.). Праз рускую мову з франц. *trophée* < нар.-лац. *trophaeum* < ст.-грэч. τρόπαιον 'помнік перамогі з даспехаў ворага, складзеных разам на полі бітвы', што да ст.-грэч. τρέπω 'паварочваю, мяняю', у тым ліку ўдачу ў баі (Фасмер, 4, 107; Голуб–Ліер, 490; Сной$_3$, 807). Сюды ж, відаць, і *трафіе́й* 'аказія' (беласт., Сл. ПЗБ) пад уплывам польск. *trafić się* 'трапіцца, сустрэцца', гл. *трафіць*.

**Тра́фіць** 'папасці, пацэліць': *цѣливъ въ ворону, а трафивъ в корову* (Нас.), 'патрапіць, знайсці' (Сл. ПЗБ), 'здагадацца, скеміць' (Сцяшк. Сл., Шпіл.), 'дайсці': *трафив да адной гари* (Кітаб Луцкевіча), 'прылажвацца, дагаджаць' (Мал.; капыл., Жыв. сл.), *тра́фіцца* 'здарыцца' (Нас., Ляц.), сюды ж *патра́фіць* 'трапіць; адгадаць' (Шпіл.), *траф* 'меткі ўдар' (Нас.), ст.-бел. *трафити*, *трапити*, *трахвити* 'пацэліць, натрапіць, змагчы, здарыцца' (ГСБМ), *трафитися* 'здарыцца, адбыцца' (Ст.-бел. лексікон). Са ст.-польск. *trafić*, *trapić* < с.-в.-ням. *trëffen* 'трапляць', 'сустрэць, наткнуцца на каго-небудзь', 'дасягаць' (Булыка, Лекс. запазыч., 189; Борысь, 639; Вінцэнц; ЕСУМ, 5, 622). Гл. *трапіць$_1$*.

**Трафны́** 'забаронены для ўжывання, нячысты' (Касп.). Гл. *трэфны*.

**Трафу́нак** 'здарэнне' (воран., Сл. рэг. лекс.), ст.-бел. *трафунокъ*, *трефунокъ* 'выпадак, здарэнне' (ГСБМ). Запазычана са

ст.-польск. *trafunek*, *trefunek* 'тс', утвораных ад *trafić*, *trapić* 'трапіць, сустрэць' (Булыка, Запазыч., 324), словаўтваральна суадносяцца з нямецкімі формамі на *-ung* (Вінцэнц). Гл. *трапунак*, *трафіць*.

**Трах** – абазначэнне моцнага адрывістага гуку, трэску (ТСБМ), 'раптоўны, дрыжачы, кароткі стук' (Варл.), 'удар': *конь трах капытом* (Нас.), пра ўдар, трэск, стрэл (мсцісл., Нар. лекс.), сюды ж *trach-tararách* 'безупынныя грымоты ці страляніна з гармат' (Варл.), *трах-чъбурáх!* – выражае начаканасць, рэзкае змяненне рашэння ці хуткае вырашэнне праблемы (мёрск., Нар. сл.). Параўн. укр. *трах*, рус. *трах*, польск. *trach* – перадае трэск (Варш. сл.), раптоўнае падзенне і моцны ўдар (Арвінска, 65–66). Суадносяць з "поўнагалоснымі" варыянтамі гукаперайманняў *тарáх* (гл.), укр. *тарáх*, *тарóх*, рус. *тарарáх*, мажліва, сюды ж польск. дыял. *tarach* 'выварацень' (Фасмер, 4, 23, 95; ЕСУМ, 5, 624; Брукнер, 565), а таксама з адпаведнымі дзеясловамі. Гл. *трáхаць*.

**Трахá** 'трошкі' (Шат., Жд. 2, 3, Др.-Падб., Гарэц., ТС), 'ледзьве' (навагр., Сл. ПЗБ), 'амаль, ледзь' (Жд. 2, Мал., Федар. 7; капыл., Жыв. сл.; ашм., Стан.). Гл. *трóхі*.

**Трахалá** 'неразумная, бесталковая жанчына ці дзяўчына' (Рэг. сл. Віц.), 'растрэпа, неразумная' (брасл., Сл. ПЗБ), сюды ж *трахáліць* 'гаварыць смешнае, забаўнае' (Сцяшк. Сл.). Балцкае субстратнае пранікненне, якое Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 5, 122) суадносіць з літ. *trãkas* 'буяны, апантаны' з характэрнай субстытуцыяй зычных *к / х* на беларуска-літоўскім паграніччы.

**Трáхалле** 'гніль, старызна, нікому не патрэбныя рэчы' (Мядзв.), *трахóлле* 'старая парваная адзежа' (Юрч. Сін.), 'лахманы' (Юрч. Мудр.), *тряхóльля* 'транты' (Юрч.). Параўн. рус. дыял. *трехóлье*, *трехáлье* 'тс', якія Куркіна (Этимология–1983, 27) зблíжае з балг. *тракам* 'стукаць, тарахцець', літ. *trė̃kti* 'псаваць, знішчаць'. Магчыма, вытворнае ад *трахáць* 'трэсці' (гл.), параўн. *трасарýбка* і наватвор *трасáць* (гл. *трэсці*); пра сувязь асноў гл. Фасмер, 4, 113.

**Трахамóцце** 'лахманы, манаткі' (Мат. Маг.), *трахомóцье* 'тс' (ЛМТ). Кантамінацыя лексем *трахá(ць)* і *(лах)мóцце* (гл.). Аналагічна ўтворана экспрэсіўнае *рахамоцце*, гл.

**Трахамýддзе** 'пажыткі' (Мат. Гом.), 'малакаштоўныя рэчы' (Юрч. Вытв.), 'дробныя прыстасаванні для фізічнай працы'

(баранав., Мілк. Сл.), *трахомýцце* 'транты' (Руб.), сюды ж *трахамýдзіна* 'рызман' (Юрч. Вытв.), *трахамýджанне, трахамýдзіца* 'неакуратная работа', *трахамýдзістасць* 'неахайнасць', *трахамýдзіць, трахамýдзіцца* 'рабіць неакуратна', *трахамýднік* 'абадранец', *трахамýдный*, *трахамýдзістый* 'неахайны' (Юрч. СНЛ). Параўн. рус. дыял. *трахомýдия* 'дэталі, прыстасаванне для ткання' (СРНГ). Складаныя экспрэсіўныя словы, утвораныя ад *трахáць* 'трэсці' (гл.), збліжанага са зборным назоўнікам *мýды*, гл.

**Трáхаць** 'гучна біць; ламаць з трэскам', 'трашчаць, ламацца' (Нас.), 'рэзка адрывіста грымець, бухаць' (Юрч. Сін.), 'трэсці' (ТС), 'трашчаць' (Байк. і Некр.), 'страляць' (ТС), 'стукаць, грукаць дзвярыма', 'балбатаць' (Ян.); *трáхнуць* 'моцна, з сілай стукнуць каго-небудзь', 'выстраліць па кім-небудзь', 'застрэліць' (ТСБМ), 'трэснуць' (Нас., Ласт., Байк. і Некр.), 'стукнуць, упасці' (ТС), 'стукнуць (пра гром)', 'раптоўна пабегчы, ірванущца' (Мат. Маг.), *тряхнуць* 'стукнуць каго-небудзь чым-небудзь' (Бяльк.); *трáхнуті* 'ўдарыць' (Вруб.); сюды ж вытворныя ад *трахáт* 'трэск' *трахатáць* 'ламаць, крышыць' (гродз., ЖНС), *трахацéць* 'дрыжаць, трашчаць' (Сл. ПЗБ); таксама *трáханне*, *трахканне* 'грукат', *трáханнік*, *трáхканнік* 'той, хто грукоча' (Юрч. СНЛ). Утварэнні на базе гукапераймальнага *трах*, гл.

**Трахáць** 'трэсці' (ТС), *трахапýць* 'страсянуць' (Нас.; брасл., Сл. ПЗБ), 'растрэсці (гной)', 'затрэсціся ад холаду' (Юрч. СНЛ), *трыхапýць* 'страсянуць' (Бяльк.), *тріхапýць* 'калатнуць; зрабіць вобыск' (Юрч.). Фасмер (4, 113) мяркуе, што рус. *тряхнýть* і *тряхáть* з'яўляюцца новаўтварэннямі ад *трясти́* 'трэсці'; таксама Брукнер (579) польск. *trząchąć* адносіць да *trząść* 'трэсці'. Параўн. паралельнае *трасáць*, гл. *трэсці*.

**Трахéя** 'дыхальнае горла', *трахéі* 'сасуды ў раслін' (ТСБМ). Запазычанне з лацінскай медыцынскай наменклатуры, параўн. с.-лац. *trāchea* < ст.-грэч. (ἀρτηρία) τραχεῖα 'дыхальнае горла' (літаральна 'цвёрдая ці шорсткая артэрыя') (Голуб–Ліер, 486; ЕСУМ, 5, 624–625). Сюды ж *трахеíт* 'запаленне слізістай абалонкі трахеі' (ТСБМ).

**Трахінá** 'багна' (Мат. Гом.). Параўн. арэальна блізкае ўкр. чарніг. *тряхли́на* 'тс' (Чарапанава, Геогр.), якое на фоне дыялектнага *трасінá* дэманструе варыянтнасць *c / x*. Пра адпавед-

ную з’яву ў беларускай мове гл. Сабалеўскі, РФВ, 64, 3–4, 102. Да *трахáць* ‘трэсці’.

**Трáхлы** ‘трухлявы’ (Мат. Гом.). Мажліва, кантамінацыя *трýхлы* і *дрáхлы* (гл.), параўн. рус.-ц.-слав. *друхлый* ‘прыгнечаны’, звязанае чаргаваннем з *дряхлый* ‘стары, трухлявы’ (Фасмер, 1, 544). Магчыма аддаленая сувязь з літ. *trèšti* ‘псавацца, гніць, трухлявець, рабіцца мяккім’.

**Трахнá,** *трахня́* ‘мятая салома, адходы ад кулёў’ (дзісн., Бір.; паст., глыб., смарг., Сл. ПЗБ); ‘дробная салома’ (Сцяшк.), сюды ж *трахніца* ‘тс’, ‘пацяруха’ (паст., Сл. ПЗБ). Паводле распаўсюджання і акцэнтуацыі, канстатуецца балцкі ўплыў (Грынавяцкене і інш., Балто-слав. сб. М., 1972, 379). Параўн. літ. *trakniaĩ* ‘мятая салома, салома на страху’. Вярэніч (Междунар. конф. балтистов, 142) лічыць балтыйскае паходжанне недастаткова аргументаваным і дапускае славянскія аналогіі. Паводле ЕСУМ (5, 666), звязана з укр. *тряхнýти* ‘трасянуць’, польск. *trząchnąć* ‘тс’, адпаведна з *трэсці*, *трусіць* і *трахáць*, гл.

**Трахны́** ‘добры, добра высушаны’ (Сцяшк. Сл.). Параўн. укр. дыял. *трáхти*, *тря́хти* ‘прасыхаць’, паводле ЕСУМ (5, 666), няяснага паходжання. Звязана з літ. *traišùs* ‘высушаны, спарахнелы’?

**Трахóлле**. Гл. *трахалле*.

**Трахóма** ‘заразнае хранічнае захворванне слізістай абалонкі вока’ (ТСБМ, Арх. Вяр.), *трахом* ‘тс’ (в.-дзв., астрав., Сл. ПЗБ), *трахóма*, *трахóм*, *трухóм* ‘тс’ (Мова Сен.). З новалацінскай навуковай мовы, параўн. новалац. *trāchōma*, якое са ст.-грэч. τράχωμα ‘шорсткасць, шурпатасць’ < τραχύς ‘шорсткі, няроўны’ (Голуб–Ліер, 486; Чарных, 2, 259; ЕСУМ, 5, 625).

**Трахт** ‘шлях, гасцінец’ (Мядзв., Скарбы.; навагр., дзятл., бяроз., ЛА, 2): *на трахту нікагусенька не зорко* (Сержп. Казкі), вытворныя *трахтавáя дарога* (дзятл., ЛА, 2), *трахтóвая дорога* (ганц., там жа). Народная адаптацыя зыходнага *тракт*, гл.

**Трахтавáць** ‘частаваць’ (Рэг. сл. Віц., Федар. 5, Сцяшк. Сл., Юрч. Сін.): *трахтаваць буду мёдам і віном* (валож., Песні нар. свят), сюды ж *трахтавáцца* ‘рыхтавацца карміць, частаваць’ (Юрч. Сін.), *трахтавáннік* ‘той, хто частуе’ (Юрч. СНЛ). Запазычана са ст.-польск. *traktować*, *trachtować* ‘частаваць’ праз ст.-бел.

*трактовати* 'тс' або ўтворана ад ст.-бел. *трактъ* 'бяседа' (1570 г.). Гл. *трактаваць*.

**Трацéйскі суд** 'суд, выбраны па ўзгадненні старон для вырашэння паміж імі спрэчак цывільна-прававога характару' (ТСБМ). З рус. *третейский* (суд), якое ўтворана ад парадкавага лічэбніка **tretьjь* пры дапамозе суф. *-sk-ъjь- > -скі*.

**Трацíна** 'трэцяя частка чаго-небудзь' (ТСБМ, Некр. і Байк., Касп., Шат.; ашм., Стан.), *трацíна*, *траццíна* (*треццина*) 'тс' (Нас.), 'трэцяя частка надзелу зямлі' (Нас., Сл. ПЗБ, Ян., Кал.), *трайцінá* 'тс' (Сцяц. Сл.), *трэцíна* 'тс' (ТС, Лекс. Бел. Палесся), *трацы́на* 'тс' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *третина, треттина, третына* 'трэцяя частка чаго-небудзь, у тым ліку зямельнага надзелу' (ГСБМ). Параўн. укр. *трети́на*, дыял. *трити́на*, польск. *trzecina*, чэш. *třecina*, славац. *trecina*, славен. *tretjina*, серб., харв. *трећина*, балг. *трети́на*. Утворана ад *трэці* (*трэйці*) пры дапамозе суф. *-іна* са значэннем часткі ад цэлага (Сцяцко, Афікс. наз., 213), аналагічна ў іншых славянскіх мовах.

**Трацíны**$_1$ 'пілавінне' (Скарбы; гродз., Нар. сл.), *троціна* 'тс' (кам., ЛА, 1). З польск. *trociny* 'тс', дыял. *treciny* і *tręciny* 'тс' < *trot* 'тс', *troty* 'сечка з саломы і сена', 'смецце ў азаддзі, найгоршым збожжы', а таксама каш. *tråt* 'людскія і жывёльныя выдзяленні, адкіды', якое з паўн.-прасл. **tertъ* – дэрывата з суф. *-tъ* і менай карэннай галоснай **-e-* ў **-o-* прасл. **terti*, гл. *церці* (Борысь, 642; Брукнер, 576; SEK, 5, 161; Калашнікаў, Этымалогія 1997–1999, 61–62).

**Трацíны**$_2$ 'памінанне і абед па нябожчыку праз тры дні пасля яго смерці' (Шат., Касп., Мат. Гом., Жд. 2, Ян.; чэрв., Сл. ПЗБ, Гіл.); *траццíны* 'тс' (Нас.; в.-дзв., Шатал., Рэг. сл. Віц.), *трацíнкі*, *трацíны* 'хаўтуры па нябожчыку на трэці дзень пасля пахавання' (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *третины* 'трохдзённае памінанне памерлых' (ГСБМ). Параўн. укр. дыял. *трети́ни*, *трейтíни* 'памінанне на трэці дзень пасля смерці'. Да *трэці* (гл.) пры дапамозе суф. *-ін-ы* са значэннем традыцыйнага абраду, як *дзевяціны*, *саракавіны*, *гадавіны* (Сцяцко, Афікс. наз., 214). Максімаў (Восточнослав. и общ. яз., 1978, 154) лічыць, што адлічэбнікавыя старарускія назвы абрадаў на *-ін-ы* распаўсюдзіліся з захаду пад уплывам аддзеяслоўных назоўнікаў тыпу *радзіны*, запазычаных з польскай мовы, што малаверагодна, параўн. балг. *трети́ни* 'памінан-

не на трэці дзень пасля смерці’, *деветúни* ‘памінанне на магіле на дзявяты дзень пасля смерці’ і пад.

**Тра́ціць** ‘расходаваць (грошы, сродкі)’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Ласт., Бяльк.), ‘пазбаўляцца, страчваць, губляць (у тым ліку час)’ (ТСБМ, Нас., Шат., Касп.; паст., Сл. ПЗБ, Байк. і Некр.), *тра́тіті* ‘тс’ (Вруб.), *тра́ціць* ‘пазбаўляць жыцця’ (Нас., Сержп. Прымхі), *тра́ціці* (*tracici*) ‘тс’ (Федар. 2), ст.-бел. *тратити*, *тратить* ‘расходаваць грошы, сродкі; транжырыць, губляць, страчваць; губіць, пазбаўляць жыцця; марнаваць час’ (ГСБМ), *трациц* ‘тс’ (Кітаб Луцкевіча). Укр. *тра́тити* ‘рабіць выдаткі’, ‘губляць, знікаць’, ‘пазбаўляць жыцця’, рус. *тра́тить* ‘расходаваць’, ‘спажываць’, польск. *tracić* ‘пазбаўляцца’, ‘несці матэрыяльныя страты’, ‘марнаваць’, ‘пазбаўляць жыцця’, каш. *tracëc* ‘тс’, чэш. *tratiti* ‘губляць’, ‘тярпець шкоду, страту’, славац. *tratit’* ‘тс’, славен. *trátiti* ‘траціць, марнатравіць’, ‘губляць час’, харв. *trȁtiti*, серб. *тра̏тити, тра̏ћити* ‘траціць грошы, час’, макед. *траче* ‘губляць’: *си траче времто*. Прасл. **tratiti* ‘выкарыстоўваць, расходаваць, нішчыць, марнаваць’, ‘драбіць, церці, праціраць’, ‘вастрыць’ роднаснае літ. *trúotas* ‘брус, асялок, тачыла’, лат. *truõts* ‘тс’, гоцк. *þrōþjan* ‘практыкаваць, рабіць практыкаванні, развучваць’ < і.-е. **trōt- / *trēt-* < **ter-* ‘церці’ (Фасмер, 4, 94–95; Чарных, 2, 258–259; Скок, 3, 493; Голуб–Копечны, 388; Брукнер, 575; Борысь, 639; Сной$_3$, 800; ЕСУМ, 5, 623). Махэк$_2$ (649) паходжанне лексемы тлумачыць кантамінацыяй слоў *traviti* ‘праводзіць час’ і *ratiti* ‘знішчыць, згубіць, пазбавіцца’, што малаверагодна.

**Траці́чны** ‘звязаны з трэцяй стадыяй хваробы’, ‘адносіцца да першага перыяду кайназойскай эры’ (ТСБМ). Запазычанае з рус. *трети́чный* ‘тс’, відаць, ад **третица*, гл. *трэці*.

**Трація́рка** ‘манашка’ (астрав., Сл. ПЗБ). Гл. *тарцыярка*.

**Трацяго́лятні** ‘пазалеташні’ (карэліц., Жыв. сл.), ст.-бел. *третеголетний*, *трэтьеголетний* побач з *третелетний*, *третелетный* ‘якому пайшоў трэці год’ (ГСБМ). Прыметнік утвораны са спалучэння **трэцяга лета* (гл. *трэці*, *лета*) паводле ўзору *сяголета* (гл.), параўн. *сяго́дня*, *сяго́летак* і пад.

**Трася́к** ‘трэцяя частка чаго-небудзь, трацїна’ (ТСБМ, Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Шат.), ‘трэцяя частка надзелу зямлі (каля 1 га або 4 дзесяцін)’ (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), ‘чалавек, які меў трэцюю частку

надзелу' (карэліц., Шатал.), 'трохгадовая жывёліна' (Некр. і Байк., Касп., Сл. ПЗБ, Шат.), 'трэці рой' (Сцяшк. Сл.), 'дзіцячая гульня, галоўная фігура ў гэтай гульні' (Скарбы), *трэця́к* 'трэцяя частка ўраджаю пры арэндзе зямлі' (ТС, ПСл), *трэця́ка*, *трэйця́ка*, *трэця́к* 'трохгадовая жывёліна' (ТС), *траццяк* (*треццякъ*) 'тс' (Нас.), *треццяк* 'тс' (Растарг.), ст.-бел. *третякъ*, *третьякъ* 'трохгадовая жывёліна', 'адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў', *третяка* 'жывёліна трохгадовага ўзросту' (ГСБМ). Суфіксальныя ўтварэнні ад **tretьjь*, праславянскі характар сумніўны, магчыма, толькі для слоў са значэннем 'трохгадовая жывёліна', параўн. укр. *третя́к*, рус. *третья́к*, польск. *trzeciak*, серб. *трѐћак* і пад., у сувязі са старажытнай традыцыяй прынясення ў ахвяру якраз трохгадовай жывёлы (Тапароў, Этимология–1977, 11), або для слоў, звязаных з пчалярствам, параўн. значэнне 'трэці рой' у паўночных славян, акрамя беларускага укр. *третя́к*, польск. *trzeciak* 'тс'.

**Трач**$_1$ 'пільшчык, чалавек, які распілоўвае ўздоўж бярвенні' (Сл. Брэс., Бес.; кам., малар., ЛА, 3, Вруб.; беласт., Сл. ПЗБ, АБ, 9). З польск. *tracz* ад *trzeć* 'церці, шараваць', у тым ліку і 'пілаваць' (Брукнер, 580; Борысь, 648), параўн. ст.-бел. *пила которою трутъ* (Александрыя). Сюды ж: *трачы́на* 'пілавінне', *трачкува́ті*, *трачува́ты* 'распілоўваць бервяно ўздоўж', *тра́чка* 'распілоўка' (Сл. Брэсц.; беласт., Сл. ПЗБ).

**Трач**$_2$ 'пугач' (Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, памылкова расчытанае рукапіснае "пугач"; параўн., аднак, польск. дыял. *tracz* 'długodziob', 'murogęś', што не выключае гукапераймальнага паходжання, параўн. славен. *trač* 'балбатня', якое, паводле Сной$_3$, 797, з ням. *tratschen* 'балбатаць'.

**Тра́шкі** мн. л. 'конікі, *Tettigonia viridissima*' (ігн., Сл. ПЗБ). Відаць, мясцовае ўтварэнне, параўн. літ. *tarškė́ti* 'трашчаць', 'стракатаць', *tarškesỹs* 'строкат'.

**Трашкуці́** 'казелец едкі, *Ranunculus acer* L.' (астрав., ЛА, 1; Сл. ПЗБ). З літ. *traškùčiai* 'тс' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 5, 124).

**Трашча́ць** *(трашчэ́ць, трашча́ць, трышча́ць)* 'утвараць traскучы гук, трэск' (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., Шат., Сл. ПЗБ, Гарэц., Пятк. 2, ТС), 'цвыркаць' (даўг., Сл. ПЗБ), 'трэскацца ад пераядання (пра жывот)' (віл., шальч., Сл. ПЗБ), 'стракатаць (пра сароку)' (брэсц., паўд.-мін., зах.-гом., ЛА, 1), *трышчя́тэ* 'трашчаць

(аб марозе)' (кам., Сл. ПЗБ), *трашчáць* 'моцна балецъ (пра галаву)' (Ян.), 'хутка, гучна гаварыць, гаварыць не змаўкаючы' (мёрск., Нар. лекс., ТСБМ, Мат. Маг.), *трышчáці* 'трашчаць' (Вруб.), *трашчэ́ць* 'бразгатаць, брынчаць (пра пабітую міску)' (шчуч., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *трещати*, *трищати* 'трашчаць' (ГСБМ). Сюды ж *трашчóтка* 'прыстасаванне для ўтварэння трэску, шуму, стуку, лёскату', 'балбатуха; чалавек, які вельмі хутка гаворыць' (ТСБМ, Мат. Маг. 2, Шат.), 'гаваркая жанчына' (Нар. Гом.); 'клін для ўмацоўвання пярэдняга навоя ў кроснах' (мёрск., Ск. нар. мовы), 'машына для ачышчэння лёну' (ТСБМ). Параўн. укр. *тріщати*, рус. *трещать*, польск. *trzeszczeć*, чэш. *třeštět*, славац. *trešťať*, славен. *treščati*, балг. *трещя́*, макед. *трешти*. Дзеяслоў гукапераймальнага паходжання, параўн.: *лес схіляецца чуць не да зямлі, трашчыць і стогне* (Сержп. Прымхі, 35); роднаснае літ. *treškėti* 'трашчаць, ламацца' (Борысь, 649). Гл. *трэск*.

***Трашчóны**: *а чей то дворъ трощёнъ, мощёнъ* (маг., Шн.). Няясна, магчыма, ад *траста*, гл.

**Трашчóтка** 'пеначка-жаўтаброўка, *Phylloscopus sibilator*' (Дарафееў, Птушкі). Да *трашчáць* (гл.), пра "траскучы" голас: *Песня – моцнае сіп-сіп-сіпсір-сірр* (там жа).

**Трашчýха** 'блізна, памылка ў палатне, калі ніткі асновы ідуць без перапатыкання з-за адсутнасці адной трысцінкі альбо парваных шнурочкаў (ці нітак) у ніце'; *шчухá*, *шýха*, *ташчýха* (Сцяшк. Сл.; Жыд. 1; Сл. ПЗБ; АБ, 9). Параўн. польск. *szczuczka* 'тс', *taszczucha* 'тс' (Фалінская, Sł. tkac., 1, 316). Звязана з *тшчы* (гл.), параўн. укр., рус. *тóщий*, стараж.-рус. *тъщь*, ст.-слав. **тъштъ** 'пусты', 'парожні', 'галодны', серб. *тȁшт*, славен. *təšč*, ст.-чэш. *tští*, ст.-польск. *tszczy*, *czczy* 'пусты', 'худы'. Першапачатковай формай можна лічыць *ташчýха*, з яе – скарочаны варыянт *шчýха* з прычыны спалучэння глухіх *т-* і *тч-*. Пачатак слова, магчыма, пад уплывам лексемы *трастá*, *трысцíна*, гл. Аднак не выключана непасрэднае ўтварэнне ад *трашчы́ць* 'трасціць (ніткі)', гл. Сюды ж, відаць, і *трашчýха* 'шчыліна паміж дзвюма трысцінкамі ў бёрдзе' (АБ, 9). Меркаванні пра сувязь з літ. *šukė* 'шчарбіна, зазубрына' (Трухан, БЛ, 48, 59) не пераконваюць.

**Трашчы́ць**$_1$ 'злучаць, намотваць на клубок адначасова дзве ніткі' (Касп.; Трух.), 'сукаць (пражу)' (слонім., Нар. словатв.; беласт., лід., шуміл., Сл. ПЗБ). Да *трысцíць*$_1$ (гл.).

***Трашчы́ць**$_2$, *трошчы́ты*, *трошчы́ті* ‘трушчыць, церушыць, разбураць, ламаць’, ‘рваць, не выбіраючы, матлашыць (яблыкі)’, ‘прагна, хутка есці’ (Сл. Брэс.; пін., ЖНС; драг., Ск. нар. мовы), ‘есці з апетытам’ (беласт., Сл. ПЗБ). Гл. *трушчыць*.

**Трашчэ́ць** ‘выдаваць рэзкія гукі, скрыпець, бразгатаць’ (Гарэц., Сл. ПЗБ), ‘гаварыць хутка, гучна’ (мёрск., Нар. лекс.). Гл. *трашчаць*; няма падставаў разглядаць як запазычанне з літ. *traškė́ti* ‘трашчаць’ з заменай літ. *-š’k’-* на *-шч-* (Лаўчутэ, Балтизмы, 133), паколькі адзначаны дзеяслоў у такой форме характэрны для ўсяго паўночна-ўсходняга дыялекта беларускай мовы (Мацкевіч, Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове, Мінск, 1959, 28) і вядомы іншым славянскім мовам, параўн. польск. *trzeszczeć* ‘тс’.

**Трашы́ць** ‘патрашыць (напр., рыбу)’ (Мат. Гом., Жд. 2, Янк. 1). Малаверагодна выводзіць з прасл. **trošiti* ‘ўжываць, рабіць прыгодным для спажывання’, параўн. серб. *тро̀шити* ‘крышыць, раздрабняць’, ‘размінаць, таўчы’, балг. *тро́ша* ‘крышыць, рэзаць на кавалкі’, макед. *троши* ‘тс’, ст.-слав. **трошити** ‘рассейваць, раздрабняць’, ‘траціць, распускаць’, што ўзыходзяць да **troxa* (Сной$_2$, 785; Скок, 3, 507; Фасмер, 3, 346), гл. *трохі*. Зыходзячы з семантыкі ‘вымаць вантробы, чысціць’, больш верагодна з *патрашыць* шляхам адсячэння пачатковага складу, успрынятага як прыстаўка дзеяслова закончанага трывання, гл. *патрахі*, *потрахі*.

**Траю́радны** ‘родны ў трэцім калене’ (ТСБМ, Пан., Брасл. сл.): *лапаць боту траюрадны пляменнік* (Юрч. Крыл.). Да *трое* і *род* (гл.) па ўзоры *дваюрадны* (Фасмер 4, 107; ЭСБМ 3, 131).

**Трая́к** ‘тры рублі’ (ТСБМ; шальч., Сл. ПЗБ), ‘манета ў тры грошы, або 1½ сярэбранай капейкі’ (Нас., Федар. 4, Шат., Касп., Эр., Нар. Гом.), ‘75 капеек’ (Растарг.), ‘тры капейкі’ (Байк. і Некр.); ‘бервяно ў тры сажні’ (Касп.), ‘вялікае бервяно’ (Жд. 3), ‘бервяно даўжынёй каля 6 м (на дошкі)’ (чэрв., Нар. лекс., Сл. ПЗБ); ‘мера дроў каля 3 вазоў’ (Мат. Гом.). Утварыліся ў выніку субстантывацыі зборнага лічэбніка *трој-е* і суф. *-ак* (< прасл. **-akъ*) (Слаўскі, SP, 1, 89). Назвы манет адлюстроўваюць пералічэнне расійскіх грошай у старую грашовую сістэму пасля падзелу Рэчы Паспалітай паводле эквіваленту 1 капейка = 2 грошы (Станкевіч, Зб. тв. 2, 26).

**Тра́які** 'які мае адносіны да трох крыніц, які праяўляецца ў трох відах, гатунках і інш.' (ТСБМ, Барад., Скарбы$_2$, Варл.; ігн., паст., Сл. ПЗБ), 'патройны' (Некр. і Байк.), ст.-бел. *троıаки* 'тс' (КГС). Неабавязкова з польск. *trojaki*, як мяркуе Мацкевіч (Сл. ПЗБ, 5, 124). Параўн. укр., рус. *троя́кий*, серб. *тро̏јак* 'тс', славац. *trojaký* 'тс', балг. *троя́к* 'тс', што да прасл. **troj* > ст.-бел. *трой* 'траякі' (ГСБМ) (гл. *трое*), якому адпавядае славен. *troji* 'траякі' (Сной$_2$, 786; Фасмер 4, 104).

**Тра́ян$_1$** 'адзінка вымярэння даўжыні = 3 сажні' (ПСл), 'бутля ў тры літры' (Сцяшк.), *троя́н* 'тры рады бульбы, паміж якімі нельга прайсці плугам' (Выг.), 'бутэлька ёмістасцю 0,75 л' (Арх. Вяр.). Як і ўкр. *троя́н* 'трое коней', 'бацька трох блізнят', 'від танца', утвораны ад асновы *троj-* і суф. *-ěnъ (< *trojь-ěnъ), параўн. *трайны́*, рус. *тройной*, серб. *тро̂јан*, *тро̂јни*, славен. *trôjen*. Прасл. **trojь* (пад уплывам **dvojь*) развілося з і.-е. **trei̯ó-* (ст.-інд. *trayā-*, літ. *trejì* 'тры, трое'), якое з'яўляецца зборным лічэбнікам з **tréi̯es* 'тры' (Сной$_2$, 786). Сюды ж *трайня́к* 'моцны пітны мёд' (Нас.).

**Тра́ян$_2$** старое 'здагадлівы, здатны, выдатны чалавек' (Ю. Віцьбіч, Плыве з-пад Святое Гары Нёман. Мінск, 1995, 22; тое ж Спадчына, 1991, 5, 42), сюды ж, магчыма, *трыяньскі*: *на кыяньской горе, на трыяньской траве стоиць яблыня; на той яблыни зылотое гняздо, у том гняздзе зьмея-царица Елена* (Рам., 5, 180) – фрагмент замовы, які, хутчэй за ўсё, з'яўляецца рэмінісцэнцыяй рукапіснай «Аповесці аб Троі» (пач. XVI ст.), параўн. і ст.-бел. *троянский* з рукапісу XVII ст. «Траянская гісторыя», побач з *трояновый*, *траяновый*, апошняе суадносяць з імем рымскага імператара Траяна (Слова аб паходзе Ігаравым). Існуе некалькі версій паходжання адпаведных славянскіх слоў, гл. найбольш поўны агляд у Паўлік, Scando-Slavica, 38, 170–184. Калі прыняць у якасці зыходнага непацверджаны ўказаннем на канкрэтную крыніцу апелятыў, то найбольш верагоднай падаецца этымалогія Скока (3, 488), які на падставе формаў тыпу харв. *trȃjan* 'працяглы; моцны', в.-луж. *trać* 'працягвацца, трываць' і інш. рэканструюе аснову прасл. **tra-*, суадносную з санскр. *taratí* 'спраўляцца', *trāyate*, *trate* 'абараняць', гл. *трываць*. Што да УІ *Тра́ян* (Бірыла, Бел. антр. 2, 414), параўн. рус. *Троя́н*, чэш. *Troian* (з 1184 г.),

серб. *Тројан*, харв. *Trajan*, макед. *Тројан*, якія, верагодна, абазначаюць боства ці міфалагічную істоту, то ў іх аснове можа ляжаць як адпаведны апелятыў (Скок, 3, 489), гістарычнае імя (Фасмер, 4, 107), так і лічэбнік **tri* ў сімвалічна-міфічнай ці дыстрыбуцыйнай функцыі, параўн. серб. дыял. *тројàним* 'прыводжу на свет, нараджаю тройню' (СДЗб, 52, 395). Гл. Мартынаў, СБФ, 1989, 75; Карпенка, Зб. Супруну, 102; Цыхун, там жа, 274. Пра магчымыя іранскія ўплывы гл. Жураўлёў, Язык и миф, 625; Вопросы этнических культур в зеркале языка. М., 2002, 256.

**Траяні́на** (*тройен'йна*) 'абложная зямля' (лун., ДАБМ, камент., 858). Няясна; мажліва, да *траян$_1$* (бо поле не апрацоўвалася тры гады?).

**Тра́янка$_1$** 'касцяніцы камяністыя, *Rubus saxatilis* L.' (Сцяшк. Сл.). Утворана на базе прасл. **troj-ěn-ъ* і суф. *-ъk-a*, параўн. *трайнік*, гл. Матывацыя: лісты расліны трайчасныя, растуць па тры. Аналагічна з укр. *троя́н* 'каляндра, *Coriandrum sativum* L.' (ЕСУМ, 5, 653).

**Тра́янка$_2$** 'прадмет, які складаецца з трох аднолькавых частак (напр., *траянка* арэхаў)', 'мука з сумесі грэчкі, пшаніцы і ячменю', 'страва з пшанічнай мукі, яек і салодкага малака, у якую мачаюць бліны' (ТСБМ), *тра́янка* ці *прыварковая* 'страва з пшанічнай мукі ў выглядзе соуса' (навагр., ст.-дар., ЛА, 2), *тра́янка* 'нагрэтае віно з дадаткам чырвонай гліны і каровінага масла, якое даюць парадзіхам пасля боляў перад родамі' (Нас.), 'лекавая настойка на зёлках' (Нас.), 'з трох студняў ці з трох крыніц вада, якая лічылася лекамі ад розных хвароб' (Варл.), *тро́янка* 'мука для свінняў з жыта, ячменю і аўсу' (пін., ЛА, 4), 'лекавы збор з запараных чабрацу, мяты і рамонку як сродак ад крываўкі' (Арх. Вяр.). Да *траян$_1$*, гл.

**Траяны́** 'сталюга, мальберт' (Некр. і Байк.), 'прыстасаванне з трох калоў, на якім падвешвалі калыску ў полі' (Жд. 1, Мат. Гом.; мазыр., ГЧ; віл., рагач., Сл. ПЗБ), *трояны́* 'трохрогія вілы' (Маш.; Горбач, Зах.-пол. гов.), *трояны́*, *трояны́е вілкі́* 'тс' (ТС), *тро́йні* 'тс' (Касп.), параўн. укр. дыял. *трояни́* 'тс'. Множналікавы назоўнік для называння трохчастных прадметаў, гл. *траян$_1$*.

**Тра́ячка** 'грашовы знак вартасцю ў тры рублі' (ТСБМ, Бяльк.), *трыя́чка* 'тс' (Бяльк.), *троя́чка* 'трохрублёўка' (ТС). З рус. *троячка* 'тс', памянш. ад *траяк*, гл.

**Трва́лы** ‘моцны, які можа вытрымаць’, *трваць* ‘працягвацца, існаваць (пра звычай)’, ‘быць ва ўжытку, доўга служыць (пра хамут і інш.)’ (Нас.), *трва́ла пагода* ‘добрае надвор’е’ (свісл., ЛА, 5), ст.-бел. *трвалый* ‘моцны, надзейны, стойкі’, *трвати* ‘трываць’ (1507 г., ГСБМ). Са ст.-польск. *trwały* ‘моцны, устойлівы, сталы’, ад *trwać* ‘трываць’ (Булыка, Лекс. запазыч., 197). Параўн. таксама *трыва́лы* (гл.).

**Тржэмялі́на** ‘брызгліна барадаўчатая, *Enonymus verrucosa* Scop.’, *трэмялі́на*, *трэмянíна* ‘тс’ (гродз., Кіс.), *трэмелі́на* ‘тс’ (Бес.). З польск. *trzmielina* ‘тс’, адносна этымалогіі гл. *стрэмяліна*.

**Тро́ба** ‘панос’ (пін., Сл. ПЗБ). Да *утроба* (гл.), параўн. *утроба* ‘хвароба органаў стрававання’ (Мат. Гом.). Магчыма, эўфемізм з адсячэннем пачатковага *ў-*, успрынятага як прыстаўка ці прыназоўнік, аналагічна балг. дыял. *тро́ба* ‘жывот’.

**Тро́біл** ‘сварка’: *тробіл падняць* (ветк., Palaeoslavica, 21, 2, 148). Няясна; магчыма, звязана з *труб*, гл.

**Тро́гаць** ‘чапаць’ (Бяльк.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), ‘турбаваць да хвалявання, расчуленасці’, *тро́нуць* ‘злёгку зачапіць’ (Юрч. Сін.), *тро́гаць раны* ‘напамінаць пра цяжкія перажыванні ў мінулым’ (Юрч. Фраз. 3), сюды ж, магчыма, ст.-бел. *троганистый* ‘турботны (?)’ (ГСБМ). Параўн. укр. *трога́ти* ‘кранаць, непакоіць, назаляць’, *тронутися* ‘стаць трохі ненармальным псіхічна’, рус. *тро́гать* ‘кратаць, дакранацца, чапаць; рушыць (у дарогу)’, ‘непакоіць, выклікаць спачуванне’, балг. *тро́гвам* ‘кратаць, кранаць’. Паводле існуючых тыпалагічных версій, супастаўляюцца з лат. *treksne* ‘ўдар, штуршок’, ст.-ісл. *þreka* ‘ціснуць’, ст.-англ. *đraсu* ‘націск, насілле, гвалт’ (Мюленбах–Эндзелін, 54, 230) ці з лац. *trahō*, *trahere* ‘цягнуць, сунуць’. Калі не лічыць, што беларуская лексема запазычана з рускай мовы, пра што сведчыць перш за ўсё яе лінгвагеаграфія, то найбольш верагоднай з’яўляецца версія аб сувязі з *то́ргаць* (гл.) з перастаноўкай гукаў у сярэдзіне слова (Мікала, Ursl. Gr., 3, 92; ЕСУМ, 5, 646; Арол, 4, 105).

**Тро́е** ‘трое’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Вруб., ТС), *тро́я*, *тро́і* ‘тс’ (ваўк., Сл. ПЗБ), *тро́і* ‘тс’ (Стан., Кліх.), ст.-бел. *трое*, *треи*, *трей* ‘тс’ (ГСБМ), *троя* ‘тс’ (Жлутка), у тым ліку ў спалучэннях *троя*

*двадцать* (Статут 1529 г.). Параўн. укр. *трóї*, *троє*, рус. *трóе*, польск. *troje* 'тры асобы', *trzej*, ст.-польск. *trój*, н.-луж. *tšoji* 'трое', 'трайны', в.-луж. *troji* 'трайны', палаб. *tari* 'трое', чэш. *trojí*, *troje* 'трое', 'траякі', славац. *troje* (н. р.) 'тры', 'трое (у парных назоўніках)', славен. *trója* 'трое', *trója* 'траякі', харв. *trȍji*, серб. *трȍји* 'трайны', макед. *тројца* 'трое', балг. дыял. *трóи*, *трой*, *трóе*, *трой* 'трое', ст.-слав. **трои** (м. р.), **троє** (н. р.) 'тры, трое'. Прасл. **trojь* 'тры, трайны', прыметнікавы лічэбнік **tьrje* м. р. (Дыбо, Этимология–2000–2002, 247), які з і.-е. **trei̯ó* – зборны лічэбнік з *tréi̯es* 'тры' (Сной$_3$, 808; Борысь, 642; Фасмер, 4, 104). Сюды ж таксама *троёвы* 'трохзубы, трохрогі': *троёвые вілкі* (ТС).

**Трóжды** 'тройчы, трыкроць' (Нас., Некр. і Байк.), *трóжджы* 'тс' (Нас.), ст.-бел. *троижды*, *троижда* 'тс' (ГСБМ), *трежды*, *трейжды* 'тс' (Карскі 2–3, 72). Аналагічна да *двожды* (гл.), падрабязней гл. *трыжды*.

**Трóіць**$_1$ 'апрацоўваць зямлю плугам трэці раз' (Некр. і Байк., Янк. 1; капыл., Бел. дыял. 3). Гл. *траіць*.

**Трóіць**$_2$ аргат. 'есці': *хлеб есці – сумеру троіць* (староб., Полымя, 1991, 10, 169), *трóіты* 'тс' (іван., Бел. дыял. 1). Параўн. укр. аргат. *трóїти* 'тс', рус. аргат. *трóить* 'тс', польск. аргат. *troi̯ić* 'тс'. Ад грэч. τρῶγω 'ем, прымаю ежу' (Папоў, Из истории, 104; Бандалетаў, Этимология–1980, 70; Горбач, Арго, 28).

**Трóйдаць** 'хадзіць (ад хаты да хаты), бадзяцца' (Ян.). Відаць, імітатыўнага (гукапераймальнага) паходжання, параўн. *трайдоліць* (гл.), бліжэйшыя адпаведнікі: чэш. *trajdati* 'бадзяцца, блукаць, вандраваць, валацужнічаць', *trajda* 'валацужная жанчына', 'распусніца', 'кумка', 'балбатушка, лапатушка', паўд.-чэш. *tráda* 'тс', якія Махэк$_2$ (648–649) выводзіць з *tragat se* 'ледзь ісці, валачыцца', мар.-славац. *tragat sa* 'ісці з намаганнем', роднаснымі якім ён называе лац. *trahere* 'цягнуць, валачыць'; узводзіцца да прасл. **tragati*, у чэшскім слове *-g-* (замест *-h-*) з-за экспрэсіўнасці слова.

**Трóйзелле** 'лекавая трава' (жытк., Нар. Гом.). Гл. *труйзеле*, *трызелле*.

**Трóйка**$_1$, *трэйко* 'тройчы' (Нар. Гом.), *трóйко* 'трое' (Рам. 3, ТС), 'трайня' (Сл. ПЗБ), *трэка* 'тройчы' (Сцяшк. Сл.), *трэко* 'тс' (Сержп.). Узыходзяць да формы зборнага лічэбніка **trojь* 'трое',

аформленага па ўзоры **dvojьka* ‘двое’ з суф. *-k-*, гл. Карскі 2–3, 55; Мяркулава, Этимология–1972, 102; SP, 5, 185. Формы з *-э(й)* можна патлумачыць уплывам балтыйскіх моў на фоне *трóе*, пры літ. *treji* ‘тры, трое’, аднак больш верагодная змена *о* > э пад націскам пад уплывам *трэці*.

**Трóйка₂** ‘лічба 3 і адпаведная адзнака ці карта; запрэжка з трох коней; група з трох чалавек; касцюм з трох рэчаў’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘3-метровая калода’ (Мат. Гом.), ‘трэці ход у гульні’ (ТС). Да папярэдняга слова (гл.).

**Тройкі** ‘сляды зайца’ (Мат. Гом.). Параўн. у мове паляўнічых рус. *тройка* ‘ўчастак зайцавага шляху, па якім звярок прайшоў туды і назад тры разы’ (Сл. охот.). Да *тройка₁*, гл.

**Трóйні** ‘вілы з трыма зубамі’ (ТСБМ, Касп.). Утворана ад *тройня* (гл.), як *двойня*, з суф. *-ня*, які пад уплывам лексемы *вілы* стаў суфіксам назоўніка pluralia tantum.

**Трóйнік₁** ‘рыбацкая прылада крыга’ (капыл., Янк. 1). Да *трайнік* (гл.).

**Трóйнік₂** ‘чальчак вербалісты, *Lythrum salicaria* L.’ (Кіс.), ‘бабок трохлісты, *Menyanthes trifoliate* L.’ (Бейл.), *трыйнíк* ‘лекавая балотная расліна з трыма лістамі’ (Клундук), укр. *тройчáк* ‘тс’. Да *тры* (гл.), аднак матывацыя першай назвы застаецца няяснай. Паводле ЕСУМ (5, 647), з-за таго, што кветкі гэтай расліны бываюць трох відаў; хутчэй перанос на расліну іншых назваў з-за размяшчэння лісткоў на сцябле (Волкава, БЛ, 65, 113; Пастусяк, Pograniczne, 138, 205). Сюды ж, відаць, і *трóйнік* ‘капытнік, *Caltha palustris* L.’ (івац., ЛА, 1).

**Трóйнік₃** ‘бёрда на 13 пасмаў’ (ТС); у *тры́йнык*, *у трын’нік* – ‘у трынаццаць пасмаў’ (пін., Уладз.). Параўн. рус. *тройни́к* ‘самае тонкае сялянскае палатно, у аснове якога 13 пасмаў’, *тройникóвый холст* ‘тс’, польск. дыял. *trojanotka*, побач з *trzynastka*, *trzynastnica* ‘бёрда на 13 пасмаў’. Фактычна *тройнік* – гэта ніт, які складаецца з трох частак, слова ўтворана на базе *трóйны* ‘патройны’ (Байк. і Некр.), гл. *трайнік*.

**Трóйня** ‘дэталь у возе’ (Сл. Брэс.), ст.-бел. *тройня* ‘тс’ (ГСБМ). Гл. *трайня₂*.

**Трóйца₁** ‘Сёмуха’, у хрысціянскай рэлігіі ‘трыадзінае бажаство, у якім спалучаюцца тры асобы: Бог-Бацька, Бог-Сын і Бог-

Дух Святы' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Мат. Гом., ТС, Сл. ПЗБ): *Сёмуха ці Тройца у нас тры дні* (Сержп. Прымхі), *Siomucha albo Świataja Trójca* 'тс' (Пятк. 3), *Trýeїca* 'тс' (Арх. Вяр.). *Тróiца* 'свята на другі дзень Сашэсця Св. Духа' (Нас., Ян.); сюды ж *тройцова́ць* 'святкаваць Сёмуху' (ТС), *тро́йцын дзень* 'Сёмуха' (круп., Сл. ПЗБ), *Trójeckije dziedý* 'тс' (Пятк. 3). Ст.-бел. *тройца*, *троица* 'Бог у трох іпастасях; Сёмуха' (ГСБМ). У аснове ст.-слав. **троица** – калька з грэч. Τριάς, якое з τρεῖς 'тры' (Фасмер, 4, 104). Да *тры*, *трое*, гл.

**Тро́йца**$_2$ 'кампанія з трох чалавек' (ТСБМ), 'лік тры' (Нас.): *Boh tròjcu lùbić* (Пятк. 2), 'трое суб'ектаў': *робляць па трэйко дзеля того, каб тут была тройца: мужык, жонка і дзеці* (Сержп. Прымхі). Параўн. укр. дыял. *с'вата́ три́йц'а* 'траіх неразлучных сяброў' (Арк.), чэш. *trojice* 'тры асобы', славен. *trojíca* 'тс', серб. *тр̏оица* 'тс', балг. *тройца* 'тс', макед. *тројца* 'тс', у ваколіцах Салуні *truica* 'трое людзей' (Малэцкі, Słownik). Паколькі ў большасці славянскіх моў фармальна адрозніваюцца назвы, якія суадносяцца з *тройца*$_1$ і *тройца*$_2$, мяркуецца, што формы з нерэлігійным значэннем з'яўляюцца больш старажытнымі ў некаторых мовах, гл. Басай–Сяткоўскі, Słownik, 397; Скок, 3, 300; Арол, 4, 105.

**Тро́йца**$_3$ 'канюшына лугавая, *Trifolium pratense* L.' (Шмярко, Кіс.). Параўн. укр. *трі́йка* 'тс', рус. *тро́ица* 'тс', чэш. *trojka*, *trojačka* 'тс'. У аснове назваў лічэбнік *тры* (гл.), што характарызуе будову лістка з трыма пласткамі (ЕСУМ, 5, 643; Махэк, Jména, 121), гл. папярэдняе слова.

**Тро́йчы** 'трайчасты' (Байк. і Некр.), 'тры разы, утрая' (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Растарг., Сержп. Прык.), *трэ́йчы* 'тс' (Федар. 2, Пятк. 2, Кліх), *тро́йча* 'тс' (Нар. Гом.), *тры́йчы* (*трі́йчи*) 'тс' (Нас.), *трычы*, *трычі* 'тс' (арш., Мат; Бес.), ст.-бел. *тройчи*, *треичы* 'тс' (ГСБМ). Утвораны ад зборнага лічэбніка *trojь* і іменнай формы **jьtjь* 'ход' ад дзеяслова **jьti* 'ісці' (ЭССЯ, 5, 193; ЕСУМ, 5, 642) падобна, як ст.-слав. форма на **-жды**, якая з **šьdy* < дзеепрыметнік **šьdъ* (<**xoditi* 'хадзіць'). Інакш – Карскі (Белорусы, т. II, вып. 2, Варшава, 1911, с. 91) і Шуба (Прыслоўе, 56–57): суфіксальны элемент *-ч-* зблізжаецца з *-ц-* (параўн., старраж.-рус. *двоица*, *троица*, балг. *двоица*, *троица*, макед. *двајца*, *четворица*) і ўзводзіцца да *-к-*, параўн. *трэйко* 'трыкроць' (ТС; гом., Рам. 3).

**Трок** ‘уюк’ (Ласт.), *трóкі* ‘металічныя кольцы для прывязвання ўпаляванай дзічыны’ (Цярохін, Охота), *трочыць* ‘уючыць’ (Ласт.), ст.-бел. *трокъ, торкъ* ‘раменьчык каля задняй лукі сядла для прывязвання чаго-небудзь’ (ГСБМ). Запазычана з польск. *trok* ‘тс’, гл. *тарак, тарокі.*

**Трóкнуць** ‘сказаць не падумаўшы’ (Рэг. сл. Віц.). Відаць, роднаснае рус. дыял. *трёкать* ‘гаварыць (пра пустыя, неабгрунтаваныя выказванні)’, *трéкать* ‘біць, калаціць’, якія Куркіна (Этимология–1983, 27) пры чаргаванні асноў зближае з балг. *трáкам* ‘стукаць, трашчаць’, *трéква, трéкне* ‘біць, калаціць’ і больш далёкім літ. *trẽkti* ‘нішчыць, разбураць’ няяснага паходжання (Смачынскі, 684). Гукапераймальнае (?), параўн. балг. *трак-трак* ‘грук-грук’.

**Троль** ‘у скандынаўскай міфалогіі – істота (часцей волат), звычайна варожая людзям’ (ТСБМ). З паўн.-герм. *troll* ‘скальны дух’, ст.-нарв. ‘лясны дэман, волат’, дац. *trold*, ісл. *tröll* ‘злы дух у вобразе чалавека’, этымалогія якога надалей застаецца не зусім яснай (Клюге$_{22}$, 741). Магчыма, адсюль выводзіцца слэнгавае *трóліць* (< англ. *to troll* ‘лавіць рыбу на кручок’) ‘заводзіць, заблытваць, правакаваць (у інтэрнэтным дыскурсе)’, гл. Барковіч, Лінгваінфарм., 220, 277.

**Трóльскі** ‘пародзісты’ (Мат. Гом.): *трольскі бугáй* ‘вялікі племянны бык немясцовай пароды’, ‘здаровы мужчына, які пазбягае фізічнай працы’ (лельч., Жыв. сл.). З $^{+}$*тырольскі* ‘цірольскі, з Ціроля’ < польск. *tyrolski* ‘тс’.

**Тромб** ‘згустак крыві ў крывяносных сасудах’ (ТСБМ). Запазычана праз рускую мову, у якой з заходнееўрапейскіх моў. Узыходзіць да ст.-грэч. θρόμβος ‘ком, згустак (пра сселае малако, загуслую кроў, асфальт)’ (Чарных, 2, 264; Арол, 4, 106).

**Трóмкаць$_1$** ‘іграць на шчыпковым музычным інструменце’, ‘гаварыць неразборліва’, ‘няўмела іграць’ (ТСБМ, Янк. 3, Рагаўц.), *трóмкаты* ‘тс’ (Клім., Сл. Брэс.), *трымкаць* ‘тс’ (Сцяц. Сл.). Гукапераймальнае ўтварэнне: *trom-trom* ‘гук пры нацягванні струн у скрыпцы’ (ваўк., Федар. 4), параўн. укр. дыял. *тромкат* ‘каркаць’, *тром* ‘крык крумкача’ (Ніканч. Єндем.), польск. *trom* (прыспеў) і інш. (Фасмер, 4, 98; ЕСУМ, 5, 648).

**Тро́мкаць**$_2$ *(трёмкыць)* 'есці з апетытам, паспешліва' (слаўг., Нар. словатв.). Гукаперайманне, магчыма, пераноснае ўжыванне папярэдняга слова, гл.

**Трон**$_1$ 'багата аздобленае крэсла манарха', 'улада манарха, сімвал улады', 'пасад' (ТСБМ, Некр. і Байк.), ст.-бел. *тронъ (ѳронъ)* 'апостальскі сан, вышэйшы пасад, прастол' (1596 г.), якое са ст.-польск. *tron* (XV ст.) < лац. *thronus* (Станкевіч, Язык, 833; Булыка, Лекс. запазыч., 34), а апошняе – са ст.-грэч. ϑρόνος 'высокае крэсла з зэдлікам пад ногі', 'прастол, трон', пазней 'кафедра'; 'падпора, стойка', роднаснымі да яго з'яўляюцца лац. *firmus* 'моцны, трывалы', ст.-інд. *dhāráyati* 'падтрымлівае', 'заключае ў сабе', *dhīŕra-* 'цвёрды, моцны' (Борысь, 642; Фасмер, 4, 105; Чарных 2, 264; ЕСУМ, 5, 648). Параўн. старое макед. *троњ* 'ложак': *го пуштиф пот троњ, се качи на троњ* (Попаўскі, Гостивар, 103), відавочна, пранікненне з грэчаскай мовы, што захавалася ў фразеалагізме, які адпавядае *пусці свінню пад стол, то яна захоча на стол.*

**Трон**$_2$ 'рыбін тлушч' (Арх. Вяр.), ст.-бел. *транъ, тронъ* 'ворвань' (ГСБМ). Запазычана праз польск. *tran, tron* 'тс' з нованям. *Tran* 'рэдкі тлушч, атрыманы з марскіх жывёл і рыб' (Вінцэнц), магчыма, пры пасрэдніцтве мовы ідыш, параўн. *tron* 'рыбін тлушч' (Астравух, Ідыш-бел. сл., 806). Гл. *тран.*

**Тро́нак** 'дзяржанне ў розных прыладах (вілах, чапяле, рыдлёўцы, памяле, нажы і інш.)' (ТСБМ, Байк. і Некр., Шат., Ласт., Касп., Сл. ПЗБ, ЛА, 2, 4, Сцяшк.), *тро́нок* 'тс' (Тарн., Арх. Вяр., ТС, Лекс. Бел. Палесся), *тро́нак* 'ствол' (Рэг. сл. Віц.), *трон* 'цэп' (Хромчанка, Паўн.-маст. гав.). З адаптаванага польск. *trzonek* 'рукаятка, ручка' < *trzon* 'аснова, састаўная частка чаго-небудзь; рукаятка, ручка', што адпавядае беларускаму *чаранок* (гл.). Сюды ж ст.-бел. *троновый зуб* 'карэнны зуб' (ГСБМ) з польск. *ząb trzonowy* 'тс'.

**Тро́нка** 'ручка ў складным нажы' (Касп., Сл. ПЗБ), 'сцізорык' (Сцяшк. Сл.), 'чаранок у прыладах' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.). Да папярэдняга слова, родавы канчатак зменены, відаць, паводле *ручка* 'тс'; множналікавая форма *тро́нкі* 'тс' (Сл. ПЗБ, Руб.) пад уплывам падвойных акладак у складаным нажы (сцізорыку).

**Тронкі** 'назва гульні': *На грошы ў тронкі тут гуляюць / Парнаскі дзеўкі, дзецюкі* («Тарас на Парнасе», Полымя. 1971, 10, 217),

'гульня з каменьчыкамі' (Рам. 8: «камушки кладутса в две кучки: три в одну и один в другую»), 'гульня, змест якой у тым, каб пацэліць з рукі трыма алавяннымі шарыкамі ў ямку, што знаходзіцца ад гульца на пэўнай адлегласці' (Мядзв.), 'гліняныя або алавяныя шарыкі велічынёй з круглую кулю ад стрэльбы, якія служаць для гульні «ў тронкі»' (Нік., Оч.), *дро́нкі* 'дзіцячая гульня, калі драўляныя шарыкі кідаюць у ямачкі; няцотны лік шарыкаў у ямачцы лічыцца выйгрышам' (маг., Яшк. Мясц.); сюды ж, відаць, і *тро́нкі* 'дробная бульба' (Рэг. сл. Віц.), 'плод бульбы' (Касп.) і не патлумачанае *тронки* (Шымк. Собр.). Параўн. рус. смал. *тро́нка, тро́нки* 'гульня ў арлянку', 'шарык з волава або гліны памерам з арэх для гульні «ў тронкі»' (СРНГ). Слова з не да канца высветленай этымалогіяй. Куркіна (Этимология–1983, 27–28) параўноўвае з укр. *тріньки* 'трошкі', рус. дыял. *тро́ньки* 'тс', балг. *тро́нка* 'зусім мала', сюды ж таксама серб. ці макед. *тронка* 'крышка, парушынка', макед. *ронка* 'тс', што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **tronъka* 'нешта вельмі малое', роднаснае да прасл. **troxa* (гл. *трохі*) і якое ўзводзіцца да **terti, *tьrǫ*, гл. *церці* (ЕСУМ, 5, 648). Аднак абмежаваныя тэрытарыяльна назвы гульняў з розным зместам дапускаюць перанос наймення з іншых гульняў, напрыклад, "у ножыка" ад *тронкі* 'сцізорык', або зыходзячы са значэння 'бульба', параўн. укр. дыял. *тромпа́к, кро́мпель* 'бульба' (ЕСУМ, 5, 647). Лучыц-Федарэц (вусн. паведамл.) дапускае сувязь з з літ. *treñkti* 'кідаць, шпурляць'. Сувязь з *тры* (гл.), відаць, другасная.

**Тронт** 'непрыемны пах, смурод' (шчуч., Сл. ПЗБ), сюды ж *транлівы* 'смярдзючы', гл. Аўтары Сл. ПЗБ (5, 125) звязваюць з польск. *trąd* 'праказа', што малаверагодна. Утворана ад польскага дзеяслова *trącić* 'патыхаць, тхнуць, смярдзець' ці хутчэй непасрэдна ад запазычанага *тронціць$_1$*, гл.

**Тро́нуцца$_1$** 'звар'яцець' у фразе: *тро́нуцца з ума, з розуму тронувся* (палес., гродз., маг., гом., віц., ЛА. 2, Жд. 1, Ян., Юрч. Сін.; пух., Сл. ПЗБ), *тро́нутый* 'ненармальны' (кобр., ЛА, 2). З рус. *тронуться* (з розуму). Аналагічна ва ўкраінскай мове – *тро́нутіся* 'зрабіцца трохі ненармальным, псіхічна хворым' (ЕСУМ, 5, 646).

**Тро́нуцца$_2$** 'пачацца (пра вайну)' (Юрч. СНЛ), 'сапсавацца, растаць (пра зімовую дарогу)' (лун., Шатал.), *тро́нутыса* 'тс' (Сл. Брэс.), *тро́нуць* 'крануць, зачапіць, рушыць' (ТС), 'злёгку

зачапіць' (Юрч. Сін.; віц., ЛА, 3), 'параніць жарабя (пра воўка)' (ТС). Параўн. укр. *тронýти* 'крануцца, зварушыць', *трогáти* 'кранацца, варушыць, непакоіць, назаляць', рус. *трóнуться* 'рушыцца, крануцца', 'расчуліцца', *трóнуть* 'дакрануцца', 'зачапіць', 'рушыць (у дарогу, з месца)', 'папсаваць, крануць, прымарозіць', сюды ж балг. *трóгвам* 'кранаю'. Надзейнай адзінай этымалогіі няма (Фасмер, 4, 104): супастаўляюць з лат. *treksne* 'ўдар, поштурх', ст.-ісл. *þreka* 'сціскаць, давіць', ст.-англ. *đraсu* 'націск, гвалт' (Мюленбах–Эндзелін, 4, 230), ст.-лат. *trieksne* (XVII ст.) 'бунт, мяцеж' (Каруліс, 2, 426); з лац. *tergeō*, *-ēre* 'мыць, чысціць', гоц. *þaíeko* 'дзірка' (Петр, ВВ, 18, 285). Рускае слова выводзяць з *трóпнуть* 'топнуць', *тропáть* 'таптаць' (Трубачоў, Дополн.). Гл. яшчэ Чарных, 2, 263–264; ЕСУМ, 5, 646.

**Трóнціць₁** 'выдаваць неўласцівы прадмету пах', 'дрэнна пахнуць', 'прыпахваць' (Нас., Некр. і Байк., Сержп. Казкі, Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ). З польск. *trącić* 'тс' (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 125–126).

**Трóнціць₂** 'штурхнуць, піхнуць' (шальч., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тронтити*, *тронцити* 'стукнуць, штурхануць' (1638 г., ГСБМ). Са ст.-польск. *trącić* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 38).

**Трóнчык** 'паляўнічы' (Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, іранічнае ўтварэнне ад *трэ́нтацца* 'бадзяцца, хадзіць без справы' (Нас.), гл.

**Троп** 'след, крок' (Нас., Касп., Сцяшк., Др.-Падб., Сл. Брэс.): *некруцікі вучуцца хадзіць троп у троп* (Нас.), 'след на роснай траве' (лун., Шатал.), 'сцежка, слядзіна' (Некр. і Байк., Мат. Гом.), 'жыццёвы шлях' (Сцяшк.), 'кірунак, шлях, дарога' (Адм.), 'метад, спосаб, шлях да дасягнення мэты' (Ласт.), у выразах *збіць (збіцца) з тропу* 'выклікаць замяшанне, заблытаць' (ТСБМ), *тропу добы́тысь* 'дабраць розуму, скеміць' (Клім.), *шукаць тропу* 'шукаць дарогі' (Кал.), *узяць троп* 'знайсці след', *узяць (ухопіць) тропу* 'зведаць, убачыць, заўважыць след' (ТС). Укр. дыял. *троп* 'конская рысь з падскокам', *трип* 'адбітак нагі звера на снезе', *тріп* 'сцежка ў гарах', польск. *trop* 'адбітак следу звера на зямлі ці снезе', 'след, каляіна', 'след ад ступні', 'дарога', 'ход каня', каш. *trop* 'след'. Пераважна паўночнаславянскае ўтварэнне. Сюды ж далучаюць са спецыфічнай семантыкай славен. *tróp*, *tropíne* 'жамерыны з вінаграду', серб. *трȍп* 'тс', 'вытапкі масла',

'выскваркі сала', 'асадак', 'адстой' і выводзяць прасл. **trорь*, утворанае з чаргаваннем галосных кораня ад дзеяслова **trepati* 'ўдараць, біць, трэсці, бразгаць' з першапачатковым значэннем 'выбітае, выціснутае, вытрасенае', гл. *тропаць*, *трапаць*. Параўн. таксама лат. *trapa* 'натоўп, вялікая колькасць, мноства', алб. *trap* 'сцежка', ст.-грэч. 'ατραπός 'сцежка, сцяжынка' (Борысь, 643; Скок, 3, 506; ЕСУМ, 5, 648; Вербіч, Студії з ономастики та етимології. 2010, 290). Гл. таксама *трапа*, *трэп*.

**Тро́пат** 'конская рысь з падскокваннем' (ТСБМ), *троп*, *тро́пат* 'трапятанне, хваляванне' (Некр. і Байк., Ласт.). Параўн. укр. *тро́піт* 'грукат, тупат, рысь', серб. *тро̏пот* 'шум, трэск, грукат', балг. *тро́пот* 'тупат', макед. *тропот* 'грукат, стук'. Відаць, самастойнае суфіксальнае ўтварэнне ў асобных славянскіх мовах са значэннем інтэнсіўнасці дзеяння ад дзеяслова *тропаць*, гл.

**Тро́паць** 'біць, трапаць' (Нас., Байк. і Некр.), 'брыкаць задняй нагой' (Нас.): *конь тро́пае* (бялын., чач., ЛА, 1), 'варушыцца, рабіць рухі' (рас., Бел. дыял. 1), *тро́пнуць* 'стукнуць, выцяць, ударыць' (в.-дзв., Шатал., Сцяшк. Сл., Скарбы; карэліц., Нар. сл., Сцяц., Сл. Брэс.; слонім., Нар. словатв.), 'патанцаваць' (Сцяшк. Сл.); сюды ж *тро́пацца* 'біцца (пра сэрца)' (Юрч. СНЛ). Параўн. укр. *тропа́ти* 'тупаць; танцаваць, бегчы рыссю', рус. *тропа́ть* 'тупаць, стукаць', славен. *tropati* 'біць', серб. *тропати* 'цяжка ступаць', *тропа̀т* 'стукаць', балг. *тро́пам* 'тупаць, стукаць; вытанцоўваць', макед. *тропа* 'стукаць'. Прасл. **tropati* 'тупаць, стукаць, грукаць', якое чаргуецца з **trepati* (гл. *трапаць*) і суадносіцца з літ. *trapinė́ti* 'тупаць нагамі', прус. *trapt* 'ступаць', грэч. τραπέω 'ступаю, выціскаю' і іншымі дзеясловамі гукапераймальнага паходжання (Фасмер, 4, 105; Скок, 3, 496).

**Тро́пік**, звычайна *тро́пікі* 'гарачы пояс Зямлі, размешчаны на поўнач і поўдзень ад экватара' (ТСБМ). Праз польскую ці рускую мовы з англ. *tropic* 'тс', якое з лац. *tropicus (circulus)* < ст.-грэч. τροπικός (κύκλος) 'тс' (Фасмер, 4, 105; SWO, 1980, 778).

**Тро́піць** 'шукаць след звяроў (аб сабаках)' (Федар. 1), *тра́піць* (*тропі́ць*) 'гнацца па слядах' (Ласт.). Параўн. укр. *тропи́ти*, рус. *тропи́ть* 'ісці па слядах звяроў', 'вытоптваць сцежкі', польск. *tropić* 'ісці па слядах, віжаваць'. Прасл. **tropiti* 'тс' – ад **trорь* >

*троп* (гл.) (Фасмер, 4, 105; Борысь, 643; Скок, 3, 506; ЕСУМ, 5, 648–649). Гл. таксама *трапіць*.

**Тро́пка** (*трёпка*) 'пакаранне, біццё' (Растарг.), 'наганяй з асаблівай злосцю і лаянкай' (Юрч. Сін.). Хутчэй за ўсё, з рус. *трёпка*, ад *трепа́ть* (гл. *трапа́ць$_1$*) у сувязі з малой прадуктыўнасцю словаўтваральнага тыпу на *-ка* са значэннем "адцягненага дзеяння" ў народных гаворках (Сцяцко, Афікс. наз., 87).

**Тро́псікі** мн. л. '?' (Шымк. Собр.). З-за адсутнасці тлумачэння значэння застаецца няясным.

**Трос$_1$** 'канат з пянькі або са стальнога дроту' (ТСБМ, Сцяшк.), 'карабельная вяроўка' (Некр. і Байк.), 'якарны канат' (ТС), 'ліна, якой звязваюць звенні плыта' (дзісн., Бел. дыял. 3), *троса́* 'тс' (петрык., З нар. сл.). Праз рускую мову з нідэрл. *tros* 'трос, ліна', якое разам з с.-н.-ням. *trosse*, ням. *Troß*, *Trosse* ўзыходзяць да франц. *trousse* < *trousser* 'круціць' < с.-лац. *tortiare* 'тс' (Фасмер, 4, 106; Duden. Etymologie, 867).

**Трос$_2$** 'колас' (Сцяшк. Сл.). Адзінкавая фіксацыя не дае падстаў для надзейнай этымалогіі. Можна параўнаць з чэш. *trs* 'сцябло, мяцёлка расліны', 'вінаградная лаза', славац. *trs* 'наземная частка некаторых раслін' (з чэш., Кралік, 630), славен. *tȓs* 'вінаградная лаза', серб. *трс*, харв. *tȑs*, *tȑs* 'сцябло, вузел, вінаградная лаза', ст.-слав. **тръсиѥ** 'вінаград'. Прасл. **trъsъ* 'сцябло, вінаград' (Глухак, 640), параўноўваюць з грэч. θρινία 'адростак, парастак', алб. *trishë* 'тс' (Скок, 3, 509) або разглядаюць у якасці запазычання з с.-лац. *tirsus*, *trisus* 'сцябло' (Махэк$_2$, 654). Магчыма, на Балканах першасная назва перанесена на вінаград (Лома, Зб. ФЛ, XLV/1, 94); няясныя адносіны да макед. дыял. *тросук* 'пырнік', балг. дыял. *тро́сък* 'від пустазелля', параўн. *троскат*, гл.

**Трос$_3$**, ст.-бел. *тросъ* 'скураная торба або пояс для грошай' (1585 г., ГСБМ). Са ст.-польск. *trzos*, *czrzos* 'тс', якое ўзводзіцца да прасл. **čersъ*, параўн. каш. *třos* 'гасцінец, чаявыя', рус. *че́рес*, *че́рез* 'шырокі скураны пояс на грошы', укр. *че́рес* 'тс', роднасныя ст.-ірл. *criss* 'пас, пояс', шатл. *crioss* 'тс', 'паўпасак', вал. *crys* 'кашуля, сукенка', 'адзенне з фалдамі' < і.-е. **kerd-* 'пас; падпяразвацца поясам' (Борысь, 651). Звязана з польск. *trzosła* (XVI ст.) 'паясніца', гл. *чарасло*.

**Троск** ‘звязка нізак рыбы, звычайна 100 штук’, ‘нізка ўюноў на продаж’ (Крыв., ТС), *тро́стка* ‘тс’ (ТС). Апошняе сведчыць пра зыходнае *трост* (гл.) з распадабненнем *ст* > *ск*, аналагічна ўкр. *троск* ‘чарот’ з *трость* ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 650).

**Тро́ска**$_1$ ‘мера палатна ў 100 метак’ (ТС), ст.-бел. *троска* ‘звязка, нізка’, ‘адзінка колькасці рыбы’ (Ст.-бел. лексікон): *уюновъ троску одну* (ГСБМ). Параўн. польск. *troska* ‘тс’: *troska junów* (Варш. сл.). Відаць, не можа разглядацца асобна ад *тро́ска*$_3$ ‘трысціна, кій’ (гл.) у сувязі з тым, што апошнія выкарыстоўваліся ў якасці меры розных матэрыялаў і тавараў.

**Троска**$_2$ ‘трэска’ (Мат. Гом., Янк. 2). Да *трэ́ска*$_2$ (гл.); аб спарадычнай мене *э* > *о* гл. Карскі 1, 170–179.

**Тро́ска**$_3$ ‘трысціна, кій’ (шуміл., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *тро́стка* ‘кій, трысціна ў бёрдзе’, ст.-рус. *тростка* ‘кій’. Апошняе Фасмер (4, 106) звязвае з рус. *треска́*, гл., *троска*$_3$, *трэска*, далучаючы сюды чэш. *troska* ‘абломак, руіна’. Хутчэй да *тростка*, *тросць* (гл.), параўн. харв. *tȑska* ‘чарот’, макед. *трска* ‘тс’, што ўзыходзяць да прасл. **trъstьka* < **trъstь* (Глухак, 640). Сюды ж назвы раслін *тро́ска чаро́тавая* ‘трызубка аўсянічная, *Graphephorum arundinaceum* Asch.’ (Байк. і Некр.), *тро́ська*, *тро́скі* ‘трысцянка аўсяніцавая, *Scolochloa festucacea* Link.’ (Касп.; маг., Кіс.), ст.-бел. *тростка* ‘назва экзатычнай расліны’ (ГСБМ).

**Тро́скат** ‘трэск’ (Ласт.), ст.-бел. *троскотъ* ‘расліна’ (Скарына). Параўн. укр. *тро́скит*, *трі́скот* ‘трэск’, рус. *тро́скот* ‘трэск, хруст’, стараж.-рус. *троскотъ* ‘тс’, польск. *troskot* ‘лясканне, трэск’, серб., харв. *тро̏скот* ‘урэчнік, *Polygonum*’, балг. *тро́скот* ‘пырнік’, макед. *троскот* ‘тс’. Прасл. **troskot* утворана ад мяркуемага дзеяслова **troskati* ‘трашчаць, лопацца’, суадноснага з літ. *traškė́ti* ‘хрусцець, трэскацца, грымець’ (Скок, 3, 507; Фасмер, 4, 106; SEK, 5, 172), адсюль ст.-бел. *троскотати* ‘трашчаць’ (Сл. Скар.). Меркаванні пра паходжанне назваў раслін, якія трашчаць, калі іх рвуць, гл. Брукнер, 577.

**Тро́скаць** ‘турбаваць, непакоіць’: *мяне ніц не троска* (шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *troskać* ‘тс’. Параўн. ст.-бел. *троска* ‘клопат, смутак’ (1616 г.), якое са ст.-польск. *troska* ‘тс’ (Булыка, Лекс. запазыч., 134), *троскатися* ‘клапаціцца, турбавацца’ (ГСБМ).

Адносна польск. *troska* гл. Борысь, 643. Гл. таксама *трошчыць*, *тросчыцца*.

**Трóскі**, *трóсткі* 'рэшткі пасля прасейвання мукі' (Інстр. 3), 'высеўкі' (віц., Шн. 3), *трóскі* 'смецце пры паланні ячменных круп, абтоўчаных у ступе' (віц., Нар. лекс.). Параўн. укр. *трóска* 'шлак', польск. *troski* 'пілавінне', чэш. *troski* 'абломкі, разваліны', славац. *troski* 'абломкі', славен. *troska* 'жамерыны, шлак', харв., серб. *trȍska*, *trȕska* 'шлак', макед. *троска* 'пустазелле'. Прасл. **troska* (Сной$_2$, 787), магчыма, выводзіцца з **tręsti* / **trǫsiti* (Скок, 3, 497), параўн. *атрóскі*, *атрýскі* 'адходы', гл. *трэсці*, *трусіць*. Меркаванні пра сувязь з *трóшчыць*, *трýшчыць* 'разбіваць', гл. ЕСУМ, 5, 649–650.

**Трóснік** *(трóсьнік)* 'разак, вадзяны асот' (дзятл., Жыв. сл.), 'трыснёг' (В. Адамчык). Да *траснік*, гл.

**Трóснічкі** 'трысціны ў бёрдзе' (смарг., Сл. ПЗБ). Да *траснік*, гл.

**Трост** 'мера ў 60 коп = 3600 метак уюноў' (Байк. і Некр.), 'мера колькасці рыбы' (Сержп. Грам.). Другаснае ўтварэнне шляхам адсячэння суф. *-ка* ад *тростка* < *тросць$_1$* 'чараціна', на якую нанізвалася рыба, у выніку тэрміналагізацыі стала абазначаць 'нізка (рыбы)', а затым – 'адзінка вымярэння' (Скурат, Меры, 133), аналагічна да *троск* ад *троска$_1$* (гл.). з адсячэннем канчатка.

**Трóстка** 'кіёк' (Бяльк., Арх. Вяр.), 'трысціна ў бёрдзе' (мсцісл., Жыв. сл.; бяроз., Шатал.), 'нізка ўюноў' (ТС), *трíстка* 'трысцінка ў бёрдзе' (Сл. Брэс.), ст.-бел. *тростка* 'трыснёг' (Альтбаўэр), 'назва экзатычнай расліны' (ГСБМ). Памянш. ад *тросць$_{1,2}$*, гл.

**Тросць$_1$** 'зараснік рагозу, *Typha latifolia* L.' (лёзн., Яшк.), 'чарот, *Scirpius* L.' (докш., Гіл.), ст.-бел. *трость* 'трысціна' (ГСБМ). Сюды ж *трось* 'трыснёг, *Phragmites communis* Trin.' (в.-дзв., брасл., гарад., ЛА, 1). Параўн. укр. *тростъ*, *трíсть* 'трыснёг, чарот', рус. *трость, тресть* 'тс' , стараж.-рус. *тръсть* 'сцябло трыснягу', ст.-польск. *treść*, *trześć* 'трыснёг, рагоз', ст.-чэш. *trest, trest'*, мар. і славац. *trst'* 'траснічына', славен. *tȓst* 'трыснёг', серб. *тр̑ст* 'тс', харв. *tȓst* 'тс', балг. *тръстика* 'тс', макед. *трска*, *трстика* 'трыснёг', ст.-слав. **тръсть, тьрсть** 'тс'. Прасл. **trъstь*, роднаснае літ. *triušìs* 'чарацінка, дубец', *strustis* 'трысцінка ў бёрдзе', лат. *trusis* 'трыснёг', ням. *Strauch* 'куст', ст-грэч. ϑρῦον 'сіт, чарот' (Скок, 3, 510;

Фасмер, 4, 106; Сной$_2$, 188; Махэк$_2$, 657; Махэк, Jména, 290; Барысь, 642; Мяркулава, Очерки, 46; ЕСУМ, 5, 651).

**Тросць$_2$**, *трось* 'трысцінка ў бёрдзе' (трак., вільн., калінк., Сл. ПЗБ, Бяльк., Сцяшк., Мат. Гом., Маш., ПСл; мёрск., Ск. нар. мовы), *тро́стка* 'падоўжаныя дошчачкі ў бёрдзе' (мсцісл., Жыв. сл.); сюды ж зборн. *тро́сце* 'тс' (Мат. Гом.), *тро́сця* (астрав., Сл. ПЗБ), *трысцё* (мёрск., Ск. нар. мовы). Да папярэдняга слова (гл.).

**Тро́счыцца**, *тро́шчыцца* 'гараваць, тужыць' (воран., Сл. рэг. лекс.), ст.-бел. *тросчитися*, *трощитися* 'клапаціцца' (ГСБМ). З польск. *troszczyć się* 'тс'. Гл. *троскаць*.

**Тро́ська** 'трысцянка аўсяніцавая, *Scolochloa festukacea* Link.' (Касп.), *троскі* 'тс' (Кіс.). Відавочна, ад *тросць$_1$*, збліжэнне з *трось* 'трыснёг' з-за знешняга падабенства, параўн. укр. *trost'anka tonkonižka* (Макавецкі, Sł. botan.).

**Трось-трось** 'трух-трух' (віл., Сл. ПЗБ). Выклічнік ад дзеяслова *трэсці* (гл.), мена *е* > *о*, як у *тро́ска* 'трэска' (гл.).

**Тро́ур** 'жалоба', *тро́урны* 'жалобны' (Нас.), смал. *тро́вур* 'жалоба'. Да рус. *тра́ур* 'жалоба', якое пранікла (у XVIII ст.) з ням. *Trauer* 'жалоба, смутак' (Фасмер, 4, 95). Галосная *-о-* пад націскам у выніку лабіялізацыі пад уплывам суседніх гукаў.

**Тро́ўнік** 'капытнік, *Calla palustris* L.' (івац., ЛА, 1). Хутчэй за ўсё, з *траўнік* – ад *трава*, параўн. *тро́ўка* 'травінка' (Сцяшк., Растарг.), дзе галосны *-о-* замест *-а-* выкліканы лабіялізацыяй пад уплывам наступнага *-ў-* (Карскі 1, 97). Значэнне 'траўны' = 'лекавы' адпаведна да *тра́вы* 'зелле' як агульнай назвы лекавых зёлак, параўн. *травянік* 'лякарства з траў' (Жд. 1).

**Трох$_1$:** *трёх-трёх* – пра трасенне (Юрч. СНЛ), *трёх-трёх* – пра язду трушком (мсцісл., Нар. лекс.). Гукаперайманні, у аснове якіх ляжыць апакопа дзеяслова *трохаць*, гл. Магчыма, сюды ж *трох-трох* – калі нехта падпраўляе ношку (вязку галля, закручанае дзіця), якая спаўзла (полац., Нар. лекс.).

**Трох$_2$** 'трое' (Сл. ПЗБ), 'утрох (асобна аб мужчынах і аб жанчынах)' (Мат. Маг. 2). Форма *трох* (тут Н. скл.) утворана ад формы М. скл. лічэбніка ст.-бел. *трие*, *три*, параўн. *трьхъ* ('аб трох'). Відаць, адбылося гэта пад уплывам старапольскай мовы, дзе *trzech* (з М. скл.) пашырылася на лічэбнік Н. скл. (абазначала 'тры') з XIV ст. – па ўзоры скланення лічэбнікаў і прыметнікаў, у якіх Р. і М. скл. мелі агульную форму.

**Трох-** – першая частка складаных слоў *трохгадо́вы*, *трохго́ддзе*, *трохмоўны*, *трохдзённы*, *трохсо́ты*, *трохчле́н* і пад. (ГСБМ, Некр. і Байк.), *трохро́жкі* ‘вілы’ (ЛП), *трохро́жка* ‘рогі лася, прыстасаваныя пад вешалку’ (ТС). Паводле Станкевіча (Зб. тв., 2, 171), “штучная форма” Р. скл. ад *тры* (гл.) на месцы старой формы *трый*, якая дала *тры* – форму Р. скл., што “заўсёды засталася ў словах складаных, а ў нескладаных вельмі рэдка”, гл. *трысцен*, *трыножак* і інш.

**Тро́ха**, ст.-бел. *троха* ‘крыха, невялікая колькасць’: *таа троха крови* (ГСБМ), фіксуецца ў спалучэнні з назоўнікамі ў розных склонах з 1543 г.: *тую троху земице*; *з тоей трохи муки*, *з трохою хлеба*, *на тросѣ соломы*, а таксама з дзеясловамі, прыметнікамі і прыслоўямі, на базе якіх сфарміравалася ўжыванне ў функцыі прыслоўя (Жураўскі, БЛ, 1, 63), у тым ліку ў форме, ідэнтычнай назоўніку *тро́ха* ‘нямнога’ (Касп., ТС, Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Шат.; ашм., Стан.), гл. таксама *траха*, *трохі*, *троху*. Параўн. рус. дыял. *тро́ха* ‘невялікая колькасць’, польск. *trocha* ‘тс’, чэш. *trocha* ‘тс’, славац. *trocha* ‘тс’, старое в.-луж. *trocha* ‘драбніца, маласць’, н.-луж. *tšocha* ‘тс’, славен. *troha* ‘крыха, невялікая колькасць’, серб. *тр̏оха* ‘крошка (хлеба)’, харв. *trȍha* ‘тс’, балг. *троха́* ‘тс’, макед. *троа* ‘мала, крышку’, *трошка* ‘крошка’, ст.-слав. **троха** ‘крыха, невялікая колькасць’. Прасл.**troxa* (варыянт **trъxъ*, параўн. ст.-рус. *тръхът* ‘крыха, дробная манета’) выводзяць ад прасл. **trěskati* ‘трашчаць, трэскаць’, параўн. літ. *trekšė́ti* ‘трашчаць, хрустець’, гоц. *priskan*, ст.-в.-ням. *drescan* ‘малаціць’, што чаргуецца з прасл. **trexati* ‘калаціць, трэсці’ (гл. *трохаць*) адпаведна прасл. **-sk-*: **-x-*, параўн. *труско́м* і *тру́хам* ‘рыссю’, гл. Сной$_2$, 786; Борысь, 642 (звязвае з **troska* ‘тое, што з’яўляецца вынікам растрэсквання; асколак’; параўн. Брукнер, 576). Меркаванні пра сувязь з **terti* (гл. *церці*), а таксама сумненні наконт гэтага гл. у Фасмер, 4, 107; Шустар-Шэўц, 1531; ЕСУМ, 5, 653.

**Тро́хаць** *(тро́хъць)*, *тро́хнаць (тро́хнъць)* ‘тузаць, трэсці’, ‘круціць, ківаць, махаць’ (мёрск., Нар. сл.). Да *траха́ць* (гл.) з заменай *а* > *о* пад націскам, новаўтварэнні ад *трэсці* (параўн. Фасмер, 4, 113).

**Трохвуго́льны** ‘трыкутны, трохкутны’ (ТСБМ), *трёхвуго́льный* ‘тс’ (Бяльк.), *трохуго́л’ны* ‘тс’ (Вруб.), сюды ж *трохвуго́льнік* ‘трыкутнік’ (ТСБМ), *трохуго́л’нік* ‘тс’ (Вруб.). Наватворы з *трох-* і *вугал* (гл.) пад уплывам рус. *треуго́льный*, *треуго́льник*.

**Трохжы́льны** ‘вынослівы’ (Сцяшк. Сл.). Да *тры* і *жы́ла* (гл.). Мабыць, з рус. разм. *трёхжильный* ‘тс’.

**Тро́хі** ‘няшмат, крыху’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Шымк. Собр., Нік. Очерки, Варл., Бяльк., Шат., Мат. Маг., Жд. 1, Мал., Гарэц., Шпіл., Яруш., Сл. ПЗБ), *тро́хі*, *тро́ху* ‘тс’ (Нас., Байк. і Некр., ТС, Растарг.), ‘крыху’ (ТСБМ, Юрч., Бяльк., Сл. ПЗБ), *тро́хо* ‘тс’ (ганц., Ск. нар. мовы), у тым ліку ў памяншальнай форме *тро́ханько* ‘крышку’ (Сцяшк. Сл.), *трошкі*, *трошку*, *тро́шка*, *тро́шко*, *тро́шкы*, *тро́шачкі*, *тро́шочкі*, *тро́шечкі*, *тро́шычкі*, *тро́шачку*, *тро́шычку*, *тро́шычке*, *тро́шечка*, *тро́шычкы* ‘тс’ (ЛА, 5), ст.-бел. *трохе*, *трохи*, *трохо*, *трошка*, *трошку* ‘тс’ (ГСБМ). Паводле Карскага (2–3, 74), названыя прыслоўі ўзыходзяць да формаў Н. або В. скл. назоўніка *троха* (гл.) у адз. і мн. ліку (Карскі 2–3, 419). Параўн. ранейшыя меркаванні пра польскае паходжанне прыслоўя *трохі* (Карскі Белорусы, 147), а таксама залічэнне да паланізмаў смал. *трошку*, *троху* і *трохі* (Бяднарчук, Językowy obraz WKL, 240) пры агульнаславянскім пашырэнні зыходнага слова не мае падстаў.

**Трохкра́тны** ‘трохразовы, патроены’ (ТСБМ). Запазычана з рус. *трёхкратный* ‘тс’, што ўзыходзіць да ст.-слав. **три краты** ‘тры разы, тройчы’, параўн. ст.-бел. *трикраты* ‘тс’ (ГСБМ). Формы *трыкро́тна* ‘ўтрая’ (Ласт.), ст.-бел. *трыкротный* ‘трохразовы’, як і *трыкроть* ‘тройчы’, запазычаны з польск. *trzykrotnie*, *trzykrotny*, *trzykroć*, гл. Фасмер, 2, 368. Формы з *трох-* (гл.) з'яўляюцца наватворамі на фоне складаных слоў з *тры-* (гл.).

**Трохку́тка** ‘касынка’ (Мат. Гом.), *трохку́тнік* ‘тс’ (Жд. 1). Да *тры* і *кут* ‘вугал’ (гл.); паводле Станкевіча (Зб. тв., 2, 171), апошняя форма на фоне *трыку́тнік* (гл.) з'яўляецца штучнай, параўн. *трысцен*, *трыножак* і інш.

**Трохма́ська** ‘кошка трохколернай масці’ (Рэг. сл. Віц.). Да *тры* (гл. *трох-*) і *масць* (гл.), параўн. *трохпаўсцёвы* ‘тс’ (Барад.), *одно́машны* ‘аднолькавы’ (Клундук).

***Тро́хнуць**, *тро́хнуты* ‘трухлявець, гніць сухім’ (Клім.). Да *труха́*, *тру́хнуць* (гл.).

**Трохро́дны** ‘траюрадны’ (Пан.). Па ўзоры *двухродны брат* < ст.-бел. *братъ зъ двуродныхъ* (*двурожоныхъ*); *двух-* на месцы *дву-* па аналогіі з займенным скланеннем прыметнікаў (Карскі 2–3, 242). Гл. *трох-*.

**Трохро́жка**, *трохрожкі* ‘вілы з трыма зубамі’ (бялын., Янк. Мат., Юрч. СНС, Выг.), *трохро́жка* ‘вешалка з рагоў лася’ (ТС). Да *тры* (гл. *трох*) і *рог* (гл.).

**Трохсхі́льны** ‘на тры страхі’ (Сцяшк. Сл.). Да *тры* (гл. *трох-*) і *схіл* (гл.).

**Трохсце́н** ‘прыбудова да дома’ (Нар. Гом., Шушк., ТС, Ян.), *трохсце́нка* ‘тс’ (Рэг. сл. Віц.), *трохсце́нак* ‘прыбудоўка з трох сцен’ (Скарбы, Рэг. сл. Віц.), ‘трысцень у хаце’ (в.-дзв., віл., Сл. ПЗБ). Да *тры* (гл. *трох-*) і *сцяна́* (гл.). Гл. *трысцен*.

**Трох-трох** – калі нехта папраўляе ношку (вязку галля, закручанае дзіця), якая спаўзла (полац., Нар. лекс.), *трёх-трёх* – пра трасенне (Юрч. СНЛ), пра язду трушком (мсцісл., Нар. лекс.). Гукаперайманні, апакопа асновы дзеяслова *трохаць*, гл.

**Тро́шкі**, *тро́шку* ‘нямнога, крышку, чуць’ (ТСБМ, Нас., Яруш., Растарг., Байк. і Некр., Сцяшк., Растарг., Бяльк., ТС). Гл. *трохі*.

**Тр-р-р** – выгук, якім спыняюць каня (ТС; мсцісл., З нар. сл.), *трр, прр* ‘тс’ (Арх. Вяр.), *тыр-р* ‘тс’ (Сцяц. Сл.). Старажытнае ўтварэнне гукаперaймальнага характару (Фасмер, 4, 91; ЕСУМ, 5, 612), гл. *тпру*.

**Труб** ‘крык, гвалт’, *тру́бес* ‘галашэнне, моцны плач’ (ТС). Няясна; магчыма, паходзяць ад ням. *trüben* ‘засмучаць, азмрочваць’, ‘муціць, каламуціць’, *trüb*, *trübe* ‘маркотна, журботна’, *trübsal* ‘гора, смутак, жаль, туга, журба, маркота’; пранікненне іх адбылося, відаць, праз ідыш, параўн. ід. *trojb* ‘труба’ (Астравух, Ідыш-бел. сл.). Гл., аднак, у Скарыны *Празникъ Трубъ* – яўрэйскае свята, калі пад гукі труб адбывалася ахвярапрынашэнне (ГСБМ). Параўн. таксама разм. *труба́* ‘гібель, пагібель’ (ТСБМ), *трубе́ц* ‘канец, капцы’ (ТС), зблiжэнне з якімі магло ўплываць на семантыку слоў.

**Труба́**$_1$ ‘доўгі, пусты ў сярэдзіне, прадмет круглага сячэння’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Ласт., Бяльк., Сцяшк.), у тым ліку назвы канкрэтных прадметаў такой формы: ‘драўляны або духавы медны інструмент з раструбам на канцы’ (ТСБМ, Варл., Ян., Касп., ТС, Вруб., Пятк. 2, Сержп. Прымхі; ашм., Стан.), ‘цэментаваны абруч у калодзежы’ (Сцяц.; смарг., Сл. ПЗБ), ‘сувой палатна або скрутак іншых матэрыялаў’ (мсцісл., дзятл., Жыв. сл., Брасл. сл., Варл.; талач., клец., ЖНС; ваўк., маг., чэрык., ЛА, 4;

шальч., Сл. ПЗБ), пераносна таксама ‘абжора’ (Нас., ТС; клец. Бел. дыял. 3, Сцяц.), ‘гібель, пагібель’ (ТСБМ), памянш. *тру́бка*, *трубачка*; акрамя назваў розных прыбораў і прыстасаванняў цыліндрычнай формы таксама ‘люлька’ (Бяльк.), ‘горла (дыхальнае)’ (Бяльк., Мат. Гом.), ‘калодка ў коле’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Нас., Ласт., Касп., Мат. Гом.; лаг., мёрск., в.-дзв., Шатал., Сл. ПЗБ, ЛА, 2), ‘вузкая рыбацкая лодачка’ (Касп.), ‘кулёк’ (ТС), ‘месца ў сцябле, адкуль выплывае колас’ (петрык., Шатал.), ‘ражок паляўнічага; лігаўка’’ (Касп., Маш., Бес.; краснап., Яшк.), ‘цвёрдая частка пяра’ (брагін., Шатал.; ст.-дар., рэч., калінк., ЛА, 1), ‘жалезны шпень з адтулінай (у калаўроце)’ (в.-дзв., Шатал.), *тру́бкі* ‘адросткі пер’яў пасля ліннькі’ (ст.-дар., ЛА, 1), ст.-бел. *труба* ‘доўгі пусты ў сярэдзіне прадмет круглага сячэння’, ‘музычны інструмент’, перан. ‘выразнік ідэй’ (ГСБМ), ‘адзінка колькасці тканіны’ (Ст.-бел. лексікон). Укр. *тру́ба*, *труба́* ‘доўгі пусты прадмет’, ‘капец, загібель’, ‘комін’, *тру́бка* ‘назва розных прадметаў, прыстасаванняў у форме трубы’, ‘сцябло злакаў’, рус. *труба́* ‘дудка, кішка, вузкі рукаў з цвёрдага матэрыялу, пусты ў сярэдзіне, адкрыты з канцоў’, ‘комін’, ‘рэчышча’, ‘паветраная труба’, ‘зруб калодзежа’, рус. астрах. ‘выдзеўбаная лодка-душагубка’, ‘скрутак палатна’, ‘натоўп людзей’, польск. *trąba* ‘від духавога інструмента’, ‘віхравы рух паветра’, ‘хобат (слана)’, ‘комін’, ‘адмысловы скрутак ільну ці пачасся, прыгатаваны для прадзення’, каш. *trǫba* ‘тс’, ‘калодка ў коле’, н.-луж. *tšuba* ‘комін’, *tšubka* ‘дудка’, в.-луж. *truba* ‘скрутак, рулон’, ‘комін’, ‘труба (музычная)’, *trubka* ‘люлька’, ‘трубачка’, чэш. *trouba* ‘духоўка, печ’, ‘вадаправодная труба’, ‘ражок пастуха’, славац. *trúba* ‘музычны інструмент’, ‘ражок, дудка’, ‘духоўка’, славен. *tróba* ‘труба’, ‘муфта’, ‘духавы інструмент’, ‘смерч’, серб. *тру́ба* ‘горн’, ‘клаксон’, ‘скрутак (палатна)’, харв. *trúba*, *trûblja* ‘тс’, ‘дудка’, макед. *траба* ‘скрутак матэрыі’, дыял. *трамба* ‘духавы інструмент’, *тромба* ‘сувой’, балг. *тръба́* ‘труба’, ‘рулон матэрыі’, ст.-слав. **тржба** ‘духавы музычны інструмент, ражок’. Прасл. **trǫba* з першасным значэннем ‘духавы музычны інструмент’ запазычана, відаць, са ст.-в.-ням. *trumba* ‘труба’, *trumpa* ‘барабан’, ‘духавая труба’ альбо з раманскіх моў, параўн. с.-лац. *trumba* ‘тс’ (Фасмер, 4, 109; Борысь, 641; Сной$_2$, 785). Менш верагодным з’яўляецца

гукапераймальнае ўтварэнне ў славянскіх мовах незалежна ад германскіх моў (Младэнаў, 642; Мацэнаўэр, Cizí sl., 85; Скок, 3, 513). Значэнні: 'комін', 'скрутак', 'паветраны вір' – другасныя (Борысь, 641). Спецыфічнае значэнне захавалася ў венг. *toromba* 'пук саломы' (1463 г.) < слав. **trǫba* (Хелімскі, Слав. языкозн. X, 349), што адпавядае гродз. *haroch u̯jećścia u̯ try truby* (Федар. 5, 701), гл. *трубой*. Паўднёваславянскія словы, аднак, маглі быць запазычаны з італ. *tromba* (Махэк$_2$, 653). Сюды ж *трубаку́р* 'заўзяты курэц' (Некр.), *труба́ч* 'выканаўца ігры на трубе' (Некр. і Байк.): ст.-бел. *певци и трубачи близу его* (Сл. Скар.), *трубачы́сты* 'камінар' (Сцяшк.), *трубіла*, *трубіло* 'надакучлівы чалавек' (Нас., Янк. 3), 'чалавек з гучным голасам' (Юрч. Вытв.), 'абжора' (Нас., Юрч. Вытв.), *трубіна* неадабр. 'нягодны чалавек' (віл., Сл. ПЗБ), *тру́біна* 'скрутак' (Рэг. сл. Віц.), *трубкава́нне* 'ўтварэнне сцябла ў злакавых' (ТСБМ), *трубча́сты*, *трубкава́ты* 'які мае форму трубак' (ТСБМ), *трубі́ць* 'дзьмуць у трубу, прымушаючы яе гучаць' (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., Сержп. Прык., Яўс., Янк. 2, 3; ТС; паст., віл., Сл. ПЗБ), 'сігналіць, гукамі падаваць сігнал' (ТСБМ, Сцяц., ТС, Скарбы), экспр. 'плакаць' (Яўс., Янк. 2, Янк. 3, Кольб.), 'голасна размаўляць', 'кракаць (пра качак)' (пух., Сл. ПЗБ), *трубіті* 'квакаць (аб жабах)' (ДАБМ, камент., 895), 'прагна і шмат есці' (ТСБМ, Нас., Сцяц., Мат. Маг., Яўс., ТС, Янк. 2, Федар. 7; слонім., мёрск., Нар. лекс.), 'піць, ссаць' (ТС), 'гаварыць не слухаючы', 'весці пустыя размовы' (Нас., Бяльк.), 'разносіць па людзях чуткі' (ТСБМ, Янк. 2), *трубле́ньне* 'дудзенне ў трубу' (Юрч. Вытв.), *трубы́ты* 'жэрці' (пін., Жыв. сл.).

**Труба́**$_2$ 'хвост лісы (паляўнічы жаргон)' (ТСБМ, Сцяшк.), рус. *труба́* 'тс'. У выніку пераносу значэння паводле падабенства. Параўн. выраз разм. *трымаць хвост трубой* 'быць актыўным, быць у добрым настроі'.

**Трубаду́р** 'сярэдневяковы паэт-пясняр', 'той, хто ўслаўляе каго- ці што-небудзь' (ТСБМ), 'паэт-пясняр, лірнік' (Некр. і Байк.). Еўрапеізм, у аснове якога франц. *troubadour*, што ўзыходзіць да нар. лац. **tropāre* 'вершаваць, спяваць' (Рэйзак, 677; ЕСУМ, 5, 654).

**Тру́бачка** 'лодка, выдзеўбаная з тоўстай асіны' (падзв., Нар. сл.; мёрск., Жыв. НС), 'вузкая рыбацкая лодка' (Касп.), *тру́пка* 'лодка, выдзеўбаная з калоды' (беш., Нар. сл.). Параўн. рус. астрах.

*трубá* 'выдзеўбаная лодка-душагубка'. Да *труба$_1$*, аднак матывацыя наймення не зусім зразумелая. Магчыма, першапачаткова ў аснове ляжалі **trupa*, **trupъ*, параўн. каш. *trëpa* 'гнілое, трухлявае дрэва', ст.-рус. *трупъ* 'ствол дрэва', чарнаг. *труп* 'пень' і пад., у далейшым набліжаныя да *труба* 'цыліндрычны пустацелы прадмет', гл. SEK, 5, 166, 176.

**Трубéль** 'трубач; той, хто трубіць' (валож., ашм., Стан.). Рэдкае словаўтварэнне з суф. *-ель* назоўнікаў у якасці назвы асобы, "схільнай да пэўнага дзеяння" (Сцяцко, Афікс. наз., 38), магчыма, пад уплывам літоўскага суф. *-ėlis*, параўн. Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 119. Да *труба$_1$* (гл.); поўнае фармальнае супадзенне па паходжанні з в.-луж. *trubjel* 'поўнае сцябло', 'комін', гл. Шустар-Шэўц, 1535; параўн. таксама н.-луж. *tšubal* 'труба', чэш. *trouble* 'комін', што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **trǫbjel* 'трубка' (Сной$_2$, 785).

**Трýбес** 'галашэнне, моцны плач' (ТС). Гл. *труб*.

**Трубéц** экспр. 'канец, капцы' (ТС). Утворана на базе *труба$_1$* 'гібель, пагібель' пры дапамозе размоўнага "зневажальнага" суф. *-ец*, магчыма, па ўзоры *канец*, *капец* 'тс'.

**Трубёлка** 'трубка, скрутак' (сен., Бел. дыял. 1). Да *труба$_1$*, *трубель* (гл.); аналагічныя па паходжанні і фармальна блізкія в.-луж. *trubjalka* 'трубачка, дудачка; сцябло', гл. Шустэр-Шэўц, 1535; славац. *trúbel'ka* 'сфарміраваная ў форме трубкі', гл. Кралік, 630; харв. *trubèljika*, славен. *trobelíka* 'расліна *Cicuta virosa*' (гл. Сной$_2$, 785).

**Трýбіца$_1$** 'калодка ў коле' (беш., Нар. сл.; кругл., Яшк. Мясц.), *трýбыца* 'тс' (пін., ЛА, 2). Узніклі ў выніку кантамінацыі слоў *трýбка* з тым жа значэннем (гл. *труба$_1$*) і *ступіца* (для віцебскага арэала), аналагічна *трубка* і зах.-палес. *калодзіца* (для пінскага арэала). Параўн. з тым жа этымонам фармальна ідэнтычнае рус. дыял. *трýбица* 'колас, які наліваецца'.

**Трýбіца$_2$** 'рыбалоўная прылада' (воран., Сл. ПЗБ). Відаць, дэфармаванае *трыгýбіца* (гл.).

**Трубíць$_1$** 'гудзець, раўсці, крычаць, плакаць, голасна распавядаць' (Янк. 2, Сл. ПЗБ, Кольб.): *жабы трýбяць* (ДАБМ, камент.). Пераносна да *трубíць*, дэнамінатыва ад *труба$_1$* (гл.).

**Трубíць$_2$** экспр. 'трушчыць, грызці' (Тур.): *нехай кужэль мушы трубяць* (ТС), экспр. 'піць, ссаць' (ТС): ст.-бел. *зъ великого*

*кубка трубитъ* (XVIII ст., “Прамова Мялешкі”). Параўн. укр. *трýбúти* ‘многа есці’, польск. *trǫbić* ‘прагна піць’, в.-луж. *trubić* ‘хлябтаць’. Рэгіянальнае семантычнае развіццё дэнамінатыва *трубіць,* першапачаткова, відаць, – ‘гучна піць, есць’ (ЕСУМ, 5, 654; Шустар-Шэўц, 1535; Тувім, Słownik, 2009, 19), гл. *труба*$_1$. Сюды, магчыма, з супрацьлеглым значэннем *и kułak trubić* ‘галадаць’ (Федар. 4).

**Трубло́** ‘пражорлівы конь ці карова’ (Яўс.), ‘пражора’ (астрав., Сл. рэг. лекс.; полац., Нар. лекс.; лаг., Гіл., Барад.), ‘чэрава’ (рас., ЛА, 1, Шатал., Нік., Оч., Юрч. Мудр.), *трубла́ты* ‘чалавек з тоўстым жыватом’ (Касп., Сцяшк. Сл.; в.-дзв., Шатал.). Утворана ад *трубíць*$_2$ < *труба*$_1$ (гл.), параўн. *трубíла* ‘пра абжорлівага’ (Каўрус, Словаклад), пры ад’ідэацыі *трыбýх* (гл.). Гл. таксама *трабло, трыбло.*

**Трýбнік** (лугавы) ‘сон лугавы, *Pulsatilla Adans. pratensis* Mill.’ (Бейл.). Названы паводле трубкападобнага сцябла; адносна народнай сімволікі расліны гл. Коласава, Лексика, 32.

**Трубніца** (*трýбныця*) ‘частка спіны ніжэй паясніцы’ (драг., Бел. дыял. 3). Іран., вытворнае ад *трубіць*$_1$, гл. Параўн. рус. дыял. *трýбка*, *трýбля* ‘частка цела ніжэй за спіну, ягадзіцы’.

**Трубня́** ‘парахно (для абкурвання пчол)’ (Мат. Гом.). Слова няяснага паходжання (недакладнае прачытанне рукапіснага запісу **трухня*?). Гл. таксама *трухля* ‘тс’ (Мат. Гом.).

**Трубо́й** ‘вертыкальна, прама, уверх, угору’ – *жыты ... ўсталі трубою* (ТСБМ); *дым валіць трубой* (Сл. ПЗБ); сюды ж, відаць, *у трубы віцца* ‘вельмі добра расці’ (ТСБМ): *Каб наша жыта / У трубы павілося* (навагр., Песні нар. свят). Няясна; параўн. рус. *труба́ трубо́ю вали́ть* (пра вялікую колькасць людзей, Даль). Хутчэй за ўсё, да *труба*$_1$ ‘сцябло збожжа перад калашэннем’, пра выключнае значэнне гэтай стадыі развіцця расліны для земляробаў сведчаць спецыяльныя тэрміны *трубкава́нне* ‘ўтварэнне сцябла ў злакавых, выхад у трубку’ (ТСБМ), укр. *трубкува́ння* ‘тс’, рус. *трубить* ‘выпускаць, утвараць сцяблíну (пра расліны)’: *озими уже трубят* (Даль), а таксама сімвалічнае выкарыстанне трубы: «вечарам пасля вяртання з поля селянін браў трубу і пачынаў трубіць. Гэта рабілася для таго

"щобы так трубыло жыто", г. зн. каб забяспечыць добры ураджай» (Теодорович Н. И. Волынь в описании городов, местечек и сёл. Т. V. Почаев, 1903, 391). Паводле Талстых, у гэтым выпадку «народная этимология порождает … ритуал» (Слав. языкозн. X, 259–260).

**Труд**$_1$ 'праца' (неалагізм, Юрч. Сін.), 'цяжкая праца' (в.-дзв., шальч., люб., паст., ашм., Сл. ПЗБ), 'праца, работа' (Вруб.), 'вялікі ўчынак' (Некр. і Байк.), 'пакуты, цярпенне, цяжкасці' (Варл.; маладз., Янк. Мат.), *труда́* 'цяжкае становішча, цяжкасць, мука' (Бяльк.), *труды́* 'вялікія намаганні' (Юрч. СНЛ), 'мітрэнгі, цяжкасці, перажыванні' (Бярад.), 'турботы, клопаты, намаганні' (Скарбы), 'пакута, цяжкасць' (Сцяц.), 'мука, нясцерпны боль' (Гарэц.; шальч., мядз., Сл. ПЗБ), 'цяжкая хвароба, вялікія мукі' (Пан.), *тру́дзіць* 'стамляць, натруджваць да болю працай, хадой і да т. пад.' (ТСБМ, ТС), 'таміць, турбаваць' (Ласт.), *трудзі́цца* 'працаваць' (мёрск., Нар. лекс., ТС), 'цяжка працаваць' (в.-дзв., брасл., чэрв., Сл. ПЗБ), 'мучыцца, пакутаваць' (Гарэц., Бяльк., Пан.; брасл., глыб., Сл. ПЗБ), 'вельмі мучыцца ад фізічнага болю' (Юрч. Сін.), 'недаядаць' (в.-дзв.), 'вяліць, рыхтаваць тытунь для курэння'; 'брадзіць (пра раствор)' (паст., віл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *трудъ* 'работа, напружанне фізічных і разумовых сіл', 'вынік працы', 'пакута, цяжкасць' (ГСБМ), 'праца', 'стомленасць', 'бяда', 'праклён' (Альтбаўэр), *трудити* 'таміць работай', 'турбаваць, гнясці', *трудитися* 'цяжка працаваць', 'клапаціцца, турбавацца', 'пакутаваць, мучыцца' (ГСБМ). Укр. *труд* 'праца, работа', рус. *труд* 'цяжкая працяглая хвароба', стараж.-рус. *трудъ* 'запал, стараннасць', 'праца', 'клопат', 'пакуты'; 'хвароба', 'гора, скруха, смутак', польск. *trud* 'цяжкая праца, вялікія намаганні', 'утома, змора', ст.-польск. *trud* 'мука, пакута', 'страта сіл', каш. *trud* 'намаганне, напружанне', чэш. *trud* 'напружанне, цяжкасць', 'клопат', ст.-чэш. 'тс', 'катаржная праца', 'пакута, мука', 'мучэнне'; славац. *trud* 'сум', 'цяжкая праца' (у апошнім значэнні запазычана з рускай мовы, гл. Махэк$_2$, 654), славен. *trûd* 'праца, стараннасць', харв. *trûd*, серб. *труд* 'праца, намаганне, старанне', макед. *труд* 'тс', 'праца (дзейнасць)', 'праца (твор)', балг. 'праца, намаганне, вынік працы', ст.-слав. **троудъ** 'пакуты, мука, намаганні', 'барацьба'. Прасл. **trudъ* 'намаганне, цяжкая праца' – роднаснае

літ. *triũsas* ‘праца, клопаты’, *triũsti* ‘рабіць карпатлівую працу’, ‘завіхацца каля дома, па гаспадарцы’, лат. *traûds* ‘крохкі’, с.-в.-ням. *drôȝ* ‘цяжар, груз, бярэмя’, ‘прыкрасць, непрыемнасць’, лац. *trūdere* ‘ўдараць, піхаць, прымушаючы гнаць, штурхаць’, ірл. *trot* (< **trudno-*) ‘спрэчка’, што да і.-е. **tr-eu̯-d-* ‘церці, расціраць, мяць, ціснуць’ < **ter- / *tr-* ‘церці’. Мяркуецца, што пачатковым значэннем у прасл. *trudъ* было ‘цяжкая ноша, цяжар’ (Фасмер, 4, 107–108; Брукнер, 575; Махэк$_2$, 654; Скок, 3, 514; Чарных, 2, 266; Сной$_2$, 789; ЕСУМ, 5, 654–655). Сюды ж вытворныя *трудаві́* ‘які вымагае працы’, ‘зароблены працай’ (Нас.), *трудава́ць* ‘турбаваць, непакоіць’ (Нас.), ‘цяжка раджаць, мучыцца пры родах’ (ігн., Сл. ПЗБ), *трудові́к* ‘працаўнік’ (столін., Нар. лекс., Сл. Брэс.), *трудлі́вы* ‘тс’ (Ян.), *трудаві́ты* ‘тс’ (іўеў., Сл. ПЗБ), *трудава́нне* ‘намаганне’, ‘цярпенне пры хваробе’ (Нас.).

**Труд$_2$**, *трут* ‘сып, высыпка’ (Сл. ПЗБ; в.-дзв., Рэг. сл. Віц.), *труд* ‘адзёр’ (Арх. Вяр.), ‘благая хвароба, праказа’ (Варл.), *трут* ‘прышч’ (Сцяшк. Сл.). ст.-бел. *трудъ, трондъ* ‘праказа’ (XV ст., апошняе – з польск.), *трудоватый* ‘хворы на праказу, пракажоны’ (ГСБМ). Параўн. рус. смал. *труд*: *водный труд* ‘вадзянка’, стараж.-рус. *трудъ* ‘немач, хвароба’, польск. *trąd* ‘праказа; працяглая заразная хвароба’, ст.-польск. *trędowacina* ‘кароста, высыпка на целе’, в.-луж. *trudownik* ‘залозніца, *Scrophularia* L.’, чэш. *trud* ‘вугор, прышч’, славен. *trôd / trôt* ‘колікі, калаццё’, харв. чак. *trûdi* ‘гемарой’, серб. *тру̂д* ‘розныя хваробы’, макед. дыял. *тръдои* ‘гемарой’, ст.-слав. **трѫдъ** ‘крывавы панос’. Прасл. **trǫdъ* ‘нейкая скураная хвароба’, роднаснае літ. *trandìs* ‘караед’, ‘моль’, ‘гнілізна, спарахнелае дрэва’, *trandė́ti* ‘быць паточаным моллю, чарвяком’, *trendė́ti* ‘псавацца’, лат. *trenêt* ‘псавацца, гніць’, ст.-інд. *tr̥nátti* ‘расколвае, прадзірае’, ст.-грэч. τερηδών ‘шашаль, дрэваед’, уэл. *trwyddo* ‘вярцець’ < і.-е. **tre(n)d-* < **ter-* ‘церці’ (Фасмер, 3, 110; Махэк$_2$, 654; Голуб–Копечны, 391; Брукнер, 575; Булыка, Запазыч., 326; Скок, 3, 514–515). Борысь (641) мяркуе, што першасным значэннем прасл. **trou̯dъ* было ‘нешта спарахнелае, сатлелае, сточанае шашалем’, у сувязі з чым гл. *трут*. Гарачава (Этимология–1980, 110) следам за Брукнерам (577) і Скокам (3, 515) **trudъ* і **trǫdъ* лічыць фанетычнымі дублетамі, параўн. тыпалагічна блізкія лац. *laborare* ‘цярпець, пакутаваць’

і 'працаваць'. Гл. таксама K. R. Grinda «Arbeit» und «Mühe». Untersuchungen zur Beteutungsgeschichte altenglischer Wörter, München 1975, што, відаць, сведчыць пра ўніверсальны характар семантычнага развіцця.

**Труданóшка** 'скураная сумка для грошай' (Шат.). Першапачаткова, відаць, **трутаношка*, параўн. рус. *трутонóша*, *трудонóша* 'скураная сумачка, у якой насілі крэсіва, крэмень і трут', пазней у выніку дээтымалагізацыі – *трудонóска* 'швейны рабочы кашэль, сумка для швейнага прыбора, прылады, апарата'. Да *трут*, гл. Параўн. аналагічнае па ўтварэнні *тырбанóшка* 'скураная машна для грошай, якую носяць на поясе' (Бяльк.), відаць, у выніку збліжэння з *торба*, гл.

**Трудáць** 'мучыцца' (паст., брасл., Сл. ПЗБ). Да *труд*$_1$ (гл.), магчыма, аднаўленне непалатальнай асновы, гл. наступнае слова.

**Трýджанне** 'пакуты' (Гарэц.), *труджэ́нне* 'праца, гараванне' (Некр. і Байк.), *тружэ́нне* 'непакой, турбота' (Нас.), ст.-бел. *тружание*, *тружанье* 'праца, намаганне, старанне' (ГСБМ, Альтбаўэр); сюды ж ст.-бел. *тружатисѧ* 'працаваць', варыянт да *трудитисѧ*: *во всемъ тружаньи его што трудитсѧ под солнцем* (Альтбаўэр). Непасрэдным адпаведнікам дзеяслова з'яўляецца польск. *trużyć* 'мучыць', адносна якога выказана меркаванне пра ўсходнеславянскія ўплывы (Брукнер, 577) або сувязь з **tryzniti* (Варбат, Этимология–1983, 41), аднак семантыка і формаўтварэнне сведчаць аб паходжанні ад **trudъ* (гл. *труд*$_1$).

**Трýдзіць** 'стамляць, натруджваць рукі, прычыняць боль' (ТСБМ, Гарэц.), *трудзíць* 'мучыць, стамляць, турбаваць' (Ласт.; докш., Бел. дыял. 2), 'нудзіць, цягнуць на ваніты' (Брасл. сл.), *трудзíцца* 'цяжка працаваць; пакутаваць' (Сл. ПЗБ, ТС), 'мучыцца' (Гарэц., Бяльк., Барад.), 'цярпець боль, пакутаваць' (Варл.), 'пакутаваць, цяжка хварэць' (Пан.), ст.-бел. *трудити* 'абцяжарваць, таміць', 'гнясці, прыносіць боль', *трудитися* 'знемагаць ад працы', 'мучыцца', 'турбавацца' (ГСБМ), *трудитися под солнцемъ* 'працаваць, пекліцца, гадаваць' (Альтбаўэр). Параўн. укр. *трудúти* 'стамляць, турбаваць, непакоіць', рус. *трудúть* 'прыгнятаць, стамляць, мучыць работай; непакоіць; муляць', польск. *trudzić* 'турбаваць, непакоіць, абцяжарваць', кашуб. *truʒёc* 'турбаваць', чэш. *trudit* 'засмучаць, прыгнятаць, мучыць, прымушаць', серб.

*тру́дити* ‘абцяжарваць, турбаваць’, дыял. ‘раз’ятрываць (рану)’, харв. *trúditi* ‘ператамляць (частку цела)’, балг. *тру́дя се* ‘працаваць; імкнуцца’, макед. *труди се* ‘працаваць, прыкладаць намаганні, старацца’, ст.-слав. **троудити** ‘турбаваць, непакоіць; пераадольваць, прыкладаць намаганні, цярпець’, **троудити сѧ** ‘стамляцца, знемагаць’. Прасл. **truditi* ‘змушаць да цяжкай працы, напружваць, турбаваць’, дэнамінатыўнае ўтварэнне ад прасл. **trudъ* (Борысь, 644), гл. *труд*$_1$. Сюды ж *трудзя́шчы* ‘працавіты’ (Жд. 1, ТС, Ян., Сцяшк. Сл.), *труд’а́шчы* ‘тс’ (Вруб.) – “неаславянізм” з шырока распаўсюджаным у народнай мове суфіксам (гл. Цыхун, Выбр. пр., 286), *трудзя́га* ‘працаўнік’ (Мат. Гом., Юрч.) з суф. *-яга* “з экспрэсіяй спачування, захаплення, ці, наадварот, асуджэння” (Сцяцко, Афікс. наз., 130), *труплі́вы*, *трудзя́ка* ‘тс’ (Ян.), *трудзі́мы* ‘тс’ (ТС), *трудалюбі́мы* ‘тс’ (Ян.) з рэдкай суфіксацыяй (гл. *любім*), магчыма, адаптаванае рус. *трудолюбивый* ‘тс’.

**Тру́днасць** ‘цяжкасць’ (Нас., Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, Ян.), ‘турботы’ (Ласт.), ‘моцны боль’ (Хромчанка, Паўн.-маст. гав.), *трудно́сць* (trudnóść) ‘боль (балесць)’ (Варл.), *тру́дносць* ‘цяжкасць’ (ТС), *тру́днoст’* ‘цяжкасць, намаганне, клопат’, *трудно́сті* ‘перашкоды’ (Вруб.), ст.-бел. *трудность* ‘цяжкасць; перашкода’ (ГСБМ): *многа труднасци зададуц* (Кітаб Луцкевіча). Адзначана ўкр. *тру́дність* ‘цяжкасць’, рус. *тру́дность* ‘тс’ – апошняе разглядаецца як пранікненне ў шэрагу слоў, што ўзніклі ў “литературном языке юго-западной Руси” (Суффикс. словообр., 134), магчыма, пад польскім уплывам, бо найбольш шырока назоўнікі на *-ость* прадстаўлены ў перакладных аповясцях «История о Атыле» і інш. (там жа, 138). Гл. *трудны*.

**Трудне́ча** ‘цяжкасць, перашкода, замінка’ (Нік., Оч.), ‘цяжкасць, цяжка’ (Горбач, Зах.-пол. гов.). Параўн. серб. *труднòћа* ‘цяжарнасць’, харв. *trudnòća* ‘тс’. Разам з апошнімі могуць разглядацца як сумесныя інавацыі з суф. **-otja* (Трубачоў, Проспект, 59–61; Слав. языкозн. V, 182, 187–188), параўн. *малеча*, *пустэча* (гл.). Гл. наступнае слова.

**Тру́дны** ‘цяжкі’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Ласт., Вруб.; паст., Сл. ПЗБ), ‘нудны, прыкры, невыносны’ (Нас.), ‘цяжка хворы’ (Пан.), *тру́дна* ‘вельмі цяжка, вельмі моцна’ (Нас., Бяльк.,

Гарэц., Ян., Сл. ПЗБ), ‘пакутліва (пры смерці), балюча, пякельна, нясцерпна’ (воран., в.-дзв., швянч., ашм., пруж., Сл. ПЗБ), ‘немагчыма’, ‘толькі б’ (Нас.), *тру́дно* ‘цяжка’ (Сл. ПЗБ), *трудно́* ‘тс’ (Растарг.); сюды ж *труднава́ць* ‘пакутаваць, гараваць’ (Сцяц.; маладз., Янк. Мат.), ‘цяжка хварэць, мучыцца пры цяжкай хваробе, перад смерцю’ (Рэг. сл. Віц., Пан., Сл. ПЗБ, Янк. 3), ‘перажываць, хваляваццa, нервавацца’ (воран., Сл. ПЗБ), ‘трывожыцца’ (Сцяшк.), *труднава́цца* ‘турбавацца’, ‘пакутаваць, моцна перажываць’ (гродз., Нар. лекс.), ‘знаходзіцца ў цяжкім становішчы’ (Сцяшк. Сл.), *трудні́ць* ‘абцяжарваць, турбаваць’ (Нас.), ‘мучыць, цягнуць на ваніты’ (мядз., Нар. сл.), *трудні́цца* ‘мучыцца’, ‘пакутаваць ад болю, ад хваробы перад смерцю’ (віл., рагач., Сл. ПЗБ, Скарбы, Др.-Падб., Сцяшк. Сл.). Да *труд*$_2$, гл.

**Тружда́нне** ‘непакой, клопат, турботы’, *труждáць* ‘непакоіць, турбаваць’, *труждáцьца* ‘працаваць’, ‘непакоіцца, турбавацца’ (Нас.), *труждáнне* ‘цяжкая праца, пакуты’, *труждáцца* ‘цяжка працаваць, пакутаваць’ (Юрч. СНС), ст.-бел. *труждатися* ‘працаваць’ (ГСБМ). Запазычана, відаць, праз ц.-слав. са ст.-слав. **троуждание: земное троуждание** ‘праца на зямлі, земляробства’, **троуждати** ‘турбаваць, дакучаць’, **троуждати сѧ** ‘працаваць’ (ССсл.). Магчыма, метатэза ў народнай мове, гл. *труджанне*. Сюды ж *труждáннік* ‘той, хто цяжка працуе; пакутнік’, *труждáнніца* ‘тая, хто цяжка працуе; пакутніца’ (Юрч. СНС).

**Трузе́лле** ‘нейкая лекавая расліна’: *Забалела Марысі галоўка, / Захацела Марыся трузелля* (БНТ, Песні Беласточчыны); сюды ж, магчыма, іншы варыянт: *trujzièle kapaci* (лях., Федар. 5). Параўн. польск. дыял. *trójzièle* ‘зелье, якое расце за морам і лечыць адным дотыкам’, *trutziele*, *trujziele* ‘атрутнае зелье’ (Варш. сл.). Няясна; апошняе схіляе да думкі пра сувязь (народнаэтымалагічную?) з *труіць* (гл.), параўн. укр. дыял. *труйзілля* ‘атрута, атрутная расліна’ (Адаменка, Діал. студії 7, 195), што не выключае іншых збліжэнняў (Цыхун, Зб. Абрэмскай-Яблонскай, 53), параўн. запісанае на тэрыторыі Літвы рус. *трук-зе́лье* ‘расліна (якая?), што выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне’ (СРНГ). Гл. *тройзелле*, *трызелле*.

**Труі́зм** ‘агульнавядомая, заезджаная, збітая ісціна’ (ТСБМ). Праз рускую ці польскую мову з англ. *truism* ‘тс’, якое ад англ.

*true* 'правільны' < ст.-англ. *trēowe* 'верны, надзейны', суадноснага са ст.-н.-ням. *triuwi* 'тс', літ. *drū́tas* 'моцны', роднасным прасл. **dervo* 'дрэва' (ЕСУМ, 5, 662).

**Труі́зна** 'труцізна' (Нас., Некр. і Байк., Ян.), 'вельмі дрэнны чалавек' (брагін., З нар. сл.). Вытворнае ад *труіць* (гл.) па ўзоры *труцізна*, гл.

**Труі́ць**, *труі́ці* 'труціць' (Нас., Байк.-Некр., Янк. БП, Бес., ТС, Мат. Гом., Растарг.; кіраў., Нар. сл.; валож., Жыв. сл.), 'вытраўляць (насякомых)' (стрэш., Нар. словатв.): *truìć prusỳ* (Пятк. 3), *труі́ты* 'атручваць' (пін., Жыв. сл.), *труі́цца* 'труціцца' (ТС), ст.-бел. *труити* 'труціць' (ГСБМ). Параўн. укр. *труї́ти* 'тс'. Да прасл. **truti*, *trujǫ* (гл. *труць*), пашыранага суфіксам *-i-*, відаць, пад уплывам асабовых форм дзеяслова. Сюды ж *труі́цель*, *труі́целька* 'атручальнік, атручальніца' (Нас.), *тру́ены* 'траўлены': *людзі бу труеные цепер* (маз., ГЧ).

**Трук** 'лоўкі, эфектны прыём, нумар' (ТСБМ). Запазычана праз рускую мову (*трюк*) з франц. *truc* 'спрытнасць', якое з праванс. *truc* ці зітал. *trucco* 'палка'. Фасмер (4, 112) выводзіць рус. *трюк* з англ. *trick* 'фокус, трук, спрытны прыём', параўн. *трык* 'trick artifice' ў "Беларуска-ангельскім слоўніку" Я. Пятроўскага, выдадзеным у Лінцы ў 1946 г. (перавыданне – гл. Пятр.). Крыніцай запазычання англ. *trik* з'яўляецца ст.-франц. *trique*, якое з лац. *tricae* мн. л. 'інтрыгі' (Голуб–Ліер, 489; ЕСУМ, 5, 662). Сюды ж *трука́цкі*, *тру́кавы*, *трука́цтва*, *трука́ч* (ТСБМ).

**Тру́кша** *(трю́кша)* 'бручка, *Brassica napus*' (слаўг., ДАБМ, камент.). Няясна. Лаўчутэ (Балтизмы, 133) мяркуе, што *трюкша* – нядаўняе запазычанне з літ. **triukša*, якое магло б быць утворана ад гукапераймальнага дзеяслова *triukšė́ti*, *triuškė́ti* 'хрумстаць падчас жавання ежы', прыводзячы ў якасці аналогіі назву бручкі *grie̴žtis*, утвораную ад *grie̴žti* 'скрыгатаць, скрыгаць'. Сумніўна, бо адсутнічае фіксацыя літ. **triukša.*

**Труліць** 'маніці, хлусіць' (Вушац. сл.), 'гаварыць няпраўду, выдумляць' (докш., Бел. дыял. 2), 'нешта вярзці, невыразна гаварыць (пра п'янага)' (полац., Нар. лекс.). Гукапераймальнае, параўн. польск. *trulać* 'курлыкаць, трубіць (пра голас жураўля і гусі ў палёце)', рус. *трум-трум* 'голас жураўля'.

**Тру́ля** 'марудны чалавек, маруда' (лід., Сл. рэг. лекс.). Няясна; можна параўнаць з укр. дыял. *труля́ти* 'штурхаць' (гл. *турляцца*) або з лат. *truls*, абл. *truļš* 'тупы, тупалобы', 'атупелы (погляд)', якое з *trult* 'станавіцца тупым', *trulēt* 'тс' < і.-е. **treu-* (Каруліс, 2, 431).

**Трум** 'месца паміж палубай і днішчам судна, прызначанае для розных грузаў' (ТСБМ, ТС), 'спод карабля' (Некр. і Байк.). З рус. *трюм* 'тс', запазычанага ў Пятроўскую эпоху (спачатку як *рюим*) з нідэрл. *het ruim*, або са скарочаным пэўным артыклем *'t ruim*, *in 't ruim* 'памяшканне' (Фасмер, 4, 112; Чарных 2, 267; ЕСУМ, 5, 663).

**Тру́маль** 'бітон', *труме́льчык* 'невялікая каструлька з ручкай' (Рэг. сл. Віц.), сюды ж *тру́ман* 'паходны жалезны чайнік з вузкім горлам і шырокім дном' (Касп.), параўн. рус. пск. *тру́моль* 'чайнік'. Рэгіянальнае запазычанне з лат. *trumulis* 'конусападобны бляшаны сасуд, банка, чайнік', якое з н.-ням., усх.-фрыз. *trummel* 'барабан або іншы шумны моцны інструмент', 'бляшаны посуд з накрыўкай', параўн. таксама ням. *Trommel* 'барабан, вал, цыліндр', якія праз ст.-в.-ням. *trumba* ўзыходзяць да франц. *trompe* 'медны рог, труба, горн' < італ. *tromba* 'труба' (Каруліс, 2, 432; Васэрцыер, 237).

**Тру́мкаць** 'трэнькаць, брынкаць струнамі' (Шат., Сцяшк. Сл., Кал., ТС), 'невыразна вымаўляць' (ТС), *тру́мкало* 'балбатлівы чалавек' (Руб.), 'скрыпка' (ТС), сюды ж таксама перан. *тру́мкаць* 'плакаць, ныць, раўці' (ТС). Гукапераймальнае ўтварэнне, параўн. укр. *тру́мкати* 'пачынаць плакаць (пра дзіця), безупынна ныць, балець (пра стомленыя ногі)', параўн. таксама імітатыў *трум-трум* (Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 86). Гл. таксама *трумцець*, *трымцець*.

**Трумо́** 'высокае стаячае люстра', 'прасценак, упрыгожаны арнаментам' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *труно́* 'тс' (Мат. Гом.). Запазычана з франц. *trumeau* 'прасценак паміж вокнамі', 'люстра, якое займае гэту прастору', праз рускае *трюмо́* 'тс'; французскае слова выводзяць са ст.-в.-ням. *drum* (памянш. *drumel*) 'кавалак, частка', 'канец, асколак', параўн. англ. *thrum* 'шляк, беражок, аблямоўка' (Фасмер, 4, 112; Даза, 731; Васэрцыер, 237). Запісаная

дыялектная форма нейкім чынам зыбліжана з *труна* (гл.), магчыма, праз польск. *trumna* ‘труна’.

**Трумце́ць** ‘дрынкаць, бразгатаць, ляскатаць’ (Шат.), ‘пра пакολаты гаршчок, збан, калі па іх стукаюць, правяраючы, ці цэлыя’ (Сцяц. Сл.); відаць, у пераносным сэнсе ‘дранцвець, нямець’: *ногі трумцяць, як бы адлятаюць* (іўеў., Сл. ПЗБ), ‘бурчэць, выказваць незадавальненне’ (Рэг. сл. Віц.). Фанетычны варыянт да *трымцець*, гл.

**Труна́** ‘дамавіна’ (ТСБМ, Нас., Байк.-Некр., Бес., Ласт., Федар. 4, Шым. Собр., Сержп. Прымхі, Бяльк., Шат., Касп., Сцяшк., Яруш., Мал., Булг., Гарэц., Маш., Др.-Падб., Варл., ТС, Вруб., Растарг.; петрык., Яшк. Мясц., ЛА, 3, Сл. ПЗБ), ‘пагібель, канец; вельмі дрэнна’ (ТСБМ), ст.-бел. *труна (трумна, трунна)* ‘труна’ (1577 г., ГСБМ). Запазычана са ст.-польск. *trona*, *truna*, *trumna*, *trunna* < с.-в.-ням. *truhe* ‘скрыня, труна’ (Булыка, Лекс. запазыч., 102), якое з’яўляецца роднасным ням. сілез. *trūne* ‘тс’, *truhe*, н.-в.-ням. *truhne* ‘тс’, ‘сундук’, *trügge* ‘карыта’, нарв. *trygja* ‘кошык для рыбы’, англ. *trough* ‘карыта’, ‘дзяжа, кадка’, якія, відаць, зводзяцца да гоц. *triu*, англ. *tree* ‘дрэва’, што да і.-е. **dereu̯(o)-* ‘дрэва’ (Фасмер, 4, 109; Брукнер, 577; Шустар-Шэўц, 1538; ЕСУМ, 5, 656; Васэрцыер, 236, 237; Борысь, 644). Польск. *trumna* Вінцэнц (гл.) лічыць гіперкарэктнай формай.

**Тру́нак** ‘напітак’, ‘алкагольны напітак’ (ТСБМ, Нас., Байк.-Некр., Гарэц., Федар. 4, Сцяшк., Яруш., Бес., Адм., Скарбы; астрав., Сл. ПЗБ), ‘віно’ (Сцяшк.), ‘прыправы’ (Жд. 3), пераносна ‘атрута (пра гарэлку)’ (астрав., Сл. ПЗБ), ‘пітво, піццё’ (полац., Нар. сл.), ст.-бел. *трунокъ* ‘напітак, трунак’ (1538 г., ГСБМ): *хмелний трунек* (Кітаб Луцкевіча). Запазычана са ст.-польск. *trunek* ‘тс’, ‘глыток, лык’ (Булыка, Лекс. запазыч., 117), якое з с.-в.-ням. *trunc*, *trunkes* ‘глыток’, *tranc*, *trankes* ‘напой, трунак’ > ням. *Trunk* ‘глыток’, ‘напітак’, *Trank* ‘напітак, трунак’ (Борысь, 644–645; Брукнер, 578; Шустар-Шэўц, 1538; Вінцэнц).

**Труні́ць** ‘злосна жартаваць, іранізаваць’ (Юрч. СНС, Рэг. сл. Віц.), *труне́нне* ‘злосныя жарты’, сюды ж *тру́ніт* (г. зн. *тру́нетый*) ‘чалавек, над якім даўно жартавалі’, *трунёмшы* ‘звыклы жартаваць’: *ён ня можыць мінуты пражыць ні трунёмшы*, *труне́ннік* ‘той, хто злосна жартуе’ (Юрч. СНЛ). З рус. *труни́ть* ‘тс’,

*подтру́нивать* 'тс', якое Фасмер (4, 109) суадносіць з *труд* (з пытальнікам). Варбат (РР, 1976, 6, 71–75) выводзіць дзеяслоў з першаснага *труни́ть* 'брудзіць, смеціць, церушыць' (гл. *трунне*), што ўрэшце ўзыходзіць да **terti* , гл. *цэрці* (Арол, 4, 108).

**Тру́нкаць** 'паволі ісці' (Сцяшк. МГ). Параўн. рус. дыял. *труни́ть* 'ісці, трусіць', *тру́нка* 'трусца', серб. *тру́ни* 'мяце, сыпле (пра снег)', фактычна 'трусіцца', што дазваляе Варбат (Исслед., 558) рэканструяваць прасл. **trúniti* 'брудзіць, церушыць'. Беларускі дзеяслоў мае, хутчэй за ўсё, імітатыўны характар, пра што сведчыць словаўтварэнне з суф. *-к-*, характэрнае для гукапераймальных дзеясловаў.

**Тру́нкі** 'ласункі' (мёрск., Нар. сл.). У выніку семантычнага пашырэння лексемы *трунак* (гл.), магчыма, на базе першаснага значэння 'глыток, лык', параўн. польск. *smakołyki* 'ласункі'.

**Тру́нне** *(труньне)* 'скрутак чаго-небудзь бруднага (з адзення)' (Касп.), рус. дыял. *тру́нье*, *труньё* зборн. 'рыззё, лахманы', *трун*, *трунь* 'ануча, старое парванае адзенне', кашуб. *trȯn*: *v trȯn*, *v trȯnë* 'ў шматкі, на кавалкі (падраны)', славен. дыял. *trun* 'кавалак, крышка', серб. *тру̑н* 'крыха, крышка, саломінка', зборн. *тру̑ње* 'крышкі, парушынкі', харв. *trȗn*, *trȕn* 'кавалачак, трошкі, каліва', што выводзяць з прасл. **trunъ* 'штосьці парванае, пакрышанае, расцёртае', якое тлумачаць як дэрыват з суф. **-nъ* ад прасл. **truti*, **trovǫ* 'церці, здрабняць' (Варбат, Морфон., 142; Варбат, SLW, 157; Куркіна, Диал. структура, 151) або ўзводзяць непасрэдна да **terti* 'церці' (Фасмер, 4, 109; Скок, 3, 512; Глухак, 641). Крытычна адносна прапанаванага Ваянам (Зб. Аванесаву, 56) выводзення серб.-харв. *trȗn* 'саломінка' з **truxnъ* > **trunъ* (гл. *труха*) Варбат (SLW, 156). Роднасць рускіх слоў з літ. *tráunyti* 'церці', *trū̃nys* 'гніллё', *trūnė̂siai* 'рыззё, лахманы, анучы', *trunė́ti* 'гніць', лат. *trunêt* 'тс', *truni* 'гніллё' (Буга, РФВ, 75, 150) падвяргае сумненню Фасмер (4, 109), інакш – Борысь (SEK, 5, 174).

**Труня́нне** 'лодарнічанне' (Юрч. Вытв.), *труня́ннік* 'гультай, бадзяга' (Юрч. СНЛ), *труня́цца* (асудж.) 'лодарнічаць, бадзяцца, хадзіць без справы' (Юрч.). Параўн. укр. *тру́нути* 'піхнуць, штурхнуць', рус. *труня́стый* 'апрануты ў парванае адзенне', *труни́ть* 'ісці памалу', серб. *тру́нити* 'перашкаджаць', што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **truniti* 'перашкаджаць'

(Варбат, Исслед., 557). Роднаснае літ. *trỹnioti* 'церці, паціраць' і *trỹniotis* 'бадзяцца, валачыцца'.

**Труп** 'мёртвае цела чалавека або жывёлы' (ТСБМ, Нас., Байк.-Некр., Ласт., Федар. 4; уздз., Мат.; віл., Сл. ПЗБ), 'тулава' (уздз., уласн. інфарм.): *...паненкам – крылушкі... А я мужык глуп – мне ўвесь труп* (Бел. казкі), 'прах, астанкі': *адзежа трупам узялася* (Нас.), 'гніль' (Байк.-Некр.): *труп яго бяры – праклён* (Вушац. сл.), ст.-бел. *трупъ* 'мёртвае цела', зборн. *трупие* 'целы мёртвых' (ГСБМ), *трупъ* 'тс': *страшно было трупу московского гледѣти* (17 ст., Карскі 2–3, 316); *stojaczy na trupi* (Хроніка Быхаўца). Укр. *труп* 'мёртвае цела, мярцвяк', рус. *труп* 'тс', 'тулава', 'струп', стараж.-рус. *трупъ* 'мёртвае цела', 'ствол дрэва, пень', польск. *trup*, н.-луж. *tšup* 'мярцвяк', в.-луж. *trup* 'струп', ст.-чэш. *trup* 'пень', 'ствол', чэш. *trup*, славац. *trup* 'тулава, корпус', славен. *trúp* 'тулава', 'корпус карабля', харв. *trûp*, серб. *труп* 'тс', 'пень, калода', макед. *труп* 'тулава', 'мёртвае цела', 'пень, пацурбалак', 'даўбешка', балг. *труп* 'тулава', 'ствол дрэва', 'мёртвае цела', ст.-слав. **троупъ** 'мёртвае цела', зборн. **троупиѥ**. Прасл. **trupъ* роднаснае літ. *traupùs* 'крохкі', *trupė́ti* 'крышыцца, гніць, драбніцца', *trùpas* 'старац', ст.-прус. *trupis* 'калода' – на думку Мілеўскага (SOc, 18, 29), запазычана з польскай; лат. *satrupēt* 'гніць, згніваць', 'спарахнець', ст.-грэч. τρῦπη 'дзірка', τρυπάω 'свідрую', якія ўзыходзяць да і.-е. **trou-po- / -s* 'пень, калода' < і.-е. **ter- / *treu̯ / *trou̯-* 'церці, расціраць', 'свідраваць' (Фасмер, 4, 109; Голуб–Копечны, 392; Брукнер, 578; Младэнаў, 640; Буга, РФВ, 75, 151; Скок, 3, 516; Каруліс, 2, 433; ЕСУМ, 5, 657; Сной$_2$, 789; Борысь, 645). Паводле Махэка$_2$ (655), прасл. **trupъ* мела першаснае значэнне 'спарахнелы ствол дрэва', параўн. каш. *trëpa* 'спарахнелае бервяно, асабліва ў тарфянішчы' (SEK, 5, 166), польск. *trupieć* 'трухлявець, дзеравянець'. Гл. таксама меркаванні пра зыходнае значэнне 'частка, кавалак' на падставе балг. *разтрýпя* 'парубаць дрэва на часткі' (Новое в рус. этим., 239), параўн. таксама харв. *rastrupati* 'разбіць на кавалкі'.

**Трýпа** 'калектыў артыстаў тэатра, цырка' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Запазычана з рускай мовы, у якой слова *труппа* паходзіць з ням. *Truppe* 'трупа', 'атрад', 'войска', апошняе запазычана з франц. *troupe* 'натоўп, банда', якое з позналац. *trouppus* 'гурт' і ст.-франк.

*þrop* ‘група’, што ўзнікла ў выніку метатэзы з *þorp* ‘натоўп, гурт’, ‘сяло’, параўн. ст.-англ. *þorp*, *þrop*, англ. *thorp* ‘вёска’, ням. *Dorf* ‘тс’ (Фасмер, 4, 109; Чарных, 2, 267; Даза, 729; Васэрцыер, 237; ЕСУМ, 5, 657).

**Трупае́дзіна** экспр. ‘сварлівая жанчына, заяда’ (клец., Бел. дыял. 3). Іранічнае ўтварэнне да *труп* і *есці* (гл.), параўн. польск. *trupojad* ‘звер, які харчуецца трупамі’.

**Трупа́ціць** экспр. ‘есці’ (Юрч. Вытв.): *Трупаціла яна крупеню, / Яечню, руднік, жур, смажэню* («Энеіда навыварат», Бел. літ. XIX ст.). Рус. смал. *трупа́чить* ‘разліваць ежу’ (1853 г., СРНГ). Хутчэй за ўсё, экспрэсіўнае ўтварэнне ад *трупаць* (гл.), аднак параўн. балг. *тру́пам* ‘накладаць, нагрувашчваць’, макед. *трупи* ‘навальваць, набіваць’, серб. *тр̀пати* ‘набіваць, напіхваць’, харв. *tr̀pati* ‘тс’, славен. *trpati* ‘тс’ (з харв., серб., гл. Сной$_2$, 788) і асабліва серб. *тр̀пија* ‘абжорства’. Паводле Скока (3, 508), балгарска-македонскія формы звязаны чаргаваннем з харвацка-сербскімі і выводзяцца з **trupъ* (гл. *труп*). Сной$_2$ (788) узводзіць да прасл. **tьrpati*, роднаснага ст.-інд. *tr̥pyati* ‘насыціцца, задаволіцца’, нова-перс. *tulf* ‘перанасычанасць’ і пад. Няясна.

**Тру́паць** ‘стукаць’ (В. Адамчык, гл. Каўрус, Словаклад), *трупнуць* ‘стукнуць’ (навагр., Гіл.). Параўн. рус. *тру́пать* ‘біць, стукаць’, каш. *trǫpać* ‘таптаць’, рэз’ян. *trupati* ‘разбураць’, серб. *тру̀пати* ‘разбіваць, біць’, макед. *трапа-трупа* – імітатыў хуткай хады («со трупање или за тропање», РМЈ, 3, 409). Паводле Борыся (SEK, 5, 168), да прасл. **trupati* ‘ламаць, біць’; паводле Фурлан (гл. Бязлай, 4, 240) – другаснае ў адносінах да першаснага дэвербатыва **trъpati* (гл. *трапаць*).

**Трупе́льня** ‘морг’ (слуц., Нар. словатв.). Да *труп* (гл.). Утварэнне з суф. *-ельн-я* са значэннем памяшкання (Сцяцко, Афікс. наз., 53), магчыма, народны эквівалент запазычанню *трупярня* (гл.). Параўн. рус. смал. *трупе́льня* ‘хата, дзе ставяць труну з нябожчыкам’ (1914 г., СРНГ), *мертве́цкая*, *пако́йніцкая* ‘тс’.

**Тру́песок** ‘друз, трэск і інш.’ (ТС), *тру̀пасок* ‘труха, пацяруха’ (Альп.). Параўн. укр. палес. *тру́песок* ‘сухія трэскі’, якое ў ЕСУМ (5, 657) лічаць відазмененым *тру́сок* (гл. *труск*), што малаверагодна. Хутчэй утворана ад асновы *трупех-* (гл. наступнае слова) у выніку чаргавання *х // с* і зближэння канца слова

з *пясок*, параўн. ілюстрацыі: *така земля, трупесок, не песок і не глей* (ТС). Зыходная аснова прадстаўлена ў польск. дыял. *trupa* ‘парахно’ (MSGP), рус. *трупи́ть* ‘драбніць, крышыць’, *тру́пья* ‘старое, парванае адзенне’, *труп* ‘луска, перхаць’, *в тре́пес* ‘ушчэнт’ (СРНГ).

**Трупе́хавы** ‘трухлявы, збуцвелы, гнілы’ (Бяльк.), *трупе́хлы* ‘гнілы, ломкі ад гніласці, спарахнелы, трухлявы’ (Нас., Байк.-Некр., Бяльк., Касп., Ласт., Нік., Оч., Варл., Юрч., Сцяшк. Сл.; мёрск., Нар. сл.; в.-дзв., Шатал.), *трупе́хліна* ‘твань, гніль, трухля’ (Касп.; в.-дзв., Шатал.), ‘гнілое дрэва’, ‘нямоглая жанчына’, ‘зусім слабая асоба’ (Юрч. СНЛ), *трупяхля́вый* ‘падгнілы’ (там жа), *трупе́хнуць* ‘трухлець, парахнець, гніць да трухлявасці, распадацца’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., Касп., Нік., Оч.; в.-дзв., Шатал.; полац., Нар. лекс.). Параўн. рус. дыял. *трупе́хлый*, *трупе́рхлый* ‘трухлявы, гнілы (пра дрэва)’, смал. *трупе́хнуть* ‘рабіцца трухлявым’. У аснове назоўнік **трупеха*, вытворны ад *труп*, гл.; параўн. укр. *трупахи́*, *трупехи́* ‘від сліў’, якія ўзводзяцца да *струп* (ЕСУМ, 5, 454). Параўн. палаталізаваны варыянт, гл. *трупешлы*.

**Трупе́ць** ‘выдаваць глухі гук (пра гнілое дрэва)’: *шула ў сярэдзіне трупіць* (Шат.). Звязана з *трупаць*, гл.

**Трупе́шлы** ‘спарахнелы, струхлелы’ (Сцяшк. Сл.; навагр., З нар. сл.), *трупе́шка*, *трупе́шына* ‘гнілое спарахнелае дрэва’ (Юрч. СНЛ, Сцяшк. Сл.), *трупе́шыцца* ‘трупехнуць, гніць’ (Юрч. СНЛ). Укр. зах. *тру́пішати* ‘тс’, ‘нішчыцца’, якое, паводле ЕСУМ, 5, 657–658, запазычана з польскай мовы, параўн. ст.-польск. *trupieszeć* ‘моршчыцца, парахнець, не рассыпаючыся’, і выводзіцца з *trupieć* ‘гніць, трухлець (аб дрэве)’ < *trup* ‘труп’, параўн. *strupieszały* ‘трухлявы, спарахнелы; змярцвелы’. Пра магчымую ўсходнеславянскую крыніцу ўтварэння сведчыць укр. *тру́пешi* ‘від сліў’ (там жа, 5, 454).

**Трупёрда** ‘дзябёлая, лянівая дзеўка ці баба’ (рас., Краязн. газ., 2014, № 10). Параўн. рус. *трупёрда* ‘тс’, ‘абжора’, ‘вялы, непаваротлівы чалавек’, *трупёрдый*, *трупёдрый* ‘здаровы, дзябёлы’. Экспрэсіўнае рэгіянальнае беларуска-рускае ўтварэнне на аснове дзеяслова *тру́паць* ‘біць, стукаць’, параўн. рус. *крепко сбитый* ‘здаровы, дзябёлы’ з ад’ідэацыяй да **pьrděti* (гл. *пярдзець*). Фасмер (4, 109) мяркуе пра сувязь з *труп*, гл.

**Трупі́знік** ‘малы лясок, маладняк’ (Ян.). Няясна; відаць, звязана з укр. *трипизá* ‘непраходнае месца, бездарожжа’ няяснага паходжання (ЕСУМ, 5, 640); сюды ж, магчыма, *трэбэзá* ‘густы зараснік на балоце ці рацэ’ (Бес.), *trapeza, trepeza* ‘ламачча, хвораст’, ‘багна’ (гл. *трапеза*$_1$). Апошнія Лапіч (БЛ, 11, 64) звязвае з літ. *trapus* ‘крохкі, слабы’, што праз літ. *traupùs* ‘рэдкі, няшчыльны’, *trupė́ti* ‘крышыць, драбіць’ дае магчымасць узвесці да прасл.**trupiti*, утворанага ад **trupъ* (гл. *труп*). Аднак фанетычныя і семантычныя адрозненні не дазваляюць аб’яднаць названыя словы этымалагічна. Гл. таксама *трапяза*.

**Тру́пка** ‘лодка, выдзеўбаная з калоды’ (беш., Нар. сл.), *тру́бка, тру́бачка* ‘выдзеўбаная з асіны лодка’ (мёрск., Жыв. НС). Прымаючы пад увагу архаічны спосаб вырабу лодкі і захаванне ў іншых славянскіх мовах значэння ‘судна, корпус судна’ ў словах, што ўзыходзяць да прасл. **trupъ*, можна лічыць назву вынікам не фанетычнага запісу, а ўтварэння ад *труп* ‘калода, бервяно’, а іншую форму – вынікам народнаэтымалагічнага збліжэння з *труба* (гл.).

**Трупне́ць**$_1$ ‘бразгатаць, брынчаць (пра надтрэснуты посуд)’ (ТС; люб., Сл. ПЗБ). Каўзатыў ад *трупнуць* ‘стукнуць’, гл. *трупаць*.

**Трупце́ць** ‘утвараць глухі нячысты гук (пра надтрэснуты посуд, яйка)’ (ТСБМ, Шат., Янк. 3; навагр., карэліц., стаўб., Нар. сл.), ‘трымцець’ (Сцяшк. Сл.), ‘трымцець, як пабіты гаршчок ці збан’ (Абабур.; пух., лях. Сл. ПЗБ): *горшчык трупціць, мабыць пабіты* (Сержп. Прык.), ‘лопацца (пра скуру пры гарэнні)’ (пух., Сл. ПЗБ). Грынавяцкене (LKK, 22, 196), разглядаючы выраз *трупціць збан, бо трэснуў*, запісаны ў в. Сіняўшчына Іўеўскага р-на, выводзіць слова непасрэдна з літ. *trupė́ti* ‘драбіць, распадацца’; хутчэй крыніцай слова магла быць форма *trùpti* ‘крышыцца, распадацца’ або дэмінатыўнае ўтварэнне ад літ. *trùputis* ‘крышка, асколак, маласць’, роднасныя слав. **trupati*, **trupъ*, параўн. Смачынскі, 693. Гл. *трупаць, труп*. Сюды ж *трупця́к* ‘надтрэснутае, пабітае яйка’ (капыл., Жыв. сл.).

**Тру́пша** іран. ‘той, хто многа есць’ (маст., Сл. рэг. лекс.). Экспрэсіўнае найменне ад *трупáць* (гл.) з суф. *-ша*, які ўтварае назвы асоб паводле ўласцівага ім дзеяння («з экспрэсіяй зніжанасці», гл. Сцяцко, Афікс. наз., 76), хутчэй за ўсё, пад балцкім

уплывам (параўн. адпаведны літоўскі суфікс, гл. Атрэмбскі, Gramatyka, 223–225).

**Труп'ян** 'блёкат чорны, *Hyoscyamus niger* W.' (чавус., Мат. Маг. 2). Няясна; магчыма, з дэфармаванага *дурнап'я́н* 'тс' пры ад'ідэацыі лексемы *труп* – з-за атрутнага і адурманьваючага дзеяння расліны. Параўн. іншыя назвы расліны: *дур-трава*, *дыдыр*, *мардоўнік*, укр. *шалы*.

**Трупяне́ць** 'палохацца, бянтэжыцца' (Сцяшк. Сл.), 'траціць рухомасць ад моцнага перажывання, узрушэння, холаду' (ТСБМ), сюды ж, відаць, з пропускам галоснага *трупне́ць*: *патрупнелі ўцякаючы, аш сэрца лекаціць* (шчуч., Араш. і інш.). Да *труп* (гл.). Дзеяслоў утварыўся ад прыметніка **trup-ьnъ* і суф. **-ě-ti*, як *дзервяне́ць*, *мярцвець*, *дранцвець* і інш.

**Трупя́рня** 'морг, пакой для нябошчыкаў' (ТСБМ, Гарэц., Некр. і Байк., Ласт.), *трупэ́рня* 'тс' (Сцяц., Жд. 1), *трупа́рня* 'тс' (ТС). Запазычана з польск. *trupiarnia*, дыял. *truparnia* 'тс'.

**Трус**$_1$, *тру́сік* 'кролік, свойскі грызун сямейства заечых, *Lepus cuniculus domesticus*' (ТСБМ, Некр. і Байк., Гарэц., Др.-Падб., Пятк. 2, Яруш., Касп., Сцяшк., Растарг., Сл. ПЗБ, Арх. Вяр., Бяльк.), *трусь* 'тс' (Нас., Бяльк., Сл. Брэс.; брэсц., ЛА, 1), сюды ж ст.-бел. *трусочы* 'кралёвы, кролікавы' (XVII ст., ГСБМ), паўд.-зах.-бел. *тру́сіха*, цэнтр.-бел. *трусі́ца*, цэнтр. і ўсх.-бел. *тру́ска* 'самка труса' (ЛА, 1, Сл. ПЗБ, Касп., Янк. 3, Сцяшк.). Укр. *трусь*, *трус* 'кролік'; рус. *трус* 'тс' (Даль), польск. *trusia*, *truś* 'тс', ст.-польск. *truśka* 'кральчыца', славац. *trus-trus* 'падкліканне трусоў'. Відавочна, генетычна звязана з *трусі́цца* 'трэсціся, дрыжаць': *конь чуе, што подходзяць воўкі, трусіцца* (ТС), гл. *тру́сіць*$_1$ 'калаціць, трэсці', тады – 'той, хто трасецца, хто дрыжыць', што характэрна для кроліка: *pałochliwy jak trus (królik)* (Пятк. 2, 262). Паўночнаславянскі дэвербатыў, ідэнтычны прасл. **trǫsъ* 'трасенне' (гл. *трус*$_2$). Сюды ж у адносінах да чалавека *трус* 'баязлівец' (ТСБМ, Некр. і Байк., ТС, Пятк. 2), параўн. укр. *трус*, рус. *трус*, польск. *trus*, *trusia* 'тс', што ўзводзяць да прасл. дыял. **trusъ* 'страх', звязанага чаргаваннем з **trǫsъ* 'трасенне' (ЕСУМ, 5, 658), параўн. укр. *труса́* 'страх'. У беларускай літаратурнай мове і ў беларускіх гаворках пашырылася, відаць, з рускай мовы, дзе лексема *трус* са значэннем 'баязлівец' ужываецца з XVIII ст. (Черных, 2, 267), аднак

найменні з зыходнай семантыкай ‘трапятанне, дрыжыкі, боязь’ фіксуюцца ўжо з XII–XIII стст. (СлРЯ, 11–17, 30, 208). Вытворныя *трусіна* ‘тс’ (Юрч. СНЛ), *тру́ска* ‘баязліўка’ (Янк. 3), *труся́к* ‘тс’ (Мат. Маг.), *труслі́ву*, *трусьлі́вы* ‘тс’ (ТС, Бяльк.), *труса́н*, *трусі́шча* ‘тс’ (Жд. 2), *тру́сасць* ‘баязлівасць’ (Др.-Падб.), як і ўтварэнні н.-луж. *tšuchły* ‘сарамлівы, маладушны’, ‘баязлівы’, ‘сумны’, в.-луж. *truchły* ‘баязлівы’, лат. *traušâtiês* ‘баяцца’ сведчаць пра магчымасць незалежнага развіцця семантыкі, гл. Фасмер, 4, 110; Арол, 4, 109. Іншая этымалогія слова грунтуецца на выклічніках, якімі падзываюць кролікаў і іншых хатніх жывёл і птушак: *трусь-трусь* – падзыўныя для кролікаў (Нас.; Горбач, Зах.-пол. гов.), укр. *трусь-трусь* ‘тс’, рус. *трусь-трусь* – падзыўныя для кролікаў і цялят, *трусе́-трусе́* – падзыўныя для кароў, *тру́сенька-тру́сенька* – падзыўныя для коней, польск. *truś-truś* – падзыўныя для кролікаў і індыкоў, *trusia-trusia* – падзыўныя для кароў, *trusz-trusz* – падзыўныя для кролікаў і інш. (Борысь, 645), якія могуць узыходзіць да *тпро*, *тпру*, *птрусь* (гл.). Сюды ж *трусі́ць*, *атрусі́ць* ‘прыводзіць трусянят’, *трусыне́тко*, *трусыня́тко* ‘трусянё’ (Сл. Брэс.), *трусі́нь пад печ!* ‘выгук для адганяння трусоў’ (Юрч. Вытв.), *тру́ска* ‘самка кроліка’ (Касп.), *тру́сік* ‘кролік’ (Ласт., Растарг.), *трусо́к* ‘тс’ (Ласт.).

**Трус$_2$** ‘ваганне зямлі, землятрус’ (ТСБМ), ст.-бел. *трусъ* ‘тс’ (ГСБМ). Параўн. укр. *трус* ‘трасенне; сумятня, перапалох’, ц.-слав. *трясенье земле*, *трусъ* ‘землятрус’, рус. *трус* ‘тс’, ‘бура і хваляванне, лютасць стыхій’, стараж.-рус. *трусъ* ‘трапятанне, дрыжанне, страх’, ‘трасенне’, серб. *тру̑с*, харв. *trûs* ‘землятрус’, балг. *(земе)тръ́с* ‘тс’, ст.-слав. **трѫсъ** ‘тс’, ‘хваляванне, бура’. Да прасл. **trǫsъ* ‘трасенне’ < **tręsti* ‘трэсці’ ў выніку мены насавога *ǫ* на ўсх.-слав. *у*, гл. *тру́сіцца*, *тру́сіць*, *трэсці*. У сувязі з тым, што лексема **trǫsъ* мела некалькі значэнняў, у сучасных славянскіх мовах у значэнні ‘ваганне зямлі’ стаў ужывацца навуковы тэрмін: польск. *trzęsienie ziemi*, чэш. *zemětřesení*, рус. *землетрясение*, балг. *земетресене* і *земетръ́с*, макед. *земјотрес*, серб. *зѐмљотрес*, параўн. паэтычнае *землятру́с* (У. Караткевіч).

**Трус$_3$** (*trus*) ‘ператрус, вобыск’ (Пятк. 3), *тру́ска* ‘тс’ (Клім.). Да. *трусіць$_1$* ‘шукаць’, гл.

**Трус**$_4$ ‘від бегу каня, трух, трушок’ (Бяльк.), сюды ж *тру́сом* (бегчы) ‘тс’ (Стан., Бяльк.), *труском*, *трускаля́* ‘тс’ (чач., ЖНС), *трусі́ць* ‘бегчы трушком’ (ТСБМ), рус. смал. *трусь* ‘ціхі трух, трушок’, балг. *тръс* ‘тс’. Узыходзіць да прасл. **trǫsъ* < **trǫsiti* ‘трэсці’, параўн. таксама *трух*, *трушок*, гл.

**Трус**$_5$ ‘смецце, ламачча, жарства, друзачкі’ (Нас., Некр. і Байк.); сюды ж, відаць, *тру́сак* ‘смецце, чарапкі’ (Нас.), *тру́сок* ‘сухія галінкі, трэскі’ (Федар. 7), *тру́ска* ‘парушына, трэсачка’ (Нас., Юрч. Вытв., ТС), *трусо́чык* ‘дробнае вецце, сухое галлё’ (Бяльк.), *труса́* ‘пілавінне’ (ст.-дар., Жыв. НС), *трусочка* ‘ламачча, буралом’ (Нар. Гом.), *тру́сачка* ‘парушынка; трэсачка’ (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр.), ‘дробка, каліва’ (Нас.), *тру́снік* ‘друз, трэскі’, ‘дробнае ламачча’ (ТС), ‘трэскі’ (Сцяшк. Сл.). Параўн. укр. *тру́сок* ‘дробнае ламачча, сухія трэскі’, ‘дробна парубанае галлё’, рус. *трус* ‘тс’. Дэвербатыў ад *трусіць*$_2$ ‘смяціць, церушыць, растрасаць’ (гл.), аднак некаторыя вытворныя дэманструюць сувязь з *труск* (гл.).

**Труса́я** ‘пра неразумную, бесталковую жанчыну’ (Рэг. сл. Віц.). Відаць, ад *трусіць*$_1$ ‘трэсці, калаціць’ (гл.) з суф. *-aj-a* са значэннем зніжанасці (Сцяцко, Афікс. наз., 36). Параўн. *трусея*, гл.

**Тру́сень** ‘трасянка, сумесь сена з саломай’ (ТС, Арх. Вяр.), *тру́сенка* ‘тс’ (Мат. Гом.). Да *трусіць*$_2$ ‘мяшаць, растрасаць’, параўн. *natrusiŭ, namešaŭ seno s sołomoŭu* (Арх. Вяр.), гл. таксама *трасянка*$_1$.

**Трусе́я** ‘баязліўка’ (Мат. Гом.). Да *трусіць*$_1$ ‘баяцца’, *трус*$_1$ ‘баязлівец’ з рэдкім суф. **-ěja* для абазначэння «жаночых прафесій» (Таўлава, Metods of Etymological Practice, 50) або асоб жаночага полу, “паводле ўласцівага ім дзеяння”, з экспрэсіяй зніжанасці (Сцяцко, Афікс. наз., 36).

**Тру́сіць**$_1$ ‘дрыжаць ад страху, хвалявання’, ‘баяцца’ (ТСБМ, Др.-Падб., Жд. 1): *тру́сіць трасца* ‘трасца трасе’ (лун., стол., калінк., добр., лельч., ЛА, 3), *трусі́ць* ‘калаціць, трэсці ад тэмпературы’ (пух., Сл. ПЗБ), ‘калаціць, аббіваць, абтрасаць’ (Ян., Мат. Гом.; петрык., Шатал., Пятк. 2), ст.-бел. *трусити* ‘тузаць, штурхаць; хутка рухаць уверх і ўніз, туды і назад’ (ГСБМ). Сюды ж *тру́скі* ‘дрогкі, няроўны, трасучы’ (Байк. і Некр., Растарг., Сцяшк. Сл.), *тру́скій* ‘тс’ (Янк. 3; брагін., Шатал.), *труский* ‘выбіты (пра да-

рогу)' (Мат. Маг.), *тру́ска* 'дрогка, трасучыся' (Нас., Янк. 3, Ян.). Параўн. укр. *труси́ти* 'калаціць, трэсці', *труси́тися* 'трэсціся, дрыжаць', рус. *труси́ть* 'трэсці', *труси́ться* 'трэсціся, баяцца', н.-луж. *tšusyś* 'трэсці'. Да прасл. **trǫsiti*, якое з'яўляецца каўзатывам да прасл. **tręsti* 'трэсці' (Фасмер, 4, 102; Чарных, 2, 268; Махэк$_2$, 653; ЕСУМ, 5, 658), якому адпавядае лат. *traušâtiês* 'баяцца', што да і.-е. **tres-* 'трэсціся (са страху)', гл. Бязлай, 4, 221; ESJSt, 16, 983. Сюды ж: *трусі́ць чало на верацяно* 'трэсці чало (=кужаль) – для кудзелі' (петрык., Шатал.), *трусі́ць* 'трэсці, шукаючы што-небудзь' (петрык., Шатал.; ТС), *трусі́ць ко́міна* 'ачышчаць яго ад сажы' (ТС, Мат. Гом.), *трусі́ць рыбу* 'выбіраць рыбу з сеткі' (калінк., Арх. ГУ), *трусі́ць жолу́д* 'збіваць жалуды на корм' (ТС).

**Тру́сіць$_2$** 'рассыпаць, патроху сыпаць тонкім слоем' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Байк. і Некр., Федар. 7, Гарэц.), 'імжаць' (Бяльк.) *трусі́ць* 'церусіць' (карэліц., Нар. сл.), 'сыпаць, церушыць', 'крапаць', 'пасыпаць соллю' (Шымк. Собр., Сцяцк. Сл.; зэльв., Нар. словатв.), *трусі́цца* 'растрасацца, рассыпацца (пра сена)' (Бяльк., Байк. і Некр.), 'церушыцца, растрасацца', 'падаць маленькімі кроплямі, ісці паціху (пра дождж)' (ТСБМ, Бяльк.; зэльв., Нар. словатв., Сцяшк. Сл.; іўеў., ЛА, 2), 'сыпацца, натрасацца' (смарг., лід., Сл. ПЗБ), 'сыпацца патроху' (Нас.). Параўн. укр. *труси́ти* 'рассяваць', рус. *труси́ть* 'сыпаць', в.-луж. *trusyć* 'пасыпаць, рассыпаць, рассяваць', чэш. *trousiti* 'рассыпаць', славац. *trúsit'* 'сыпаць, рассыпаць', славен. *trósiti* 'рассыпаць, раскідваць', балг. дыял. *тръ̀са* 'растрасаць, раскідваць віламі салому пры малацьбе'. Прасл. **trǫsiti* – форма ітэратыва да прасл. **tręsti* 'трэсці' (Фасмер, 4, 110; Махэк$_2$, 653; Бязлай, 4, 233; ЕСУМ, 5, 658). Шустар-Шэўц (1539–1540) узводзіць сучасныя славянскія формы да прасл. **trǫs(k)- / *trus(k)-*, параўн. *трушыць*, *трухнуць*, гл.

**Трусі́ць$_3$** 'разбіваць, раскідваць гной' (беласт., Сл. ПЗБ). Хутчэй за ўсё, да *трусіць$_1$* 'калаціць', параўн., аднак, літ. *trę̃šti* 'ўгнойваць', што звязана з *trèšti* 'гніць' (Смачынскі, 688). Магчыма, балтызм пры другаснай ад'ідэацыі *трусі́ць$_2$* 'расцярушваць, растрасаць'.

**Труск** 'дробныя галінкі, ламачча' (ТС, Ласт.), *trusk* 'ігліца, шыгалле' (АБ, 7); сюды ж, відаць, і *тру́сок* 'тонкія галінкі,

трэскі' (ТС), *трýсак* (*trusok*) 'сухія галінкі, трэскі' (Тур.), 'трэскавае смецце', 'дробязь, драбяза' (Нас., Некр. і Байк.), 'попел, прысак' (полац., Стан.), *трусóк* 'пілавінне' (Касп.), *трýсачкі* 'трэскі, смецце' (Гарэц.), *трусóчык* 'дробны хворast' (Бяльк.). Параўн. укр. *труск* 'дробна пабітыя, паламаныя галінкі, лаза', 'сухія галіны дрэў', в.-луж. *trusk* 'пацяруха', 'пыл', 'параскіданыя кавалкі'. Магчыма, да прасл. **truskъ* ці **trǫskъ* (ЕСУМ, 5, 659), генетычна звязаных з **trǫskati* 'аддзяляць', 'разрывацца, трэскацца, трашчаць' (Фасмер, 4, 110), параўн. *трускаць* (гл.), а таксама рус. *труск* 'трэск, хруст', стараж.-рус. *трускъ* 'тс', польск. *trusk*, *trzusk* 'тс', якія, паводле Брукнера (579), звязаны чаргаваннем з **trysk-*, **trosk-*, а таксама з **trěskъ* і са звонкім варыянтам **druzga* 'дробныя кавалачкі чаго-небудзь разбітага ўшчэнт', **druzgati* 'ламаць, крушыць, разбіваць, раструшчваць, таўчы, сціскаць' (SP, 4, 274–275), гл. *друзгаць* і наст. слова.

**Трýска**$_1$ 'трэска' (Нас., Некр. і Байк., ТС), *трускá* 'акаліна' (пух., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *труска* 'адзінка вымярэння колькасці хмелю' (Ст.-бел. лексікон), 'вязанка, пучок' (ГСБМ), 'друзачка, трэска': *лукъ в*$^{s}$ *трȣскы зломи*$^{T}$ (XVI ст., Карскі 2–3, 424); сюды ж *трýсачка* 'парушынка' (Ласт.), *трушчы́на* 'гушча, што застаецца на дне (напр., у квасе)' (Нас., Растарг.), 'што-небудзь кіслае, салёнае і горкае' (Растарг.), *трушчы́нка* 'жамерыны, макуха ад выціснутага соку, малака ці дробнага насення' (Нас.), *трушчы́ны* 'вашчыны' (там жа). Параўн. рус. *трускá* 'мякіна, труха', в.-луж. *truska* 'металічнае пілавінне', 'кавалак шлаку', чэш. *trůska*, *struska* 'акаліна', ст.-чэш. *tróska* 'адходы пры апрацоўцы металу', славац. *troska* 'тс', 'шлак', славен. *trôl lska* 'жамерыны', 'шлак', 'акаліна', серб. *тро̏ска*, *тру̏ска*, харв. *trȍska*, *trȕska* 'акаліна, гáраль на метале', балг. *трýска* 'асколкі пры каванні'. Прасл. *trǫska* 'асколак, трэска' (Сной$_2$, 787), якое ад дзеяслова **truskati* < *treskati* (Махэк$_2$, 652–653) з далейшай семантыкай 'разбурацца, распадацца' (Куркіна, Этимология–1994–1996, 50), параўн. *трусіць*, *трушчыць*, гл. Сной$_2$ (там жа) дапускае асіміляцыю са звонкага варыянта **drǫska*, роднаснага літ. *drum̃stas* 'мутны'; магчыма, літ. *druskà* 'соль', параўн. смал. аргат. *трýска* 'тс', з больш ранні́м значэннем у лат. *druska* 'крышка, крыха' (Анікін, Опыт, 289), параўн. *трýсачка* 'драбок, шчопаць': *дай трусочки соли* (Нас.).

**Тру́ска$_2$** 'ператрус, вобыск' (Клім.; Горбач, Зах.-пол. гов.). Гл. *трус$_3$*.

**Труска́лкі**, *труска́ўкі*, *труска́вкы* 'клубніцы, *Fragia viridis* Duch.' (ТСБМ, Касп., Байк. і Некр., Сцяшк., ТС, Выг., Сл. Брэс., Скарбы, Жд. 2; карэліц., Янк. Мат.; гродз., маг., мін., Кіс.; зах.-бел., Сл. ПЗБ); *труска́вчына* 'ягада клубніц' (Клім.); *труска́лка* 'тс' (Нік., Оч.), *труска́ўка* 'тс' (Кіс.), *тру́скаўкі* 'суніцы, *Fragaria ananassa* Duch.' (маг., мін., гродз., Кіс.; бяроз., ЛА, 1). Этымалогія няпэўная, звязваецца з назвамі іншых раслін, параўн. укр. *тру́скавка* 'суніца', *труск*, *траскавка* 'тс', польск. *truskawka* 'клубніца', вял.-польск. *truśkawki*, *tryśkawki* 'тс', *truskawiec*, *truskawice* 'птушыны драсён, *Polygonum aviculare* L.', *truskowie* 'палын палявы, *Artemisia campestris* L.'; в.-луж. *truskalca* 'суніца', 'клубніца', чэш. *truskavec* 'драсён птушыны', *jahodník truskavec* 'клубніца', ст.-чэш. *truskavicě* 'тс', славац. *truskavica* 'тс', *drúzgavica* 'чарэшня', *druzgavec* 'суніцы', *truskavec* 'хваснік, пярыльцы, *Hippuris vulgaris* L.', славен. *tróska*, *trúskavica*, *truska(vka)*, *tróskva* 'суніца', серб. *труска*, харв. *truska*, *trȍskot*, *druzgavac* 'тс'. Паўн.-слав. **truskavъka / *truskavica* (паводле Борыся, 645). У паўднёвых славян можа выступаць галосная *-о-* ў аснове. Зыходзячы са славянскага матэрыялу, нельга растлумачыць матывацыю назвы. Дапускаюць, што назва абумоўлена: трашчаннем на зубах насення пладоў (ЕСУМ, 5, 659); спецыфічным шумам (трэскам) пры зрыванні пладоў (Махэк$_2$, 655; Шустар-Шэўц, 1539); трэскам пры ламанні сцяблінак з лістамі – аналогіі маюцца ў розных мовах: укр. *хрускавка*, *хру́ставка* ад *хрускати*, *хрусті́ти* 'хрусцець', чэш. *praskavec* < *praskati* 'трэскацца, лопацца, трашчаць', в.-луж. *pruskelcy* < *pruskotać* 'трашчаць', літ. *braškė* 'клубніца' < *braškė́ti* 'трашчаць', нова-в.-ням. *Knackbeere* < *knacken* 'хрусцець', польск. *truskawka* < *trusk* 'трэск, хруст', ст.-рус. *трускъ* 'трэск', рус. дыял. *труск* 'тс' (Брукнер, 578; Махэк, 104–105; Борысь, 645). У беларускай мове (як і ў іншых славянскіх мовах) назва клубніц была перанесена з назвы суніц у першай палове XVIII ст., калі шляхам перакрыжавання віржынскіх і чылійскіх суніц былі выведзены гатункі клубніц.

**Труска́ты**, *труска́тый* 'кусцісты (пра лён)' (малар., Уладз., Сл. Брэс.). Няясна, магчыма, да *труск* 'дробныя галінкі' і інш.

**Тру́скаць** ‘есці шмат сырой садавіны і гародніны’ (Рэг. сл. Віц.). Гл. *трошчыць*, *трушчыць*.

**Тру́скі**, *трускій* ‘няроўны, нягладкі’ (Жд. 3, Мат. Маг.), ‘дрогкі’ (брагін., Шатал., Сцяшк. Сл., Сержп. Казкі). Параўн. укр. *тру́ський* ‘тс’. Відавочна, самастойныя ўтварэнні ад *трус*$_2$, *трусіць*$_1$ (гл.), параўн. серб. дыял. *мло̏го тру̏скају ова̂ ко̀ла* пры *тру̑сак* ‘трасенне’. Да *трусі́цца*$_1$ (гл.), *тру́скі* ‘дрогкі, няроўны, які трасецца’.

**Труско́м** ‘ашчадна, патрошку’: *насып труском ды бяжы трушком* (Вушац. сл., Пятк. 3). Да *трусіць*$_2$ ‘сыпаць, церусіць’, гл.

**Труско́ўнік** ‘грыб *Helotium*’ (Сяржаніна, Грыбы). Паводле даведніка, «ад месца знаходжання на труску (ламаччы)», гл. *труск*.

**Труслі́вы** ‘баязлівы, палахлівы’ (ТС, Бяльк.), сюды ж *трусля́к* ‘баязлівец’ (Мат. Маг.). Да *трус*$_1$, узнікла, відаць, пад рускім уплывам, параўн. мясцовае *трухлі́вы* ‘тс’ (Нас., Гарэц.), гл.

**Трусна́ты**, *трусна́тый* ‘цвёрды’ (кам., Жыв. НС). Няясна; магчыма, у значэнні ‘не гібкі’ ўтворана ад *тру́снуць* ‘надламацца, хруснуць’, гл.

**Тру́снуць** ‘хруснуць, храснуць, надламацца’ (Нас., Некр. і Байк., Ласт., Сл. ПЗБ), сюды ж *трусці́ць*, *патрусці́ць* ‘паламаць, здрабіць на кавалкі’ (Нас., Байк. і Некр., Гарэц.), *тру́снік* ‘друз, трэскі’ (Сцяшк. Сл.). Да прасл. **trǫs-t-* / **trus-t-*, якія суіснуюць з варыянтамі: **xrǫst-* / **xrust-*, **drozg-* / **dryzg-*. Гл. *трушчыць*.

**Трусо́вы**: *на тым белым камені трусова пер’е* (маладз., Песні сямі вёсак). Відаць, прыметнік, утвораны ад назвы страуса (гл. *страус*), параўн. ст.-бел. *струсъ* ‘страус’ са стратай пачатковага *с*.

**Трусо́к** ‘пілавіны’ (Касп.), ‘тонкія галінкі, трэскі і г. д.’ (ТС). Да *труск* (гл.).

**Тру́сты**: *трусты на калёсах* ‘выдумкі’ (Мат. Маг. 2). Няясна; магчыма, пераробка выразу *турусы на калёсах* ‘тс’ пад уплывам дзеяслова *трусціць* ‘ламаць, крышыць, разбураць’, гл.

**Труса́** ‘густы сняжок’ (Сцяшк. Сл.). Да *трусіць* ‘сыпаць, церушыць’ (гл.). Паводле Астроўскага (ABSl, 27, 126), узыходзіць да прасл. **tręs-* / **trǫs-*, параўн. польск. *trzęsionka* ‘дробны дождж’.

**Трусці́ць** ‘ламаць, крышыць’, разбіваць на кавалкі, разбураць’ (Нас.), *тру́сціць* ‘ламаць, крышыць, развальваць’ (Некр. і Байк.). Гл. *трушчыць*.

**Трусы́**, *тру́сікі* ‘прыналежнасць мужчынскай або жаночай бялізны’, ‘спартыўныя кароткія штаны, трусы’ (ТСБМ), *trusy* ‘тс’ (Брасл. сл.), *трусэ́* (шчуч., Сл. ПЗБ). Новае запазычанне праз рус. *трусы* выводзяць са старога франц. *trousses* ‘кароткія шаравары’ (ЕСУМ, 5, 658; Арол, 4, 109). Трубачоў у Фасмера (4, 110) выводзіць рускае слова з англ. *trousers* ‘штаны’, што дало першапачатковае рус. *тру́сики*, адкуль другаснае *трусы* (Ніканаў, Этимология–1967, 100).

**Трусь-трусь** – падзыўныя словы для кролікаў (полац., Нар. лекс.). Відавочна, звязаны з *трус* ‘кролік’, параўн. укр. *трусь-трусь*, польск. *truś-truś* – падзыўныя для кролікаў, аднак паколькі гэтыя словы ўжываюцца для падзывання і іншых жывёл, то могуць узыходзіць да *тпрусь-тпрусь*, гл. *тпро-тпра* (ЕСУМ, 5, 660; Борысь, 645).

**Труся́нка** ‘трасянка; страва з некалькі прадуктаў’ (ТС), *трусю́ха* ‘дробная салома’ (паст., Сл. ПЗБ). Утварэнні ад *трусіць*$_2$ ‘растрасаць, змешваць’ аналагічна да *трасянка*$_1$, гл.

**Трут** ‘высушаная губа, якая выкарыстоўваецца для высякання агню’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Др.-Падб., Гарэц.; дубр., мсцісл., стаўб., клім., ЛА, 4), ‘чага, бярозавая губка’ (Ласт., Меер. Крыч.), ‘губа на альсе’ (гарад., ЛА, 1), сюды ж, відаць, і ў праклёне *каб цябе трут еў, як ты аб’ідаіш мае дабрыцо!* (Варлыга, Прыказкі Лагойшчыны, New York; München, 1966, 104). Укр. *трут* ‘кнот або высушаны грыб-трутавік (выкарыстоўваецца пры высяканні агню)’, рус. *трут* ‘перапаленая ў закрытым сасудзе анучка, пры дапамозе якой здабываецца агонь’, стараж.-рус. *трудъ* ‘губка з дрэва’, чэш. *troud*, мар. *trúd*, славац. *trúd*, славен. *tród*, харв. *trûd*, серб. *трȳд*, макед. *трат*, балг. *тръ́т* ‘трут’, ст.-сл. **трѫдъ** ‘тс’. Прасл. **trǫdъ* ‘гнілізна, парахно’, утворанае ад незахаванага ў славянскіх мовах дзеяслова; супастаўляюць з літ. *trandìs* ‘караед’, *trandýti* ‘есціся караедамі’, *trendéti* ‘быць паточаным моллю’, лат. *trenéti*, лат. *trenêt* ‘псавацца, гніць’, ст.-інд. *trṇátti* ‘расколвае, прадзіраўлівае, адкрывае’, ст.-грэч. τερδών ‘шашаль’ (Фасмер, 4, 110; Брукнер, 575 і 577; Махэк$_2$, 653; Голуб–Копечны, 391; Траўтман, 328; Скок, 3, 514; Глухак, 642; Зубаты, AfslPh, 16, 416; ЕСУМ, 5, 660). Сюды ж: *трутаві́к* ‘грыб, які паразітуе на дрэвах’ (ТСБМ; клім., ветк., ЛА, 1, Мат. Гом.).

**Тру́тка** ‘атрута’ (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *trutka* ‘тс’ (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 133), у мове паляўнічых ‘прынада, запраўленая атрутай’ (Варш. сл.).

**Трутнёўка** ‘пчаліная матка, ад якой выводзяцца толькі трутні’ (Сцяшк., Варл.; слаўг., Нар. сл., Скарбы, Сл. ПЗБ), *трутнёўка* ‘тс’ (Мат. Гом.), *трутоўка* ‘тс’ (Сцяшк.; лід., Сл. ПЗБ, ПСл; слаўг., Нар. сл., Скарбы, ПСл), *труто́вка*, *тру́тныха* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *труто́ўка* ‘неаплодненая матка’ (Анох.). Да *тру́цень* (гл.).

**Трутні́ць** ‘спаць’ (Рэг. сл. Віц.). Няясна, відаць, ад *труцень* (гл.), аднак, магчыма, першапачаткова звязана з *трухнуць* ‘спаць’, гл.

**Тру-тру** ‘гук паляўнічай трубы’ (ваўк., Федар. 4). Гукапераймальнае.

**Трутушкая** ‘?’: *тую трутушкую папалам выпілі* (маг., Шн., 450). Няясна.

**Тру́фель** ‘клубнепадобны падземны грыб’ (ТСБМ), *тру́хвель* ‘тс’ (карм., Сярж.-Яшк.), *тру́фля* ‘тс’ (Некр. і Байк., Сяржаніна, Грыбы). Праз рус. *трюфель* ці польск. *trufla* і, магчыма, ням. *Trüffel* з франц. *truffe* ‘грыб *Tuber*’ < італ. *truffa* < оск.-умбр. **tūfer* < лац. *tūber* ‘клубень’, ‘труфель’ (Фасмер, 4, 112). Паводле Пяткевіча (Пятк. 1, 15), “труфлі паляшук не знае, пагэтаму і не шукае”. Гл. Брукнер, 577; ЕСУМ, 5, 663; Арол, 4, 111.

**Трух** ‘павольная рысь, трушок’ (ТСБМ, Бяльк.), *трух-трух* – гукаперайманне для абазначэння бегу дробнай рыссю (ТСБМ), *трюх-трюх* – пра язду трушком (мсцісл., Нар. лекс.), *трю́ханьня* ‘язда трушком’ (Юрч. СНЛ); *тру́хаць* ‘бегчы трушком’ (ТСБМ, Шат., ТС; віл., Сл. ПЗБ), *тру́хыць* ‘тс’ (Бяльк.; Юрч. Сін.), *пратру́хаць* (Нік. Очерки), часцей, аднак, прыслоўе ў форме назоўніка ў Тв. скл.: *тру́хам* ‘(трухаць) трушком’ (Шат., Гарэц., Др.-Падб., Янк. 1, Байк. і Некр.; лях., Сл. ПЗБ), *трухо́м* ‘павольным бегам’ (рагач., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *тру́хом* ‘тс’ (ТС), *тру́хым* ‘тс’ (Бяльк.). Укр. *трух* ‘конскі бег’, *трух-трух*, *трюх-трюх*, *трюхи́-трюхи́* – выгук для выражэння бегу каня трушком, *трюха́* ‘малая рысь каня’, *трухце́м*, *трюхом* ‘трушком’, *трю́хати* ‘бегчы або ехаць рыссю’, рус. *тру́хать* ‘ехаць дробнай рыссю’, *трю́хать* ‘трэсціся’, *трюх-трюх*, *трух-трух* – перадае язду рыссю. Усходнеславянскае гукапераймальнае ўтварэнне, якое ўзнікла, відаць, пры ад’ідэацыі дзеяслова *трусіць* < прасл. **trǫsiti (sę)*

'трэсціся' (Фасмер, 4, 110–112; ЕСУМ, 5, 663), параўн. і польск. *trząskiem* 'трушком' (Брукнер, 579). Сюды ж *трухла́* 'подбежкам' (Сцяшк. Сл.), *трухіня́ць* 'ісці подбегам' (Скарбы; слонім., Жыв. сл.). Гл. таксама *труском*, *трушком*.

**Тру́ха**$_1$ 'жанчына, якая трэ лён' (Сцяшк.). Да *церці* (гл.). Суфікс *-уха*, які ўтварае назвы асоб па прафесіі, узыходзіць да прасл. **-uxa*, прадуктыўнага ў паўночных славян і ў славенскіх гаворках (Слаўскі, SP, 1, 75).

**Тру́ха**$_2$ 'картачная гульня' (ТС). Няясна.

**Труха́** 'пацяруха, перацёртае сена, салома' (ТСБМ; Некр. і Байк., Сл. ПЗБ; бялын., ЛА, 2), 'дробныя сухія рэшткі чаго-небудзь', 'што-небудзь нікчэмнае, бескарыснае' (ТСБМ; Сержп. Прык.), 'трухлявая драўніна' (Мат. Гом.), 'старая драўляная будыніна' (Вушац. сл.). Укр. *труха́* 'пацяруха', *трухва* 'гніль у дрэве', рус. *труха́* 'пацяруха', 'парахня', стараж.-рус. *трухъ* 'прэлы, трухлявы', 'змрочны', чэш. *troucha*, *trouch* 'што-небудзь спарахнелае', славац. *trúch* 'тс', серб. *тру̏ва* 'пацяруха', *трух*, *тру̀шни хлѐб* 'хлеб з мякінай', харв. *truha* 'адкіды', славен. *trûšje* зборн. 'гніль'. Прасл. **truxa*, **truxъ* – зборныя назоўнікі, суадносныя з і.-е. **trou̯-s-* 'раскрышаны', 'струхлелы', 'састарэлы' (Борысь, 643; Арол, 4, 110). Фасмер (4, 114) у якасці роднасных падае лат. *tràusls* 'ломкі, крохкі', *trusls* 'гнілы, прэлы', *trusêt*, *trust* 'гніць, прэць', літ. *traušùs* 'ломкі, крохкі', *traũšti* 'крышыцца'. Сной (Бязлай, 4, 231) мяркуе, што праславянская аснова мела **-ǫ*, магчыма, другаснае (Новое в рус. этим., 240). Гл.: Буга, Rinkt., 1, 489; 2, 632; Зубаты, Studie, 1(2), 120–121; Каруліс, 2, 453; Скок, 3, 515; Бязлай, 4, 230–231; Шустар-Шэўц, 1536, 1540; ЕСУМ, 5, 661. Меркаванні пра варыянтнасць асноў прасл. **trux- / *trus(k)-*, што дае магчымасць ідэнтыфікацыі **truxa* з **truska*, **truskъ*, гл. Куркіна, Этимология–1994–1996, 50–51 (гл. *труск*).

**Тру́халь** 'труха, пацяруха' (дзісн., Бел. дыял. 3). Параўн. рус. бранск. *трухали́* 'скарб, пажыткі, манаткі, мяшок' (СРНГ). Утвораная з суф. *-аль* "па асацыяцыі з тым, што абазначана ўтваральным словам" (Сцяцко, Афікс. наз., 146), гл. *труха́*; менш верагодная субстантывацыя прыметніка **truxlъ* (гл. *трухлы*), параўн. харв. чак. *trȕxal* 'у стане цяжарнасці'. Адпаведныя рускія назвы, магчыма, варыянтныя да рус. *треха́лье*, *трехо́лье* 'рыззё, лахманы', гл. *трахолле*.

**Труханéц** ‘стрэсены арэх’ (Янк. 1). Да *трухану́ць* – шматкратнага дзеяслова ад *трухну́ць* ‘страсянуць, скалануць’ (Нар. Гом., Юрч. Вытв.), параўн. польск. *trząchnąć*, якое да *trząść* ‘трэсці’ (Брукнер, 579).

**Тру́хам** ‘дробнай рыссю’ (ТСБМ, Шат.), *тру́хом* ‘тс’ (ТС). Гл. *трух*.

**Тру́хаць** ‘бегчы подбегам, бегчы памалу’ (ТСБМ, Стан., Варл., ТС). Параўн. укр. *трю́хати* ‘тс’, рус. *трю́хать* ‘трасціся’. Афектыўнае ўтварэнне на базе *трусіць* (гл.), параўн. ЕСУМ, 5, 663. З экспрэсіўнай суфіксацыяй *трухіня́ць* ‘бегчы трушком’ (Скарбы).

**Тру́хі** ‘вобыск, вобшук’ (Ц. Гартны). Утворана на базе варыянтнай асновы *трух-* / *трус-*, параўн. *ператрус* ‘тс’ і *трухнуць* ‘страсянуць, скалануць’ (Нар. Гом.).

**Трухката́ць** ‘грукатаць’ (Нар. Гом.). Гукаперайманне. Сюды ж *трухіта́ць* ‘раскусваць, лускаць’ (Сцяшк. Сл.), магчыма, з першаснага **трухатаць*.

**Трухлíвы** ‘баязлівы’ (Нас., Гарэц.), сюды ж *труха́ць*, *тру́хнуць* ‘баяцца, палохацца’ (Рэг. сл. Віц.), *трухну́ць* ‘спужацца, спалохацца’ (Некр. і Байк., Юрч. Сін.), ст.-бел. *трухливость* ‘баязлівасць’ (ГСБМ). Параўн. укр. *трухлíти* ‘дранцвець ад жаху’, рус. *(с)трухну́ть* ‘спалохацца’, польск. *truchleć* ‘слабець, дранцвець, камянець’, *truchliwy* ‘спалоханы’, *truchły* ‘тс’, *potruchleć* ‘спужацца, збаяцца, заняпасці духам’, каш. *trëxlec* ‘губляць надзею, сумнявацца’, н.-луж. *tšuchły* ‘баязлівы’, *tšuchlak* ‘тс’, *tšuchleć* ‘станавіцца змрочным, панурым’, в.-луж. *truchły* ‘заклапочаны, неспакойны’, ‘баязлівы’, ‘сумны, змрочны’, *truchlić* ‘трывожыць’, чэш. *truchliti*, *truchleti*, славац. *trúchlit’* ‘смуткаваць, тужыць’, *truchlivý* ‘сумны, журботны’. Звычайна рэканструююць прасл. **trux-*, **trusl-* і супастаўляюць з лат. *traušâties* ‘баяцца’ < і.-е. **ter-* ‘церці, рэзаць, вярцець’ > ‘крышыць’ > ‘трухлявець’ (Мюленбах–Эндзелін, 4, 227; Каруліс, 2, 423). Махэк$_2$ (654) мяркуе, што праславянскае слова магло б мець форму **truxlъ*, роднасным яму будзе с.-ірл. *trúag* ‘смутны’. Паводле Куркінай (Этимология–1994–1996, 49), на базе зыходнай формы (гл. *трухлы*) у заходнеславянскіх мовах замацавалася значэнне ‘баязлівы’, ‘сумны’, гл. таксама Борысь, 643. Адносна рус. *трухну́ть* яшчэ

Даль (1882, 4, 438) ставіць яго ў адзін рад з роднаснымі дзеясловамі *тру́сить*, *тру́шивать* ‘баяцца, палохацца’. Фасмер (4, 112) мяркуе, што рус. *(с)трухну́ть* з’яўляецца новаўтварэннем ад *трус* ‘баязлівец’, а ўкр. *трухлі́ти* можа быць запазычаннем з польскай мовы (ЕСУМ, 5, 662). У такім выпадку зах.-слав. **trux-lъ*, **trux-livъ* будзе праславянскім рэгіяналізмам. Для *трухну́ць* ‘спужацца’ не выключана самастойнае развіццё на аснове *трухну́ць* ‘страсянуць, скалануць’ (Нар. Гом.), гл. *трусіць*, *трэсці*. Параўн. і ст.-бел. *почал троухленъ быти дрыжачий* (Карскі 2–3, 353).

**Тру́хлы** ‘гнілы, сатлелы; слабы на здароўе’ (Нас.), ‘гнілы і парахнявы’ (Шат., Байк. і Некр., Растарг.), ‘спарахнелы’ (паст., даўг., пін., Сл. ПЗБ), ‘друзлы’ (Варл.), сюды ж *трухле́ць* ‘гніць, парахнець, разбурацца’ (Нас., Гарэц., Некр. і Байк.), ст.-бел. *трухлети* ‘слабець, трухлець’ (XVII ст., ГСБМ); другасныя ўтварэнні *трухлё* ‘парахня’ (карэліц., Сл. ПЗБ), ‘гнілое дрэва’ (дзятл., Жыв. сл.), *трухля́* ‘парахно’ (Мат. Гом.), *трухля́вы* ‘гнілаваты’ (Шат., Гарэц.), ‘наздраваты; дуплаваты’ (Сл. ПЗБ), ‘трупехлы, спарахнелы’ (Некр. і Байк., Ян., Сцяшк.), ‘ператочаны чарвякамі’ (шальч., брасл., Сл. ПЗБ), ‘лядашчы’ (Ян.), ‘які ператварыўся ў парахно ад гнілі і часу’, ‘які аджыў свой век’ (ТСБМ), ‘слабы, нездаровы’ (Нас., Байк. і Некр., Юрч. Вытв.), *трухля́к* ‘тс’ (Нас., Байк. і Некр.), *трухля́вець* ‘разбурацца ад часу, ператварацца ў пацяруху’ (ТСБМ, Байк. і Некр.), *трухло́* ‘старызна, гніль’ (Сцяшк. Сл.), ‘аматар паспаць’ (полац., Нар. лекс.), *трухлі́на* ‘непрыдатныя для будаўніцтва матэрыялы’ (Растарг.), ‘пацяруха’ (ТСБМ), ‘парахня’ (Юрч. Вытв.), ‘гніляк’ (ТС), *тру́хля* ‘спарахнелы, струхлелы будынак’ (ТСБМ), ‘пацяруха’ (ТСБМ), ‘састарэлы, бездапаможны чалавек’, *трухля́ціна* ‘тое, што разбурана трухленнем’ (Байк. і Некр.), *трухласць* ‘парахня’ (Нар. Гом.), *трухне́ць* ‘доўга спаць’ (полац., Нар. лекс.), *трухніву*, *трухня́ву* ‘крохкі, нямоцны’ (ТС), *трухле́й* ‘хваравіты чалавек’ (Скарбы). Укр. *тру́хлий*, *трухля́вий* ‘трухлявы’, *трухлі́ти*, *трухля́вити* ‘станавіцца трухлявым’, рус. *тру́хлый*, *трухля́вый* ‘тс’, стараж.-рус. *трухъ* ‘прэлы, трупехлы’, польск. *truchleć* ‘гніць, тлець’, ‘сохнуць’, *truchło* ‘прах, рэшткі’ славін. *strëйi* ‘крохкі, спарахнелы’, чэш. *trouch* ‘лясная глеба’, славац. *trúchly* ‘спарахнелы’, серб.

*трӱхао, трӱо* 'гнілы', харв. *trüo, trühli, trüli* 'гнілы, друзлы', славен. *trúhəl* 'тс', старое балг. *трýхъл* 'тс', макед. дыял. *трул, трлав* 'тс'. Прасл. **truxlъ* 'гнілы', ідэнтычнае лат. *tràusls* 'гнілы, крохкі, ломкі' і інш. (Фасмер, 4, 111; Глухак, 641; ЕСУМ, 5, 661). Да *трухá$_1$* (гл.).

**Трухнíвы**, *трухнявы* 'трухлявы, крохкі, нямоцны' (ТС), сюды ж *трухнéць* 'брынчаць, брынкаць, бразгаць (пра надтрэснуты посуд)' (ТС), з іншай асновай *трухцéць* 'трашчаць' (люб., Жыв. сл.), 'утвараць глухі гук (пра надтрэснуты посуд' (Зайка Кос.). Параўн. укр. *трухня́вий* 'струхлы', *трухнíти* 'гніць', чэш. *trouchnivý* 'трухлявы'. Да *трухнуць* (гл.), магчыма, пад уплывам *трупцéць* (гл.).

**Трýхнуць** 'трухлець, парахнець, трупехнуць' (Некр. і Байк., ТС), *трухнýць* 'гніць' (Яруш.), сюды ж *трýхнуць* 'баяцца, падаць духам' (Ласт.), 'многа і позна спаць' (полац., Нар. лекс.). Параўн. укр. *трю́хнути* 'гніць, трухлець', рус. *трýхнуть* 'тс', серб. *трӱнути* 'трухлець, раскладацца', харв. *truhnuti* 'спаць, ленавацца', славен. *trohnḗti* 'гніць'. Прасл. **truxъnǫti*, магчыма, і **trǫx(ъ)nǫti* з другаснай назалізацыяй (Сной у Бязлай, 4, 231), параўн. *трухá* (гл.).

**Трухтá** 'невысокая, поўная, але жвавая жанчына' (Мілк. Сл.). Відаць, звязана з наступным словам (гл.).

**Трухтом** 'трушком' (бераст., Сл. рэг. лекс.), *трухтою* 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *truchtem* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 5, 134). Брукнер (577) адзначае, што ў польскай мове слова *trucht (truchtem, truchcikiem)* з XVIII ст. і запазычана з ням. *Trott* 'тс'. Паводле SWO (1980, 778), польск. *trucht* 'від бегу каня, сярэдні паміж шагам і рыссю' ўзыходзіць да с.-в.-ням. *truht*; ужываецца звычайна ў выразе: *biec truchtem* 'бегчы трушком'.

**Трухцéць** 'бегчы трушком, трухаць' (Скарбы). Магчыма, кантамінацыя папярэдняга слова з *трух-трух* – гукаперайманнем бегу дробнай рыссю (ТСБМ).

**Трýцень** *(трýцінь, трýцянь, трýтэнь)* 'самец у пчалінай сям'і' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Байк. і Некр., Сцяшк., Бес., ТС, Сержп. Грам., Сл. ПЗБ; слаўг., Нар. сл.) і пераноснае 'гультай' (Нас., Бяльк., Байк. і Некр., Пятк. 2, Сцяшк.), ст.-бел. *трутень* 'пчаліны самец'. Укр. *трýтень, трут*, рус. *трýтень* 'самец пчол', 'дармаед, паразіт', польск. *truteń*, старое *trucień*, таксама дыял. *trudeń, trętеń* 'тс',

*trętnie* ‘трутні’; з XV ст. ст.-польск. *trąd / trąt / tręt / trut* ‘труцень’, каш. *trǫd* і *tron* , н.-луж. *tšut*, в.-луж. *truta*, чэш. *trubec*, ст.-чэш. *trúp*, мар. *trút*, *trut’* ‘тс’, *trout* ‘шкодныя насякомыя на капусце’, славац. *trúd*, *otrôt* і *trubec*; славен. *trôt*, харв. *trȗt* ‘труцень’, *trūtanj* ‘чмель’; серб. *тру̑т*, макед. *трут* ‘труцень’, балг. *търтей* (параўн. у Бярынды: тр४тій: тр४тень), серб.-ц.-слав. *троутъ* ‘аса, чмель’. Прасл. **trǫtъ* (дыял. **trǫtьnjь* ‘труцень’), роднаснае літ. *trãnas*, лат. *trans* ‘труцень’ (Фасмер, 4, 111), якія з індаеўрапейскай гукапераймальнай асновы **tren-*, звонкі варыянт **dren-*: ‘гусці, гудзець’, ‘шумець, звінець’, адсюль ст.-в.-ням. *treno*, с.-в.-ням. *trëne*, ст.-англ.-сакс. *drān*, *drǣn*, англ. *drone*, ням. *Drohne* ‘труцень’, гоц. *drunjus* ‘гук’, ст.-грэч. υρωναξ, ‘шэршань’, τεν-υρήνη ‘сляпні, дзікія пчолы’, υρηνος ‘элегія’ (Сной$_2$, 788). Паводле ЕСУМ (5, 660), Каруліса (2, 420) і Борыся (645), звонкі варыянт падаецца як **dʰren-*. Паводле Махэка$_2$ (654), не ясна, як выглядала праславянская форма: **trǫtъ* ці *trǫdъ*. Ён ставіць пад сумненне першапачатковасць літ. *trãnas*, лат. *trans* ‘труцень’ і дапускае, што яны маглі быць запазычаны з нямецкай мовы. Прынамсі, Мюленбах–Эндзелін (1, 489) мяркуюць, што дыялектныя латышскія формы з *d-* (*drans*, *dranis* ‘тс’), хутчэй за ўсё, запазычаны з с.-ням. *drane* або сугучныя з ім. Калі меркаваць, што праславянская форма **trǫdъ*, то фанетычна ёй адпавядаюць літ. *trandìs* і *trandė̃* ‘моль’. Аднак не выключана, што гэта форма другасная, якая ўзнікла ў выніку збліжэння з **trǫdъ* ‘назва хваробы; губа’ (Борысь, 646) або фанетычным шляхам, параўн. палес. *тру́дні* мн. л. (Арх. Вяр.). Меркаванні пра зыходны паралелізм формаў слова гл. SEK, 5, 175.

**Труці́зна** ‘атрута’ (Нас., Байк. і Некр., Жд. 3, ТС; шальч., Сл. ПЗБ), ‘шкодная для здароўя ежа, выпіўка, лякарства’ (полац., Нар. сл.); ‘ядахімікат’ (Сл. ПЗБ). *труты́зна* ‘атрута’ (стол., Нар. лекс.), *труты́зно* ‘тс’ (Клім.; кам., Жыв. НС), *турці́зна* ‘тс’ (стаўб., Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *трутизна* ‘тс’ (1578 г.) запазычана са ст.-польск. *trucizna* ‘тс’ (Жураўскі, SOr, X (1), 40; Булыка, Лекс. запазыч., 130).

**Труці́ць** ‘знішчаць атрутай, рабіць шкоду атрутнымі рэчывамі’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Ласт., Касп., Байк. і Некр., Гарэц., Яруш., ТС, Варл., Сл. ПЗБ), *труці́цса*, *тру́ціцса* ‘турбавацца,

мучыцца, непакоіцца’ (Кліх.), ст.-бел. *трутити* перан. ‘пазбаўляць радасці, рабіць непрыемным’ (ГСБМ). Парны па трыванні дзеяслоў да *атруціць* (гл.), параўн. чэш. мар. *otrutit* ‘атруціць’. Узнік у выніку кантамінацыі **truti* і **traviti* пры ад’ідэацыі ст.-польск. *truciźnik*, *truciciel(ka)* або непасрэдна ад *труць*$_2$ (гл.).

**Труць**$_1$, *труц* ‘труціць’ (воран., ашм., смарг., гродз., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *трути*, *струти* ‘атручваць’ (Гарб.). З польск. *truć* ‘тс’ (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 134). Аналагічна *тру́цца* ‘атручвацца’ < польск. *truć się* ‘тс’, ‘мучыцца, пакутаваць’. Польск. *truć (się)* узыходзіць да прасл. **truti*, 1 ас. *trovǫ* ‘спажываць, вытрачаць, пера- траўліваць’, звязанага чаргаваннем галосных асновы з ітэратывам **traviti* і назоўнікам *трава́*, *трова́* (гл.). Прасл. лексема **truti* роднасная літ. *trūnýti* ‘парахнець, тлець, гнісці’, вал. *toraw* ‘таўчы’, ‘біць, разбіваць’, ст.-грэч. τρύω ‘быць стомленым, замучаным’, ‘прыціскаю, прыгнятаю, раню’, ст.-англ.-сакс. *ď rōwigean* ‘цярпець’, ст.-нарв. *þrá* ‘сум’, ‘моцнае жаданне’ < і.-е. **treu̯-* ‘церці, расціраць’ (Борысь, 644; Фасмер, 4, 92; Махэк$_2$, 650; Чарных, 2, 255; Скок, 3, 507–508; Брукнер, 575, 577; ЕСУМ, 5, 656; Бязлай, 4, 234–235).

**Труць**$_2$ ‘яд, атрута’ (Некр. і Байк., Ласт.). Магчыма, з польск. *truć* ‘расліна, сокам якой змазвалі стрэлы, палюючы на аленяў’ (Варш. сл.), параўн. *trut*, *truta*, *trutka* ‘атрута (як прынада)’ і папярэдняе слова (гл.).

**Тру́ша** ‘няўдалы чалавек’ (воран., Сл. рэг. лекс.). Няясна. Магчыма, утворана пры дапамозе суф. *-ша* ад дзеяслова, блізкага да літ. *trū̃kti* ‘не хапаць (некаму нечага)’, ‘трэскацца, разрывацца’.

**Труша́** ‘псіна’: *сабака трушой смярдзіць* (воран., Сл. ПЗБ), ‘гніль, цвіль, падла’ (там жа). Грынавяцкене (там жа, 5, 134) выводзіць з дыял. літ. *trušà* < *trąšà* ‘гніль’, ‘гной, угнаенне’, параўн. таксама літ. *trūnys* ‘гніль’, *trèšti* ‘гнісці’. Паводле Лаўчутэ (Балтызмы, 149), сумніўны балтызм.

**Тру́шанка** ‘трасянка, сумесь, салома, змешаная з сенам’ (ТСБМ, Шат., Бяльк., Байк. і Некр., Некр., Пятк. 1, Мат. Гом., Янк. 1, Др.-Падб.; мазыр., З нар. сл., Яшк. Мясц.), ‘мешаніна розных дробных частак’ (Гарэц.): *боб, гарох і віку скалаціць – тру́шанка* (чэрв., бярэз., Сл. ПЗБ); *тру́шанка* і *стру́шанка*, *тру́шаніца*, *трушо́нка* ‘трасянка’ (гродз., мін., маг., гом., ЛА, 2). Параўн.

(ц.-слав.?) *труша, смешение* («Лексисъ съ толкованіемъ словенскіх мовъ просто», гл. Ст.-бел. лексіконы, 18). Да *тру́сіцца$_2$* (гл.).

**Тру́шка** ‘булка’ (Рэг. сл. Віц.). Відаць, скарочанае ад *ватрушка* (гл.), параўн. рус. фалькл. *у нас трушки и ватрушки* (СРНГ, 45, 178).

**Трушо́к** ‘павольны бег’ (ТСБМ), ‘бег павольнай рыссю, без напружання’ (Варл., Янк. 1), *тру́шыцца* ‘ісці паволі, трушком’ (іўеў., Сл. ПЗБ, Сцяц.), *тру́шкі* ‘трушком’ (Нік., Ян., ПСл), *трушка́* ‘трухам’ (шчуч., Сл. ПЗБ), ‘бягом’ (Сцяц.), *трушко́м* ‘хутка бегчы’, ‘хутка ехаць’ (навагр., слаўг., ЛА, 2), ‘подбегам’ (ТСБМ, Сцяшк.), ‘дробнай рыссю’ (Нас., Шат., Касп., Янк. 1, Гарэц., Др.-Падб., ТСБМ, Сцяшк., Байк. і Некр.), *трюшко́м* ‘тс’ (Бяльк.). Утварэнні з памяншальным суф. **-ькъ (-ькъть)* ад *трух* (гл.).

**Трушча́віна** ‘трэска’ (ТС). Да *трушчыць* (гл.).

**Трушчо́ба** ‘бедны, густа населены брудны квартал горада’, ‘брудны, цёмны, разбураны дом’ (ТСБМ). З рус. *трущо́ба* ‘тс’, якое зафіксавана ў такім значэнні ў слоўніках з першай паловы XIX ст., утворана пры дапамозе суф. *-об-а* (як *утроба*) ад дзеяслова з асновай *труск* і суф. **-j-*. Параўн. ст.-рус. *трускъ* (з XV ст.), што з’яўляецца глухім варыянтам да *друзгъ* ‘сухое галлё, веццё’; у такім выпадку *трущоба* – гэта ‘лес, завалены галлём’ (КЭСРЯ, 453; Цыганенка, 491). Менавіта гэта значэнне пераважае ў *трушчо́ба*: ‘глухія мясціны’ (слаўг., Яшк.), ‘глуш’, ‘цяжкапраходнае месца ў лесе з бураломам’ (ТСБМ); *трушчо́ба*, *трушчо́біна* ‘непраходнае месца ў лесе’, ‘прорва, бездань’ (Нас.), *трошчо́ба* ‘гушчар, нетра’ (ТС), укр. дыял. *трущоба* ‘густы непраходны лес у забалочанай нізіне’ (Фасмер, 4, 112; ЕСУМ, 5, 662), што дае падставы для запазычвання толькі ў вузкім значэнні ‘густанаселены бедны квартал’. Да *трушчыць* (гл.).

**Трушчы́на** ‘гушча, якая засталася на дне’ (Нас., Растарг.), ‘штосьці кіслае, салёнае і горкае’ (Растарг.), *трушчы́ны* ‘адыходы ад воску, вашчына’ (Нас.), *трушчы́нкі* ‘рэшткі ад выціскання соку’ (Нас.). Параўн. славен. *troščína* ‘часцінка гушчы’ (<**treskati*, Сной у Бязлай, 5, 233). Гл. наступнае слова.

**Тру́шчыць** ‘біць, ламаць, крышыць, разбураць крохкае, далікатнае’ (Янк. 3), *тры́шчыць* ‘тс’ (Нас.), *трю́шчыць* ‘тс’ (Бяльк.), *тру́шчыць* ‘многа есці неспажыўнога’ (Янк. 3), ‘есці са смакам,

з апетытам' (Адм.), 'есці, хрумстаць' (іўеў., Сл. ПЗБ), *трýшчыць*, *трóшчыць* 'ламаць, разбіваць; есці з хрустам' (ТС), *трушчэ́ць* 'расціскаць', 'лузаць арэхі' (Варл., капыл., ЛА, 1), *трушчэ́ць*, *трушчáць* 'хрусцець (пра снег, лёд пад нагамі)' (Нас., Байк. і Некр.). Відаць, узыходзіць да *труск* 'друзачкі, дробныя частачкі' з варыянтным вакалізмам, характэрным для экспрэсіўных слоў (Сной у Бязлай, 4, 233), параўн. *трýсціць* 'ламаць, разбіваць на кавалкі' (Нас., Некр. і Байк.). Параўн. укр. дыял. *трýщити* 'лушчыць', якое разглядаецца як вынік кантамінацыі *трощити* 'ламаць, разбіваць' і *лущити* 'лушчыць' (ЕСУМ, 5, 662). Падабенства з літ. *triùškinti*, дыял. *triùškyti* 'біць, разбіваць з хрустам', *triuškéti* 'хрумстаць пры разжоўванні ежы' насуперак Лаўчутэ (Балтизмы, 133) не дае падстаў лічыць запазычаннем.

**Трушы́на**, *трушы́нка* 'трошачкі, маленькая колькасць' (Нас.). Паводле Насовіча, ад *трусíць* (гл.). Параўн. таксама *трýсачка* 'драбок, каліва', 'парушынка'.

**Трушы́ць** 'памалу кідаць' (Мат. Маг.). Варыянт *трусíць* 'сыпаць, натрасаць і інш.' з чаргаваннем *с / ш*, гл. *трýсіцца*$_2$.

**Труя́**$_1$ 'атрута' (ТС). Утворана пры дапамозе прасл. суф. **-ja* ад першаснай формы дзеяслова **tru-ti* 'труціць', як *руя́* 'гайня' ад **ru-ti* 'раўсці' (Махэк$_2$, 532). Параўн. *труíзна* (гл.).

**Труя́**$_2$ 'пацяруха' (ТС, Альп.). Узыходзіць да прасл. **trouti* 'пераціраць, есці', у якім *-ou-* перад зычным развілося ў *-ū-* ў аснове **tru-* (ст.-слав. **трѹти** 'пераціраць, есці', рус. дыял. *трутить* 'церці'), да якой далучаўся суф. **-j-a*. Параўн. *трухá* (гл.).

**Тры** 'лік і лічба 3', 'колькасць, абазначаная лічбай 3' (ТСБМ, Некр. і Байк., Федар. 4, Ян., ТС, Сл. ПЗБ), *трі* 'тс' (Бяльк.), ст.-бел. *три*, *тры* 'лік, колькасць 3; група з трох чалавек', *трии* 'тс' (ГСБМ). Звяртаецца ўвага на спалучэнне ў народнай мове няпарных лічбаў: *тры пяць* 'тры разы па пяць' (адсюль народнаэтымалагічнае тлумачэнне назвы *Прыпяць*), *тры дзевяць* – колькасць вугалькоў пры зняцці ўрокаў і інш. (Кольб., 441). Укр. *три*, *трийе* (м. р.), рус. *три*, стараж.-рус. *трье* (м. р.), *три* (ж. і н. р.), польск. *trzej* 'трое мужчын', *trzy*, ст.-польск. *trzy* (з XV ст.), *trze* (м. р. асабовы), н.-луж. *tśo* (пра мужчын), *tśi*, в.-луж. *tři* (ж. і н. р.), *tšo* (м. р.), палаб. *tåri*; чэш. *tři*, ст.-чэш. *tři* (ж. і н. р.), *třie* (м. р.); славац. *trî* (ж. і н. р.), *traja* (м. р.), славен. *tri* (ж. і н. р.), *tríje* (м. р.), харв. *trî*,

серб. *трӣ*, макед. *три*, балг. *трѝ(те)*, ст.-слав. **трьѥ** (м. р.), **три** (ж. і н. р.). Прасл. **trьje* (м. р.), **tri* (ж. і н. р.) роднаснае ст.-інд. *tráyah* (м. р.), *trī*, *tríni* (н. р.), авест. *vrayō*, арм. *erek*‘, ст.-грэч. τρεῖς, дыял. τρέες, τρῆς, алб. *tre*, *trí*, лац. *trēs*, оск. *trís*, вал. *tri*, тахар. *A tre*, хецк. *tri*, ст.-ісл. *þrír*, гоцк. *þreis*, *þreja*, літ. *trys*, лат. *trî* < і.-е. **trei̯-* ‘тры’, **trei̯o- / *troi̯o* ‘трое’ (Фасмер, 4, 101–102; Чарных, 2, 262; Скок, 3, 500–501; Махэк$_2$, 657; Брукнер, 580; Борысь, 651; ЕСУМ, 5, 634; Бязлай, 4, 224–225; Новое в рус. этим., 235–237; ESJSt, 16, 983).

**Трыб$_1$** ‘квартальная вузкая прасека ў лесе, лясная прамая дарога’ (Сл. Брэс.; пруж., Яшк.; кам., Жыв. НС; кобр., Скар. НМ), *трыба* ‘прасека ў лесе для лакалізацыі ачага пажару ці размежавання лясных кварталаў’ (Скарбы; Чыгр.; слонім., Жыв. НС, Сцяц.; шчуч., З нар. сл., Сцяшк.; шчуч., воран., Сл. ПЗБ), *трэб* (*треб*) ‘граніца, мяжа’ (Дабрав.), *трэ́ба* ‘прасека, прагал’ (Сл. Брэс.), *трэ́бо* ‘роўнае месца за вёскай’ (пруж., Чэрн.), ст.-бел. *трибъ*, *трыбъ* ‘кірунак, лінія (у лесе); прасека’ (1554 г.), *трыба* ‘тс’ (1608 г.), *трыбокъ* ‘тс’, *трибовати* ‘абазначаць кірунак’ (1600 г.) (ГСБМ). Праз польск. *tryb* ‘дарога, сцежка’, *tryba* ‘тс’, ‘вузкая паласа поля, загон’, ‘мяжа’, ‘прасека’ з с.-в.-ням. *trib* ‘выган, паша’, н.-в.-ням. *Trieb* ‘дарога, па якой ганяюць быдла, прагон’, ‘плынь, цячэнне’ (Вінцэнц), што да с.-в.-ням. *tríben* ‘гнаць, праганяць’ (Чартко, Дасл. (Гродна), 59), ст.-в.-ням. *tríban*, гоцк. *dreiban*, англ. *drive* ‘тс’, ‘прыводзіць у рух’ (SWO, 1980, 778; Брукнер, 578; ЕСУМ, 5, 634). Ст.-бел. *трибовати* ‘абазначаць кірунак’ (1600) запазычана са ст.-польск. *trybować* < с.-в.-ням. *tríben* ‘гнаць’ (Булыка, Лекс. запазыч., 93; Вінцэнц).

**Трыб$_2$** ‘жыццёвы шлях’ (Варл.): *ніякім трыбам* ‘ніяк, ніякім спосабам’ (Ян.), ст.-бел. *трибъ*, *трыбъ* ‘парадак, звычай’ (Ст.-бел. лексікон), ‘спосаб, устаноўлены парадак’ (1588 г., ГСБМ). Апошняе запазычана са ст.-польск. *tryb*, якое з нова-в.-ням. *Trieb* ‘плынь, цячэнне’, што, паводле Вінцэнца (гл.), з’яўляецца метафарай на базе значэння ‘дарога’.

**Тры́ба$_1$** ‘шасцярня малатарні’ (ТСБМ; карэліц., нясвіж., Нар. словатв.; драг., Жыв. сл.). З польск. *tryb* ‘шасцярня’, *tryby* ‘прыстасаванні, найчасцей шасцярня альбо шэраг шасцерняў, якія пераносяць рух на іншыя часткі машыны’ (< ням. *Trieb* ‘імкненне’),

'прывад, цяга', 'перадача' < *treiben* 'прыводзіць у рух' (SWO, 1980, 778; ЕСУМ, 5, 634).

**Тры́ба₂** 'кожнае з трох падраздзяленняў, на якія дзялілася насельніцтва Рыма паводле паходжання' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рускую мову запазычана з лац. *tribus* 'тс' < і.-е. **tribh-* 'дзяліць, раздзяляць' (Вальдэ, 1906, 636).

**Трыбло́**, *трэбло́* 'жывот, страўнік (жывёлы)' (Рэг. сл. Віц.), 'пуза, трыбух' (ТС), *трэбло́* 'тоўсты, няўклюдны і прагны да яды' (Растарг.), *тры́бло* 'пузаты' (Зайка Кос.), 'трыбух' (пін., ЖНС), *трабло́* 'жывот, чэрава' (Мат. Гом.), *трубло́* 'чэрава' (рас., ЛА, 1), *трыбла́ты*, *трэбла́ты* 'чэраваты' (лун., стол., лельч., ЛА, 1; лельч., Нар. лекс.; шуміл., Сл. ПЗБ), 'тоўсты' (Сцяшк. Сл., ТС), 'трыбухаты, з вялікім чэравам' (кам., Сл. ПЗБ), *трыбла́тый* 'тс' (лун., Шатал.; кам., Жыв. НС), *трібластый* 'тс' (сен., ЛА, 1), *трубла́ты* 'тс' (ельск., там жа). Укр. *три́бло* 'вялікі ненасытны жывот', 'чалавек, які шмат есць', рус. пск., смал. *требло́* 'вялікі жывот; тоўсты чалавек, прагны да яды'. Няясна. На сувязь з *требух* (гл. *трыбух*) указвае ЕСУМ, 5, 626. Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 5, 135), слова запазычана з літ. *driblà* 'той, хто вялікі', 'тое, што вялікае', параўн. і літ. *tribuliúoti* 'мяць'. Як праславянскі дыялектызм разглядае **treb(ъ)lo* Трубачоў (Труды, 1, 284), роднасны лац. *strebula* 'мяса на бёдрах ахвярнай жывёлы'. Гл. таксама *трубло.*

**Трыбны́** 'сытны (пра страву)' (лельч., Нар. лекс.). Да *трыўны*, *трыўкі* (гл.).

**Трыбо́к** 'ручка, дэталь прывода медагонкі' (Анох.). Ад *трыб*, *трыба₂* (гл.).

**Тры́брат** 'рыбалоўная снасць – крыга або гегні – з драўлянай асновай – палазамі' (брасл., Лекс. балтызмы, 18). Балтызм, параўн. літ. *trìbradis*, лат. *trijbradis* 'браднік, які вядуць рыбаловы' < лат. *tris* 'тры' + *brist* 'брысці' (Лаўмане, там жа; Анікін, Опыт, 289). Параўн. іншыя назвы, магчыма, частковыя беларускія калькі: *трайнік*, *трыяк*, *трыброднік*.

**Тры́братдзеці** 'траюрадныя браты або сёстры' (дзісн., Бел. дыял. 3). Слова, запісанае Я. Драздовічам у 20-х гадах XX ст., спалучае лічэбнік *тры* (гл.) і вядомае ў смаленскіх гаворках словазлучэнне *брат-дети* (*брад-дети*) 'дваюрадныя браты і сёстры' (ССГ), параўн. *збратдзетны* 'дваюрадны' ў адносінах да дзяцей

дзядзькі або цёткі (Панюціч, Лексіка, 35), гл. з*братдзеці*. Агульнае значэнне слова – 'браты і сёстры ў трэцяй стрэчы', гл. *стрэча*$_2$.

**Трыбу́лька** 'скарада, *Allium schoenoprasum* L.' (гродз., Кіс.), 'дробная цыбуля' (Гарэц.). Параўн. укр. *трибу́лька* 'цыбуля-скарада, *Allium* L.', *трембу́лька* 'тс', 'дробная цыбуля для пасадкі', рус. *трибу́лка* 'цыбуля-шалот'. Паводле ЕСУМ (5, 634), назва перанесена з *требу́ля* 'маркоўнік цямянечналісты, *Anthriscus cerefolium* Hoffm.', які таксама, як і цыбуля, ужываецца ў кулінарыі ў якасці вострай прыправы. Назва апошняга запазычана праз польскую мову (*trzebuła*, *trzebula*, *trzebulka*, *trybulka* і з несапраўдным насавым – *trębulka*), дзе з чэш. *třebule* (< **čřebule*, паводле Бочка (Studia Etym. Brun., 49) <**čerbūl'a*) < італ. *cerfoglio*, якое ўзыходзіць да лац. *cerefolium* < ст.-грэч. χαιρέφυλλον (Брукнер, 580; Махэк, Jména, 168–169; Махэк$_2$, 656). Паводле SWO (1980, 779), узыходзіць да лац. *tribulus* 'асот, *Sonchus* L.'.

**Трыбу́н** 'назвы розных службовых асоб у Старажытным Рыме', 'грамадскі дзеяч – выдатны прамоўца і публіцыст' (ТСБМ), ст.-бел. *трибунъ* 'службовая асоба ў Старажытным Рыме' (XVII ст.). Са ст.-польск. *trybun* < лац. *tribūnus* 'чыноўнік' < *tribus*; ст.-бел. *трибусъ* 'выбарчая акруга ў Старажытным Рыме', запазычана ў XVI ст. праз ст.-польск. *trybus* 'тс', гл. Булыка, Лекс. запазыч., 36. Лац. *tribūnas* роднаснае умбр. *trifu* < іт. *tribhu* 'трацiна' < **tri* 'тры' (спачатку было тры часткі насельніцтва) і і.-е. **bhū̆ / bheu̯-* 'быць' (SWO, 1980, 680–681; Чарных, 2, 262; ЕСУМ, 5, 634).

**Трыбу́на** 'ўзвышэнне для выступлення прамоўцы', 'месца, дзе праходзіць грамадская дзейнасць каго-небудзь' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'месца для выступоўца' (Вруб.), *трібу́на* 'тс' (Бяльк.). Праз рускую ці польскую мовы запазычана з франц. *tribune* ці італ. *tribuna*, якое з с.-лац. *tribuna* 'трон епіскапа', а апошняе – з лац. *tribūnal* 'вышэйшае, узнятае месца для абвяшчэння прамоў', 'трыбуна суддзі, правадыра' < *tribūnus* 'начальнік гарадскога квартала, які ў Старажытным Рыме называўся *tribus* 'чыноўнік, народны трыбун' (Чарных, 2, 262; Голуб–Ліер, 489; SWO, 1980, 779; ЕСУМ, 5, 634).

**Трыбуна́л** 'судовы орган для разгляду ваенных і асабліва цяжкіх грамадзянскіх злачынстваў' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Ст.-бел. *трибуналъ (трыбуналъ)* 'вышэйшы апеляцыйны суд' (1540 г.).

Запазычана са ст.-польск. *trybunał* ‘вышэйшы апеляцыйны шляхецкі суд (з 1578 г.)’ (Булыка, Лекс. запазыч., 52), якое з лац. *tribūnal* ‘узвышэнне, на якім сядзелі магістраты (трыбуны) пры выкананні службовых абавязкаў’, ‘крэсла суддзі, палкаводца’ < *tribūnus* ‘чыноўнік’ (Голуб–Ліер, 489; ЕСУМ, 5, 634; SWO, 1980, 779).

**Трыбу́х** (*трабу́х*, *трябу́х*) ‘страўнік’ (ТСБМ, Федар. 4, Бяльк., Касп., Варл., Сцяшк., Сл. Брэс., Пятк. 2, Растарг.), ‘страўнік у жывёл’ (Сл. ПЗБ, ЛА, 1), ‘кіндзюк; страўнік жывёлы, начынены грэцкай кашай са шкваркамі альбо з кавалачкамі сала’ (Ласт., Малч.), ‘вантробы’ (Байк. і Некр., Др.-Падб., Сл. Брэс.), ‘сальцісон’ (Сл. Брэс.), *трыбухí* ‘вантробы (страўнік, кішкі і інш.)’ (Нас., Гарэц., ТСБМ, Ласт., Пятк. 2, Байк. і Некр., Мат. Гом., Мат. Маг., Юрч. Вытв.), *трыбухé* ‘тс’ (Скарбы), *трыбушкí* ‘ўнутранасці дробных жывёл, якія ўжываюцца ў ежу (парасячыя, індычыя, рыбныя)’ (Нас.), *трыбу́х / трыбушóк* ‘пуп у птушак’ (гродз., ЛА, 1), *трыбу́х* ‘пуза, чэрава’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Байк. і Некр., Вруб.), ‘вялікі жывот’ (Сл. ПЗБ, Скарбы, Жд. 1); ст.-бел. *требухи* ‘трыбухі, вантробы’ (ГСБМ), ц.-слав. *трибухъ* ‘страўнік, жывот’; сюды ж *трыбуха́ч* ‘пузаты чалавек’ (в.-дзв., Шатал., Сцяц.; маладз., Янк. Мат.; клец., Нар. лекс., ТСБМ, Сцяшк., Сл. Брэс.), ‘чалавек з вялікім жыватом’ (карэліц., ЖНС; гарад., Сл. ПЗБ); *трыбухле́й* ‘брухач, пузан’ (зэльв., Нар. словатв.; івац., Сл. ПЗБ); *трыбушы́шча* ‘таўстун’ (Юрч. СНЛ); *трыбушы́на* ‘цела, тоўстае чэрава’ (Нас.), *трыбу́шнік* ‘падчарэўе (сала з ніжняй часткі свіной тушы)’ (дзятл., ЛА, 4), *трыбушня́* ‘трыбухатая’ (Сцяц.), *трыбуха́тасць* ‘тлустасць’ (Юрч. СНЛ). Укр. *трebу́х* ‘чэрава’, ‘страўнік’, ‘вантробы жывёлы’, ‘свіны страўнік, начынены мясам і правялены’, *требу́ха́* ‘тс’, *трибу́х* ‘тс’, *трембуха́ч* ‘пузан’; рус. *требуха́* ‘вантробы’, польск. дыял. *trybuch*, *terbuch* ‘чэрава, пуза’, н.-луж. *tarbuch* ‘тс’, усх.-чэш. *terboch* ‘тс’, ст.-чэш. *teřbuch*, *teřich* (у якім *-řich* пад уплывам *břich* ‘пуза, чэрава, жывот’), славац. *terbuch*, *trebucha* ‘падбародак’, ‘вялікае пуза, чэрава’, славен. *trébuh* ‘жывот, пуза, кішэчнік’, *trebûšec*, *trebûšek*, *trebûšič* ‘тс’, рэз’ян. *tríbu*, *trebuh*, *treibuh* ‘чэрава, пуза’ (XVI ст.), харв. *tȑbuh*, чак. *trbȕh*, серб. *тр́бух* ‘жывот, кішэчнік’, ‘пуза’, *тр́ба* ‘страўнік’, *тр́бу*, *трбу̏а* ‘тс’, балг. *търбу́х*, *тъ́рбух* ‘жывот, пуза’, макед. *трбув* ‘жывот; страўнік’, ст.-слав. **тръбѹхъ** ‘рэшткі з вантробаў’, ‘кі-

шэчнік’. Этымалогія і рэканструкцыя праславянскай формы няпэўныя (ESJSt, 17, 995). Прасл. **tьrbuch*, згодна з Карскім (1, 188), адпавядае найбольш распаўсюджанай форме беларускага слова; рус. *требух* таксама можна вывесці з прасл. **tьrbuxъ*; да апошняга ўзводзяцца некаторыя паўд.-слав. лексемы. Для славенскай мовы адпаведным з’яўляецца **trěbuxъ* (Сной у Бязлай, 4, 217–218), для н.-луж. характэрна **tъrb-*, а для зах.-слав. моў – **terb-* (пасля метатэзы плаўных з **treb-*). Дапускаючы прасл. **terbuxъ* / **tьrbuxъ*, Куркіна (ОЛА, Исследов. 1984, 275) тлумачыць семантыку слова як ‘вантробы забітага звера, з якіх даставалі (“выцярэблівалі”) ‘мяса’, гл., аднак, супрацьлеглае дзеянне ў *трабіць* ‘набіваць у трыбух’: *трабіць і трабіць трабух* (Мова Сен.). Экспрэсіўная суфіксацыя, як у **kъlbuxъ* (Глухак, 637), параўн. *каўбу́х* ‘страўнік жывёлы’ (Сл. ПЗБ), гл. *коўб*$_2$. Іншыя версіі з’яўляюцца менш пераканаўчымі. Сюды ж, відаць, таксама *трыбушно́* ‘сытна, трывала’ (ТС).

**Трыбушо́нік** (*требушоник*) ‘штопар’ (Нас.), *трыбушо́нак* ‘тс’ (Касп.). Праз польскую мову *(trybuszon)* запазычана з франц. *tire-buchon* ‘тс’ < *tirer* ‘цягнуць’ + *buchon* ‘корак, затычка’, апошняе – з *boucher* ‘закрываць’ < *bois* ‘дрэва (як матэрыял)’ < с.-лац. *boscus* ‘тс’ (SWO, 1980, 779; ЕСУМ, 5, 635).

**Трыбушы́ць** ‘патрашыць, вымаць вантробы з забітай жывёліны’ (ТСБМ, Байк. і Некр.; мёрск., Жыв. НС), ‘разварочваць, разрываць, даставаць усё, што знаходзіцца ў чым-небудзь’ (ТСБМ, Растарг.), ‘тармашыць, рабіць вобыск’ (там жа, ТС), ‘трэсці; разварочваць’: *трыбушыць у сундуку* (Юрч. СНЛ), *турбу́шыць* ‘тармасіць, тузаць’ (ТС), *трыбушы́цца* ‘знішчацца, развальвацца, рвацца’ (Юрч. Вытв.), *трэбушы́ты* ‘трэсці, калаціць’ (пін., Нар. лекс.), сюды ж *трыбушэ́ннік* ‘той, хто трасе, разбурае’ (Юрч. СНЛ). Укр. *трибушити* ‘рассыпаць, раструшваць’, ‘выдаляць вантробы з рыбы ці забітай жывёлы’, *трибуши́тися* ‘рассыпацца, раструшвацца’, *тельбуши́ти* ‘раструшваць’, польск. *trybuszyć* ‘матлашыць; патрашыць забітага звера’, славен. *trebúšiti* ‘напружвацца, выпучваць жывот, пуза’, балг. *търбу́ша*, дыял. *тербу́ша* ‘вымаць вантробы’, макед. *трбуши* ‘патрашыць, распорваць жывот’. Да *трыбу́х* (гл.), утворана, як *патрашы́ць* ад *потрахі* (гл.).

**Трыва́нне** ‘граматычная катэгорыя, якая выражае закончанасць / незакончанасць дзеяння ў часе’ (ТСБМ, Некр. і Байк., БРС). Неалагізм на аснове *трываць* (гл.), адпаведнік рус. *вид, аспект*, фіксуецца ў “Беларускай граматыцы для школ” Б. Тарашкевіча (1918 г.).

**Трыва́ць**, *трыва́ці* ‘вытрымліваць, цярпліва пераносіць боль, непрыемнасць, цярпець’ (ТСБМ, Нік. Очерки, Бяльк., Касп., Байк. і Некр., Гарэц., ТС, Сл. ПЗБ, Варл.; ашм., Стан.) ‘працягвацца пэўны час’ (ТСБМ, Вруб.), ‘доўга захоўваць прыдатнасць, трымацца’ (Нас., ТСБМ), ‘быць, існаваць, перабываць’ (Нас., Некр. і Байк.), *трва́ць* ‘перабываць, працягвацца; трымацца’ (Нас.), *тырваць* ‘цярпець’ (Бяльк.). Ст.-бел. *трвати* (з 1507 г.) запазычана са ст.-польск. *trwać* ‘быць, існаваць працяглы час, заставацца без змен’ (Булыка, Лекс. запазыч., 197), аднак адаптаваная форма *търывати* ‘быць, працягвацца’: *сесь листъ нашъ маеть търывати вѣчно и непорушно* (ГСБМ, 34, 56), зафіксавана ў 1438 г., што, магчыма, сведчыць аб яе існаванні яшчэ да запазычанай формы адначасова са ст.-чэш. *trvati*, чэш. *trvat*, славац. *trvat'*, н.-луж. *trwaś*, харв. дыял. *trvat*, што ўзыходзяць да прасл. **trъvati* ‘трываць, цярпець’, якое ўжывалася побач з **trajati* ‘працягвацца, цягнуцца’, ‘насіцца (пра адзенне)’, зафіксаванае ў формах: славен. *trâjati* ‘тс’, харв. *trȁjati*, серб. *тра̏јати*, макед. *трае*, балг. *тра́я* ‘трываць, цярпець’, ст.-чэш. *tráti*, *traju* ‘трываць, заставацца, вытрымліваць’, ‘жыць, існаваць’, в.-луж. *trać*, *traju*, н.-луж. *traś*, *trajom* ‘трываць’, і роднаснае ст.-інд. *tárati* ‘захоўвае, прыбірае, хавае’, ‘пераадольвае, перамагае’, *trāyáte* ‘ахоўвае, беражэ’, іран. **tarvaya* < **trva-*, авест. *taurvaya* ‘пераадольваць ворагаў’ (Трубачоў, Этимология–1965, 58–61), ст.-грэч. τρανης, τρανῶς ‘ясны, вызначаны’, ‘ясна’, лац. *intrāre* ‘ўвайсці’, хец. *tarhzi* ‘перамога’ < і.-е. **terh₂* ‘прайсці праз што-небудзь, пераступіць, перамагчы’ (Сной₂, 775–776). А праславянская форма **trъvati (< *trŭu̯-a < trū-ā-)* суадносіцца са ст.-інд. *tū́rvati* ‘перамагае’ – усе да і.-е. **ter- / *trá- / *teru* ‘пераходзіць, пранікаць праз што-небудзь’ (Борысь, 646; Скок, 3, 488–489). Махэк₂ (655) мяркуе, што прасл. **trъvati* з’яўляецца адыменным утварэннем ад прыметніка **trъvъ*, які адпавядае ст.-інд. **dhruvá-* ‘трывалы, пэўны, пастаянны’, лац. *dūrus* ‘цвёрды, непадатлівы’ і ням. *dauern* ‘працяглы’, ‘моцны’; гэ-

таксама Голуб–Ліер (491). Гл. таксама Брукнер, 578; ЕСУМ, 5, 635. Сюды ж шматлікія дэрываты: *трыва́лы* 'які моцна не паддаецца разбурэнню, псаванню' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Касп., Байк. і Некр., Сцяшк.), 'моцны, дужы, здаровы' (Сл. ПЗБ, ЛА, 5), 'вынослівы, цягавіты' (Шат., Байк. і Некр., Гарэц., Варл.), 'здольны многае вынесці, перажыць, стойкі, загартаваны' (ТСБМ, Некр. і Байк., Нас.), 'які не мяняецца, надзейны, устойлівы' (ТСБМ; шальч., Сл. ПЗБ), *трыва́льшы* 'мацнейшы, дужэйшы' (Ян.), *трыву́шчы(й)* 'вынослівы, жывучы' (Сцяшк., Сл. Брэс.), *трыва́л* 'пажыўны': *пры хлебе й квас трывал* (Сержп. Прык.), *трывалкі* 'тс' (Гіл.), *трыва́нне* 'цярпенне' (Касп.), *трыва́ласць* 'вынослівасць, цягавітасць' (Байк. і Некр.), *трыва́ючы* 'моцны' (Нас.), *трыва́льны* 'тс' (навагр., іўеў., валож., ЛА, 5), *трыва́ла* 'моцна' (Ласт.), ст.-бел. *трывалый*, *тривалый* 'сталы, надзейны', *трвалый* 'устойлівы', 'сытны, пажыўны (пра яду)', *трванье*, *трыванье* 'захаванне, працяг' (ГСБМ). Параўн. рус. *вытрывалый*, гл. Анікін, РЭС, 9, 204.

**Трыві́нка** 'братавая, жонка брата' (Сл. Брэс.), *трыві́нка* 'тс' (кобр., Нар. лекс.), *трывінкі* 'ятроўкі' (жабін., ЛА, 3), *втрывынкы́* 'тс' (кобр., там жа). Да *ятроўка* (гл.), што генетычна ўзыходзіць да прасл. **jętry*, Р. скл. адз. л. *jętrъve* 'ятроўка'. Хутчэй за ўсё, ад памяншальна-ласкальнай формы **ятрывінка*, параўн. палес. *ўтриві́нка* 'жонка мужавага брата' (Дзендзялеўскі, Бел.-укр. ізал., 25), з адпадзеннем пачатковага *я-* (< прасл. **ję-*), каб пазбегнуць падабенства з *ятрыць* 'раздражняць', гл.

**Трывія́льны** 'звычайны, неарыгінальны' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *тривиа́льный* ці польск. *trywialny* 'тс' з заходнееўрапейскіх моў, паходзіць з лац. *triviālis* 'тое, што валяецца на вялікай дарозе' (Фасмер, 4, 102), што, у сваю чаргу, ад *triwium* 'скрыжаванне трох дарог'.

**Трыво́га** 'неспакой, моцнае душэўнае хваляванне, выкліканае страхам' (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр., Федар. 4, Пятк. 2, Мал., ТС, Кліх, Вруб., Сл. ПЗБ, Вушац. сл.; палес., віл., рас., талач., мсцісл., касцюк., ЛА, 5), 'сполах, непакой' (Некр. і Байк.), 'замяшанне, перапалох' (Ласт.), 'небяспечнае становішча', 'сігнал, які апавяшчае аб ім' (ТСБМ, Шат.), *трыво́жыць* 'прыходзіць у стан непакою', 'парушаць спакой, турбаваць', 'раздражняць, раз'ятрываць' (ТСБМ, Бяльк., Байк. і Некр., ТС, Юрч. Сін.;

паўсюдна, ЛА, 3), *трывожны* (лоеў., ЛА, 2), *трыво́жыцца* (ТС), ст.-бел. *трвога* 'трывога' (1538 г.), 'неспакой, бунт; клопат, турбота', *тривога*, *тревога*, *трывога* 'тс' (1574 г., ГСБМ). Укр. *триво́га*, *трево́га*, рус. *трево́га* 'трывога', ст.-польск., польск. *trwoga* 'стан, адчуванне неспакою', 'спалох, страх, боязь', 'спрэчка, звада', 'хваляванні, небяспека', каш. *trvoga* 'няшчасце, бяда, бедства', балг. *тревога* 'тс' (відаць, з рус. *тревога*). Прасл. **trъvoga*, а ўлічваючы рускую форму, – **trьvoga*. Этымалогія няпэўная: Фасмер (4, 97) звязвае з рус. *отва́га*; Борысь (646) дапускае ўтварэнне польск. *trwoga* ад прасл. **trъvati* 'трываць, цярпець' з дапамогай суф. *-*oga*; гэтаксама раней Брукнер (578), выводзячы лексему з дзеяслова *trwać* (гл. *трываць*). Сумненні адносна названых і іншых этымалогій гл. Фасмер, 4, 97.

**Трыву́льны** 'вытрыманы, цярплівы', 'спажыўны, смачны' (Сцяшк. Сл.), *трыву́ло* 'сытна, трывала' (Сцяц., Сцяшк. Сл.), *трыва́льна, трыву́льна* 'моцна, стойка' (беласт., Стан.), *трыу́льно* 'сытна' (Сл. рэг. лекс.). Да *трыва́лы* < *трыва́ць* (гл.). Суфіксальнае *-у-*, відаць, пад уплывам іншых форм гэтага ж дзеяслова, параўн. *трыву́шчы* 'трывалы, спажыўны' (лід., баран., лях., Сл. ПЗБ), 'трывалы, моцны', 'жывучы' (навагр., Жыв. сл.; рагач., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *трыву́шчы(й)* 'вынослівы' (Сл. Брэс., ТСБМ), *трывушчэй* 'дужэй, мацней, здаравей' (баран., Сл. ПЗБ).

**Трыву́х(а)** (*треву́ха*, *трeву́х*) 'удар, поўха' (Нас.), *трыву́шина* 'аплявуха' (там жа), *трыву́шыць* 'біць у вуха' (Юрч. Вытв.). З рускай мовы: *треу́х* 'поўха'. Паводле Фасмера (4, 101), з *тре-* і *у́хо*, першая частка, відаць, з *тре́снуть* 'ударыць, стукнуць', параўн. рус. *затре́щина* 'аплявуха'.

**Трыга́н** 'трыножак' (Ласт.). Адзінкавая фіксацыя, магчыма, сведчыць пра штучнае паходжанне слова – ад *тры* (гл.) і *таган* (гл.).

**Тры́гельт** 'гасцінчык, чаявыя' (В. Дунін-Марцінкевіч). Запазычана праз польск. *tryngielt* з ням. *trinkgeld* 'невялікая сума грошай на пачастунак за зробленую паслугу' (Вінцэнц), літаральна 'грошы на выпіўку' (ад *trynken* 'піць; выпіваць'), магчыма, пры пасрэдніцтве ід. *trinkgeld* 'чаявыя'. Гл. *трынкнуць*.

**Трыгі́к-трыгі́к** 'скок-скок (на адной назе)' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Імітатыў, утвораны пры дапамозе гукапераймальнага суфікса *-ік*,

параўн. *татаргік-татаргік* (гл.), з перастаноўкай гукаў *тыргікаць* 'кульгаць, ісці накульгваючы' (гл.).

**Трыглавец**, ст.-бел. *триглавецъ* 'трохгаловая істота, пачвара' (1489 г., ГСБМ), сюды ж мікратапонім *Трыглаў* 'назва каменнага ідала' (Дучыц Л. Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў. Мінск 1994, 37, 53). Параўн. у паморскіх славян *Trigelawus* 'паганскі бог', назвы горных вяршынь славен. *Triglav*, *Triglavec*, серб. *Триглав* 'паганскі бог': *страшног бога Триглава* (Петровић С. Систем српске митологије. Београд 199, 190); іншыя фіксацыі няпэўныя. З-за адсутнасці поўнагалосся, хутчэй за ўсё, запазычана з паўднёваславянскіх моў праз пісьмовыя крыніцы, прасл. **tri-golvъ* са спасылкай на Міклашыча падае Сной у Бязлай, 4, 224 (гл. *тры*, *галава*), параўн. літ. *trigalvis* 'трохгаловы', што магло паўплываць на захаванне няпоўнагалоснай формы беларускага мікратапоніма ці міфоніма. Гл. яшчэ Скок, 3, 500; Цыхун, Зб. Супруну, 237.

**Трыгу́біца** (*трэгу́біца*, *трыгу́бка*, *тру́біца*) 'рыбалоўная снасць з трох палотнаў (дзве сеткі па баках з рэдкімі вочкамі – рэдзі, а сетка пасярод – густая з вочкам, куды трапляе рыба)' (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ, Байк. і Некр., Шат., Сцяшк.; ашм., Яшк. Мясц., Скарбы$_2$; докш., валож., ЛА, 1; мін., гродз., Браім, Рыбалоўства, 45), *трогу́біц'а* 'тс' (зах.-палес., Дзендзялеўскі, Бел.-укр. ізал., 25), *трыгу́біца* 'трохсценная сетка на птушак' (Чач., Нас., Цярохін, Охота), 'восці з трыма зубамі' (Нас.), *трыгу́бка* 'тс' (Байк. і Некр.), ст.-бел. *тригубица*, *трыгубіца* 'рыбацкая сетка (1557 г., ГСБМ), параўн. рус. *трегубица*, польск. *trygubica*, *tryubica*, *trubica*, *drgubica*, *drygubica* 'трайная сетка на рыб і птушак з густой сярэдняй і рэдкімі бакавымі часткамі', балг. *тра́губа*, *търгу́ба*, *търгу́бица* 'сетка з падвойнай ніжняй часткай (пазухай)', чэш. *trýhubka* 'від сеткі для лоўлі птушак'. Прасл. **trьgubica* ад **trьgubъ* 'трайны', або ад **trьgubiti* 'патройваць', параўн. ст.-слав. **трьгоубити** 'тс', літ. *trìgubas* 'трайны'. Пачатак слова Фасмер (4, 95) звязвае з прыставачным ц.-слав. *тре-*, параўн. ст.-рус. *тресвѣтлое слънце* ў "Слове аб паходзе Ігаравым" (гл. *трыкляты*); другая частка ўзыходзіць да **gubъ* (гл. *губ*) з першасным значэннем 'складка' (SEK, 2, 228). Значэнне 'восці' другаснае ў выніку атаясамлівання *губ=зуб*. Гл. таксама Брукнер, 578 (сумненні адносна прынятай

этымалогіі); Кодаў, Сп. на БАН, 63, 151; Нізіньска, ZPSS, ser. 3, 1968, 227–232; Карскі 2–3, 99.

**Трыд** ‘баязлівец’ (Мат. Маг.). Няясна.

**Тры́дзевяць** ‘вельмі многа, няпэўная колькасць’: *сядзіць маць Прачыста на прыстоле і дзержыць трыдзевяць ключы ў прыполе* (БНТ, Зам.), ‘дваццаць сем’: *у камори стоиць тридзевяць дубовых; тридзевяць скацерсци шавковыя* (Рам. 5), у 1930-я гады адпавядала *тро́йчы дзе́вяць* (Некр. і Байк.); сюды ж *трыдзевя́ты*: *трыдзевятае царства* ‘вельмі далёкая краіна, зямля’ (ТСБМ), *трыдзевя́тка* ‘крынічнік-дуброўка, *Veronica chamaedrus* L.’ (маг., Кіс.). Параўн. укр. *три́дев'ять* ‘дваццаць сем’, рус. *три́девять* ‘тс’; ‘многа’: *три́девять иминь* ‘заклінанне ад ліхіх сіл’, ст.-рус. *тридевѧ(т)о* (у берасц. грамаце XIII ст., Залізняк, Древненовг.), польск. *trzy dziewięcie* ‘тры разы па дзевяць (у вясковых лекарак)’, серб. цімак. *три́девет* ‘дваццаць сем’: *чим вода́ у реку пројде тридевет ка́мена, мож се пије*; балг. радоп. *три́-де́вет*’: *три́-девет*’ *по̂ти* ‘шматразова’, макед. *три-девет*: *зад три-девет планини* ‘вельмі далёка’. Прасл.*tri devętь – спалучэнне (гл. *тры*, *дзевяць*), якому прыпісваліся магічныя функцыі, асабліва т. зв. патроенай дзявятцы, характэрна, што лічэбнік «дваццаць сем» у замовах не называецца (Лукінова, Числ., 64). Архаізм, які захоўвае рэшткі ліку дзявяткамі (Карскі 2–3, 346), вядомы іншым мовам, параўн. лат. *trejdeviņi* ‘вельмі многа’, грэч. τρὶς ἐφφέα ‘тройчы дзевяць’ (Жураўлёў, Язык и миф, 739). Спалучэнне лічэбнікаў у назве расліны грунтуецца на прыпісанай ёй якасці лячыць ад вялікай колькасці хваробаў (Коласава, Лексика, 139). Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 636; Карпенка, Зб. Супруну, 103 (спалучэнне захавалася, бо страціла дакладнае колькаснае значэнне).

**Тры́дзесяць** ‘многа, няпэўная колькасць’: *трыдзесяць ран* (БНТ, Зам.), ст.-бел. *тридесятъ*, *тридесять*, *тридесеть* ‘трыццаць’ (1431 г., ГСБМ), сюды ж *тры-дзесяты*: *у тры-дзісятум царстве* ‘ў вельмі далёкай краіне’ (маз., Сержп. Прык. і прым.), ст.-бел. *тридесятый* ‘трыццаты’ (ГСБМ). Захаваная несцягненая форма лічэбніка *трыццаць* (гл.), параўн. балг. *три́десет*, макед. *триесет*, серб. *тр̀идесет*, славен. *trîdeset*, на думку Анікіна (Новое в рус. этим., 237), узыходзіць да прасл. **trьje desęte* ‘трыццаць’, рана замененага формай **tri desęti* ‘тс’, параўн. літ. *trisde-*

*šimt*, лат. *trîsdešimit*, літаральна ‘тры дзясяткі’. Паводле Лукіновай (Числ., 64), падтрыманая аналогіяй да *трыдзевяць* (гл.).

**Тры́ер** ‘трыер, машына для ачысткі і сартавання насення’ (ТСБМ, Брасл. сл.), *тры́ёр* ‘тс’ (Сцяшк.), *трэ́ер* ‘тс’ (Жд. 1). Праз польскую мову *(tryjer)* з франц. *trieur* ‘сартавальнік’, якое з *trier* ‘перабіраць, сартаваць’ (Голуб–Ліер, 489; SWO, 1980, 779; ЕСУМ, 5, 643).

**Трыёдзь** ‘хрысціянская богаслужэбная кніга, у якой змешчаны трохпесенныя каноны’ (ТСБМ), ст.-бел. *треодь, триодь* (1494 г., ГСБМ), стараж.-рус. *триодь* (з 1200 г.). З с.-грэч. τριώδιον ‘тры песні’ (Фасмер, 4, 103).

**Тры́заўка** ‘рутвіца рагатая, *Lotus corniculatus* L.’ (віц., Кіс., Ласт.). Няясна. Фармальна блізкая да чэш. *trězalka* ‘зверабой’ і, магчыма, да чэш. *trejzel*, *trýzel*, славен. *trizelj*, харв. *trȕzalj*, *trižalj* ‘жаўтушнік, *Erysimum*’, што да **tri-* (гл. *тры*), якое характарызуе асаблівасці будовы расліны, параўн. з укр. *trojčyste zilla* ‘*Lotus corniculatus* L.’ (Макавецкі, Sł. botan.). Параўн. *трызелле* (гл.). Пра сувязь з народнай любоўнай магіяй славац. *trezalka* гл. Кралік (625), які выводзіць яго з чэш. *dřezalka* ‘зверабой’ < ст.-чэш. *dřezalu* ‘дрыжачы’ (гл. *дрыжаць*) з-за асаблівасці расліны адпалохваць.

**Трызво́н** ‘звон ва ўсе званы (у царкве)’ (Нас., Байк. і Некр., Шымк. Собр.), ‘перазвон’ (РБС), ‘распаўсюджаная чутка’, ‘гамонка, пагалоска’, ‘поўха’, ‘суровая вымова’, сюды ж *трызво́ніць* ‘званіць’, ‘голасна, публічна гаварыць пра нешта’ (Нас.). Да *звон* (гл.); прыстаўка *тры-* з ц.-слав.-рус. *трь- / тре-*, ст.-слав. **трь-** (напр., **трьблаженъ** ‘тройчы шчаслівы’) (Фасмер, 4, 95 і 97), параўн. *трыкляты* (гл.), серб. *триклет* ‘тройчы праклятыʼ. Аднак у дадзеным выпадку, магчыма, зыходнае рус. *трезво́нить* – першапачаткова было ‘званіць ва ўсе званы – па тры звоны’, бо святочны звон быў не менш як у тры звоны, *трезвон* ‘святочны звон увогуле’, *дать трезвона* ‘даць кухталя, грымака, каб у вушах пачуўся трызвон’.

**Трызе́лле** (*try ziélje*) ‘нейкая лекавая расліна’: *stau̯ Jesienko try ziélje kapáci* (бераст., Федар. 5), *тро́йзелле* ‘трава лекавая’ (Нар. Гом.), *trojzièlje* ‘тс’ (клец., лях., Федар. 5), *troch-ziélje* ‘тс’, *trujziéle* ‘тс’ (лях., Федар. 5), *трузе́лле* ‘тс’ (БНТ, Песні Беласточчыны).

Параўн. укр. *тризілля*, *троєзілля*, *тройзіл*, *тройзілля* 'дзяцеліна, *Trifolium pratense* L.', *труйзілля* 'атрутная расліна, атрута', рус. *трое зелье* (*трои зелье усыпающее, да зелье бѣлое а третье черное*), польск. *trójziele* 'зелле заморскае, якое лечыць ад кожнай немачы адным дотыкам', *trujziele*, *trutziele* 'атрутная расліна'. Сюды ж, магчыма, чэш. *trejzel*, *trýzel*, славен. *trizel*, харв. *trizal* 'жаўтушнік, *Erysimum* L.'. Відавочна, што пачатак слова ўключае *тры* (гл.), якое акрамя асноўнага значэння, звязанага з будовай расліны (параўн. укр. *трійка* 'дзяцеліна, *Trifolium pratense* L.', гл. ЕСУМ, 5, 643), мае пэўную магічную складовую частку, што дае падставы гаварыць пра асобную семантыку траічнасці (Тапароў, Этимология–1977, 3–20). Фанетычная варыянтнасць *try- / tru-* (Варбат, Исслед., 446) сведчыць пра другасную сувязь з *truti* (гл. *труць*), што ўласціва і другой часцы слова (Махэк$_2$, 655), гл. *зелле*. Гл. таксама Цыхун, Зб. Абрэмбскай-Яблонскай, 53.

**Трызі́мак** 'конь, цялё на трэцім годзе, трацяк' (Сцяшк.; беласт., вільн., Сл. ПЗБ). Да *тры* і *зіма* (гл.).

**Тры́зна** 'заключная частка пахавальнага абраду' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'памінкі па нябожчыку' (ТСБМ, ТС), ст.-бел. *тризна* 'тс': *за поганства ѹмерлымъ поминки* (Стрыйкоўскі, пач. XVII ст., ПГС, ГСБМ), УІ *Трызна* (Карскі 2–3, 29), *Трызна Гальшка з Храбтовічаў* (Гардзееў, Магдэбургская Гародня, Гродна; Wrocław, 2008, 193, 215, 221). Укр. *три́зна* 'тс', *три́знище* 'поле бітвы', рус. *три́зна*, стараж.-рус. *тризна* 'спаборніцтва; подзвіг; узнагарода; памінальнае банкетаванне' (з XII ст.), *трызна* (Ізборнік Святаслава, 1073 г.), ст.-слав. **тризна** 'ўзнагарода за перамогу' (Супрасл. летап.), польск. *tryzna* 'памінкі з ігрышчамі як часткай пахавальнага абраду'; чэш. і славац. *tryzna* 'грамадзянская паніхіда', гіст. 'трызна' – з польск. мовы (Махэк$_2$, 656); славен. *trízna* 'бой, спаборніцтва ў гонар памерлага чалавека' (са ст.-слав., Сной у Бязлай, 4, 226). Прасл. **tryzna* (Фасмер, 4, 102) супастаўляюць з генетычна роднасным **traviti* > першапачаткова 'памінкі, памінальнае частаванне' (Міклашыч, 362; Брукнер, 579 і інш.). Трубачоў (ВСЯ, 4, 1959, 130 і наст.) тлумачыць слав. **trizna* як вытворнае ад **trizь* 'трацяк, трохгадовая жывёла, прызначаная для ахвяры', параўн. ст.-бел. *тризъ*, *фризъ* 'трохгадовая жывёла' (ГСБМ).

Мартынаў (Лекс. Палесся, 16) дапускае для беларуска-ўкраінскай лексемы гоцкае паходжанне, параўн. гоцк. *trigo-n* 'смутак', або суадносіць з *тры́зніць* 'вярзці, гаварыць у беспрытомнасці, галюцыніраваць', польск. *tryznić* 'марнаваць час', што характарызуе паводзіны сваякоў у час чуйнасці над нябожчыкам (Зб. Крапіве, 213). Высновы пра няяснае паходжанне слова з аглядам магчымых версій гл. Рачава, Зб. Варбат, 318–328; ESJSt, 16, 984–985.

**Тры́зніць** 'гаварыць без памяці, галюцыніраваць', 'несці лухту' (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Байк. і Некр., Гарэц., Мядзв., Касп., Багд., Стан.), 'гаварыць праз сон' (Бяльк.), 'бачыць што ў сне, у гарачцы' (Ласт.), *трызні́ць* 'гаварыць адно і тое ж' (ТС, Растарг.), *тры́зніці* 'хлусіць, гаварыць няпраўду' (пруж., Сл. ПЗБ), 'блюзніць, трызніць, гаварыць у непрытомнасці' (паўн.-усх., ЛА, 3), *тры́знік* 'лунацік' (Мат. Маг.), *тры́зненне* 'вярзенне, бяссэнсавая гаворка хворага, які знаходзіцца ў бяспамяцтве', 'мары, думкі аб кім-, чым-небудзь' (ТСБМ); *трызня́* 'лухта, абы-што': *як будзеш спаць да дня, насніцца трызня* (чач., Бел. дыял. 2), *тры́зня* 'шкода' (Стан.). Параўн. укр. *три́знувати* 'біцца, змагацца, банкетаваць пасля бітвы', рус. смален., зах.-бранск. *тры́знить* 'блюзніць; бяздумна гаварыць, плявузгаць', польск. *tryznić* 'дарэмна траціць час', чэш. *trýznit* 'мучыць, катаваць, раздзіраць', славац. *trýznit'* 'тс'. Няясна, у тым ліку ў адносінах да папярэдняга слова. На аснове польск. *tryznić* і чэш. мар. *trýzniti* 'сыпаць, трусіць' Страхаў (Palaeoslavica, 13, 2, 14–15) выводзіць дзеяслоў з **tryti*, **truti* (гл. *церці*), а таксама аналагічна да **trina* (гл. *трына*) назоўнік **trizna*, у семантыцы якога развілося значэнне 'скруха, жалоба'. Спробу звязаць чэш. *trýzniti* 'мучыць' (<**tryti*) з польск. *trużyc* 'тс' шляхам атаясамлівання з асновай **tryz-* зрабіла Варбат (Этимология–1983, 41), у гэтым выпадку мяркуецца зблізкэнне семантыкі слоў 'блюзніць' і 'мучыць', параўн. і рус. валаг. *тры́жить* 'навязліва паўтараць адно і тое ж'. Пра паралелізм у структуры і семантыцы *трызніць* і *трылузіць* (гл.) з выдзяленнем элемента *тры-* – спецыяльна Цыхун, Зб. Супруну, 280; варыянты *тры́зніць* / *дры́зніць* (маг., ЛА, 3, 81), магчыма, пад уплывам *дрыве́ць* 'блюзніць, гаварыць у непрытомнасці', 'гаварыць лухту' (Нас., Касп., Дабр.; ашм., Стан., ЛА, 3) – няяснага паходжання.

**Трызу́б** ‘ваўкаўня, пастка на ваўкоў’ (Цярохін, Охота), *тры-зу́бка* ‘матыка з зубцамі’ (лельч., бераст., ЛА, 2), ст.-бел. *тризубъ*, *тризубецъ*, *трезубъ*, *трезубецъ* ‘від зброі’ (ПГС), укр. *тризу́бець* ‘вілы з трыма зубамі’, рус. *трезу́б*, *трезу́бец*, *трезубка* ‘тс’, польск. *tryzub* ‘кармушка для лясных звяроў’, чэш. *trzub* ‘плот з трохрогіх расох’, славац. *trojzub* ‘трызубец’, славен. *trizob* ‘тс’, балг. *тризъ́бец* ‘тс’, макед. *тризаб* ‘тс’, ‘трызубец (зброя)’, ст.-слав. **трьзѫбьць** ‘тс’. Прасл. **trъzǫbъ*, складанае слова з **trь-* (гл. *тры*) і **zǫbъ* (гл. зуб), першапачатковы прыметнік са значэннем ‘трохзубы’ (Махэк$_2$, 656). Гл. яшчэ Сялімскі, Старобългаристика, 13, 4, 43–44.

**Трыйло́чыць** ‘гаварыць недарэчнасці, глупства, разводзіць плёткі’ (воран., Сл. ПЗБ). З літ. *trailúoti* ‘балбатаць, гаварыць пустое’ (Лаўчутэ, Балтизмы, 73). Параўн. таксама *трайла́* (гл.).

**Тры́йчы** ‘тройчы, трыкроць’ (Нас.), *тры́чы* ‘тс’ (арш., Мат.), ст.-бел. *триичи*, *триищи* ‘тс’ (ГСБМ), параўн. укр. *тричі* ‘тс’, рус. *три́дчі* ‘тс’. Выводзіцца з **tri* (гл. *тры*) і іменнай формы **jьtjь* ‘ход’, гл. *ісці*, *тройчы*, *трэйчы* (ЕСУМ, 5, 642; Фасмер, 4, 102).

**Трык** ‘некастрыраваны баран’ (Бес.). Параўн. польск. *tryk*, *trykacz* ‘баран-вытворнік’, *trykać* ‘басціся, бароцца’, ст.-польск. *trykać*, *tryksać* ‘тс’, *tryks* ‘штуршок’, ‘баданне’, чэш. *trkat* ‘басці, бадацца’, славац. *strkat’* ‘штурхнуць’, славен. *tŕk* ‘удар’ і інш., што ўзыходзяць да прасл. **tъrkati* ‘штурхаць, ударацць’, роднаснага літ. *tùrkterėti* ‘штурхнуць’. Больш падрабязна гл. *торкаць* (Буга, Rinkt., 1, 490; Бязлай, 4, 226; Брукнер, 578; Сной$_2$, 784; Махэк$_2$, 651; Скок, 3, 504; ЕСУМ, 5, 604–605). Трубачоў (Происх., 81), Осіпава (Этимология–1988–1990, 70) выводзяць з **terti* (гл. *церці*). Магчыма, сюды ж семантычна аддаленае рус. яраcл., валаг. *трык* ‘франт, фарсун, моднік; легкадумны чалавек’.

**Тры́к(а)** ‘драўляная лаўка’: *бацько зробіў трыка* (пруж., Сл. Брэс.), відаць, *трык* м. р. Няясна. Магчыма, ад *трык* ‘баран’ (гл.). Падобны перанос назіраецца ў *каза́* ‘назва падставак, зэдлікаў’, смал. *козю́лечка* ‘зэдлік’, *кабы́ла*, *саба́ка* ‘тс’.

**Трыката́ж** ‘тканіна машыннай вязкі’ (ТСБМ). Праз рус. *три-кота́ж* ці польск. *trykotaż: fabryka trykotaży* (Варш. сл.), запазычана з франц. *tricotage* ‘вязаная тканіна’, ‘вязанне’ < *tricoter* ‘вязаць (на спіцах, кручком)’. Апошняе не мае надзейнай этыма-

логії: флам. *strikken* 'плесці', суч. ням. *stricken* 'вязаць' < ст.-в.-ням. *stricchen* 'звязваць' < англ.-сакс. *gestrician* 'латаць сеткі, невады' (Чарных, 2, 262–263; Голуб–Ліер, 489; Даза, 725; Васэрцыер, 225; ЕСУМ, 5, 637).

**Тры́кацъ** 'невыразна вымаўляць словы, картавіць', *тры́ковы* 'картавы' (ТС). Параўн. укр. *три́нкати* 'картавіць'. Гукапераймание (ЕСУМ, 5, 639), параўн. рус. дыял. *три́кать* 'пішчаць; хіхікаць'.

**Трыкі́р** 'трысвечнік': *наш трыкір, нашыя тры святліны* (Н. Мацяш), укр. *трикірій* 'тс', рус. *трики́рий* 'падсвечнік з трох свечак', стараж.-рус. *трикирии* 'тс'. Запазычана праз царкоўнаславянскую мову як сімвал святой Тройцы з грэч. τριχήριον 'тс' з адаптацыяй да асаблівасцей беларускай мовы; гл. Фасмер, 4, 102.

**Трыкля́ты** 'пракляты' (Нас., Байк. і Некр.), ст.-бел. *трекля-тый* 'тс' (ГСБМ). З ц.-слав. *трьклѧтъ*, утворана з дапамогай прыстаўкі *тры-* < ц.-слав. *трь-*, *тре-* са значэннем найвышэйшай ступені прыметнікаў, звязана з лічэбнікам *тры* (гл.), і *-кляты* < *клясці* 'праклінаць' (гл.); да семантыкі параўн. укр. дыял. *трикля́тий* 'тройчы пракляты' і рус. дыял. *будь тро́е прокля́той* (выраз абурэння). Гл. Фасмер, 4, 95, 97; ЕСУМ, 5, 637.

**Тры́кнуць** 'выпіць (спіртнога)' (брасл., Сл. ПЗБ). Да *тры́нкнуць* (гл.).

**Трыко́** 'шарсцяная тканіна ўзорнага пляцення для верхняга адзення', 'трыкатажнае адзенне', 'жаночая бялізна з трыкатажу' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *трыко́т* 'тканіна, падобная да робленых пруткамі матэрый' (Ласт., Пятр.). З франц. *tricot* 'плеценая тканіна', запазычанага праз рус. *трико* або польск. *trykot*.

**Трыко́тка** 'трашчотка для спужвання звера' (Сцяшк.). Відаць, з фанетычна адаптаванага і пераасэнсаванага польск. *terkotka* 'гаварлівая кабета' ад *terkotać*, *tarkotać* 'трашчаць, грукатаць, тарахцець', гукапераймальнага паходжання (да прасл. *tъrk-, гл. *таркатаць*, *туркатаць*).

**Трыкра́ска** 'фіялка, браткі, *Viola tricolor* L.' (Ласт.). Да *тры* (гл.), параўн. *трайцвет* 'тс' і *кра́ска*[1] 'кветка' (гл.); магчыма, штучна створаная назва па ўзоры лацінскай наменклатуры.

**Трыкро́ць** 'тры разы', 'тройчы' (Нас., Байк. і Некр., Др.-Падб.), ст.-бел. *трикроть*, *трикротъ*, *трыкроть* 'тс' (1514 г., ГСБМ).

З польск. *trzykroć* ‘тс’, гл. *тры* і *кроць*. Сюды ж *трыкро́тны* ‘трохразовы’ (Нас., Байк. і Некр.) з польск. *trzykrotny* ‘тс’, ст.-бел. *трикротный*, *трыкротный* ‘тс’ (1558 г., ГСБМ), якія проціпастаўляюцца ст.-бел. *трикратъ*, *трикраты*, *трикрать* ‘тройчы’, запазычаным праз ц.-слав. са ст.-слав. **три краты**, што да **кратъ** ‘раз’; зыходнае ўсходнеславянскае слова мела б форму **коротъ*, параўн. літ. *kar̃tas* ‘раз’, лат. *kārta* ‘рад’ і пад., гл. Фасмер, 2, 368. Адносна генетычных і тыпалагічных сувязей другой часткі слова гл. Папоў, Из истории, 36; ЭССЯ, 11, 100; Борысь, 260.

**Трыку́тнік** ‘трохвугольнік’ (ТСБМ, Байк. і Некр.). Нáватвор 1920-х гадоў у выніку кантамінацыі польск. *trójkąt* і рус. *треуго́льник* ‘тс’.

**Трыла́пнік** ‘бабоўнік, *Laburnum Medic.*’ (брасл., Сл. ПЗБ), *tryłapnik*, *kryłapnik* ‘капытнік балотны, *Calla palustris* L.’ (Брасл. сл.). Параўн. літ. *trilãpis* ‘тс’. Меркаванне аб балтыйскім паходжанні грунтуецца на літ. *lãpas* ‘ліст’, параўн. адносна бабоўніка: *у трылапніку лісткі круглінькія – тры пальчыкі на сучку* (= на сцяблінцы), аднак мажліва і метафарычнае ўтварэнне, гл. іншую назву – *мядзвежсыя лапкі* (смал., Кіс.). Рэканструкцыю прасл. **lapъ* ‘ліст’, вытворнага **lapъtъ* ‘шыракалістая расліна’ прапануе Фурлан, Jez. zap. 16/2, 36. Параўн. *трыліснік*, гл.

**Тры́лер** ‘фільм жахаў’ (БПС, Улас., Баршч.). У беларускім друку ў канцы 1980-х гадоў (Уласевіч, Беларусіка, 36, 107). Праз рус. *три́ллер* ‘тс’ або польск. *thriller* ‘тс’ ці непасрэдна запазычана ў 1990-х гадах з англ. *thriller* ‘тс’ (Арол, 4, 103). Параўн. аказіянальныя сінонімы *жуда́сцік* (ад *жуда*$_1$, гл.), *жахлі́вік*, *жахаві́к* (ад *жах*, гл.) і інш.

**Тры́ліснік** ‘назва некаторых раслін з трайчастымі лістамі’ (ТСБМ, Бяльк., Меер Крыч.), ‘бабоўнік, *Menyanthes trifoliata* L.’ (Кіс.; навагр., клім., ЛА, 1), ‘канюшына’ (Ласт., Др.-Падб.). Паводле наяўнасці трайчастых лістоў, названы рус. *трилистник*, чэш. *třílistník*, *třulistník*, мар. *trumfulija* (Махэк, Jména, 183), ням. *Dreiblatt* ‘бабоўнік’ – магчыма, у некаторых выпадках узорам было лац. *tri-folium* ‘канюшына, трыліснік’ (Пастусяк, Pogranicze, 138; Мяркулава, Очерки, 35–36).

**Трыло́гія** ‘тры творы аднаго аўтара, аб’яднаныя пераемнасцю тэксту’ (ТСБМ), *трылёгія* ‘тс’ (Некр. і Байк.). Запазычана праз

польскую мову *(trylogia)* ці праз рускую *(трилогия)* са ст.-грэч. τριλογία 'тры трагедыі, звязаныя ўнутранай еднасцю', 'прамова з трох частак' < τρεις 'тры' + λογος 'слова (вуснае), прамова, апавяданне, меркаванне, дапушчэнне, сэнс, паняцце' > λέγω 'гавару, кажу' (Міхельсон, Рус. мысль, 676; ЕСУМ, 5, 638).

**Трылу́дзіць** 'трызніць', 'хлусіць' (Касп.), *трылю́дзіць* 'балбатаць, пустазвоніць' (Юрч.), *трілю́дзіцца* 'пустазвоніць', 'здавацца, невыразна ўяўляцца' (Юрч. Вытв.), *турлю́дзіць* 'гаварыць лухту' (Мат. Маг.); сюды ж *трілю́да* 'бязлуздзіца, лухта' (Юрч., Юрч. СНЛ), 'бяссэнсіца відавочная' (Юрч. Сін.), *трілю́дзішча* 'тс', 'пустамеля' (Юрч. Вытв.), *трілю́дзіна* 'бязглуздзіца, лухта' (Юрч. СНЛ), 'пустамеля' (Юрч.), *трілю́джыньнік*, *трілюдзіньнік*, *трілюднік* 'балбатун, пустаслоў', *трілю́джыньня*, *трілюдзіння*, *трілю́дзіца* 'пустазвонства; бязглуздзіца' (там жа). Пры параўнанні загалоўнага слова з *лу́дзіць* (гл.) у значэнні 'кпіць, жартаваць, смяяцца' (Нас.), 'трызніць' (Касп.), 'маніць' (мядз., Нар. словатв.), *лудзі́ць* 'марнатравіць час' (Шат.), 'сварыцца' (Сл. ПЗБ), несумненна, выяўляецца генетычная і тыпалагічная тоеснасць з другой часткай слова, што дае падставы суаднесці яе з укр. *луди́ти* 'заманьваць', рус. дыял. *лу́дить* 'красці плады і гародніну ў садах', польск. *łudzić* 'падманьваць', чэш. *louditi* 'выманьваць, выпрошваць', славен. *lúditi* 'маніць, дурачыць'; 'праводзіць час' і інш., што выводзяцца з прасл. **ludъ* (ЭССЯ, 16, 167, 169). Палаталізаваныя варыянты слоў, прадстаўленыя на Магілёўшчыне і ў рус. дыял. *трелю́дить* 'сваволіць, гарэзнічаць', *трелю́диться* 'жартаваць', 'здзекавацца' і інш., могуць быць патлумачаны другасным збліжэннем з коранем *люд-*, параўн. рус. дыял. *трелю́дник* – 'аб пераборлівым, капрызным человеку' (СРНГ). Спроба Мяркулавай (Этимология–1983, 60) вывесці іх з **trь-juditi* (*j* > *l*) падаецца менш прымальнай. Параўнанне з укр. *трою́дити* 'раз'ятрываць, раздражняць' выклікае фармальныя цяжкасці пры ідэнтыфікацыі пачатковага *тро-* з узмацняльнай прыстаўкай *тре-* < ц.-слав. *трь-* для перадачы траічнасці і вышэйшай ступені якасці (ЕСУМ, 5, 653), якая выступае ў пачатку рускіх слоў і якой у беларускай мове адпавядае *тры-* (*трі-*).

**Трылу́за** 'пустазвон, балбатун, пляткар' (Яўс.), 'чалавек, які гаворыць недарэчнасці, глупства' (Рэг. сл. Віц., Бел. дыял. 2).

Дэвербатыў ад *трылузіць* ‘вярзці абы-што’ (Вушац. сл.), ‘трызніць’ (полац., ЖНС), ‘разводзіць плёткі; гаварыць лухту, недарэчнасці, глупства, пляткарыць’ (глыб., Сл. ПЗБ; мёрск., Нар. лекс.; Рэг. сл. Віц., Яўс.), ‘выдумляць, несці лухту’ (мёрск., Нар. сл.). Сюды ж *трылýзіцца* ‘мярэсціцца, здавацца’, ‘сніцца’ (Вушац. сл., Яўс.). Прапанаваная сувязь з чэш. *louziti* ‘лаяць, сварыцца’, дыял. *louznit* (na koho) ‘плявузгаць’, якое Махэк$_2$ (461) звязвае з *blouzniti* (гл. *блюзніць*), прадугледжвае вядзяленне прыстаўкі *тры-* (Цыхун, Зб. Супруну, 274), параўн. *трыкляты* (гл.). Няяснымі застаюцца адносіны да *трылудзіць*, гл.

**Трыльён** ‘лік, роўны тысячы мільярдаў’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Запазычана з франц. *trillion* ‘тс’, якое ўтворана з суфіксоідам *-lion* (з *mil-lion*) з заменай *mil-* на лац. *tria* – лічба мае ў 3 разы болей нулёў, чым у тысячы. У беларускую мову лічба *трыльён* прыйшла, хутчэй за ўсё, праз рускую мову (СИС; SWO, 1980; Голуб–Ліер, 98, 489; ЕСУМ, 5, 638).

**Трым** ‘падоўжная бэлька, якая падтрымлівае папярочныя’ (кобр., Сл. Брэс.). Да *трам* (гл.). Галосная *-ы-* ў корані з *трымаць* пад уплывам народнай этымалогіі.

**Трымана́** ‘надакучлівы чалавек’ (Мат. Гом.). Відаць, да *трыманíць* ‘гаварыць абы-што, хлусіць’ (гл. *траманіць*, для якога прапануецца літоўская крыніца запазычання). Можа быць звязана з *маніць*, *манýць*, аднак па значэнні і па форме слова бліжэй да славен. *tŕmen* ‘упарты, капрызны, натурысты’, харв. чак. *ne trmi* ‘не ўпірайся’, якія Борысь (RS, XLI, 1, 40–41) узводзіць да прасл. **trъmĕti* ‘тырчаць, заставацца на сваім, упірацца’, што дало каўзатыў **trimati* (Борысь, 652), гл. *трымаць*. У такім выпадку *трыманíць* можа быць другасным утварэннем ад назоўніка або прыметніка, параўн. укр. *тримни́й* ‘трывалы’; сюды ж, магчыма, і ўкр. *тримóнний* няпэўнага значэння і паходжання (ЕСУМ, 5, 638).

**Трыма́ць** ‘узяўшы ў рукі (рот, зубы), не даваць выпасці’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Шат., Шымк. Собр., Касп., Мядзв., Мал., Яруш., ТС), *трыма́ці*, *трыма́ті*, *трыма́ты* ‘тс’ (Бес., Булг., ЛА, 3), *трума́ць* ‘тс’ (гродз., Нар. лекс.); перан. *трыма́ць* ‘утрымліваць, захоўваць за сабою, быць уладальнікам’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Ласт.; ашм., Сл. ПЗБ), ‘мець у сваёй уладзе, у духоўным падпарадкаванні’, ‘прымушаць знаходзіцца каго-небудзь

дзе-небудзь супраць яго волі, не выпускаць' (ТСБМ) (там жа), 'выхоўваць, трымаць у рамках' (маст., Сл. ПЗБ), 'трымаць скаціну' (Бяльк.), 'гадаваць, разводзіць' (Сл. ПЗБ), 'служыць апорай, падтрымліваць, быць на чыімсьці баку' (ТСБМ, Шат.), 'стаяць, працягвацца (пра мароз)' (беласт., Сл. ПЗБ), 'захоўваць; трымаць (у хляве)' (там жа, Бяльк., Вушац. сл.), 'адпаведным чынам паводзіць сябе' (ТСБМ), 'ажыццяўляць, выконваць, здзяйсняць (экзамен, адказ, ініцыятыву)' (там жа), 'трываць' (ТС); ст.-бел. *тримати*, *тримать*, *трымати* 'трымаць, не выпускаць, захоўваць, выкарыстоўваць; утрымліваць; мець думку, погляд, стаўленне' (1492 г., ГСБМ). Параўн. польск. *trzymać* 'трымаць', чэш. мар. *třímati* 'тс', чэш. літарат. *třímat* 'сціскаць, моцна трымаць', усх.-славац. *trimac se* 'трымацца ў добрым здароўі', 'быць добра выхаваным', якія, паводле Борыся (652), узыходзяць да прасл. дыял. **trimati* 'ўтрымліваць, затрымліваць, захоўваць у пэўнай пазіцыі', што разглядаецца як каўзатыў ад прасл. *(s)trьmĕti* 'тырчаць, выступаць, быць нерухомым', што да прасл. **strьmъ* 'які тырчыць, выступае, стромкі'. Побач са славен. *tŕma* 'ўпартасць', *tŕmati*, *tŕmiti* 'ўпарціцца', малапольск. *trzmić* 'вытыркацца', ст.-чэш. *třměti* 'паднімаць угору', такі шлях развіцця падмацоўваецца знешнімі параўнаннямі з нідэрл. *stram*, н.-ням. *stramm* 'тугі', 'бадзёры, бойкі, моцны', ст.-грэч. στερέμνιος 'цвёрды, тугі, моцны' < і.-е. **(s)terh*$_1$- 'быць цвёрдым, моцным, тугім' (Бязлай, Eseji, 150; Сной$_2$, 705; Махэк$_2$, 653; Борысь, 652; ЕСУМ, 5). Мартынаў (Прарадзіма, 24) генетычна суадносіць **trimati* з балг. *трем* 'ганак', макед. *трем* 'сені, крыты ганак', серб. *трêм* 'сені', славен. *trêm* 'павець, страха' і разглядае ст.-англ. *trymman* 'трымаць, умацоўваць' у якасці славянскай інфільтрацыі ў германскія мовы, што сведчыць пра яго інавацыйны характар, які праявіўся і ў экспансіі на ўсходнеславянскія тэрыторыі – беларускую і ўкраінскую (Золтан, Athila, 546; Гарбуль, 184), дзе ўспрымалася як запазычанне, у якім *rz* (*ř*) замяняецца на *p*, але гэта не дае падстаў думаць, што запазычанне адбылося яшчэ да замены *r'* > *ř* > *rz* у польскай мове (Векслер, Гіст., 65). Сюды ж вытворныя *трыма́ньне* 'паводзіны' (Байк. і Некр.), *трыма́ны* 'які ўжо быў ва ўжытку' (Нас.), а таксама *трыма́лы* 'ўстрыманы, сціплы' (Нас.), *трыма́ласць* 'вытрыманасць' (Байк. і Некр.).

**Трымбу́лька**, *трамбу́лька*, *трынбу́лька* ‘цыбуля, якую сеюць насеннем’ (Жд. 1; гродз., Кіс.). Сюды ж, відаць, *трымбуль* ‘шпянёк у жорнах’ у загадцы: *Купа на купе, трымбуль на пупе* (гродз., БНТ, Заг.). Гл. *трыбулька.*

**Трымгаце́ць** ‘ледзь свяціцца’ (Сцяшк. Сл.). Звязана з *трымцець*, *трамцець* (гл.), звонкі варыянт да *трымкацець*, гл. Не выключана кантамінацыя лексем *трымце́ць* і *мірґаце́ць* (гл. *мірга́ць*).

**Трыме́стр** ‘частка навучальнага года працягласцю ў тры месяцы’ (ТСБМ). Праз польскую мову *(trymestr)* з заходнееўрапейскіх моў, у якіх узыходзіць да лац. *trime(n)stris* ‘трохмесячны’ < *tres* + *mensis* (SWO, 1980, 780; Дварэцкі, 786).

**Трымката́ць** ‘тромкаць, наігрываць’ (Нар. Гом.). Да *тры́мкаць* (гл.) з суф. *-от-* (*-ат-*), што выражае інтэнсіўнасць дзеяння.

**Трымкаце́ць** *(трымкоце́ць)* ‘трымцець, трэсціся, калаціцца, дрыжэць’ (ТС), варыянт *трамкаце́ць* (гл.). Інтэнсіў да *трымцець* (гл.).

**Тры́мкаць** ‘брынкаць струнамі’ (Шат., Зайка Кос.; навагр., Ск. нар. мовы), ‘няўмела іграць’ (в.-дзв., Шатал., Сцяц., Ск. нар. мовы), ‘падыгрываць другому музыканту’ (кап., Жыв. сл.). Гукаперайманне, параўн. *трым* ‘шчоўк’ (Вушац. сл.). Параўн. таксама *трынкаць*, *брынкаць*.

**Трымпа́йла** (*трымпа́йло*) ‘доўгае палена, якое вешаюць скаціне на шыю, каб яна не ўцякала’ (драг., Ск. нар. мовы, Клім.). Запазычанне, параўн. укр. дыял. *тре́мпель* ‘жэрдка, шасток у хаце’ (ЕСУМ, 5, 629), а таксама польск. *trempel* ‘рад слупкоў, прыкрытых бэлькай’. Хутчэй за ўсё, ідэнтычнае *крампадла* ‘калочак для звязвання снапоў’ (гл.), што да польск. *krępować* ‘звязваць’, у сваю чаргу запазычанага з ням. *krampen* ‘злучаць, браць у клямары’ (ням. *Krampe* ‘клямары, прабой’), гл. Борысь, 529. Фанетычна бліжэй да ням. *trampeln* ‘тупаць, цяжка ступаць’ > польск. дыял. *trępać* ‘тс’, параўн. SEK, 5, 162.

**Трымунта́н** ‘сіберны вецер’ (Сцяшк. Сл.), *трымукта́н* ‘паўночны вецер’ (калінк, Арх. ГУ). Міжземнаморскі тэрмін з франц. *tramontane* ‘паўночны халодны вецер на заходнім узбярэжжы Італіі і паўночнай Корсікі’ або з італ. *tramontano* ‘тс’ < *tra-* ‘праз’ (< лац. *trans-* ‘тс’) і *montana* ‘гарыстая мясцовасць, нагор’е’ (лац. *mons*, *montis* ‘гара’) (Фасмер, 4, 93; ЕСУМ, 5, 618; SWO, 1980, 769),

якія рознымі шляхамі трапілі на Беларусь. Параўн. польск. *tramontana* 'паўночны вецер', рус. азоўск. *трамонта́но, тремонта́на* 'тс', дан. *термонта́н* 'горны вецер'.

**Трымце́ць**, *трамце́ць* 'дрыжаць, калаціцца (ад стуку, udараў, ад страху)', 'трэсціся, калыхацца', 'пакрывацца рабізною (пра паверхню вады)', 'узмоцнена і часта біцца (пра сэрца)', 'махаючы крыламі, трымацца ў паветры', 'трапятаць ад моцнага хвалявання, унутранага пачуцця' (ТСБМ, Некр. і Шат., Ласт., Сцяшк.; ашм., Стан., Ян., Растарг.), 'дрынкаць, бразгатаць, дзілінкаць, тарахцець' (Некр. і Байк.), *зоркі трымця́ць* 'зоры мігцяць, ззяюць' (ваўк., ЛА, 2), *тромце́ць* 'дрыжаць' (ТС), сюды ж ст.-бел. *тремтенье* 'трапятанне, дрыжанне, матлянне' (ГСБМ), гл. *трамцець*. Фармальная і семантычная блізкасць да літ. *trìmti* 'дрыжаць ад холаду', 'лякацець', лат. *trimēt* 'рухацца', *tremt* 'баяцца', 'палохаць' выклікалі меркаванні пра запазычанне ці пранікненне, што павінна было мець месца пасля падзення дыфтонгаў, але да падзення рэдукаваных у славянскіх мовах (Мартынаў, Бел.-укр. ізал., 49; яго ж, РС, 1993, 1, 38; Лекс. Палесся, 14; Лучыц-Федарэц, Baltica, 3, 1, 169 і інш.). Меркаванне адхіляецца Анікіным (Опыт, 289), які канстатуе толькі роднасныя адносіны.

**Трымчэ́ць** 'ліпець' (Жд. 3). Да *трымце́ць* (гл.) у выніку распадабнення *ц...ц* > *ч...ц* ці ўплыву асновы дзеяслова 1 ас. адз. л., параўн. жарт: *Пранціш, чаго ты трымціш? – Я трымчу – на вясельля хачу* (Родная мова, 1931, 6, 154).

**Тры́на**, *тры́ны* мн. л. 'ільняная і канаплёвая траста, кастрыца' (Уладз., Мат. Гом.; люб., ЛА, 4), 'дробныя часткі валакна пры трапанні', 'цвёрдыя адходы пры апрацоўцы валакна' (жытк., лельч., Трух.). Укр. *три́на* 'апілкі', *три́ня* 'пацёртая салома', *три́ни* 'труха сена', польск. *tryna* 'апілкі', *trynia* 'адходы пры малацьбе', *tryny* 'тс', ст.-польск. *tryna* 'апілкі', серб. *три̏ње, три̏ња* 'сенная труха', 'адзенне, пагрызенае моллю', балг. *три́на* 'мякіна', 'пацяруха', макед. *трина* 'труха', *триње* 'апілкі, парахня'. Прасл. **tьrina* вытворная ад **terti* (гл. *церці*), параўн. роднасныя літ. *trynė́, trỹnę* 'мазоль' (Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 48), *trìnti* 'церці, пілаваць, расціраць', лат. *trīt* 'церці', 'тачыць (нож)', *trinimas* 'пілаванне пільшчыкаў', *trìnka* 'адпілаваная калода, кавалак дрэва', *trỹnios* 'пілавіны' – *trin-* з'яўляецца новай асновай, якая ўзнікла ў выніку перастаноўкі *ir* > *ri* (з *tirn-*, параўн. і.-е. **tr-n-h₁-é*)

(Смачынскі, 689; Фрэнкель, 2, 1124). Гл. Брукнер, 579; Скок, 3, 512; Куркіна, Этимология–1976, 28; ЕСУМ, 5, 638.

**Трына́нцаць** ‘трынаццаць’ (Некр. і Байк., Растарг.; валож., Стан.): *трынанцаць завуць чортавым тузінам. Калі як-небудзь з гасцей будзе трынанцаць, та з іх хтось хутко памрэ* (Сержп. Прымхі). Паводле Карскага (2–3, 93–94), форма ўзнікла пад уплывам *адзінанцаць*, дзе *н* у выніку «ўзмоцненага вымаўлення» перайшло ў *-на-* з *-нна*. Станкевіч (Язык, 231) разглядае як вынік прыпадабнення – другое *н* на месцы *д* з’явілася пад уплывам *н* папярэдняга. Гл. таксама Цыхун, Зб. Супруну, 270–272. Параўн. *трынаццаць* (гл.).

**Трынасе́ннік** ‘расліна балотніца, *Triglochin palustre* L.’ (гродз., маг., Кіс.), *трынасе́ньнік балотны* ‘тс’ (Некр. і Байк.). Да *тры* і *насенне* (гл.). Матывацыя: шматкветкавае гронкападобнае сувецце (да 60 кветак) складаецца з трох кветачак, з якіх у верасні вырастае насенне па тры зярняткі ў кожнай кветцы.

**Трына́ццаць** ‘лік і лічба 13; колькасць, якая абазначаецца лічбай 13’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк.), *трына́нцаць* (гл.), *трына́ццаць* ‘тс’ (Нас., Шат., Байк. і Некр.), *трына́нцать* ‘тс’ (Растарг.), ст.-бел. *тринадцать*, *тринадцеть*, *тринатцать*, *тринатцеть*, *трынадцать*, *трынатцать* ‘тс’ (ГСБМ), сюды ж парадкавыя лічэбнікі *трына́ццаты* (ТСБМ), *трына́ццаты*, *трына́нцаты* (Некр. і Байк.), ст.-бел. *тринадцатый*, *трынадцатый* (ГСБМ), *тринадзесятый* (Сл. Скар.), *третий надцать* (Альтбаўэр), *третій на десѧтый* (XVI ст., Карскі 2–3, 250), зборны лічэбнік *трынадцатеро* (XVII ст., Карскі 2–3, 250). Параўн. укр. *трина́дцять*, рус. *трина́дцать*, польск. *trzynaście*, каш. *třënåsce*, в.-луж. *třnaće*, н.-луж. *tśinasćo*, палаб. *tårojnăcti*, *trainădist*, чэш. *třináct*, славац. *trinást’*, харв. *trinājst*, *trinaest*, серб. *три́наест*, балг. *трина́десет*, *трина́йсет*, макед. *тринаесет*, ст-слав. **трие на десѧте**. Прасл. **tri na desęte* (гл. *тры*, *на*, *дзесяць*), і.-е. паралелі – усх.-іран. **thri-n-dasa*, лат. *trîspadsmit* (Анікін, Новое в рус. этим., 1, 237). У колькасных лічэбніках першапачаткова скланяўся першы элемент, а апошні нязменна захоўваўся ў форме М. скл. – *три на десѧте(и)*, але даволі рана словазлучэнне пачало сцягвацца ў адно слова, у якім *десѧть* прыняло форму Н. скл. Пазней другая частка спрашчаецца ў *-надцать* (Гіст. марф., 188–190). Формы

*тринасте*, *трынасце* ‘тс’ (1552 г., ГСБМ) запазычаны з польскай мовы. Гл. ЕСУМ, 5, 639; Борысь, 652; ESJSt, 16, 983.

**Трындзе́ць** ‘многа гаварыць аб чымсьці нязначным; хлусіць’ (Мілк. Сл., Аляхн.), *трындзе́ць*, *трындзі́ць* ‘вярзці, гаварыць глупствы’ (Васількова сп., Вушац. сл.), *трындзі́ць* ‘хутка гаварыць абы-што’ (Сцяшк. Сл.), ‘вярзці’ (слонім., Жыв. НС), *трындзі́ць, тырындзі́ць* ‘пустасловіць, гаварыць абы-што’ (Скарбы), *трыньді́ты* ‘многа гаварыць, балбатаць’ (Клундук), сюды ж дэвербатывы *трында́* ‘пустамалот, балбатун’, ‘балбатлівы чалавек’ (там жа), *тры́нда* ‘хлус, падманшчык’ (Аляхн.). Параўн. укр. дыял. *три́ндати* ‘трасці адзенне на сабе, ісці трасучыся’, рус. *тры́ндить* ‘гаварыць, навязліва паўтараць, балбатаць; распускаць плёткі’, польск. дыял. *tryndać* ‘круціцца, не сядзець на месцы, блытацца пад нагамі’, каш. *trińdać* ‘таптаць’, ‘збіваць масла’. Утворана на базе гукаперааймальнага *тры́нды* (прыпеў), параўн.: *Tryndy baba, tryndy dzied, / Zdochła baba, zdochnie dzied!* (Федар., 6, 64), гл. *трынды*, *трынды-рынды*. Параўн. меркаванне пра паралельныя «звонкія» варыянты *дрындаць* (гл. *дрындушка*), польск. *dryndać* ‘цягнуцца, трасціся на возе’, славац. дыял. *drindat’* ‘бегчы, тупацець’ (SEK, 5, 169). Гл. Брукнер, 99 (памылкова звязвае з *tryny* ‘апількі’), ЕСУМ, 5, 639; Арол, 4, 110. Параўн. таксама *трандзіць*, гл.

**Трындо́ліць** ‘пустасловіць, несці лухту’ (Скарбы), ‘гаварыць хутка, абы-што’ (Сцяшк. Сл.), *трындэ́ліць* ‘доўгі час гаварыць адно і тое ж’ (Зайка Кос.), сюды ж *трындола* ‘пустаслоў’ (Скарбы$_2$), *трундо́ля* ‘балбатун’ (Сцяшк. Сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне з суф. *-ол-* / *-эл-* на базе імітатыва, гл. *трындзець*.

**Трынды́каць** ‘гаварыць абы-што’, ‘ледзьве хадзіць пасля хваробы’ (ТС), *трынды́чыць* ‘многа гаварыць’ (Мат. Маг.). Параўн. укр. *тринди́кати* ‘няўмела іграць на шчыпковым інструменце’, ‘несупынна гаварыць’. Экспрэсіўныя суфіксальныя ўтварэнні на базе імітатыва *трынды*, параўн. *трындзець*.

**Трын-дын-ду́лі** – прыпеўка: *Трын-дын-ду́лі, / Сыдыць заяц у цыбулі* (іван., Дзіц. фальклор, 146). Гукапераайманне (імітуе званок?).

**Тры́нды-ры́нды** ‘лахманы (?)’: *Pawiesiła tryndy ryndy / Nad akonіceji* (свісл., Федар., 6). Параўн. укр. *три́нди-ри́нди* (перадача

пустой, бессэнсоўнай гаворкі), рус. дыял. *три́нди-бри́нди* 'бяспутны чалавек', польск. дыял. *tryndy ryndy* (прыпеў). Рыфмаванае спалучэнне слоў, першае з якіх з'яўляецца імітатывам, заснаваным на гукаперайманні *тры́нды* (гл. *трындзець*), параўн. укр. *три́нди* (прыпеў), рус. *тры́нды-тры́нды* (імітацыя ігры на балалайцы), што могуць выводзіцца з больш простых гукаперайманняў, напрыклад, з *трын*, *дын*, гл. папярэдняе слова. Адносна укр. *тринди* Смаль-Стоцкі (Приміт., 178) мяркуе пра кантамінацыю ў межах *ти́нди-ри́нди* (пустая гаворка), параўн. *ти-ди-ди́* (прыпеў з песні) з першаснымі элементамі (ЕСУМ, 5, 569). Другая частка спалучэння, якая рыфмуецца з першай, можа суадносіцца з *ры́нда* 'бяспутная, бадзячая без працы жанчына' (Растарг.), 'лянота, бесклапотнасць, неахайнасць' (Жарт. песні), параўн. укр. палес. *ри́нди* 'лахманы', рус. дыял. *ры́нда* 'лаянка на чалавека', адносна паходжання якіх выказваюцца розныя версіі: гл. *рында*$_1$ (< літ. *rindà* 'няўклюда'), запазычанне з венг. *rondy* 'лахманы' (ЕСУМ, 5, 24), запазычанне з фін. *ryntty* 'абарванец' (Феакцістава, Номинативное воплощение абстрактной идеи: аўтарэф. канд. дыс., Екатеринбург, 2003, 21).

**Трыні́т** 'спосаб ткання' (швянч., Сл. ПЗБ), *трыні́ці* 'тс': *трыніці ткалі на чырвонай аснове* (шальч., Сл. ПЗБ), *трынічэ́льніца* 'выраб, тканы ў тры ніты' (там жа). Параўн. польск. дыял. *trynit* 'хатняе палатно' (Варш. сл.), лат. *trinite* 'від палатна'. Выводзяць з літ. *trinýčiai* 'тс' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 5, 138), аднак, зыходзячы з магчымай этымалогіі ад *тры* (гл.) і *ніт* 'ніцяная пятля ў кроснах' (гл.), можа разглядацца як сумеснае славянска-балцкае ўтварэнне.

**Трыні́ца** 'лёгкая верхняя накшталт кашулі адзежа, якую просты чалавек надзяваў паверх світкі ці кажуха ў выпадку дажджу' (Нас., Некр. і Байк.), *трыні́цы* 'кароткія світкі з белага палатна' (вільн., Кіркор). Параўн. польск. *tryniсa*, *trenica* 'апанча з грубага палатна, якую сяляне надзяваюць зверху світкі ці кажуха'. Балтызм, параўн. літ. *trinỹčiai* 'верхняя кашуля хатняга вырабу' < **trỹs* + *nỹtys* 'ніт' (Лаўчутэ, Балтизмы, 50). Мяркуецца, што трапіла праз польскую мову, што неабавязкова. Гл. яшчэ Урбуціс, Baltistica, V, 1, 154.

**Тры́нка**$_1$ ‘гульня ў карты’ (Бяльк., ТС). Укр. льв. *три́нка* ‘тры тузы’, рус. *тринка* ‘картачная гульня’, польск. *trynka* ‘тройка (у картах) – тры тузы, тры козыры’. Да *тры*, гл. Брукнер, 578; мажліва суаднесці з аргат. *трын* ‘тры’ (< цыг. *tin* ‘тс’).

**Тры́нка**$_2$ ‘пра худую жанчыну’: *худая як трынка* (ТС). Няясна. Магчыма, да *тры́на* (гл.) у выніку пераносу значэння: ‘сухая, тонкая кастрыца’ > ‘сухая, худая жанчына’.

**Тры́нкаць** ‘абы-як, няўмела іграць на якім-небудзь музычным інструменце’ (ТСБМ, Юрч. Сін., Аляхн.), ‘часта ступаць дробнымі крокамі’ (Скарбы), ‘гаварыць абы-што, хлусіць’ (Мат. Гом.), *тры́нькаць* ‘гультайнічаць’, ‘балбатаць’ (Клундук), *трэ́нькаць* ‘брынькаць’ (ТСБМ), ‘пазваньваць (пра тэлефон)’ (Ян.), *трэнь-брэнь* – гукаперайманне гучання шчыпковых музычных інструментаў (ТСБМ). Параўн. рус. вяцк. *тре́нькать* ‘брынкаць, ціха наігрываць, балбатаць’, «звонкі» варыянт у чэш. *drnkat*, *brnkat* < *drnk*, *brnk* – пра выражэнне бразгатлівых гукаў. Гукаперайманне (Фасмер, 4, 98; Махэк$_2$, 128). Сюды ж з ускладненай асновай *трэндыка́ты* ‘трэнькаць, перадаваць голасам музыку, напяваць рэчытатывам’ (пін., Нар. лекс.), *трынды́каць* ‘гаварыць абы-што (пра жанчын-пляткарак)’ (ТС), *трынча́ць* ‘гаварыць, балбатаць’ (круп., Сл. ПЗБ), *тры́каті* ‘трэнькаць, брынькаць’ (Вруб.) са спрашчэннем спалучэння гукаў, успрынятага як назалізаваны галосны.

**Тры́нкнуць** ‘выпіць (гарэлкі)’ (Шат., Сцяшк. Сл.), *тры́нкаць* ‘выпіваць’ (Скарбы). Параўн. польск. жарг. *trynknąć* ‘выпіць (гарэлкі)’, літ. *trinkóti* ‘тс’, што з ням. *trinken* ‘тс’ (Вінцэнц; Грынавяцкене; Сл. ПЗБ, 5, 137), мажліва, праз ід. *trinken* ‘піць, жлукціць’ (Астравух, Ідыш-бел. сл., 805).

**Трыно́га**, *трыно́г*, *трэнога* і вытворныя *трыножак*, *тры́ыжок*, *трыно́жнік*, *трыножка*, *труніжок* ‘падстаўка на трох ножках’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Бяльк., Шат., Байк. і Некр., Варл., Сцяшк., Янк. 2, Мат. Гом.; брэсц., З нар. сл.), *трыношкі* ‘металічная падстаўка на трох ножках’ (Сцяц.); *трыно́жак* ‘трыножка, патэльня на трох ножках’ (брасл., Сл. ПЗБ); *трохно́жка* ‘трыножак для калыскі ў полі’ (Мат. Гом.), ‘ражка’ (Бяльк.), *трыно́г* ‘цэбар’ (ветк., добр., ЛА, 5), ‘жлукта’ (ашм., ЛА, 3), *трыно́жка* ‘цабэрак для памыяў з трыма ножкамі’ (паўн.-усх., КЭС),

*трыно́жка*, *трыно́г* ‘кубел на ножках’ (паст., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *трыногъ*, *триножекъ* ‘кацёл на трох ножках’ (1688 г., ПГС). Укр. *трино́га / трино́ги*, *триніг*, *триніжок*, *трино́жник*, *трино́жка*, рус. *трено́га*, *треножник*, польск. *trojnóg*, в.-луж. *trojnohi* ‘трыножнік’, ‘таганок’, чэш. *trojnožka / třínožka*, славац. *trojnoha* ‘трыножнік’, славен. *trinóžnik*, *trinòg* ‘тс’, харв. *trònožac*, *trònog*, серб. *тро̀ноге*, *тро̀ножак*, балг. *трино́жник*. Культурныя тэрміны, складаныя словы, што фармальна ўзыходзяць да *тры* і *нага* (гл.).

**Трыно́жыць** ‘звязваць пярэднія ногі каня з адной задняй’ (ТСБМ, Шат., Янк. 2, Байк. і Некр., Юрч. СНЛ), ‘путаць каня так, каб тры нагі былі свабодныя, а да чацвёртай была прывязана вуздэчка’ (Нас.). Параўн. рус. *трено́жить* ‘путаць коней трыногай’, ст.-польск. *trnożyć*, *trynożyć* ‘путаць (каня)’ (XV ст.), суч. польск. *trynożyć* ‘злучаць путам ногі наўскос’. Утворана ад *тры* ‘тры’ і *нага* ‘нага’ (Фасмер, 4, 98; Брукнер, 579).

**Трыно́ска** ‘кішэнная хустачка, насоўка’ (астрав., Сл. рэг. лекс.; паст., Рэг. сл. Віц.). Відаць, іранічнае заходнебеларускае ўтварэнне ад *церці* (гл.) і *нос* з суф. *-ка*, як у *насоўка* ‘хусцінка’. Параўн. падобнае асіп. *падно́сьнік* ‘насоўка’ (Воўк-Лев., Татарк.).

**Трыно́ўка** ‘шарсцяная прыгожая хустка ў кветкі’ (ДАБМ, камент., 944). Гл. *тараноўка* ‘тс’.

**Трын-трава́** ‘ўсё адно, усё роўна, хоць бы што’ (ТСБМ), ‘дробязь, тое, што не заслугоўвае аніякай увагі’ (Юрч. Фраз.). Параўн. рус. фалькл. *трын былинушка трава* ‘нейкая трава’ (СРНГ), аргат. *трын-трава* ‘каноплі’ (Шчарбакова–Бруева, Соц.-корп. лексика, 174). Разглядаецца як русізм у беларускай мове; рус. *трын-трава* перакладаецца як *тынь-трава* або апісальна: *ему все трын-трава – яму хоць бы што* (Некр. і Байк.). Аналагічна Станкевіч (Язык, 948) адносна рус. *трынь-трава*, для якога прапануецца ў якасці адпаведніка народны фразеалагізм, запісаны на Чэрвеньшчыне: *ані шум баравы*. Гл. *трынь-трава*, *тынь-трава*.

**Трынча́ць** ‘гаварыць, балбатаць’ (круп., Сл. ПЗБ), *трынчэ́ць* ‘брынкаць, бразгаць’, ‘хацець, прагнуць’ (Юрч. Вытв.). Да *трынкаць* (гл.).

**Тры́нчык** ‘невялікі рэмень, дзяга’ (Скарбы), ‘маленькая салдацкая торбачка’ (Бяльк.), укр. *три́нчик*, *тре́нчик* ‘вузкі муж-

чынскі раменны пасак, дзяга’. З рус. *тре́нчик* ‘раменьчык’ < *трень* ‘тонкая вяроўка, пракладзеная паміж пасмамі ліны’ < нідэрл. *trensing* ‘тс’ (Фасмер, 4, 98; ЕСУМ, 5, 629–630).

**Тры́ньдзяўка** ‘слабавольны, легкадумны чалавек’ (Руб.). Відаць, да *тры́ньдзець*, гл. *трындзець*.

**Трынькаць** (*тры́нькаты*) ‘гультайнічаць’ (стол., Бел. дыял. 1). Гл. *трынкаць*.

**Трынь-трава́**, сін. *тынь-трава́* ‘глупства, нічога не вартая рэч або справа’ (Нас.). Сюды ж адносяць і *трын-трава* (гл.). Параўн. рус. варонеж. *трынь-трава́* ‘пра нягоднага, дрэннага чалавека’ (1848 г., СРНГ). Нягледзячы на шматлікія спробы этымалагізацыі, застаецца «цёмным» словазлучэннем, асабліва адносна першай часткі, гл. Фасмер, 4, 112. Пры ўліку адмоўнай характарыстыкі найбольш прымальнай застаецца сувязь з *тры́на* ‘сенная труха’ (гл.), параўн. укр. *три́нити* ‘пераўтвараць у труху’, г. зн. ‘перацёртая трава’, гл. Кошалеў, Език и литература, 1964, 4, 101–106. У рамках падобнага падыходу Арол (4, 111) збліжае архаізм *трынь* з літ. *trū̃nys* ‘гнілы, збуцвелы’ роднасным з **tryti* ‘церці’ (Смачынскі, 692). Гл. і *тынь-трава*.

**Трып** ‘шарсцяная варсістая тканіна’ (ТСБМ), ‘аксаміт’ (Шымк. Собр.). Запазычана праз польск. *tryp* ‘гатунак аксаміту’ з ням. *Tripp* ‘тканіна з воўны або бавоўны, падобная на аксаміт, паўплюш’ (Вінцэнц; Брукнер, 579).

**Трыпаты́н** *(тръпаты́н)* ‘тарпатына’ (мёрск., Нар. сл.). Гл. *тарпатына*.

**Тры́паць** ‘ісці паволі, робячы частыя крокі’ (ашм., Стан.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), ‘лёгка ступаючы, ісці подбегам’ (Варл.), *трыптрып* – аб хадзьбе частымі і дробнымі крокамі (в.-дзв., Сл. ПЗБ, Варл.), сюды ж *трыэ́паті* ‘ісці паволі’ (беласт., Сл. ПЗБ). Параўноўваюць з літ. *trỹpti* ‘тупаць нагамі’ (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 5, 138). Хутчэй за ўсё, гукаперраймальнага паходжання, параўн. «звонкі» варыянт *дры́паць* ‘ісці, ступаючы часта і дробна’ (Скарбы) пры літ. *drìbti* ‘падаць, валіцца’.

**Трыпе́лы** (*трыпэ́лый*) аргат. ‘малады’ (Бел. дыял. 1). Параўн. рус. смал., пск. *трипёлый* ‘тс’ (Дабр., СРНГ). Куркіна (Диал. структура, 110), зыходзячы са значэння ‘неакрэплы, нябіты’, звязвае з асновай **trip-*, параўн. славен. *tripati* ‘міргаць, дрыжаць’,

літ. *trỹpti* 'тупаць нагамі' і інш., што няпэўна. Хутчэй да папярэдняга слова.

**Тры́пер** 'ганарэя' (ТСБМ), *тры́пэр* 'тс' (Некр. і Байк.). Праз рускую мову (*триппер*) ці польскую (*tryper*) з ням. *Tripper* 'тс', якое ад дзеяслова *trippen* 'ка́пацъ' (Голуб–Ліер, 489; Фасмер, 4, 103; ЕСУМ, 5, 640; Вінцэнц), генетычна звязанага з *tropfen* 'тс', ст.-в.-ням. *tropfo* 'кропля', англ. *drop* 'тс'.

**Трыпе́рсніца** 'гусялапка, *Alchemilla vulgaris* L.' (Некр. і Байк., Яруш., Гарэц., Байк. і Некр., Кіс.), *трыпе́рстнік* 'кураслеп дуброўны, *Anemone nemorosa* L.' (Бейл.), *трыпе́рсціца* 'герань балотная, *Geranium palustre* L.' (Касп., Дэмб. 1; маг., Кіс.). Фармальна ўсе выводзяцца з *тры* (гл.) і +*перст* 'палец' (гл. *пярсцёнак*), уключаючы і *трыперсніца* (у якім *-т-* выпала), хаця лісты іх – паводле формы якіх названы расліны – могуць мець не толькі тры, але і іншую колькасць долей, аднак лічбе *тры* прыпісваецца асаблівая магічная сіла (Коласава, Лексика, 128).

**Трыпуга́** 'мянташка' (малар., Сл. Брэс.). Гл. *трапуга*.

**Трыпу́зый**, *трохпу́зый* іран. 'вельмі тоўсты, тлусты' (Юрч. Вытв.). Да *пу́за* (гл.). Прыстаўка *тры* (з ц.-слав. *тре-*, *трь-* < ст.-слав. **трь-**: *треклятый*, гл. *трыкляты*) утварае прыметнікі найвышэйшай ступені. У *трохпузый* адбылося пераасэнсаванне пачатку слова (з *тре-*) у значэнні траічнасці (гл. *тры*).

**Трыпу́тнік**$_1$ 'травяністая расліна *Plantago major* L.' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Ласт., Байк. і Некр., Сцяшк., Яруш., Бейл., Гарэц., Мядзв.; віц., маг., мін., смал., Кіс., Брасл. сл., ЛА, 1, Сл. ПЗБ), *тріпу́тнік* 'тс' (Бяльк.), *тры́пуцень* 'тс' (Мат. Маг.), *тръпу́тнік* 'тс', *тръпу́тніна* 'адно сцябло (ліст) трыпутніка' (мёрск., Нар. словатв.; дзісн., Жыв. сл.), *тры́патнік* 'трыпутнік' (карэліц., ЛА, 1), *трэ́патнік* 'тс' (капыл., Сл. ПЗБ), *трыпу́тняк* 'тс' (арш., ЛА, 1). Укр. *три́путень*, *три́пу́тник*, серб. *тропутац*, харв. кайк. *trpȗtȁc*, *tȑput*, *trpútac*, *trìputac*, славен. *trpótec*. Традыцыйна выводзяць з *прыпу́тнік* 'тс' (гл.), параўн. у дзіцячым фальклоры: *Прыпутнічку, прыпутнічку, / Сядзіш ты пры дарозе* (палес., БНТ, Гульні, 193), параўн. рус. *припу́тник*, укр. *припутень* 'тс', славен. *tr(i) pótek* (*pri* > *tre*) 'тс' з далейшым збліжэннем пачатку слова з *тры* (гл.), пераходны этап дэманструюць запісы Меера: *трепутень, или попутчикъ, по дорогомъ и во всѣхъ мѣстахъ* (Меер Крыч.).

Паводле Ваняковай (Prasl. dialektizacija, 313, 320), тут мела месца калькаванне, паколькі шмат якія назвы расліны не мелі народнага характару, параўн. *падарожнік* (гл.), *дарожнік*, польск. *podrożnik*, рус. дыял. *путник*, славац. *cestní zelina*, ням. *Wederich* і інш. Аднак параўн. ст.-слав. **трьпѹтица** ‘нейкая расліна, шандра, трыпутнік?’, што дазваляе выводзіць першапачатковую форму з **tri* (рэдукаваная форма ад **trije*, гл. *тры*) і дэрывата ад **pǫtь* (гл. *пуць*) са значэннем ‘расліна, якая расце каля трох дарог, на раздарожжы’ (ESJSt, 17, 995). Падобным чынам Скок (3, 500) звязвае гэту назву расліны з лікам 3 (тры): ‘расліна, якая расце на раздарожжы, дзе ёсць тры дарогі’. Аналагічна Сной$_2$ (788), які выводзіць праславянскую форму **trьpǫtьcь* з **trь* ‘тры’ і **pǫtь* ‘дарога’, дзе акрамя магіі лічбы 3 прысутнічае і міфалагема ‘раздарожжа’.

**Трыпу́тнік$_2$** ‘спарыш, *Polygonum avuculare* L.’ (хоц., ЛА, 1), параўн. укр. *подоро́жник*, чэш. мар. *ucestka* (< *u* + *cesta* ‘дарога’), ням. *Weggras* (< *Weg* ‘дарога’ + *Gras* ‘трава’). Матывацыя: расліна расце ля дарогі альбо на дарогах (Махэк, Jména, 87), на межах і палях як пустазелле, на гаспадарчых дварах і паміж пліткамі тратуараў.

**Трыпу́цень** ‘голуб-вяхір, *Palumbus torquatus*’ (Мядзв.). Параўн. укр. *три́путень*, *три́потень*, а таксама *при́путень* ‘голуб *Columba palumbus* L.’, рус. *припутень* ‘тс’. Ад *пры* ‘каля’ і *пуць* ‘шлях, дарога’ – гэта птушка часта водзіцца ля дарог, назва ўтворана аналагічна да ўкр. *поруче́йник*, *побере́жниця*, *під'я́лівчак*, *подборозня́* і інш. (Булахоўскі, Вибр. пр., 3, 227–228).

**Тры́пціх** ‘кампазіцыя з трох карцін, барэльефаў, малюнкаў, аб'яднаных адной ідэяй, тэмай і сюжэтам’, ‘складаны з трох створак абраз’ (ТСБМ). Праз рускую мову (*три́птих*) або непасрэдна з с.-грэч. τρίπτυχος ‘трайны, складзены ў тры столкі’, у якім першая частка τρί- – да *тры* (гл.), а другая πτυχή ‘складка, фальбона’ этымалагічна няясная (ЕСУМ, 5, 640; Трубачоў, Дополн., 4, 103; Голуб–Ліер, 490).

***Трыпялі́**, *трыпылі́*, адз. л. *трыпі́ль* ‘кутас у поясе’, ‘махры ў хустцы, настольніку, ручніку’ (драг., ЛА, 4). Працяг ст.-бел. *треперель* ‘упрыгожанне на адзенні’ (1586 г.), якое са ст.-польск. *treperela* ‘тс’ (Булыка, Лекс. запазыч., 109). У XVI ст. ужываліся

таксама формы *treperele* і *trepele*, з апошняй і паходзіць дыялектная лексема, усе да італ. *trapelo* ‘шнур’ (Брукнер, 568). Сюды ж, верагодна, і *трапаля́сы* ‘шматкі тканіны’ (пін., Бел. дыял. 1) – канец слова, відаць, пад уплывам *кутасы* (гл.), параўн. і назалізаваны варыянт *трампялясы*, гл.

**Трыро́жкі** ‘вілы на тры рагі’ (Мат. Маг.), *трыро́гіе вілкі* ‘тс’ (Янк. 1), *трыро́гі* ‘тс’ (Янк. 2). Да *тры* і *рог* (гл.), больш архаічная форма ў параўнанні з *трохрожкі*, гл.

**Трыса́** ‘пілавінне’, *тріса́* ‘тс’ (раг., стол., ЛА, 1). Варыянт з метатэзай ад *ты́рса* (гл.), магчыма, звязаны з пераносам націска з асновы на канчатак, параўн. Векслер, Гіст., 216.

**Трысве́чнік** ‘падсвечнік для трох свечак’ (Ласт., Адм.), трысве́чнік ‘тс’ (Некр. і Байк.). Калька грэч. τριχ ήριον ‘тс’, гл. *трыкір* ‘тс’.

**Трыска́** ‘лён, падняты і звязаны для вылежвання’ (Мат. Маг. 2). Фанетычны варыянт слова *траска́*$_2$ (гл.).

**Трыску́ць** ‘марозная пагода’ (Сцяшк. Сл.). Да *трэск*, *трашча́ць* (пра мароз) (гл.), параўн. *трэскоцень* ‘траскучы мароз’ (гл.), рус. *треску́н* ‘вельмі моцны мароз, ад якога вянкі хаты ці дрэвы трашчаць’, в.-луж. *třěskać* ‘трашчаць (пра мароз)’. Паводле Брукнера (579), вакалізацыя *trysk* < *trzask* (гл. *трэск*) характэрна для польскай мовы, што, магчыма, дае падставы бачыць польскі ўплыў, які дапускае Астроўскі (ABSl, 29, 148) у фіналі *-уць* (мазурэнне?), параўн. *трыску́чы* ‘траскучы’ (Вруб.), аднак форма ж. р. *моцнайа трыскуць* набліжае назоўнік да іншых абстрактных на *-ць*, хаця ў гэтым выпадку магчымы і ўплыў слова *пагода* ‘надвор’е’. Не выключаны таксама ўплыў суфікса літ. *-ūtis* са зневажальным значэннем, параўн. фармальна блізкае літ. *treškùtis* ‘хто любіць шмат гаварыць’ < *treškùs* ‘траскучы’, гл. Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 264.

**Трыснёг** ‘вадзяная ці балотная расліна, *Phragmites communis* Trin.’ (ТСБМ, Кіс.), *трасня́г (трысня́х)* ‘тс’ (ашм., валож., смарг., іўеў., ЛА, 1, Сцяшк. Сл.), *траснёг* ‘тс’ (валож., там жа), ‘зараснік чароту, *Scirpius* L.’ (БРС), *трысня́г* ‘балота, зарослае асакой, *Carex* L.’ (Сцяшк. Сл.), *трыснёг* ‘рагоз, *Typha latifolia* L.’ (лаг., ЛА, 1), ст.-бел. *тросняг* ‘зараснік чароту’ (ГСБМ). Да *троснік*, *трасня́к* (гл.); не выключана, што тут прысутнічае «звонкі» варыянт суфіксаў, параўн. *трасня́к* (астрав., віц., ЛА, 1), падобна

да *аўсюг* / *аўсюк* (гл.), *хмызнёг* (Кал.), пры звычайным *хмызняк*, *хмызнік* – з'ява, вядомая і ў іншых мовах, параўн. рус. *престня́к*, *престня́г* 'зараснік вішні'. Пра варыянтнасць суф. *-ka* / *-ga* ў літоўскай мове гл. Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 299.

**Трысомнік** 'месца, дзе сякуць дровы' (Мат. Маг.). У выніку змены *-тн-* на *-мн-* (калі гэта не вынік памылковай дэшыфроўкі запісу), параўн. *трысо́тнік* 'месца, дзе колюць і сушаць дровы' (Жд. 2, ДАБМ, камент., 789). Гл. *трасотнік*, *траскоўнік*.

**Тры́ста** 'лік і лічба 300', 'колькасць, якая абазначаецца лічбай 300' (ТСБМ, Байк. і Некр., Вруб.), *тры́ста*, *тры́сто* 'тс' (ТС), ст.-бел. *триста*, *трыста* 'тс', сюды ж *трисотный* 'трохсоты' (ГСБМ). Укр. *три́ста*, рус. *три́ста*, польск. *trzysta* (ж. і н. род), *trzystu* (м. род), н.-луж. *tśista*, в.-луж. *tři sta*, чэш. *tři sta*, славац. *tristo*, славен. *tri sto*, харв. *trȉsta*, серб. *тр̏ста*, балг. *три́ста*, макед. *триста*, ст.-слав. **три съта**. Прасл. **tri sъta*, утворанае ад **tri* ('тры' ў форме ніякага роду) і **sъta* (< *sъto*) – у форме Н. скл. мн. ліку: **sъto* скланялася як **selo* (Борысь, 652; ЕСУМ, 5, 641; Новое в рус. этим., 230–231). Да *тры* і *сто* (гл.).

**Трысце́н**$_1$, *трысце́нь* 'прыбудова да хаты з трох сцен' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Гарэц., Сцяшк., Сл. ПЗБ, Жд. 1, Нар. Гом., Вушац. сл., Варл.; докш., Янк. Мат., Бяльк., Мат. Гом., Др.-Падб.), 'прыбудоўка з трыма сценамі да хаты, аддзеленая ад яе сеньмі, якая служыць за камору' (Кліх), *трысьце́н* 'сенцы' (круп., ЛА, 4), *трысце́нка* 'прыбудова да хаты з трох сцен' (Жд. 1), *трысце́нак*, *трысце́ннік* 'тс' (Сцяшк., Ян.; глус., Янк. Мат, Жд. 1; віл., Жыв. сл., Янк. 2; ст.-дар., ЖНС), *трысце́нік* 'тс' (астрав., Сл. ПЗБ); *трысцён (снапоў)* 'старана ў гумне, заложаная снапамі аднаго віду збожжа' (бых., ЛА, 5), *трысце́нак* 'хлеў' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Мат. Гом.; в.-дзв., Шатал.; шчуч., З нар. сл.), ст.-бел. *тристенъ* 'прыбудова з трох сцен' (1754 г., ПГС), *хлѣвок тристенный* (1591 г., ГСБМ). Як паказвае старабеларускае словазлучэнне, лексема *трысцен(ь)* – вынік семантычнай кандэнсацыі на базе *тры* (гл.) і *сцяна* (гл.). Лексічныя адпаведнікі ёсць у літоўскіх і латышскіх гаворках: літ. *trisiẽnis* 'старана ў гумне', *trisiẽnis*, *trusiẽnis* 'прылазнік', лат. *trisienis*, *trisens*, *trisiens(is)*, *trisins* 'зруб калодзежа'; усе яны ўзыходзяць да *trỹs* 'тры' + *síenis* 'сцяна',

'мяжа'. Параўн. таксама літ. *trìsienis* 'трохграннік', *trisiẽnis* 'трохгранны'.

**Трысце́н**$_2$, *трысьце́нак* 'трохграннік' (Байк. і Некр.). Калька з польск. *trójścian* 'тс'.

**Трысце́нь** 'вялікая ручайка пражы ў дзве або ў тры ніткі' (арш., Бяльк.), 'клубок нітак' (віц., круп., Трух.). Утворана ад *трысці́ць* (гл.) пад уплывам лексемы *прасце́нь*$_1$ 'мера палатна ў даўжыню' (гл.), якое з *пра-* < літ. *priẽ* 'каля, ля, побач з, пад' і *сцень* < *сцяна́* (гл.). Відаць, не можа разглядацца асобна ад *прасце́нь* 'адно верацяно', 'верацяно, зматанае з двух верацёнаў', што звязана з тэхналогіяй снавання на сценах хаты. Параўн. *про́сцень* 'тс', якое Трубачоў (Ремесл. терм., 101) выводзіць ад *просты*, гл.

**Трысцё** 'трыснёг, *Phragmites communis* Trin.', 'пласцінкі ў бёрдзе' (ТСБМ, Некр. і Байк., Др.-Падб.), *трысцё*, *тра́сце* 'пласцінкі ў бёрдзе' (Мат. Гом.), *трысте́* 'тс' (Сл. Брэс.), ст.-бел. *тростье*, *тростие* 'тс' (ГСБМ). Параўн. укр. *трі́стя* 'чарот', 'балота', рус. зборн. *тре́стье* 'чарот, трыснёг', 'пласцінкі ў бёрдзе', польск. *trzcia* 'месца, зарослае чаротам', чэш. *tŕtí* зборн. 'трыснёг', славац. зборн. *trstje* 'тс', ст.-слав. зборн. **трьстиѥ** 'тс'. З прасл. **trьstьje*, зборн. ад *trъstь*, гл. *тросць*$_1$.

**Трысціна́** 'сцябло трыснягу' (ТСБМ), *трысціна́* 'палка' (Нас., Байк. і Некр.), 'трыснёг, *Phragmites communis* Trin.' (зэльв., ваўк., слонім., віл., ЛА, 1), *трысьці́на* 'асобная пласцінка ў бёрдзе' (Нік. Очерки), 'кій, ляска, мыліца' (Некр. і Байк.), *тросці́на* 'пласцінка ў бёрдзе' (ТС), ст.-бел. *тростина*, *трисцина*, *трстина*, *трыстина* 'чарот', 'стрэмка', 'трыснёг' (ГСБМ). Да *тросць*$_{1,2}$ (гл.) з суфіксам адзінкавасці *-ін-*, гл. *трасціна.*

**Трысці́ць**$_1$ 'зводзіць дзве або тры ніткі ў адну для далейшага сукання' (Нас., Некр. і Байк., Ласт., Бяльк., Мядзв., Варл., Янк. 1, Сцяц., Янк. 1, Сцяц., Сл. ПЗБ; арш., мёрск., в.-дзв., Шатал.; мсцісл., Жыв. сл.; рагач., Арх. ГУ, ЛА, 4, Мат. Маг.; круп., Нар. сл.), 'падрыхтоўваць ніткі для сукання' (Жд. 2), *тросці́ць* 'тс' (ТС), *трасці́ць* 'тс' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Параўн. рус. *тростить*, *тра́щивать*, *трестить* 'скручваць, звіваць, сплятаць, віць (вяроўку), сукаць, здвойваць пражу на верацяне', 'зліваць, ссыпаць у адно месца', 'змешваць': *не трости жита с ячменем* (Даль), сюды ж, відаць,

і балг. дыял. *тръстѝна* ‘вяроўка з конскага хваста або грывы’. Паводле Мяркулавай (Очерки, 47), дзеяслоў вытворны ад **trъstь / *trьstь* (гл. *тросць$_1$*) з двума супрацьлеглымі значэннямі ‘віць, звіваць’ і ‘драбіць, расшчапляць на часткі’ (гл. *трысціць$_2$*). Вывядзенне дзеяслова з *тросць$_1$* пацвярджаецца выразам *трысьціць бёрда* ‘ўстаўляць новыя трысцінкі ў бёрдзе замест выпаўшых або паламаных’ (Нік. Очерки), а таксама *трысціць аснову* ‘ўводзіць аснову ў бёрда’ (там жа), *трасціць* ‘рабіць новае бёрда, устаўляць у яго трасцінкі’ (в.-дзв., Шатал.). Крытычны разгляд ранейшых версій з канстатацыяй іх недастатковай агрументаванасці гл. у Фасмер, 4, 108. Сюды ж *трэ́шчаны* ‘ссуканы’ (Сцяшк. Сл.; чэрв., ст.-дар., лід., Сл. ПЗБ), *тры́шчаны* ‘злучаны з 2–3 столак, нітак’ (Нас.; мсцісл., Жыв. сл.), *трышчо́ны* ‘злучаны разам (пра ніткі)’ (Ск. нар. мовы, Сцяц., Янк. 1, Мат. Гом.), *тро́шчаны* ‘складзены ўдвая’ (стол., ЛА, 4), *тро́шчэны* ‘ў якім зведзены дзве ніткі разам’ (ТС).

**Трысціць$_2$** ‘біць, разбіваць’ (Мат. Маг.), ‘ламаць з трэскам, без разбору’ (Юрч. Сін.), ‘ламаць на дробныя кавалкі, трэскі’ (Растарг.), *тры́сціць* ‘ламаць што-небудзь слаістае’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.), сюды ж *тры́шчыць* ‘рабіць, шчапаць, ламаць’ (Нас.) і *трашчыць$_2$* (гл.). На рускай тэрыторыі – толькі на мяжы з беларускай, параўн. рус. смал. *растрысти́ть* ‘драбіць на кавалачкі’, *потрысци́ть* ‘пашчапаць, паламаць на дробныя часткі’ (Дабр.). На думку Мяркулавай (Очерки, 47), ідэнтычна паводле паходжання *трысціць$_1$* (гл.), што, відавочна, грунтуецца на фіксацыі Даля (без указання тэрыторыі) рус. *трести́ть лучину* «расшчапляць мелка, на запалкі» ад *тре́ста* ‘чарот, траснік’. Аднак больш шырокая семантыка дазваляе зблізіць словы з іншымі дзеясловамі з варыянтным вакалізмам, як у *трусіць* ‘біць, разбіваць на кавалкі’, *тру́шчыць*, *тру́скаць* (гл.), укр. *тро́скати* ‘ўдараць пугай’, польск. *trzaskać* ‘раптоўна ўдараць па чым-небудзь, выклікаючы моцны розгалас’, ‘біць, таўчы’, ‘лопацца з трэскам’, чэш., славац. *trosky* ‘абломкі, рэшткі, руіны’, харв. *trȍska*, серб. *тро̏ска* ‘гараль, акаліна’, ‘шлак’, што да прасл. **trъstiti / *troskati* гукапераймальнага паходжання, гл. *троскат*, *трэск*. Параўн. Фасмер, 4, 107; ЕСУМ, 5, 649; Борысь, 647.

**Трысці́ць**$_3$ ‘крыць хату’, ‘перабудоўваць хату’ (слуц., Жыв. сл.). Відаць, пашырэнне значэння *трысціць*$_1$ ‘складваць, злучаць’, магчыма, з канкрэтызацыяй ‘пакрываць чаротам’, што да *тросць*$_1$, *трысцё*, гл.

**Трысцьні́к** ‘сухое галлё, хворост’ (Бяльк.). Нягледзячы на фармальнае падабенства да *трысцё* (гл.), па семантыцы не можа быць выведзена з *тросць*$_1$, *трасьнік* ‘чарот, сітнік’ (гл.), хутчэй да *труск* ‘дробныя галінкі’ (гл.), параўн. і *трушні́к* ‘сухое галлё, якое збіраюць у лесе’ (Арх. Вяр.), што да варыянтнай асновы **trěsk-*, **trosk-*, **trusk-*, **trysk-* (Брукнер, 579; Фасмер, 4, 110); параўн. *тры́сціць* ‘біць, ламаць’ (гл.).

**Трысця́нка** ‘шматгадовая травяністая расліна сямейства злакавых, *Scolochloa* Link.’ (ТСБМ, Кіс.), народная назва *тро́скі* (там жа). Варыянт з гістарычным чаргаваннем *о́ / ы*, якое, аднак, непаслядоўна праводзілася (Векслер, Гіст., 217), гл. *трасця́нка*, параўн. рус. *тростя́нка* ‘тс’, якое да *трость* ‘чарот’ з-за знешняга падабенства, параўн. *троска*$_3$ (гл.).

**Трысцяны** ў песні: *Перапёлка, / Трысцяно гняздзечка, / Залато яечка, / Перапёлачка* (Ант.), параўн. ст.-бел. *тростяный* ‘трысняговы’ (Скарына, ГСБМ). Да *трысцё* (гл.).

**Трытату́шка**, *тарадэ́йка* (гл.) ‘пустабрэх, які многа гаворыць’ (Мат. Маг. 2). Ад гукапераймання *тра-та-та* (гл.); пачатак слова можа быць звязаны з польск. *tryt* ‘драўляная педаль у машынах’ (у тым ліку ў калаўротку), стук якой падобны да тарахцення, балбатні, што з ням. *Tritt* < *Trittbrett* (an Maschinen), гл. Вінцэнц.

**Трыто́н** ‘хвастатае земнаводнае, падобнае на яшчарку, *Friturus* L.’ (ТСБМ; маг., ЛА, 1), *трыто́н*, *тріто́н* ‘тс’ (віц., Грач.). Паходзіць ад грэч. Τρῖτων ‘міфічная марская істота’, назва распаўсюдзілася праз заходнееўрапейскія мовы (франц. *triton*); запазычана з рус. *трито́н* ‘род земнаводных’ (ЕСУМ, 5, 641; Фасмер, 4, 103; Арол, 4, 104).

**Трыу́льна** ‘сытна’ (Сцяшк. Сл.), *трыу́льно* ‘тс’ (Сл. рэг. лекс.). Ад *трывальны* ‘пажыўны’ (гл. *трываць*) з мясцовай субстытуцыяй *а > у* пад націскам: *трыву́ло* ‘трывала’ (Сцяцко, БММ, 2, 204), параўн.: *трывульную яду ўсе любяць* (Даніловіч, Лінгв. краязн.,

125); мясцовая форма, відаць, сведчыць аб білабіяльным характары *в*.

**Трыу́мф** 'урачыстая сустрэча палкаводца і яго войска ў Старажытным Рыме ў сувязі з дасягнутай перамогай', 'бліскучы поспех, выдатная перамога' (ТСБМ), 'урачыстасць' (Некр. і Байк.); ст.-бел. *трыумфъ*, *триумфъ* 'урачыстасць з выпадку перамогі' (1580 г.), мн. л. *трыумпы* (Золтан, Athila). Запазычана са ст.-польск. *tryumf* 'тс' або непасрэдна з лац. *triumphus* 'трыумф', 'урачысты ўезд' < вокліч *triumpe!* (які выкрыкваўся ў дзень свята ўрадлівасці) < ст.-грэч. νρίαμβος 'гімн у гонар Вакха', 'які трыумфуе, святкуе' < τρί-ομφος 'трайны крок' (Вальдэ, 1906, 637–638; Фасмер, 4, 103; ЕСУМ, 5, 646; Булыка, Лекс. запазыч., 66).

**Трыўны́** (*трывный*) 'больш сытны' (Клім.), з іншай суфіксацыяй *трыўке́й* 'каларыйны, сытны' (драг., Скар. НМ). Да *трыва́ць* (гл.), параўн. *трыва́льнейшы* 'больш пажыўны, каларыйны' (Скарбы$_2$), *трыва́лкі* 'тс' (Гіл.).

**Трыфо́ль** 'вадзяная ці балотная расліна бабок, *Menyanthes trifoliata* L.' (ТСБМ). Праз рускую мову (*триfоль*) з лац. *trifolium* 'трыліснік, канюшына'. Параўн. чэш. дыял. *třilistník*, *třulistník*, паўд.-польск. *trojan* – звычайна ў расліны з кораня вырастаюць тры вялікія сакавітыя лісты (Махэк, Jména, 182; ЕСУМ, 5, 641).

**Трыфу́нцік** 'дзіця, якое не набірае вагі да нормы' (Жд. 1). Да *тры* і *фунт*, гл.

**Трыхаму́днічанне**, *трыхаму́дства* 'пустаслоўе' (Юрч. Мудр.). У выніку пераносу семантыкі з *трахаму́ддзе* 'малакаштоўныя рэчы', гл.

**Трыхі** ў рыфмаваным выразе *трыхі да мніхі* 'пра дарэмную трату часу' (брагін., З нар. сл.). Параўн. укр. *три́хи* 'трэнне; мітусня, клопат', рус. *три́ха*, *тры́ха* 'працёртая рэдзька', 'бульба, якая засталася на зіму ў зямлі', што схіляе да думкі пра вытворнасць ад *церці* (аналагічна ЕСУМ, 5, 558). Другая частка выразу мае тыповы для рыфмовак пачатак з губным *м* і, відаць, блізкая па семантыцы да першай, магчыма, ад *мяць*, *мну*, як *церці*, *тру* (гл.), і ў такім выпадку толькі фармальна набліжаецца да *мніхі* (< польск. *mnich* 'манах'). Семантыка выразу дэманструе іранічныя адносіны да падобных заняткаў.

**Трыхíны** ‘паразіты ў свіным мясе’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Стома Мяст.). З новалацінскай навуковай наменклатуры *thrichina* ад грэч. τρίχινος ‘валасяны’ (ЕСУМ, 5, 642), параўн. *валасень*$_5$ (гл.).

**Тры́ца** ‘драўлянае колца ў калаўроце, праз якое шнурам перадаецца рух шпульцы’ (Скарбы; гродз., Нар. сл.); *тры́цык*, *крэ́цэк*, *тры́цік* ‘тс’ (малар., Сл. Брэс., Уладз.). Яшчэ раней *трыца* ‘блок у шыбеніцы’, гл. Гардзееў, Магдэбургская Гародня. Мінск, 2008, 51. З польск. *tryc*, *trycek*, *tryca*, *trycka* ‘колца ў калаўроце’, ‘блок, на якім спускаецца ланцужок у гадзінніку’, а таксама ‘равок (выраз) у блоку, на які навіваецца шнур’, якія з ням. *Tritze* ‘хадавое кола’ (Фалінская, Sł. tkac., 2/1, 90; Вінцэнц). Меркаванні пра запазычанне *стры́ца* (гл.), *тры́ца* ‘калёсіка на калаўроце’ праз ідыш гл. Галай, БМ, 8, 54.

**Трыцікáле** ‘збожжавая культура – гібрыд пшаніцы і жыта’ (ТСБМ). Штучнае ўтварэнне з лац. *triti(cum)* ‘пшаніца’ + *(se)cale* ‘жыта’.

**Тры́ццаць** ‘лік і лічба 30’, ‘колькасць, якая абазначаецца лічбай 30’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., ТС), *тры́ццыць* ‘тс’ (Бяльк.), *тры́цаць* ‘тс’ (вільн., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тридцать*, *тридцеть*, *тритцать*, *трицать*, *трицять*, *трыдцать*, *триццать*, а таксама *тридесять*, *тридесятъ* ‘тс’, сюды ж парадк. ліч. *тридесятый*, *тридцатый*, *тридцятый*, *тритцатый*, *трыдцатый*, *тритцатый*, зборн. *тридцатеро*, *трыдцатеро* (ГСБМ). Укр. *трúдцять*, *трúйцять*, *трúдесять*, рус. *тридцать*, стараж.-рус. *три десяте*, польск. *trzydziestu* (м. р.), *trzydzieści*, н.-луж. *tśiźasća*, в.-луж. *třiceći*, чэш. *třicet*, славац. *tridsať*, славен. *trídeset*, харв. *trídeset*, серб. *трùдесет*, балг. *трѝдесет*, макед. *триесет*, ст.-слав. **трик десѧте**, **трик десѧти**. Прасл. **trьje desęte*, *tri desęti*, у якіх **desętь* (гл. *дзесяць*) стаіць у форме Н. скл. мн. л. (*desęte*, *desęti*); у выніку рэдукцыі і страты канцавога ненаціскнога галоснага з прычыны таго, што націск падаў на лічэбнік **tri* (гл. *тры*), другая частка набыла форму *дзéсяць*, у далейшым дэфармаваную. Бліжэйшыя паралелі – літ. *trìsdešimt*, *trys dẽšimtys*, лат. *trîsdesmit,* літаральна ‘тры дзясяткі’ (Скок, 3, 500–501; ЕСУМ, 5, 636; Шустар-Шэўц, 1546; Супрун, Числит., 62–63; Новое в рус. этим., 237).

**Тры́чка** ‘негатыўна пра жанчыну’: *нацягнула короткую споніцу і пошла, бы трычка* (Руб.). Няясна; мажліва, дэфармаванае *пстрычка* (гл.), у тым ліку пра несур’ёзную жанчыну.

**Тры́чы** ‘тройчы, тры разы’ (Бес.; арш., Мат.). Параўн. укр. *трі́чі*, *три́чи* ‘тс’. Паводле Карскага (2–3, 72), да *тры-* з суф. *-чы*, як у *двойчы*, *тройчы* (гл.); апошні ідэнтыфікуецца з іменнай формай **jьtjь* ‘ход’ ад дзеяслова **jьti* (гл. *ісці*). Гл. ЕСУМ, 5, 642.

**Трыш-** у прыгаворцы: *Сем пол наперадзе, / Чаму мяне не бераце. / І трыштыкі туды ж такі* (Вушац. сл.). Няясна. У *трыштыкі* вычляняецца фармант *-тыкі*, адносна якога Насовіч сцвярджае, што ён далучаецца да слоў як бы для пацверджання (Нас.), гл. *такі*$_2$. Параўн. запісанае на Смаленшчыне *три́ш-таки* ‘выклічнік, што ўжываецца для выражэння незадавальнення’ (?): у *триш-таки тудыш-таки* (СРНГ). Першую частку можна зблізіць з *тры́шты* (гл.), параўн., аднак, харв. *trȋž*, *triš* ‘тры разы, тройчы’, чарнаг. *трӥш* ‘тс’, серб. цімак. *триш* ‘тс’, балг. *трижс* ‘тс’, макед. *триш* ‘тс’, што выводзяцца з прасл. **trišьdъ*, гл. Ільінскі, Зб. Ягічу, 298; Скок, 3, 501; Младэнаў, Диалектология, 547–550; Тодараў, Этим. етюди, 149. Адзіная засведчаная ў паўночнаславянскім арэале беларуска-паўднёваславянская паралель з канцавым *ж / ш* са значэннем ‘тройчы, у тры разы’? З-за фармальных цяжкасцей малаверагодна вывядзенне з *трышты* (гл.).

**Тры́шак** ‘картачная гульня’ (Мальдзіс, Як жылі нашы продкі. Мінск, 2009, 186). Параўн. польск. *tryszak* ‘тс’, іншая назва *srtaszak*. Няясна.

**Тры́шка** ‘баязлівы, нясмелы чалавек’ (Бяльк.). Верагодна, ад УІ *Тры́хан* (якое, магчыма, да *Тры́фан*), але матывацыя няясная. Нейкая сувязь з папярэднім словам? Параўн. укр. *трі́шкатися* ‘неспакойна захоўвацца’, якое звязваюць з *те́рти* ‘церці’ (ЕСУМ, 5, 642), а таксама *труха*$_2$ ‘нейкая картачная гульня’ і *трухлівы* ‘баязлівы’, гл.

**Тры́шты**: *у трышты* ‘ў тры разы’ (ТС). Параўн. ст.-слав. **триши** ‘тройчы’, паралельнае да **тришьди** ‘тс’ (ССCл.), якое з прасл. **trišьdy*, спалучэння з **tri* (гл. *тры*) і дзеепрыметніка **šьdъ* ад **xoditi* (Фасмер, 4, 102; ЕСУМ, 5, 637), гл. *трожды*.

**Трышчаці́ннік** ‘травяністая злакавая расліна *Trisetum* Pers.’ (ТСБМ). Як рус. *трищети́нник*, чэш. *trojštětmice*, славац. *trojštet*,

з'яўляецца калькай навуковай лацінскай назвы *trisetum*, утворанай з *tri* 'тры' і *seta (< saeta)* 'шчаціна', 'грыва', 'шорсткія валасы' (Махэк, Jména, 288), бо сцябло і лісты расліны пакрыты шчацінай, кароценькімі калючкамі.

**Тры́шчыць**$_1$ 'крышыць, ламаць на дробныя часткі пад цяжарам' (Нас., Байк. і Некр.), *тpíшчыты* 'лупцаваць' (кам., ЖНС), *трышчэ́нне* 'ламанне' (Юрч. СНС), *трышчэ́ньнік* 'ламальшчык' (там жа); *тры́шчыцца* 'раскрывацца (пра пупышкі на дрэвах)' (Касп.), 'крышыцца на дробныя часткі' (Нас., Байк. і Некр.), *тры́шчаны* 'раздроблены' (там жа). Да *трысці́ць*$_2$, *трушчыць*, гл.

**Тры́шчыць**$_2$ 'сукаць' (Сцяшк. Сл.). Да *трысці́ць*$_1$ (гл.), *тры́шчаны* 'злучаны з двух-трох столак, нітак' (Нас.), 'ссуканы' (Сцяшк. Сл.).

**Трышэ́ўнік** 'суконная світка са сточанай часткай на спіне' (паст., Сл. ПЗБ). Утворана на базе словазлучэння *тры швы* (*на спіне*), гл. *тры*, *шво.*

**Трыя́да** 'адзінства, якое ўтвараецца трыма асобнымі прадметамі, паняццямі або часткамі' (ТСБМ). Праз рускую (*триада*) ці польскую (*triada*) мову з формы Р. скл. адз. л. τριάδος ад ст.-грэч. τριάς 'тройца, траістасць' < τρετς 'тры' (Голуб–Ліер, 488; ЕСУМ, 5, 642).

**Трэ**, *трэ'* 'трэба' (ТСБМ, Гарэц., Некр. і Байк., Касп., Шат., Сержп. Казкі, Мат. Маг. 2, Арх. Вяр., Ян., ТС, ПСл, Сл. ПЗБ), сюды ж *трэ́а* 'тс' (Ян.; кобр., гродз., Кольб.), *трэ́э* 'тс' (Сержп. Прык. і прым.), а таксама *тра* 'тс' (КСТ, Булг., Сл. Брэс.). Параўн. укр. *тре*, *тре́а* 'тс', палес. *тра* 'тс': *йак тра, то тра* (Арк.), польск. *trzea*, *trza* 'тс', чэш. *třa*, *třás* 'тс', славац. *tra* 'тс', ст.-слав. **трѣ** 'тс'. У выніку рэдукцыі з *трэ́ба*$_1$ (гл.) у працэсе трансфармацыі ад назоўніка да прыслоўя (Карскі 2, 354); не выключана, што гэтаму паспрыяла гаплалогія ў найбольш частотным спалучэнні *трэба было* > *трэ было*, параўн. *трэ́ было́*, *трэ́бло* (Хромчанка, Паўн.-маст. гав.), *трэ́було* (з *у* < *ы*, Сцяцко, БММ, 2, 204), *trébała* 'тс' (Варл.), *трэ́бало* 'тс' (Клундук) і інш.

**Трэба**$_1$ 'ахвярапрынашэнне', 'рэлігійны абрад (хрысціны, вянчанне, паніхіда), які выконваецца святаром па просьбе веруючых' (ТСБМ, Некр. і Байк.), ст.-бел. *треба* 'ахвяра' (ГСБМ). Параўн. стараж.-рус. *тереба*, якое праз ц.-слав. са ст.-слав. **трѣба**

‘ахвяра’. Паводле Фасмера (4, 95), разумеецца як ‘выкананне абавязку’ і звязана з *трэба*$_2$ (гл.). Параўн. таксама палаб. *trebe* ‘каляды’, больш падрабязна Ферлюга-Пятроніё, Linguistica, 20, 2, 138 і наст. Зафіксаванае на Брэстчыне *трэ́бо* ‘роўнае месца за вёскай з незамярзаючым ручаём’ (Чэрн.), а таксама *трэ́ба* ‘ляда, месца, дзе высечаны лес’ (бяроз., Шатал.), хутчэй з ўсё, не мае непасрэдных адносін да ‘месца, куды прыносіліся ахвяры багам’, а звязана з *трыб*$_1$ ‘прасека ў лесе’, гл.

**Трэ́ба**$_2$ ‘патрэба, неабходнасць’ (Нас.), ‘клопат, справы’ (Нар. Гом.), ‘неабходна, абавязкова, патрэбна’, ‘пажадана’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Ласт., Бяльк., Шат., Касп., Байк. і Некр., Сцяшк., Яруш., Мал., Федар. 4, ТС, Кліх, Ян., Растарг., Сл. ПЗБ), ‘належаць’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘мець патрэбу ў чым- ці кім-небудзь’ (смарг., воран., вільн., шальч., іўеў., Сл. ПЗБ), ‘быць патрэбным’ (Нас.), *тре́ба* ‘трэба’ (Бяльк.; Мат. Маг. 2), *трэ́бо* ‘тс’ (Скарбы$_2$; слуц., Мат.), ст.-бел. *треба* ‘патрэба’: *ездилъ есми у требе моей до урадника* (ПГС), сюды ж *трэ́бака* ‘тс’ (пін., Нар. лекс.), *тра́було*, *трэ́було* ‘трэба было’ (пін., Ск. нар. мовы), *трэ́буль* ‘тс’ (астрав., там жа); *трэ́батка* ‘тс’ (Рагаўц.), *трэ́бацімя* ‘трэба будзе’ (шчуч., З нар. сл.). Параўн. укр. *тре́ба* ‘трэба’, зах.-укр. *трі́ба* ‘патрэба, спроба’, рус. зах. *треба* ‘патрабаванне’: *по требе явиться* (Даль), польск. *trzeba* ‘трэба, неабходна, варта, як належыць, патрэбна было б’, каш. *třeba* ‘трэба’; н.- і в.-луж. *trjeba* ‘патрэбна, неабходна’, чэш. *třeba* ‘тс’, ‘нават, хаця’, ‘хаця б’, ‘можа быць’, ‘бадай што, мабыць’, славац. *treba* ‘трэба, патрэбна, належыць’, *trebars* ‘хаця’, славен. *tréba (je)*, харв. *trijéba*, серб. *тре̏ба* ‘патрэбна’, дыял. цімак. *тре́бе* ‘тс’, балг. *трѐба* ‘грамадская справа’, макед. *треба* ‘быць неабходным, патрэбным’, ст.-слав. **трѣбѣ (ѥсть)** ‘патрэбна, трэба, неабходна’. Прасл. **terba* ‘патрэба, неабходнасць’ рэканструююць на падставе матэрыялу часткі славянскіх моў, разглядаючы яе як аснову, варыянтную ў адносінах да і.-е. **terp-*: ст.-прус. *enterpo* ‘ўжывае, патрабуе, патрэбны’, літ. *tar̃pti* ‘квітнець’, гоц. *þaúrban* ‘патрабаваць’, *þarbs* ‘неабходны, патрэбны’, ст.-в.-ням. *durfan*, *thurfan* ‘патрабаваць’, ням. *dürfen* ‘магчы; мець дазвол’, ст.-грэч. τέρπώ ‘насычаюся; маю досыць; радуюся, весялюся’, ст.-інд. *tṛ́pyati*, *tárpati* ‘насычацца’ (Борысь, 648; Фасмер, 4, 96; Сной$_2$, 779; ESJSt, 16, 979). Беларускія і ўсходне-

славянскія формы разглядаюцца як запазычаныя з царкоўнаславянскай або польскай (гл. Анікін, РЭС, 9, 204; Цвяткоў, Запіскі, 2, 63), што, улічваючы шырокае іх распаўсюджанне, здаецца малаверагодным і ставіць пад сумненне прапанаваную этымалогію (пра поўную яе няяснасць гл. ESJSt, 16, 979). Скок (3, 501) мяркуе, што першасным значэннем прасл. **terb-* было 'церабіць', і ўтвораны ад дзеяслова **terbiti* (гл. *церабіць*) назоўнік **trěba* абазначаў 'праца', пазней – 'карчаванне', якое было вельмі патрэбным у жыцці ранніх славян, таму развілося значэнне 'патрэба ўвогуле' > 'патрэба, неабходнасць'; паводле Трубачова (Этимология–1994–1996, 25) – 'вострая неабходнасць, справа'. У ЕСУМ (5, 626) прасл. **terba* 'патрэба, неабходнасць' звязваецца з **terbiti* 'ачышчаць ад лупінаў', 'церабіць', 'карчаваць', 'мяць', 'пакладаць'. Сюды ж *трэ́баваць* 'быць у цечцы (пра свінню)' (Юрч. СНЛ).

**Трэ́баць** 'патрабаваць' (Мат. Гом.). Параўн. н.-луж. *trjobaś* 'карыстацца, патрабаваць', в.-луж. *trjebać* 'мець патрэбу', 'карыстацца', 'патрабаваць', серб. *тр̏бати* 'патрабаваць', славен. *trebati* 'тс'. Хутчэй за ўсё, новаўтварэнне ад *трэба$_2$* (гл.); аналагічна наконт лужыцкіх слоў гл. Шустар-Шэўц, 1528. Не выключана другаснае ўтварэнне (інфінітыў) на аснове сцягненых формаў тыпу *трэ́бала*, гл. *трэ*.

**Трэ́бнік** 'кніга, у якой сабраны малітвы для адпраўлення трэб' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк.), ст.-бел. *требникъ* 'тс', 'ахвярнік' (ГСБМ). Са ст.-слав. **трѣбьникъ** 'кніга рытуалаў у грэчаскай царкве'. Да *трэ́ба$_1$* (гл.).

**Трэбяза́** (*трэбэза́*) 'густы зараснік на балоце ці рацэ' (Бес.). Гл. таксама *трабяза́*, *трапе́за$_1$*, *трапяза́*. Як магчымае запазычанне з польск. *trzebież* 'зямля ці поле, ачышчанае ад зарасніку, выцерабленае, інакш – карчовішча', адпаведнае лац. *suppertum* (Жлутка, 329), можа разглядацца ў межах зямельнага права ВКЛ.

**Трэ́йка$_1$** 'мяльшчык, мяльшчыца' (светлаг., хойн., Мат. Гом.), 'трапальшчыца' (хойн., ЛА, 2, Трух.); 'мяліца, церніца, на якой труць лён, каноплі' (ельск., Мат. Гом.). Да *церці* (гл.). Суфіксацыя, як у *жне́йка*, *варажэ́йка* і пад.

**Трэ́йка$_2$** 'тройчы' (Сцяшк. Сл.), *трэ́йкі* 'тс' (Янк. 1; маз.. Мат.), *трэ́йко* 'тс' (Нар. Гом., ТС). Параўн. укр. *тре́йки* 'тс'. Утвораны пры дапамозе канцавых часціц з элементам *-к-* (гл. Копечны

ў ESSJ SG, 1, 316), як у словах *колькі*, укр. *скільо*, польск. *kilko*, *kilka*, серб. *ко̀лико*, балг. *колко* і пад. Да *тры*, гл. *тройка*[1]. Карэннае *-эй-* замест *-ой-* можна патлумачыць уплывам балцкага субстрату, параўн. літ. *trejì* 'тры', *trẽjos* 'трое', лат. *treji* 'трое' (якое ўжываецца толькі з множналікавымі назоўнікамі), *trejāds* 'траякі'; аднак, хутчэй за ўсё, тут мае месца варыянтнасць асноў **tri-* / **tre-*, параўн. *трэці*, гл.

**Трэ́йліць** 'гаварыць недарэчнасці, глупства, разводзіць плёткі' (ваўк., Сл. ПЗБ). Па фармальных прыкметах (дыфтангічнае спалучэнне), відаць, літуанізм. Параўн. літ. *trailúoti* 'балбатаць, пустазвоніць', *tráila* 'пустамеля, пустазвон' (Кудзіноўскі, ABSl, 1, 225; Грынавяцкене, LKK, 16, 190), *trailẽ* 'вясёлая песня' (Лаўчутэ, Балтизмы, 73).

**Трэ́йці** 'трэці' (Байк. і Некр., Федар. 4, Пятк. 2, ТС, Янк. 2; зэльв., Нар. словатв.; беласт., Сл. ПЗБ; ганц., Ск. нар. мовы), *трэ́йцяя нядзеля* 'сход месяца, яго 3-я квадра' (стаўб., З нар. сл.); *трэ́йціе пе́ўні* 'пара сутак' (Сержп. Грам.), сюды ж *трэйця́к*, *трэйця́ка* 'трацяк, цялушка трэцяга году' (Мат. Гом., Скарбы, Кліх), *трэйтя́к* '3-гадовае жарабя' (пруж., Зн., дыс.); *на трэйцяк* 'трэцяя частка ўраджаю' (ТС), *трэйця́к* 'трэці пастух' (там жа). Паводле Карскага (1, 354), з **трец'ц'и*, параўн. *тре́цьцій* 'трэці' (Бяльк.), як *айца* < *а́сса* (гл. *айцец*). Станкевіч (Язык, 237) лічыць падваенне (падаўжэнне) гукаў у прыметніках і парадкавых лічэбніках нерэгулярным і прапануе тлумачыць з'яўленне *й* паміж *а*, *о*, *е* і зубнымі вядомымі ў народнай мове выпадкамі тыпу *войстры*, *гайсаць* і пад. (Станкевіч, Зб. тв., 2, 35). Цвяткоў (Запіскі, 78) бачыць аналогію ў польск. *miejsce* (**mieśće*>**mieśśće* з распадабненнем і зацвярдзеннем *ś* пад уплывам *с*). Параўн., аднак, ст.-бел. *третье* 'трэцім разам' (ГСБМ) адпаведна ст.-слав. **третиѥ, третиѥѥ** 'тс' (ESJSt, 16, 978), што дало форму з падваеннем. Да *тры*, *трэ́йка* (гл.).

**Трэ́йчы** 'тры разы' (Шат., Варл.; ашм., Станк., Сцяц., Сцяшк. Сл., Жд. 1, 3; асіп., Буз., Сержп. Прык. і прым., Ян.), 'тройчы' (карэліц., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *треичи* 'тс' (Александрыя). Да *тро́йчы* (гл.), параўн. *трэ́йка* (гл.).

**Трэк** 'збудаванне для вела- і мотаспорту' (ТСБМ, Некр. і Байк.), першая фіксацыя ў 1902 г.: *трэк ... на лісапедах ганяюцца адзін*

*за другім* (К. Каганец). Запазычана з англ. *track* 'тс', 'след, дарога', відаць, праз рус. *трек* 'збудаванне для веласпорту'.

**Трэліць** 'гаварыць глупства, разводзіць плёткі'; 'маніць, выдумляць' (Арх. Федар., Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'доўгі час гаварыць пра адно і тое ж' (Зайка Кос.), 'абы-што гаварыць' (Сцяц., Скарбы; слонім., Жыв. сл.), *трыэ́літі* 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ), сюды ж *трэ́ля* 'пустамеля' (Сцяц.), 'балбатун' (Сцяшк. Сл.), *tryéla* 'тс', *tryéle-mele* 'нясмелы, разлезлы, павольна гаворачы чалавек' (Федар. 4). Параўн. польск. *trelić* 'гаварыць абы-што', якое адносяць да іт. *trillo*, *trillare* (Брукнер, 575), гл. *трэль₁*; рус. аргат. *тре́лить* 'патрабаваць што-небудзь, не маючы на тое падстаў', 'эксплуатаваць' (Шчарбакова–Бруева), ід. *treln* 'лісліўіць, дагаджаць' (Астравух, Ідыш-бел. сл.). Слова няяснага паходжання, магчыма, ад *тра-ля-ля*, параўн. *трэ́ляць* 'сноўдаць без пэўных заняткаў' (ТС), гл. *траляваць₁*. Пра магчымыя балцкія ўплывы гл. *трэйліць*, а таксама Рэмбішэўска, ABSl, 31, 228.

**Трэль₁** 'пералівістае дрыжачае гучанне' (ТСБМ), *трэ́ля* 'тс' (Некр. і Байк.). Праз рускую мову *(трель)* з франц. *trille*, *tril* 'тс', якое з італ. *trillo* 'тс', *trillare* 'дрынкаць, бразджаць' (Фасмер, 4, 97–98; ЕСУМ, 5, 628).

**Трэль₂** 'спецыяльна пракладзеная дарога для тралёўкі драўніны' (ТСБМ), 'уезджаная дарога' (рагач., Сл. ПЗБ), 'высокае месца, куды звозяць спілаваны лес у час распрацовак' (ТС, Зайка Кос.; дзісн., Бел. дыял. 3), 'зімовая дарога праз балоты, рэкі і палі', 'коўзанка на лёдзе' (Варл.). Праз польск. *trel* 'лясная сцежка, прасека' запазычана з англ. *trail* 'след, шлейф, сцяжына, тор', 'цягнуцца, буксіраваць', 'таптаць траву', якое праз франц. *traille* 'канатны паром' узыходзіць да лац. *trāgula* 'невад' < *traho*, *trahere* 'цягнуць, валачыць' (Фасмер, 4, 97; ЕСУМ, 5, 628). Сюды ж *трэля́ць* 'траляваць' (ТС), *trel* 'сцежка, па якой ідуць, цягнуць плыт' ("innowacja polsko-białoruska", гл. Бяднарчук, Stosunki, 184). Параўн. таксама *тралява́ць*, *трыль* (гл.).

**Трэ́льніца** 'жанчына, якая трэ лён' (Жд. 1). Да *це́рці* (гл.). Параўн. *траля*, *тра́льня* < *тра́лля* (гл.).

**Трэлья́ж** 'трохстворкавая люстра' (ТСБМ). З рус. *трельяж*, якое з франц. *treillage* 'крацістая загарадка' < *treille* 'альтанка

з вінаграднай лазы' < лац. *trichila* 'альтанка', у выніку скарачэння *tricla* 'павільён' – слова *trīclīnium* 'трохмесны стол' (SWO, 1980, 774; Голуб–Ліер, 488; Фасмер, 4, 98). Значэнне 'трохстворкавае люстра' развілося ў рускай мове, дзе ўзнікла ў выніку дзеяння народнай этымалогіі (ЕСУМ, 5, 628).

**Трэ́мзлі** *(трэ́мзьлі)* 'махры з нітак' (навагр., Нар. сл.), 'рыззё' (гродз., ЖНС). З польск. *trędzla* 'аблямоўка з нітак', у такой форме з XVII ст. Гл. *фрэнзлі*.

**Трэ́міць** 'балбатаць, гаварыць пустое' (івац., Сл. Брэс.). Няясна, магчыма, памылкова расчытанае *трэліць*, гл.

**Трэ́мкацца** 'лахмаціцца, высыпацца (пра швы ў адзежыне)' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, звязана з *трэпкі*, гл.

**Трэ́мля** 'ламачча, гушчар, зараснік' (мазыр., ГЧ). Няясна.

**Трэмяні́на**, *трамялі́на* 'брызгліна барадаўчатая, *Euonytus verrucosa* Scop.' (Кіс.). Іншыя назвы: *тржэмяліна*, *стрэмяліна* (гл.). Хутчэй за ўсё, слова з'явілася ў выніку дээтымалагізацыі першапачатковай назвы і ўплыву іншых назваў, параўн. укр. *термелі́на*, *терменти́на* 'дуброўка, *Potentilla tormentilla* Schr.' (ЕСУМ, 5, 554).

**Трэн** 'элегія, жалобная песня' (А. Абуховіч), ст.-бел. *тренъ* 'пахавальны плач' (Ст.-бел. лексікон, ПГС). Праз польск. *tren* 'тс' з лац. *thrēnus* < грэч. νρένος 'тс'.

**Трэ́нбух** 'сычуг', перан. 'жывот', 'страўнік' (Мат. Гом.). Да *трыбу́х* (гл.) з другаснай назалізацыяй, мажліва, пад уплывам ід. *trémbuch*, *trélbuch* 'трыбух', суаднесеных з ням. *Bauch* 'жывот, страўнік; чэрава' (Астравух, Ідыш-бел. сл.).

**Трэнд** 'тэндэнцыя, кірунак' (Новы час, 2015, 18 снеж.), 'дамінуючая тэндэнцыя, напрамак развіцця' (Барковіч, Лінгваінфарм.). Запазычана з англ. *trend* 'плынь, рух, тэндэнцыя', першапачаткова 'кірунак развіцця' праз польскую або рускую мову.

**Трэ́ндаць**, *трэ́ндацца* 'бадзяцца', *трэндыньня* 'бадзянне', *трэ́нданнік* 'бадзяга' (Юрч. СНЛ). Гл. *трэнта́цца*.

**Трэ́нер** 'спецыяліст, які кіруе трэніроўкай' (ТСБМ). Праз польскую ці рускую мову з англ. *trainer* 'трэнер, інструктар, дрэсіроўшчык'. Аналагічна: *трэ́нінг* 'трэніроўка' (ТСБМ), *трэнава́нне* 'тс' (Некр. і Байк.), *трэнава́ць* 'праводзіць трэніроўкі' (Некр. і Байк.) і *трэніртава́ць* 'навучаючы каго-небудзь, праводзіць

сістэматычныя практыкаванні па чым-небудзь' (ТСБМ), 'тармазіць (плыт)' (шальч., Сл. ПЗБ); параўн. да апошняга англ. *train* 'шэраг, ланцуг, гуж', 'чарада'. Сюды ж *трэніроўка* 'навучанне маладога сабакі да палявання' (Сцяшк.). Гл. Брукнер, 576; ЕСУМ, 5, 629; Арол, 4, 98.

**Трэ́нзель** 'металічныя цуглі' (ТСБМ), 'вуздэчка' (Баршч.). Запазычана, магчыма, з ід. *trenzl* 'цуглі' (Астравух, Ідыш-бел. сл.), параўн. польск. *tręnzla* 'тс', што да ням. *Trenze* 'вуздэчка', якое, у сваю чаргу, запазычана праз гал. *trensse* з ісп. *trenza* 'пляцёнка, канат' (Duden Etumologie, 863; Фасмер, 4, 98).

**Трэ́ніца** 'жанчына, якая трэ лён' (ганц., Сл. ПЗБ, Лексика Пол.), *трэ́льніца* 'мяльшчыца' (Жд. 1). Суфіксальнае ўтварэнне ж. р. на *-ніца*, апошняе слова, відаць, на аснове дзеепрыметніка **trelъ* ад **terti* > *це́рці* (гл.). Аналагічна в.- і н.-луж. *trělnica* 'тс' ад *trěć* / *trěś* 'церці' (Шустар-Шэўц, 1527).

**Трэ́нне** 'кастрыца, цвёрдыя адходы пры апрацоўцы валакна' (Сл. ПЗБ, Трух.). Узыходзіць да **ter-ьn-ьje* < прасл. **terti* > *це́рці* (гл.).

**Трэнта́цца** 'бадзяцца без справы (цэлы дзень)' (Нас.). Імітатыў з экспрэсіўнай назалізацыяй, параўн. чэш. *trtat*, *trtonit* 'хадзіць дробнымі крокамі'. Махэк$_2$ (654) далучае сюды і балг. *търтя да бя́гам* 'кінуцца наўцёкі', параўн. *търто́тя се* 'валачыцца' і пад. Параўн. таксама няяснага паходжання ід. *trenclen* 'марнатравіць, марна траціць, мантачыць' (Астравух, Ідыш-бел. сл.). Гл. і *трэндаць*.

**Трэ́нты** 'лахманы, рыззё' (Скарбы), *трэ́нті* 'парванае адзенне' (Сл. Брэс.). Гл. *транты*.

**Трэ́нцік:** гульня *ў трэнцік* (завостраны колік) або *ў ножык* (жлоб., БНТ, Гульні). Няясна, магчыма, ад *прэ́нцік* 'завостраная палачка', гл. *прэнт*.

**Трэ́нціць** 'гаварыць, паўтараць адно і тое ж' (Сцяшк. Сл.). Відаць, звязана з *трэнтацца* (гл.).

**Трэ́нчык** 'вузкі раменьчык, прывязка' (ТСБМ). Гл. *трынчык*.

**Трэ́нчыць** 'турбаваць, непакоіць', *трэ́нчыцца* 'турбавацца, непакоіцца', 'хацецца' (Юрч. СНЛ), *трэ́нчанне* 'турботы, непакой' (там жа). Гл. фанетычны варыянт *дрэнчыць* 'тс'.

**Трэ́нькаць** ‘брынкаць, кранаць струны’ (ТСБМ). Пад уплывам рус. *тренькать* ‘тс’, звычайна *трымкаць*, *трынкаць* (гл.).

**Трэп** ‘дарога, сцежка’: *адным трэпам ходзіць* (Вушац. сл.). Відавочна, варыянт да *троп* (гл.) з дыялектным чаргаваннем *о* > *э* ў аснове пад націскам, параўн. Карскі 1, 104.

**Трэ́палка** ‘льномялка’ (ПСл), *трэ́панка*, *тро́панка* ‘вытрапаны лён’ (Мат. Гом.), ‘пасма лёну’, ‘мера выцертага і вытрасенага валакна, роўная 2–3 жменям’ (Уладз., Трух.), *трэ́панка* ‘трапальніца’ (Уладз.). Да *трапа́ць₁* (гл.).

**Трэпа́н** ‘інструмент для свідравання косці (чэрапа) пры трэпанацыі’ (ТСБМ). Праз польскую мову *(trepan)* з с.-лац. *trepanum*, якое са ст.-грэч. τρύπανον ‘свердзел’ < τρυπαω ‘свідрую’ (Голуб–Ліер, 488; SWO, 1980, 774). Сюды ж *трэпана́цыя* ‘хірургічная аперацыя – свідраванне косці з мэтай пранікнення да ачага хваробы’ (ТСБМ).

**Трэпасце́ць** ‘мігцець, мігацець’: *зоркі трэпасця́ць* (пруж., ЛА, 2). Да *трапятаць* (гл.), з т. зв. s-intensivum паводле Махэка, параўн. укр. дыял. *трепесіти* ‘дрыжаць ад страху’, рус. *трепеста́ть* ‘дрыжаць’; узыходзіць да прасл. **trepotati / *trepetati* (Борысь, 649; Махэк₂, 657; Фасмер, 4, 99; Сной₂, 781), з варыятнай асновай: *зо́ркі трэпацят* (бяроз., ЛА, 2), балг. *звезди́те трептя́т.*

**Трэ́пацень** ‘трыпутнік, *Plantago major* L.’ (капыл., ЛА, 1), *тру́пуцень* ‘тс’ (маг., Кіс.). Да *тры́пуцень*, *трыпу́тнік₁* (гл.); паводле Коласавай (Лексика, 200), у выніку дээтымалагізацыі і збліжэння з дзеясловамі *трапа́ць* ‘мяць, церабіць’ ці *тро́паць* ‘таптаць, біць’ і падобнымі, што адлюстроўвае ўмовы існавання расліны (пры дарозе), параўн. і *трэ́патнік* ‘трыпутнік’ (Сл. ПЗБ).

**Трэ́паць₁** ‘абцягавіны, адходы пры трапанні лёну, з якіх прадуць альбо шыюць коўдру’ (Жд. 1). Назоўнік са значэннем зборнасці ад *трапа́ць₁*, гл.

**Трэ́паць₂** ‘трапаць’ (ПСл). Гл. *тропаць*, *трапа́ць₂*. Сюды ж таксама *трэ́пліць* ‘стрыжэ вушамі (пра каня)’ (хоцім., ЛА, 1), *стрэ́пая* ‘тс’ з s-mobile (іўеў., там жа), *тро́пае* ‘тс’ (бялын., чач., там жа), *тро́пая* ‘тс’ (бых., там жа), *трёпъіць* ‘тс’ (касцюк., там жа) з другой ступенню чаргавання.

**Трэ́пкі** ‘канцы [палатна] у кроснах’ (ТС), ‘кутасы’: *настольніцы ткалі, трэпкі зацягалі* (беласт., Сл. ПЗБ). Гл. *трапкі*, *страпкі.*

**Трэ́пля** *(трéпля)* ‘трапанне лёну, канапель’ (слаўг., Нар. словатв.). Дэвербатыў, узыходзіць да **trep-ja* > **trep-ati* > *трапáць*$_2$ (гл.). Сюды ж *трэ́пля* ‘пустая гаворка, балбатня’ (Мат. Маг., Юрч. СНЛ).

**Трэ́пнуць** ‘нечакана ўдарыць, брыкнуць нагой (пра каня, карову)’ (Шат., Варл., Сцяшк. Сл.), ‘стукнуць’ (Мат. Гом.), *трэпнýць* ‘тс’ (ТС), *трíпнуты* ‘страпянуцца, уздрыгануцца’ (кам., ЖНС), *трэпнýцца* ‘тс’ (ТС). Аднакратныя дзеясловы да *трóпаць*, *трэ́паць*, *трапáць*$_1$, гл. таксама выклічнікі *трэп-трэп* ‘брык-брык’ (шчуч., Сл. ПЗБ), ‘стук-стук (пра сэрца)’ (ашм., Сл. ПЗБ).

**Трэ́псы** ‘махры вакол хусткі’ (кобр., ЛА, 4). Гл. *трапасні*; адносна канца слова спасылаюцца на магчымы ўплыў літ. *trepséti*, *trepsénti* ‘тупаць, стукаць нагамі’.

**Трэ́пуцень** экспр. ‘несур’ёзны, непаслухмяны чалавек’ (Руб.), сюды ж, магчыма, *трэп* – мянушка чалавека па прозвішчы *Трыпуцень* (Аляхн.). Відаць, звязана з *трэпнуць*, гл.

**Трэ́пці** ‘стаптаны, зношаны абутак’ (паст., Сл. ПЗБ; чэрык., ЛА, 4). Няясна; відаць, можа быць звязана з *трэпаць* (гл. *трапаць*$_2$) ці *трапятаць* (гл.), параўн. польск. *trzepiot*, *trzpiot* ‘легкадумны, несур’ёзны чалавек’. Меркаванне Грынавяцкене – з літ. *trèpčiai* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, 5, 142) – цяжка прыняць па фанетычных і лінгвагеаграфічных прычынах. Хутчэй кантамінацыя *трэ́пы*$_1$ і *тапці* (гл.) або запазычанне з польск. *trepcie* (Вілен. сл.), мн. л. ад *trepek*, *trepka* ‘прымітыўны абутак на драўлянай падэшве, прымацоўваўся да нагі пры дапамозе раменьчыкаў’, гл. наступнае слова.

**Трэ́пы**$_1$ ‘басаножкі’ (бяроз., Шатал., Зайка Кос., Скарбы), ‘паношаныя туфлі’ (Сцяшк.), ‘абутак на драўлянай падэшве’ (Сцяшк.; навагр., З нар. сл., Сл. Брэс.), ‘даўні сялянскі абутак на скураной, драўлянай ці іншай падэшве’ (Сл. ПЗБ), *трэ́бы*, *трóпы*, *дрэ́пы*, *трэ́пкі* ‘дзеравяшкі’ (ЛА, 4), *трэ́пэ* ‘тапкі без пятаў’ (драг., Ск. нар. мовы). З польск. *trepy*, *trepki* ‘басаножкі, туфлі на драўлянай падэшве’ (у XVI ст. – ‘сандалі манахаў’), якія з ням. *Trippe* ‘сандал’, што да *trippeln*, *trampeln*, *trappeln* ‘тупаць’, ‘тупацець’, ‘перабіраць нагамі, ісці невялікімі крокамі’ (Брукнер, 576; Вінцэнц). Сяткоўскі (Басай-Сяткоўскі, Słownik, 396) ставіць пад сумнеў чэшскае пасрэдніцтва з-за ніжненямецкага паходжання *Trippe*.

**Трэ́пы**$_2$ 'прыступкі, ступенькі' (брасл., Сл. ПЗБ), 'прыстасаванне, прылада з зубцамі для пад'ёму бярвенняў' (беласт., Ніва, 1975, 19 кастр.) Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 5, 142), слова прыйшло праз літоўскую мову (дыял. *trẽpai*) з ням. *Treppe* 'прыступкі, лесвіца'; хутчэй праз польск. *trepy* 'дзве паралельныя жэрдкі, пруты або шнуры, злучаныя папярочкамі, якія служаць для ўзыходжання ці сыходжання', што запазычана з нова-в.-ням. *Treppe* 'прыступкавае прыстасаванне, лесвіца; прыступка' (Вінцэнц). Параўн. *трап*$_2$.

**Трэ́пяць**$_1$ 'багна, дрыгва' (ваўк., Сцяшк.). Утворана ад дзеяслова **trepet-ati* > *трапятаць* (гл.) пры дапамозе суф. *-ь* з адцягненым значэннем 'тое, што трапечацца, калышацца, пастаянна рухаецца'.

**Трэ́пяць**$_2$ 'тое, што вельмі белае': *трэпяць, аш у вочы коля сваёю бялізною* (навагр., ЖНС), значэнне, відаць, кантэкстуальна абумоўленае. Да *трапята́ць* 'мільгацець' (гл.), утворана ад асновы, прадстаўленай у прасл. **trepet-ati*, пры дапамозе суф. *-ь* з адцягненым значэннем (як *бел-ь*).

**Трэск** 'сухі рэзкі гук, утвораны пры ламанні, трэсканні, разрыванні' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Касп.), 'шум, які ўтвараецца пры рабоце механізмаў, інструментаў' (ТСБМ), 'шуміха, пустыя размовы, балбатня' (там жа), *тры͡еск* 'трасканіна' (Вруб.), *трэ́скот* 'тс' (ТС), *трэск-по́раск* 'шум, траскатня' (Варл.). Укр. *тріск*, *трі́скіт*, *тря́скіт* 'трэсканне, лясканне', рус. *треск*, *тро́скот* 'тс', ст.-рус. *трѣскъ* 'тс', 'гром', польск. *trzask*, *troskot* 'траскатня', *trzask-prask* 'трах-бах, хутка', чэш. *třesk*, *třeskot*, *třaskot*, славац. *tresk* 'трэск', 'трэсь', славен. *trèsk* 'трэсь, лясь, бабах', *trésk* 'удар грому', 'шум', харв.-чак. *trȉjesak*, *trisk* 'гром', серб. *тре̂сак* 'трэск, гук, грукат', *тре̏с*, *трас* 'трэсь, бах', балг. *тря́сък* 'трэск, гром, грукат', *тряс* 'трах, лясь', макед. *тресок*, *трескот* 'трэск, грукат'. Прасл. **trěskъ* на аснове гукапераймання, першапачаткова звязанага з громам і маланкай (Фасмер, 4, 99–100; ЕСУМ, 5, 645;), роднаснае літ. *traškùs* 'крохкі', *traskà* 'крохкасць', *treškéti*, *traškéti* 'трашчаць, патрэсківаць', 'ляскаць, цмокаць, цокаць', лат. *trašķis* 'шум, шоргат', літ. *tróškis* 'трэшчына' (Мюленбах–Эндзелін, 4, 223; Покарны, 1072; Буга, Rinkt., 1, 488; 2, 573; Скок, 3, 502; Брукнер, 579); сюды ж далучаюць гоц. *þriskan*

‘малаціць’, *ga-þrask* ‘ток’, нова-в.-ням. *dreschen* ‘малаціць’ (Сной$_2$, 781; Арол, 4, 100). Асновай для ўтварэння **trěskъ* з’явіліся гукапераймальныя выклічнікі тыпу *трэсь*, польск. *trzas*, балг. *тряс* і ўтвораны на іх базе дзеяслоў **trěsk-a-ti* і інш. (Борысь, 646–647). Сюды ж *трэ́скацца* ‘лопацца’ (Сцяшк., Байк. і Некр., Яруш., ТСБМ), ‘разрывацца ад крыку’ (Шат.), *трэ́скаць* ‘ламаць, утвараючы трэск’ (Нас.), ‘прагна есці’ (Нас., Бяльк., Растарг.), ‘есці хапаючы’ (Юрч. Сін.), ‘моцна ўдараць’ (петрык., Яшк. Мясц.), ‘лопаць’ (лях., Сл. ПЗБ), *трэ́снуць* ‘стварыць трэск’, ‘з трэскам раскалоцца, разламацца, утварыць трэшчыну’, ‘разарвацца’, ‘моцна ўдарыць, стукнуць’ (ТСБМ, Яруш., Нас., Касп., Сл. ПЗБ, ТС), ‘кальнуць (пра прыступ вострага болю’ (астрав., Сл. ПЗБ), ‘надысці (пра моцны мароз)’ (Ян.); *тры͡ескаті* ‘лопацца, трэскацца’, *тры͡еска* ‘трэшчына, расколіна’ (Вруб.), *трэ́сканне* ‘трасканіна’ (Нас.), *трасканіна, траската́нне, траскатня́, тръсканіна, трыскатня́, трасканя́* ‘працяглы трэск, шум, стук’, ‘бясконцая балбатня, пустыя размовы’ (ТСБМ, Бяльк., Юрч. Вытв.; мёрск., Нар. словатв.; рагач., паст., Сл. ПЗБ); *траската́ць* ‘балбатаць’ (Юрч. Вытв.), *траскатну́ць* ‘пусціць пагалоску’ (Юрч. СНЛ), *тріскыта́ньнік, траску́н, траскату́н, траскацёлка* ‘балбатун’ (Юрч. СНС, Юрч. Вытв., Юрч. СНЛ); *траскуно́к, траску́нчык* ‘дзіцё са звонкім голасам’ (Юрч. СНЛ), *траску́нчык* ‘сініца’ (слонім., Арх. Фед.), ‘моцны мароз’ (ТСБМ; мёрск., ЖНС), *траску́н* ‘тс’ (люб., ЛА, 2, ЛА, 5); *траску́нчык* ‘тонкі лёд’, *трэску́шкі* ‘дзіцячая гульня: дзеці бегаюць па маладым лёдзе, які моцна ўгінаецца і трашчыць’ (ТС); *траску́шчы, трэску́чы* ‘траскучы (пра мароз)’ (Жд. 2, ТС), *трэ́сь!* – пра трэск (полац., мсцісл., Нар. лекс., ТСБМ); ‘бух’, ‘хрусь, трэсь’, ‘хап’ (Сл. ПЗБ).

**Трэ́ска** ‘тонкі кавалак дрэва, адчасаны ад бервяна, палена; шчэпка’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Сержп. Прык., Ласт., Бяльк., Шат., Касп., Байк. і Некр., ТС, Сцяшк., Др.-Падб., Растарг.), *тріска* ‘тс’ (кам., Бес., Горбач, Зах-пол. гов.; Сл. Брэс), *tryèska* ‘тс’ (Федар. 4), ст.-бел. *треска* ‘тс’, ‘стрэмка’, ‘парушынка’ (ГСБМ). Укр. *тріска, трісочок* ‘тс’, рус. *тре́ска, тре́ска́* старое ‘жэрдка, шост, палка’, новае ‘трэска, лучына для рашэцін пад тынк’, пск. *тре́ска*, мн. л. *тре́ски* ‘шчэпка, дранка’, ‘драўляныя асколкі’; польск. *trzaska* ‘трэска’, ‘стружка’, н.-луж. *tśěska*, в.-луж. *třěska*, чэш. *tříska*, сла-

вац. *trieska* 'тс', 'стрэмка', славен. *tréska, tŕska* і *trskà*, харв. *trijèska*, чак. *trîska*, серб. *трȅска, тре́ска* 'трэска; габлюшка', балг. *трескà* 'тс', макед. *треска*, дыял. *тра́ската* 'трэска, падпалка', рус.-ц.-слав. *трѣска*. Прасл. **trěska* 'трэска', 'пацяруха' (Сной$_2$, 788), роднаснае прасл. **trěskati* 'таўчы, біць, разбіваць', **trěščiti* 'ўдарыць' (Міклашыч, 361; Фасмер, 4, 100; Махэк$_2$, 658; Брукнер, 579; Голуб–Ліер, 492; ЕСУМ, 5, 645). Да *трэск* (гл.).

**Трэ́скацень** (*трэ́скоцень*) 'траскучы мароз' (ТС, ЛМТ). Параўн. укр. *трі́скутин* 'трэск, моцны мароз'. Да *трэск, трыску́ць* (гл.), параўн. іншыя характэрныя назвы марозу: *лютун, сквярун, прагун* (Вушац. сл.), *рыпоцень, скемоцень*, гл.

**Трэ́сні** (*тре́сні*) 'сорт клубніц, *Fragaria viridis* Duch.' (Касп.). Няясна. У фармальным плане блізкае да рус. прыбалт. *тре́сня* 'чарэшня', *тре́шня* 'прышчэпленая вішня' (СРНГ), польск. *trześnia* 'чарэшня', што, паводле Брукнера (581), да лац. *ceresea* 'тс'. Меркаванне пра запазычанне з літ. *trẽšnė* 'тс' (Лаўчутэ, Балтизмы, 133) адхіляецца Анікіным (Опыт, 289). У якасці гіпотэзы прапануецца калька з літ. *trẽškė* 'клубніцы', якое з *trẽškėti* 'трэскацца, лопацца' (пладаножкі ягад трашчаць, калі ягаду зрываюць), паралельнае да серб. *пуцавица, пу̏це* 'ягадка' < *пу̏цати* 'лопацца, трэскацца', славен. *truska, truskalica* 'клубніцы, суніцы' < *truskati* 'трэскаць, грукаць', ням. *Knackbeere* 'суніцы' < *knack* 'трэск, хруст' + *beere* 'ягада' (гл. Махэк, Jména, 105; Бязлай, 4, 233). Тады да *трэснуць*, гл. У аснове збліжэння назваў клубніц і чарэшні, відаць, адна і тая ж матывацыя.

**Трэ́снік** 'дрывотня, месца каля хлява, дзе сякуць дровы' (Сцяшк., Серб., Сл. ПЗБ; рагач., бабр., ЛА, 1). З $^+$*трэск-нік*, да *трэ́ска* (гл.).

**Трэ́снуць** 'ударыць, стукнуць' (Шымк. Собр., Яруш., Касп., Вушац. сл., Бяльк., ТС), 'лопнуць, раскалоцца' (Бяльк., Скарбы), 'стукнуць, грукнуць' (Ласт.), 'стукнуць, пацэліць' (пра гром, маланку)' (Мат. Маг. 2, Сержп. Прымхі): *kab ćab'é p'erún trésnuй* (*zabíй, użaй*) (зах.-бел., Маш. Atlas). Аднакратны дзеяслоў да *трэскаць* (гл. *трэск*), выводзіцца з прасл. **trěsknǫti* (ESJSt, 16, 980), параўн. укр. *трі́снути* 'трэснуць, стукнуць', рус. *тре́снуть* 'лопнуць, стукнуць, выдаць моцны гук (пра гром і пад.)', польск. *trzasnąć* 'тс', чэш. *třesknouti* 'тс', славац. *tresknut'* 'тс', балг. *тресна* 'тс',

макед. *тресне* 'тс', ст.-слав. **тръснѫти** 'тс'. Утворана на базе гукапераймальнага **tresk-*, як і літ. *treškéti* 'лопаць, трэскаць' і пад.

**Трэст** 'аб'яднанне некалькіх прадпрыемстваў з цэнтралізаваным кіраваннем' (ТСБМ). Праз рускую мову (*трест*) з англ. *trust* (ст.-англ. *trust*, *trost*) 'давер, вера; крэдыт; апекаванне', якое са ст.-ісл. *traust* 'давер', параўн. ст.-в.-ням. *trōst* 'давер, вернасць', нова-в.-ням. *Trost* 'зацішша'; 'уцеха', гоц. *trausti* 'пагадненне, саюз', ст.-англ. *threowian* 'давяраць, верыць', якія ўзыходзяць да і.-е. **dru-* 'магутны, моцны' > 'моцны, як дрэва' (Голуб–Ліер, 491; Чарных, 2, 262; ЕСУМ, 5, 631).

**Трэ́сці** 'тузаць, штурхаць, хутка рухаць туды і назад або ўверх і ўніз' (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., Шат.; ашм. Стан., Сержп. Прым.), *трэсць* 'тс' (Нас.), 'рэзка калоцячы, будзіць; шукаць' (Юрч. Сін.), *трасці́* 'хістаць, калаціць, тузаць' (ТСБМ, Касп., Некр. і Байк.), 'абшукваць' (Ласт.), *трасты́* 'моцна трэсці; шукаць' (Клім.), *трасáць* 'тс' (брасл., Сл. ПЗБ), *трасці́*, *трасты́*, *трясті́*, *трэсці́*, *трэсць*, *трэсь* 'растрасаць сена, салому, растрэсваць' (мядз., в.-дзв., свісл., кам., Сл. ПЗБ), *трастэ́ комына* 'ачышчаць комін ад сажы' (Ск. нар. мовы), *трасé (трáсца)* 'ліхаманіць' (Яруш.; Сл. ПЗБ; ЛА, 3), *трасэ́* 'кідае (эпілепсія)' (кам., Сл. ПЗБ), *трэ́сці*, *трэсць* 'выклікаць дрыжанне ад холаду, удараў, язды па няроўнай дарозе' (ТСБМ, Нас.), *трэ́сці кулі́* 'вытрушваць змятую і перабітую салому' (Жд. 1, Выг., Сл. ПЗБ), *трасці трася́нку* 'змешваць сена з саломай' (Сцяшк., Сл. ПЗБ), *трэ́сці* 'растрасаць, разбіваць гной' (Сл. ПЗБ; в.-дзв., Шатал.; ашм., Стан.), 'трэсці фруктовыя дрэвы' (Нас., Гарэц., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.), 'біць' (мядз., Сл. ПЗБ), 'ачышчаць ад кастрыцы' (ТСБМ; вільн., Сл. ПЗБ), 'пустошыць, спаражняць' (пух., Сл. ПЗБ), 'выбіраць (рыбу) з сеткі' (іўеў., там жа), 'рабіць вобыск' (ТСБМ, Шат., Гарэц.; віл., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.), *трэ́сца* 'прагнуць, вельмі хацець' (Юрч. СНЛ, Юрч. Сін.), 'празмерна шкадаваць', 'моцна дрыжаць', 'вельмі баяцца', 'скупіцца, празмерна сквапнічаць': *трэ́сца над кожнаю капейкаю* (Юрч. Сін., Юрч. Фраз.), *трэ́сціся* 'мяняцца (аб надвор'і)': *нешта пагода трасецца, німа як ісці касіць* (шчуч., З нар. сл.), 'хістацца (пра дрэва), калаціцца (ад холаду), падскокваць, едучы па няроўнай дарозе', 'хваляваціца за каго-небудзь' (ТСБМ), 'тс', 'баяцца, дрыжаць', 'калаціцца, тра-

пятаць (аб сэрцы)' (Сл. ПЗБ, Нас.; ашм., Станк.), *трасціся* 'дрыжаць, трэсціся' (Бяльк.), *трэ́сціса* 'тс' (ТС), *трэ́сцца* 'тс' (Нас.), ст.-бел. *трясти*, *трасти*, *трести* 'калаціць; абшукваць', *трястися*, *трастися*, *трестися* 'калаціцца, дрыжаць; баяцца; сварыцца' (ГСБМ). Параўн. укр. *трясти́*, *трясть*, *трястися* 'трэсці, калаціцца, дрыжаць', рус. *трясти́* 'тс', польск. *trząść* 'трэсці', 'раскідваць, растрасаць', 'шукаць, рабіць вобыск', 'плявузгаць', 'вытрасаць зерне з саломы', 'арудаваць', *trząść się* 'трэсціся, дрыжаць', каш. *třisc*, *třësc* 'раўнамерна раскідваць', 'падкідваць на дарозе', н.-луж. *tśěsć* 'трэсціся', *tśěsć se* 'дрыжаць', в.-луж. *třasć*, *třasć so* 'тс', чэш. *třásti*, *třásti se* 'тс', славац. *triast'* 'трэсці', 'трэсці садавіну', 'ліхаманіць', 'трэсціся ад холаду, страху', *triast' sa* 'трэсціся, дрыжаць', 'прагна жадаць, марыць', славен. *trésti* 'трэсці', 'хістаць (галавой)', 'трэсці дрэвы', 'балбатаць', *trésti se* 'дрыжаць, трэсціся, уздрыгваць', харв. *trésti se* 'тс', чак. *trȅsti*, серб. *тре́сти* 'трэсці, устрэсваць', 'вытрэсваць', *тре́сти се* 'трэсціся, дрыжаць', балг. *тресѐ ме* 'мяне ліхаманіць', макед. *тресе* 'трэсці, вытрэсваць', 'несці лухту', *тресе се* 'трэсціся', 'абтрэсвацца', 'дрыжаць', ст.-слав. **тр҄ѧсти** 'трэсці', **тр҄ѧсти сѧ** 'трэсціся, дрыжаць'. Прасл. **tręsti (sę)* 'трэсці' – відаць, кантамінацыя на базе блізкага значэння і.-е. **tremō* і **tresō* ў **trems-*, з якога, напрыклад, выводзяць гоц. *þramstei* 'конік зялёны, *Telligonia viridissima*' (Фасмер, 4, 113; Шустар-Шэўц, 1542; ЕСУМ, 5, 665; Борысь, 647). Да першай часткі кантамінаваных лексем узводзяць: ст.-грэч. τρέμω 'дрыжу, трапячу', лац. *tremō* 'дрыжу', літ. *trìmti* 'дрыжэць ад холаду', тахар. А *träm-* 'дрыжаць', тахар. В *tremen* 'трапятанне', алб. тоск. *trëmp*, гегск. *trem* 'лякаюся', ст.-н.-ням. *thrimman* 'скакаць'. Да другога элемента і.-е. **tres-* адносяць ст.-інд. *trasati* 'дрыжыць, баіцца', ст.-перс. *tars-* 'баяцца', грэч. τρέω 'трасуся, дрыжу', лац. *terreō* 'палохаю', *terror* 'страх' і інш. (Бязлай, 4, 221; Глухак, 637; Арол, 4, 112; ESJSt, 16, 982). Сюды ж літ. *trȇsti* 'бегчы, бегчы наперагонкі', лат. *tresêt* 'бегчы, уцякаць', *tresît* 'трасціся', 'баяцца, палохацца' (Карлікава, Slavia, 77, 1–3, 87). Абедзьве кантамінаваныя лексемы (**trem-* і **tres-*) узыходзяць да і.-е. **ter- / *tr-* (Покарны, 1070). Адносна канкурэнцыі *трасці* і *трэсці* гл. Векслер, Гіст., 140. Сюды ж *трасу́ха* 'топкае балота, дрыгва' (навагр., Нар. сл.; Мат. Маг. 2), *трасу́ха*, *трасу́чка* 'ліхаманка' (ТСБМ, Нас.; рас., Шатал.;

парыц., Янк. Мат.; капыл., Жыв. сл., Касп.), ‘дрыжыкі ад хваляванння’ (ТСБМ), ‘эпілепсія’ (Нар. Гом.); *трасýха* ‘від полькі’ (Касп.); ‘гноераскідальнік’ (Мат. Маг.), ‘бульбакапалка’ (Сцяшк. Сл., Жд. 3); *трасýчка* ‘вуда з маленькай алавянай рыбкай (блешня) і кручком’ (Дэмб. 2, Нар. Гом.); *трасýшчы* ‘які трасецца’ (Жд. 2), ‘багністы’ (маст., Сл. ПЗБ), *трасýшчый* ‘трывожны, неспакойны (час)’ (Юрч. Вытв.), *трася́нка* ‘ўсякі стары, зношаны транспарт’ (гродз., ЖНС); *трасíлка*, *трасýха* ‘бульбакапалка’ (Юрч. СНЛ); *трасéнка* ‘трасянка, сена, змешанае з саломай’ (беласт., Жыв. НС), *трасёнка* ‘тс’ (лудз., Сл. ПЗБ), *трэ́сянка* ‘тс’ (бяроз., Ск. нар. мовы); *трáсачка* ‘дрыжыкі, трасучка’ (гродз., Сл. рэг. лекс.), *трасáчка* ‘ліхаманка’ (ТС), *трасýчка* ‘тс’ (Растарг.); *трасéннік* ‘той, хто займаецца вытрасаннем’ (Юрч. Вытв.), *трасéнніца*, *трасéніца*, *трасéльніца* ‘жанчына, якая растрасае гной’ (глыб., в.-дзв., воран., Сл. ПЗБ), *трасéльшчык* ‘той, хто трасе гной’ (шальч., там жа), *трасéнё* ‘гразкае месца’ (Сцяшк.), *трэ́сіна* ‘месцы на дарозе, якія ўвесну набракаюць вадой’ (бяроз., КЭС), *трасíлка* ‘машына для ачысткі льнянога валакна’ (ТСБМ), *трáскі* ‘які выклікае трасенне, калыванне пры яздзе’ (Адм.).

**Трэ́тар** ‘трэск’, ‘рэха’: *як даў, аж трэтар пайшоў* (Касп.; полац., Волк.; в.-дзв., Шатал.), ‘водгалас, водгук, розгалас’ (Вушац. сл.; полац., Нар. лекс.), ‘шум, гвалт, піск’ (рас., Шатал.). Са ст.-польск. *treta*, *treter* ‘шум, шуміха, гармідар, замяшанне, блытаніна, разброд’ (XVI ст.), якое разглядаецца як метафарычнае да першаснага *treta* ‘рынак, рыначная плошча’, што да ням. *tret* ‘тс’ (Вінцэнц). Няпэўна. Відаць, не звязанае са ст.-слав. **тръторъ** (**трътъръ**), што перадавала грэч. ταρταρος ‘апраметная, пекла’ (ССсл.), аднак, паводле Рачавай (Slavia, 79, 1, 106), роднаснае ц.-слав. **трътрати** ‘выдаваць гук’, балг. *търторя* ‘балбатаць, мармытаць’, славен. *trtráti* ‘тс’ і іншым гукапераймальным дзеясловам.

**Трэ́тка** ‘мера паперы; частка стоса, якая дзялілася на 20 дзесцяў; кожная дзесць складалася з 24 аркушаў і дзялілася на трэткі па 6 аркушаў у кожнай’ (Растарг.). Відаць, ад выніку трайнога дзялення: спачатку на дзве часткі, а потым адной палавіны яшчэ раз (там жа). Сюды ж *трэ́тка* ‘трэцяя частка валокі’ (Нас.). Да *трэці*, *тры* (гл.).

**Трэф** ‘забарона ўжывання пэўнай ежы як нячыстай (паводле іўдзейскага веравызнання)’ (Нас., Байк. і Некр.). Запазычана з яўр.-ням. *treife* ‘тс’ < ст.-яўр. *terefâ* ‘нячыстая ежа’, відаць, праз польск. *tref* або непасрэдна з ід. *treif*, *trejfer* ‘некашэрны, нячысты’: *сьвіньні для жыдоў – трэф* (Астравух, Ідыш-бел. сл., 909). Сюды ж *трэ́фны* ‘нячысты, забаронены для ўжывання’ (Нас., Байк. і Некр.), *трэфны́* ‘тс’ (Касп.), *тропнэ́* ‘забароненае для яды’ (Арх. Вяр.). Праз польск. *trefny* ‘тс’ (SWO, 1980, 774; Фасмер, 4, 101; Карскі Беларусы, 173; Кюнэ, Poln., 110).

**Трэфны**, ст.-бел. *трефный* ‘адборны, рэдкі’, ‘трапны, смешны, жартаўлівы’ (ГСБМ). З польск. *trefny*, *trafny* ‘адборны; жартаўлівы; дасціпны’ ад *trafiać* ‘трапляць у цэль; дасягаць мэты’, што да с.-в.-ням. *trëffen* ‘тс’ (Вінцэнц). Меркаванне пра крыніцу ў венг. *tréfás* ‘дасціпны’ (Булыка, Лекс. запазыч., 196) не мае падстаў, хутчэй праз чэш. *trefny* ‘меткі, адпаведны, падыходзячы’ ў часы ўзмацнення чэшскага ўплыву на польскую мову.

**Трэ́фы** ‘масць у картах’ (ТСБМ). Праз рускую мову (*треф*), у якой праз ням. *Treff* ‘тс’ з франц. *trèfle* ‘канюшына’ – адзін з чорных колераў у картах, які абазначаецца стылізаваным лістком канюшыны < ст.-грэч. τρίφυλλον ‘канюшына’ (Фасмер, 4, 101).

**Трэ́ці** – парадкавы лічэбнік ад *тры* (ТСБМ, Бяльк., Касп., Байк. і Некр., ТС; в.-дзв., лід., Сл. ПЗБ), *трецці́й*, *тре́цьцій* ‘тс’ (Нас., Бяльк.), ‘асабіста не зацікаўлены ў тым, што датычыць дзвюх асоб, пабочны; не галоўны па значэнні, трэцяradны’ (ТСБМ); *трэ́цяе* ‘салодкая страва’ (там жа), *трэці род* ‘родныя акрамя роду маладога і маладой на вяселлі’ (д.-гарад., Дзеяслоў, 2009, 1, 85), *трэ́ця стрэ́ча* ‘траюрадныя браты і сёстры’ (воран., Сл. ПЗБ), *трэ́цяя нядзе́ля* ‘трэцяя квадра’ (пух., Жыв. сл.), ст.-бел. *третий*, *тредтий*, *третей*, *трети*, *треттий*, *треций*, *третий* ‘трэці’ (ГСБМ). Параўн. укр. *тре́тій*, рус. *тре́тий*, польск. *trzeci*, палаб. *tritě*, н.-луж. *tśesi*, в.-луж. *třeci*, чэш. *třetí*, славац. *tretí*, славен. *trétji*, харв. *trȅći*, серб. *трѐћи*, балг. *трѐти*, макед. *трет(и)*, ст.-слав. **третии**. Прасл. **tretьjь* ‘трэці’ (ЕСУМ, 5, 632) ці (поўная форма) **tretьjьjь* (Сной$_2$, 782), якая развілася з і.-е. **tre-t(i) i̯o*, утворанай ад асновы колькаснага лічэбніка м. р. **tréi̯es* ‘тры’ (< *tr-ei-es*), ад якой паходзіць таксама прасл. **trьje* ‘тры’ (м. р.), і суф. **-t(i)i̯o* (Борысь, 648; Махэк$_2$, 657). Індаеўрапейскія адпаведнікі прасл.

**tretьjь* узыходзяць да дзвюх формаў: *tre-* (літ. *trẽčias*, лат. *trešs*) або да **tr̥-tii̯os* ці **tri-tii̯os*: ст.-прус. *tírts*, ст.-інд. *tr̥tíyas*, авест. *vritya-*, тахар. В *trit*, гоц. *þridja*, лац. *tertius (< *tritīos)*, ст.-грэч. τρίτος, алб. *tretë*. Дапускаецца, што *-е-* ў гэтай аснове, магчыма, узыходзіць да больш старога *-і-* (параўн. лічэбнік ж. і н. р. **tri* < і.-е. **trih*$_2$ – гл. Сной$_2$, 782; Каруліс, 2, 428; Скок, 3, 500–501): вед. *trī* 'тры', лац. *trī-gintā* 'трыццаць'. Сюды ж *трацяк*, *траціна*, *траціны*$_2$, гл.

**Трэці́раваць** 'пагардліва абыходзіцца з кім-небудзь; гнібіць' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рускую мову (*трети́ровать*) і ням. *traitieren* з франц. *traiter* 'абыходзіцца, адносіцца' < лац. *tractāre* 'абыходзіцца з кім-небудзь' (Фасмер, 4, 101; ЕСУМ, 5, 632; Арол, 4, 101).

**Трэ́цца**, *тре́цца* 'нерастуе (пра рыбу)' (гродз., брэсц., гом., ЛА, 1), *цярэ́цца* 'тс' (клім., ЛА, 1). Форма 3-й ас. адз. л. дзеяслова *це́рці(ся)* (гл.).

**Трэць** 'трэцяя частка чаго-небудзь' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк.), ст.-бел. *треть* 'тс', 'трэцяя частка зямельнага надзелу (мера плошчы)' (ГСБМ). Субстантываваны парадкавы лічэбнік *трэці* (гл.), параўн. *траціна*, гл.

**Трэ́шчы** 'прыгаршчы': *узяла мукі трэшчы* (лід., Сл. ПЗБ). Няясна; мажліва, наватвор ад *трэ́шчыць* 'пляскаць (у далоні)', г. зн. столькі, колькі можна ўзяць у далоні.

**Трэ́шчына** 'шчыліна на месцы разлому' (ТСБМ; навагр., ЛА, 4), *тры͡ешчына* 'тс' (Вруб.), *трі́шчына* 'тс' (кам., ЛА, 4). Укр. *трі́шчына*, рус. *трещина*. Усходнеславянскае. Утворана ад прасл. **trěsk-ъ* і суф. *-*ina*, гл. *трэск*.

**Трэ́шчыцца** 'ўглядацца' (Юрч. СНЛ). Відаць, першапачатковае значэнне 'шырока раскрываць, вылупліваць, вытрэшчваць вочы', гл. *вы́трашчыць*. Слова з праблемнай этымалогіяй, параўн. рус. *тара́щить* (глаза) 'напружана ўглядацца', для якога Фасмер (4, 23) дапускае сувязь з *тра́хнуть* 'стукнуць, трэснуць', гл. *трахаць*. Борысь (720) на аснове чэш. *třeštit* 'шалець, выходзіць з сябе', 'вылупліваць вочы', дыял. *třeščit* 'стукаць', ст-чэш. *třěščiti* 'грукаць, трашчаць, лятаць з трэскам', славац. *trieštiť* 'разбіваць', харв. і серб. старое *trieštiti* 'трэснуць, ударыць (пра гром)', славен. *tréščiti* 'выклікаць трэск, грукат', 'стукаць (пра маланку)',

‘кідаць раптоўна, шпурляць’ мяркуе, што першаснае значэнне магло быць ‘адкрываць з трэскам’ (вобразна і пра вочы). Гл. *трашчаць*, *трэснуць*.

**Трэ́шчыць** ‘пляскаць у далоні’ (шуміл., Сл. ПЗБ), *трішчыты* ‘лупцаваць’ (кам., ЖНС); сюды ж, відаць, *трэшша́ць* (куры) ‘сакочуць’ (гарад., ЛА, 4). Да прасл. **trěsk-ъ* > *трэск*, *трашчаць*, гл. папярэдняе слова.

**Тсс** – заклік да перапынку ў маўленні, захавання цішыні (ТСБМ), укр. *тс*, *тсс*, рус. *тсс* ‘ціха’, ‘цыц’, польск. *ts*, *tss*. Рэгіянальны выклічнік, які, відаць, генетычна звязаны з прыметнікам **tixъ*, параўн. ням. *still*. З глухіх зычных складаецца адпаведны выклічнік у іншых еўрапейскіх мовах: чэш. *pst*, *pšš*, ням., славац., харв. *pst* і польск. *pst*, *cyt*, славен. *st*, *pst*, рум. *sst*, англ. *hush*, *sh* і інш. (ЕСУМ, 5, 666).

**Тсцёў**, *тсьця́* ‘цесцеў’, *тсцёўскі* ‘ўласцівы цесцю’, *тсцёўшчына* ‘спадчына пасля цесця’ (Нас., Гарэц.). Да *цесць* (гл.), якое з прасл. **tьstь* ‘цесць’. Названыя беларускія формы ўзыходзяць да фанетычна і граматычна правільнай формы (ускосных склонаў, у прыватнасці Р. скл.) *тсьці* (і-асновы) < прасл. **tьsti*, якая падверглася ўплыву *-jĭ*-асноў і набыла форму **tьst'a* ‘цесця’. У сучаснай беларускай мове парадыгма скланення выраўнялася паводле Н. скл. *цесць*, *цесця* і г. д. Не выключаны таксама ўплыў польскай мовы, параўн. ст.-польск. *cieść*, *ćcia / cieścia* ‘цесць’ (XV ст.).

**Ту**$_1$ – экспрэсіўнае слова ў выразах: *ту, якій ты! ту на цябе! ту цябе!* ‘цьфу’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.; полац., Нар. лекс.). У адным з першых літаратурных твораў: *Ці не пісацель? / Ту! Не, паночак, / Я Тарас* (К. Вераніцын, Тарас на Парнасе. Паэмы. Мінск, 2009, 18). Часта як выраз незадавальнення, нязгоды. Звычайна разглядаецца як варыянт выклічніка *тфу* (гл.) у сувязі з неарганічным характарам *ф* у беларускай народнай мове, параўн. яго замены на *тпху*, *тху* (гл.), *цьху* і пад. Параўн., аднак, рус. *ту*: *ту, голова*! ‘эх ты!’, серб. цімак. *ту̑* ‘выклічнік незадавальнення, раздражнення’, макед. *ту што ми стори*! ‘ох, што ты нарабіў’, балг. дыял. *а́ бре, ту̑ бре*! (раздражненне, гл. СбНУ, 38, 50), што сведчыць пра магчымае аднясенне выклічніка да т. зв. першасных інтэр’екцый (Смаль-Стоцкі, Приміт., 19), прадстаўленага

ў складзе выклічнікаў тыпу *агату*, *ату*, *туга* (гл.) і інш. Дапускаецца дэйктычнае паходжанне, гл. ESSJ SG, 2, 701.

**Ту$_2$** 'тут, сюды' фалькл.: *Братовая золвы на ночь просить : / Ту ту ту! – Моя золвица, моя сяструца, / Ту ту ту* (Бяс., 40); *Ту, цимболисты и скрипки играют...* (С. Полацкі), *ту-ту-ту* – падзыўныя для гусей (ДАБМ, камент., 896); ст.-бел. *ту* 'ў гэтым месцы; туды, сюды; тады; у даным выпадку' (1388 г., ГСБМ). Параўн. укр. дыял. *ту* 'тут', рус. фалькл. *ту* 'ў той час, тады' (СРНГ), польск. *tu* 'тут; цяпер, у гэтым месцы; дагэтуль, адсюль', чэш., славац., в.-луж., н.-луж. *tu* 'тс', харв., серб. *tû*, славен. *tù* 'тс', ст.-слав. **тоү** 'там, тут, тады, у тым месцы'. Прасл. **tu* вытворнае ад займенніка **tъ* (гл. *той*) з няясным па паходжанні *-u* (агляд праблематыкі ў літаратуры гл. ESSJ SG, 2, 697–701; ESJSt, 17, 996; пра ст.-бел. формы гл. Крамко, Мова бел. пісьм., 276). Сучаснае дыялектнае ўжыванне, напр., *ту* 'тут' (воран. Сл. ПЗБ), а таксама позні старабеларускія формы пад уплывам польскай мовы, гл. Булыка, Запазыч., 326. Паводле Шустар-Шэўца (1553), вакалізацыя, як у н.-луж. *ku* < прасл. **kъ*, гл. *к*.

**Ту$_3$** – размеркавальны злучнік *то ... то*: *ту чуеш у гэтай песні страшны голас дзікага звера, ту смех шалёнага, ту нудны крык нішчаснага, ту плач беднага чалавека* (Я. Колас). Параўн. аналагічныя злучнікі: макед., балг. *ту ... ту*, польск., чэш. *tu ... tu*. Функцыянальна ідэнтычна займеннікавым утварэнням ад **tъ*, у першую чаргу **to* (гл. *та*, *то*), адносна паходжання гл. ESSJ SG, 2, 701. У беларускай літаратурнай мове выціснута пад уплывам рускай мовы.

**Туале́т** 'адзенне, убранне', 'прывядзенне ў належны стан свайго выгляду', 'прадметы касметыкі, гігіены', 'столік з люстэркам', 'прыбіральня' (ТСБМ), 'убранне, уборы, строі' (Некр. і Байк.). Запазычана праз рус. *туалет* у XVIII ст. з франц. *toilette* 'акравак тканіны', 'ручнічок' – памяншальнае ад *toile* 'палатно', якое з лац. *tēla* (< **tex-la*) < *texere* 'ткаць', ад якога таксама *тэкстыль* (гл.). Адсюль развіццё значэнняў: 'тое, што зроблена з тканіны, палатна' > 'ручнічок на туалетным століку' і г. д. (Голуб–Ліер, 483; Фасмер, 4, 113; Чарных, 2, 268; ЕСУМ, 5, 666; Арол, 4, 112).

**Ту́ба** 'музычны інструмент', 'цюбік' (ТСБМ), 'рупар' (Ласт.). Запазычана праз нямецкую мову з італ. *tuba* 'музычны інстру-

мент', якое з лац. *tuba* 'труба', вядомае яшчэ з часоў Старажытнага Рыма, пры дапамозе слова падавалася каманда да наступу або адступлення войска. Магчыма, з'яўляецца роднасным лац. *tībia* 'жалейка', 'галёначная косць' (ЕСУМ, 5, 666; Арол, 4, 112).

***Ту́бал**, *ту́бол* 'тулава', побач з *ту́лоб*, *ту́луб* 'тс' (пін., Дразд.). У выніку перастаноўкі зычных *л...б > б...л*. Гл. *ту́лаб*.

**Ту́балка** 'мясцовая, карэнная жыхарка': *вона ту́балка, а я на́волоч* (лельч.; Цыхун, уласн. зап.), *ту́болка*, *ту́боліца* 'тс' (ТС), *ту́болец*: *ве́чны ту́болец* 'карэнны жыхар' (там жа), *ту́балец* 'тс' (маз., ГЧ, Скарбы), *ту́бельнік* 'старажыл' (Зайка Кос.), *ту́бальцы* 'мясцовыя жыхары' (слуц., Сержп. Казкі), сюды ж *tubòleczny* 'тутэйшы' (Арх. Федар.) і семантычна пашыранае *ту́бальніца* 'ўласніца маёмасці, валадарка' (калінк., Сл. ПЗБ). Вынік трансфармацыі дээтымалагізаваных *тубылка*, *тубы́лец* (гл.), параўн. таксама фанетычна дэфармаваныя *тулубка* (з метатэзай) і *ту́палец* (з аглушэннем *б > п*) (ТС).

**Туба́н** 'натоўп, юрма' (Вушац. сл.). У выніку метатэзы галосных з *табун* (гл.).

**Тубарам**, ст.-бел. *тубаромъ* 'ноччу': *тубаром то ест в полню* (ГСБМ). Няясна. Знешне падобна да архаічнага рус. *ту́пора* 'ў тую пару, у той час, калі', што выводзіцца з **въ ты поры* 'ў тую пару' (Анікін, РЭС, 9, 81). Параўн. *тупраш*, гл.

**Тубарэ́тка** 'табурэтка' (Мат. Гом.). Гл. *табурэт* (з перастаноўкай галосных).

**Ту́бачнік** 'крапінец чубаты, *Polygala comosa* Schkuhr' (даўг., Сл. ПЗБ), *t'ubačńik* 'палявая расліна': *s''c''abło i tam ... jak tr'ubačk'i tak'ija try c''v'atki* (Брасл. сл.). Названы паводле формы кветкі, падобнай да *тубы* (цюбіка), гл.

**Ту́бель** 'від гэбля': *тубелям дзелаюць філінговыя дзверы* (свісл., Шатал.), *ту́блі выбіраюць вузкія фальцы на абшыўцы* (Сцяшк.). Не зусім ясна. Відаць, з ням. *dóppelt*, ці +*Doppelhobel* 'гэбель, які выбірае падвойныя пазы' (гл. яшчэ *дубальт*).

**Туберкулёз** 'сухоты' (ТСБМ, Брасл. сл.). Штучнае слова, утворана ад лац. *tūberculum* – памяншальнага лац. *tūber* 'клубень', 'горб', 'шышка, пухліна', 'нарасць (на дрэве)' (Голуб–Ліер, 493), што дало *тубе́ркул* 'бугарок у тканках арганізма, выкліканы туберкулёзнай палачкай' (ТСБМ). Распаўсюдзілася праз франц.

*tuberculose* (Арол, 4, 112). Пра ўсталяванне тэрміна ў беларускай медычнай тэрміналогіі гл. Шмідт, Узвышша, 1930, 3, 103.

**Тубу́н** 'гурт', *тубуно́м* 'гуртам' (Бяльк.). Да *табу́н* (гл.) з «гармоніяй» галосных на тэрыторыі дысімілятыўнага акання (Нарысы па бел. дыял., 43).

**Ту́былец** 'туземец, мясцовы жыхар, абарыген, аўтахтон' (ТСБМ, Гарб., Нас., Некр. і Байк., Яруш., ЛА, 3), *тубы́лец* 'тс' (Гарэц., Байк. і Некр.), *ту́быліц* 'тс' (Бяльк.), сюды ж *ту́былнык* 'мясцовы жыхар' (Клім.), *ту́бельцы* 'карэнныя жыхары' (Жд. 3), *ту́былнэц*, *ту́былнык* 'тутэйшы' (стол., Нар. лекс.); *ту́болец*, *ту́бэлэц*, *ту́былнык* (палес., ЛА, 3), ст.-бел. *тубылецъ* 'карэнны жыхар пэўнай мясцовасці' (ГСБМ). Паводле Жлуткі (174, 175), апошняе адпавядала юрыдычнаму мясцоваму лац. *incola* 'тубылец, тутэйшы, карэнны жыхар' або *indigena* 'тс' і 'нованабілант; шляхціц-іншаземец'. З польск. *tubylec* 'тс'; Кюнэ (111) выводзіць са ст.-польск. *tu* і *bydliciel* ці іншага назоўніка, утворанага ад *bydlić* 'пражываць, жыць', а не *być*, што не бясспрэчна, параўн. ЕСУМ (5, 667), гл. таксама *тужылец*. Сюды ж *тубы́ліца* 'мясцовая жыхарка' (Байк. і Некр.), *тубы́льны* 'аўтахтонны' (там жа), *ту́былный* 'мясцовы' (кобр., Ск. нар. мовы). Гл. таксама *тубалка*.

**Ту́быль** 'мноства, грамада': *вы́дзьвінулі ту́быльлю на луг – зу пуўдня сена схвацілі* (Юрч.). Няясна. Магчыма, балтызм, параўн. літ. *tūlýbė* 'мноства' з перастаноўкай зычных. Параўн., аднак, фармальна і тэрытарыяльна блізкія, але адрозныя па семантыцы рус. дыял. *ту́боль* 'смецце, адходы', 'лухта', *ту́баль* 'глупства', *ту́больный* 'бесталковы, дурны' (СРНГ).

**Ту́быць** 'назва зёлкі': *вуньдзіка – тубыць, а гэта прастрэл (ад апуду)* (мёрск. Наша слова, 2008, 7 траўня). Несумненна, суадносіцца з іншымі назвамі лекавых ці чароўных раслін *нітубіч*, *нятубіц* і, мажліва, *нятупнік* (гл.), табуізаваныя назвы якіх шыфруюць іх месцазнаходжанне і прызначэнне; **-ту(т) быць* – літаральна 'якая тут павінна знаходзіцца'.

**Тубэ́льны** 'перакананы' (Мат. Гом.). Няясна; магчыма, звязана з польск. *tubalny* 'гучны, зычны, прарэзлівы' (Варш. сл.) з семантычным пераходам 'гучны' > 'перакананы (які гучна адстойвае свае погляды)', што, відаць, да *tuba* 'музычны інструмент', гл. *туба*.

**Тубяро́за** ‘дэкаратыўная расліна *Polyanthes tuberosa* L.’ (ТСБМ), *тубэро́за* ‘тс’ (Некр. і Байк.): *tuberozy pyšny ćviet* (Т. Падзява). Запазычана праз польск. *tuberoza* ‘тс’ з ням. *Tuberóse* як частка лацінскай навуковай назвы са значэннем ‘пакрытая бугаркамі’ (ЕСУМ, 5, 666).

**Ту́вава-ту́вава** – імітацыя ігры на гармоніку (Сцяц.). Гукапераймальнае.

**Тувалня** ‘намётка’ (Ц. Гартны), ст.-бел. *тувальня*, *тувалня*, *товальня* ‘шырокі ручнік’ (ГСБМ). Запазычана з польск. *tuwalnia* ‘ручнік; хустка’, якое з італ. *tovaglia* ‘абрус, сурвэтка’ < нар.-лац. **tobalia* < франк. **thwahlja* ‘ручнік’, роднаснага гоц. *þwahan* ‘купаць’ (Булыка, БЛ, 74, 32; ЕСУМ, 5, 667).

**Ту-га́**, *туга́* ‘вокрык, якім адганяюць ваўка’ (круп., Нар. сл., Шат.): *туга́ ваўка!* ‘тс’ (мсцісл., З нар. сл.), *туга́-туга́* ‘тс’ (Мова Сен.). Складанае выклічнікавае выслоўе, у якім выклічнік *ту*$_1$ (гл.) мае шырокае эмацыянальнае значэнне, параўн. *ату́*, *агату́* (Некр. і Байк.), звычайна з мэтай напалохаць, скіраваць увагу; паводле Германовіча (Междомет., 53), гэта прыслоўе *ту*$_2$ ‘тут’. Выклічнік *га* (гл.) адносіцца да т. зв. першасных інтэр’екцый, вядомых у розных індаеўрапейскіх мовах у якасці адгоннага ці нагоннага слова (Смаль-Стоцкі, Приміт, 26). Параўн. *цюга* (гл.), рус. дыл. *ту́га* ‘слова, якім адганяюць кароў’ (СРНГ).

**Туга́** ‘смутак, маркота, журба’, ‘пачуццё нуды’ (ТСБМ, Бяльк., Байк. і Некр., Гарэц., Др.-Падб., Ласт., ТС, Вруб., Булг.; барыс., Шн.), *ту́га* ‘жаль, клопат, журба’ (Нас., Арх. Федар., Мядзв., Растарг.), *сум-туга́* ‘маркота, роспач’ (Вушац. сл.), ст.-бел. **тоуга** ‘жаль, крыўда, журба’ (XVII ст., Карскі 2–3, 436). Укр. *туга́*, рус. *туга́*, стараж.-рус. *туга* ‘прыгнечанне; мука; сум, бяда’, польск. *tęga* (запазычанае з беларускай ці ўкраінскай мовы, або з чэшскай, гл. Басай–Сяткоўскі, Słownik, 400), н.-луж. *tuža* ‘прыгнечанасць, гора, пакуты’, в.-луж. *tuha* ‘спякота’, ‘прыгнечанасць’, чэш. *touha* ‘прага, імкненне’, ‘сум’, славац. *túha* ‘сум’, славен. *tóga* ‘гультайства’, ‘сум, туга, скруха’, харв. *túga*, серб. *ту́га* ‘тс’, макед. *тага* ‘тс’, балг. старое *ту́га* ‘мука’, *тъга̀* ‘смутак, маркота, журба’, ‘туга’, ст.-слав. **тѫга** ‘страх, трывога; смутак’, ‘цяжкасці, пакуты, мукі’. Прасл. **tǫga* ‘душэўны цяжар, цяжкі настрой’ ад і.-е. **thonghā̆* < і.-е. асновы **thengh-* ‘цягнуць, цягнуць пад гору’,

‘быць цяжкім’ (Сной$_2$, 769). Паводле ESJSt, 974 – nomen actionis ад кораня **tęg-* ‘цягнуць’, г. зн. ‘тое, што цягне’; раней – Мяркулава, Этимология–1981, 62. Сувязь з **tǫgъ* ‘тугі, цвёрды, нацягнуты’ дапускае Якубовіч (Этимология–2000–2003, 190), гл. *тугі*. Магчыма, сюды ж серб. дыял. *ту́го!* – выклічнік для выражэння болю, страху (СДЗб, 52, 399; 57, 940). Вытворныя *тужлі́вы* ‘поўны тугі’, ‘які выклікае тугу’, *тужлівасць* ‘туга, нуда, журба’, *тужы́ць* ‘сумаваць, нудзіцца, журыцца, гараваць’ (ТСБМ, Ласт., Бяльк., Шат., ТС), а таксама выразы *ту́жыкі есці* ‘есці памінальны абед’ (Шат.), *ту́жыкі спраўляць* ‘тужыць’ (Бяльк.).

**Тугаль** ‘куколь звычайны, *Agrostemma githago* L.’ (Кіс.). Параўн. *гугаль, куколь* (гл.), спарадычны пераход *ку* >*ту* ў *кушэтка* > *тушэтка*, гл.

**Ту́гаць** ‘гайдаць, вагаць, штурхаць’, ‘насіцца, тупацець’ (ТС). Першае значэнне, магчыма, у выніку перастаноўкі з *гу́таць* ‘гушкаць’, параўн., аднак, *ту́гнуць* ‘тупнуць’ (гл.), *тугоце́ць* ‘ідучы, грукаць абцасамі, падэшвамі абутку’ (Руб.) – выразна гукапераймальнага паходжання.

**Тугі́** ‘моцна, да адказу нацягнуты’, ‘шчыльна сплецены, скручаны, звіты’, ‘які шчыльна аблягае, моцна сціскае фігуру, часткі цела’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Ян., Некр.), ‘шчыльны, цвёрды’ (Некр., Сцяшк., Ян., Мат. Гом., ТС), ‘пругкі, які цяжка нацягваецца, сціскаецца’, ‘непадатлівы, скупы на што-небудзь’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк.), ‘нягнуткі’ (Вруб.), ‘глухі на вуха’ (Нас.), ‘густы (пра кашу)’ (ЛА, 4; докш., Сл. ПЗБ), ‘густа замешаны, цвёрды (пра хлеб)’ (Мат. Гом., ЛА, 4), сюды ж *тугá карова* ‘цяжкая для даення’ (З нар. сл.), *тугая зіма* ‘суровая, цяжкая’: *мусі, зязюля, мусі сівая / Тугую зіму чуеш?* (навагр., Песні нар. свят.), *тугáя гліна* ‘цяжкая для апрацоўкі’ (навагр., валож., свісл., пруж., Нар. словатв.). Укр. *тугíй*, *ту́гий* ‘моцна нацягнуты; надуты; моцны; упарты’, рус. *тугóй* ‘цвёрды, пругкі’, польск. *tęgi* ‘цвёрды, моцны’, ‘дародны’, кашуб. *tąǵi* ‘моцны, мажны’, в.-луж. *tuhi* ‘цвёрды, жорсткі’, чэш. *tuhý* ‘цвёрды, жорсткі, упарты’, славац. *tuhý* ‘цвёрды, моцны’, славен. *tôg* ‘жорсткі, моцны’, ст.-слав. **тѫгъ(и)** ‘цвёрды, моцны, упарты’. Прасл. **tǫgъ(jь)* ‘моцны, упарты’, ‘цвёрды, нягнуткі’ (Фасмер, 4, 114; ЕСУМ, 5, 668; Борысь, 631; Брукнер, 570; Махэк$_2$, 659; Чарных, 2, 269; Сной$_2$, 769). Яму

адпавядае літ. *strangùs* 'пругкі, пруткі'; звязана чаргаваннем галосных з *цягнуць*, прасл. **tęgti* 'цягнуць, нацягваць', параўн. Якубовіч, Drogi słow, 170, 181. Сюды ж *тужэ́ць* 'станавіцца больш тугім' (ТСБМ), *тугава́ты* 'глухаваты' (там жа), 'схільны да запораў' (смарг., Сл. ПЗБ), *тугаву́хі*, *тугі́й на вуха* 'з дрэнным слыхам' (Мат. Гом., Жд. 3, Юрч. Фраз.), *ту́ганька* 'шчыльна, туга' (брасл., Сл. ПЗБ), *ту́го* 'моцна': *спіце вы туго* (Сцяшк.).

**Ту́гнуць** 'тупнуць, стукнуць, загрымець' (ТС), сюды ж, відаць, і *тугну́ць* 'спалохаць, спужаць, зняць з пасады', *тугну́ты* 'выгнаны, напалоханы' (Яўс.), а таксама з экспрэсіўным нарашчэннем *тугоне́ць* 'тупацець, грукатаць' (ТС). Параўн. укр. *тугоніти* 'ўдараць, стукаць, грукацець'; паводле ЕСУМ (5, 669) – афектыўнае гукапераймальнае ўтварэнне, роднаснае лексеме *стугане́ць*, *стуго́ніць* (гл.), што, магчыма, пацвярджаецца і рус. дыял. *ту́га* 'слова, якім адганяюць кароў' (СРНГ), гл. *ту-га*.

**Туго́шына** 'непраходнае балота ў лесе' (Яўс.). Няясна; магчыма, мікратапонім мясцовага паходжання. Відаць, роднаснае ст.-цюрк. *tuγ* 'перашкода, завал, запруда'. Параўн. таксама ўкр. (рус. і бел. – ЕСУМ, 5, 667) *тугá́й* 'саланчаковая раўніна', *тугá́ї* 'густыя зараснікі на берагах рэчак і азёраў у пустынях і паўпустынях Сярэдняй Азіі', татар. *тугай* 'лука, абалона', кірг. 'зараснік маладога кустоўя, змешанага з чаротам і трыснягом у абалонах рэк, на балоцістых мясцінах'.

**Тугугу́-тугугу́** – імітацыя гучання пастухоўскай трубы (ТС), параўн. рус. смал. *тугу́* 'тс'. Гукаперайманне.

**Ту́дака** 'тут' (свісл., Шатал., Сцяшк. МГ; зэльв., ваўк., дзятл., івац., стол., ЛА, 2), *ту́дакава* 'тут' (Сцяшк., Федар. 1). Да *ту́така* (гл.), відаць, у выніку "азванчэння" *т* у інтэрвакальным становішчы. Карскі (1, 353–354) мяркуе пра ўплыў прыслоўя *тудá*, гл. *туды*.

**Туда́ма**, *тудэ́ма*, *туды́ма*, *тудо́ма*, *тудамá*, *тудо́мі*, *тудэ́мі* 'туды, тудою', 'у тым напрамку, у той бок' (Гарэц., Федар. 4, 5, Сцяшк. Сл., Вруб.; слуц., навагр., Мат., Зайка Кос., Сл. Брэсц.), *тудэ́мо* 'тудою' (Федар. 1, беласт., Жыв. НС). Аснова *туд-* (< прасл. **tǫd-*, гл. *туды*), да якой далучаюцца суфіксы з элементам *-м-*, што нагадваюць такі ж канчатак формы Тв. скл. парнага або мн. л. назоўнікаў, паводле Карскага (2–3, 67–68), ідэнтычныя

суфіксам прыслоўяў на *-ма*, *-мо*, *-мі*, як у *лежма*, *дармо*, *вельмі* і пад. Варыянтнасць папярэдніх галосных залежыць ад канчаткаў праславянскіх прыслоўяў **tǫdě* / **tǫdu* / **tǫdy* / **tǫda* – у славянскіх мовах яны выступаюць у асноўным у трох значэннях: 'тудою', 'там', 'тут' (ESSJ SG, 2, 694–695). Сюды ж *тудойма* 'ў той бок, той дарогай' (Нар. Гом.), *тудэ́йма* 'туды, па той дарозе' (Сцяшк.), гл. наступнае слова.

**Тудо́й** 'праз тое месца, тым шляхам, там, абышоўшы штонебудзь (рухацца)' (ТСБМ, ПСл, Мат. Маг.), 'тым месцам, той дарогай' (Скарбы, Касп.): *туды можна трапіць тудой* (бялын., Янк. Мат.); 'туды' (Сцяшк.); *тудо́ю* 'там' (Нас.), 'тым кірункам' (Бяльк., Байк. і Некр., ТС), 'у той бок, у тым напрамку' (калінк., З нар. сл.; ПСл, Мат. Маг.; ганц., Скар. НП; навагр., чэрв., драг., беласт., Сл. ПЗБ); *тудэ́ю* 'тс' (Шат., Жд. 3, ТС, Кліх.), 'туды, па той дарозе' (Сцяшк.), 'у той бок' (ганц., пух., пруж., Сл. ПЗБ; слуц., Мал.), 'у тым напрамку' (ТСБМ), 'тым шляхам, той дарогай; там' (Клундук), *тудэ́й* 'туды, той дарогай' (Нас., ПСл), 'там' (Мат. Гом.); *тудэ́йка* 'туды' (Сцяшк. Сл.). Укр. дыял. *тудо́ю* 'ў той бок, той дарогай', рус. дыял. *тудо́ю* 'тс'. Відаць, форма *тудою*, якая паводле канчатка набліжаецца да назоўнікаў ж. р. Тв. скл. з **-ojǫ* (ESSJ SG, 2, 695), выступала ў функцыі прыметніка (*тудою дарогаю*) – параўн. *туды́й* (гл.); гэты канчатак у народнай мове скараціўся да *-ой (тудой)*, аналагічна да *дарогай*, гл. Карскі 2–3, 67. Галосны *-о-* пераходзіў у *-э-* па розных прычынах: наяўнасць наступнага *-j*, паводле аналогіі з канчаткамі прыметнікаў з мяккай асновай (параўн. ст.-бел. *летнею*, *синею*, *горѧчею*), або па аналогіі з *тэй*, *аднэ́й* і інш. (Карскі 1, 154–157).

**Туды́** 'ў той бок, у тое месца, туды' (ТСБМ, Некр. і Байк., Шымк. Собр., Сержп. Прымхі, Пятк. 2, Бяльк., Шат., Касп., Мал., Растарг., ТС, Сл. ПЗБ), *ту́ды* і *туды́* 'тс' (Нас.), *туда́* 'тс' (Федар. 1; лудз., шальч., Сл. ПЗБ), *тудэ́* 'тс' (беласт., шчуч., драг., Сл. ПЗБ), 'туды, там, той дарогай' (Скарбы$_2$), ст.-бел. *туды*, *туда*, *туде* 'тс' (ГСБМ), сюды ж *туды́ж-тыкі* 'туды ж' (Нас.), *туды́ка* 'туды' (Сцяшк.), *туды́нака* 'тс' (Жд. 2), *туд* 'тс' (ТС). Укр. *туди́*, *туди́ка*, *туди́й*, *туди́йки*, рус. *туда́*, дыял. *туды́*, *туды́-ка*, стараж.-рус. *туды* 'туды', польск. *tędy* 'сюдою', дыял. *tądy*, каш. *tądë*, в.-луж. *tud(y)*, н.-луж. *tud* 'тут', дыял. *tuder*, чэш. *tudy* 'сюдою', славац.

*tudito* 'гэтай дарогай, сюдою', славен. *tôdaj*, *tód* 'тут, сюдою', старое харв. *tudi*, серб. *тӯд*, *тȕда(р)* 'туды', 'тут', 'сюдою', балг. *тъдя́(ва)* 'недзе тут, у гэтым месцы', ст.-слав. **тѫдоу**, **тѫдѣ** 'туды, тут, стуль'. Прасл. **tǫdy* (з варыянтамі **tǫdě*, **tǫdu*, **tǫda*) утворана ад *t*-асновы (як **kǫdě* – ад *k*-асновы), хутчэй за ўсё, ад формы **ta-mo-dě* ў выніку гаплалагічнага скарачэння (ESSJ SG, 2, 696), ці ад праславянскага ўказ. займ. **tъ* 'гэты' (з В. скл.) у форме **tǫ* з рознымі часціцамі з элементам *-*d*- (Барысь, 631), або -*ǫd*, які супастаўляюць з лац. *unde* 'адкуль', *inde* 'адтуль' (ЕСУМ, 5, 669). Паводле ESJSt (16, 974), слова няяснага паходжання. Сной$_2$ (790) дапускае першаснае значэнне ў прасл. **tudy* 'тут', якое маецца ў прыслоўі **tu* 'тут'. З індаеўрапейскіх паралелей можна ўказаць на гоц. *thadei* 'куды'. Ст.-прус. *(is)stwendau* 'стуль', якое прыводзіцца ў этымалагічнай літаратуры ў якасці адпаведніка *stwendau* 'скуль', фанетычна не зусім адпавядае прасл. *tǫdy*; паводле Мартынава (Прасл. яз., 28), зыходная форма рэканструюецца як ст.-прус. **istandau*, паралельная прасл. **jьztǫdu* 'стуль'. Сюды ж спалучэнні *сюды́-туды́* 'ў той і ў другі бок', *туды́-сюды́* 'сюды-туды', 'сыйдзе, нічога', 'куды-небудзь', 'там і сям', 'як-небудзь' (ТСБМ, Нас., Федар. 4, Растарг., Арх. Вяр., Бяльк., Байк. і Некр.), 'далёка не адыходзячы' (Варл.), 'абы-як, нядбайна' (Юрч. Сін.), 'у розныя бакі' (смарг., швянч., пух., астрав., Сл. ПЗБ), *тудá-сюдá*, *тудэ́-сюдэ́* (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *туды и сюды*, *туда и сюды*, *туды и сюда* 'ў той і другі бок' (ГСБМ). Гл. таксама *сюды́*.

**Туды́жні** 'далёка', 'у пэўным напрамку': *як не хочацца тудыжні за травою йці* (калінк., З нар. сл.). Да *туды́* (гл.), заканчэнне слова не яснае, магчыма, у выніку зліцця з дэфармаваным *ажні*, гл. *аж*, *ажно*.

**Туды́й** 'які пралягае там (аб шляху, дарозе)': *тудáя дарога калю́гвіста* (Нас.). Прыметнік, утвораны ад прыслоўя *туды́* (гл.) і неасабовага займенніка **jь* 'той', які ўтвараў поўныя прыметнікі (**novъ + jь* 'новы', у паўночна-ўсходніх гаворках – *новый*).

**Туды́ліча** 'ў той старане' (Сл. рэг. лекс.). Да *туды́* (гл.), ускладненага часціцай *-лі-* (гл. *ль*), параўн. *адсю́ліка*, *адсю́ль* 'з гэтага месца' (Касп.), і часціцай *-ча*, варыянт *-чы* (параўн. *тутачы*, гл.).

**Тудэ́й** 'там' (Нас., Мат. Гом.). Гл. *тудой*.

**Тудэ́мі** ‘тудою’ (ганц., Ск. нар. мовы), ‘туды’ (Сцяшк. Сл.), ‘у тым напрамку, у той бок, па тым шляху’ (Сл. ПЗБ, Сцяц., Скарбы). Гл. *тудама.*

**Ту́ебень** ‘дурань, тунеядзец’ (Мат. Маг. 2), *ту́ібень* ‘гультай’ (Юрч. Фраз. 1). Відаць, не можа разглядацца асобна ад *сту́ібень* ‘дурань’ (гл.), магчыма, варыянта з s-mobile ў выразе *стаяць як статуй, стуібень, стуіб* (Вушац. сл.). Параўн. рус. дыял. *ту́ебень лесно* – лаянкавы выраз, *ту́ймень* ‘дурнаваты, гультаяваты і непаваротлівы’ (СРНГ). Няясна, параўн. *тую́ба*, гл.

**Ту́жа** ‘туга, сум, журба’ (лід., Арх. Федар.), н.-луж. *tuža* ‘тс’, в.-луж. *tuža* ‘сум’, ‘непрыемнасць, трывога, хваляванне’. Паўночнаславянскае рэгіянальнае ўтварэнне ад асновы прасл. **tǫg-* і суф. **-ja* (як *лу́жа*, *сажа* і інш.), параўн. *туга* (гл.), або незалежныя дэрываты ад *тужы́ць*, гл.

**Ту́жба** ‘смутак, маркота’, ‘клопат’ (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Байк. і Некр., Янк. БП): *u dware służba ni wielika tużba* (Арх. Федар.). Укр. *тужба́* ‘журба, маркота’, рус. *тужба́* ‘клопат’, польск. *tużba* ‘смутак’, в.-луж. *tužba* ‘сум, журба, маркота’, чэш. *tužba* ‘моцнае жаданне’, *tužby* ‘спадзяванне’, славац. *túžba* ‘сон, мара’, ‘цяга, імкненне да чаго-небудзь’, ‘смутак, туга’, харв. *tȕžba*, чак. *tužbȁ* ‘скарга, нараканне’, серб. *ту̏жба* ‘скарга, іск’, балг. *тъжба* ‘скарга’, ‘сум, журба, гора’, макед. *тужба* ‘судовы іск’. Прасл. **tǫg-ьba > *tǫžьba*. Да *тугá*, *тужыць*$_{1,2}$ (гл.). Літ. *tūžbà* ‘злосць’ запазычана з беларускай, гл. Фрэнкель, 2, 1147.

**Тужу́рка** ‘двухбортная форменная або дамашняя куртка’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Вруб.; віл., Сл. ПЗБ), ‘скураная куртка’ (Растарг.). Запазычана з рускай мовы (Сл. ПЗБ, 5, 114), у якой *тужу́рка* спачатку абазначала ‘будзённае, хатняе адзенне’. Узыходзіць да франц. *toujours* ‘заўсёды’, ‘штодня’ (Фасмер, 4, 115; Чарных, 2, 269; ЕСУМ, 5, 669). Па фармальных і семантычных прычынах малаверагодна запазычанне праз польск. *tużurek* ‘доўгі чорны сурдут для візітаў і ўрачыстых выпадкаў’, якое паходзіць ад спалучэння франц. *robe de toujours* ‘штодзённае адзенне’ (ад *tour jour* ‘кожны дзень’), гл. Брукнер, 586; Арол, 4, 114.

**Тужылец**, ст.-бел. *тужылецъ* ‘туземец’ (Скарына, ГСБМ). Адзінкавая фіксацыя ў Скарыны ставіць пытанне пра калькаванне больш распаўсюджанага *тубылец* (гл.), відаць, пад уплы-

вам чэш. *bydliti*, *bydleti* ‘жыць’. Пра канкурэнцыю *жыць* і *быць* на балцка-славянскай тэрыторыі гл. Суднік, Полесье и этногенез славян. 1983, 59–61, параўн.: *Му тут век жыво́м, то му ту́больцы* (ТС). Гл. *жылец*, *жыць*.

**Ту́жыць** ‘туга нацягваць’ (Нас., Байк. і Некр.), ‘рабіць тужэйшым’ (Юрч. Вытв.), *ту́жіць*: *ту́ж'іц' самаму́* ‘цягнуць павозку самому, без дапамогі цяглавай сілы’ (лоеў., Нікан., Трансп.), параўн. *самату́гам* ‘тс’ (ТСБМ), *ту́жацца* ‘цвярдзець’ (Мат. Гом.), *тужэ́ць* ‘станавіцца больш тугім, шчыльным, мацнець’ (Нас., Касп., Байк. і Некр., ТС), ‘дранцвець, дубець, пруцянець’ (Ласт.), *тужа́ты* ‘цвярдзець (пра зерне, зямлю)’ (стол., Выг.), *ту́жынне* ‘зацягванне з мэтай зрабіць тужэй’ (Юрч. СНЛ), *тужы́ць* ‘нацягваць аснову красён’ (уздз., Сл. ПЗБ), *ту́жыцца* ‘намагацца, напружвацца’ (ТСБМ; зэльв., Нар. словатв.). Укр. *тужíти*, *ту́житися*, *тужа́віти* ‘наліваціца (пра колас), цвярдзець, шчыльнець, загусаць’, рус. *ту́житься* ‘напружвацца’, в.-луж. *tužić* ‘звужвацца’, ‘сціскаць, ушчыльняцца’; ‘прымацоўваць, нацягваць, напружваць’, ‘прыглушаць’, польск. *tężeć* ‘цвярдзець’, дыял. *tużyć* ‘цягнуцца, схіляцца’, чэш. *tužit* ‘рабіць цвёрдым’, ‘крухмаліць’, ‘умацоўваць (мускулы)’, *tužit se* ‘намагацца, напружвацца’, ‘націскаць’, славац. *tužit'* ‘тс’, *tužiet' sa* ‘падсілкоўвацца’, *tužiet'* ‘мацнець, дужэць’, ‘загартоўвацца’. Прасл. **tǫžiti (sę)* <**tǫgъ* ‘напружаны, нацягнуты’ (гл. *тугі*), чаргуецца з прасл. **tęgti* ‘цягнуць, валачыць’, ‘быць цяжкім’, што да і.-е. **t*$^{h}$*eng*$^{h}$*-* ‘тс’ (Покарны, 1067; Борысь, 631; Сной, 769), гл. *туга́*, *ту́жба*, укр. *ту́га́* ‘натуга, напружанне’, якія семантычна звязваюць дзеясловы *ту́жыць* і *тужы́ць* (гл.), што падкрэслівае іх агульнае паходжанне.

**Тужы́ць** ‘сумаваць, маркоціцца, журыцца’ (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр., Шат., ТС, Вушац. сл., Сл. ПЗБ), ‘пакутаваць з тугою’ (Юрч. Сін.), ‘нудзіцца, быць ахопленым сумам’, ‘гараваць, перажываць няшчасце’ (ТСБМ, ТС), ст.-бел. *тужити*, *тужыти* ‘знаходзіцца ў стане смутку’ (ГСБМ). Укр. *тужи́ти*, рус. *тужи́ть* ‘тс’, польск. дыял. *tążyć* ‘сумаваць (пра жывёл)’, ст.-польск. *tążyć*, *tężyć*, *tużyć* ‘сумаваць’ (XVI ст.), н.-луж. *tužyś (se)* ‘сумаваць, маркоціцца’, в.-луж. *tužić* ‘засмучаць’, ‘трывожыцца, непакоіць’, чэш. *toužiti* ‘тс’, славац. *túžit'* ‘сумаваць (па радзіме)’, ‘моцна хацець’, ‘марыць’, серб. *ту̏жити* ‘скардзіцца’, ‘падаваць скаргу’,

'аплакваць каго-небудзь', макед. *тужи* 'падаваць у суд', *тажи* 'сумаваць, журыцца', балг. *тъжа́* 'тс', 'мецъ жалобу па кім-небудзь'. Прасл. **tǫžiti* ўтворана ад **tǫga* (гл. *туга*), што далей да *tęgnǫti* (гл. *цягнуць*). Паводле Шустар-Шэўца (1555), развіццё значэння ад 'ціснуць, цягнуць уніз' да 'прыгнечанасць, маркота, сум' прадстаўлена ў роднасных ст.-ірл. *þung* 'цяжкі', *þungol* 'смутак, сум, клопат, гора', літ. *tingė́ti* 'ленавацца', *tìngiu* 'я вялы, неактыўны'. Фармальна блізкае літ. *tũžyti(e)s* 'злавацца' лічыцца (гл. Фрэнкель, 2, 1148) запазычаннем з беларускай мовы, а літ. *tū̃žti* 'набухаць, уздымацца', *įtū̃žti* 'раззлавацца' Смачынскі (697) пакідае без этымалогіі. Памылковае сцвярджэнне аб запазычанні з рус. *тужить* у Сл. ПЗБ, 5, 144. Сюды ж *тужлі́вы* 'смутны, журботны' (Гарэц., Байк. і Некр.), *ту́жыкі* 'памінальны абед': *ту́жыкі е́сці* (Шат.), *тужэ́й* 'цяжэй, горш' (пух., капыл., Сл. ПЗБ), *ту́жык* 'ныцік' (Байк. і Некр.), параўн. рус. *ту́жик* 'хто заўсёды плача, скардзіцца на свой лёс', серб. *тужа̀кало* 'тс'.

**Туз**$_1$ 'старшая ў сваёй масці ігральная карта' (ТСБМ, Нас., Пятк. 3, Бяльк., Янк. БП, Вруб.), перан. 'таўсцяк; багаты чалавек, уплывовая асоба' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк.): *наеўся, як туз* (рэч., Ліцв.). З польск. *tuz*, якое з с.-в.-ням. *tûs*, *dûs* 'туз'; мяркуецца, што першапачаткова з ням. *Daus* 'двойка' ў гульні ў косці з двума вочкамі, параўн. ід. *tejz*, *tojz* 'туз', потым назва перайшла на гульню ў карты < ст.-франц. *daus*, франц. *deux* < нар.-лац. *duōs* 'два', 'двойка' (Брукнер, 585; Фасмер, 4, 115; Арол, 4, 114; ЕСУМ, 5, 669).

**Туз**$_2$ 'вымова, спагнанне з бойкай' (Нас.): *даць туза́* 'моцна пабіць, адлупцаваць' (Некр. і Байк.), параўн. укр. *туз* 'удар, штуршок', рус. валаг. *туз* 'моцны ўдар' (СРНГ), польск. *tuzy* 'ўдары', 'бойка, лупцоўка', 'шышка', *poszedł z nim w tuzy* 'ўзяліся за ілбы'. Дэвербатыў ад *ту́заць* (гл.), магчыма, другасна набліжаны да папярэдняга слова ('ход тузом'?). Сюды ж *туза́нікі* 'частыя спагнанні', *туза́нка* 'лаянка з бойкай', *туза́ла*, *туза́н* 'строгі чалавек, які любіць спаганяць' (Нас.).

**Тузава́ць** 'апрацоўваць гліну дротам' (шкл., ЖНС), 'утоптваць у гліну (для гаршкоў) каменную муку з жарствы' (лёзн., ЖНС). Відаць, да наступнага слова.

**Ту́зац ь** 'торгаць, цягаць рыўкамі, рэзкімі рухамі', 'біць, калаціць, трэсці', 'рваць (пра вецер)', 'не даваць спакою, дакучаць патрабаваннямі', 'рытмічна торгаць (пра боль)' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк., Касп., Байк. і Некр., Шат., Яруш., Чач., Др.-Падб., Сержп. Прымхі, Скарбы$_2$, Сл. Брэс.), 'мучыць, мардаваць' (Ласт.), 'ванітаваць, нудзіць' (ТСБМ; лаг., Гіл.; пух., навагр., Сл. ПЗБ); 'выпроствацъ мокрую аснову пасля апрацоўкі лугам' (в.-дзв., Шатал.), *ту́заты* 'расцягваць (воўну)' (пін., Сл. Брэс.), 'торгаць' (Клім.), 'торгаць, балець (пра рану, зуб)' (Горбач, Зах.-пол. гов.), *тузну́ты*, *тузыну́ты* 'тарганућь, тузануць' (драг., Нар. лекс.), *ту́знуць* 'тузануць' (ТС), *тузну́ць* 'тс' (мёрск., Нар. сл.), *тузяну́ць* 'торгаць, асабліва пры бойцы' (Шат.), *ту́зацца* 'рабіць хуткія, рэзкія рухі, рыўкі', 'уздрыгваць', 'штурхаць адзін аднаго, піхацца, біцца, змагацца', 'дужацца', 'важдацца з кім-небудзь' (ТСБМ, Гарэц., Чач., Касп., Байк. і Некр.; ашм., беласт., Сл. ПЗБ), 'вырывацца' (Варл.), *туза́ць* 'мардаваць, лаяць' (Нас.), *туза́тыся* 'штурхацца' (кам., ЛА, 2); сюды ж *туза́ла*, *туза́н* 'удзельнік бойкі' (Байк. і Некр.), *ту́занне*, *тузаніна* 'валтузня, важданне' (там жа), 'клопат, неспакой' (Варл.). Укр. *ту́зати*, *туза́ти* 'штурхаць, біць', *ту́затися*, *тузи́ти* 'бароцца, спрачацца', 'штурхацца', *туса́ти* 'штурхаць, таўчы', рус. *тузи́ть* 'біць кулакамі', н.-луж. *tuskaś* 'штурхаць', *tusnuś*, *tłusnuś* 'тс', 'трэсці', 'ціснуць, мяць', польск. *tuzać*, *tuzować* 'біць', 'лаяць', 'разбіваць (ворага)'. Дапускаюць паходжанне лексемы з *туз$_1$* – 'біць казырным тузом, хадзіць з козыра' (Фасмер, 4, 115; Брукнер, 585). Больш імаверна імітатыўнае паходжанне (Арол, 4, 114), параўн. *тузгаць*, *турзаць* (гл.), літ. *tūzgénti* 'грукаць, лопаць з глухім гулам'. Сюды ж экспр. *тузо́къць* 'тузаць' (мёрск., Нар. сл.), *тузь* – пра шморганне (мсціл., Нар. лекс.), *тузе́ль* 'цоп' (Варл.).

**Ту́згаць** 'тузаць, цягаць' (Ласт., Сцяшк. Сл., Стома Сл.; смарг., Сл. ПЗБ), *ту́зґыць*, *тузґы́ць* 'тузаць' (мёрск., Нар. сл.), *тузгану́ць* 'пацягнуць' (Стома Сл.), 'рэзка пацягнуць, ірвануць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *ту́згацца* 'важдацца, намагацца нешта зрабіць' (Рэг. сл. Віц.). Параўн. рус. валаг. *ту́згать* 'біць, калаціць' (СРНГ), апошняе паводле лінгвагеаграфічнай характарыстыкі пярэчыць меркаванню Саўкі (Запісы, 1999, 23, 57) пра запазычанне слова з літоўскай мовы (параўн. літ. *tūzgė́ti* 'ляскаць, шчоўкаць'), што

пацвярджае анаматапеічны характар лексемы. Сюды ж *тузґаніна* ‘тузаніна’ (мёрск., Нар. словатв.), *тузганы* ‘які тузаецца, торгаецца’ (У. Дубоўка, гл. Каўрус, Словаклад).

**Тузе́мец** ‘карэнны жыхар якой-небудзь краіны, мясцовасці, абарыген’ (ТСБМ), ст.-бел. *туземецъ*: **ıако…родивыисѧ оу васъ** (Скарына, ГСБМ), сюды ж *тузе́мскі* ‘мясцовы паводле паходжання, прадукцыі’ (Нас.), *тузе́мшчына* ‘мясцовы выраб’ (там жа). Запазычана з ц.-слав. *тъземьць* ‘мясцовы жыхар’ (Арол, 4, 114), параўн. укр. *тузе́мець*, рус. *тузе́мец*, польск. *tuziemiec*, чэш. *tuzemec* ‘тс’. Паводле Праабражэнскага (Труды ИРЯ, 1, 14), Фасмера (4, 115), лексема ўтворана ад *ту-* ‘тут’ і *земьць* ‘прыродны жыхар’. Не выключана, аднак, утварэнне ад *тъ* ‘гэты’ < прасл. **tъ* ‘тс’ і *земьць* ‘жыхар’ (< **zem-ьсь* ад **zemь* ‘зямля’) – ‘жыхар гэтай зямлі’, параўн. аналагічнае рус.-ц.-слав. *сеземьць* ‘туземец’ (Сразн., 3, 324), стараж.-рус. *тоземьць* ‘жыхар той зямлі’. Апошняе схіляе да думкі пра першасную форму з **tъ-*, а формы з **tu-* – вынік народнай этымалогіі (ESJSt, 17, 1004).

**Ту́зін** ‘дванаццаць аднолькавых прадметаў’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Шпіл., Ласт., Касп., Гарэц., Др.-Падб., Яруш.; смарг., беласт., гродз., Сл. ПЗБ), *ту́зін* і *тузі́на* ‘тс’ (Байк. і Некр.); *ту́зін* ‘нізка рыбы’ (мядз., ЛА, 1), *ту́зень* ‘нізка грыбоў’ (валож., там жа), ‘бярэма, вязанка’ (Вушац. сл.), ст.-бел. *тузинъ*, *туженъ*, *тузанъ*, *тузина*, *тужина*, *тузынъ* ‘тузін’ (1498 г., ГСБМ). Апошнія запазычаны са ст.-польск. *tuzin* ‘тс’, якое са ст.-франц. *douzaine* (Карскі, Белорусы, 137; Булыка, Лекс. запазыч., 155). Борысь (655) пасрэднікам для польск. *tuzin* бачыць с.-в.-ням. *totzen*, *tutzen* ‘тс’, якое са ст.-франц. *dozeine* ‘дванаццатка’ < *douze* ‘дванаццаць’ < лац. *duodecim* ‘тс’, гл. таксама Фасмер, 4, 115. Махэк$_2$ (659) крыніцай для польск. *tuzin* вызначае ст.-чэш. *tucen*, *tucet* і *tusen*, якія з ням. *Tutzet*, *Dutzet*, пашыраных у XVI–XVII стст. у сувязі з дванаццацярычнай метралогіяй; засцярогі адносна чэшскага пасрэдніцтва для польск. *tuzin* падае Сяткоўскі (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 402), мяркуючы аб прамым запазычанні с.-в.-ням. *totzen*. Іншы погляд у Лаўчутэ (Балтизмы, 133): слова ў славянскія мовы прыйшло з літоўскай мовы (літ. *tuzìnas* ‘тузін’), пярэчанні гл. Анікін, Опыт, 289–290. Сюды ж *чо́ртаў ту́зін* ‘трынаццаць, нешчаслівы лік’ (ТСБМ, Сержп. Прымхі).

**Тузінак**, ст.-бел. *тузинокъ, тузынокъ* ‘гатунак сукна’: *сукна тузинку локти пять* (1680 г., ГСБМ), параўн. смал. *тузинок* ‘сукно дрэннай якасці’ (Бел.-рус. ізал.). З польск. *tuzinek*, *tuzynek* ‘сукно сярэдняга гатунку’, вытворнага ад *tuzin* (Брукнер, 585), гл. *тузін*. Сюды ж ст.-бел. *тузинковый*: *сукна тузинкового локтей пять* (ГСБМ) з польск. *tuzinkowy* ‘зроблены з тузінку’, ‘звычайны, просты, абы-які, дрэнны’, апошняе значэнне, відаць, з-за масавай вытворчасці ці продажу вялікімі партыямі (тузінамі).

**Ту́зка** ‘строгае спагнанне’ (Нас.). Да *туз*$_2$ (гл.).

**Тузлу́к** ‘раствор солі для засолу рыбы, ікры’ (ТСБМ), ‘моцны раствор солі’ (калінк., Арх. ГУ), ‘рыбны расол’ (Сцяшк. Сл.). Запазычана праз укр. ці рус. *тузлу́к* ‘расол для засолкі рыбы, часцей – ікры’, стараж.-рус. *тузлукъ*, якія з цюрк. *tuzlug* (крым.-тат., тат. *tuzlug* ‘сальніца, расол, падліва’), утворанага пры дапамозе суф. *-lug* ад *tuz-* ‘соль’ (Фасмер, 4, 116; Анікін, 561; Аракін, Тюркизмы вост.-слав., 115–116; ЕСУМ, 5, 670).

**Туй-га́!** – выкрык, якім адганяюць, пужаюць ваўкоў (шальч., Сл. ПЗБ). Афектыўнае складанае ўтварэнне, варыянтнае да *тугá*: *тугá ваўка!* (Шат.), гл.; параўн. таксама *ага-ту-га* ‘ату’ (Касп.), *ага-ту-ту воўка!* ‘тс’ (Сержп. Прык. і прым.), дзе вычляняюцца выклічнікі *ту* і *га* (гл.). Варыянт *туй*, мажліва, у выніку перараскладання спалучэння *ага-ту-яго* ‘прагонны крык на ваўка і мядзведзя’ (Нік., Оч.). Гл. таксама палаталізаваны варыянт *цю(й)га!* Параўн. укр. *туй* ‘крык на звера’, *тюй* ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 670, 692).

**Ту́йка** ‘пудзіла’, ‘гультайка’ (Касп.). Няясна; магчыма, ад выклічніка *туй*, варыянтнага да *ту* (гл. папярэдняе слова), параўн. *ту́кала* ‘неслух, які нічога не робіць, пакуль не накрычаць на яго’ (Нас.), гл. *ту́каць* ‘лаяць, крычаць’, польск. дыял. *tuknǫć* ‘крыкнуць на ваўка звыклым спосабам: *tu!*’ (Варш. сл.).

**Тук**$_1$ ‘растоплены тлушч’ (Гарэц., Некр. і Байк., Варл., Шат., Касп., Жд. 1, 3, Бір.; бялын., Янк. Мат.; петрык., лун., Шатал.; мсцісл., драг., З нар. сл., Сл. ПЗБ, ЛА, 4), ‘ператопленае авечае сала’ (Сцяшк.), ‘рыбін тлушч’ (Ласт.), ‘сыць; пажыўная якасць харчовага прадукта, але не тлушч’ (Некр. і Байк., Нік., Оч.), ‘плодная сіла зямлі’: *колы й сахары ... не можна чысціць або мыць, бо ат гною не будзе ў зямлі туку* (Сержп. Прымхі), *тôк* ‘растоплены тлушч’ (маз., ГЧ), ст.-бел. *тукъ* ‘тс’ (ГСБМ): *тукъ*

*земли* ‘зямное багацце’ (Скарына, ГСБМ). Укр. *тук*, рус. *тук*, стараж.-рус. *тукъ* ‘тлушч, сала’, ц.-слав. *тукъ* ‘сала, цвёрды тлушч’; польск., н.-, в.-луж. *tuk* ‘тлушч’, польск. паўн.-зах., каш. *tuk* ‘касцявы мозг’, чэш., славац. *tuk*, харв. чак. *тȕк*, *тŷк* ‘тлушч’, балг. *тук* ‘сала, тлушч, навар’, макед. *тук* ‘растоплены свіны тлушч’, ‘сок з печанага мяса’, ‘кружкі тлушчу на паверхні варыва’, ст.-слав. **тоукъ** ‘тлушч’, ‘тлустасць, плоднасць, сакавітасць’. Прасл. **tukъ* ‘жывёльны тлушч’ – суфіксальны дэрыват з чаргаваннем галосных ад **tyti* (гл. *тыць*), роднасныя: літ. *táukas* ‘кавалак сала’, ‘жывот’, *taukaĩ* ‘тлушч, сала’ < *tùkti* ‘таўсцець’, лат. *tàuks* ‘тлусты’, ст.-прус. *taukis* ‘сала’ < і.-е. **touk-o-s*; ст.-англ. *þīoh*, *þēoh*, ст.-в.-ням. *diech* ‘тук’ < *þeuhos* < і.-е. **teukos* – узыходзяць да і.-е. асновы **tū-* ‘набрыняць’, ‘разбухаць, набухаць’ (Фасмер, 4, 116; Махэк$_2$, 660; Брукнер, 683; Скок, 3, 475; Борысь, 652–653; Буга, Rinkt., 2, 633; Каруліс, 2, 378; ESJSt, 17, 997; ЕСУМ, 5, 670). Сюды ж з абнаўленнем семантыкі суч. *тук* ‘мінеральнае ўгнаенне’ (ТСБМ).

**Тук$_2$** ‘дух’: *од старого й тук неважны йдзе* (ТС). Няясна; магчыма, да папярэдняга слова, якое набліжана да *туск* ‘пот, выпарэнне’. Параўн., аднак, серб. *тȕкнути* ‘прыпахваць дрэнным пахам, смярдзець’, што, напэўна, адлюстроўвае варыянтнасць *х* / *к* у параўнанні з *тȕхнути* ‘пратухаць, псавацца’; у беларускай мове, відаць, падобнае чаргаванне назіраецца пад уплывам балцкага субстрату, што дазваляе звязаць слова з *тухлы*, гл.

**Тук$_3$** – пра ціхі стук (мсцісл., Нар. лекс.). Як і *стук* (гл. *стукаць*) – гукапераймальнага паходжання, палаталізаваны варыянт *цюк* (гл.), параўн. чэш. *ťuk*, *ťuky* ‘стук-стук’. Аналагічна літ. *táukšt* ‘стук, грук’. Сюды таго ж паходжання дзеяслоў *ту́каць* ‘кляпаць касу’ (Касп.), ‘стукаць’ (Сцяшк.), ‘біцца (пра сэрца), стукаць, ударацць’ (Гарэц., Др.-Падб., Сцяшк.), параўн. серб. дыял. *тȕкнути* ‘паціху стукнуць’ (Фасмер, 4, 116; Махэк$_2$, 660; ЕСУМ, 5, 671), а таксама аддзеяслоўны назоўнік інтэнсіўнага дзеяння *ту́кат* ‘тупат’ (Адм., Сцяшк.), параўн. чэш. *ťukot* ‘стук, грук’ (Махэк$_2$, 660), і вытворны дзеслоў *тукаце́ць* ‘стукаць’ (Зайка Кос.).

**Ту́кала** ‘глухі’ (Нас., Байк. і Некр.). Відаць, у выніку семантычнага пераносу з *ту́кала* ‘неслух, які нічога не робіць без лаянкі на яго’ (Нас.). Да *ту́каць* (гл.).

**Ту́каўка** ‘удод, *Upupa epops* L.’ (Некр. и Байк., Касп.). Да *ту́каць* ‘крычаць, палохаць крыкам’ (гл.); названа паводле крыку птушкі, які ўспрымаўся па-рознаму, параўн. *то-то-то* – перадача гукаў спеву ўдода (Мова Сен.).

**Ту́каць** ‘крычаць на каго-небудзь, тупаючы нагамі’, ‘нападаць пастаянна на каго-небудзь’ (Нас., Некр. і Байк., Шат., Мат. Гом.), ‘гаварыць, заклікаць’ (Ян.), ‘заганяць (жывёлу), крычаць’, ‘падаўляць, прыніжаць’ (Вушац. сл.), *ту́каць-гу́каць* ‘лаяць, пакрыкваць, нападаць’ (паст., Сл. ПЗБ), *ту́каць-лю́каць* ‘тс’ (лаг., Гіл.), *ту́кыць* ‘крычаць, пагражаць’ (Яўс.; мёрск., Нар. сл.), ‘грозна пакрыкваць’ (Юрч. СНЛ), ‘крычаць, палохаць крыкам’ (Мядзв.), *тукава́ць* ‘напамінаць’ (Сцяшк. Сл.). Параўн. рус. бранск., смал. *ту́кать* ‘крычаць, лаяцца’: *все на ее тукают*; *хозяин тукал на собаку* (СРНГ), серб. цімак. *ту́кати* ‘цкаваць, нацкоўваць’: *немој да тукаш куче* (СДЗб, 57, 941). Гукапераймальнае ўтварэнне на аснове выклічніка *ту*! (гл. *ту*$_1$) для адпалохвання, запалохвання: *усе дзеці як дзеці, а на цябе тукай, як на ваўка* (Рэг. сл. Віц.), параўн. фразеалагізмы: *на пень брахаць, на калоду тукаць* ‘гаварыць недарэчнае, неразумнае, непрыстойнае’ (Даніл. Сл.), *зверьху сукны, а пад нізом – хоць тукні* (ветк. “на від красівы і харошы, а будзя звер-звярюга”; Palaeoslavica, 31, 168), а таксама фалькл. *ту́каўшчына* ‘даніна мёдам царкве за дазвол *тукнуць* (крыкнуць *ту!*) у божым храме’ (т. зв. смехаўё, запісанае Раманавым у пач. XX ст., гл. Фядосік, Рэгіян. асабл., 1973, 113). Сюды ж *ту́кыньня* ‘грознае пакрыкванне’ (Яўс., Юрч. СНЛ), *ту́канне* ‘пастаянныя нападкі’ (Нас.), *ту́кнуць* ‘крыкнуць, каб напалохаць’ (Яўс.), *ту́кала* ‘які назаляе частай лаянкай’ (Нас.), *ту́кыннік* ‘той, хто пакрыквае’ (Юрч. СНЛ). Гл. таксама гукапераймальныя *гукаць*, *люкаць*.

**Ту́ко** ‘толькі’ (Сцяшк.). Дэфармаванае *ту́лько*, *ты́лько* ‘тс’, параўн. *тыкі*, *тыко*, гл.

**Ту́кшына** *(ту́кшъна)* ‘кухталь’ (кліч., Жыв. сл.). Магчыма, балтызм, параўн. літ. *tuksẽnimas* ‘стук’, *tuksénti*, *tuksnóti* ‘стукаць, тукаць’, ‘біцца’. Параўн. аналагічна рус. дыял. *тукма́чить* ‘біць, калаціць’, *тукма́нка* ‘ўдар кулаком’, якое Праабражэнскі (Труды, 1, 15) супастаўляе з *ту́кать* (гл. *тук*$_3$).

**Тул**$_1$ ‘задняя частка ў процілегласць пярэдняй, у тым ліку патыліца, спіна, азадак’ (Нас., Гарэц. 1, Яруш., Некр. і Байк., Бяльк., Байк. і Некр.); сюды ж *ту́лом* ‘задам, схіліўшы галаву’ (Нас.). Параўн. рус. фалькл. *тул* ‘тулава [?]’, смал., валаг. *ту́ло* ‘тс’ (СРНГ). У сувязі з арэальнай і функцыянальнай абмежаванасцю беларускай формы (першапачаткова фіксуецца ва ўсходняй Магілёўшчыне, пазней са слоўніка Насовіча трапіла ў слоўнікі літаратурнай мовы) з’яўляецца мясцовым варыянтам асноўнай формы *тыл* (гл.), паралельна з якой ужываецца на адзначанай тэрыторыі. Аб мене *ы* > *у* ў гаворках з дысімілятыўным аканнем гл. Нарысы дыял., 53; Крывіцкі, Дыялекталогія, 182. Па меркаванні Куркінай (Этимология–1982, 23), у асобных выпадках можна дапусціць уплыў асновы *тулава* (гл.). Звяртае на сябе ўвагу славянскае запазычанне ў беларускім ідышы *tul* ‘тулава, туша’ (Астравух, Ідыш-бел. сл., 807). Фурлан (Jez. zap., 11, 1, 115–124) разглядае як праславянскі анатамічны тэрмін **tü̏lъ* (далучаючы сюды рэз’ян. *túlac* ‘патыліца’), утвораны ад прыметніка **tü̏lъ* ‘тоўсты, тлусты’, што звязана з *тыл*, *тыць* (Фасмер, 4, 131). Прапанаваная Фурлан (там жа) далейшая сувязь з **tulъ* вытворнага тэрміна харв. *zâtuljak* ‘патыліца’ (**zatűlъkъ*) з беларускім геаграфічным тэрмінам *зату́лак* ‘зацішнае месца, куды сонца рэдка заглядвае’ (Нас., ад *затуля́ць*, гл. *туліць*) здаецца штучнай (“закрыта” пярэдняй часткай галавы?).

**Тул**$_2$, ст.-бел. *тулъ* ‘калчан, чахол для стрэл’ (XVI ст., ГСБМ, Скарына, Альтбаўэр, ПГС, Ст.-бел. лексікон), *ту́ля* ‘похва для стрэл’ (Ласт.). Захавалася як архаізм старaж.-рус. *тулъ* (*тоулъ*), ст.-рус. *тулъ*, у XVIII ст. – *туло* ‘тс’, ст.-рус. маск. *тулъ* ‘похва для лука’. Найбольш працяглы час словы *тул*, *ту́ло* і вытворныя ад іх ужываліся ў стараўкраінскай мове і ўкраінскай мове пачатку XIX ст.: *тульник* ‘той, хто вырабляе калчаны’, ‘які носіць калчаны і стрэлы’, *тульникі́вна* ‘дачка тульніка’, *тульниче́нко* ‘сын тульніка’, *тульничка* ‘жонка тульніка’ (гл. ЕСУМ, 5, 671; Адзінцоў, Этимология–1973, 98–101). Польск. *tuł*, *tół*, *tula*, *tuleja* ‘калчан’ (Варш. сл.), ст.-польск. *tuł* (да XVII ст.) ‘тс’, чэш. *toul*, *toulec*, ст.-чэш. *túl* ‘калчан’, славац. *tulec*, славен. *tȗl*, *tȗlec*, *tȗličeh* ‘тс’, ст.-харв. *tȗl*, харв. *tuljac*, серб. *тŷл*, *ту́лац*, балг. *тул* ‘тс’, радоп. ‘скрынка з кары’, макед. *тул* ‘скураная похва для стрэл’,

ст.-слав. **тоулъ** 'тс'. Прасл. **tulъ* 'калчан, похва, чахол, футарал' развілося з і.-е. **tu̯ah₃-ul-o*, параўн. ст.-інд. *tūṇa-*, *tūṇí*, *tū́ṇiras* 'тс' (Фасмер, 4, 117), інд. *tūṇava* 'дуда', ст.-грэч. σωλήν 'труба, жолаб, канал' (Сной₂, 791). Захаваныя вытворныя ў народных мовах, параўн. *тулéйка* (гл.), рус. *втýлка* 'трубка, затычка', балг. дыял. '*тулéшник* 'жалезная скрынка на свечкі', *тýлúще* 'кошык на арэхі', макед. охрыд. *тулина* 'жывот' і інш., схіляюць да версіі пра першаснае значэнне 'покрыва, накрыўка, схоў' і сувязь з *туліць* 'утойваць, хаваць' (гл.). Агляд і абгрунтаванне версій у ESJSt, 17, 997; Куркіна, Этимология–1982, 21–23; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 400; Анікін, РЭС, 9, 95.

**Ту́лаб** (*тýлоб*), *тóлуб*, *тýлуб* 'тулава чалавека' (Дразд., ТС), *тýлуб* 'цела мерцвяка без вантробаў' (драг., З нар. сл.), 'туша' (Пятк. 3), *тýлоб* 'аснова лапця', 'аснова жака (венцера)' (ТС), *тулýб* 'корпус жака' (ПСл), *тýлап* 'тулава' (Кал.), *тулýбішча* 'тс' (асіп., Буз.), *тáлуб* 'вонкавая частка чаго-н.': *з гарбуза адзін талуб застаўся* (Зайка Кос.), *тулýп* 'асноўная частка кашулі, без рукавоў' (Лекс. Бел. Палесся), *тýлуб* 'кажух' (зах.-палес., ЛА, 4), ст.-бел. *тулобъ* 'фігура, выява, балван': *тȣлобъ его былъ з дерева мистерныѕ рѣзаныѕ* (ГСБМ). Укр. *тýлуб* 'цела чалавека або жывёлы', а таксама 'ствол, дрэва'; рус. дыял. *тулубить* 'рашэціць сцены будынка дранкай і абмазваць іх глінай'; польск. *tułub*, *tułup* 'тулава, корпус', 'цела чалавека без галавы і канечнасцей' (запазычаны з усх.-слав. моў). Лексема, хутчэй за ўсё, паходзіць з прасл. **tulo* / **tulъ* 'тулава, корпус', параўн. старaж.-рус. *туло* 'тс', ст.-харв. (XVIII ст.) *tulo* 'цела, тулава чалавека ці жывёлы', чак. *tûl*, *tulo* 'тс', якое з першаснага **tou̯-lo* і ўзыходзіць да і.-е. асновы **teu̯(ə)-* / **tēu̯-* / **tū-* 'набрыняць, пухнуць' (Покарны, 1, 1080; Борысь, 654). Гараеў (379) суадносіць лексему з *тыл*, гл. Праблему складае рэдкая суфіксацыя, параўн. *кузуб* і *кузаў* (гл.), што, згодна з Сабалеўскім (Лекцыі, 120) і Фасмерам (4, 118), дазваляе генетычна звязаць *тулуб* і *тулаў*, гл. наступнае слова.

**Ту́лава**, *тýлува*, *тýлаў* 'цела чалавека або жывёліны без галавы і канечнасцей' (ТСБМ, Байк. і Некр., Гарэц., Бяльк., Шат., Касп., Сл. ПЗБ), *тýлавішча* (*туловище*) 'тс' (Сержп. Грам.), *тулóвішче* 'тс' (Вруб.), памянш. *тýлаўца* 'тс' (Нар. Гом.). Адпаведна *тýлава* (старaж.-рус. *тулово*) і *тýлаў* (якое, відаць, з польск. *tułów*

‘тс’) з’яўляюцца субстантывізаванымі формамі прыметніка **tulovъ* м. р., **tulovo* н. р. (Борысь, 654). Вытворнае *ту́лавішча* ‘тулава’ (Брасл. сл.; Сл. ПЗБ), хутчэй за ўсё, пад уплывам рус. *ту́ловище* ‘тс’; адаптаванае *туло́вішче* ‘тс’ (Вруб.) – праз укр. *туло́віще* ‘тс’?

**Ту́лак** ‘тулава’ (петрык., Мат. Гом.). Да *ту́лаў*, гл. *ту́лава*, аформленае прадуктыўным суфіксам.

**Ту́лап** ‘кажух з роўнай спіной, без таліі’ (Шат., Сл. ПЗБ), *тула́п* ‘доўгі кажух’ (Сцяшк. Сл.), *тулу́б* ‘тс’ (Бес.), *ту́лоб*, *ту́луб* ‘вялікі доўгі кажух’ (ТС, зах.-палес., ЛА, 4), *тулубо́к* ‘кажушок’ (ТС), *тулубе́ц* ‘кароткая вопратка з аўчыны’ (Лекс. Бел. Палесся), *ту́луб*, *ту́луп* ‘доўгая вопратка з аўчыны’ (там жа), *тулу́п* ‘выпатрашаны труп жывёлы без унутранасцей’ (Кліх), ‘шкура (жабы)’ (там жа), *тулу́пам* ‘цалкам’: *скура здымаецца з вангора цэлым тулупам* (іўеў., Сл. ПЗБ), *тулу́п* ‘кажух’ (усх.-бел., ЛА, 4) ‘верхняя зімняя доўгая мужчынская вопратка з аўчын’ (Сцяшк., ПСл), *тулу́пчык* ‘кажушок’ (слонім., Шн. 3). Выглядае на тое, што лексема запазычана (для шэрагу форм, магчыма, праз пасрэдніцтва ід. *tulep*) з рус. *тулу́п* ‘кажух без таліі, які аблягае, як халат, усё цела, увесь стан’, якое, у сваю чаргу, запазычана з цюркскіх моў, параўн. крым.-тат., алт., казах. *tulup* ‘суцэльны скураны мех без швоў, зняты з адной жывёліны’, казах. *тулып* ‘чучала’, ‘шкура здохлага цяляці, набітая сенам (ставяць перад каровай, якую дояць)’, чагат. *тулб* ‘скураны мяшок’ (Міклашыч, 365; Фасмер, 4, 118; Анікін, 563–564). Дапускаецца збліжэнне з *ту́лаб* ‘тулава’ (кажух засцерагае стан, тулава чалавека) альбо магчымасць генетычнай сувязі з *тул*$_2$, *тулі́ць* (ЕСУМ, 5, 673; Чарных, 2, 270; Куркіна, Этимология–1982, 21–24; Трубачоў, Этимология–1991–1993, 10–11). Гл. таксама *тулуп*.

**Тула́ч** ‘бягляк, уцякач, які хаваецца’ (Нас.), ‘выгнаннік, бадзяга’ (смарг., Сл. рэг. лекс.), ст.-бел. *тулачъ* ‘туляга, бадзяга’ (ГСБМ). З польск. *tułacz* ‘тс’, сінанімічнага да *tułak* (з чэш., Басай–Сяткоўскі, Słownik, 401), якое з *tułać się* ‘бадзяцца, блукаць; вандраваць’, што да старой асновы *tuł-* ‘усоўваць, улазіць’ (Брукнер, 584). Паводле Махэка$_2$ (648), названы дзеяслоў разам з чэш. *toulati se*, славац. *túlať sa* ўзнік шляхам метатэзы пачатковых складоў з *lutati* ‘тс’, якое захавалася ў харв. *lútati*, серб. *лу́тати*,

макед. *лута*, балг. *лу́там се* ‘тс’ < прасл. **lou-tā-ti* > **lutati*; першасны дзеяслоў можна звязаць са ст.-грэч. ἀλύω (з α-пратэтычным) ‘бадзяюся’ (у Гамера), што наогул цяжка давесці. Лічыцца, што асновы на цвёрды і мяккі зычны маюць адно паходжанне (Борысь, 653). Параўн. *туляч*, *туляць*, гл.

**Туле́йкі** ‘лыка для пляцення лапцяў’ (Растарг.). Параўн. укр. *туле́йка* ‘дэталь у возе (колца, што злучае вось з насадам)’ (Нікан., Трансп.), *тулі́йки* ‘дробнае пер’е ў курэй, якое цяжка выскубаць’; *тулі́йка* ‘ніжняя частка рога’; рус. *туле́йка* ‘верхняя частка лапаты, куды ўстаўляецца чаранок’, ‘унутраная частка шапкі’ (СРНГ), польск. *tulejka*, *tuleja* ‘трубка’, ‘лейка’, чэш. *tulejka*, *tulajka* ‘трубчатая частка прылады для ўстаўкі чаранка’, славац. *tuľajka* ‘абойма, насадка’, серб. *ту́лајка* ‘трубачка’, ‘жалезны абруч, які злучае часткі возу’, балг. *туле́йка* ‘частка сякеры, куды ўстаўляецца тапарышча’. Вытворнае ад прасл. **tulěja / *tulьja* ‘трубка’, якое генетычна звязваецца з прасл. **tulъ* ‘калчан’, **tuliti* ‘гнуць, прыціскаць’, гл. *тул*$_2$, *туліць*. У канкрэтным выпадку гутарка ідзе пра скрутак лыку ў выглядзе трубкі, параўн. в.-луж. *tulawa* ‘дудачка з вярбы’, славен. *tuljáva* ‘катушка, шпулька, цэўка’, ‘кароткая трубка’ і інш. (Махэк$_2$, 648; Борысь, 653; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 401; Скок, 3, 520–521; Шустар-Шэўц, 1557; Бязлай, 4, 246; ЕСУМ, 5, 672).

**Ту́лес** ‘птушка кулік, *Sguatarola sguatarola* L.’ (ТЗб. ”85–”86). Назва гукапераймальнага паходжання: птушка выдае працяжнае тужлівае *туу-лі* (Дарафееў, Птушкі, 82).

**Ту́лечкі** ‘толькі што’ (Мат. Гом.). Складанае ўтварэнне: т-аснова ўказальнага займенніка прасл. **t-ъ*; *-у-* – няяснага паходжання (Махэк$_2$, 659); *-ле-* – узмацняльная часціца, параўн. лат. *nu-le* ‘толькі што’, другая частка якога з **lě* – у літоўскай мове яна вядома ў форме *nu-li* ‘(менавіта) зараз’ (ESSJ SG, 2, 405); *ч-кі* – ласкальна-памяншальны суфікс, як у *тута-чкі*.

**Ту́лі** ‘гардзіны з прыгожай парусінавай тканіны’ (Сцяц.; баран., Сл. Брэс.), ‘карункі (у маладой на галаве)’ (Федар., 6, Сцяшк. Сл.); *туль* ‘вэлюм маладой’ (петрык., Шатал.), ‘цюль’ (Касп.; капыл., Жыв. сл.). Запазычана праз польск. дыял. *tul* ‘цюль’, параўн. чэш., славац. *tyl*, паўд.-чэш. *tul* ‘тс’, якое з франц. *tulle* – ад назвы горада ў Францыі *Tulle*, дзе вырабляліся бавaўняныя або

шаўковыя лёгкія ажурныя тканіны (SWO, 1980, 762; Махэк$_2$, 664). Сюды ж *тулёўка* ‘хустка, абшытая карункамі’ (капыл., Сл. ПЗБ). Гл. *туль*, *цюль*.

**Ту́ліка** ‘дэталь калаўрота – кавалачак скуры з адтулінай, куды ўстаўляецца жалезны шпянёк з адтулінай, праз якую праходзіць спрадзеная нітка, перш чым яна трапіць на шпульку’ (гом., Шатал.), *тулі́ка* ‘тс’ (Уладз.; малар., Сл. Брэс.). Параўн. рус. *тули́ка* ‘кавалачак скуры з адтулінай, праз якую праходзіць спрадзеная нітка перш чым трапляе на шпульку’, славен. *tulika* ‘шпулька ў калаўроце’. Лічыцца таго ж паходжання, што і *тулейкі* (гл.); іншая назва дэталі калаўрота – *тру́бка* ‘металічная пласцінка з дзірачкай, праз якую праходзіць нітка і далей накручваецца на шпулю’ (Трух.), што, магчыма, сведчыць пра сувязь з ням. *Tülle* ‘трубка (падсвечніка), утулка, насадка’ як тэхнічным тэрмінам, адносна ролі якога ў якасці магчымага этымона групы слоў з зыходным *тул*$_2$ выказваюцца процілеглыя меркаванні, гл. Шустар-Шэўц, 1557 (магчымая крыніца некаторых слоў), Махэк$_2$, 648 (паходзіць са славянскіх моў), Сной у Бязлай, 4, 246 (выпадковае падабенства да славянскіх слоў).

**Ту́лікі**: *ту́лікі церці* ‘гультайнічаць, біць бібікі’ (пух., Жыв. сл.). Магчыма, да папярэдняга слова – ‘рабіць простыя рэчы, займацца несур’ёзнымі справамі’, генетычна звязана з *туляцца* ‘хадзіць без работы, аціраццa’, аналагічна да *тачыць лясы* ‘марна траціць час у размовах’ і інш.

**Ту́лінька** – ласкавае кліканне, падзыванне маладога каня (Вушац. сл.). Гукаперайманне, параўн. укр. *туль-туль*, *тюль-тюль* (для падклікання індыкоў).

**Туліня́цца** ‘хадзіць без справы’ (Сцяшк. Сл.), *туліня́цца*, *туляня́цца* ‘туляцца’ (паст., лід., Сл. ПЗБ). Хутчэй за ўсё, утворана ў выніку кантамінацыі *туліцца* ‘хавацца’ або *туля́цца* ‘бадзяцца’ і *туня́цца* ‘тс’, гл. Магчымая паралель – рэз’ян. *tulíniti se* ‘круціцца, віраваць (пра ваду)’, *tulîn* ‘вір’, якія Сной (Бязлай, 4, 247) адносіць да *tuliti* ‘корчыць, прыгібаць’, гл. *туліць*.

**Туліпа́н** ‘цюльпан, *Tulipa* L.’ (Некр. і Байк.), *тулі́пан* ‘тс’ (Вруб.). Параўн. у беларускім ідышы *tulpán* ‘тс’. З польск. *tulipan* ‘тс’, якое з ням. *Tulipan* (суч. скарочанае ням. *Tulpe* ‘тс’) або франц. *tulipan* ‘тс’. Праз Балканы (балканскі турцызм) прыйшло

з перс. *tülbend* ‘турбан’: чаша кветкі была падобная да галаўнога ўбора (Борысь, 653; Арол, 4, 128). У Беларусі названая форма выкарыстоўвалася ў 1920-х гадах, у 1940-х прапаноўвалася *тульпа́н*, а ў пасляваенны час – *цюльпан* (Любецкая, Беларусіка, 34, 187).

**Ту́ліць** ‘вадзіць у гульні ў хованкі’: *у хованкі гулялі, адзін ту́ліць, а ўсе хаваліса* (гродз., Нар. словатв.). Магчыма, да *туліць* (гл.) у значэнні ‘закрываць вочы’.

**Туліць** ‘прыхіляць, гарнуць да сябе з ласкай, пяшчотай, шчыльна прыціскаць, гладзіць, прытульваць’ (ТСБМ, Гарэц.), ‘прымаць каго-небудзь пад заступніцтва, ахову (напр., сірату)’ (Нас.), ‘закрываць, затуляць’ (Яруш.), ‘утойваць, хаваць’ (ТС, Байк. і Некр., ТСБМ, Нас.), ‘служыць прытулкам для каго-небудзь’ (ТСБМ, Ласт.), перан. ‘гаварыць праўду ў вочы’: *ён вока ня ту́ліць* (Шат.); *туліцца* ‘хавацца, затойвацца’ (Нас., Байк. і Некр., Шат.), ‘размяшчацца дзе-небудзь у зацішным месцы, пад аховай чаго-небудзь’ (ТСБМ, Касп.), ‘гарнуцца, з любасцю прыхінацца’ (Некр. і Байк., Варл.), ‘хінуцца, прыязна адносіцца, песціцца, прыхіляцца’ (Касп., Сл. ПЗБ, ТС, Яруш.), *тулітис'е* ‘прыціскацца, хавацца’ (Вруб.), *тулэ́тысь* ‘тс’ (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Укр. *тули́ти*, *тули́тися* ‘туліць, абдымаць’, рус. *тули́ть* ‘хаваць, закрываць’, *тули́ться* ‘хавацца, затойвацца’, польск. *tulić* (*się*) ‘чулліва прыціскаць, -цца’, ст.-польск. *tulić* ‘хаваць’, н.-луж. *tuliś* ‘гнуць’, ‘утаймоўваць’, ‘хаваць’, в.-луж. *tuleć*, *tulić* ‘прыціскаць, гнуць’, чэш. *tuliti se* ‘сціскаць’, ‘туліцца, прыціскацца’, славац. *túlit' sa* ‘тс’, славен. дыял. *tuliti* ‘загортваць, звіваць у рулон’, ‘мяць’, *túliti se* ‘сціскаць’, ‘прыціскаць’, серб. дыял. *ту́л'ит* ‘гасіць полымя’, ‘згортваць, згібаць’, ‘схіляць галаву’, макед. *тули* ‘хаваць, прыкрываць’, *тули се* ‘хавацца’, балг. *ту́ля (се)* ‘тс’, ц.-слав. *затулити* ‘схаваць’. Прасл. **tuliti (sę)* ‘прыціскаць, туліць, хаваць, утаймоўваць; заспакойваць’ суадносяць з **tulъ* ‘калчан’ (гл. *тул*$_2$), што сустракаецца з пэўнымі семантычнымі цяжкасцямі, гл. Фасмер, 4, 117. Трубачоў (Дополн., 4, 118) услед за Якабсонам (IJSLP, 1/2, 1959, 273) звязвае рус. *тули́ть* з *тул*, *туловище*, *тулья* (гл. *тулава*.). Гл. таксама ЕСУМ, 5, 671–672; Арол, 4, 115–116. Борысь (653) бачыць у прасл. **tuliti* (*sę*) адыменны дзеяслоў, утвораны ад прасл. **tulъ* / **tulo* ‘труба, трубка,

калчан’, першасным значэннем якога было б ‘навіваць на трубку’. Значэннем і формай лексема **tuliti* злілася з блізкім прасл. **toliti* ‘заспакойваць, утаймоўваць’: ст.-польск. *tolić* ‘ахопліваць рукамі, гарнуць да сябе’, ст.-рус. *толити* ‘прысаромліваць, сарамаціць’, рус. *толить* ‘заспакойваць’, укр. *толи́ти* ‘стрымліваць, заглушаць, уціхамірваць’, серб. *тѐлити*, харв. *tòliti* ‘заспакойваць, суцяшаць, спатольваць’, бел. *напато́ліць*, *пато́ля* (гл.), якое ад і.-е. асновы **tel- / *tol- / *tl̥-*. Меркаванні аб запазычанні з польск. *tulić się* (Сл. ПЗБ, 5, 145) не маюць падстаў. Гл. таксама *туляць*.

**Тулі́чны** ‘прысутны’ (Ласт.). Магчыма, штучнае ўтварэнне па ўзоры *тубы́льскі*, дыял. *тубы́льны* ‘мясцовы, тутэйшы’ (гл. *тубылец*) – *ту*$_2$ (гл.) і *лічны* ‘шматлікі’ (гл.), хутчэй ‘наяўны’ ад рус. *быть налицо́* ‘быць у наяўнасці’; аўтарскі наватвор, каб пазбегнуць «барбарызма» *прысу́тны* (гл. *прысутнічаць*), які «павінен быць безумоўна адкінуты як нязгодны з духам мовы» (Ласт., 555).

**Ту́лка**$_1$ ‘жалезная трубка ў коле, у якую ўстаўляецца вось’ (лудз., Сл. ПЗБ). Да *тул*$_2$, гл. *утулка.* Параўн. таксама *тулейкі* (гл.).

**Ту́лка**$_2$ ‘паляўнічая стрэльба’ (Мат. Гом.; Цярохін, Охота). Ад назвы горада *Тула* (месца вырабу).

**Тулма́ч** ‘перакладчык’ (Бяльк.), *тулма́чыць* ‘тлумачыць’ (Бяльк., Юрч. Вытв.), *тулма́чаннік* ‘той, хто тлумачыць’ (Юрч. СНЛ), *тулма́чыньня* ‘тлумачэнне’ (Юрч. Вытв.). Мясцовы варыянт да *талмач* (гл.) з заменай *а* > *у* пад уплывам наступнага *л* у гаворках з дысімілятыўным аканнем, гл. Крывіцкі, Дыялекталогія, 182.

**Туло́вы**: *грыжа туловая* ‘хвароба ў нованароджанага («пуп прыгаў»)’ (ПЭЗб, 1, 2). Відаць, прыметнік ад *тулава*, гл.

**Ту́лубка** ‘карэнная жыхарка’ (ТС). У выніку перастаноўкі зычных з *ту́булка* ‘тс’ (стол., Жыв. НС), гл. *тубалка.*

**Тулува́ць** ‘дратаваць, таптаць’ (Бяльк.). Гл. *талаваць, змена* пад уздзеяннем “гармоніі галосных” на Магілёўшчыне.

**Тулу́за** ‘дуля, фіга’: *тулузу табе, а не яблыка* (бых., Мушынскі, вусн. паведамл.). Няясна, магчыма, ад *талызаць* ‘тузаць, біць’ (гл.), змененае ў гаворках з дысімілятыўным аканнем у выніку своеасаблівай “гармоніі галосных гукаў” (Крывіцкі, Дыялекталогія, 182), параўн. і рус. дыял. *тулу́зить* ‘біць, калаціць’.

**Тулумба́с** ‘старажытны ўдарны інструмент’ (ТСБМ), *таламба́с* ‘літаўра’ (Ласт.). У якасці зыходнага лічыцца тур. *tulumbaz* ‘бубнач, барабаншчык’ (Фасмер, 4, 118; ЕСУМ, 5, 673); хутчэй за ўсё, праз укр. *тулумба́с*, *таламба́с* ‘тс’, польск. *tułumbas*, *tołombas*, *tołumbas* ‘турэцкі вайсковы барабан’, параўн. таксама серб.-харв. *таламба́с* ‘літаўра, барабан’, якое лічыцца балканскім турцызмам (Скок, 3, 437).

**Тулу́н** ‘мяшок без разрэзу з садранай з якой-небудзь жывёліны шкуры’ (навагр., Дзмітр.). Укр. *тулу́н* ‘шкура казы, знятая суцэльна, якая служыць у якасці мяшка для мукі, солі і інш.’, рус. сіб. *тулу́н* ‘шкура, знятая дудкай, не распоратая ўдоўж’. Запазычана з цюркскіх моў: тур. *tuluk*, *tulum*, узб., туркм. *тулум* ‘бурдзюк’, – усе з манг. *tulum* ‘тс’ (Фасмер, 4, 118; ЕСУМ, 5, 673). Паводле Анікіна (563), *н* на месцы *м* у рускай мове – у выніку асіміляцыі або запазычання з Каўказа, дзе *тулун* ‘мяшок са шкуры’. У Беларусь лексема магла пранікнуць з мовы “літоўскіх татар” (Супрун, «Весці», сер. IV, 1969, 3, 69–70).

**Тулу́п** ‘доўгі кажух’ (Бяльк.), ‘кажух’ (Сцяшк., Пятк. 2, ПСл), ‘тс’ (валож. і ўсх.-бел., ЛА, 4). Відаць, запазычана з рус. *тулу́п* ‘тс’, параўн.: “Доўгі да пят кажух прамога крою з шырокім каўняром называўся *тулупам*. Служыў ён дарожным адзеннем і быў характэрны для Магілёўскай губерніі” (Бел. нар. адзенне, 60), а таксама, магчыма, праз дэфармаваную назву *tołpy* мн. л. у польскай гаворцы на беларускай аснове на Сейненшчыне: *dług'e tak'e kožux'i šyl'i, tolpy nazywal'i* (Тэксты, 24); у каментары Т. Зданцэвіча ідэнтыфікуецца з *tołuby*, гл. *тулаб*. Змяшэнне названых лексем дэманструе *tołúp* ‘туша, сала, цалкам знятае са свінні, якое потым рэжуць на кавалкі’ (Пятк. 1, 134), *tołúb*, *túłub* ‘тс’ (Пятк. 3, 7, 340). Сюды ж *тулу́павішча* ‘тулава’ (воран., Сл. ПЗБ) у выніку кантамінацыі лексем *тулу́п* і *ту́лавішча* (гл. *тулава*).

**Тулу́-тулу́** – анаматапеічны выклічнік (Кліх). Гукаперайманне, параўн. *талала*, *тулю-тулю* і пад.

**Тулус** ‘тлушч’ («жир, ктоторый называется *тулусам*», Нік. Очерки). Няясна; малаверагодная сувязь з фармальна ідэнтычным фін. *tulus* ‘крэсіва, крэмень’ (> рус. *тулукса* ‘тс’, гл. Фасмер, 4, 118). Магчыма, звязана з *ту́сцень* ‘бабровы тлушч’ (Ласт.) з апакопай **тулусцень?*

**Туль** ‘цюль’ (Некр. і Байк., Касп.; в.-дзв., петрык., Шатал.) ‘вэлюм, лёгкае белае пакрывала з тонкага паркалю, марлі, якое спускалася па плячах і спіне’ (Бел. нар. адзенне, 32). Гл. *тулі*.

**Туль-туль** ‘зараз жа’: *туль-туль і ў сталоўку* (Вушац. сл.). Відаць, ад *туляцца*, гл. *туляць*. Менш верагодна з *-туль*, гл. *адтуль*, параўн. укр. *тіль-тіль* ‘чуць-чуць’, што да **toli* (ESSJ SG 2, 673).

**Ту́лькі₁**, *ту́лько*, *ту́ко* ‘толькі’ (бяроз., Сл. ПЗБ; валож., ЛА, 5, Скарбы), *туо͡л’ко* ‘тс’ (Вруб.), ст.-бел. *тулько* (1553 г., ГСБМ). Да *то́лькі* (гл.). Мена *о* > *у* (або ў дыфтонг ці закрытае *ô*) у закрытых складах магла адбывацца пад уплывам польскай мовы (Карскі 1, 117–123, асабліва с. 121). Беларускаму прыслоўю (без **-l-*) *ту́ко* з абмежаваным значэннем адпавядаюць: укр. *тіки*, *тіко*, рус. *то́ко*, *то́коли*, макед. *туку*, балг. *току́*, *токо* ‘тс’. Сюды ж *ту́лечкі* ‘толечкі’ (Мат. Гом.).

**Ту́лькі₂**, *ту́лько* ‘столькі’ (пруж., Сл. ПЗБ), *ту́лько*, *ту́лькі* ‘тс’ (зах.-пал., ЛА, 5). Лексемы, аформленыя ў адпаведнасці з рэфлексамі закрытага *ô* на гэтай тэрыторыі, магчыма, працягваюць стараж.-рус. *толико* ‘тс’, якое ўжывалася без *с-* (што надае значэнне ‘прыблізнасці’), утвораны ад займеннікавай асновы **to* шляхам дадавання да яе часціцы **li* (яшчэ ў даславянскі перыяд – ESSJ SG, 2, 675 і 681), параўн. паралель з літ. *tõlei* ‘да таго часу, аж / пакуль’, і пашыраныя часціцай **-ko* (ужо пасля распаду праславянскага адзінства). Гл. *толькі*.

**Тульня** ‘шматок, кавалак?’: *такімі тульнямы пакрямяча* (ветк., Palaeoslavica, 21, 2, 20). Няясна.

**Ту́льчыць** ‘туляцца, хавацца ад людзей’ (іўеў., Сл. рэг. лекс.). Параўн. польск. *tulczyć* ‘хаваць, перахоўваць’, што магло быць крыніцай запазычання; дзеяслоў шматразовага дзеяння ад *tulić* (< прасл. **tuliti*, гл. Брукнер, 584), гл. *тулíць*.

**Ту́лю-ту́лю** – выклічнік, які перадае ігру на дудцы (ТС), *тулюлю́* – імітацыя плачу: *jak dam, to zawiedziész tululú* (ваўк., Федар. 4). Гукаперайманні, параўн. славен. *tuliti* ‘выць, раўсці’, дыял. ‘трубіць’ і пад.

**Ту́люс** – лаянкавае слова: *Padlo! Tulus!* (ваўк., Федар. 4). Слова цьмянага паходжання. Па форме і па тэрыторыі ўжывання блізкае да *tuolis* ‘чорт’ у т. зв. “Польска-яцвяжскім слоўнічку”

(Зінкявічус, Балто-слав. иссл., 1983, 19). Апошняе залічана да балцкай лексікі, якая не мае ідэнтычных словаўваральных або семантычных адпаведнікаў у іншых балтыйскіх мовах. Паводле Зінкявічуса (там жа), можа быць звязана з імем прускага бога падземнага царства *Patollus*, *Patollos*, літ. *Patulas* < *pa* + **tula* ‘зямля’, ст.-прус. *talus* ‘падлога з гліны’. Няпэўна.

**Ту́ля** ‘калчан, похва для стрэл’ (Ласт.), сюды ж, магчыма, перан. *ту́ля* ‘асоба, апранутая ў тоўстае, цёплае адзенне, выглядае непаваротлівай’ (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Да *тул₂*, адносна семантыкі параўн. рэз’ян. *tûlast* ‘у форме трубы, пусты’.

**Туля́г** ‘вялікае воблака, хмара’ (І. Пташнікаў), *туля́х* ‘светлае воблака ў пагодлівы дзень’ (віл., ЛА, 5), *туля́г*, *тулягі́* ‘воблакі’ (віл., ЛА, 2). Да *туля́цца* (гл.), метафара на базе *туляга* ‘вандроўнік, валацуга’, параўн. іншыя метафарычныя назвы хмар і аблокаў: *дзед* (мін., ЛА, 2), *бугóр* (гом., ЛА, 2); апошняе Непакупны (Мовознавство, 1998, 2–3, 62–77) параўноўвае з літ. *gùburas* ‘бугор’, ‘хмара’ і адпаведнымі з’явамі ў іншых мовах, што дазваляе трактаваць іх як семантычную індаеўрапейскую ўніверсалію. Форма м. р. *туляг*, магчыма, пад уплывам *вóблак* м. р. (Некр. і Байк. і інш.).

**Туля́ка** ‘бадзяга, валацуга’ (Нас., Некр. і Байк., Янк. 3), ‘палахлівец’ (Ф. Янкоўскі), ст.-бел. *тулакъ* ‘бадзяга’ (ГСБМ). Параўн. польск. *tułak* ‘тс’ (з чэш., Басай–Сяткоўскі, Słownik, 401), дыял. *tulak* ‘балван, дурань’, в.-луж. *tulak* ‘праныра’, чэш. *tulak* ‘бадзяга, валацуга’. Відаць, незалежныя ўтварэнні ад **tulati sę*, гл. *туляга*, *туляцца*, акрамя старабеларускага, якое, хутчэй за ўсё, праз польскую мову з чэшскай. Варыянтнасць канца слова адлюстроўвае сінанімію суфіксаў у беларускай мове, што датычыць назоўнікаў агульнага роду на *-яка* і *-яга*, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 176–179.

**Туля́цца** ‘хавацца’, ‘бадзяцца без прытулку’ (Нас., Бяльк., Шат., Касп., Сержп. Прымхі, ТС, Ян., Байк. і Некр.), ‘ухіляцца ад работы, гультаяваць’ (Некр. і Байк., Жд. 2), ‘хадзіць без работы, аціраццa’ (Бір., ТС), ‘хадзіць, прыгнуўшыся ды за нешта хаваючыся’ (Варл.), ‘імкнуцца пазбегнуць чаго- або каго-небудзь, хавацца’: *tulájecsa, jak sabáka ad much* (Федар. 4), *туляцца па завуголлю* ‘хавацца ад непажаданых сустрэч, пазбягаць сустрэчы

з кім-небудзь' (Нік., Оч., ТС, Растарг.), ст.-бел. *тулятися*, *тулатися*, *тулятисе* 'хадзіць без пэўнай мэты, бадзяцца' (Скарына; Александрыя; 1610 г., ГСБМ). Укр. *ту́лятися*, *туля́тися* 'блукаць, бадзяцца', 'гараваць, жывучы ў чужых людзей', рус. дыял. *туля́ться* 'хавацца, бадзяцца', польск. *tułać się* 'хадзіць без мэты', чэш. *toulati se*, славац. *túl'at'sa* 'тс', харв. *tȕlati* 'бадзяцца', *túlati se* 'хадзіць ціха, нібы крадучыся', макед. дыял. *тула се* 'бадзяцца, валачыцца' (MJ, 10, 1–2, 105). Прасл. дыял. **tulati sę* 'бадзяцца, туляцца, хадзіць крадком, употайкі', на думку Борыся (Etymologie, 365), адносна позняя інавацыя часткі праславянскіх дыялектаў (без лужыцкіх моў) – дзеяслоў шматразовага дзеяння ад прасл. **tuliti sę* 'завівацца', 'нагінацца, горбіцца', гл. *туліць*, *туліцца*, першаснае значэнне было 'згінаць, прыгінацца, хавацца ідучы' (Борысь, 653–654; ЕСУМ, 5, 674; Брукнер, 584). Махэк$_2$ (648) выводзіць з **lutati* 'бадзяцца', што цяжка даказаць, як і вывядзенне з лат. *tūl'at*, *tūl'ātіes* 'хадзіць без працы, бадзяцца' (Блесэ, SB, 5, 25) беларускага *туляцца*, што, паводле Лаўчутэ (Балтизмы, 149), вельмі сумніўна, бо не прымаецца пад увагу матэрыял іншых славянскіх моў. Сюды ж *туля́ць* 'хаваць (напр., ад рэкруцтва)' (Нас.), *туле́нне* 'хаванне, прытулак' (Нас.), *туля́нне* 'хавацца ў розных кутках' (Нас., Бяльк.); *ту́ляннік*, *туля́ньніца* 'той, хто ўхіляецца (ад працы і інш.)' (Юрч. СНЛ); *туля́га* 'бадзяга, чалавек, які пазбягае сустрэчы' (ТСБМ, Сцяшк.), 'баязлівец, нерашучы чалавек' (ТСБМ), 'бяздомнік' (Некр. і Байк.), *туляя́* 'гультай, нядбайнік' (Шат.).

**Туля́ч** 'месяц' (Сцяшк. Сл.), 'бадзяга' (Я. Купала). У выніку семантычнага пераносу 'бадзяга' > 'месяц, які ў хмарах блукае па небе'; варыянтнае да *тула́ч* (гл.), параўн. ст.-бел. *тулаючий* і *туляючийся* 'які не мае сталага месца' (ГСБМ).

**Ту́ма** – пра ігру на гармоніку (мсцісл., Нар. лекс.). Гукаперайманне. Параўн. таксама *тпрума* (гл.).

**Тума́жыцца** 'хмарыцца' (ТС). У аснове слова, відаць, назоўнік **тумага*, параўн. укр. *тума́* 'цёмная хмара', валын. *тумо́йу туман'іти* 'быць у змрочным настроі' (Арк.), гл. *ту́мны*. Менш верагодна – у выніку кантамінацыі лексем *тума́ніцца* і *кула́жыцца* 'станавіцца пахмурным (пра надвор'е)', гл.

**Тума́к**$_1$ ‘удар па патыліцы’ (Нас., Шат., Байк. і Некр.; брагін., Нар. словатв.), ‘моцны ўдар’ (в.-дзв., хойн., Шатал.), ‘удар кулаком’ (зах.-пал., Бел. дыял. 3, Растарг.), ‘кухталь’ (Некр. і Байк., Яўс., Юрч. Фраз. 2, Мат. Гом.), *тума́ка* ‘тс’: *даў яму тумаку* (Бел. літ. XIX ст.), *тумакí* ‘штуршкі, кухталі ў спіну ці ў бокі’ (Мядзв.). Укр. *тума́к* ‘штуршок, кухталь’, рус. *тума́к* ‘удар, штуршок кулаком’. Слова няяснага паходжання, асабліва з улікам *тумак*$_2$ і *тумак*$_3$. Фасмер (4, 119) не прымае прапанаваную Патабнём (РФВ, 4, 213) і Гараевым (380) версію пра сувязь з літ. *stùmti* (з s-mobile) ‘штурхаць, біць, рухаць, замыкаць на засаўку’, а таксама з марыйск. *tumak* ‘дубіна’ (Маркаў, РФВ, 73, 102). Сувязь з укр. *товкмачити* ‘біць, калаціць, трэсці’ (ЕСУМ, 5, 674), а таксама з рус. *токма́чить* ‘біць, таўчы’ выглядае больш прывабнай (гл. *такмачы*). На базе фразеалагізма рус. *дать по шапке* ‘пабіць’ Арол (4, 116) зблíжае з тат. *tumag* ‘шапка’.

**Тума́к**$_2$ ‘дурань, недалёкі чалавек’ (Юрч. Фраз. 2), ‘някемлівы чалавек’ (Мат. Гом.), ‘дурань, цёмны неадукаваны чалавек’ (Яўс., ТС), ‘тупы, неразвіты чалавек’ (беласт., Сл. ПЗБ), ‘дурань, тупіца’ (Рэг. сл. Віц.), ‘недарэка’ (Руб.), ‘тупы, абмежаваны чалавек’ (Юрч. Вытв.), *тумачо́к*, *тумачо́чак* ‘дурань, недалёкі чалавек’ (Юрч. СНЛ). Параўноўваюць з рус. разан. *тумата́* ‘слепата, цемната’ і далей праз апошняе значэнне да ‘неразвітасць, неадукаванасць, дурасць’, што не выключае сувязі з марыйск. *тума́к* ‘дубіна’ (Жураўлёў, Язык и миф, 120). Грунтуючыся на рэканструкцыі рус. дыял. *тума́* ‘лухта, глупства, дзіва’ (Даль), укр. *тума́* ‘хмуры, маўклівы чалавек’, як **top-ma* ‘тупы розум, тупы чалавек’ < **topiti* ‘рабіць тупым’, Ліўканен (Отглаг. сущ., 169) мяркуе пра зыходнае значэнне ‘тупы розум’. Сюды ж таксама славен. *túmpast* ‘тупы, недалёкі’ (Сной$_2$, 791), якое выводзіцца са славен. *tȍp* < прасл. **tǫ̑pъ* ‘тупы, неразумны, абмежаваны’.

**Тума́к**$_3$ ‘помесь зайца-беляка з зайцам-русаком’ (ТСБМ), ‘фарбаванае футра зайца’ (там жа), ‘звярок, пушыстую шкуру якога вырабляюць на каўняры’ (Нас.). Укр., рус. *тума́* ‘метыс, напаўрускі-напаўтатарын, паўукраінец-паўтурак’, укр. *тума́* ‘жывёла змешанай пароды’, *тум* ‘свойская жывёла палепшанай пароды’, *тума́к* ‘помесь беляка і русака’, ‘фарбаванае футра зайца’, ‘куніца лясная, *Martes martes* L.’, рус. *тумак* ‘метыс’, ‘падфарбаванае

футра зайца', 'сібірскі тхор', польск. *tumak* 'куніца', *tumaki* 'футра з куніцы' (запазычаны праз рус. мову). Запазычанне з цюркскіх моў, параўн. тат. *тӯма* 'прыплод', 'нашчадак', канцавое *-к* мяркуецца з цюрк. *tuma-g* у якасці памяншальнага суфікса, гл. Анікін, 565; іншыя меркаванні ў Фасмер, 4, 119; ЕСУМ, 5, 674; Шыпава, Сл. тюрк., 333–334; Дабрадомаў, Этимология–1970, 103–115.

**Тума́н** 'імгла, імжа; густое непразрыстае паветра' (ТСБМ, Бяльк., Байк. і Некр., Сцяшк., Арх. Вяр., ТС, Сл. ПЗБ, Вруб.): *туман – гэто пара, якая падымаецца з вады* (Сержп. Прымхі), 'тое, што перашкаджае добра бачыць, што засцілае зрок' (ТСБМ, Сл. ПЗБ); *туман сліѓпіць* (Сержп. Грам.), *тума́нь* ж. р. 'імгла' (стол., Нар. лекс., Сл. Брэс.), *ту́ман: туманом худыты* 'хадзіць без мэты' (брэсц., Ск. нар. мовы), *туманóк* 'невялікі туман' (Кліх, Юрч. СНЛ), *тума́нішча* 'густы туман' (Мат. Гом.); *тума́н* 'абман, чмута' (Нас., Некр. і Байк.): *tumán й oczy puskáje* (Федар. 4), 'неадукаваны, цёмны чалавек' (ТС), *туман напусціць* 'адурманіць, падмануць' (ТС). Укр. *ту́ман*, *тума́н* 'імгла' 'дурань', рус. *тума́н* 'імгла', 'хмара', польск. *tuman* 'воблака пылу', 'тупы чалавек', балг. *туман* 'імгла', 'пыл', радоп. *дума́н* 'тс'. Запазычана з цюркскіх моў: чагат., казах., кірг., караім., узб. *tuman*, башк., крым.-тат. *томан* 'імгла', тур. *duman* 'дым, туман', 'пыл', якія выводзяцца з цюрк. *tum(a)* 'завалакаць, засцілаць, ахутваць'. Крыніцай паўднёвацюркскіх форм з пачатковым *д-[d-]* з'яўляюцца, аднак, індаеўрапейскія мовы: авест. *dunman* 'туман', *dvąnman-* 'хмарка', перс. *dūdmān* 'дым', 'куродым, сажа' (Фасмер, 4, 119; ЕСУМ, 5, 674–675; Арол, 4, 116; Аткупшчыкоў, ЭИРЯ, 4, 141; Жураўлёў, Язык и миф, 830). Сюды ж *туманéць* 'з'яўляцца (аб тумане)' (Шат.), *тума́ніць* 'падманваць, пускаць пыл у вочы; затуманьваць, чмуціць' (Нас., Некр. і Байк.), 'адурманьваць' (Шат.), 'засцілаць, закрываць сабой (пра пыл, дым)', 'завалакаць (вочы)', 'пазбаўляць здольнасці ясна разумець, успрымаць', 'блытаць' (ТСБМ, Байк. і Некр.), 'курыць (самасад)' (Юрч. СНЛ), 'піць, баляваць дужа шчыра' (Вушац. сл.), 'ілгаць' (гродз., ЖНС), *туманіць вочы (галаву)* 'задурваць, падманваць' (Юрч. Фраз.), *тума́ніцца* 'губляць разважлівасць' (Нас.), 'угаворваць' (свісл., Шатал.), 'рабіцца няясным ад слёз у вачах' (ТС), *тума́ненне* 'падманванне' (Юрч. Вытв.), 'выпрошванне шляхам ліслівасці', *тума́н-*

*ны* ‘ілжывы, ліслівы’, *тума́нка* ‘ашуканка’, ‘дакучлівая просьбітка’, *тума́нщчык* ‘хлус’ (Нас.), *тума́ннасць* ‘густы туман’, ‘вялікая колькасць зорак у адным месцы далёка ад зямлі’ (ТСБМ).

**Ту́мар**$_1$ ‘багацей, багатыр’ (Нас., Байк. і Некр., Сцяшк., Буз., Мядзв., Нар. Гом., Рэг. сл. Віц., Бяльк., Юрч. Сін.), ‘пануры, нелюдзімы чалавек’ (Зайка Кос.), ‘самастойны, сур’ёзны чалавек’ (мёрск., ЖНС), ‘ваўкаваты, упарты чалавек’ (віл., Нар. сл.), *ту́мыр* ‘пахмурны чалавек, кулак’ (Буз.), *ту́марка* ‘багачка’ (Нас., Байк. і Некр.), *ту́мырка* ‘тс’ (Юрч.). Сюды ж таксама вытворныя *ту́марнік* ‘шчаслівы і задаволены ўсім чалавек’ (полац., Нар. лекс.), ‘негаваркі чалавек, нязветлівы’ (маладз., Гіл.), ‘ваўкаваты, упарты чалавек’ (віл., Нар. сл.), ‘чалавек закрыты, ціхі, але здольны на ліхое’ (Аляхн.), ‘маўчун’ (лаг., Жыв. сл.), ‘пануры чалавек, нелюдзень’ (Вушац. сл., Варл., Сл. ПЗБ), ‘нелюдзь, хто пазбягае людзей’ (мядз., лаг., ЛА, 3), *тума́рнік* ‘вельмі маўклівы чалавек’ (Жд. 3, Буз.). Укр. палес. *ту́мар* ‘багаты чалавек, кулак’, рус. *ту́мар* ‘тлум’, *ту́маром* ‘разам, гуртам’, смален. *тума́рь* ‘скнара, скупы; багач’. Нягледзячы на шырокае распаўсюджанне, застаецца цьмяным па паходжанні. Насовіч (Нас., 644) разглядаў як слова, што ўзыходзіць да *тма* ‘тысяча’ (гл. *цьма*), тлумачачы семантыку рус. *тысячник* ‘багаты чалавек’, параўн. *ту́мырства* ‘багацце’ (Юрч. СНЛ). Бузук (ЗІФВ УАН, 13–14, 279), разглядаючы бел. *тумар*, мяркуе пра корань *тум-*, да якога адносіць і ўкр. *тума́* ‘хмуры, маўклівы чалавек’, што, мажліва, узыходзіць да праформы **toųт-* / **teųт-*, з якой можна звязаць і корань *тьм-*, што часткова падмацоўвае этымалогію Насовіча. Першаснае значэнне ‘цёмны’ тлумачыць як названыя назоўнікі, так і назву рэчкі *Тумараўка* каля Бабруйска (там жа), параўн. і ўкр. дыял. *ту́марка* ‘яма ў возеры, глыбокая яма ў балоце’ (Чарапанава, Геогр.), паводле ЕСУМ, 5, 675 – не яснае па паходжанні. Параўн. таксама *тумны*, гл. Незразумелыя адносіны да *цімярнік* ‘вельмі скупы чалавек’ (гл.), з якім можа быць звязана рус. *тюмир* ‘пануры, нелюдзімы’, якое Равінскі (Черног., 2, 3) параўноўвае з серб. *тму̀ро* ‘хмура, змрочна’, гл. Петравіч, Зб. радова Педагошке академије у Никшићу, 1975–1976, 5–6, 66. Сюды ж рус. дыял. *тюми́рь* ‘замкнуты, негаваркі чалавек’ (СРНГ).

**Ту́мар$_2$** ‘вялікі кавалак’ (Скарбы). Відаць, да *ту́мар$_1$* з семай ‘багацце’, ‘многа’.

**Тумаці́ць** ‘дурманіць’ (ваўк., Сл. ПЗБ). Фармальна выводзіцца ад назоўніка, што адпавядае рус. дыял. *тумота́* ‘слепата, цемната’, менш верагодна – у выніку кантамінацыі лексем *тума́ніць* і *муці́ць* ‘хлусіць’.

***Тумачы́**, *тумачі́*. Гл. *такмачы.*

**Ту́мба** ‘невысокі слупок ля дарогі або тратуара’, ‘круглае збудаванне для наклейвання афіш, аб’яў’, ‘падстаўка’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Яўс.), ‘выемка, гняздо ў бэльцы, куды ўстаўляецца прамавугольны шпень кроквы’ (Зайка Кос.), ‘тоўстая мажная кабета’ (Яўс.), *тумбава́ты* ‘тоўсты (чалавек)’ (Сцяшк. Сл.), *тумбішча* ‘непаваротлівая жанчына’ (Юрч. СНЛ). Праз польскую (*tumba* першапачаткова ‘саркафаг для цела святога’, пасля ‘слупок’, якое з лац. *tumba*) ці рускую мову (*ту́мба*, якое з нова-в.-ням. *Tumbe* ‘магіла’, ‘труна’, ‘яма’) з нар.-лац. *tumba* ‘магіла’, апошняе ўзыходзіць да ст.-грэч. τύμβος ‘пагорак’, ‘магільны курган’, роднаснага лац. *tumulus* ‘узгорак’ (Фасмер, 4, 120; ЕСУМ, 5, 675; Чарных, 2, 271; Арол, 4, 116).

**Ту́мбачка** ‘невялікі столік-шафка’ (ТСБМ), а таксама разм. ‘надмагільны помнік камуністам або вайскоўцам у выглядзе пірамідкі з зоркай’ (Цыхун, вусн. паведамл.). З рус. *ту́мбочка* ‘тс’, памянш. да *тумба*, гл.

**Ту́мблер** ‘механічны пераключальнік’ (ТСБМ). З англ. *tumbler* ‘тс’ < ‘перакульнік’, ‘акрабат’, ‘голуб-вяртун’, якое з *tumble* ‘падаць спатыкаючыся’, ‘перакульвацца, куляцца’.

**Тумені** (?) ‘страмёны’: *Ён з коніка на злязае, / З тумень ножак не вымае* (вілен., Земляроб. каляндар, 158). Няясна, відаць, дэфармаванае *z strymion* (Федар 5, 679).

**Ту́мкаць** ‘разумець’ (слуц., Жыв. НС), *ту́мкыць* ‘думаць, развbooжаць’ (Яўс.), ‘разумець, разбірацца’ (Юрч. Фраз., Юрч. Вытв.), ‘даходзіць да сэнсу’ (мсцісл., З нар. сл.), сюды ж *ту́мкнуць* ‘прыйсці нечакана ў галаву (пра думку)’ (Яўс.), *ту́мканне*, *ту́мкыньня* ‘разуменне’, ‘разважанне, раздумванне’ (Яўс., Юрч. Вытв.), *ту́мкыньнік* ‘той, хто разумее’ (Юрч. СНЛ). Параўн. рус. *ту́мкать* ‘меркаваць, разумець, думаць’. Відаць, утворана ад гукапераймання, параўн. *тумнуць* ‘моцна ўдарыць, стукнуць’ (гл.),

рус. *ту́мкать* ‘выдаваць гукі’ (СРНГ). Як эмфатычны назалізаваны варыянт рус. *ту́кать* (гл. *тукаць$_1$*) разглядае рус. слэнг. *ту́мкать* ‘цяміць’ Арол (4, 116).

**Тумкачы́** ‘страва з бульбы’ (слонім., Сл. рэг. лекс.). Гл. *такмачы*, *тукмачыць* з перастаноўкай зычных.

**Ту́мнуць** (*ту́мнуты*) ‘моцна ўдарыць’ (драг., Ск. нар. мовы). Слова гукапераймальнага паходжання, гл. *тумкаць*. Відаць, роднаснае літ. *stùmti* ‘ўдарыць, штурхануць’. Параўн. таксама *тума́к$_1$* (гл.).

**Ту́мны** ‘мутны, няясны, матавы, без бляску’ (ТС), ‘млявы, вялы’: *ена ужэ тумная пасля работы* (маз., ГЧ), *ту́мно* ‘змрочна, няясна, мутна, туманна, цьмяна’ (ТС, ПСл; жытк., Жыв. НС), ‘хмурна’, ‘млосна’ (ЛМТ). Відаць, звязана з *цьмяны* (гл.), параўн. укр. дыял. *тмя́ний* ‘зацемнены, матавы’; ‘сумны, нудны’, што да *тма* ‘цемра’ (ЕСУМ, 5, 691), ст.-бел. *тьма*, *тма* ‘тс’, якія, паводле Бузука (ЗІФВ УАН, 13–14, 278), могуць чаргавацца з коранем *тум-*, параўн. укр. *тума́* ‘хмуры, маўклівы чалавек’, а таксама рус. дыял. *ту́мный* ‘сумны, журботны’, польск. дыял. *tumny* ‘поўны, тлусты’ < і.-е. **tou̯m-* / **teu̯m-*, гл. роднаснае літ. *timà* ‘мутнасць’, *tumė́ti* ‘мутнець’, лат. *tumêt* ‘гусцець’, ‘збірацца (пра дажджавыя аблокі)’, *tumuļat* ‘(пра неба) паволі пакрывацца хмарамі’ і інш., паводле Смачыньскага (694), узыходзяць да і.-е. **tu̯em-* ‘набрыняць’.

**Ту́мул** ‘шум, вэрхал’ (мін., Цыхун, вусн. паведамл.), ст.-бел. *тумульть*, *тумулть*, *тумолть*, *тулмуть* ‘гвалт, зборышча, сумятня’ (1595 г., ГСБМ, Карскі 1, 390). Запазычана са ст.-польск. *tumult* ‘тс’, ‘шум, гам, гоман, галас, неспакой’, якое з лац. *tumultus* ‘тс’, ‘бунт’ (Булыка, Лекс. запазыч., 41); мінская гарадская форма, відаць, праз ід. *tuml* ‘глум, галас, мітусня, вэрхал, гоман’, што да с.-в.-ням. *tumel* ‘шум, неспакой, зборышча’ (Астравух, Ідыш-бел. сл., 808).

**Туна́йка** ‘печыва з макам’ (навагр., Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, ад ід. *tun*, *ton* ‘рабіць, чыніць’ (Астравух, Ідыш-бел. сл., 808).

**Ту́ндра** ‘паўднёвая зона Арктыкі з бязлессем, вечнай мерзлатой’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рус. *ту́ндра* з фін. *tunturi* ‘высокая бязлесная гара’ ці з саам. кольск. *tundar*, *tuoddar* ‘гара’, саам., нарв. *duoddâr* ‘шырокая лысая гара’ (Каліма, Ostseefin.,

227–228). Пасля засялення рускімі Сібіры слова пачало ўжывацца і ў адносінах да раўнінных земляў, параўн. зах.-тунг. *dundra* 'зямля', эвен. *dunrę* 'тайга', *дундрэ* 'зямля, грунт, магіла' альбо манс. *tunrä*, якуц. *tūndara* 'бязлесная прастора' (Фасмер, 4, 120–121; Голуб–Ліер, 493; Арол, 4, 117; Анікін, 576).

**Тунéль** 'штучны праход для транспарту, пешаходаў' (ТСБМ, Вруб.), *тунэ́ль* 'тс' (Некр. і Байк.). Праз польскую (*tunel*) ці рускую (*туннéль, тоннéль*) мовы запазычана з англ. *tunnel* 'тунэль', 'штольня', 'комін, труба' < ст.-англ. *tonel* 'тс' (у рускую мову, магчыма, праз ням. *Tunnel*). Першакрыніцай з'яўляецца ст.-франц. *tonnel* 'круглы, бочкападобны', 'аркада' < *tonne* 'бочка' < с.-лац. *tuuna*, *touna* 'бочка' (Фасмер, 4, 77, 121; Голуб–Ліер, 493; Чарных, 2, 271; Арол, 4, 117).

**Тунéц** 'вялікая драпежная прамысловая рыба, *Thunnus thynnus* L.' (ТСБМ), 'рыба *Thunnus vulgaris*' (Некр. і Байк.). Параўн. укр. *ту́нець, тунéць*, рус. *тунéц*, польск. *tuńczyk*, н.-луж. *tunowa ryba*, чэш. *tuňak*, славац. *tuniak*, славен. *tún*, *túna*, харв. *tȕna*, *tûn*, серб. *тȕњ*, *тȕња*, макед. *туна*, *туњ*, балг. *тон* 'тс'. Агульнаславянскае, запазычана праз ням. *Thun(fisch)*, якое з італ. *tonno* < нар.-лац. *thunnus*, а апошняе са ст.-грэч. νύννος 'тс' < ст.-яўр. *tannīn* 'марская пачвара' (Фасмер, 4, 121; Голуб–Ліер, 493; ЕСУМ, 5, 676). Сной$_2$ (791) услед за Фрыскам (1, 694) і Клюге$_{22}$ (729) ст.-грэч. νύννος выводзіць з нейкай старой міжземнаморскай мовы, магчыма, з фінікійскай, прыводзячы для параўнання ст.-яўр. (гл. вышэй) і араб. *tinnīn* 'вялікая рыба'. Паводле Скока (3, 523), гэта далмацінска-раманскі рэлікт лац. *thynnus*, *thunnus*, які стаў балканскім італьянізмам.

**Тунíка** 'старажытнарымскае адзенне накшталт доўгай кашулі; верхняя частка двайной жаночай спадніцы' (ТСБМ), *ту́ніка* 'тс' (Некр. і Байк.), сюды ж *цю́ніка* 'від жаночага верхняга адзення' (Сл. ПЗБ). Праз польскую ці рускую мовы з лац. *tunica (< ctunica)* 'кашуля без рукавоў, якая падпярэзвалася поясам', паходзіць з мовы, роднаснай арамейскай, параўн. арам. *kithūnā*; апошняе ўзыходзіць да ст.-яўр. *k*[e]*thṓnet* 'сарочка, якую насілі на голым целе', араб. *kutun* 'бавоўна' (Вальдэ, 1906, 642; Голуб–Ліер, 493; ЕСУМ, 5, 676; SWO, 1980, 782; Сной$_2$, 792).

**Тунікі**: *па-за туніках туляцца* ‘хавацца’ (Ян.), *túniki ciórci* ‘лодарнічаць, гультаяваць’ (Варл.). Верагодна, экспрэсіўныя перыфразы на базе *туняцца* ‘хадзіць без справы’, гл.

**Тунін́яць** ‘гнісці’ (слаўг., Яшкін, вусн. паведамл.). Мяркуецца, што ўтворана ад назоўніка **туніня* ‘гніль’. Апошняе мае паралелі ў балг. дыял. *туне́* ‘плесня’ або *тунѣ* ‘плесня; смурод’, *тунясъм* ‘пакрывацца плесняй’, макед. дыял. *тунясва* ‘тс’, якія Рачава (Этимология–2003–2005, 185) разглядае як «утварэнні праславянскага тыпу», звязаныя з балг. *то́на* ‘ўсмоктваць, убіраць’, што фанетычна і семантычна цяжка давесці. Хутчэй з улікам беларускага матэрыялу, да прасл. **tun'a* ‘гніль, плесня’ ад прасл. **tuxnǫti* / **tǫxnǫti* ‘псавацца, пратухаць’, параўн. укр. *тухи́ня* ‘гнілое балота’, гл. *тухнуць*. Параўн. *туняшка*, *тунець* (гл.).

**Тункель**, ст.-бел. *тункель* ‘вясковы суддзя’ (ГСБМ). Запазычана праз польск. *tunkiel* ‘тс’ са ст.-ням. *Tong* ‘тс’ (Булыка, Выбр. пр., 177, 186).

**Ту́нна** ‘дарэмна, дарма, марна’ (Нас., Гарэц. 1.), ‘бясплатна’, ‘без пакарання’: *гэта табе тунна ня пройдзець*; *ту́нны* ‘марны, дарэмны’, ‘бескарысны (пра працу)’ (Нас.), ст.-бел. *туне* ‘дарма, марна’ (ГСБМ). Укр. *ту́нний*, *ту́ній* ‘танны, даступны’, рус. *ту́нно* ‘дарма, дарэмна, упустую’, *ту́нный* ‘дармавы’, ‘марны’, рус. і стараж.-рус. *туне* ‘дарэмна’, польск. усх. *tuni*, сілез. *tůńi*, каш. *tóni*, *tóńi* ‘танны’, н.-, в.-луж. *tuni*, славац. *tuni*, *tuný*, славен. *tônj* ‘тс’, *zastóŋj* ‘дарэмна’, ст.-харв. *ostunj*, *stunj*, *stunje* ‘задарма, бясплатна, дарма’, балг. *ту́на* ў выразе: *ту́ня беда* ‘вялікая бяда’, ‘беспадстаўнае абвінавачанне’, макед. *туне беда* ‘тс’, ст.-слав. **тѹнє** ‘дарэмна, бясплатна’. Прасл. **tuńь* ‘дарэмны’ (Борысь, 626) ці **tunь-jь* ‘танны, даступны, дарэмны, бясплатны’ (ЕСУМ, 5, 676) узыходзіць да і.-е. **teu̯n-*. З іншым вакалізмам кораня на польскай моўнай тэрыторыі (другасная назалізацыя) прасл. **tanьjь*, **tonьjь* > *та́нны* (гл.). У якасці роднасных падаюцца: лат. *taûņa* ‘гультай’, *taũņât* ‘бадзяцца, хадзіць без справы, не брацца за работу’, ст.-в.-ням. *dunni*, ст.-н.-ням. *thunni*, ст.-ісл. *þunnr* ‘тонкі’. Развіццё індаеўрапейскай семантыкі ішло ад ‘тонкі, доўгі, выцягнуты’ > ‘невялікай вартасці’ > ‘танны’ (Шустар-Шэўц, 1558; гл. таксама: Этимология–1967, 74; Зб. Бернштэйну, 474–480),

чаму пярэчаць Фасмер, 4, 121; Сной у Бязлай, 4, 393. Адсутнічае пераканальная этымалогія (ESJSt, 17, 998).

**Туно́к**, мн. л. *тунцы́* 'глінянкі, грузілы на ніз сеткі' (Ласт.). Відаць, праз польск. *tunka* 'бочка' (з ням. *Tonne* 'тс', Брукнер, 584) па форме дэталі, якая напамінае бочачку, або вытворнае ад ням. *tunken* 'мачаць, акунаць', магчыма, праз ідыш, гл. *tunken* 'тс', *tun* 'бочка' (Астравух, Ідыш-бел. сл., 808).

**Ту́нькацца** 'хутка перамяшчацца, мітусіцца' (віл., Сл. ПЗБ), 'туляцца, швэндацца без справы' (лаг., Гіл.). Гукапераймальнага паходжання, параўн. рус. дыял. *ту́нкаться* 'стукацца (у дзверы, вароты)', *ту́нн* – імітатыў (СРНГ).

**Тунюня́** – пра надакучлівую, не да месца размову, хлусню, фальшывае іграннe (дзісн., Бел. дыял. 1). Гукапераймальнае, параўн. *тулюлю*, гл. *тулю-тулю*.

**Туня́цца** 'туляцца' (Сцяшк.), 'бадзяцца, хадзіць без мэты' (Юрч.), *туня́нне* 'лодарнічанне, бесклапотнае бадзянне' (Юрч. Вытв.). Відавочна, звязана з *тунна* 'дарэмна, марна (траціць час)', гл. Параўн. лат. *taūņât* 'быць у нерашучасці', 'марудзіць', 'бадзяцца', 'не брацца за работу', *taūņa* 'гультай'.

**Туня́шка** 'гнілое дрэва' (клім., Мат. Маг.). Звязана з *туніняць* 'гнісці' (гл.), памянш. да **туня* 'гніль' (< прасл. **tun'a*), па ўзоры *гнілу́шка* 'абломак гнілога дрэва'. Пададзенае ў слоўніку Бялькевіча *тупя́шка* 'гнілое палена' (Бяльк.) можа быць вынікам недакладнай расшыфроўкі рукапіснай фіксацыі або другаснага зближэння з *тупы* (гл.), у семантыцы якога, аднак, няма значэння 'гнілы'. Да *ту́нны* (гл.).

**Туняя́д** (*тунея́дъ*) 'дармаед', 'ненадзейны член сям'і' (Нас.). Утворана на базе рус. *тунея́дец* 'лайдак' шляхам адсячэння суф. *-ец* або непасрэдна ад *ту́не* 'дарма' (гл. *тунна*) і ст.-слав. **ꙗдь** 'ежа' < **ꙗсти** 'есці' (КЭСРЯ); канец слова, магчыма, пад уплывам *яд* 'атрута' (гл.).

**Туп** – пра тупанне, няўдалыя скокі (мсцісл., Нар. лекс.), *туп-туп* – гукаперайманне для перадачы тупату (ТСБМ, ЭШ) – заклік да дзіцяці, каб пачало хадзіць (Скарбы$_2$), 'падзыўныя для авечак' (горыц., ДАБМ, камент., 896). Укр. *туп-туп*, *ту́пу-ту́пу* – выгукі, якімі падбадзёрваюць дзяцей станавіцца на ногі, рус. смал. *туп-туп* – абазначэнне гукаў пры хадзьбе (СРНГ); польск.

*tup*, *tupu* – адгалосак удару нагой; в.-луж. *tupu*, *tupu tapu* – імітацыя крокаў, удараў нагой; чэш. *ťup* – пра ходу дробнымі крокамі, балг. *туп* 'бах'. Гукаперайманне.

**Ту́па** 'марудна, павольна (пра рост)' (шчуч., свісл., Сл. ПЗБ), *ту́по* 'вельмі павольна (пра хадзьбу)' (Клім.). Параўн. славац. *tupo* 'абыякава', 'тужліва, сумна', 'нудна'. Паводле Махэка$_2$ (661), апошняе ўзыходзіць да прасл. **tǫpiti*, самастойнага дзеяслова, не звязанага з прыметнікам **tǫpъ* 'тупы', параўн. чэш. *tupit* 'пазбавіць хуткасці', польск. *tępić* 'знішчаць, вынішчаць'; раней – 'прыніжаць, дыскрэдытаваць', што знаходзіць адпаведнікі ў *тупіті* 'тупіць, вынішчаць' (Вруб.), ст.-бел. *тупети* 'слабець', *тупитися* 'тс' (ГСБМ, дзе звязваецца з *тупый* 'тупы'). Борысь (631) значэнне 'нішчыць, пераследаваць' выводзіць з больш ранняга 'пазбаўляць вастрыні, рабіць тупым (напрыклад, рэжучыя прылады)'. Кралік (634) дзеяслоў «з духоўнай сферы» славац. *tupiť* 'прыгнятаць, зневажаць' выводзіць з 'наступаць, прыціскаць', адкуль *otupný* 'аднастайны, нудны'. Сюды ж, відаць, *тупава́ты* (пра гліну) 'гліна нязначнай вязкасці' (Нар. словатв.), 'глухаваты': *тупава́ты на ву́шы* (лудз., Сл. ПЗБ), *тупова́ты* 'разумова абмежаваны, някемлівы' (ТС), дзе прысутнічае сема 'слабы, непаўнавартасны'.

**Тупа́к** 'тупы чалавек' (Сл. рэг. лекс., Вруб.). Ад *тупы́* 'някемлівы' (гл.), магчыма, утворана па ўзоры *дура́к* або пад уплывам польск. *tępak* 'тупы, слабаразвіты вучань; ёлупень', паколькі слова характэрна для заходніх гаворак; параўн. з іншай суфіксацыяй *тупень*, *тупі́ца* 'някемлівы чалавек' (Нас., Некр. і Байк., Шымк. Собр., Пятк. 2), *тупін'а́* 'тупіца, ёлуп' (Вруб.)

**Ту́пала** *(ту́поло)* 'від рыбалоўнай снасці' (ТС). Відаць, да *ту́паць* (гл.), аналагічна да *таптуха$_1$* ад *таптаць$_1$* (гл.). Таго ж утварэння экспрэсіўныя назоўнікі *ту́пала* 'чалавек, які робіць выгляд удзелу ў справе, але нічога не робіць' (Нас.) і *ту́пало* 'той, хто моцна грукае нагамі пры хадзьбе' (ТС).

**Ту́пат** 'тупанне, тупаніна' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.; ашм., Стан.), *ту́пот* 'тс' (Вруб.). Параўн. укр. *ту́піт*, *ту́пот*, польск., в.-луж. *tupot*, серб. *тупот*, макед. *тупот* 'тс'. Відаць, яшчэ праславянскае ўтварэнне ад **tupati* > **tupotъ*, паралельнае да **topotъ* або **tъpъtъ* (Арол, 4, 84), гл. наступнае слова. Паводле

Борыся (654), утварэнню назоўніка папярэднічаў дзеяслоў інтэнсіўнага дзеяння з элементам *-*t*-, гл. *туптаць*.

**Ту́пацъ** 'ісці, няхутка ступаць, стукаючы нагамі' (Нас., Байк. і Некр., Гарэц., ТС), 'хадзіць не спяшаючыся' (Скарбы$_2$), 'корпацца ў хаце' (Ласт.), 'працаваць па гаспадарцы', 'дагаджаць некаму, прыслужвацца, каб дамагчыся даверу' (Варл.), *ту́пать* 'хадзіць па-старэчы, ледзь рухацца' (Растарг.), *ту́пати* 'стукаць нагамі пры хадзьбе' (Вруб.). Параўн. укр. *ту́па́ти* 'тс', рус. дыял. *ту́пать* 'стукаць нагамі; перасоўвацца, ісці', польск. *tupać*, старое *tępać*, каш. *tëpać / tupać*, в.-луж. *tupać*, н.-луж. *tupaś* 'шумна ступаць', серб. цімак. *тупа* 'стукаць, біць; хадзіць туды-сюды', балг. *ту́пам* 'стукаць, грукаць, гучна ступаць', макед. *тупа* 'тс'. Агульнаславянскае ўтварэнне гукапераймальнага паходжання, што ўзыходзіць да прасл. **tupati* 'грукаць, асабліва нагамі па зямлі, утвараючы глухі гук' (Борысь, 654), паралельнае да *то́пацъ*, гл. (Фасмер, 4, 121). Запазычана ў ідыш *tupen* 'тс' (Астравух, Ідыш-бел. сл.), на базе якога ўтворана ід. *tupeniš* 'тупат' (Geller, Jidysz, Język Żydów polskich, Warszawa, 1994, 198) і, магчыма, *тупані́на* 'тс'.

**Тупе́цъ** 'станавіцца тупым, неўспрымальным' (ТСБМ), ст.-бел. *тупети* 'слабець': *на блисканѧ з грому ѡко людское тупѣе* (ГСБМ). Гл. *тупа*, *тупы*.

**Тупі́к** 'глухі канец вуліцы', 'безвыходнае становішча' (ТСБМ), 'глухая вулачка' (Вруб.). З рус. *тупи́к* 'тс', параўн. *турок* 'тс', гл.

**Тупілі́чыцъ** 'рэзаць' (Юрч.). Экспрэсіўнае кантамінаванае ўтварэнне, гл. *тупы*, *пілікаць*. Сюды ж *тупілі́чыцца* 'рэзаць, выразацца', *тупілі́чыньнік* 'той, хто рэжа няўмела або тупой прыладай' (Юрч. СНЛ), *тупілі́чанне* 'няўмелае рэзанне тупой прыладай' (Юрч. Вытв.).

**Тупі́ца** 'тупая сякера', 'тупы, някемлівы чалавек' (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Руб., ТС, Касп., Пятк. 2, 3), 'тупая сякера' (Чач., Бяльк., Варл.), ст.-бел. *тупица* 'тупая сякера, каса і пад.' (1590 г., ГСБМ). Да *тупы* (гл.), паводле Борыся (631–632), першапачаткова ў адносінах да прылад, пазней – у адносінах да чалавека.

**Тупі́чыцъ** 'тупаць' (ТС), 'ісці, дзёўбаючы нагамі' (мсцісл., З нар. сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *ту́пацъ* (гл.), параўн. *тупча*, гл.

**Тупкаць**, ст.-бел. *тупкати* 'тачыць, кляпаць' (ГСБМ), сюды ж *ту́пко* – пра нерашучага чалавека (навагр., Нар. словатв.), параўн. літ. *tùpkus* 'павольны чалавек'; *ту́пканнік* 'той, хто тупае', *ту́пкыньня* 'таптанне, топанне' (Юрч. СНЛ). Параўн. укр. *ту́пкати* 'перастýпаць з нагі на нагу на адным месцы', серб. *тȕпкати*, харв. *tȕpkati* 'прытоптваць', 'таптацца', макед. *тупка* 'стукаць, ударацць', 'біцца (аб сэрцы)'. Утварэнне на базе гукапераймальнага *туп*, гл.

**Ту́пкі**$_1$ 'цвёрды, не вязкі (грунт)', 'добра ўбіты, утаптаны' (ТСБМ; Сцяц.; в.-дзв., Шатал.; гродз., стаўб., карэліц., З нар. сл.; навагр., Нар. словатв.), 'цвёрды, гладкі' (Сцяшк. Сл.); *ту́пка*, *ту́пко* 'цвёрда, роўна' (Сцяшк. Сл.; Сл. ПЗБ), 'там, дзе можна прайсці без цяжкасці, без рызыкі; утаптана, уходжана' (слонім., Нар. лекс.), *ту́пко* 'мелка, неглыбока (дзе можна прайсці балота)' (Зайка Кос.; ганц., Ск. нар. мовы). Да *ту́пкаць* (гл.); верагодна, па фанетычных прычынах (змешванне *у* з *ô* закрытым) ідэнтыфікуецца з *то́пкі* 'цвёрды (аб дне ракі)' (Некр. і Байк., Янк. 2; уздз., Сл. ПЗБ) насуперак *то́пкі* 'гразкі, багністы' (ТСБМ, Сцяшк., ТС, Бяльк.), што выводзіцца з *тапіць*$_1$ (гл.). Аналагічна *тупко́е сала* 'тлустае' (ЛА, 4), параўн. *то́пкі* 'які пры смажанні дае шмат тлушчу', што выводзіцца з *тапіць*$_2$ 'расплаўляць, тапіць' (гл.).

**Ту́праш** 'зараз, у дадзены момант, неадкладна' (ваўк., Бел. дыял. 3). Рэдкая паралель да ст.-слав. **топрьво** 'ў першы раз, толькі што' (ССсл.), параўн. рус. *ту́порва* 'тады', якое Фасмер (4, 122) выводзіць са спалучэння *(в) ту пору* + часціца *-ва*. Бліжэй да беларускага слова рус. дыял. *вту́порож* 'тады' са стратай ненаціскнога галоснага ў канцы слова і далучэннем партыкулы *-ж* (Анікін, РЭС, 9, 81), гл. *ж, жа*. Не выключана, што слова працягвае архаічную форму **топрь(во)ж(е)* са спрашчэннем канца спалучэння і пераходам *о* > *у* пад націскам перад *п*, параўн. рус. дыял. *вту́перь* 'цяпер' (Анікін, РЭС, 9, 96); зыходныя формы *то* і н. р. *прьво*, *пьрво*, гл. *первы*, *тапер*.

**Тупру́лькась-тупру́лькась** – выгукі, якімі падклікаюць каня (ТС). Выклічнік, у аснове якога спалучэнне *тпру́ля-тпру́ля* 'падзыўныя для жарабяці', пашыранае ласкальнымі суфіксамі *-ка-*, *-сь*, а таксама ўстаўным *-у-* ў пачатку слоў. Гл. *тпро-тпро*, *тпру*.

**Ту́птаць** ‘працаваць дома; таптацца, хадзіць цэлы дзень паціху, не спяшаючыся’ (Федар. 4, Сцяц., Сцяшк. Сл., Скарбы), ‘біць капытамі’ (Нар. Гом.), *ту́птаці* ‘хадзіць, тупаць’ (ТС), ст.-бел. *туптати* ‘тс’ (ГСБМ); сюды ж *тупата́ць*, *тупаце́ць* ‘стукаць нагамі’ (ТСБМ), *тупота́ти* ‘тс’ (Вруб.). Параўн. укр. *ту́птати* ‘таптацца, хадзіць узад і ўперад’, *тупота́ти* ‘часта тупаць’, *тупоті́ти* ‘тс’, рус. дыял. *тупоте́ть*, *тупоти́ть* ‘стукаць нагамі’, польск. *tuptać* ‘таптацца дробнымі крокамі’, ‘мітусіцца’, *tupotać* ‘таптаць’, ‘тупацець, тупаць’, в.-луж. *tupotać* ‘перабіраць нагамі’, макед. *тупти* ‘стукаць, ударацць’, ‘біцца (аб сэрцы)’, балг. *туптя́* ‘тс’, ‘працаваць (аб маторы)’. Дзеясловы суадносяцца з *тупат* (гл.), што да **tъpъtъ* / **tupotъ*.

**Ту́пча** непахв. ‘стамляльная праца’ (зэльв., Сл. рэг. лекс.), ‘тупаніна (напрыклад, каля печы)’ (зэльв., Нар. словатв.). Утворана ад *ту́пчаць* ‘бясконца перастyпаць з нагі на нагу, тупаць, таптацца’ (ТС), якое з *ту́пкаць* (гл.), параўн. *kruhom chaty czorny kazioł tupcze* (Пятк. 2, 207), у выніку абагульнення асновы асабовых форм дзеяслова. Меркаванні Грынавяцкене пра запазычанне дзеяслова з літ. *tupčioti* ‘прысядаць’ (LKK, 22, 196) не маюць падстаў.

**Тупы́** ‘недастаткова навостраны, якім цяжка рэзаць, пілаваць, калоць, нявостры’ (ТСБМ, Ласт., Бяльк., Касп., Байк. і Некр., Ян., ТС, Сл. ПЗБ): *хочацца хлеба, ды нож туп* (Юрч. Крыл.), ‘шырокі, круглы (пра галаву, морду)’, ‘які прыйшоў у стан атупення, абыякавы, бяссэнсавы’, ‘не востры, глухі, ныючы (пра боль)’, ‘глухі, не звонкі (пра гукі)’ (ТСБМ), ‘нячуйны (пра сабаку)’ (Ян.), ‘някемлівы, разумова абмежаваны, неразвіты’ (ТСБМ, Некр. і Байк.; астрав., Сл. ПЗБ, Нас., Вруб., Байк. і Некр.), ‘павольны, гультаяваты’ (паст., лід., брасл., Сл. ПЗБ), *тупу́* ‘лянівы, ціхі’ (ТС), ст.-бел. *тупый* ‘якім цяжка рэзаць, пілаваць, калоць’, ‘разумова абмежаваны, няздольны, някемлівы’, ‘бяссэнсавы (пра погляд, твар)’ (ГСБМ). Укр. *тупи́й*, рус. *тупо́й*, старaж.-рус. *тупъ*, польск. *tępy*, н.-, в.-луж. *tupy*, чэш., славац. *tupý*, славен. *tȍp*, харв. *tûp*, серб. *ту̑п*, балг. *тъп*, макед. *тап*. Прасл. *tǫpъ* ‘нявостры, вышчарблены’, відаць, развілося з і.-е. **tompo-*, параўн. літ. *tampýti* ‘цягнуць, расцягваць’, *tem̃pti* ‘тс’, лат. *tiept* ‘нацягваць, рабіць тугім’, ст.-ісл. *þambr* ‘тоўсты, надуты’, ‘нацягнуты (пра цеціву)’, ст.-грэч. τέμνω

‘рэжу’ ўзыходзіць да і.-е. асновы **ste(m)p- / *ste(m)b-* і роднаснага і.-е. **stm̥bo-* ці **(s)tomp-*, **stomb-* (Фасмер, 4, 122), рэалізаванага ў ст.-в.-ням., ням. *stumpf* ‘тупы’, ‘без бляску’, ‘някемлівы’; і.-е. **stm̥bo-* першапачаткова абазначала ‘пакалечыць, урэзаць, вышчарбіць, укараціць, пабіць, прыціснуць’ (Сной$_2$, 772) і адлюстравалася яшчэ ў ст.-грэч. στέμβω ‘б’ю, таўку, цісну’, ст.-в.-ням. *stampf* ‘таўкач’, ст.-в.-ням. *stumbal* ‘абрубак, абрэзак’. Мяркуецца, што значэнні ‘нявостры’ і ‘няздольны, дурны’ ўзыходзяць да праславянскага перыяду (Якубовіч, Drogi słów, 295). Гл. яшчэ Брукнер, 570; Махэк$_2$, 661; Скок, 3, 524; ЕСУМ, 5, 677; Арол, 4, 117. Сюды ж *ту́па* ‘павольна’ (гл.), *тупава́то* ‘туга, дрэнна’ (Зайка Кос.), *тупіца* ‘тупая (затупленая) сякера, каса’ (гл.), *тупы́ця* ‘тс’ (кам., ЛА, 2), *тупі́чка* ‘тс’ (Юрч. СНЛ), *тупі́ць* ‘рабіць тупым’ (ТСБМ, Байк. і Некр.); *ту́пянькі* ‘тупы (носік у яйку)’ (маладз., Сл. ПЗБ), *тупава́ты* ‘не зусім востры’ (лід., там жа), *туп’ё* ‘тупая частка нажа’ (шчуч., там жа), *тупі́ла* ‘тупы нож, сякера’ (Юрч. Вытв.), ‘тупы, няздольны чалавек’ (там жа; слонім., Сл. рэг. лекс.), *тупе́нь* ‘няздатны да навукі’ (Нас., Байк. і Некр.), *тупа́к* ‘тс’ (маладз., Янк. Мат.).

**Тупя́шка** ‘гнілое палена’ (Бяльк.). Магчыма, памылкова прачытанае ў рукапісе *туняшка*, гл.

**Тур$_1$** ‘першабытны дзікі бык *Bos primigenius*, буйвал’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Гарэц., Вруб., Арх. Вяр., Ласт.): *natura, jak й taho tura* (ваўк., Федар. 4), ст.-бел. *туръ* ‘тс’ (ГСБМ). Як назва рэальнай жывёлы даўжэй захоўвалася ў раёне, які прымыкае да сучаснай Белавежскай пушчы, параўн. *siedzić, jak tur й harè* (слонім., ваўк., Федар. 4, 275: *hara* ‘лес’?); у песні: *Не ўгінайся, буковый мосце, / Через тебе ідут туры і елені* (брэсц., Д.-Хадак., 346). У Бельскім павеце запісана гульня «У тура», што можа адносіцца да паганскага культу, гл. БНТ, Гульні$_2$, 39. Укр. *тур*, рус. *тур*, польск., н.-, в.-луж. *tur*, палаб. *täur*, чэш. *tur*, славац. *tur*, славен. *túr* (захоўваецца ў тапонімах *Turjak*, *Turja glava*), балг. *тур*, макед. *тур*, ст.-слав. **тоуръ** ‘дзікі бык’. Прасл. **turъ* роднаснае ст.-прус. *tauris* ‘зубр’, літ. *taũras* ‘тур, бык’, ст.-грэч. ταυρος ‘бык’, лац. *taurus*, ірл. *tarb* ‘тс’, авест. *staōra* ‘буйная рагатая жывёла’, гоц. *stiur* ‘бык’, ‘цялё’, што да і.-е. **təu̯ro-* < і.-е. **teu̯h$_2$-* ‘ацякаць, распухаць, павялічвацца’ (Сной$_2$, 792; Фасмер, 4,

122; Брукнер, 584; Скок, 3, 524; Буга, Rinkt., 2, 634; Борысь, 654; ЕСУМ, 5, 677–678). Існуе магчымасць меркаваць пра настратычныя сувязі з прасеміц. *tauru-* 'бык' (Покарны, 1083; Арол, 4, 118; ESJSt, 17, 998). Сюды ж астронім ст.-бел. *Туръ*, *Телець, Юнець, Бычокъ,* што адпавядае лац. *Taurus* 'тс' (XVI ст., Бел. лекс., 112), *тур* 'маўчун, маўклівы чалавек' (пін., ЛА, 3); *тур́ыца* 'дзікая карова', 'мажная здаровая кабета' (Нас.), *тур́ыця* 'самка тура' (драг., Сл. ПЗБ), магчыма, мянушка каровы *туро́ля* (мёрск., Нар. лекс.).

**Тур$_2$** 'адзін круг танца; асобны этап якой-небудзь гульні, конкурсу, спаборніцтва, мерапрыемства' (ТСБМ, Некр. і Байк., Вруб.), 'падарожжа, турыстычная паездка' (Улас.). Праз рускую мову (*тур*) з франц. *tour* 'круг, абарачэнне, абарот, абход, аб'езд', 'чарга', 'ганчарны круг', якое з с.-лац. *turnus* > лац. *tornus* 'такарны варштат' < ст.-грэч. τόρνος 'прылада цесляра для вывядзення контураў кола, паўкола', 'долата, такарны разец' < τείρω 'тру' (Фасмер, 4, 122; Даза, 716; ЕСУМ, 5, 678). Значэнне 'падарожжа' пад уплывам англ. *tour* 'паездка, экскурсія' (Арол, 4, 118), параўн. *турнэ*, гл.

**Тур$_3$** 'апорны слуп пасярэдзіне святліцы старажытнага дома' (Ласт.), 'слуп каля печы ў курных хатах' (дзісн., Яшк.). Магчыма, да *тур$_1$* (гл.) у пераносным значэнні 'найбольш значны канструкцыйны элемент', бо апорны слуп называлі «турам» побач з «князем», «князьком», «канём» (Ласт., 143).

**Тур$_4$** 'купальнік горны, *Arnica montana* L.' (гродз., Кіс., ТС), *тур-зелье*, *зелье-тур* 'тс' (ТС). Да *тур$_1$* (гл.); параўн. польск. дыял. *tura* альбо *trawa turowa*, *turówka*, *żubrówka* 'зуброўка, *Hierochloë odorata* (L.)', што можна разглядаць як аналаг *зу́брава трава́* 'тс' (брэсц., Кіс.) – ежа зуброў у Белавежскай пушчы (Коласава, Лексіка, 60; адносна іншых раслін гл. ЕСУМ, 5, 680). Аднак не выключана метафарычнае ўжыванне назвы *тур$_1$* – тое, што прыносіць здароўе і сілы, параўн. фразеалагізм *здаровы як бык*.

**Тура́** 'ладдзя (фігура, якая мае форму вежы)' (ТСБМ, Янк. 3). Праз рускую мову (*тура́*) з франц. *tour* 'вежа' < лац. *turris* 'тс', ж. р. якога абумовіў канчатак *-а.* Ст.-бел. *тура* 'вежа, асадная вежа' (1563) запазычана са ст.-польск. *tura* 'тс', якое з франц. *tour* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 67). Гарбуль (Семант. полонизмы, 394) ставіць пад сумненне такі шлях запазычання.

**Ту́ра** ‘група, партыя’ (мядз., Сл. ПЗБ). З польск. *tura* ‘чарга, круг, тур’, якое з франц. *tour*, што з сярэднявечнага лац. *turnus* ‘вярчальны рух’ (SWO, 1980, 783).

**Турава́ць** ‘выконваць другую партыю пры спяванні або ігры’ (ТСБМ), ‘акампаніраваць’ (Шат.). З польск. *wtórować* ‘уторыць’, гл. *утараваць*.

**Тураве́й** ‘неразвіты чалавек’, ‘шчодры чалавек’, *турavéйчык* ‘неразвіты хлапчук’ (Юрч. СНЛ). Няясна, магчыма, звязана з наступным словам са значэннем ‘падганяць’.

**Туравíць** ‘панукваць, падганяць (каня)’ (Касп., Др.-Падб.; рас., Шатал.), ‘прыспешваць, падганяць’ (Ласт.; мёрск., Нар. сл.), *туравíцца* ‘спяшацца’ (в.-дзв., рас., Шатал., Рэг. сл. Віц., Сл. ПЗБ), ‘тс’, ‘шавяліцца’ (мёрск., Нар. сл.), *турава́цца* ‘імкнуцца, кіравацца’ (Гарэц., Др.-Падб.), *турава́нне* ‘падганянне, пануканне’ (в.-дзв., Шатал.). Параўн. рус. дыял. *ту́ровить* ‘падганяць, прыспешваць’, *туро́вить* ‘тс’, польск. дыял. *turovać* ‘напіраць, націскаць’. Гл. *тура́ць, туры́ць*.

**Ту́рак₁** ‘жыхар Турцыі’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Федар. 4, Сл. ПЗБ, Зайка Кос.), *ту́рок* ‘тс’ (ТС, Вруб.), ‘Турцыя, Турэччына’: *немца, турка ваяваць* (Карскі 2–3, 397), *ту́ркі* ‘тс’: *Куды цябе мамка аддае: / Ці ў туркі, ці ў татары* (барыс., Песні сямі вёсак), *ту́рак* ‘упарты чалавек’ (беласт., Сл. ПЗБ), ‘някемлівы чалавек’ (Мат. Гом., Зайка Кос.), *ту́рок* ‘чалавек з разумовымі недахопамі’ (ТС), *ту́рык* ‘дурань’ (Юрч. Вытв.), ст.-бел. *турокъ* (1480 г.), *турчинъ, турчынъ* (1499 г.) ‘жыхар Турцыі’ (ГСБМ). Параўн. укр. *ту́рок*, рус. *ту́рок*, стараж.-рус. *турокъ* (XV ст.). Запазычанне з тур. *türk* ‘турак, цюрак’, звязанае (паводле ЕСУМ, 5, 682) з *türk* ‘грубы, жорсткі, разбойніцкі’, уйг. *türk* ‘сіла; моцны’, чагат. ‘жорсткі, храбры’, якія зводзяцца да ст.-цюрк. *türk* ‘цюркская дынастыя’, якую кітайцы называлі *Tu-küz* ці *Ту-кю* (Фасмер, 4, 125). Запазычанне адсылаецца і да манг. *türkün* ‘бацькі і родзічы замужняй жанчыны’. Гл. таксама Фасмер (4, 83–84). Сюды ж *турча́нка* ‘жанчына турэцкай нацыянальнасці’ (ТСБМ), *Турэ́ччына* ‘Турцыя’; *Турцыя* – са ст.-польск. *Turcja*, якое з новалац. *Turcia*; гэтаксама прыметнік *турэцкі* са ст.-польск. *turecki* < *Turek* ‘турак’ (Фасмер, 4, 126); *ту́рка* ‘турак’ (Байк. і Некр.), *турэцкі баго́н* – нейкая расліна (ТС), *турэцкіе агуркі – бальшые і доўгіе* (Ян.),

*турэцкі рамонак* ‘рамонак пахучы, *Matricaria matricarioides* (L.)’ (лельч., Нар. лекс.).

**Ту́рак**$_2$ ‘бубны (масць у картах)’: *бубен, або званок, або турак* (Наша Ніва, 2002, 15 лют.). Відавочна, адпавядае польск. *turek* ‘чырвоная кветка’ на базе колеру бубновай карты або значэння ‘палявая кветка’, што можа атаясамлівацца са званочкам (Варш. сл.), дакладней – з контурам кветкі «званковай» (бубновай) карты. Сувязь з *Turek* ‘турак’ застаецца няяснай.

**Ту́рак**$_3$ ‘грыб курачка, *Rozites casperata* (Fr.) P. Karsten’ (кам., маладз., смаляв., Сярж.-Яшк.). Заходняя лакалізацыя назвы сведчыць пра магчымае запазычанне польск. *turek* ‘від грыба з вялікай апушанай шапачкай арэхападобнай формы пясчанага колеру’ (Варш. сл.). Мяркуецца, што грыб нагадвае турэцкі галаўны ўбор, адсюль зыходнае *Turek*, гл. *турак*$_1$.

**Тура́ць**, *туря́ць* ‘ганяць’ (Нас., Юрч. Вытв.; чач., ЖНС, Бяльк.), ‘часта пасылаць’: *сюды-туды тураюць аднаго мяне за каждым дзелам* (Нас.), ‘насіць, калыхаць на руках’ (Сцяшк. Сл.), *тура́цца* ‘ганяцца’ (чач., Жыв. НС), *туря́цца* ‘тс’ (Юрч. Вытв.). Гл. *турыць*.

**Тура́я** ‘здаровая, дзябёлая жанчына або дзяўчына’ (Стома Сл.). Няясна. Нагадвае словаўтваральны варыянт *туры́ца*$_1$ ‘дзябёлая, мажная жанчына’ (Нас.), гл. Меркаванні пра ўтварэнне ад літ. *turė́ti* ‘мець, валодаць, трымаць, заключаць у сабе’ пры дапамозе суф. *-a-ja-*, параўн. *туляя́* ‘гультайка’, *меляя́* ‘пустамеля’, *цера́я* ‘тая, хто трэ лён’, *верзяя́* ‘пляткарка’, гл. Саўка, Запісы, 23, патрабуюць дадатковай аргументацыі.

**Турбава́ць** (*турбува́ць*, *турбова́ць*) ‘праяўляць клопат, непакоіць, хваляваць, трывожыць, не даваць спакою’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Бяльк., Шат., Касп., Байк. і Некр., Гарэц., Сцяшк., ТС, Растарг., Сл. ПЗБ, Скарбы, ЛА, 3), *турбава́цца*, *турбува́цца*, *турбова́цца*, *турбова́тыса*, *турбова́тысь* ‘клапаціцца’ (ЛА, 3, Сержп. Прымхі, Некр. і Байк., Растарг., Варл.). Паводле Я. Станкевіча, “польскі барбарызм” (Зб. тв., 2, 170) замест беларускага *руліцца* або *клапаціцца*. Ст.-бел. *турбация*, *турбацыя* ‘парушэнне спакою’ (1600 г.), *турбовати (торбовати)* ‘непакоіць’ (1507 г., ГСБМ) праз ст.-польск. *turbacja*, *turbować* ‘тс’ запазычаны з лац. *turbātio* ‘замяшанне’, ‘мяцеж’, *turbāre* ‘хваляваць, трывожыць, раз’ядноўваць’ < *turba* ‘бязладдзе’, ‘замяшанне’, ‘сварка’, *turbō* ‘вір’ (Брук-

нер, 585; Булыка, Лекс. запазыч., 41; ЕСУМ, 5, 679). Сюды ж *турбáца* ‘турбота’ (Шат.), *турбáц’я* (*turbácja*) ‘клопат’ (Федар. 4), *турбацца* ‘тс’ (Сержп. Прымхі), *турбáцыя* ‘турботы, клопат, ‘непакой’ (ТСБМ, Нас., Касп., Байк. і Некр., Сцяц., Нар. Гом., Сцяшк. Сл., Нік., Мядзв., Др.-Падб., Гарэц., Абабур.; дзярж., Нар. сл.; шальч., Сл. ПЗБ), ‘клопаты па справах’ (Нік., Оч.), *турбавáнне*, *турбóта* ‘заклапочанасць чым-небудзь, неадольнае жаданне ажыццявіць што-небудзь’, ‘пастаянная руплівасць’ (ТСБМ, Шат., Байк. і Некр.; віл., Сл. ПЗБ), *турбóты* ‘цяжкасць’ (Ласт.), ‘клапатлівасць, захады’ (Варл.), *турбóтны* ‘заклапочаны’ (Гарэц.), ‘клапатлівы’ (баран., гом., ЛА, 3), *турбóтлівы* ‘тс’ (Байк. і Некр.; баран., гом., ЛА, 3, Нар. Гом.), *турбáвы* ‘клапотны’ (Жд. 3), *турбаніна* ‘клопат, турбота’ (шальч., Сл. ПЗБ), *турбóваны* і *турбавáны* ‘заклапочаны’ (Байк. і Некр.).

***Турбавінка**, *турбовінка* ‘сцяблінка’ (лельч., Жыв. сл.), ‘сцяблінка ў памідорах’ (ПСл). Няясна.

**Турбáн**$_1$ ‘музычны інструмент тэорба’ (Нас.). Відаць, праз польск. *tyorba*, *teorban* ‘вялікая лютня’ з франц. *théorbe*, *téorbe*, *tuorbe* ‘тс’, італ. *tiorba* ‘тс’. Гл. *тарбáн*.

**Турбáн**$_2$ ‘усходні галаўны ўбор, палотнішча, абматанае вакол галавы’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Вруб.). Праз польск. *turban* ‘тс’, якое (магчыма, праз франц. *turban*) з тур. *tülbend* ‘муслін’ < перс. *dülbänd* ‘тканіна з крапівы’ (SWO, 1980, 783; Фасмер, 4, 136; Арол, 4, 129).

**Турбіна** ‘рухавік, які выкарыстоўвае рух вады, пары ці газу’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Вруб.), ‘вялікае кола ў вадзяным млыне’ (Скарбы$_2$). Праз рус. *турбúна* ці польск. *turbina* ‘вярчальны рухавік’ з франц. *turbine* ‘тс’ (Арол, 4, 118 – з ням. *Turbine*), якое штучна было ўтворана на аснове формы Р. скл. *turbinis* (SWO, 1980, 783; ЕСУМ, 5, 679) ад лац. *turbō* ‘вір, віхор, віхура, бура, вярчэнне’ ці *turbineus* ‘віхравы’, роднасных ст.-грэч. τύρβη ‘бязладдзе’, лац. *turba* ‘сумятня, натоўп’ (Чарных, 2, 272; Даза, 732).

**Турбінка** ‘жабрацкая торба’ (Сцяшк. Сл.). Да *торба* (гл.).

**Турбулéнтны** ‘бурлівы, бурны, хаатычны, віхравы (рух часцінак вадкасці, газу)’, *турбулéнцыя* ‘віхравы, хаатычны рух часцінак (газу, вадкасці)’ (ТСБМ). Запазычаны з польскай (абодва словы) ці з рускай (*турбулентны*) мовы, у якія слова прыйшло

з англ. ці франц. *turbulent* 'тс'; апошнія паходзяць ад лац. *turbulentus* 'бурлівы, бязладны, неспакойны', якое з *turbō* 'віхор, вір', 'кола' (Голуб–Ліер, 494; Даза, 732; ЕСУМ, 5, 679).

**Турбушы́ць** 'тармасіць, тузаць' (ТС). У выніку кантамінацыі лексем *турбава́ць* і *трыбушы́ць* 'тармашыць, будзіць'.

**Ту́ргаць** (*тургаці*) 'тузаць, торгаць': *озмуц душу будуц рваци тургаци* (Кітаб Луцкевіча). Параўн. польск. *turgać* 'няроўна цягнуць', *turgnąć* 'кульнуць, пакаціць'. Непалаталізаваны варыянт да *турзаць* (гл.) выклікаў меркаванне пра балцкі ўплыў, што ставіць пад сумненне Лаўчутэ (Балтизмы, 149). Борысь (654) польск. *turgać* 'качаць бялізну' выводзіць з **tr̥kati* 'стукаць', роднаснага літ. *tùrktereti* 'стукаць, грукаць'. Варыянтнасць вакалізму кораня слова, параўн. *торгаць*$_1$, *торзаць*, *тырзаць* (гл.), сведчыць, хутчэй за ўсё, пра анаматапеічны характар слоў.

**Турдзе́ль** 'тоўсты, непаваротлівы' (маг., Бел.-польск. ізал.). Няясна; параўн. рус. *турза́ль* 'несамавіты чалавек' (Фасмер, 4, 123: «цёмнае слова»).

**Ту́рзаць**, *ту́рзаті*, *ту́рзаты* 'тузаць (пра балячку, якая нарывае)' (Сцяц., Сцяшк. Сл., Скарбы, Федар. 4, Зайка Кос., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.; пін., Нар. лекс.; пін., ЖНС), 'нарываць' (слонім., Нар. словатв.), 'скубсці, разрываць' (Ласт.), 'тузаць лейцамі' (ТС), *ту́рзаті* 'тузаць каго-небудзь' (Чэрн.), *ту́рзаті* 'расцягваць кужаль на валокны' (пін., Шатал.), *ту́рзаць* 'торгаць, цягаць рыўкамі, рэзкімі рухамі', 'торгаць туды-сюды, імкнучыся адчыніць што-небудзь', 'нудзіць, рваць', 'не даваць спакою, дакучаць патрабаваннямі' (Сл. ПЗБ). Параўн. рус. *терза́ть* 'раздзіраць, рваць, мучыць', балг. дыял. *тôрзам* 'палоць', серб. *тр̏зати* 'тузаць, рваць', славен. *trzati* 'торгаць'. Відаць, не можа разглядацца асобна ад *тырзаць* (гл.) з варыянтнай асновай, што ўзыходзіць да **tr̥gati* з чаргаваннем фарманта і.-е. *-g-* / *-ǵ-*, параўн. ст.-слав. **тръзати** 'тузаць, рваць, раздзіраць' < прасл. **tъrgati* (Шустар-Шэўц, 1519; ESJSt, 16, 990), у выніку трэцяй палаталізацыі прасл. **tъrzati* (Сной$_2$, 790). Меркаванні пра запазычанне з літ. *tur̃šinti* 'страсянуць, патрэсці' (Весці АН БССР, 1971, 1, 96) непрымальныя па семантычных і фармальных прычынах, параўн. Смачынскі, 696. Сюды ж *турзы́каць* 'турзаць' (брасл., Сл. ПЗБ) з ускладненнем асновы суфіксам *-ык-*. Параўн. *торгаць*, *тургаць*.

**Ту́ркалка** ‘род жаб, якія крычаць бразгатлівым голасам’ (Нас., Байк. і Некр.). Гукапераймальнае ўтварэнне. Параўн. *ту́ркаць, туркацець* ‘тс’ (гл.).

**Турката́ць** ‘утвараць характэрныя для галубоў гукі, буркаваць’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Нар. Гом.), *туркота́ті* ‘тарахцець’ (беласт., Сл. ПЗБ). Сюды ж *туркаце́ць* ‘утвараць характэрныя для жабаў-жарлянак гукі’ (Скарбы), ‘грукатаць (коламі па шашы)’ (Др.-Падб., Гарэц., Байк. і Некр.); ‘ляскатаць’; *туркоті͡еті* ‘тс’, *ту́ркот* ‘грукат’ (Вруб.). Параўн укр. *туркота́ти* ‘буркаваць’, ‘аднастайна тарахцець, грукацець’, ‘мармытаць, нешта часта паўтараць’, польск. *turkotać* ‘тс’, славац. *trkotat’* ‘хутка і шмат сакатаць, балбатаць’, славен. *trketáti* ‘гучна ступаць’. Дзеяслоў з інтэнсіўным фармантам *-от-* (*-ат-*), утвораны ад гукапераймальнай асновы *туркаць*, гл. Борысь (654) лічыць, што адпаведны назоўнік, параўн. польск. *turkot* ‘грукат колаў’, вытворны ад дзеяслова *turkotać* ‘туркатаць’, а не наадварот.

**Ту́ркаўка**$_1$ ‘турок, птушка атрада галубоў з бурым апярэннем, *Streptopelia turtur, Streptopelia decaocto*’ (ТСБМ, Касп.), ‘дзікі голуб’ (ТС), *ту́ркоўка* ‘голуб-турок’ (Мат. Гом.), *ту́рчалка* ‘тс’ (там жа). Параўн. укр. *ту́ркавка* ‘голуб звычайны’, рус. дыял. *турлу́шка, турлы́шка* ‘турчаўка’, польск. *turkawka* і *trukawka* ‘тс’. Утварэнні, што грунтуюцца на перадачы буркавання *турр-турр* (Дарафееў, Птушкі), польск. *turr-turr-turr* і пад., гл. *туркаць*$_1$, *тарчаць*. Аналагічныя ўтварэнні ў іншых мовах: ст.-ісл. *turture*, ст.-англ. *turtur(e), turtla*, англ. *turtle*, в.-ням. *turtulatūba*, нова-в.-ням. *Turteltaube*, лац. *turtur* і інш. (Фасмер, 4, 124; Брукнер, 585; ЕСУМ, 5, 681; Борысь, 654).

**Ту́ркаўка**$_2$ ‘мядзведка звычайная, *Gryllotalpa vulg. hatr.*’ (Некр. і Байк., Касп., Мядзв., Скарбы, Рэг. сл. Віц.). Назва на базе гукаперайманння: насякомае выдае гукі, падобныя да *тур-тур*: *мядзвёдка ту́ркае* (гом., Арх. ГУ); гл. наступнае слова. Сюды ж з іншай суфіксацыяй *турка́ч* ‘мядзведка’ (гродз., беласт., Сл. ПЗБ) і назвы насякомых: *турка́ч* ‘лічынка хрушча’ (Сцяшк. Сл.), ‘цвыркун’ (дзярж., Нар. сл.), параўн. польск. *turkacz* ‘мядзведка’, якое Брукнер (585) лічыць вытворным ад *turkać*, што чаргуецца з *tark-* (гл. *таркаць*).

**Ту́ркаць**$_1$ ‘трашчаць’ (Байк. і Некр.), ‘буркаваць’ (ТС), ‘цвыркаць’ (трак., Сл. ПЗБ), ‘крычаць як жаба-туркалка ці турлушка’ (Нас.), ‘квакаць’ (ДАБМ, 303), *туркну́ць* ‘пратрашчаць’ (Байк. і Некр.), ‘праляцець з шумам’ (Бяльк.) Параўн. укр. *ту́ркати* ‘буркаваць’, рус. *ту́ркать* ‘крычаць’, польск. *turkać* ‘стукацець, грукаць’. Гукапераймальныя ўтварэнні, гл. ЕСУМ, 5, 681. Параўн. таксама *тура́ць*, *туркаце́ць*, *турча́ць* (гл.). Сюды ж *ту́рканне* ‘буркаванне шызага (‘сівога’) голуба’ (Нар. Гом.).

**Ту́ркаць**$_2$ ‘будзіць тармосячы’ (Нас., Байк. і Некр., Бяльк.), *ту́ркыць* ‘прымушаць устаць крыкам’ (Бяльк.; мсцісл., З нар. сл.), *ту́ркнуць* ‘прыкрыкнуць’ (Юрч. Фраз. 1), *ту́ркаты*, *ту́ркатэ* ‘будзіць, турбаваць, дамагацца’ (Сл. Брэс.; драг., З нар. сл.). Укр. *ту́ркати* ‘паўтараць адно і тое ж’, польск. *turknąć* ‘ударыць чымнебудзь у што-небудзь; штурхнуць’, славен. *tûrkati* ‘ціснуць, прыціскаць’, харв. *tȕrkati*, серб. *ту̏ркати* ‘працiскваць, прасоўваць’, дыял. *ту̏ркат* ‘напамінаць, каб нехта нешта зрабіў’, макед. *турка* ‘штурхаць, таўчы, падштурхоўваць’. Да прасл. **turьkati*, якое ад **turati* ‘гнаць; прыціскаць і інш.’ (Скок, 3, 525; Фурлан у Бязлай, 4, 250), гл. *турыць*. Сюды ж *ту́ркала* ‘той, хто робіць шум, лямант, не даючы спаць іншым’ (Нас., Байк. і Некр.), *ту́ркыньнік* ‘той, хто пакрыквае’ (Юрч. СНЛ), *ту́ркыньня* ‘пакрыкванне, каб прымусіць выканаць’ (Юрч. Вытв.).

**Туркі́-баркі́** – пра вялікі шлях, вялікую адлегласць (Нар. лекс., Вушац. сл., Рэг. сл. Віц.): *туркі́-баркі́ выхадзілі і нічога не знайшлі* (Гіл.), *туркі́* ‘тс’ (дзісн., Бел. дыял. 3), *туркі́-буркі́* ‘тс’: *туркі́-буркі́ прайшла, а дом найшла* (брасл., Ліцв.), сюды ж *ту́ркі-батуркі* ‘тс’: *ту́ркі-бату́ркі прайшоў і нічога не знайшоў* (пра грыбы) (глыб., Бабіч, вусн. паведамл.), *з турко́ў барко́ў* ‘невядома адкуль’ (полац., Волк.). Сюды ж арэальна блізкае рус. пск. *выходить турки́ и борки́* ‘многа хадзіць па лясах, па палях’. Параўн. польск. *Turki Mazurki obejść* – абысці частку свету (Варш. сл.). Рыфмаванае спалучэнне, у скарочаным варыянце толькі *туркі́*. Няясна. Польскае спалучэнне падаецца пад *Turek* ‘турак’, у мн. л. *Turcy*, аналагічна рус. *ту́рка* ‘Турэччына’: *я поеду в дальню турку* (СРНГ), тады *ту́ркі* ‘тс’, што магло ўспрымацца як ‘далёкая краіна’, а другія часткі – або як *бары́* (гл. *бор*, *баро́к*) ці ўласныя назвы. Канцавы націск у часткі першых слоў не выключае су-

вязь з *турóк$_2$* ‘закавулак’ (гл.). Беразовіч (Язык и традиционная культура, 172) звязвае з **turiti* «с семантикой толчка, касания» і варыянтнай агаласоўкай *тур- /тыр-*, параўн. рус. дыял. *на закатурках* ‘у баку ад чаго-небудзь’, *бутырки* ‘сялянскі двор па-за сялом’.

**Туркліс** ‘туркач, мядзведка, *Glottotalpa glottotalpa*’ (воран., Сл. ПЗБ). З літ. *turklỹs* ‘тс’ (Грынавяцкене, там жа, 5, 148).

**Ту́ркнуць** ‘затрубіць у вуха «турр!»’ (Касп.), ‘крыкнуць «тур-р-р» у вуха’ (зэльв., Нар. словатв.). Гукапераймальны дзеяслоў.

**Турку́ль** ‘клунак’ (Мат. Маг.). Няясна.

**Турку́с** ‘непразрысты каштоўны камень, біруза’ (Ласт.), ст.-бел. *туркусъ*, *туркосъ* ‘тс’ (1541 г.), *туркусовый* ‘блакітны, бірузовы’ (ГСБМ). Запазычана са ст.-польск. *turkus* ‘тс’, якое з ням. *Türkis* ‘тс’ (Булыка, Лекс. запазыч., 142); апошняе з франц. субстантываванага *turquoise* ад *turguois* ‘турэцкі’, г. зн. ‘турэцкі каштоўны камень’ (Duden. Etymologie, 872).

**Турку́ць** ‘туркач, мядзведка’ (шальч., Сл. ПЗБ). З літ. *turkùtis* ‘тс’ (Грынавяцкене, там жа, 5, 148). Параўн., аднак, польск. *turkuć* ‘тс’, якое Брукнер (585) разглядае як вытворнае ад *turkać* (гл. *туркаць$_1$*); паводле Бяднарчука (Językowy obraz WKL, 19), *turkuć* ‘від жука’ фіксуецца з канца XIV ст. у лацінскамоўных дакументах.

**Турла́й** ‘гарлач, збанок’ (Бяльк.), *ту́рлік* ‘гаршчочак’ (Мат. Гом.), ‘збаночак’: *ту́рлік мылыка́ прынесла* (Бяльк.). Няясна; магчыма, звязана з *турлік*, гл.

**Ту́рлачка** ‘голуб *Turtur auritus*’ (Мядзв.); сюды ж *турлу́шка* ‘глушэц’ (Бяльк.). Укр. *турлу́шка* ‘дзікі голуб туркаўка’, рус. смал. *ту́рлушка*, *турлы́шка* ‘тс’. У аснове іх ляжыць імітацыя буркавання галубоў, падобнага да *турлу*, *турлы*, параўн. *турлушка турлыча* (Дабр.), гл. *турлыкаць*. Гукапераймальныя ўтварэнні (Фасмер, 4, 124; ЕСУМ, 5, 681). Па аналогіі з імі *ту́рлушка* ‘жаба, што крычыць брынклівым голасам’ (Нас.), *турлу́шка* ‘мядзведка’ (Жыв. сл.), у фразеалагізме *глухая турлушка*, *глухая цяцера* – пра глухаватага чалавека (БНТ, Выслоўі).

**Ту́рлік** ‘кармакухня на ферме’ (мсцісл., З нар. сл.). Відаць, фанетычна і словаўтваральна адаптаванае ўкр., паўдн.-рус. *турлу́к*

‘памяшканне, сплецене і аблепленае глінай’, што запазычана з цюркскіх моў, параўн. тур. *torlug* ‘зямлянка’ (Фасмер, 4, 124; ЕСУМ, 5, 682; Анікін, 570).

**Турлíць** ‘трубіць, тарахцець, шумець (пра машыны)’ (пух., З нар. сл.). Гукапераймальнае ўтварэнне, параўн. *турлúти* ‘піць у вялікай колькасці’; рус. *турлúть* ‘спешна што-небудзь рабіць’, польск. *turlikać* ‘звінець, брынкаць’, н.-луж. *turlíkaś*, чэш. мар. *turlíkat* ‘няўмела іграць на музычным інструменце’; сюды ж, магчыма, ід. *tur(lík)as* ‘падсмейвацца, кпіць’, якое Астравух (Ідыш-бел. сл., 808) параўноўвае з польскім *turlíkać*. Гл. наступнае слова.

**Турлы́каць** ‘мармытаць’ (Мат. Гом.), *турлы́чыць* ‘бубніць’ (чач., ЖНС), ‘неразборліва гаварыць’ (Юрч., Мат. Гом.), ‘гаварыць пустое’ (Сцяшк. Сл.), ‘спяваць (пра жаўрука)’ (Юрч.). Параўн. укр. дыял. *турлúкати* ‘павольна ехаць, ісці’, рус. *турлы́кать* ‘буркаваць, квакаць; прыспеўваць, шумець’, польск. дыял. *turlikać* ‘звінець, брынчаць’. Гукапераймальнае ўтварэнне, генетычна звязанае з папярэднім (Фасмер, 4, 124; ЕСУМ, 5, 682; Праабражэнскі, 2, 20). Сюды ж *турлы́чка* ‘разумова адсталая асоба з неразвітай мовай’ (Юрч. Вытв.), *турлы́чык* ‘разумова абмежаваны чалавек, звычайна дзіця’ (Юрч. СНЛ); *турлы́чыньне* ‘неразборлівая гаворка’, ‘спеў жаваранка’ (Юрч.); *турлы́чыньнік* ‘той, хто гаворыць невыразна’ (Юрч. СНЛ). Параўн. з палаталізаваным *цюрлюва́ць* ‘спяваць (пра спеў жаваранка)’ (ТС), гл.

**Турлю́дзіць** ‘балбатаць надакучліва’ (мсцісл., З нар. сл.), ‘гаварыць лухту’ (Мат. Маг.). У выніку метатэзы з *трылюдзіць* ‘тс’, магчыма, пад уплывам папярэдніх слоў, гл *трылу́дзіць*.

**Турля́цца** ‘штурхацца, піхацца’ (Жд. 3, ТС). Параўн. укр. *турля́ці* ‘піхаць, ганяць’, рус. *турля́ться* ‘кідацца, піхацца’, польск. *turlać sie* ‘куляцца’, магчыма, сюды і славен. *turláti* ‘праколваць, пранізваць’, адносна якога Сной (Бязлай, 4, 250) сцвярджае: «вакалізм славянскага кораня няясны, магчыма, экспрэсіўны». Вытворнае ад гукапераймальнага па паходжанні *турліць*, гл. Польск. *turlać* разглядаюць як варыянт *tulać* ‘каціць, куляць’ (Варш. сл.). Сюды ж *турля́жка* ‘тачка, вазок на двух колах вазіць зямлю’ (Ласт.).

**Ту́рма**, *ту́рам*, *тур’ю* ‘гончы’, ‘бегучы’ (Нас., Гарэц.). Дзеепрыслоўі ад *туры́ць* ‘гнаць’ (гл.) па ўзоры *бе́гма* (< *бегчы*), *бягóм*, *ры́ссю*.

**Турма́** 'месца зняволення, астрог, вязніца, цямніца', 'знаходжанне ў зняволенні' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Касп., Ласт., Брасл. сл., Бяльк., Федар. 4; ашм., Стан., Сл. ПЗБ, Вушац. сл.), ст.-бел. *турма* (1377 г.) і *тюрма* 'турма' (1528 г., ГСБМ). Паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 35), старабеларускае слова было запазычана праз польскае пасрэдніцтва з ням. *Turm*, дакладней, з с.-в.-ням. *turm* са ст.-франц. **torn* < лац. *turrim* В. скл., якое са ст.-грэч. τύρρις, τύρσις 'умацаваны горад', 'дом з каменнымі сценамі' (Фасмер, 4, 137), параўн. у беларускім ідышы *turèm* 'вежа', *turme* 'вязніца, засценак, турма' (Астравух, Ідыш-бел. сл.). Аднак пры гэтым цяжка растлумачыць мяккае пачатковае *т-* у рэдкай старабеларускай форме, што пазней фіксуецца ў народных гаворках у выглядзе *т'урма́* (Вруб.), *цюрма́* (гл.), якія, магчыма, пад уплывам рус. *тюрьма́* 'тс'. Меркаванні пра паходжанне са ст.-цюрк. **türmä* 'турма' гл. Менгес, Language, 20, 2, 69; Арол, 4, 129. Кохман (Studia, 30) дапускае польскае пасрэдніцтва пры запазычанні з нямецкай мовы пры ўмове адаптацыі на ўсходзе (палаталізацыя), чаму пярэчаць па храналагічных прычынах Чарных (2, 277–279) і Гарбуль (246–247), спасылаючыся на больш раннія фіксацыі ў летапісных крыніцах з Пскова і Ноўгарада; параўн. і рус. арханг. *турма́* (СРНГ). Сюды ж *турэ́мнік* 'зняволены ў турме', 'астрожнік' (Сцяшк.), *турэ́мшчык* 'арыштант' (Бел. дыял. 3).

**Ту́рман**$_1$ 'голуб асобай пароды, які куляецца пры палёце' (ТСБМ). Укр. *ту́рман* 'тс', рус. *ту́рман* 'тс'. Цёмнае слова. Як здаецца, пэўныя падставы мае думка Фасмера (4, 124) пра гукапераймальнае паходжанне слова, параўн. рус. пск. *дать ту́рмана* 'ўпасці, паляцець уніз галавой, перакуліцца' (1858 г., СРНГ) пры *тури́ть* 'кідаць з вышыні' (гл. *турнуць*). Аднак большасць даследчыкаў схіляецца да ўтварэння на базе французскага дзеепрыметніка *tournant* 'які абарачаецца, круціцца' (паводле Гараева, 380: франц. *tourner* 'вярцець'), гл. ЕСУМ, 5, 683; Арол, 4, 119. Ідэя перакульвання пры найменні гэтага голуба пераважае, параўн. англійскую назву бірмінгемскіх ролераў *roller* ад *roll* 'вярцецца, катацца', *roll over* 'перакульвацца'. Паводле Сетарава (Тюрк. лекс. элем., 39), назва птушкі – цюркізм.

**Ту́рман**$_2$ *(ту́рмын)* 'дурань, неразвіты чалавек' (Юрч. Фраз.), 'дурыла, тупіца' (мсцісл., З нар. сл.). Няясна. Параўн. польск.

дыял. *turman* 'дрэнь, нягоднік, марнатраўца', *turmanić* 'марнатравіць, нішчыць', якія, відаць, ад *turma* 'группа, натоўп, вайскоўцы' (< лац. *turma* 'найменшы атрад конніцы ў Старажытным Рыме'), гл. Варш. сл., 7, 171; Брукнер, 585. Аднак па лінгвагеаграфічных прычынах запазычанне менш верагоднае, чым мясцовы наватвор. Параўн. *ду́рман* 'дурань' (ТС), *дурмана́й* 'тс' (Сл. ПЗБ) як магчымыя зыходныя "звонкія" варыянты слова, утвораныя пры дапамозе суф. *-ман*; звязана з *дурны́* (гл.).

**Ту́рмас** 'рэдзька' (Сцяшк. Сл.), *ту́рмус* 'турнэпс' (навагр., Жыв. сл., Васількова сп.). Лічыцца сапсаванай назвай *турнэпс* (гл.), параўн. *турне́пс*, *турнэт* 'тс' (Сл. ПЗБ.). Аднак здзіўляе падабенства з аддаленымі геаграфічна назвамі асм. тур. *turma* 'рэпа', тат. *torma* 'рэдзька'; венг. *torma* 'хрэн', з якіх выводзяць харв. *turma*, *turman* 'хрэн' (Скок, 3, 485), славен. *tûrman* 'тс' (Сной у Бязлай, 4, 250). Магчыма, пранікненне праз мову беларускіх татараў-гароднікаў? Параўн. напоўненую «ўсходнімі элементамі» лічылку: *Шалды-балды, / Бушмак – барада́, / Выйдзі вон з гарада́. / Турмас!* (бялын., Дзіц. фалькл.).

**Турмасі́на** 'мітусня' (дзятл., Сл. рэг. лекс.). Да *тармасіць* (гл.).

**Турма́чыць** 'задурваць' (Юрч. СНС). Не зусім ясна. Бліжэйшую крыніцу паходжання дзеяслова можна бачыць у рус. курск. *турма́к* – пра бесталковага чалавека (фіксацыя 1852 г., СРНГ), далейшыя сувязі не вызначаны. Параўн. *турман*$_2$.

**Турнава́ць** 'турбаваць, непакоіць' (докш., Бел. дыял. 2). Няясна; мажліва, да *турнуць* ці з сапсаванага *турбаваць* (гл.).

**Турні́к** 'гімнастычная перакладзіна, умацаваная на дзвюх стойках' (ТСБМ, Баршч.). Запазычана з рус. *турни́к* 'тс', утворанага з *турникет* (гл.) у пачатку XX ст. Першапачаткова ўзнікла ў цыркачоў, абазначаючы практыкаванне на гэтым гімнастычным снарадзе (Чарных, 2, 272–273; ЕСУМ, 5, 683; Арол, 4, 120).

**Турнікé́т** 'рухомая крыжавіна ў праходзе' (ТСБМ). З рус. *турнике́т* 'тс', якое з франц. *tourniquet* 'тс' < *tourniquer* разм. 'кружляць, хадзіць вакол', 'таптацца на месцы', 'круціцца' (Арол, 4, 120).

**Турні́р** 'спаборніцтва рыцараў у Сярэднявеччы, цяпер звычайна спартыўнае спаборніцтва' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рускую мову (*турни́р* 'тс') з нова-в.-ням. *Turnier*, якое са ст.-франц.

*to(u)rnei* 'тс' ад *torner* 'абарачацца' < лац. *tornāre* 'паварочваючы, тачыць выраб на варштаце' (Фасмер, 4, 124; ЕСУМ, 5, 683–684). Ст.-бел. *турнея* 'турнір, спаборніцтва' (XVI ст.), пазней таксама 'беспарадак, разлад' (ГСБМ), узыходзіць да ст.-франц. *tourneoi* 'рыцарскія спаборніцтвы паводле дакладных правілаў', а ст.-бел. *турнай* 'тс' (XVI ст.) – з чэш. *turnaj* 'спаборніцтва рыцараў', якое праз ст.-в.-ням. (*turnei* – баварскае вымаўленне *-aj*) прыйшло са ст.-франц. *tournoi* (праванс. *tornei*) 'тс' < *torner* 'абарачацца, вярцецца' (Булыка, Лекс. запазыч., 119; Голуб–Ліер, 494; Махэк$_2$, 661; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 401).

**Турну́ць** 'прагнаць аднекуль або куды-небудзь, адагнаць' (ТСБМ, Нас., Жд. 1, Растарг., Сержп. Прымхі, Мова Сен., Сл. ПЗБ), 'пужнуць' (Нас., Байк. і Некр.), 'звольніць з пасады; імкліва выгнаць' (ТСБМ, Юрч. Сін.), 'піхнуць, папхнуць, штурхнуць каго-небудзь' (ТСБМ, Нас., Касп., Байк. і Некр., Жд. 1, Варл.), *ту́рнуць* 'тс' (ТС), *турну́ты* 'прагнаць' (Сл. Брэс.), *турну́тэ* 'штурхнуць; хутка пагнаць' (драг., Нар. лекс.). Параўн. укр. *ту́рну́ти* 'пагнаць; штурхнуць, паслаць', рус. *турну́ть* 'прагнаць', польск. *turnąć* 'штурхнуць, выкінуць, пагнаць', чэш. мар. *turnút'* 'зыркнуць, дакрануцца', славац. *túrnut'* 'тс', харв. чак. *turnȁt* 'аддаваць', серб. *тӳрнути* 'штурхнуць, уткнуць', балг. *ту́рна* 'паставіць, кінуць, уткнуць', макед. *турне* 'піхнуць, уткнуць, зрынуць'. Прасл. **turnǫti*, суадноснае з **turati* (Арол, 4, 120), гл. *тура́ць*, *туры́ць*. Параўн. Махэк$_2$, 661 («няяснага паходжання»).

**Турнэ́** 'падарожжа па кругавым маршруце, паход, паездка' (ТСБМ). Праз рускую мову (*турне́*) з франц. *tournée* 'аб'езд, падарожжа па кругавым маршруце', якое з *tourner* 'абарачаць, вярцець, круціць' < лац. *tornāre* 'тачыць на варштаце' (Голуб–Ліер, 494; Даза, 716–717; ЕСУМ, 5, 683).

**Турнэ́пс** 'рэпа, *Brassica rapa* L.' (Кіс.), 'кармавая рэпа, *Brassica rapa rapifera*' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *турне́пс*, *турнэ́т* 'тс' (Сл. ПЗБ), *турнэ́пчык* памянш. 'тс' (віл., Лір. бел. вяселля), *турне́псіна* 'адна расліна або плод турнэпса' (Юрч. Вытв., Мова Сен.). Запазычанне з англ. *turnips* мн. л. 'рэпа': Swedish turnips 'турнэпс' праз польск. *turneps*, *turnep* або рус. *турне́пс* 'тс'.

**Туро́к$_1$** 'юрок або цыганчык – гульня і конусападобная цацка, якая круціцца на спічастым канцы, падганяецца маленькім

(з тоненькага раменьчыка) бізунком' (Нас., Яруш., Гарэц., Байк. і Некр.). Відаць, да *турацьь, турыць* 'хутка ганяць', гл. Насовіч (644) тлумачыць паходжанне гэтага слова гукаперайманнем.

**Туро́к**$_2$ 'закавулак' (Бяльк.), 'тупік, вуліца паміж хатамі' (Растарг., Пал.), 'вузкая прастора паміж печчу і сцяной, запечак' (касцюк., ЛА, 4; слаўг., ЛА, 5). Параўн. укр. дыял. *туро́к* 'заліў на рэчцы' (Чарапанава, Геогр.). Не зусім ясна. Магчыма, звязана з *турыць* 'заганяць, запіхваць', гл.

**Туро́к**$_3$ 'дзікі голуб-туркаўка, *Columbia turtur*' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.), слова перадае крык туркаўкі (галубкі). Гукапераймальнае ўтварэнне, параўн. таксама *ту́ркаўка*$_1$, *ту́рчык* (гл.).

**Туро́к**$_4$ 'мядзведка, *Glottotalpa vulg. hatr.*' (Жд. 1, Рэг. сл. Віц., Сл. ПЗБ). Гукапераймальнага паходжання, параўн. таксама *турчок, туркаўка*$_2$ (гл.). Параўн. ілюстрацыю: *турок – рыжэнькі, у зямлі тырчыць, турчыць ноччу на дворы* (Сл. ПЗБ).

**Туро́к**$_5$ 'конік (насякомае)' (Рэг. сл. Віц.). Гукапераймальнае ўтварэнне. Сюды ж, відаць, *туро́к* 'жарабя' (круп., Полымя, 1980, 8, 254), 'падзыўная назва жарабяці' (Мова Сен.). Ласкальна ад назвы насякомага?

**Туро́ля** – мянушка каровы (мёрск., Нар. сл.). Відаць, ласкальная назва жывёлы з суф. *-ол-я* (параўн. віц. *чарно́ля* 'чорнавалосая'), утвораная ад *тур*$_1$ (гл.). Параўн. *турыца*$_1$ (гл.).

**Туро́міна** – у каляднай песні: *Го-го-го, каза ... Не хади, каза, / Па туром, туром / Па туромини* (рагач., Рам. 8). Няясна.

**Туро́ра** 'балбатуха', *туро́рышча, туро́рка* 'тс' (Юрч. СНЛ). Гукаперайманні, параўн. *турукаць*, гл. Параўн. рус. *тарара́* 'балбатня', *торото́ра, таратора, тараторить* 'балбатаць' (Фасмер, 4, 22).

**Туро́сы** 'непраўдападобныя апавяданні' (Растарг., 41). Параўн. укр. *туроса́* 'шум? размовы? слух?' (Грынч.). Гл. *турусы.*

**Турпа́н** 'вадаплаўная птушка сямейства качыных, *Melanitta fusca* L.' (ТСБМ, Дарафееў, Птушкі), укр., рус. *турпан*, польск., чэш. *turpan* 'тс'. Няясна, параўн. Анікін, 570–571.

**Турпы́ль** 'кругляк, невялікі кавалак тоўстага бервяна' (Мат. Маг.), *турпулёк* 'кароткае паленца' (Бяльк.), *турпу́ль* 'тс' (Бяльк.). Няясна, магчыма, вынік перастаноўкі зычных з **трупыль*, што

да старaж-рус. *трупъ* ‘ствол дрэва, пень’, параўн. *труп* (гл.), або фанетычна змененае *тарбуль* ‘кавалак бервяна’, гл.?

**Тур-р** – пра свіст: *нейкыя птушычка тур-р, тур-р у лазе* (мсцісл., Нар. лекс.). Гукаперайманне; аналагічнага паходжання падзыўныя і адгонныя словы: *тур-тур* ‘падзыўныя для свіней’ (Мова Сен.), *турр* – пры гэтых словах свінні ўцякаюць дамоў з поля (Касп.).

**Тур-тур** ‘выгукі, якімі падзываюць свіней’ (Мова Сен.). Гукапераймальнае.

**Турсну́ць** ‘крануцца, уздрыгнуцца, рушыць’ (Кліх). Відаць, паралельнае ўтварэнне да *то́рскаць* (гл.), дзе назіраюцца пэўныя хістанні ў вакалізме асновы (*тор- / тур- / тыр-*) з т. зв. s-intensivum, параўн. *то́рнуць* ‘штурхнуць, піхнуць’ (гл.). Да *турнуць*, *турыць*, гл.

**Турсу́чыць** ‘трэсці, вытрасаць’ (Сцяшк. Сл.), ‘трасці, трусіць’ (калінк., Арх. ГУ). Параўн. рус. дан. *турсу́чить* ‘торгаць, тузаць, рваць’. Няясна (Фасмер, 4, 125). Можна дапусціць сувязь з папярэднім словам у якасці дзеяслова працяглага дзеяння.

**Турта́ць** ‘прыспешваць, падганяць’ (Ласт.). Пацюпа (Arche, 2007, 3, 195) узводзіць да *туры́ць* ‘гнаць’, відаць, з узмацняльным *-т-*. Параўн. чэш. *trtati* ‘спяшацца дробнымі крокамі’, якое Махэк$_2$ (654) параўноўвае з балг. *тъ́ртя* ‘кінуцца бегчы’ і лічыць паралельнымі ўтварэннямі з чэш. *drdati* (<**dъr-ta-ti* ‘драць’), параўн. *дырда* (гл.).

**Туру́каць** ‘грукаць’ (Арх. Федар.): *Ту-ру, ту-ру, па дуброўкі, / Ды там едзіць пан вялікі* (Куп. і пятр. песні), сюды ж ‘падаваць гукі (пра жаўну)’, *туруру́каць* ‘падаваць гукі, турчаць’ (ТС). Гукаперайманне.

**Туру́н**, мн. л. *туруны́*, *турунты́* ‘затор лёду на рацэ’ (Ласт.). Не ясна.

**Туруру́кацца** ‘гучна весці размову’ (Вушац. сл.), ‘падаваць гукі, турчаць’ (ТС). Гл. *турукаць*.

**Турусня́к** ‘затор, лёд на рэках і азёрах, нагрувашчаны стырчма’ (Ласт.). Па значэнні, відавочна, звязанае з рус. *торо́с* ‘заломы лёду каля берагоў рэк і на моры’, што з саам. *tōras* ‘лядовы бугор на беразе мора’ (Фасмер, 4, 86; Анікін, 557), аднак шляхі ўплыву

на яго ўтварэнне застаюцца няяснымі. Хутчэй гукапераймальнага паходжання, гл. наступнае слова.

**Ту́русы** 'грукат ад хуткай язды, тарахценне', 'пустое плявузганне' (Нас.), *туру́сы на калёсах* 'лухта, бязглуздзіца' (Юрч. Фраз.), *туру́сы*, *туро́сы* 'тс' (Растарг.), *турэ́сы* 'тс': *пачынае свае баі-турэсы* (С. Кухараў); відаць, сюды ж *тру́сты на калёсах* 'выдумкі' (Мат. Маг. 2), гл. Параўн. укр. *туроса́* 'шум, пагалоска, чутка?'; рус. *туру́с* 'нешта цікавае, займальнае', *туру́сы*: *турусы на колёсах развозить* (*разводить*) 'весці пустыя размовы'. Словы спрэчнага паходжання. Традыцыйна пад увагу прымаюцца спалучэнні са словам *калёсы*, хаця яшчэ Карскі (2–3, 187) зазначыў, што ў зборніку беларускіх прыказак Насовіча *го́ніць туру́сы* (трэск) *на коле́сах* 'гаворыць лухту' апошняе слова азначае 'воз', а не 'колы', параўн. тыпалагічна падобнае польск. разм. *bujda na resorach* 'лухта, хлусня' (Ніч, Wybór pism, 2, 157). Вывядзенне з лац. *turris ambulatoriae* 'вежа, якая рухаецца', г. зн. абложная вежа (Міхельсон, Рус. мысль, 2, 394), у існаванні якіх звычайна сумняваліся (Лепешаў, ЭСФ, 370), нягледзячы на меркаванне Трубачова (Дадаткі, 125; гл. таксама Арол, 4, 120), застаецца малапераканальным (Фасмер, 2, 125). Семантыка сведчыць хутчэй пра гукапераймальнае паходжанне, на што звяртаў увагу яшчэ Насовіч (644), гл. *турыць* 'гнаць'. Параўн. ЕСУМ, 5, 684.

**Турухта́н** 'батальён, балотная птушка сямейства сяўцоў *Philomachus pugnax*' (ТСБМ; Дарафееў, Птушкі; Цярохін, Охота), укр. 'птушка *Philomachus Merrem*', рус. 'птушка *Tringa pugnax*', дыял. *курухта́н* 'тс'. Не зусім яснага паходжання, відаць, гукапераймальнага (Праабражэнскі, 2, 21). Асоўскі (Stud. sławist., 153) выводзіць з рус. *курохтан*, *курухтан*, што з *куро́хта* (XVIII ст.) < **kuropta* < **kuropъta* (гл. таксама Сабалеўскі, РФВ, 64, 137; Фасмер, 2, 428), ідэнтычна да *курапатка*, што падаецца штучным.

**Ту́рхаць** 'штурхаць, піхаць, тармашыць' (Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ), *ту́рхаць*, *ту́рхацца* 'штурхаць каго-небудзь' (бярэз., ЛА, 2; Мова Сен.), *турха́ць* 'штурхаць, піхаць' (Касп.), *турхну́ць* 'штурхануць' (чашн., сен., ЛА, 2), *турхатня́* 'таўканіна, тузаніна' (Ласт.). Параўн. *катурхаць* (гл.), польск. *rozturchany* 'растрапаны' – адносна апошняга Варбат (Исслед., 64) мяркуе, што яно ўваходзіць у лік славянскіх лексем з анамальным рэфлексам *turt* (<**tъrt*),

для якіх магчыма запазычанне з балтыйскіх моў або пераўтварэнне славянскіх формаў пад уплывам роднасных балтыйскіх. Хутчэй за ўсё, да *турацъ*, *турыць* (гл.) з экспрэсіўным *-х-*, якое чаргуецца з *-к-*, параўн. *туркаць* 'штурхаць'. Гл. *штурхаць*.

**Турча́к** 'цвыркун хатні, *Gryllus domesticus*' (дзярж., Нар. сл.; трак., Сл. ПЗБ), 'мядзведка' (Варл., Сцяшк., Жд. 1, Сл. ПЗБ, Скарбы), *турчо́к* 'цвыркун' (брасл., паст., ЛА, 1; полац., Волк.), *ту́рчык* 'мядзведка' (Сцяшк.), 'голуб-туркаўка' (Байк. і Некр.), 'нейкая птушка' (Мат. Гом.). Да *турча́ць* (гл.) – дзеяслова гукапераймальнага паходжання: перадае працяглае гучанне, параўн. *туркаць* (гл.).

**Турча́ць**, *турчэ́ць* 'адзывацца гукамі (пра насякомых, земнаводных, птушак, хатніх жывёл і інш.)' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Варл., Растарг., Шатал., Сл. ПЗБ, Юрч. Вытв., Мат. Гом.), 'муркаць, варкатаць' (Байк. і Некр., Растарг.): *кошка турчы́ць* (Сержп. Прымхі), 'крычаць, шумець' (Абабур.), 'гаварыць пустое' (рагач., Мат. Гом.), 'туркатаць, тарахцець, татахкаць (пра гукі машын у час работы)' (ТСБМ, Бяльк., Байк. і Некр., Сцяшк., ДАБМ, камент., 895; ашм., Сл. ПЗБ), 'цуруліць' (жлоб., добр., ветк., Мат. Гом.), 'дзюрчаць' (воран., Сл. ПЗБ, Юрч. Сін.), *турчы́ць* 'бурліць (пра бягучую ваду)' (в.-дзв., воран., слонім., клец., слаўг., чавус., ЛА, 2). Да *ту́ркаць$_1$* (гл.), дзеясло́ў працяглага дзеяння на гукапераймальнай аснове. Параўн. Фасмер, 4, 126; ЕСУМ, 5, 681. Сюды ж вытворныя *турча́нне* 'пранізлівы крык жабаў' (Нас.), 'балбатня, пустое плявузганне' (Нас.), *турчэ́нне* 'птушыны свіст' (Юрч. Вытв.), *турчо́к* 'цвыркун' (смарг., Шатал.; полац., ЖНС; в.-дзв., лудз., Сл. ПЗБ, Рэг. сл. Віц.), *турчу́к*, *ту́рчык* 'мядзведка' (Сл. ПЗБ), *ту́рчык* 'голуб, туркаўка' (Байк. і Некр.), *турчы́ца* 'жаба, якая ўвесну моцна квакае' (Сцяшк. Сл.), *ту́рчалка* 'туркаўка' (лельч., Мат. Гом.).

**Туршкане́нна** 'хутка' (Мат. Гом.). Няясна, відаць, выводзіцца з **туршком* (гл. *турхаць*), аналагічна да *штуршком* 'адным рухам' (*штуршок*, ад *штурхаць*, гл.) з экспрэсіўнай суфіксацыяй, параўн. *страшэ́нна*. Аднак незвычайнае спалучэнне зычных сведчыць пра магчымы балцкі ўплыў, параўн. літ. *tùrškinti* 'рваць, драць', *turškineti* 'плюхаць' і пад.

**Туры́гаць** (*туры́гаты*) ‘кляваць, торкаць (пра рыбу)’ (кам., Жыв. НС). Да *то́ргаць$_1$* (гл.), аснова змененая для перадачы шматкратнага дзеяння. Параўн. *торыгаць*, *тарыгаць* ‘турзаць’ (гл.), чэш. мар. *terygat’* ‘перасяляць’, славац. *terigat’ sa* ‘цягнуцца, з цяжкасцю ісці’ – апошнія Махэк$_2$ (510) разглядае як вынік метатэзы з *redygat’*, што няпэўна; Кралік (610) дапускае кантамінацыю. Варыянтнасць вакалізму характэрная для рэфлексаў прасл. **tъrg*, **tьrg*, параўн. Варбат, Исследования., 64.

**Ту́ры-ту́ры** (прыпеўка): *Туры-туры-туры. / Пайшлі куры на хаўтуры* (арш., Дзіц. фальклор). Гукаперайманне (імітацыя акампанементу на музычным інструменце?), параўн. *тыры-тыры*, гл.

**Туры́ст** ‘падарожнік, вандроўнік’ (ТСБМ, Вруб.), *туры́сты* ‘тс’ (Некр. і Байк.). Запазычанне праз рускую (*тури́ст*) або польскую (*turysta*) мову з франц. *touriste* ‘тс’, што з англ. *tourist* ‘тс’ (Арол, 4, 119). У аснове франц. *tourner* ‘вярцець, абарочваць’, гл. *тур$_2$*, *турнэ*. Сюды ж *туры́зм* ‘падарожжы, вандроўкі для адпачынку і ў пазнавальных мэтах’ (ТСБМ) – запазычана праз рускую мову (*туризм*) з франц. *tourisme* ‘прагулка, паездка’, *туры́стыка* ‘тс’ (Вруб.) – праз польск. *turystyka* ‘занятак турызмам’.

**Туры́ца$_1$** ‘дзікая карова’; ‘рослая, дужая дамашняя карова’, перан. ‘мажная, здаровая жанчына’ (Нас.), *ту́рыца* ‘карова’: *пайду́ ту́рыцу заганяць* (Рэг. сл. Віц.), *туры́ця* фалькл. ‘самка тура’ (драг., Сл. ПЗБ). Насовіч (644) лічыў назву вытворнай ад *тур* ‘дзікі вол’ (гл. *тур$_1$*), параўн. укр. *тури́ца* ‘самка тура’, рус. фалькл. *тури́ца* ‘эпітэт свахі’, польск. *turzyca* ‘шэрсць на некаторых жывёлах’, ‘вясенняя ўрачыстасць’, харв. дубр. *тȕрица* ‘карнавальная маска на Грамніцы’, адносна апошняга Вук Караджыч дапускае сувязь з назвай бога вайны *Тура* (Сабр. дела, 17, 166); славац. *Turice* ‘Сёмуха’ Вайтыла-Свяжоўска (Зб. Слаўскаму, 481) лічыць плюралізаванай формай з суф. *-ica* ад прыметніка **turъjь* ‘тураў, які датычыць тура’; паводле Краліка (634), назва паганскага свята прыходу вясны або лета, прысвечанага зверу, які сімвалізуе сілы прыроды.

**Туры́ца$_2$** ‘шабельнік балотны, *Comarum palustre* L.’ (бяроз., Нар. лекс.), *туры́ця* ‘тс’ (драг., Бел. дыял. 1), *туры́ца* ‘шляз, *Aithaea officinalis* L.’ (лун., Арх. Вяр.), *туры́ца* (травы) (Сержп. Грам.): *ад крываўкі добрэ піць настой у гарэлцы карэння турыцы*

(Сержп. Прымхі), *туры́ца*, *туры́ця* ‘вадаперыца, вадзяны кураслеп, *Hottonia palustris* L.’ (ганц., драг., Сл. ПЗБ). Няясна; назва аб’ядноўвае розныя расліны, пераважна балотныя, фармальна звязаныя з *тур*$_1$, *турыца*$_1$, аднак матывацыя застаецца да канца не высветленай, параўн. укр. *тури́ця* ‘асака, *Carex* L.’, польск. *turzyca* ‘тс’, серб., харв. *ту̏рица* ‘павіліца, *Galium* L.; панікніца, *Geum* L.’. Аўтары ЕСУМ (5, 680–681), спасылаючыся на польск. *turza trawa*, *turzowa trawa* ‘асака’, лічаць, што з-за сваёй жорсткасці яна магла быць кормам толькі для такіх буйных жывёл, як тур або зубр, параўн. польск. *turówka* ‘зуброўка’; перанос назвы на іншыя расліны мае іншую матывацыю (магчыма, колер травы, падобны да поўсці звяроў, як паказчык эфектыўнасці ўздзеяння пры лячэнні і інш.).

**Туры́ць** ‘гнаць, прымушаць хутка рабіць што-небудзь, імчаць’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Гарэц., Бяльк., Яўс., Ласт., ТС, Варл., Волк., Растарг.), ‘гнаць, штурхаць’ (Вушац. сл.), ‘везці нешта груваасткае’ (ТСБМ, Кал.), ‘бязмэтна траціць, раскідаць’ (Растарг.), *ту́рыць* (*ту́рытсь*) ‘прымушаць, паганяць’ (Шпіл.), ‘гнаць (пра самагонку)’ (Зайка Кос.), *ту́ріць* ‘рабіць нешта непрыстойнае’: *культура – дзе стаіць, там і туря* (ветк., Palaeoslavica, 23, 1, 173), *туры́ты* ‘гнаць’ (Сл. Брэс., Арх. Вяр.; драг. З нар. сл.), *туры́цца* ‘гнацца, бегчы следам, даганяючы’ (Рэг. сл. Віц.). Параўн. укр. *ту́рити* ‘гнаць, выганяць’, рус. *тури́ть* ‘падганяць, гнаць, пудзіць’, польск. дыял. *turać* ‘абарочваць, каціць’, каш. *tuřëc* ‘хутка ехаць’, серб., харв. *tȕřiti* ‘штурхаць, піхаць, класці’, славен. *túrati* ‘піхаць, тузаць’, макед. *тури* ‘пакласці, паставіць’, балг. *ту́рям* ‘ставіць, класці’. Прасл. **turiti* і **turati* ‘піхаць, паганяць, гнаць’ без пэўнай далейшай этымалогіі (SEK, 5, 181); паводле Глухака (645), узыходзіць да і.-е. **tour-*, няпэўна.

**Турыя́**, *турые́*, *тырые́*, *тырыя́*, *тур’е́* ‘пілавінне’ (кобр., ЛА, 1), *тыруя́* ‘тс’ (драг., іван., Сл. Брэс.). З прасл. **ter-ti* ‘церці’, да асновы якога далучаўся суф. *-ьje* > **terьje*, у якім *-e-,* паводле заходнепалескага вакалізму, было заменена на *-ы-*, а апошняе перайшло ў *-у-*. Параўн. *труя́* (гл.), укр. *тури́ця* ‘дробныя часцінкі дрэва, якія выпадаюць пры свідраванні’ (ЕСУМ, 5, 681).

**Турэ́ц** ‘звужанае рэчышча са шпаркім цячэннем вады’ (дзісн., Ластоўскі, Выбр. тв., 421), ‘быстрыня, струміна, хуткая плынь

у рацэ' (Ласт.), 'прыспешаная плынь вады, сціснутая з двух бакоў каменнымі стромкімі лехамі' (У. Дубоўка). Суфіксальнае ўтварэнне ад *турыць* 'гнаць, імчаць' (Пацюпа, Arche, 2007, 3, 195). Санько (Бел. гіст. агляд, 2007, 14, 1–2, 335) бачыць паралель у назве рэчкі *Тур* або *Тураўлянка*, якая, па паданні на Тураўшчыне, раней называлася Струмень, параўн. санскр. *turá* 'хуткі' і фрак. *strumá*, *strumón* 'плынь, рака'.

**Турэ́цкі** 'які мае адносіны да Турцыі або яе жыхароў' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *туре́ц'кі* 'тс' (Вруб.), ст.-бел. *турецкий*, *турецский*, *туречкий* 'тс' (1565–1566 гг.), 'састаўная частка некаторых батанічных назваў' (1599 г., ГСБМ), у пераносных значэннях таксама 'чужы, незнаёмы': *Я адну дачку маю – / Тую замуж аддаю / Да ў турэцкую зямлю* (бешанк., Песні нар. свят), 'чужаземны': *turéck'iie ôrý^e xi* 'грэцкія (валоскія) арэхі' (лун., Арх. Вяр.), часам у значэнні 'дзікі, непрыемны, шкодны': *турэ́цкі баго́н* 'нейкая расліна, падобная на багон' (ТС), або, наадварот, *турэ́цкі рамо́нак* 'рамонак пахучы' (лельч., Нар. лекс.), гл. спецыяльна пра ўжыванне т. зв. ксенонімаў Беразовіч, Язык и традиционная культура, 433–436 і інш. Ва ўсходнеславянскіх мовах лічыцца запазычаннем з польск. *turecki* (вытворнае ад *Turek* 'турак'), як і сама назва краіны *Турцыя* (польск. *Turcja* з новалац. *Turcia*), гл. Фасмер, 4, 126; Гарбуль, Полонизмы, 184; Арол, 4, 119; відавочна, пранікненне праз старабеларускую мову (Золтан, SSlav., 34, 1–4, 113–116). Аўтары ЕСУМ (5, 683) дапускаюць утварэнне непасрэдна ад *ту́рки* (<**турец*), як і *Туреччина*, *турський*, што да тур. *Türk* 'турак, цюрак', параўн. і ст.-бел. *турский* 'турэцкі' (1516 г., ГСБМ). Параўн. *туркі-баркі*, гл.

**Турэ́чынка** 'крынічнік доўгалісты, *Veranica longifolia* L.' (гродз., Кіс.). Магчыма, да *Турэччына*, *турэцкі* (гл.) з актуалізацыяй значэння 'незвычайны, не падобны да іншых'. Пастусяк (Pogranicze, 266) звязвае з горкім смакам зелля, гл. папярэдняе слова. Лучыц-Федарэц (пісьм. паведамл.) дапускае народнаэтымалагічнае збліжэнне з *урокі* (гл.) з «прыстаўным» *т-* у лексеме **урэ́чынка*, роднаснай чэш. *úročník* '*Veronica officinalis*' < *úřek* 'урокі', параўн. рус. *урочная трава* 'трава ад сурокаў'.

**Тусава́цца** 'змяняцца па чарзе, чаргавацца' (Мова Сен.). Гл. *тасаваць*$_1$.

**Тусі́ць** ‘гасіць, тушыць (пажар)’ (Нас.). У выніку кантамінацыі дзеясловаў *тушыць* і *гасіць* (гл.).

**Туск** ‘выпат, пот’ (пін., Нар. лекс.), ‘пот, вільгаць’: *гарачка, аж туск з его іде* (Альп.). Няясна. Найбольш блізкім фармальна і семантычна з’яўляецца серб.-харв. *ту̏ска* ‘вытапкі, выжаркі’, якое Скок (3, 507) выводзіць з *trȕska* ‘шлак, нагар’, параўн. таксама рус. бранск. *туска́* ‘невялікая, малая колькасць’ (СРНГ). Далёкія семантычна рус. дыял. *туск* ‘змрок, бяльмо’ < прасл. **tǫskъ* (Страхаў, Palaeoslavica, 22, 1, 224), *ту́ски* ‘вочы’, як здаецца, з’яўляюцца выпадковымі супадзеннямі. Гл. таксама рус. *туск* ‘туман, цемната’, гл. Фасмер, 4, 126 (з няпэўнай этымалогіяй).

**Ту́склы** ‘цьмяны, без бляску’ (Ласт.), ‘бледны’ (Вруб.). Параўн. укр. *ту́склий* ‘цьмяны, мутны; смутны’, рус. *ту́склый* ‘цьмяны, змрочны; непрыкметны; падслепаваты’. Т. зв. элавая форма да дзеясловаў *тускнуць, тускнець* (гл.).

**Тускне́ць** ‘бляknуць, пагасаць, марнець’ (Некр. і Байк.), ‘губляць яркія фарбы, бляск, выразнасць (пра вочы)’ (Адм.), *тусьне́ць*, *тусьні́ць* ‘цямнець, траціць бляск’, *ту́скнуць*, *ту́снуць* ‘тс’ (Ласт.); ‘няярка гарэць’: *Jak dròwa й pièczy tùsknić, to budzie abo adlèha, abo doždž* (Пятк. 2). Параўн. укр. *тускні́ти* ‘рабіцца цьмяным, змрочным’, рус. *тускне́ть, ту́скнуть* ‘тс’, серб. *натуштити* ‘пакрыцца воблакамі’. Магчыма, сюды ж в.-луж. *tusknyć* ‘стукнуць, пляснуць’, якое Шустар-Шэўц (1561) лічыць заснаваным на гукаперайманні і вытворным ад *tuskać* ‘стукаць, пляскаць’, параўн. таксама укр. *ту́сати* ‘біць, калаціць’. Мяркулава (Этимология–1976, 96), разглядаючы серб. *ту̏ска* ‘выжаркі, вытапкі’, узводзіць яго да і.-е. **(s)teu̯-* ‘біць, калаціць’. Лічыцца роднасным ст.-сакс. *thinsti* ‘змрочны, хмурны’, ст.-фрыз. *thiūstere*, англ.-сакс. *đīestre* ‘тс’, арм. *tʻux* ‘чорны, карычневы, цёмны’ (< **tusk-*) (Фасмер, 4, 126; Арол, 4, 121). Гл. таксама *туск*.

**Тускно́та** ‘маркота, смутак, сум’ (Байк. і Некр., Адм.). Ранняе запазычанне з польск. *tęsknota* ‘туга, смутак, журба’, пра што сведчыць замена другаснага насавога на *у* (Булыка, Выбр. пр., 122) < **tъskn-ota* < **tъsknъ* ‘смутны, журботны, тужлівы’, ‘варты жалю, мізэрны’ (гл. папярэдняе слова), што дало натуральным шляхам прыметнік *ckny* ‘тс’. Ст.-польск. *tesknić sobie* ‘быць у роспачы, засмучаным’, дзе пазней пад уздзеяннем *-n-* галосны

гук -*е*- стаў насавым гукам > *tęsknić* (Борысь, 632), магчыма, было крыніцай ст.-бел. *тескнети* 'тс'.

**Тусме́ць** (*тусмѣць* без тлумачэння, Шымк. Собр.) 'марнець ад гора, перажыванняў' (Юрч. Вытв.), *тусмі́ць* 'даводзіць да перажыванняў, гора' (Юрч. СНЛ), *тусме́нне* 'марненне' (Юрч. Вытв.), *ту́сменны* 'цьмяны' (чач., Жыв. НС), параўн. рус. разан., арл., цвяр. *тусме́ць* 'цямнець, губляць бляск; змяркацца', смал., бран. *тусмя́ный* 'зямлісты; змрочны, пануры' (СРНГ). Другаснае ўтварэнне ад *туснець*? Гл. *тускнець*.

**Тусня́** разм. 'зборышча людзей па інтарэсах з мэтай абмену думкамі; хаўрус, зносіны, шырокая кампанія' (Свабода, 2003, 12 лістап.), 'таўкатня, суталака': *Мы неаддзеленыя ад жыцця, ад вялікай тусьні* (Наша Ніва, 2011, 27 лют.); сюды ж *тусо́ўка* слэнг. 'сустрэча моладзі з мэтаю баўлення часу' (Рамза, Бел. гутарк.), 'група людзей, звязаных агульнымі інтарэсамі, кампанія' (2004 г.), 'любыя нефармальныя адносіны' (1988 г.) (Улас.), *тусава́цца* 'збірацца (аб кампаніі)' (КТС). Калька пранікненняў з рускай мовы (*тусо́вка* 'тс', *тусова́ться* 'тс'), якія ўзыходзяць да турэмна-блатнога жаргону: *тусова́ть* 'біць, збіваць', *тусова́ться* 'збірацца', 'хутка адыходзіць, змывацца', *тусо́вка* 'бойка', 'скандал' і 'кампанія', гл. Грачоў–Макіенка, Истор.-этим. сл., 163–166. Першапачаткова ад *тасова́ть*, *тасо́вка* (Арол, 4, 121), да семантыкі сучаснага слова параўн. смал. *тусова́ть* 'мітусліва, трывожна рухацца', *тусова́ться* 'многа рухацца' (СРНГ), параўн. *тасава́ць*, *тасува́цца*, гл.

**Тустэ́п** 'амерыканскі парны бальны танец і музыка да яго' (ТСБМ, Мова Сен.). Ад англ. *two steps* 'два крокі'.

**Тусува́ць** 'апрацоўваць гліну рукамі' (шкл., ЖНС), 'тасаваць, мяшаць карты перад тым, як раздаваць на рукі для гульні' (Бяльк.). Да *тасаваць*$_{1,2}$, зменена пад уплывам усходнебеларускай "гармоніі галосных", параўн. дыял. *Мугулёў* і пад.

**Ту́сцень** 'бабровы тлушч' (Ласт.). Магчыма, роднаснае серб. *ту̏ска* 'вытапкі, выжаркі', гл. *туск*. Аднак больш верагодна ўзыходзіць да прасл. **tъlstъ* (**tl̥stъ*), якое ў шэрагу беларускіх гаворак рэалізавалася як *туст*-: *ту́сты* 'тоўсты, тлусты' (Цыхун, JФ, 56, 1386–1387), параўн. *за́таўка* або *за́тука* 'заправа стравы з якога-колечы туку, найчасцей расцёртага сала' (Ласт.), серб.

*тўст*, харв. *tüst* ‘тучны, тоўсты’. Архаізм, праформу якога можна прадставіць як **tļstъ-enь*; адносна суфікса як індаеўрапейскай спадчыны гл. Слаўскі, SP, 1, 125.

**Тусю́тка** ‘выклічнік для падзывання каровы’ (дзісн., РС, 2014, 3, 36). Гукапераймальнае, параўн. укр. *тусь-тусь* ‘падзыўныя словы для свінні’, рус. *ту́ся* ‘адгоннае слова для каровы’, *тусе́нька* ‘карова (у мове дзяцей)’ (СРНГ). Параўн. палаталізаванае *цясю́тка* ‘падзыўная назва для каровы’, *цёсь-цёсь* ‘падзыўныя словы для каровы’ (Мова Сен.), гл.

**Тут$_1$** ‘у гэтым месцы’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., Касп., Мал., ТС, Шымк. Собр., Сл. ПЗБ, Вруб., Федар. 4, Сержп. Прык.; докш., карэліц., Янк. Мат.); ‘у гэты час, тады’ (ТСБМ), ст.-бел. *тутъ* ‘у гэтым месцы’, ‘сюды’, ‘тады’, *ту́то*, *ту́та* ‘тс’ (ГСБМ). Укр. *тут*, рус. *тут* ‘тс’, стараж.-рус. *тутъ* ‘тут’, ‘там’, ‘пры тым’, ст.-рус. *тутъ* ‘сюды, у гэтае месца’, польск. дыял. *tut* ‘тут, тады’, ст.-чэш. і мар. *tut’* ‘тс’, славац. *tuto*, харв. *tute* ‘тут’. Прасл. **tu-tъ* / **tu-to*, **tu-ta*, утворанае ад прыслоўя **tu* ‘тут, у гэтым месцы’, якое мае першапачатковую форму М. скл. адз. л. займенніка *tъ* ‘гэты’ (Борысь, 652) і ўказальнага займенніка *tъ (ta, to)* (Фасмер, 4, 126; Праабражэнскі, 2, 22–23; Брукнер, 583; Махэк$_2$, 659; ESSJ SG, 697–698; ЕСУМ, 5, 686). Сюды ж: *ту́тка* ‘тут’ – *тут*, узмоцненае часціцай (суфіксам) *-ка* і яго варыянтамі (ашм., смарг., Сл. ПЗБ; ушац., Нар. лекс., ТС; в.-дзв., беш., ЛА, 2), *ту́ткы* ‘тс’ (драг., кобр., ЛА, 2), *туцька* ‘тс’ (полац., ЛА, 2); *тут жа* ‘адразу, без затрымкі’ (Юрч. Сін.); у складзе злучніка *тут... тут* ‘то... то’ (*тут у зямлю рукі, тут к агню*); ‘толькі’, ‘во... во’ (*тут прывезлі швейныя машыны – тут разабралі*) (Янк. 2); *ту́та* ‘ў гэтым месцы’, ‘тут’ (Нас., Бяльк., Яўс., Сцяшк. Сл., Гарэц.; в.-дзв., пруж., Сл. ПЗБ; лун., Шатал., ЛА, 2), ‘вось тут’ (Растарг.), *туто* (бяроз., ЛА, 2), *ту́ты* ‘тут’ (Нас.); прыслоўі, узмоцненыя часціцамі *-ka / *-ki: *ту́така* ‘тут’ (Нас., Бяльк., Шат., Касп., Байк. і Некр., Сцяшк., Жд. 1, Скарбы, Ян.; калінк., З нар. сл., ПСл, Гіл., Сл. Брэс., Мат. Гом.; івац., Нар. сл., ЛА, 2; петрык., Яшк. Мясц.; люб., Жыв. НС; карэліц., докш., Янк. Мат., Сл. ПЗБ); *ту́такі* ‘тут’ (Ян.); *ту́такі* / *ту́тэка* ‘тс’ (Мат. Гом.), *ту́тыка*, *ту́тыкі* ‘тс’ (Яўс.); *ту́тыка* ‘вось тут’ (кобр., Нар. лекс.), *ту́тэка* ‘тут’ (пін., там жа), *ту́тэка*, *ту́тока* ‘тут’ (ТС), *ту́тыка* ‘тс’ (Сл. Брэс.); прыслоўі, узмоцненыя

дзвюма (звычайна ласкальна-памяншальнымі) часціцамі (ці суфіксамі): *ту́та-ч-ка*, *ту́ты-ч-ка*, *ту́тэ-ч-ка* 'тс' (Сл. Брэс.; лун., Шатал.), *тута-ч-кі* 'тс' (жытк., Мат. Гом.); *ту́тачка*, *ту́тачкі*, *тутычка*, *тутычкі*, *тутъчка*, *тутэчкы* (гродз., палес., ЛА, 2); *тутацька* 'тс' (бых., Яшк. Мясц.; круп., Сл. ПЗБ, Вушац. сл., Сцяшк. Сл., Жд. 3, Яўс.), *ту́тыцька* 'тс' (барыс., Сл. ПЗБ, Жд. 3, Яўс., Бяльк.), *тутацькі* 'тс' (бых., Мат. Гом.; талач., Шатал.), *ту́тыцькі* 'тс' (Яўс.), *ту́тацькі*, *ту́тыцька*, *ту́тыцькі*, *ту́тыцікі*, *ту́тъцька* (віц., маг., ЛА, 2), – адносна форм з *ц'* Карскі (2–3, 69) меркаваў пра замену *ч'*, а не *т'*, паколькі гэтыя формы вядомы толькі на поўначы Беларусі. Пацюпа (Arche, 2007, 3, 204) працівапастаўляе падзвінскае *-цьк-а* падняпроўскаму *-тк-а*; гэта датычыць, відаць, сцягнутай формы *та́цька* (ушацк., там жа), якое з *ту́тацька* і *ту́цька* 'тс' (полац., там жа). Да ласкальна-памяншальных адносяцца формы *ту́тэнька* (жаб., ЛА, 2), *ту́танькі* 'тс' (калінк., З нар. сл., Сцяшк. Сл.) і *ту́тэнькі* 'тс' (івац., Сл. Брэс.); з *ва*-фармантам (з указальным значэннем) зафіксавана *ту́това* 'тут, блізка' (Клундук), *тутакава* 'тс' (Сцяшк. Сл.; свісл., Шатал.).

**Тут$_2$** 'мера, ступень': *вы так ядзіцё, што туту не знаеце* (лёзн., Рэг. сл. Віц.). Няясна.

**Тут$_3$** 'морва, *Morus* L.' (Кіс.). З рус. *тут* 'тс', якое з цюркскіх моў: тур. *tut*, *dut*, азерб., тат., чагат. *tut* 'тутаўнік', апошняе з араб. *tūt* 'тс' (Фасмер, 4, 126; Міхельсон, 681; ЕСУМ, 5, 686).

**Ту́тай** 'тут' (Нас.; Сл. ПЗБ), *ту́тэй* 'тут', 'сюды' (Нас., Сцяшк.), *тутэ́й* 'тс' (Мат. Гом.). З польск. *tutaj* 'тс', утворанага ад *tuta* 'тут' і займенніка *-j* (< прасл. **jь*), як *dzisiaj* < *dzisia*, *wczoraj* < *wczora* (Борысь, 655). Гібрыд з *ту́така* і *ту́тай* – *ту́такай* 'тут' (беласт., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), з часціцай *-ка*: *ту́тайка* 'тс' (Сцяшк. Сл.).

**Ту́таськi** 'тутэйшы' (ветк., Мат. Гом.). Утворана па ўзоры *на́ськi*, гл. *наскі* (< *наш-скі*), з іншай суфіксацыяй – *тутэ́йсьні* 'тс' з менай *-шн-* > *-сьн-* (аб гэтым гл. Карскі 1, 359–361), гл. *туташні*.

**Ту́таўнік** 'морва, шаўкоўніца', 'драўніна гэтага дрэва' (ТСБМ). З рус. *туто́вник*, якое ў выніку семантычнай кандэнсацыі з *ту́товый куста́рник (ту́товое де́рево)*.

**Ту́тачка** *(ту́тычка)* ‘курачка’ (Яўс.). Ласкальнае падзыўное для курыцы, гл. *ту-ту-ту*$_1$.

**Ту́тачы** ‘тут’ (Сцяшк., Сл. ПЗБ; навагр., ЛА, 2), *ту́точы* ‘тс’ (Кліх.), *ту́тачы* ‘зусім блізка’ (стол., Жыв. сл.). Да *ту́та* (гл.) пры дапамозе партыкулы (суф.) *-чы*, паходжанне якога не зусім яснае (Шуба, Прыслоўе, 56). Параўн. *гэ́тачы* ‘тут’ (навагр., Кліх), *надо́ечы*, *цяпе́рачы* (Карскі 2–3, 91).

**Ту́ташні** ‘тутэйшы’ (ТСБМ, Нас., Касп., Сцяшк., Растарг.; в.-дзв., рагач., Сл. ПЗБ), *тутэшній*, *ту́тышній*, *туто́шній*, *ту́тъшні(й)* ‘тс’ (Шымк. Собр.; мёрск., Нар. сл.; в.-дзв., рагач., б.-каш., добр., гарад., ЛА, 3, Бяльк., Юрч. СНЛ), *тутэ́шні*, *тутэ́шны* ‘тс’ (Нас.; клім., полац., брэсц., ЛА, 3, ТС), ст.-бел. *тутошний*, *тутошны*, *тутошный* ‘мясцовы, характэрны для гэтай мясцовасці’, *туточный* ‘які знаходзіцца тут’, *тутешній*, *тутечный* ‘тс’ (ГСБМ). Відаць, утворана ад *тутачы* (гл.), магчыма, пад уплывам ст.-польск. *tuteczny* ‘тс’, пра што сведчаць формы з націскам на *ту́-*, якія маглі ўтварыцца незалежна ад польскай лексемы.

**Ту́тка** ‘бляшаная трубка пры серах у калаўротку, праз якую праходзіць нітка’ (бельск., Ніва, 1979, 7 студз.). Запазычана як тэрмін, хутчэй за ўсё, з ням. *Dütte* ‘скручаны з паперы кулёк, трубка’ (Брукнер, 585), н.-в.-ням. *Tüte*, *Tute* ‘конусападобны скрутак з паперы’, ід. *tut* ‘тс’, праз. польск. *tutka* ‘тс’ і ў пераносных значэннях (Борысь, 655; Вінцэнц). Параўн. балг. *ту́туля* ‘цэўка’, якое семантычна – паводле значэння бліжэй да беларускага слова, што, на думку Куркінай (Этимология–1971, 77), можа ўзыходзіць да **tyti* (гл. *тыць*) або мець мажлівую сувязь з чэш. мар. *tutati* ‘трубіць’, паводле Махэка$_2$ (662) – гукапераймальнага паходжання, аднак вузкая тэрміналагізацыя такія зближэнні робіць малаверагоднымі.

**Тутне́ць** ‘пульсаваць, рытмічна адгукацца’: *тутніць у жылах кроў* (Ластоўскі, Выбр. тв., 210), сюды ж *тутно́* ‘пульс’ (Ласт.), ст.-бел. *тутно* ‘напружанне’ (ГСБМ). Параўн. рус. сіб. *ту́тнуць* ‘гучаць, адгукацца па зямлі (пра тупат)’, польск. старое *tętnieć* ‘рытмічна адгукацца, гучаць, разлягацца’, харв. *tytnjiti* ‘адгукацца гулам’, чак. *tytn̑ìt* ‘гудзець’: *u glôvì tutn̑ì*, славен. дыял. *tutnéti* ‘глуха гучаць’, серб. *ту́тњити* ‘грукатаць, грымець’, балг. *тъ́тна* ‘грымець, разлягацца, грукатаць’, радоп. *татни́* ‘дрыжыць,

трасецца (зямля пры землятрусе)’, макед. *татни*, *татони* ‘гудзець, разлягацца гулам’, ц.-слав. **тѫтьнѣти** ‘грымець, гучаць’. Прасл. **tǫtьněti* / **tǫtьnati* разглядаецца як вынік рэдуплікацыі кораня, які мае гукапераймальнае паходжанне (Фасмер, 4, 127; Брукнер, 571; Скок, 3, 529; Борысь, 633; Рэйзак, Prasl. dialektizacija, 146), дзеяслоў фармальна блізкі да літ. *tutnoti* ‘калаціць, таўчы’. Меркаванні Фурлан (Бязлай, 4, 252) пра мажлівасць вывядзення з прасл. **tǫtati* і дэвербатыва **tǫtъ* ‘гром, шум’ ставяць пад сумненне з-за адсутнасці фіксацыі ў славянскіх мовах адпаведных слоў (ESJSt, 16, 975), параўн., аднак, *тут*$_2$ ‘мера, ступень’ няяснага паходжання (гл.).

**Ту-ту-ту**$_1$ – падзыўныя для гусей (ДАБМ, камент., 896), ‘падзыўныя для курэй’ (Мат. Маг.). Параўн. укр. *ту-ту*, *тю-тю* – падзыўныя для курэй, куранят, рус. *ту-ту-ту*, *тю-тю-тю* ‘тс’, польск. *tiu-tiu-tiu* ‘тс’, чэш. мар. *tu-tu* ‘тс’, *tut'a* ‘курыца’, славац. *t'u-t'u-t'u* – падзыўныя для курэй. Адносяцца да т. зв. першасных інтэр’екцый, якія служаць для выражэння жадання, волі (Смаль-Стоцкі, Приміт., 115), паходжанне якіх цяжка высветліць; звычайна трактуюцца як анаматапеічныя ўтварэнні (Фасмер, 4, 134; Махэк$_2$, 662; ЕСУМ, 5, 674).

**Ту-ту-ту**$_2$ – выражанае пачуццё палёгкі: *Ой, ту-ту-ту! Добра, што ўсё так кончылася* (чашн., Рэг. сл. Віц.), выражае настойлівасць, просьбу (?): *Братавая золвы на ноч просіць, ту-ту-ту* (Куп. і пятр. песні, 326), *ту-ту* – выражае захапленне (?): *Ту-ту! Што ў мяне была за свякровачка* (круп., там жа). Відаць, узмоцненыя (падвоеныя ці патроеныя) экспрэсіўныя словы – інтэр’екцыі, гл. *ту*$_1$.

**Тут-тут** – падзыўныя для авечак (горац., ДАБМ, камент., 896). Гл. *ту-ту-ту*$_1$. Магчыма, у выніку распадабнення з *шут-шут* (гл.).

**Тутні́ца** ‘аорта’ (Ласт.), *ту́тніца* ‘тс’ (Некр. і Байк.), ‘артэрыя’ (Др.-Падб.). Відаць, запазычана з польск. *tętnica* ‘тс’, параўн. *тутнець*, гл.

**Туту́** дзіцяч. ‘поезд, машына’ (полац., Суднік, вусн. паведамл.), *туту́каць* ‘падаваць гукі (пра музычны інструмент)’ (ТС). Гукапераймальныя імітатывы.

**Туту́н** ‘тытунь, *Nicotiana rustica* L.’ (Некр. і Байк., Ласт., Кіс., Касп.), *туту́нь* ‘махорка’ (Мал.). Запазычанане з польск. *tutuń* ‘тс’.

У літаратурным *тыту́нь*, *тыту́н* (гл.), у дыял. *тыту́нь віргінскі* ‘*Nicotiana tabacum* L.’ (гродз., Кіс.), як і ў польск. *tytoń*, адбылося распадабненне цюркскага сінгарманізму, параўн. ст.-бел. *тютюнъ*, *титунъ*, *титюнъ*, *тытюнъ* (з XVII ст.), запазычаныя з крым.-тат., асм.-тур. *tütün* (Булыка, Лекс. запазыч., 151). Параўн. таксама *цюцюн*, гл.

**Ту́тухны** ‘тут’, ‘прынамсі тут’, ‘тут-такі’ (Нас.). Да *ту́т*$_1$ (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ухн-* з ласкальным значэннем (параўн. *бо́жухна*, *ма́тухна*).

**Тутэ́йшы** ‘мясцовы, які жыве тут, не прыезджы’, ‘які ўласцівы гэтай мясцовасці, не прывазны’ (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Федар. 5, Бяльк., ТС, Касп., Вруб., Байк. і Некр.; акрамя ўсходняй Магілёўшчыны і Гомельшчыны, ЛА, 3), ‘абарыген, карэнны жыхар, тубылец’ (Ласт., Некр. і Байк.), ст.-бел. *тутэйшы* ‘родам адсюль, тубылец’, ‘які знаходзіцца тут’ (1635 г., ГСБМ). Паводле Карскага (1, 166), запазычана з польск. *tutejszy* – прыметнік ад *tutej* ‘тут’, хаця формай нагадвае параўнальную ступень прыметніка *тутъ* ‘гэты, вось гэты’ з суф. *-эйш-*. Дзіні (Балтийские яз., 402) звяртае ўвагу на паралельнае літ. *šišioniškiai* (ад *šišionai*, *šičionai* ‘тут, сюды’), якім называюць сябе жыхары раёна Клайпеды. Пра рэгіянальную мадэль *tutejsi* / *tutejšyja* ‘die Hiesigen’ на беларуска-польскім паграніччы гл. Трэптэ ў Regionale Bewegungen in Regionalismen in europäischen Zwischenräumen seit der Mitte des 19. Jahrhunderts, Marburg, 2003, 145–157. Параўн. *туташні*, гл.

**Туўка́ць** ‘таўхаць, піхаць’, *туўкануць* ‘піхнуць’ (Бяльк.), *ту́вкаты* ‘штурхаць’, *ту́вкатысь* ‘штурхацца’ (брэсц., ЛА, 2). Фанетычныя варыянты дзеясловаў шматразовага дзеяння, утвораныя ад агульнаславянскай асновы **tъlk-*, гл. *таўкаць*. Заднеязычны *-х-* у паралельных формах *туўхану́ць* ‘штурхнуць’ (Бяльк.), *туўха́ць* ‘штурхаць’ (бяроз., Сл. ПЗБ), магчыма, пад уплывам лексем *піха́ць*, *штурха́ць* ‘тс’. Гл. *таўхаць*.

**Туф** ‘горная парода, якая служыць у якасці будаўнічага матэрыялу’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рускую (*туф*) ці польскую (*tuf*) мову з нованям. *Tuff* ‘тс’, запазычанага з італ. *tufo*, якое з лац. *tōfur (tōphus)*, *tūfus*; крыніца паходжання для апошніх бачыцца ў оскска-ўмбрскіх дыялектах (Фасмер, 4, 127; Голуб–Ліер, 493; Арол, 4, 121; ЕСУМ, 5, 686).

**Ту́флі**, адз. л. *ту́фель*, памянш. *ту́флік* ‘лёгкі неглыбокі абутак, пантофлі’ (ТСБМ, Брасл. сл.), *ту́флі*, *ту́хлі* ‘тс’ (Сцяшк.), *ту́хлі* ‘тс’ (ТС, Арх. Вяр.), *ту́хель* ‘пантофель’ (Юрч. Вытв.), *ту́флі*, *ту́плі* ‘пантофлі’ (Васільковаая сп., Сл. ПЗБ), памянш. *туфел’о́чак* (Вруб.). Запазычаны з рус. *ту́фли*, *ту́фель*, якія з нідэрл. *tóffel* ‘хатні абутак’ ці з с.-н.-ням. *tuffele*, апошнія з с.-н.-ням. *pantuffel* (гл. *пантофли*); яно ў выніку пераасэнсавання (паводле народнай этымалогіі) разлажылася на *pant* ‘завязка, шнурок’ і *tuffel*. Крыніцай запазычання лічыцца італ. *pantofola* (далей няясна, гл. Арол, 4, 122), якое нібыта з незасведчанага грэч. *παντόφελλός ‘сандалі на коркавай падэшве’ < πάντῃ ‘усюды, адусюль’, φελλός ‘коркавае дрэва’ (Фасмер, 4, 127; Чарных, 2, 273). Зайкоўскі (Слов. етим., 184–185), абапіраючыся на засчведчанае на Магілёўшчыне *панто́пель* ‘вязаны лапаць з тоўстых пяньковых ці льняных нітак’ (Янк. Мат.), мяркуе, што другая частка магла паходзіць з φλοιός, φλοῦδα ‘кара’, а дакладней ‘лыка’.

**Ту́фна** ‘так, у пэўным напрамку’ (Сцяш. Сл.). Няясна.

**Туфта́** ‘хлусня’ (ТС), *тухта́* ‘падман’ (Краязн. газета, 2013, 12, 6). Пранікненне з турэмна-лагернага жаргону, параўн. укр. аргат. *туфта́* ‘падробка, фальшыўка’ (Горбач, Арго школярів), рус. *туфта́*, *тухта́* ‘хлусня, падман, ашуканства’, ‘фальсіфікат, падробка’, *туфте́ть* ‘ілгаць, падманваць’ (Шчарбакова–Бруева, Соц.-корп. лексика), польск. *tufta* ‘кабета’, ‘прастытутка’, ‘падман’ (з рус., Каня, Słownik). Без пэўнай этымалогіі. Выводзяць з фін. *tohko* ‘гнілое дрэва’, фін. дыял. *tohta* ‘розныя рэчы, транты, смецце’, што з улікам асноўнага значэння жаргоннага слова ‘махлярства, калі замест дабраякаснай рэчы прадаюць падробку’ тлумачыць семантыку слова (Вострыкаў, Этим. иссл., 3, 37–38; Гарачава, Этимология–1982, 168; Арол, 4, 122; Анікін, РЭС, 2, 284). Горбач (Арго школярів, 27) параўноўвае з цюрк. *takta* ‘дошка’ як фігуральнае абазначэнне пачкі паперы, што выдаецца махлярамі замест упакаваных у банку асігнацый; на мажлівую цюркскую крыніцу арыентуе і балг. аргат. *ту́фтя, туфти́свам* ‘хлусіць’, *ту́фа* ‘крадзеж’, *та́фя*, *та́фим* ‘красці, хлусіць’, *таф* ‘хлусня, абман’ < тур. *tav* у розных значэннях, у тым ліку і ‘падман’, параўн. Стойкаў, Соф. учених. говор, 24, 51. Былыя вязні сталінскіх лагераў бачаць у слове абрэвіятуру ТФТ (рус. «тяжёлый физи-

ческий труд»), якая ў 1930-я гады пранікла з лагернай зоны на волю (Шыдлоўскі, Рысы майго пакалення, Мінск, 2001, 126). Урэшце, з улікам сфер ужывання, варта звярнуць увагу на фармальнае падабенства з ід. *tuft(e)*, *toft(e)*, *duft(e)* 'выдатны, цудоўны, першакласны', адносна якога гл. Штэрн, Wörterbuch, 83.

**Тух** – выклічнік, што перадае глухі стук, удар, стрэл: *сéрца тух, тух, як ня выскачыць* (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймание. Сюды ж *тýхаць* 'стукаць нагамі пры хадзьбе' (Варл.), *тýхкаць* 'цяжка, гулка тупаць, бегучы ці ходзячы' (Нар. Гом., Янк. 3), *тухацéць* 'неспакойна біцца (пра сэрца)' (чэрв., Гіл.).

**Тýхаль** 'тухляціна' (Вушац. сл., Адм.), *тýхлік* 'нешта пратухлае' (Касп.). Вытворнае ад *тухлы* (гл.).

**Тухвя́к** 'сяннік, матрац' (Нас., Байк. і Некр.). З рус. *тюфя́к* 'тс', якое, як і *цюхля́к* 'тс' (мазыр., ГЧ), з цюркіх моў, параўн. тат. *tüšäk* 'пярына, матрац', крым.-тат., караімск., чагат. *töšäk*, тур. *düšäk* 'тс' < цюрк. *töšä-* 'рассцілаць, масціць' (Фасмер, 4, 138; Анікін, 578).

**Тýхі** – адгоннае слова (для птушак): *тухі, верабейкі!* (Сержп. Прык.). Відаць, да гукапераймальнага *тух* (гл.), бо суправаджалася ўзмахамі рук, плясканнем ці стукам. Параўн. рус. дыял. *дать тýха* 'выгнаць' (СРНГ).

**Тухлё** 'смурод' (Яруш.), *тухлó* 'тухліна' (Вушац. сл.). Гл. *тхлё*, *тхло*.

**Тýхлы** 'пратухлы, з непрыемным пахам гніення' (ТСБМ, Байк. і Некр., Сцяшк., ТС, Варл., Вруб., Сл. ПЗБ), *тухлы́* 'які задыхаецца, не можа дыхаць (пра тоўстага чалавека)' (ТС), сюды ж *тýхлены* 'тухлы' (Нас., Байк. і Некр.), *тухлéный* 'смярдзючы' (Бяльк.), *тухля́вый* 'крыху смярдзючы' (Юрч. Вытв.), *тухлю́чый* 'тс' (там жа), *тухлíвы* 'тухлы' (Мат. Гом.). Параўн. укр. *тýхлий*, *стýхлий*, рус. *тýхлый*, польск. *stęchły* 'пратухлы', в.-луж., н.-луж. *stuchły*, чэш. *stuchlý* 'нясвежы, пратухлы', славац. *stuchlý* 'тс', харв. *tuhljiv* 'вільготны, сыры; вадкі; дажджлівы', 'смярдзючы', славен. *tohél* 'затхлы, прытохлы'. Утворана ад асновы прасл. **tux-*, звязанай чаргаваннем галосных з **tъx-*, параўн. *тýхнуць$_2$*, *тхнуць* 'пратухаць' (гл.); гл. таксама *тóхнуць* 'тс', параўн. рус. *тóхнуть* 'здыхаць (пра рыбу)'; польск. *tęchnać* 'пратухаць, псавацца, плеснявець', як і славен. *tohél*, што дае падставы выводзіць

прасл. **tǫxnǫti* (Скок, 3, 520) з асновай **tǫx-*, якую Брукнер (570) і Фасмер (4, 128) разглядаюць як другасную. Сюды ж вытворныя *ту́хлік* 'пратухлы, гнілы' (Касп.), *тухля́к* 'што-небудзь гнілое, тухлае' (мёрск., Нар. сл.), 'тое, што смярдзіць' (Юрч. Вытв.), 'смярдзючы' (Нас.), *тухъль* 'пах тухлага' (ушац., Жыв. сл.), *ту́хлець* (*túchlić*) 'смурод ад вільготнага, затохлага паветра' (Варл.), *тухлё* 'смурод' (Бяльк., Яруш), *тухляццё* 'тухляціна' (Сцяшк. Сл.), 'тое, што смярдзіць' (Юрк. СНЛ), *тухло́* 'тс' (Вушац. сл.), *ту́хля* 'тухліна' (мёрск., Нар. сл., Юрч. Вытв.; мядз., Сл. ПЗБ), *ту́хлась* 'гніль' (рагач., там жа), *тухляні́на* 'тухліна' (Сцяшк. Сл.), *тухля́ціна* 'пратухлыя прадукты' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.), *тухлі́на* 'гніласць, смурод ад гніення' (Нас.), *ту́хленне* 'давядзенне да тухласці' (там жа, Юрч. Вытв.), *ту́хлосць* 'пратухласць' (ТС), *ту́халь* 'тленне, гніенне, гніль' (Байк. і Некр.; Вушац. сл., Адм.), *тухле́нне* 'смурод, пах тухляціны' (Юрч. Вытв.), *тухле́ць* 'смярдзець' (Яруш.), *ту́хліць* 'даводзіць да псавання і гніення' (Нас.), *ту́хляць* 'марнець, гібець' (Зайка Кос.).

**Тухля́к₁** 'нешта смярдзючае, гніючае' (Нас.; мёрск., Нар. лекс.), сюды ж, магчыма, і 'лямпачка без шкла, капцілка' (Бяльк.). Да *тухлы* (гл.), апошняе можа быць звязана і з *тухнуць₁* 'пераставаць гарэць, кепска свяціць'.

**Тухля́к₂** 'кухталь, штуршок' (мёрск., Нар. лекс., Вушац. сл.), рус. смал. *тухля́к* 'удар кулаком, тумак'. Відаць, з *кухталь* пад уплывам *ту́хаць* 'біць, стукаць', гл. *тух*.

**Тухля́к₃** 'соня, сонька' (ваўк., Федар. 4). Да *тухнуць₂* у значэнні 'спаць', сюды ж *тухля́ць* 'марнець, гібець, пазбягаць працы, валяцца' (Зайка Кос.).

**Тухля́нка** 'імшарніца, *Andromeda polifolia* L.' (маг., Кіс.), 'трава, смярдзючка' (Бяльк.). Названа паводле спецыфічнага паху; расце на балотах, гл. *імшарніца*. Параўн. чэш. *bahnítka*, *bahenka* (Махэк, Jména, 177).

**Ту́хмалка** груб. 'твар': *даць у тухмалку* (мёрск., ЖНС; Рэг. сл. Віц.). Няясна; пачатак слова падобны да рус. смал. *ту́хман* 'удар рукой, тумак', *ту́хманка* 'тс', яросл. *задаць ту́хманку* 'пабіць', цвяр. *дать ту́хменку* 'стукнуць' (СРНГ), што, магчыма, сведчыць пра другасны характар семантыкі беларускага слова. Відаць, вытворнае ад *ту́хаць* 'стукаць, тупаць' (гл.) праз

прамежкавую форму **тухма* (*тухаць*), аналагічна да рус. *тукма́нка* ‘ўдар кулаком’, якое Фасмер (4, 117) прапануе выводзіць з *ту́каць* ‘стукаць’, адначасова ставячы пад сумненне мажлівасць кантамінацыі з *токмач*, *тукмач* ‘удар кулаком’, ‘калатушка’, што тлумачыць другую частку слова; паводле Анікіна (561), хутчэй кантамінацыя з *тумак* ‘удар кулаком’. Параўн. *тухляк$_1$* ‘штурхаль, штуршок’, гл.

**Ту́хнуць$_1$** ‘пераставаць гарэць, свяціць’, ‘гаснуць’ (Некр. і Байк.; в.-дзв., Сл. ПЗБ, ТС, Варл.): *его зорка тухне* (Сержп. Прымхі), ‘слабець, памяншацца’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Некр.), ‘спадаць (пра пухліну)’, ‘змяншацца’ (беласт., Сл. ПЗБ), *ту́хнуті* ‘гаснуць’ (Вруб.). Параўн. укр. *ту́хнути* ‘гаснуць’, ‘спадаць (пра пухліну)’, рус. *ту́хнуть* ‘гаснуць’, стараж.-рус. *потухнути* ‘пагаснуць’, ‘сціхнуць’; ц.-слав. **потѵхнѫти** ‘спадаць (пра пухліну)’; польск. *tęchnąć* ‘тс’, чэш. *tuchnouti* ‘гаснуць’, ‘губляцца, знікаць’, мар.-славац. *duchnúť* ‘гаснуць’. Прасл. **tuxnǫti*, другаснае **tǫxnǫti* ‘спадаць, змяншацца’ знаходзіцца ў сувязі з каўзатывам прасл. **tušiti* ‘сцішыць, супакоіць, прыглушыць, прыгасіць’ (гл. *тушы́ць*) (Борысь, 630; Сной$_2$, 790); параўноўваюць з роднаснымі формамі літ. *tausýtis* ‘сціхаць (аб ветры)’, прус. *tusnan* ‘спакойны’, ст.-ірл. *tó* ‘ціхі, маўклівы’ (< **tauso-*), ст.-інд. *tōṣáyati* ‘заспакойваецца’, авест. *tušňa-*, *tušni-* ‘ціхі’ (Фасмер, 4, 128; Махэк$_2$, 660; Скок, 3, 528; Трубачоў, Этимология–1965, 61; ЕСУМ, 5, 687).

**Ту́хнуць$_2$** ‘загніваць і непрыемна пахнуць’ (ТСБМ, Касп.), ‘тхнуць, гніць’ (Некр. і Байк.), ‘смярдзець, псавацца’ (Яруш., Гарэц.), ‘выдаваць смурод (ялавічына, рыба і інш.)’ (Нас., Бяльк.), *ту́хнуці* ‘тс’ (беласт., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *ту́хнути* ‘псавацца, рабіцца нясвежым’, рус. *ту́хнуть* ‘псавацца, пратухаць’, польск. *tęchnąć* ‘тс’, чэш. *tuchnouti* ‘тс’, славац. *tuchnúť* ‘тс’, в.-луж. *tychnuć* ‘пратухаць’, харв. *tuhnuti* ‘смярдзець, пахнуць гніллю’, серб. *тукнути* ‘тс’, славен. *túhniti*, *tóhniti* ‘смярдзець’. Разглядаецца як вытворнае ад папярэдняга слова з развіццём значэння ‘гаснуць, слабець, спадаць’ > ‘псавацца з-за адсутнасці праветрывання, плеснявець, смярдзець’ (Янышкава, Prasl. dijalektizacija, 117, гл. таксама Борысь, 631, інакш – Махэк$_2$, 660, які бачыў у гэтых формах незалежныя амонімы). Меркаваенне аб розным паходжанні *тухнуць$_1$* і *тухнуць$_2$* прапануецца ў Фасмер, 4, 128; Арол, 4, 122;

процілеглыя думкі пра паходжанне слоў у Бязлай (4, 244) дэманструюць Сной: прасл. **tъxnǫti* 'згаснуць' > 'набыць слабы пах' з другасна назалізаваным **tǫxnoti*, і Фурлан: прасл. **tuchъ* 'смурод, задуха' звязвае з прасл. **tukati* 'таўчы, біць', што параўноўваецца са славен. *udárati* 'смярдзець, пахнуць чым-небудзь'; да апошняга гл. *тухляк* у розных значэннях.

**Ту́хнуць$_3$** 'спаць (гаворыцца з пагардай)' (Нас., Рэг. сл. Віц.), 'доўга спаць' (Васількова сп., Мат. Гом., Мат. Маг.), 'спаць беспрабудна' (Варл., Некр.), сюды ж *то́хнуць* 'спаць, задаючы храпака' (Нас.), *тухля́ць* 'доўга спаць' (Сцяшк. Сл.), *ту́хляць* 'ляжаць, пазбягаць працы, валяцца' (Зайка Кос.), *тухля́к* (*tuchlák*) 'соня, сонька' (ваўк., Федар. 4). Параўн. рус. смал., пск. *ту́хнуць* 'спаць'. Відавочна, рэгіянальны экспрэсіўны наватвор на базе *тухнуць$_1$* 'супакойвацца', таго ж паходжання рус. смал. *вы́тухнуться* 'выспацца' (Анікін, РЭС, 9, 205). На экспрэсіўны характар слова паўплывала таксама *тухнуць$_2$* і *тухлы* (гл.), параўн. укр. аргат. *пу́хнути* 'спаць' (Горбач, Арго школярів).

**Тухта́ль** 'кухталь, удар кулаком' (Некр. і Байк., Касп.). Відаць, суфіксальнае ўтварэнне ад *тухтаць* 'піхаць', гл. наступнае слова. Не выключана замена *к* > *т* у *кухталь*, параўн. *тушэтка* 'кушэтка'.

**Тухтаць** 'пакаваць': *тухтала, што мела, у дзеравяны сынаў куфэрачак* (Ц. Гартны, гл. Каўрус, Словаклад). Зыходнае значэнне, відаць, 'піхаць, запіхваць, набіваць'. Магчыма, рэдкая паралель да славен. *tuhtati*, што ў дыялектах мае значэнне 'тушыць, душыць, хаваць', а таксама 'заносіць на рахунак' (Gregorič, Kostelski slovar, Ljubljana, 2014), зыходным для якога Сной (у Бязлай, 4, 245) лічыць дзеяслоў інтэнсіўнага дзеяння прасл. **tuchъtati* з **tušiti* 'гасіць' (раней Махэк$_2$, 662), гл. *тушыць*. Сюды ж сучаснае беларускае прозвішча *Тухта́* (Бірыла, Бел. антр., 1), магчыма, першапачатковая мянушка, якую параўноўваюць з рус. *тухты́рь* 'заўсёды незадаволены чалавек' (Бірыла, Бел. антр., 2), хутчэй дэвербатыў ад *тухтаць* са значэннем 'хто складвае, хавае, назапашвае нешта'.

**Ту́хці** 'гаснуць' (Стан.). Гл. *тухнуць$_1$*.

**Ту́цкі** – 'сядзець малому ў бацькі за спінай' (Вушац. сл.), «калі малога нясуць заплеччу» (Наша Ніва, 2003, 6 чэрв.). З дзі-

цячай мовы, відаць, гукапераймальнага паходжання, параўн. укр. *туц* выгук, што імітуе стук рагамі, *ту́цати* 'біцца рагамі (пра барана)' (ЕСУМ, 5, 687), ід. *tuc* 'тыц', *tucen* 'тыкаць' (Астравух, Ідыш-бел. сл.), а таксама польск. *nosić kogo na barana* 'насіць каго на спіне (плячах)'.

**Ту́ча** 'вялікая хмара' (Ян.; брасл., Сл. ПЗБ), 'хмара' (Гарэц., Ласт., Бяльк., Брасл. сл., Федар. 4, Сл. ПЗБ), 'дажджавая хмара' (зэльв., маст., паўд.-палес., віц., усх.-маг., усх.-гом., ЛА, 2): *вышла да сіняя туча з-пад цёмнага бору* (паст., Песні нар. свят), 'залева, праліўны дождж' (ТС), 'навальнічная хмара з маланкай': *Kab ciebe ... lichaja tucza ŭbiła!* (ваўк., Федар. 4), 'граданосная хмара': *ту́ча кажуць, ек град* (КСТ), *ту́цы* 'хмары' (гарад., ЛА, 2); *ту́чка* 'светлая хмарка ў пагодлівы дзень' (шарк., талач., касцюк., ЛА, 5), *ту́чкі* 'воблачнасць несуцэльнага характару' (Інстр. 1), ст.-бел. *туча* 'хмара', *тученосный* 'які нясе хмары': *ильꙗ тоученосныи ѡблакъ* (ГСБМ); сюды ж *тучы́на*, *тучы́нка* 'хмарка' (Нас.); *ту́чышча* 'вялікая хмара' (Юрч. СНЛ), *тучы́сты* 'праліўны' (ТС), *ту́чанне* (*ту́чыньня*) 'хмаранне' (Юрч. СНЛ), *ту́чыцца* 'хмарнецъ' (Нас.), 'хмарыцца' (Юрч., Мат. Гом.), *ту́чыць* 'тс' (Юрч. Сін.); перан. *ту́ча* 'вялікая колькасць чаго-небудзь (аваднёў, птушак, варон)' (в.-дзв., дзятл., ЛА, 1; глыб., брасл., Сл. ПЗБ); магчыма, сюды і параўнанне *як ту́ча* 'вельмі тоўсты' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *ту́ча* 'густая цёмная хмара', 'вялікая колькасць', 'грымоты з дажджом', 'праліўны дождж з градам', 'вецер, бура са снегам', дыял. 'вясёлка', рус. *ту́ча* 'хмара', стараж.-рус. *ту́ча* 'дождж', 'бура', 'хмара'; польск. *tęcza* 'вясёлка', каш. *tącz(a)* 'залева', палаб. *tǫ́co* 'хмара', н.-луж. *tyca* 'вясёлка', в.-луж. *tuča* 'хмара з бурай', *tučel*, *tučałka* 'вясёлка', славен. *tóča* 'град', серб. *ту̏ча*, харв. *tȕča* 'тс', ст.-слав. **тѫча** 'дождж, залева, снег'. Прасл. **tǫča* (< **tǫk-ja*) 'дажджавая, навальнічная, градавая хмара', роднаснае літ. *tánkus* 'густы, часты', 'шчыльны, дзябёлы, тугі', ст.-інд. *tanákti* 'сціскае, збівае разам', авест. *taxma-* 'храбры, моцны', арм. *t'anjr* 'густы', ірл. *técht* 'загуслы', гоц. *þeihvo* 'гром' < і.-е. **ten-k-* 'сцягвацца, збірацца, збівацца' < і.-е. **ten-* 'цягнуць, валачы'; першапачаткова **tęča-* 'збітая маса' > 'сабраная ў хмару' і іншыя пераносныя значэнні (Фасмер, 4, 129; Брукнер, 570; Скок, 3, 517–518; Борысь, 630; ЕСУМ, 5, 688). Як варыянт індаеўрапейская

аснова падаецца ў выглядзе **temk-* ‘рабіцца цвёрдым, згушчацца’ (Покарны, 1068; Сной, 769; ESJSt, 16, 973: тут крытыка версіі пра сувязь з **tikъ*, гл. *тук$_1$*, падрабязней Жураўлёў, Язык и миф, 340). Зводку ранейшай літаратуры гл. у Арол, 4, 122–133.

**Ту́чай** ‘дзірка ў верхнім камені жорнаў, куды сыплюць збожжа’ (Сцяшк.), *туча́й* ‘тс’ (круп., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. палес. *течайа́* ‘тс’. Зыходнай формай лічыцца *луча́й* ‘тс’ (гл.), якое праз польскую мову (*duczaj*, *ducza* ‘тс’) запазычана з італ. *doccia*, *doccio* ‘жолаб, латок для вады’; пра мажлівасць кантамінацыі і запазычаны характар назваў рэаліі сведчыць, хутчэй за ўсё, і незвычайная варыянтнасць у фармальным і семантычным плане, гл. Аніч., Вопыт, 141; Ніканч., Єндем., 42, 96. Параўн. *лечая*, *ячая*, гл.

**Туча́ны** ‘які выдзяляе многа тлушчу’ (круп., Сл. ПЗБ). Да *тук$_1$* ‘растоплены тлушч’, параўн. таксама *то́чны*, гл.

**Ту́чка** ‘мядзведка’ (ТС). Гл. *точка$_1$* ‘тс’ з характэрнай для Палесся менай *о* > *у* ў закрытых складах. Аналагічна *ту́чка* ‘крот’ (Выг.).

**Ту́чкі** (*ту́чкы*) ‘рэбры ў кошыку’ (бяроз., ЛА, 4), *уто́чкі* ‘тс’ (карэліц., ЛА, 4). Ад *утачыць* ‘усунуць’, гл. *тачаць*, *ток$_4$*.

**Тучніца** ‘зграя ваўкоў’: *Ня йдзіце, дзеткі, ні да леса, ні да жыта, бо ў лесе бегае тучніца* (беласт., Крачк.), *ту́ча* ‘гайня ваўкоў’ (глыб., ЛА, 1), *тучку́юць* – пра гон у ваўкоў (ЛМТ). Да *то́чка$_4$* ‘тс’ з менай *о* > *у*, параўн. *це́чка* ‘тс’, усё да **tekti*, **tokъ*.

**Ту́чны** ‘тлусты’ (Сл. Брэс.; лун., Шатал., Сцяшк. Сл.), ‘сыты, укормлены’, ‘угноены, добра апрацаваны (грунт)’ (Варл.), ‘вельмі сыты, з тлустасцю’ (Юрч. Сін.); памянш. *ту́чненькі* ‘тс’ (Ласт.), *ту́чнае*, *тучно́е*, *туча́нае* ‘топкае (сала)’ (Мат. Гом.; бялын., Янк. Мат., ЛА, 4), *ту́шны* ‘пажыўны’ (паўн.-усх., КЭС), ст.-бел. *тучный* ‘сыты, тлусты’. Параўн. укр. *ту́чный* ‘тлусты’, рус. *ту́чный* ‘тс’, польск. *tuczny* ‘ўкормлены, тлусты’, ‘пажыўны, сытны’, чэш., славац. *tučný* ‘тлусты, адкормлены, тоўсты’, в.-луж. *tučny*, н.-луж. *tucny* ‘тс’, славен. дыял. *tučen* ‘тс’, харв. *tȕčan* ‘адкормлены, цяжкі’, балг. *ту́чен* ‘тлусты, адкормлены’, ‘буйны, сакавіты (пра траву)’, макед. *тучен* ‘тлусты’, ‘пладародны’, ст.-слав. **тоучьнъ** ‘тс’. Прасл. **tučьnъ* утворана ад **tukъ* (гл. *тук$_1$*) + *ьnъ* > **tukьnъ* (сляды яшчэ ў стараж.-рус. *тукьный*) ‘тлусты, тоўсты, урадлівы’

(Цыганенка, 494; Шустар-Шэўц, 1556; Арол, 4, 123), параўн. літ. *taũkinas* 'замазаны тлушчам, засалены', лат. *tàuks* 'тлусты, адкормлены' і інш. Паводле Борыся (652), утворана ад **tučiti*, гл. наст. слова.

**Ту́чыць** 'адкормліваць, рабіць тлустым' (Нас., Ласт., Янк. БП): *pańskaje oko kania tuczyć* (ваўк., Федар. 4), ст.-бел. *тучити*, *тучыти* 'адкормліваць', 'напаўняць' (ГСБМ), 'адкарміць, насыціць' (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *ту́чи́ти* 'рабіць тлустым, даглядаць', рус. дыял. (зах.) *ту́чить* 'угнойваць (зямлю)' (Даль), польск. *tucznić* 'рабіць тлустым, тучным', чэш. *tučit* 'станавіцца тлустым', славац. *tučit'* 'адкормліваць', славен. дыял. *túčiti* 'зрабіць тлустым', макед. *тучи* 'рабіць тлустым; карміць тлустым'. Прасл. **tučiti* 'рабіць тлустым, адкормленым', вытворнае ад **tukъ* 'жывёльны тлушч' (Борысь, 652), гл. *тук$_1$*; апафанічныя варыянты **tyti* (гл. *тыць*) і **toviti* 'адкормліваць' (магчыма, сюды прыметнік *то́віст* 'тоўсты', гл.), падрабязней гл. Скок, 475; Куркіна, Этимология–1976, 25; Глухак, 628.

**Туш$_1$** 'кароткае музычнае прывітанне (на банкеце ці ўрачыстасці)' (ТСБМ, Некр. і Байк., Вруб.). Праз польскую (*tusz*) ці рускую (*туш*) мову з нова-в.-ням. *Tusch* 'тс', якое мае анаматапеічнае паходжанне (Голуб–Ліер, 494; Сной$_2$, 793; Чарных, 2, 274; Арол, 4, 123).

**Туш$_2$** 'фарба для чарчэння ці малявання' (ТСБМ, Некр. і Байк., Вруб.). Праз польскую (*tusz*) ці рускую (*тушь*) мову з ням. *Tusche*, якое ўзыходзіць да франц. *toucher* 'датыкацца' або непасрэдна з франц. *touche* 'дотык' (Фасмер, 4, 129; Голуб–Ліер, 494; Арол, 4, 124; ЕСУМ, 5, 688). Сюды ж *тушава́ць* 'наносіць цені на малюнак, пакрываць тушоўкай' (ТСБМ), якое з рус. *тушева́ть* 'тс' па ўзоры ням. *tuschen* 'тс', паводле Віткоўскага (Słownik, 188) – з польскай. Таго ж паходжання і *рэтушава́ць* 'падпраўляць, падмалёўваць, заціраць' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.) праз польск. *retuszować* з франц. *retoucher* 'тс' (ЕСУМ, 5, 67; Глухак, 646).

**Ту́ша** 'асвежаванае і выпатрашанае цела забітай жывёлы' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк.), 'пра постаць, фігуру вялікага, поўнага чалавека' (ТСБМ, Вруб.); *туш* 'паўната, поўнае цела': *залезе бусало ў закуток, бу тая туш* (ТС), ст.-бел. *туша* 'сцягно, падрыхтаванае да ўжытку цела забітай жывёлы': *две тꙋшы мꙗса*

*козлового* (1552 г., ГСБМ). Параўн. укр. *ту́ша*, *туша́*, *туш* 'тс', рус. *ту́ша* 'сцяг, цела забітай жывёлы', польск. *tusza* 'цела чалавека', 'паўната'. Апошняе лічыцца запазычаным у XVIII ст. з рус. *ту́ша*, чаму пярэчыць фіксацыя ў старабеларускай мове XVI ст. Слова звязваецца з *тук*, *тыть*, гл. Праабражэнскі, 2, 24; Гараеў, 381; Фасмер, 4, 129; Арол, 4, 123 (аналагічна да рус. *крыша* < *крыть*). Сумнеўна Якабсон (IJSLP, 1/2, 1953, 273) – з рус. *ту́хнуть* і Чарных (2, 274) – з рус. *тощий*. Відаць, запазычана з цюркскіх моў: параўн. тат., баш. *түш* 'грудзінка', тур. *döş* 'бок; пярэдняя частка тушы' (ЕСУМ, 5, 688; Борысь, 655).

**Тушава́цца**$_1$ 'стамляцца, задыхацца': *я буду тушавацца, бо трэба спяшыць* (глыб., Рэг. сл. Віц.), сюды ж, відаць, *тушы́цца* 'харчавацца вельмі дрэнна', *тушы́ць* 'карміць зусім дрэнна' (Юрч. СНЛ), *тушава́ць* 'кватараваць, быць на харчаванні' (сен., Рэг. сл. Віц.), *тушыва́цца* 'хвалявацца', *тушыва́ць* 'хваляваць, непакоіць' (Яўс.). Няясна. Зыходзячы са значэння 'задыхацца', можна суаднесці з *тхаць* 'дыхаць', *тушы́ць* 'гасіць, заглушаць' (гл.), параўн. рус. дыял. *туши́ть* 'сціскаць, ускладняючы дыханне' (СРНГ), што належаць да дзеясловаў, якія адрозніваюцца ў колькасных адносінах паводле каранёвага вакалізму: прасл. **tušiti*, **tъxnǫti*, гл. Цемчын, Baltistica, 22, 2, 34.

**Тушава́цца**$_2$ 'саромецца, бянтэжыцца' (ТСБМ). Запазычана літаратурным шляхам з рус. *тушева́ться* 'тс', больш звычайнага ў форме *стушева́ться* 'збянтэжыцца'. Паводле КЭСРЯ (456), утворана ад *тушевать* 'накладваць цені' ў выніку даволі складанага пераносу значэння 'рабіць менш прыкметным' → 'адчуваць няёмкасць'. Арол (4, 123) адсылае непасрэдна да *тушь* (гл. *туш*$_2$).

**Туша́кі** 'галушкі з дранай бульбы, начыненыя мясам' (кам., ЖНС). Відаць, да *тушы́ць* 'смажыць', як і *тушані́на*, *туша́нка* 'смажанае мяса' (Сцяшк. Сл.), *тушэні́* 'адвараныя ўнутранасці свінні' (Лекс. Бел. Палесся), *ту́шанка* 'тушаная бульба з мясам' (хойн., Шатал., Мат. Гом.), *тушо́нка* 'тс' (Варл., ПСл, Касп.), 'мяса, смажанае ў закрытым посудзе' (Нік., Оч.), што ўтворана ад дзеепрыметніка *тушаны* (*ту́шеный*) 'смажаны ў закрытым накрыўкай посудзе' (ГСБМ, Нас.). Гл. таксама *тушонікі.*

**Тушкава́ць**$_1$ ‘тушыць мяса, гародніну, бабку на малым агні ў закрытым посудзе’ (Растарг., Рэг. сл. Віц.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *тушкова́ць* ‘тс’ (ТС). Укр. *тушкува́ти* ‘тс’. Генетычна звязана з прасл. **tušiti* ‘гасіць’ (Праабражэнскі, 2, 23; Скок, 3, 528; ЕСУМ, 5, 689) і ўтварылася шляхам далучэння да асновы памяншальнага суфікса *-ка* і **-ov-a-ti*. Сюды ж *тушко́ваны* ‘тушаны’ (ТС, Растарг.).

**Тушкава́ць**$_2$ ‘ухутваць (дзіцё, старога)’ (Растарг.). Укр. *тушкува́ти* ‘хутаць, захінаць’, *зату́шкати* ‘закрыць’, якое, паводле ЕСУМ (5, 689), звязана з *туши́ти* ‘гасіць’. Дакладней, відаць, ‘закрываць, захінаць’, пераноснае да *тушы́ць*$_2$, гл. папярэдняе слова.

**Тушка́нчык** ‘стэпавы грызун, земляны заяц, *Dipus*’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рускую (*тушка́н*, *тушка́нчик*) ці ўкраінскую (*тушка́нчик*) мову запазычана з цюркскіх моў; параўн. уйг. *tušgan*, чагат. *taušgan* ‘заяц’ < *tauš-* ‘скакаць, бегаць’ (Анікін, 573; Фасмер, 4, 129; ЕСУМ, 5, 689; Арол, 4, 123).

**Ту́шнае** ‘нясмачнае, нішчымнае, незапраўленае’: *адно тушнае ядзім* (Бяльк.). Відаць, да *ту́шчы* ‘парожні, пусты’ (гл.) > **тушчнае* ‘пустое’ са спрашчэннем спалучэння зычных.

**Тушні́** ‘від туфель’ (Касп.). Няясна. Лаўчутэ (Балтизмы, 134) упершыню аднесла слова да балтызмаў, прыняўшы кантамінацыю літ. *pùšnys* ‘доўгія боты ў паляўнічых і рыбакоў’ ад *puškė́ti* ‘брысці па вадзе’ і *туфлі* (гл.), што малаверагодна.

**Тушо́нікі** ‘тушаная бульба’ (Зайка Кос.; маз., Шатал., Мат. Гом., ПСл), *тушо́нікі*, *тушо́нцы* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *тушо́нікі*, *тушэ́нікі*, *тушо́нцы* ‘тс’ (ТС). Да *тушоны*, *тушыць*$_2$ (гл.) паводле вядомай на Палессі словаўтваральнай множналікавай мадэлі для назваў страў з бульбы, параўн. *смажо́нікі*, *смажо́нцы* ‘смажаная бульба’, *соло́нікі*, *соле́нікі*, *солёнікі* ‘вараная ў салёнай вадзе цэлая чышчаная бульба’ (ТС), *паро́нікі* ‘адвараная бульба’ (Зайка Кос.) і інш. Магчыма, сюды ж (іранічна?) *тушо́нік* ‘той, хто тушыць пажар, пажарнік’ (івац., Нар. сл.), да *тушыць*$_1$.

**Тушо́нка** ‘кансерваванае тушанае мяса’ (ТСБМ). Запазычана з рус. *тушёнка* ‘тс’ – шырокавядомай назвы кансерваў амерыканскай харчовай дапамогі часоў Другой сусветнай вайны.

**Тушóнчыкі** ‘смолка лугавая’ (ТС). Рэдкая назва расліны *Viskaria* L., звязаная, хутчэй за ўсё, з яе знешнім выглядам – ружова-чырвоным колерам кветак, што стварае ўражанне падсмаленасці («падсмажанасці»), параўн. некаторыя з яе іншамоўных назваў: укр. *horyćvit*, *vohnyk* (Макавецкі, Sł. botan.). Да *тушыць*$_{1,2}$, гл.

**Ту́шчма** ‘дармо, дарма, марна’ (Ласт.). Відаць, прыслоўе па ўзоры *лежма* (*ляжаць*), *бегма* (*бегчы*) ад дзеяслова *тушчэць* (гл. *тушчы*). На аснове прыслоўя ўтвораны прыметнік *тушчы́мны* ‘посны’ (Сцяшк. Сл.), які паслужыў, магчыма, узорам для *нішчы́мны* ‘посны, пусты’ (ад спалучэння *ні з чым* ‘без нічога’, гл.).

**Ту́шчы** ‘худы, шчуплы, пусты, парожні’ (Ласт.), *тушчэ́ць* ‘марнець, знясільвацца’ (там жа). Суадносіцца з *тшчы* ‘пусты, дарэмны’, *тóшчы* ‘худы, шчуплы, пусты’ (гл.) у рознай ступені вакалізму, параўн. *тухнуць*, *тхнуць*, *тохнуць*, гл. Разам з прасл. **tъštь* ‘парожні’, літ. *tùščias* ‘пусты, парожні, нікчэмны’, лат. *tukšs* ‘тс’, ст.-інд. *tucch(y)ah* ‘тс’ узыходзяць да і.-е. **teus-* / **tus-* ‘парожні, апаражняць’ (Смачынскі, 696; Борысь, 92; ЕСУМ, 5, 612; Арол, 4, 91). Сюды, відаць, і *ту́шчыцца* ‘засмучацца ў час наступлення хваробы’ (гор., Мат. Маг.).

**Тушы́ць**$_1$ ‘гасіць, спыняць гарэнне’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Бяльк., Касп., Яруш., Сержп. Прымхі, ТС, Юрч. Сін., Вруб.): *pierunovy ahoń hrech tuszyć* (Пятк. 2), перан. ‘спыняць, заглушаць, не даваць развівацца’ (ТСБМ). Параўн. укр. *туши́ти* ‘гасіць, супакойваць’, рус. *туши́ть* ‘тс’, стараж.-рус. *утушити* ‘задушыць’. Прасл. **tušiti* ‘тушыць, супакойваць, рабіць ціхім’ – каўзатыўны дзеяслоў у адносінах да **tuxnǫti* (гл. *тухнуць*$_1$), з якім знаходзіцца ў этымалагічнай сувязі (Борысь, 655), роднасны ст.-прус. *tusnan* ‘ціхі’, літ. *tausýtis* ‘сціхнуць (пра вецер)’, ст.-інд. *tosáyati* ‘супакойвае’, што да < і.-е. **tou̯s-* ‘ціхі, мірны’ (Скок, 3, 528; Фасмер, 4, 128; ЕСУМ, 5, 687). Сюды ж адносіцца запазычанае са ст.-польск. *tuszyć* ‘спадзявацца, мець надзею’ ст.-бел. *тушити*, *тушыти* ‘тс’ (1577 г., ГСБМ) з развіццём значэння ад ‘супакойвацца, суцішацца’ да ‘спадзявацца’ (Борысь, 655; ЕСУМ, 5, 689), што можа лічыцца семантычнай інавацыяй часткі іранска-праславянскага моўнага арэала (Трубачоў, Труды, 2, 83).

**Тушы́ць$_2$** ‘варыць на малым агні ў закрытай пасудзіне’ (ТСБМ, Нас., ТС, Касп.). Укр. дыял. *туши́ть* ‘тс’, рус. *туши́ть* ‘тс’, польск. дыял. *túszyć*, побач з *tusić*, *dusić* ‘тс’, харв. *túšiti*, балг. *задуша̀вам* ‘тс’. Гістарычна фармальна ідэнтычнае прасл. **tušiti* (гл. *тушыць$_1$*); варыянтнасць асновы слова ў розных славянскіх мовах тлумачыцца кантамінацыяй ці застаецца няяснай (Скок, 3, 528; Слаўскі,1, 180; Махэк$_2$, 135).

**Тушы́ць$_3$** ‘рабіць тухлым’, *тушы́цца* ‘рабіцца тухлым’ (Юрч. СНЛ). Да *ту́хлы* (гл.) з чаргаваннем *х* > *ш*.

**Тушэ́** ‘ўдар па клавішах пры ігры на фартэпіяна’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘удар, укол у фехтаванні’, ‘прыём у барацьбе (палажыць на лапаткі)’ (ТСБМ). Праз рускую мову з франц. *touche* ‘дотык’, *touché* ‘закрануты, які атрымаў удар’, якое з *toucher* ‘дакранацца, чапаць’ (ЕСУМ, 5, 689; Арол, 4, 123). Сюды ж *тушы́раваць* ‘класці саперніка на лапаткі (у барацьбе)’, ‘падбадзёрваць лёгкімі ўдарамі дрэсіраваную жывёліну (у цырку)’ (ТСБМ).

**Тушэ́тка** ‘канапа’ (Сцяшк. Сл.). У выніку прыпадабнення *к-* > *т-* з *кушэтка* (гл.), параўн. *кухталь* / *тухталь*, гл.

**Тую́ба**, *тую́біна* ‘абразлівая, лаянкавая назва маўклівага, лянівага чалавека’ (полац., Волк.). Няясна, параўн. *туебень*, гл.

**Ту́я** ‘вечназялёнае хвойнае дрэва сямейства кіпарысавых, *Thuja*’ (ТСБМ, Кіс., Вруб.). Праз польскую (*tuja*) ці рускую мову (*туя*), магчыма, пры пасрэдніцтве ням. *Thuja* ‘тс’ (Арол, 4, 124), запазычана з новалац. *thuja* ‘від кедра’, якое са ст.-грэч. ϑυία ‘від кедра з моцным араматам, які выкарыстоўваўся пры спальванні ахвяраванняў’ < ст.-грэч. ϑύω ‘ахвярую’ (Голуб–Ліер, 493; ЕСУМ, 5, 689).

**Ту́яс** ‘пасудзіна з бяросты для захоўвання або пераноскі чаго-небудзь’ (віл., Сл. ПЗБ), *туясо́к* ‘берасцяны сасуд для ягад’ (паўн.-усх., КЭС). З рус. *ту́ес* ‘каробка з бяросты з драўляным вечкам для яек, малака, мукі, солі, грыбоў, ягад’, запазычанага з комі *tujes*, *tujis*, удм. *tuji̯s* ‘тс’, параўн. удм. *туй* ‘бяроста’ (Фасмер, 4, 115; Лыткін, Зб. Аванесаву, 176–179; Анікін, 560).

**Тфу** – выклічнік, імітуе плявок, пляванне для выказвання абурэння, незадаволенасці, злосці, расчаравання, часам здзіўлення і інш. (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., Федар. 4, Пятк. 3, Вруб.): *усе яны проціў яго тфу!* (Сержп. Прымхі), *тху* (Пятк. 2), *птху*

(ТС), *ту: ту на цябе!* (Нас.), *цю* (*тю*): *тю на тебе!* (Растарг.), *цьфу* (Бяльк.). Параўн. укр. *тьху*, *тьфу*, *тьфе*, *тфу*; рус. *тьфу*, *тфу*, *пфу*, *фу*, польск. *tfu*, *pfu*; чэш. *fuj*, *pfuj*, *pfy*, *pf*, *pff*, славац. *tfi*, *pfi*, *fuj*, славен. *fȅj*, *fȕj*, серб. *фуј*, *пих*, харв. *fȕj*, балг. *фу*, *тю*, макед. *па*. Гукапераймальныя ўтварэнні, якія перадаюць натуральныя гукі пры дзеянні, што першапачаткова мела культавы характар (Германовіч, Междом., 28). Для ўсх.-слав. *тфу*, *тьфу* няма падстаў дапускаць запазычанне, як гэта робіць Арол (4, 127), гл. Норман, IJSLP, 35–36, 176; параўн. у беларускім ідышы *tfu*, нова-в.-ням., н.-ням. *pfui*, франц. *fi*, ісп. *puf*, англ. *fie*, грэч. φῦ, φεῦ, лац. *fū*, тур. *pu*, *puf* (Фасмер, 4, 134; ЕСУМ, 5, 692; Сной$_2$, 162).

**Тхаць** ‘дыхаць, веяць, павяваць’ (ТСБМ., Нас., Байк. і Некр., Нар. Гом., Др.-Падб., Гарэц.), ‘несці, пахнуць, смярдзець’ (Сцяшк. Сл., Гарэц., ТСБМ), сюды ж *тханне* ‘патыханне’ (Юрч. Мудр.). Гл. *тхнуць*.

**Тхімкаць** ‘жаласліва плакаць, румзаць, хныкаць’, ‘стагнаць’ (М. Нікановіч). Паводле Васілеўскага (Прадукт. тыпы, 73), ад выклічніка *тхім*, які перадае гукі людзей.

**Тхла** ‘тля, *Aphidinea*’ (глыб., Жыв. НС), ‘моль’ (глыб., Жыв. НС). Да *тля* (гл.) з устаўным *-х-*, відаць, пад уплывам *тхліць* ‘даводзіць да псавання’, гл.

**Тхланіць** іран. ‘забяспечваць’ (Абабур.). Няясна; гл. наст. слова.

**Тхлань** ‘гніль, цвіль, сырасць’, ‘балоцістае месца’ (ТСБМ), ‘пекла; апраметная’, ‘прорва, бездань’ (Ласт., Некр. і Байк.), ‘цяжкадаступнае месца сярод балот і лясоў’ (зах-палес., Асоўскі, Stud. slawist., 106), ‘бездань, нетры’, ‘балота’ (Сержп. Прымхі), ‘твань’ (Нар. Гом.). Да *тхліць* (гл.) утворана па ўзоры *твань* (гл.). Відавочна, звязанае з польск. *odchłań* / *otchłań* ‘бездань’, ст.-польск. *otchlań* лац. ‘*caribdis*’ (1424 г., Najdawniejsze zab., 128), паводле Банькоўскага (2, 368, 464), слова цалкам няяснае, вядомае ў рэлігійнай літаратуры з 2-й паловы XIV ст. у значэнні ‘бездань нябесная’; апрача яго ўжываліся таксама *spusty* (*upusty*) *niebieskie*, *odchliska*, *przetchliny* і нават *odchliny*, а таксама *otkłań*, на падставе апошняга ён выводзіць першасную форму **otъklanь*, якое з дзеяслова **otъ-kloniti*, **otъ-klanjati* ‘адводзіць у бок’. Борысь (403) польск. *odchłań* ‘глыбокая прорва, прадонне, бездань’, ‘месца знаходжання душ памерлых, чысцец, пекла’ звязвае

з **ot-chłaniać* < *chłonąć* з першасным значэннем 'тое, што паглынае' і параўноўвае з укр. *хланути* 'прагна есці' < *хла́пнути*, славен. *hlániti* 'хціва хапаць мордай, рылам' і адносіць да першаснага **xolnǫti* < **xoliti* 'акружаць, абгортваць', 'пакрываць, засланяць'. Сумнеўна, параўн. рэдкае польск. *odtchłań* 'бяздонне' (XVI ст.), што, магчыма, да *tchnąć*, гл. *тхнуць*, *тухлы*.

**Тхліць** 'даводзіць да гніласці' (Нас.). Да *ту́хлы* (гл.) з варыянтным вакалізмам < прасл. **tъxlъ* (Фасмер, 4, 128), параўн. *тхлявы* 'тухлы' (Шат.), *тхля* 'тухласць' (Ласт.), *тхло* 'тухлы, гнілы пах' (ТСБМ), 'душна без паветра (пра рыбу пад тоўстым лёдам)' (полац., Шн. 2), 'недахоп кіслароду ў вадзе (на возеры)' (глыб., Сл. ПЗБ), 'прыдуха, задуха, замор рыбы ў возеры' (гарад., Нар. сл., Рэг. сл. Віц.), 'палонка, прасечаная ў лёдзе, куды выходзіць затохлая рыба' (полац., Яшк.), 'адтуліна, праз якую вычэрпваюць затохлую рыбу' (полац., З нар. сл.); *тхлі́ца* 'мор рыбы ад недахопу паветра' (гродз., ЖНС), *тхлі́на* 'тухлы гнілы пах' (ТСБМ; беласт., Сл. ПЗБ), 'гніласць' (Байк. і Некр.), *тхлосць* 'застаялы пах' (Вушац. сл.). Параўн. рус. дыял. *тхли́ца* 'рыба, якая задыхнулася ў рацэ', паводле Фасмера (4, 129) – з **тъхлъ* або **дъхлъ*, гл. *тохнуць*, *дохнуць*.

**Тхнуць** 'дыхнуць', 'павеяць, дунуць' (ТСБМ, Некр. і Байк., Яруш., Нас., Гарэц.): *не можэ тхнуць без гарэлкі* (Сержп. Прымхі), 'перавесці дух' (Шат., Сцяшк.), 'перадавацца ў паветры праз пахі, смярдзець' (ТСБМ, Гарэц., ТС), 'патыхаць смуродам' (Некр. і Байк., Зайка Кос.; слонім., Нар. словатв.), *тхну́ті* 'дыхнуць' (Бес., Вруб., Кітаб Луцкевіча), *тхну́ты* 'перавесці дух' (кобр., Жыв. сл.), 'трохі смярдзець, патыхаць' (драг., З нар. сл.), ст.-бел. *тхнути*, *тхнуть* 'дыхнуць' (ГСБМ). Параўн. укр. *тхну́ти*, *дхну́ти* 'дыхнуць, павеяць', рус. пск. *тхнуть* 'задыхнуцца (ад недахопу кіслароду, пра рыбу)'; польск. *tchnąć* 'дыхнуць', 'дыхаць', 'удыхнуць', 'павяваць', ст.-польск. *dchnąć* 'тс', чэш. паэт. *tchnouti*, ст.-чэш. *dchnúti* 'дыхнуць, павеяць'. Узыходзіць да праслав. **dъxnǫti* > *дыхнуць*, *дыхаць* (гл.). Формы з пачатковым *т-* з'явіліся ў выніку прыпадабнення звонкай *д-* да глухой *-х-* пасля страты рэдукаваных (Фасмер, 4, 129; Праабражэнскі, 2, 23–24; Брукнер, 567 і 86; Слаўскі, 1, 143; ЕСУМ, 5, 690; Борысь, 629).

Сюды ж *тхéньне* ‘подых’ (Ласт.), *тхнець* ‘пах’: *чаромхаў тхнець* (А. Салавей).

**Тхом** у выразе: *адным тхом* (*сказаць, зрабіць што-небудзь*) ‘на адным дыханні’ (Канкард. XIX ст.), ст.-бел. *тохъ* ‘уздых’ (ПГС). Дэвербатыў ад *тухнуць* (гл.), ст.-бел. *тхнути*, *тхнуть* ‘дыхнуць’, што ўзыходзяць да прасл. **dъxnǫti* ‘выдаваць дух, дыханне, пах’, параўн. польск. *tchem* – форма Тв. скл. ад *dech* ‘дыханне, дух’ (Борысь, 629). Гл. таксама *тохнуць*, *дохнуць*.

**Тхор**, *тхур*, *тхӯор*, *тхір*, *тхыр*, *хор*(*ь*) ‘шашок, драпежная жывёліна сямейства куніцавых, *Mustela putorius*’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Бяльк., Касп., Клім., Бес., Сцяшк., Дразд., Др.-Падб., Вруб., ТС, Гарэц., Пятк. 2; паўд.-бел., Сл. ПЗБ; усх.-віц., маг., ваўк., віл., гарад., свісл., ЛА 1): *седзі моўчкі, тхуор у нары* (Сержп. Прык.), *тхор*, *тхорь* ‘тс’ (Растарг.); ст.-бел. *тхоръ* ‘тс’, ‘футра тхара’ (ГСБМ), перан. *тхор* ‘баязлівец’ (Нас.), сюды ж *тхары́ць* ‘баяцца, палохацца’, *тхарлівы* ‘палахлівы’ (Некр. і Байк.), *тхараваты* ‘нелюдзімы, пануры (пра чалавека)’ (Рэг. сл. Віц.). Параўн. укр. *тхір*, *хір*, рус. *хорь*, *хорёк*, *тхорь*, стараж.-рус. *дъхорь*, *дохорь*, *тхорь*; польск. *tchórz*, *tkórz*, *twórz*, *tfórz*, *tórz*, *ćkórz*, каш. *tvǿř*, славін. *tkᵘǿř*, н.-луж. *twóř*, в.-луж. *tkhóř*, *tchór*, *twór*, чэш. *tchoř*, *schoř*, *zhoř*, ст.-чэш. *dchoř*, славац. *tchor*, славен. *thôr*, *dihúr*, *dehôr*, харв., *tvȏr*, *vȍr*, *fȍr*, *por*, *torec*, серб. *твȏр*, *тор*, *хор*, *тȍрац*, балг. *твор*, *трор*, *тор*, *тóрче*, *тръ́рче*, *пхорь*, *пор*, *пóрът*, макед. *твор*, *пор*. Прасл. **dъxoŕь* першапачаткова ‘смярдзючка’ (Бернекер, 1, 101; SP, 5, 153; Сной$_2$, 109; Фасмер, 4, 270; Махэк$_2$, 643; Скок, 1, 374; Бязлай, 1, 101; ЭССЯ, 5, 177–178; ЕСУМ, 5, 689–670). Утворана ад дзеяслова **dъxnǫti* ‘смярдзець’ пры дапамозе суф. **-oŕь*. Уласцівасць тхара выдаваць з сябе смярдзючы пах выклікала шэраг падобных утварэнняў ад іншых дзеясловаў з такой жа семантыкай: *смярдзюк* (Жыв. сл.), польск. *śmierdziel*, славен. *smrdak*, *smrduh*, харв. *smŕdelj*, серб. *смр̏дљивац*, макед. *смрдушка*, *смрдуљка* (< прасл. **smŕ̥děti* ‘смярдзець’), рус. дыял. *бздюх* ‘тхор’ (< прасл. **pьzděti* ‘псаваць паветра’), а таксама ў неславянскіх мовах, напрыклад, франц. *putois* < ст.-франц. *put* ‘смярдзючы’ < лац. *puter* ‘гнілы, трухлявы; смярдзючы’, ‘вялы’. Варыятнасць пачатку слова назіраецца пасля страты рэдукаваных у выніку прыпадабнення звонкага **d-* да глухога **t-* і іншых фанетычных

працэсаў. Няма падстаў выводзіць бел. *тхор* 'шашок' з польск. *tchórz* (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 152), аднак пераноснае значэнне 'баязлівец', магчыма, з'яўляецца супольнай інавацыяй або ўтварылася на базе значэння 'псаваць паветра ў выпадку небяспекі', што характэрна для жывёліны, ці абазначэння скрытнага характару паводзін чалавека.

**Тц-тц-тц** – выгукі, якімі падклікаюць парасят (ТС). Параўн. укр. *цю* 'падзыўны гук для свіней', рус. смал. *цо-цо*, пск. *цу-цу*, калін. *тцу-тцу*. Гукапераймальнае; відаць, імітуе інтэнсіўнае хлябтанне і заахвочванне да яго. Малаверагодна вывядзенне з лат. *cũka* 'свіння', літ. *ciùcė* 'свінка' і іншых назоўнікаў (Анікін, Опыт, 294–295), якія таксама паходзяць ад гукапераймання.

**Тшчы** (*тщій*) 'пусты, які не ўжываў ні ежы, ні вады', 'чысты': *я к табе з тшчым сэрцам, а ты лукавіш са мною* (Нас.), 'марны' (там жа), ст.-бел. *тщий*, *тщивый* 'тс', *тще* 'пуста, дарэмна' (ГСБМ). Параўн. укр. *тщий* 'цвярозы, пусты, непатрэбны', 'марны', *на тще серце*, *на тщо серце* 'не еўшы, нашча', *тще* 'дарэмна, марна', рус. *тщий* 'пусты, парожні', *тще* 'дарма, дарэмна', а таксама *тощий* 'худы', 'пусты', 'бедны', 'посны', стараж.-рус. *тъщий* 'парожні', 'дарэмны'; польск. *czczy* 'тс', 'бясплодны', ст.-польск. *tszczy*, ст.-чэш. *tští* 'тс', славен. *tȅšč*, харв. *tȁšč*, серб. *та̏шт* 'пусты', 'марны', 'нязначны, мізэрны, нікчэмны', макед. *на ште срце* 'на галодны страўнік', ст.-слав. **тъшть** 'пусты'. Прасл. **tъščь* 'пусты' роднаснае літ. *tùščias* 'пусты', 'марны', 'халасты', 'бясплодны', лат. *tukšs* 'тс', 'парожні', лац. *tesqua* 'пустыні, стэпы', 'самотны край', авест. *taoš-*, ст.-інд. *tucchyá-* 'пусты, мізэрны', 'беспаветраны' < і.-е. **tus-sk'o-* 'пакінуць' < і.-е. **teu̯s-* 'пусты, пакінуты' (Фасмер, 4, 130; Чарных, 2, 274; Фрэнкель, 1145–1146; Смачынскі, 696–697; Покарны, 1085; Сной, 762; Скок, 3, 413; Львоў, Этимология–1974, 79). Непераканальна пра сувязь з **tъska* 'смутак, прыгнечанасць' Цвяткоў, Запіскі, 76. Параўн. *тушчы*, гл.

***Тшта** '?': *wyłajaй ad tszci, ad wiery* (ваўк., Федар. 4), побач з гэтым: *zbeścić ad ćci, ad wiery* (слонім., там жа). Відаць, да *чэсць*, параўн. *сціць* (гл.). Менш верагодная сувязь са ст.-бел. *тщитися* 'старацца', стараж.-рус. *тъщати* 'прыцясняць, трывожыць, падганяць', ст.-слав. **тъштати** 'турбавацца, клапаціцца,

старацца' < прасл. ***tъščati** 'прагнуць, тужыць', звязаным з **tъska* 'сум, смутак' (Фасмер, 4, 130; ESJSt, 17, 1007; ЕСУМ, 5, 690; Арол, 4, 124).

**Ты** – займеннік 2-й ас. адз. л. 'ты' (ТСБМ, Нас., Бяльк., ТС, Федар. 4, Некр. і Байк.; ашм., Стан., Вруб., Сл. ПЗБ): *чужых жэ, малознаёмых і толькі знаёмых людзей называюць на ты* (Сержп. Прымхі), ст.-бел. *ты* 'тс' (1492 г., ГСБМ), *ты* = лац. *tu* (Жлутка). Параўн. укр. *ти*, рус., стараж.-рус. *ты*, польск., н.-луж., в.-луж., чэш., славац. *ty*, палаб. *tåi*, славен. *tí*, харв. *tî*, серб. *тû*, макед., балг. *ти*, ст.-слав. **ты**. Прасл. **ty* роднаснае літ. *tù*, лат. *tu* 'ты', ст.-прус. *tou*, *tū*, гоцк. *þu*, ст.-н.-ням. *thu*, ст.-англ. *thou*; с.-ням., в.-ням., швед., дацк. *du*, алб. *ti* (< **tū*), ірл. *tu*, вал. *ti*, ст.-грэч. дар. τύ, авест. *tū* і *tvə̄m*, ст.-перс. *tuvam*, ст.-інд. *tvám*, хіндзі *tū* < і.-е. **tu* і *tū*; другую форму тлумачаць як сцягненне двух элементаў: *tu-wa* > *tewe* > *twe*, апошняе – энклітыкай В. скл., параўн. ст.-грэч. σε; элемент *t-* ідэнтыфікуюць з указальным *t-* (ESSJ SG, 2, 706; ESJSt, 17, 1007). Гл. таксама: Фасмер, 4, 130; Мюленбах–Эндзелін, 4, 254; Махэк$_2$, 663; Брукнер, 587; Шустар-Шэўц, 1566; Скок, 3, 466; Борысь, 657; ЕСУМ, 5, 564; Арол, 4, 124. Сюды ж *ты́каць* 'звяртацца да каго-небудзь на «ты»' (ТСБМ, ТС, Яўс.), *ты́кацца (týkacsa)* 'тс', 'фамільярнічаць' (Федар. 4).

**Ты́-бачко** 'ты': *як ты-бачко паздатнела, ты-бачко дзе робіш?* (Сцяшк. Сл.). Да *ты* (гл.). Другая частка *-бачко*, відаць, ласкальны суфікс, утвораны адсячэннем канцовай часткі слоў, як у драг. *лю́бочко* 'любка, мілая, харошая, зязюлька і г. д.' у клічным склоне, параўн. *лю́бачка* 'мілая, дарагая' (гл. *любка$_1$*), або, што больш верагодна, аформленая суф. *ко-* выклічнікавая форма *бач* (гл. *бачыць*), што выражае здзіўленне (ТСБМ).

**Тыбатэ́нка** м. р. 'кабат' (Бяльк.). Няясна, магчыма, у выніку мены пачатковага *к-* на *т-* ад *кабат* (гл.), параўн. *тухвайка* з *кухвайка* і пад. (аб мене *к* > *т* гл. Карскі 1, 375).

**Ты́бель**. Гл. *тэбель*.

**Ты́бліць** 'ісці ўпэўнена' (мёрск., Нар. лекс., Бел. дыял. 1), параўн. яшчэ аргат. 'futuere' (Лукашанец, Сацыял.), магчыма, да *тыбель*, гл. Экспрэсіўны дзеяслоў няяснага паходжання, магчыма, балтызм, параўн. літ. *dỹbinti* 'ісці, крочыць (вялікімі кро̀камі)', параўн. *дыбаць*, гл.

**Тыга** ‘прэч’ (Адм.): *тыга, гад!* (Я. Колас). Волевыяўленчы выклічнік, магчыма, суадносіцца з *ту-гá*, *цюгá* (гл.). Блізкія па форме выклічнікі, параўн. укр. *тег*, *тега*, *тúга*, рус. *тúга-тúга*, *тéга*, *тéжа* служаць для падзывання гусей і лебедзяў (гл. Фасмера, 4, 55) і, мажліва, імітуюць іх крык, падобна да макед. дыял. *тъга-тъга* – падзыўныя для жывёлы і інш.

**Ты́гель** ‘пасудзіна з вогнетрывалага матэрыялу для плаўкі, варкі, нагрэву розных матэрыялаў’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *ты́гель, ты́глік* ‘гаршчок для плаўкі металаў’ (Ласт.), *тыгéлік*, *тыдéлёк* ‘тыгель (патэльня)’ (Сл. Брэсц.), *тыгелёк* ‘каструля’ (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *tygiel*, *tyglik*, *tygielek*, *tegiel*, якія з с.-в.-ням. *tigel*, *tëgel* ‘гаршчок, слоік’ (Махэк$_2$, 663; Брукнер, 567), нова-в.-ням. *Tiegel* ‘нізкі гаршчок, патэльня’, апошняе ўзыходзіць да італ. старога *teglia* ‘патэльня’ < позналац. *tēganum* < ст.-грэч. τήγανον ‘тс’ (Фасмер, 4, 56; ЕСУМ, 5, 564; Арол, 4, 70).

**Тыгóдзень** ‘тыдзень’ (ашм., Сцяшк. Сл.), параўн. старое польск. падляш. *tygoʒeń* ‘тс’ (Рэмбішэўска, Dynamika, 153). Паводле Борыся (657), адлюстроўвае гістарычнае спалучэнне са скланяльнымі формамі **tegoje dьne* Р. скл. ад **tъjь dьnь* ‘тыдзень’ (**tъ-jь* ‘той’ і **dьnь* ‘дзень’); захавалася ў суч. польск. *tegodnia*, каш. *tigodńa* Р. скл. з пераафармленнем канца слова па ўзоры *tydzień*, гл. *тыдзень*.

**Тыгр** ‘буйная драпежная жывёла *Panthera tigris*, *Felix tigris*’ (ТСБМ, Нас.), ‘люты звер’ (Ласт.), *ты́гра, тыгры́ца* ‘тыгрыца’, перан. ‘злая жанчына’ (Байк. і Некр.), *ты́г(а)р, ты́гра* ‘*Felix tigris*’ (Некр. і Байк.), *ты́гр(ыс)* ‘тс’ (Пятр.), ст.-бел. *тигрисъ* ‘тс’ (ГСБМ). Параўн. укр. *тигр*, рус. *тигр*, рус.-ц.-слав. *тигръ*, ст.-слав. **тигръ** ‘тыгр’ (у Супрасльскім рукапісе: **рѣка тигрьска** ‘рака Тыгр’), якое ўзыходзіць да с.-грэч. τίγρις ‘тыгр’, апошняе было запазычана з нейкай авестыйскай лексемы, роднаснай ст.-перс. *tiɣri-* ‘страла’, *tiɣra-* ‘востры’ < і.-е. **(s)tei̯g-* ‘калоць, басці’, ‘завостраны’ (Фасмер, 4, 56; Сной$_2$, 763; Голуб–Ліер, 495; ЕСУМ, 5, 564). У сучасных славянскіх мовах назвы гэтай жывёлы былі запазычаны з ням. *Tiger* ці з франц. *tigre*, якія ўзыходзяць да лац. *tigris* ‘тс’ (Сной, Фасмер, там жа; Махэк$_2$, 663; Арол, 4, 70). Ст.-бел. *тигрисъ* (*тикгрисъ*) ‘тыгр’ (1517 г.) запазычана са ст.-польск. *tygris* ‘тс’ у XVI ст. (Булыка, Лекс. запазыч., 144), што захавалася ў суч.

польск. *tygrys* 'тс'. Форма *тыгра* 'тс' (Я. Колас, М. Гарэцкі, гл. Каўрус, Словаклад) і адпаведныя дыялектныя формы ўтвораны паводле мадэлі *сябра*, *майстра*, *Пётра*, каб пазбегнуць неўласцівага народнай мове спалучэння зычных на канцы слова (Станкевіч, Язык, 781).

**Ты́дзень** (*ты́дзянь*, *ты́дзінь*) 'частка месяца, сямідзённы тэрмін' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Касп., Ласт., Сержп. Прымхі, Яруш., Мал., Гарэц.; ашм., Стан., Сл. ПЗБ), *ты́день* 'тс' (пруж., Сл. ПЗБ, Растарг.), ст.-бел. *тыдень*, *тыдзень* 'тс' (1486 г., ГСБМ). Параўн. польск. *tydzień*, каш. *tiʒ̇eń*, чэш. *týden*, славац. *tíd'en*, в.-луж. *tydźeń*, н.-луж. *tyźeń*, славен. *tẹ́den, tjéden*, серб. *тјѐдан*, харв. кайк., чак. *tjedan*, *téidan*, *tjȁden*. Лексема ўзнікла на тэрыторыі Вялікай Маравіі і распаўсюдзілася разам з хрысціянствам (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 403); пасля прыняцця хрысціянства і ўрэгулявання назваў тыдня (Брукнер, 588) лексема стала абазначаць 'сямідзённы тэрмін'. Першая частка слова – прыметнікавая форма займенніка **тъ* 'гэты', ускладненая ўказальным займеннікам **jь*: **tъ-jь* > **t-yjь*, які яшчэ ў XV ст. скланяўся разам з другой часткай **dьnь* 'дзень', параўн. чэш. *týden*, *téhodne*, *témudni*, *týmdnem*. У беларускую мову слова трапіла з польскай мовы (Карскі 2–3, 89), дзе захавалася таксама форма Р. скл. адз. л. *tygodnia* 'тыдня' (Борысь, 657; Лер-Сплавінскі, JP, 1928, 13, 12–14), гл. *тыгодзень*. У *тыдзень* скланяецца толькі другая частка (як *дзень*). Для старабеларускай і народнай мовы характэрна варыянтнасць назвы тыдня, звязаная з рознымі шляхамі пранікнення і фанетычнай адаптацыі. Ст.-бел. *тыйдень*, *тийдень* (1498 г.), паводле Карскага (там жа), адлюстроўвае архаічную форму, блізкую да зыходнай; формы са спалучэннямі *жьд*, *жд* (ст.-бел. *тыйжьдень*, *тыждень*) Карскі (там жа) тлумачыць устаўкай *ж* (< часц. *жа*); зафіксаванае ў Рэчыцкім пав. *ты́жджень* Бузук (Спроба, 59) разглядае як вынік асіміляцыі *д* папярэднім *ж*, а тураўскае *ты́здзень* – як вынік адваротнай асіміляцыі. Рэдкая форма *ты́жань* (Ян., ПСл) узнікла, магчыма, па ўзоры *нуда* і *нужда* (гл.) як «аднаўленне» ўсходнеславянскага рэфлекса прасл. **dj*, што, зрэшты, не выключае захавання архаізма, параўн. старое польск. *tyżeń* 'тыдзень' (Варш. сл.), параўн. чэш. *týž* 'той самы' (гл. наступнае слова), якое суадносіцца з рэ-

канструяваным першасным значэннем ‘той самы дзень (праз сем дзён)’, гл. Махэк$_2$, 663; Борысь, 657. Адносна развіцця *dj* > *ždž* > *ž* гл. Голамб, MJ, 40–41, 125. Сюды ж *тыднёва* ‘выезд маладых да бацькоў маладой у першы тыдзень пасля вяселля’ (Сцяшк. Сл.), *тыднёво* ‘застолле праз тыдзень пасля вяселля’ (Сл. рэг. лекс.), *тыднёвы* ‘штотыднёвы’, ‘які працягваецца цэлы тыдзень’ (ТСБМ, Яруш., Гарэц.), *тыднёвік* ‘штотыднёвік’ (Гарэц.), ‘працоўны тыдзень’ (Варл.), *ты́днік* ‘тыдзень’ (віл., Сл. ПЗБ), *ты́днічак* памянш. ‘тс’ (Скарбы), спалучэнне *tak tydzień* ‘тыдзень таму назад’ (Федар. 1), параўн. *такрок*, гл.

**Тыж** ‘таксама’ (Сл. рэг. лекс.), *тыш* (*тыж*) ‘тс’ (зэльв., Нар. словатв.), ст.-бел. *тыжъ*, *тежъ*, *тэжъ* ‘тс’ (ГСБМ). Спецыфічнае развіццё першаснага спалучэння **tъže* (гл. *тэж*), параўн. укр. *теж* ‘таксама’, дыял. *тиж* ‘тс’, ст.-чэш. і чэш. *tyž* ‘той жа’, *též* ‘таксама’, паралельнага да польск. *též* ‘тс’. Мена [*е*] > [*ы*], як у польск. *potem* > бел. *по́тым*.

**Ты́ждзень** ‘тыдзень’ (ТС, ПСл, Нар. Гом., Арх. Вяр.), *ты́ждень* ‘тс’ (Растарг.), *ты́ждэнь* ‘тс’ (Бес., Сл. Брэс.; лельч., Нар. лекс.), *ты́ждэн* ‘тс’ (кам., Сл. ПЗБ), *ты́ждань* ‘тыдзень’ (калінк., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *ты́ждынь* ‘тс’ (зах.-пал., Бел. дыял. 3), *ты́жджэнь* ‘тс’ (кам., Сл. ПЗБ, ТС, Альп.), *тэ́ждынь* ‘тс’ (драг., Сл. Брэс.), *ты́джань* і *ты́жань* ‘тс’ (Ян., ПСл), ст.-бел. *тыждень*, *тыйжьдень* ‘тс’ (ГСБМ). Параўн. укр. *ти́ждень*, ст.-чэш. *týžden*, славац. *tyždeń*. Гл. *тыдзень*. Пра мажлівасць другаснага спалучэння *жд* у палескіх гаворках сведчаць прыклады *прыежда́ць* ‘прыязджаць’, *ад’ежда́ць* ‘ад’язджаць’ і інш. (ТС). Сюды ж *тыждне́ўка* ‘тыдзень’, *тыжнёваць* ‘знаходзіцца тыдзень у пэўным месцы’ (ТС).

**Ты́жыць**$_1$ экспр. ‘прымушаць рабіць’ (шальч., Сл. ПЗБ). Магчыма, балтызм, параўн. літ. *tū̃žti* ‘лютаваць, даводзіць да шаленства’, як і аманімічнае *ты́жыць* ‘хлусіць, гаварыць абы-што’ (там жа), параўн. літ. *taũzyti* ‘балбатаць, несці лухту’, што няпэўна.

**Ты́зы** ‘насціл у ганчароў для сушкі вырабаў’, *тызо́ўкі* ‘тс’ (беласт., SFPS, 14, 196; БЛ, 18, 62), сюды ж, відаць, *тызі* ‘апоўзіны (у стозе)’ (зах.-палес., Бел. дыял. 2). Гл. *тэзы*.

**Тый** ‘той’ (Гарэц., Бяльк.), ст.-бел. *тый*, *тий* ‘тс’ (1529 г., ГСБМ): *тыи конь, тый товаръ* (1300 г., Карскі 2–3, 53). Параўн. польск. дыял. *tyj* ‘тс’. З прасл. **tъ* і **jь* > *тъјь*, у якім *-ъј-* > *ый,* як у прыметніку *малады* (< **moldъјь*) і займенніку *чый* (<**čъјь*), што з’яўляецца новаўтварэннем, гл. Станкевіч, Arche, 2001, 1, 172; Бузук, Спроба, 74. Форма *тыи* бытавала ў жывой старажытнарускай мове. Пад уплывам займеннікаў *свой*, *твой*, *мой* на заканамерны займеннік *тыи* апошні замацаваўся ў нарматыўнай форме *той* (гл.), а ў дыялектных формах – *тый*, *тэй*; апошнія, на думку Векслера (Гіст., 167), звязаны з тым, што **jь* далучыўся да **tъ* да таго, як адбыўся пераход *ъ* > *о*. Гл. таксама *тэй*.

**Ты́йдзень** ‘тыдзень’ (Жд. 3). Гл. *тыдзень.*

**Тык**$_1$ – аддзеяслоўная часціца, перадае раптоўнае або нечаканае дзеянне (мсцісл., Нар. лекс., Нас.). Ад *тыкаць*$_1$ (гл.).

**Тык**$_2$ – злучнік або часціца: *тык багдайбы мяне* (В. Дунін-Марцінкевіч), укр. дыял. *тик* ‘тс’. Паводле Копечнага (Этимология–1967, 27; ESSJ SG, 2, 77), вынік дэсанарызацыі *дык* (гл. *ды*).

**Тыка**$_1$ – узмацняльная часціца (энклітыка) з фамільярным адценнем ‘ну, ану’: *пойдзем тыка* ‘пайшлі хутчэй’, *еж тыка* ‘давай хутчэй еш’ (Нас.). Варыянт *-тка* (гл.) з вакалізацыяй узмацняльнай часціцы **-t-* (параўн. *тыкі*, гл.) і часціц з **-k-*, што ўзыходзяць да **-ka* / **-ko* / **-ky* / **-kъ* (ESSJ SG, 1, 330–331).

**Тыка**$_2$, ст.-бел. *тыка* ‘тычка’ (1590 г., ГСБМ). Як сцвярджае Булыка (Лекс. запазыч., 103), запазычана са ст.-польск. *tyka* ‘тс’, што неабавязкова. Гл. таксама *тыч*, *ты́чка*, *тычына.*

**Ты́кавец** ‘той, хто спіхвае клопат на другога’ (Рам.). Да *ты* ці *ты́каць*$_{1,2}$ (паказваючы на іншага), гл.

**Ты́каўка**, *ты́кавка* ‘верашчака, мачанне’ (Шат.; малар., Сл. Брэс.), ‘кавалачкі сала і мяса, прыгатаваныя з мукой у выглядзе калатушы’ (Інстр. 1). Да *ты́каць*$_1$ (гл.), бо бліны мачаліся («тыкаліся») у верашчаку.

**Ты́каць**$_1$ ‘торкаць, тыцкаць’, ‘паказваць’, ‘даваць, падсоўваць што-небудзь каму-небудзь’, ‘рабіць папрок, упікаць’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Мат. Гом.): *не тыкай на сонцэ, бо рука отсохне* (Сержп. Прык.), ‘уторкваць, утыкаць’ (ТСБМ, Нас., Федар. 6, ТС̌), ‘закладаць снапы ў азярод, запраўляць, запіхваць’ (калінк., люб.,

Сл. ПЗБ), ‘совацьʼ: *язычa, язычa, куды цябе тычa* (пух., З нар. сл.), *тыкаць, утыкаць* (*нос*) ‘умешвацца не ў сваю справуʼ (Юрч. Фраз.), *тыкаць у нос* ‘рэзка ўказвацьʼ, *тыкаць пальцамі* ‘адкрыта асуджацьʼ (там жа), *ты́кнуць* ‘ткнуць, сунуцьʼ (Нас., ТСБМ, Некр. і Байк., ТС), *тыко́ць* ‘тыцʼ (ТС), ст.-бел. *тыкати* ‘ўтыкаць; закранаць, датычыцьʼ (ГСБМ), ‘натыкацьʼ: *дѣти на колье тыкахоу* (XV ст., Карскі 2–3, 456). Параўн. укр. *ти́кати*, рус. *ты́кать*, старaж.-рус. *тыкати* ‘штурхацьʼ, ц.-слав. *тыкати* ‘калоцьʼ; польск. *tykać* ‘дакранаццаʼ, ‘кранацьʼ, ‘адносіцца, належацьʼ, ‘убівацць у зямлюʼ, славін. *takac* ‘датыкаццаʼ, палаб. *tåicĕ* ‘тыкаеʼ; н.-луж. *tykaś* ‘кранаць, датыкацца, штурхаць, тыкацьʼ, ‘падавацьʼ, в.-луж. *tykać* ‘соваць, тыкаць, утыкаць, набіваць (люльку)ʼ, славен. *tikati* ‘належаць, адносіццаʼ, харв. *tȉcati*, серб. *ти́цати* ‘датыкаццаʼ, ‘закранацьʼ, ‘датычыцьʼ, балг. *ти́кам* ‘тыкаць, штурхацьʼ. Прасл. **tykati* ‘датыкаццаʼ < ‘калоць, басціʼ, ‘злёгку таўчы, закрануцьʼ суадносіцца з прасл. **tъknǫti* ‘дакрануццаʼ (Сной$_2$, 764), гл. *ткаць, ткнуць*; роднаснае лат. *tũkât, tũcît* ‘мясіць, ціснуць, мяць, запіхваць, біць, грукацьʼ, літ. *tuksė́ti* ‘стукаць, грукаць, біцца (аб сэрцы)ʼ, ст.-в.-ням. *dûchen* ‘ціснуцьʼ, ст.-грэч. τύκος ‘малатокʼ, ‘сякераʼ, асец. *tuğd* ‘біцца, змагаццаʼ, *t'yst, t'unst* ‘запіхваць, саваць’, ‘калоцьʼ < і.-е. *(*s*)*teu̯*- ‘таўчы, біцьʼ і **tēu̯*- (Каруліс, 2, 435; Фасмер, 4, 130; ЕСУМ, 5, 566; Арол, 4, 124).

**Ты́каць$_2$** разм. ‘гаварыць камусьці «ты», называць імемʼ (ТСБМ, Некр. і Байк., ТС), *ты́кацца* ‘звяртацца на «ты»ʼ (ТС): *ni tykajsie za mnojy, ja z taboju świniej ni paświй* (Федар. 4). Параўн. укр. *ти́кати* ‘звяртацца на «ты»ʼ, рус. *ты́кать* ‘тсʼ, польск. *tykać* ‘тсʼ, н.-луж. *tykaś se* ‘тсʼ, в.-луж. *tykać* ‘тсʼ, чэш. *tykat* ‘тсʼ, славац. *tykat' si* ‘тсʼ, серб. *ти́кати* ‘тсʼ, харв. *tíkati* ‘тсʼ, славен. *tikati* ‘тсʼ. Утвораны ад займенніка 2 ас. адз. л. *ты* (< прасл. **ty*) накшталт ням. *duzen* (< *du* ‘тыʼ), франц. *tutuer* (< *tu* ‘тыʼ) (Сной$_2$, 764; Фасмер, 4, 130; ЕСУМ, 5, 563; Арол, 4, 125).

**Ты́ква** ‘від гародніныʼ (Бес.), ‘посуд з гліны для алеюʼ (Ян.). Параўн. укр. *ти́ква, ти́квиця* ‘гарбузʼ, ‘пасудзіна для вады, вінаʼ; рус. *ты́ква* ‘гарбузʼ, старaж.-рус. *тыкы, тыкъвь, тыкъва*, ц.-слав. *тыкы, тыковь, тыкъве* ‘тсʼ, польск. *tykwa* (*zwyczajna*) ‘гарлянка, *Lagenaria vulgaris* Ser.ʼ, старое польск. таксама *tykwia* ‘тсʼ; ст.-польск. (XV ст.) *tykwa* ‘нейкі сорт грушʼ, ‘гарлянкаʼ, ‘гурок,

*Cucumis sativus*', *tykwa* (*włoska*) 'кавун, *Citrullus vulg.*', каш. *tëkv́a*, *tëkva* 'вялікія прадаўгаватыя грушы', славін. *tëkv́a* 'сорт асенніх груш', чэш. *tykev*, мар. *tykva* 'гарбуз', славац. *tekvica* 'тс', 'кабачок'; славен. *tîkva* 'гарбуз', перан. 'мазгаўня', 'бутэлька', *tikváča* 'чэрап', *tikveníca* 'сорт груш', *tîkvešnica* 'нейкі сорт яблык'; харв. *tȉkva*, серб. *тѝква* 'гарлянка', 'гарбуз', 'сасуд з гарбуза', 'сіфон для набірання віна з бочкі', перан. 'дурная мазгаўня'; макед. *тиква* 'гарбуз', 'дурань', балг. *тѝква* 'тс'. Дапускаецца прасл. **tyky*, **tykъve* (якое не зусім яснае этымалагічна) 'гарлянка', 'гарбуз' ці падобныя да іх расліны, што паходзяць з паўднёвых краін. Назва, прынятая славянамі, магчыма, базіруецца на даіндаеўрапейскай (пелазгійскай) назве, роднаснай той назве, да якой узыходзяць ст.-грэч. σικύα 'гарлянка, *Lagenaria vulgatis*', σίκυος, σικός 'гурок', 'дзікі гурок, *Ecbarium elaterium*', лац. *cucumis*, *cucumeris* 'тс' (SEK, 5, 143; Бязлай, 4, 180), *ficus*, арм. *t'uz* 'тс' (Фасмер, 4, 130; Гиндин, ЭИРЯ, 2, 1961, 88); Скок (3, 469) прыцягвае сюды яшчэ італ. *zucca* 'гарбуз', франц. дыял. *tüko* 'тс'. Ілліч-Світыч (ЭИРЯ, 1, 21) выказвае ідэю аб славянскім паходжанні слова *тыква*, супастаўляючы яго з **tykati* 'тыкаць', **tyky* 'тычкі, слупы', матывуючы тым, што гарбузы сеяліся ўздоўж платоў, за якія яны чапляліся, і віселі на іх. Агляд версій гл. ESJSt, 17, 1002; Арол, 4, 125.

**Тыке́ля** 'толькі' (Ласт., Гарэц., Сцяшк.), 'столькі' (воран., Сл. рэг. лекс.), *таке́ля* 'так, гэтак': *каб ты такеля жыў, як гэто праўды* (Васількова сп.), *тыкеле* 'толькі, аднак' (Ф. Багушэвіч), сюды ж, відаць, *тыке́ль* 'цяпер' (Сцяшк.). Няясна. Ластоўскі (Ласт., 706) падае разам з *ткале* 'толькі, адно' (Сержп.), гл. Гутшміт (ZfSl, 19, 2, 270) адносіць да балтызмаў разам з *тыкі* 'толькі', параўноўваючы з літ. *tik* 'тс'; аналагічна Санько, Kryṷja, 1966, 1, 93. Літоўскае слова разглядаецца як скарочаная форма літ. *tíek* 'столькі', што адпавядае пытальнаму *kíek* 'колькі' (Смачынскі, 675). Канец слова можа ўзыходзіць да часціцы **-lě* / **-le* (параўн. ЭССЯ, 14, 171–173).

**Тыкі** – энклітычная часціца, што далучаецца да слоў для пацвярджэння сказанага: *мне тыкі гэта на руку* (Нас.), *ту ӥжо uwidzieli, szto tyki i praŭda* (Ф. Багушэвіч). Параўн. макед. *тики*

'ну вось': *така тики!* 'значыць так!' (з адценнем недаверу). Аналагічныя па паходжанні з *тыка*$_1$, **такі*$_2$, *-тка* / *-ткі-* і пад.

**Тыкло́** 'стажар, доўгая, убітая ў зямлю жэрдка, вакол якой ставілі стог' (беласт., Сл. ПЗБ). Да *ты́каць* (гл.). Суф. *-ло́* акрэслівае прадметы паводле іх прызначэння, параўн. *грабло́* 'вясло', *трапло́* 'трапачка', *чарпло́* 'чарпак'. Аналагічнага паходжання польск. дыял. *tykło* 'стажар' (Варш. сл.), паводле Брукнера (588), 'назва сеткі, якой ловяць птушак', фіксуецца таксама *tykieł* 'тс' (Варш. сл.). Рэгіянальнае ўтварэнне, гл. Багроўска, 52.

**Ты́кля** 'бляшанка на газу' (Бяльк.), 'няўдалы чалавек' (варан., Сл. рэг. лекс.). Няясна, магчыма, ад *ты́каць*$_1$ (гл.): 'затычка, посуд з затычкай'?

**Тык-мык** – пра невыразнае маўленне: *тык-мык – і ні слова ад яе не даб'ешся* (навагр., Сл. ПЗБ). Гукапераймальны імітатыў, суадносны з укр. *тик-мик* – пра разгубленасць, параўн. *пык-мык*, *пыкаць*, *мыкаць*, гл.

**Ты́ко** 'толькі' (астрав., трак., Сл. ПЗБ). Арэальна і фармальна суадносіцца з літ. *tìk* 'тс', няясным па паходжанні, гл. Смачынскі, 676; заканчэнне, магчыма, пад уплывам польск. *tylko* 'тс' (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 153), параўн. *ты́ко пташе́чого молока́ ныма́* 'ўсяго ўволю' (маларыт., Бел. дыял. 1, 93). Параўн., аднак, славен. *tik* 'непасрэдна, усутыч', што да **tykati* (Фурлан у Бязлай, 4, 180), гл. *тыкаць*$_1$. Параўн. *тулько*$_1$, гл.

**Тыко́ць** 'тыц' (ТС). Выклічнік для перадачы аднакратнага дзеяння ад *ты́каць* (гл.); канец слова можа ўзыходзіць да інфінітыўнага суфікса або да ўзмацняльнай часціцы *-ць* (< прасл. **ťь*), параўн. польск. *-ć*: *tobieć dam*, чэш. *-ť*: *toť* 'тут', 'нядаўна, надоечы' (ESSJ SG, 1, 329).

**Тык-тык** – пра стук сэрца: *Дзидона рюмзала и выла... / А сердце тык, тык-тык у ей* (Энеіда навыварат; гл. Полымя, 1996, 10, 196). Гукапераймальнае, параўн. *тых-тых* (гл.), верагодна, набліжанае да *тык*$_1$, *тыкаць*, параўн. укр. *тик*, ід. *tik* (Астравух, Ідыш-бел. сл.).

**Тыку́н** 'балотны кулік' (ТС). Ад гукаперайманні *тыку-тыку* – крыку куліка.

**Тыку́я** *(тыэку́я)* ‘струга, шырокі і глыбокі праток вады на балоце’ (івян., мсцісл., ЛА, 5). Няясна; магчыма, утворана як прасл. **češu-ja* ‘луска’ ад прасл. **tekti* ‘цячы’, аднак фанетыка незразумелая. Параўн. укр. *течея́* ‘плынь, паток, ручэй’ ад укр. дыял. *течи́* ‘цячы’.

**Тыл** ‘задняя частка, процілеглая пярэдняй; задні бок чаго-небудзь’ (ТСБМ, Яруш.; шчуч., ашм., Сл. ПЗБ), ‘зад, задняя частка (тушы)’ (Нас., Бяльк., Байк. і Некр.), ‘ніжняя частка тулава чалавека, клубы’ (трак., Сл. ПЗБ), ‘знешняя паверхня рукі, процілеглая далоні’, ‘тэрыторыя ззаду лініі фронта’ (ТСБМ), ‘задні двор’ (навагр., Дзмітр.), ‘сцяна ў хаце насупраць варотаў’ (ТС), ст.-бел. *тылъ* ‘задняя частка, старана чаго-небудзь, процілеглая пярэдняй; тэрыторыя ззаду вайсковага падраздзялення, асобы’ (ГСБМ): *подали тылъ* ‘набеглі, адступілі’ (XVII ст., Карскі 2–3, 393). Параўн. укр. *ти́л(ь), тило́* ‘хрыбетнік, спіна’, ‘задняя частка чаго-небудзь’, ‘тыльная частка нажа, нажніц’, ‘заднік абутку’; рус. *тыл* ‘зад, задняя частка чаго-небудзь’, ‘спіна’, ‘адварот, спод, левы бок’; стараж.-рус. *тылъ* ‘задняя часткі шыі, патыліца’, польск. *tył* ‘бок, процілеглы пераду, фронту’, ‘цела чалавека ззаду ніжэй спіны’, ‘частка цела жывёлы, якая знаходзіцца найдалей ад галавы’; палаб. *tål* ‘патыліца’; н.-луж. *tył, tyło* ‘карак’, в.-луж. *tył* ‘тс’, ‘тупы край нажа’; чэш. *týl* ‘карак’, ‘прастора за фронтам’, славац. *tylo* ‘карак, патыліца’, ‘абух’, ‘прастора за фронтам’, славен. *tȋl* ‘задняя частка шыі’, *tȋlnik, zatȋlnik* ‘карак’, харв. *zàtiljak, pòtiljak*, серб. *за̀тиљак, по̀тиљак* ‘карак’, дыял. *тил* ‘патыліца’, балг. *тил* ‘карак, патыліца’, макед. *тил* ‘задняя частка, карак’, ‘прастора за фронтам’, ‘абух’, дыял. *тило* ‘карак’: *фана га за тило.* Прасл. **tylъ*, **tylo* ‘задняя частка галавы і шыі’ (Борысь, 658; Бязлай, 4, 180) роднаснае літ. *tū́las* ‘іншы, шмат які’, *tūlẽ* ‘(вялікае) мноства’, ст.-прус. *tūlan* ‘шмат’, вал. *twl* ‘круглае ўзвышэнне’, нова-в.-ням. бавар. *Dollfuß* ‘распухлая нага’, цірольск. *doll* ‘тоўсты’, ст.-грэч. τύλη ‘мазолістая спіна’, ‘падушка’, τύλος ‘мазоль’, ‘гуз’, алб. *tul* ‘мякіш (хлеба)’, ‘лытка, сцягно’, магчыма, таксама ст.-інд. *tū́la-* ‘пук валасоў’, утвораныя пры дапамозе суф. *-*l*- ад і.-е. **teu̯ə-* / **tēu-* / **tu-* ‘ацякаць, распухаць, павялічвацца’ > прасл. **tyti* ‘таўсцець, набухаць’, ‘густа расці’. Паводле Мартынава (Становление, 11), лексікалізаваны дзеепрыметнік

на *$l$ъ ад *$tyti$ (як прасл. *$ǫz$-$l$-ъ 'вузел'), параўн. харв. чак. *til* 'тлусты' – па паходжанні дзеепрыметнік ад *titi* 'таўсцець' (Борысь, Czak. stud., 110), гл. *тыць*. Куркіна (Этимология–1982, 23) падае яшчэ адзін апафанічны варыянт асновы *$teu̯ə$- – *$tu̯el$-, параўн. каш.-славін. *tvèla* 'тоўстая галіна, доўгі парастак', аднак Борысь (SEK, 4, 184) выводзіць яго з н.-ням. *Twehl* 'галіна', *Twäl* 'развіліна', с.-ням. *twele* 'тс'. Гл. яшчэ Фасмер, 4, 131; Чарных, 2, 275; Брукнер, 589; Махэк$_2$, 664; Голуб–Копечны, 399; Сной, 764; ЕСУМ, 5, 567; Арол, 4, 125; ESJSt, 17, 1002. Гл. таксама *тул*. Сюды ж вытворныя *ты́лак* 'ягадзіцы' (Адм., Сержп. Прык.; лях., Сл. ПЗБ), 'заднік абутку' (гродз., Сл. ПЗБ), *тыло́к* 'задніца, зад' (Баршч.), *тыльё* 'тыльная (тупая) частка нажа, касы' (Чуд., ТС), *тыло́к* 'зад (у асы)' (ТС); *тылавы́*, *ты́льны* 'задні' (Нас., Байк. і Некр.), 'знешні, які знаходзіцца зверху' (гродз., Сл. ПЗБ), апошняе, як і *тыл*, няма падстаў выводзіць з польск. *tył*, *tylny* (гл. Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 154); *тылы́* 'сукупнасць часцей, падраздзяленняў і ўстаноў, створаных для забеспячэння войск' (ТСБМ, з рус. *тылы́* 'тс'), *ты́льна сцяна*, *тылавая* 'глухая сцяна з цэлых бярвёнаў, прасла' (баран., слуц., ЛА, 4), *тылава́ць* 'адцягваць каня задам назад', 'адыходзіць задам' (Шат.), *з тылу* 'ззаду' (Бяльк.; вільн., трак., Сл. ПЗБ).

**Ты́ле**, *ты́ля* 'столькі', 'многа, вельмі шмат' (Сцяшк., Скарбы; беласт., гродз., вільн., трок., Сл. ПЗБ; іўеў., валож., бераст., ЛА, 5), ст.-бел. *тыле* 'столькі' (1557 г.), 'толькі' (1501 г., ГСБМ). Лічыцца запазычаннем са ст.-польск. *tyle* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 201), якое з XIV ст. ужывалася побач з *tele*, *teli*, *telko* і інш. (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 153). Узыходзіць да ўказальнага займенніка *$to$ і часціцы *$li$ > прасл. *$toli$ 'так многа' (ESSJ SG, 2, 673). Гл. *толезны*, *толесь*. Пытанне пра запазычанне з польскай мовы застаецца спрэчным, улічыўшы варыянтнасць адлюстравання рэфлексаў прасл. *$t$ъ ў розных спалучэннях, параўн. *той*, *тый*, *тэй* (гл.).

***Тыле́віць**, *тыле́выты* 'кеміць, разумець' (пін. ЖНС), *тылэ́выты* 'разбірацца' (стол., Бел. дыял. 1, Клундук), *тэле́выты* 'тс' (стол., Бел. дыял. 1), *тэлэ́выты*, *тэлэ́мыты* 'цяміць, разумець' (Арх. Вяр.). Відаць, звязанае з арго янаўскіх лабараў, гл.

*тэлэбыты* ‘разумець’ (Бел. дыял. 1). Няясна, магчыма, экспрэсіўнае ўтварэнне гукапераймальнага паходжання.

**Тылізу́й** ‘балотны кулік, *Limosa melanura*’ (Мядзв.). Магчыма, складанае слова, параўн. пачатак літ. *tilvikas* ‘бакас, баран, *Scolapax*’, лат. *tilbīte* ‘кулік’ і літ. *zuĩkis* ‘заяц’, гл. выкарыстанне назвы жывёлы для наймення птушак у літ. *perkūno oželis* ‘бакас’, дзе *oželis* – ‘козлік’.

**Тыллё** ‘лязо нажа’ (Касп.). Відаць, памылковы запіс, хутчэй – ‘тупая частка нажа’, параўн. *тыльё* (гл.), *тылле́м* – пра баранаванне перавернутай уверх зубамі бараной (пін., Сл. нар. мовы), дзе выступае форма Тв. скл. зборнага назоўніка ад *тыл* (гл.). Параўн. ід. *tilek*, *tilik* ‘заднік абутку’ (Астравух, Ідыш-бел. сл.), ст.-польск. *tylec* ‘кароткі меч, стылет’, якое Сяткоўскі (Studia, 181) выводзіць з чэш. *týlec* ‘тупы бок вострых прылад (нажа, сякеры)’. Гл. *тыльё.*

**Ты́лі-ты́лі** – пра ігру на гармоніку (мсцісл., Нар. лекс.), пра ігру на скрыпцы (Шат.): *тылі́-тылі́ скрыпачка* – прыпеўка ў казцы (Кліх, Пятк. 3), *тылі́* ‘гулі, забавы’ (полац., Волк.), *тылі́-тылі́-тылі-лі́, каб капустку улілі* – рыфмаванка (барыс., Дзіц. фальклор). Параўн. укр. *тілі́*, *тілілі́* ‘тс’. Гукапераймальныя імітатывы. Ад іх утвораны *тылі́каць*, *тылілі́каць* – пра ігру (часцей за ўсё няўмелую) на музычным інструменце (ТСБМ, Мат. Маг., Шат.), ‘тромкаць, дрынкаць’ (Мат. Гом.), *тылілі́каць* ‘спяваць песню без слоў’, ‘дакучаць спевамі’ (Янк. 2, Мат. Маг.). Сюды ж з нарашчэннямі *тылілі́нкаць* ‘спяваць без слоў’ (Сцяшк. Сл.), *тылілі́мкаць* ‘няўмела іграць, пілікаць’ (ТС). “Звонкі” варыянт *ды́лі-ды́лі*: *ды́лі-ды́лі, скрыпачка* (Федар. 2), які Карскі (Труды, 395) звязваў з літ. *dilinti* ‘церці, шараваць’, *dilti* ‘знішчаць трэннем’, што няпэўна. Відаць, незалежнае ўтварэнне *тылі́-тылі́* – падзыўныя для кароў (ДАБМ, камент., 895), магчыма, узыходзяць да дыялектнай назвы цяляці, параўн. *тылюк*, гл.

**Тылылы́** – пра балбатню: *пыча́лі ны пяць часоў тылылы́…* (мсцісл., Нар. лекс.), звычайна ў спалучэнні *біць тылылы́* ‘гультаяваць, займацца нявартаснымі справамі’ (Янк. БФ, Сержп. Прык.). Параўн. укр. *тили-ли́, тілі-лі́* – позняе гукаперайманне з частковай рэдуплікацыяй (Смаль-Стоцкі, Приміт., 59). Звычай-

на ў музычных прыпевах; рус. дыял. *талалы́-балалы́* і пад. (Фасмер, 4, 14; ЕСУМ, 5, 507). Гл. *талала, тылі-тылі*.

**Тылыска́ць** 'тузаць, цягаць', *тыласну́ць* 'тузануць, пацягнуць рыўком' (Бяльк.). Гл. *таласкаць*.

**Тыль** 'прачуханец': *даў тылі, як заяц кабыле* (Вушац. сл.). Няясна. Дэфармаванае *тыле* 'столькі' (гл.)? Параўн. ст-бел. *тыле* 'тс' (XVI ст., ГСБМ), укр. *тиль-тиль* 'ледзь-ледзь'.

**Тыль-мыль** – пра няпэўную або невыразную гаворку: *тыль-мыль – і стаў саўсім другея вузлы вязаць* (памяняў думку) (маг., Наша слова, 1992, 26 лют.). Гукапераймальны імітатыў, параўн. *тык-мык*, гл.

**Тыльё** 'тупы бок касы' (Чуд.), 'тыльная частка нажа' (ТС), *тыллё* 'лязо нажа' (Касп., Мат. Маг.) – адносна апошняга Станкевіч мяркуе, што гэта старана, процілеглая лязу (Стан., 1173), аднак фіксацыя ў розных населеных пунктах пярэчыць гэтаму меркаванню. Да *тыл* (гл.); змена семантыкі, магчыма, звязана з мясцовай трансфармацыяй зыходнага слова ў дыял. *тул*, гл. Сюды ж памянш.-ласк. *ты́льечко* 'паркан' (Доўн.-Зап., Пін.), параўн. *тыльна сцяна* 'глухая сцяна з цэлых бярвёнаў, прасла' (ЛА, 4), магчыма, першапачаткова ад *тын*, гл.

**Ты́лька** 'толькі': *тылька асталося тры зелечка* (гом., Д.-Хадак.), *тылько, ты́лькі* 'толькі' (воран., гродз., беласт., кам., драг., Сл. ПЗБ), 'толькі што, нядаўна' (воран., астрав., там жа), ст.-бел. *тылько, тылко, тилко* 'не больш як', 'выключна, адзіна', 'толькі' (1501 г., ГСБМ). Апошнія лічацца запазычанымі са ст.-польск. *tylko* (Булыка, Лекс. запазыч., 201; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 154).

**Ты́лькнуць** (*ты́лькнуты*) 'выканаць малую частку належнай работы' (драг., З нар. сл.). Аднакратны дзеяслоў ад мясцовага *ты́лькі* 'толькі' (Клундук), параўн. ст.-бел. *тылко, тылько* 'не больш як, усяго' (ГСБМ). Гл. наступнае слова.

**Ты́льма** 'нядаўна' (Сцяшк. Сл.). Параўн. польск. *tylma, tylmo* 'чуць, ледзве не' (Варш. сл.). Няясна; магчыма, ад зыходнага *тыле* 'столькі, толькі' (гл.), ускладненага ўзмацняльнай часціцай **-ma* (**-mi*), як у **tolьma* / **tolьmi* 'вельмі шмат', **kolьma* / **kolьmi* 'як многа', **velьma* / **velьmi* / **velьmo* 'вельмі', **vьsьma* 'надта, дужа' і інш. (ESSJ SG, 1, 320–322).

**Тыльма́** ‘бабка ў каня (якую на зіму каню абразаюць)’ (ТС). Няясна.

**Ты́льнік** ‘кароткая дошка, якой закрываюць уваход у вулей з тылу’ (дзятл., Жыв. сл.). Да *тыльны*, *тыл* (гл.), сюды ж, відаць, *ты́льня* ‘прыбудоўка да сяней’ (ЛМТ).

**Ты́льчыць** ‘уціскаць, усаджваць’ (Бяльк.); сюды ж, магчыма, і *ты́льчыць* ‘прасці’ (Касп.). Няясна; фармальна можа быць звязана з *тылькнуць*, гл.

**Тылю́к** ‘цяля’, перан. ‘малое дзіця’ (драг., Сл. ПЗБ). Заходнепалескі словаўтваральны варыянт з суф. *-юк* ад *тыля́* ‘цяля’ (кам., Сл. ПЗБ). Да *цяля*, *цялё* (гл.), параўн. *телу́х* ‘падзыўное слова для маладой каровы’ (Растарг.), *цялю́х-цялю́х* ‘тс’ (Мова Сен.), ст.-бел. *теля*, *целя* ‘цяля’, *телецъ* ‘бык’ (ГСБМ).

**Тым** – слова, суадноснае са злучнікам *чым*, падкрэслівае большую ступень праяўлення прыкметы; састаўная частка складаных злучнікаў *між тым, як*; *перад тым як*; *тым больш што*; *тым часам* ‘тады’ і інш. (ТСБМ, ТС, Нас., Шат., Бяльк.). Творны склон займенніка *той* (< **тъ-jь*), старая аснова выводзіцца з **tŏ-*, якая перад суфіксам на зычны пашыралася элементам **-ĭ-* ; **-ŏĭ-* манафтангізавалася, утварыўшы *-ě-*. Да займеннікавай асновы **tě-* далучаўся канчатак іменнага скланення творнага склону **-мь*, што давала форму Тв. скл. **těмь*; апошняя форма ў частцы дыялектаў праславянскай мовы змянілася на **tyмь* (пад уплывам форм займеннікаў мяккай разнавіднасці). Ст.-бел. *тымъ* адлюстроўвае ўплыў жывой гутарковай мовы і адзначана з XV ст. (Мова бел. пісьм., 153).

**Ты́мбер** ‘чатырохметровая часаная хваёвая калода’ (ТС), *ты́мбры* ‘фляксоны, дубовыя бярвенні рознай даўжыні і таўшчыні, якія ідуць на пабудову мастоў’ (навагр., Нар. лекс.), зборн. *ты́нбра* ‘тоўстае бярвенне, абчэсанае з чатырох бакоў’, *ты́нбрына* ‘адно бервяно’ (ТС). Запазычана праз польск. *tymbry* ‘кароткія брусы (пры гандлі драўнінай)’, параўн. *timbersy* ‘рэбры каркасу ў лодцы’, з англ. *timber* ‘будаўнічы матэрыял’, ‘бервяно, бэлька’, якое са ст.-англ. *timber* ‘збудаванне’, ‘будаўнічы матэрыял’, ‘лес, драўніна’, што ўзыходзіць да прагерм. **temran* (параўн. ст.-фрыз. *timber* ‘лес, драўніна’, ст.-в.-ням. *zimbar* ‘жыллё, хаціна’, ням. *Zimmer* ‘пакой’). Стараанглійскі дзеяслоў *timbran*, *tim-*

*brian* быў асноўным для значэння ‘будаваць’ (Online Etymology Dictionary. Рэжым доступу: http://www.etymonline.com./index php; 01.06.2010 г.).

**Тымбурава́ць** ‘вязаць кручком’, *тымбу́рак* ‘кручок’ (брасл., Сл. ПЗБ). Гл. *тамбур*$_2$.

**Ты́мкаць** ‘тылікаць, тромкаць, дрынкаць’ (Мат. Гом.). Гукапераймальнае ўтварэнне.

**Тымо́тка** ‘цімафееўка, жыцец, *Phleum pratense* L.’ (беласт., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *тимо́тка, ти́мка* ‘тс’, запазычаны з польск. *tymotka* ‘тс’; апошняе, а таксама чэш. *tу́motka, timotejka,* славац. *timotejka,* балг. *тимоте́йка,* бел. *цімафееўка,* укр. *тимофіївка,* рус. *тимофеевка,* у тым ліку і ням. *Timotheugras,* англ. *Timothygras,* узыходзяць да імя амерыканскага земляроба 2-й паловы XVIII ст. Тыматэя Гансена (Timotheus Hansen), які абгрунтаваў цудоўныя кармавыя якасці гэтай расліны і першы пачаў яе вырошчваць (Махэк, Jména, 224; ЕСУМ, 5, 568).

**Тымпа́н** ‘старадаўні музычны інструмент – род медных талерак або невялікай літаўры’ (ТСБМ), ст.-бел. *тимпанъ* ‘тс’ (ГСБМ), укр. *тимпа́н,* рус. *тимпа́н,* стараж.-рус. *тумпанъ, тумбанъ, тимпанъ* (з XI ст.), ст.-слав. **тѫпанъ** ‘тс’. Запазычана са ст.-грэч. τύμπανον ‘від барабана’ ці з новагрэч. τούμπανο ‘тс’, што ўзыходзіць да τύπος ‘удар’, ‘знак, адбітак’, τύπτω ‘біць, ударагь, паражаць’. У заходнееўрапейскія мовы слова прыйшло праз лац. *tympanum* ‘бубен’ (Фасмер, 4, 59; Голуб–Ліер, 495; ЕСУМ, 5, 568).

**Тымпэ́нтам** ‘хутка’, ‘адразу, зараз жа’ (Сцяшк. Сл). Утворана па ўзоры *тымчасам* (гл. наступнае слова) ад польск. *pędem* ‘вельмі хутка, імгненна, бягом’, параўн. таксама спалучэнне і *w te pędy* ‘ў адзін міг, у той жа час’, гл. *пэнд.*

**Тымчасо́вы** ‘зроблены за невялікі прамежак часу’ (Нас.), ‘часовы, да часу’ (Сцяц., Сцяшк. Сл., Яруш., Вруб.), *тымчасо́ва* ‘часова’ (Байк. і Некр.), *тым-часо́во* ‘тс’ (Скарбы). Утвораны ад спалучэння *тым часам* ‘тс’, ‘на пэўны час’ (Нас., Гарэц., Некр. і Байк.), *тым часом* ‘тс’ (ТС), гл. *тым, часам, час*; паводле Карскага (2–3, 75), можа спрашчацца да *тымча́с* ‘тады’. Беларуска-ўкраінска-польская ізалекса: укр. *тимча́сом* (як), польск. *tymczasem,* ст.-польск. *temczasem* ‘менавіта ў гэты час, калі што-небудзь іншае адбываецца’, ‘зараз’, ‘аднак’, ‘нягледзячы на’

(Борысь, 659). Паводле Віткоўскага (Słownik, 185), рус. *тем часом* 'у той час' (1731 г.) запазычана з польскай мовы, хутчэй за ўсё, праз беларускую.

***Тымэ́рава**, *тымэ́рова* 'цемната' (брэсц.), *тэмра́ва* 'тс' (брэсц., драг., стол., Вярэніч, вусн. паведамл.). Параўн. укр. *те́мрява*, рус. курск. *те́мрива* і *те́мриво*, славац. *temrava* 'тс'. Узыходзяць да прасл. **tьmьr-*, роднаснага ст.-інд. *tamrás* 'які засціць, робіць цёмным', ст.-в.-ням. *dëmar* 'цемра, змрок' (Фасмер, 4, 41; Брукнер, 65; ЕСУМ, 5, 544). Гл. *цемра.*

**Тымя́нка** 'расліна *Convallaria majalis*' (Ласт.), *тымянкі* мн. л. 'выpачка звычайная, *Clinopodium vulgare* L.' (віц., Кіс.). Паводле Ластоўскага, іншая назва расліны, з якой ён пад пытальнікам ідэнтыфікуе ландыш, *цім'ян* (*цімьян*), што адпавядае ст.-бел. *темьянъ*, *темианъ*, *фемианъ*, *фемиянъ*, *фимиянъ* 'расліна чабор, *Thymus* L.', 'пахучае рэчыва з гэтай расліны' (ГСБМ). Найбольш верагодна, што лексема выводзіцца з польск. *tymian*, *tymianek*, якія абазначаюць 'чабор, *Thymus* L.', а таксама 'чысцік, *Calamintha* L.', а ў форме *temian* з'яўляецца сінонімам да чэш. *blín* 'блёкат, *Hyosciamus* L.' (Махэк, Jména, 205). З другога боку, *Clinopodium* па-польску называецца *storzyszek* 'выpачка', а першапачаткова 'казялец ці кураслеп, *Anemone* L.' (Махэк, Jména, 201), што сведчыць аб шматлікіх пераносах назваў з адной расліны на другую паводле іх моцнага паху. Польск. *tymian*, *tymianek* 'чабор', на думку Брукнера (589), было запазычана з ням. *Thymian* праз лацінскую мову са ст.-грэч. θῡμίᾱμα 'тое, што курыцца (пра фіміям)'.

**Тын** 'агароджа з папярочных або вертыкальных жэрдак, пераплеценых прутамі лазы, хворастам' (ТСБМ, Касп., Сцяшк., Шушк., Сл. ПЗБ, ЛА, 4, Байк. і Некр., Яруш., ТС), 'агароджа з калоў' (Шымк. Собр., Некр. і Байк., Пятк. 1, Ласт.), 'агароджа як сцяна з бярвенняў' (маладз., Янк. Мат., П. С.; валож., ЛА, 4, Маш., Варл.), 'абкладка калодзежа з плашак' (ТС, Мат. Маг.): *тоўстая жанчына не павінна садзіцца на тыну калодзіся* (Сержп. Прымхі), *тынь* 'агароджа з дошак' (Нас., Шушк.), ст.-бел. *тынъ* 'плот, паркан', 'колле, жэрдкі' (1579 г., ГСБМ). Сюды ж *тыно́к* 'плот, тын' (бярэз., Жыв. НС), 'частакол' (Гарэц.), 'агароджа з тонкіх прутоў' (Касп.), 'агароджа з тонкіх яловых кійкоў, якія

пераплятаюцца між жэрдак' (в.-дзв., Шатал.), *тънóк* 'тс' (мёрск., Нар. сл.), *тыніць* 'абгарадзіць тынам' (Нас., Юрч.), 'абстаўляць драўлянымі плахамі пограб, сажалку' (Юрч.), *ты́навы* 'зроблены з частаколу' (брасл., Сл. ПЗБ), *ты́нены́й* 'абстаўлены драўлянымі плахамі' (Юрч.). Параўн. укр. *тин* 'агароджа', 'драўляная абліцоўка ў калодзежы', рус. *тын* 'плот', стараж.-рус. *тынъ* 'агароджа, плот', 'сцяна', 'аблогавае ўмацаванне'; польск. *tyn* 'загарадзь, агароджа'; палаб. *(vå)tåin* 'тын', чэш. *týn* 'агароджа', славац. дыял. *týn*, *týň* 'тычка, лата', славен. *tȉn* 'перагародка', *tȉnj* 'агароджа з дошак, жэрдак', харв. *tȉn*, серб. *тȉн* 'перагародка', чак. *tînj* 'прасценак', *tinac* 'перагародка з ясеневых прутоў, пакрытая тынкам', шток. *тȋњ* 'набіўка (напханая сенам, саломай, мякінай) між сцен', ц.-слав. **тынъ** 'перагародка, сцяна'. Прасл. **tynъ* 'жывая агароджа', першапачаткова 'густы зараснік', якое ад **tyti* 'густа расці' (Мартынаў, Лекс. взаим., 145–153; ЕСУМ, 5, 568–9). Іншая шырока распаўсюджаная версія паходжання прасл. **tynъ* са ст.-герм. *tún* 'двор, сад', ст.-в.-ням. *zûn*, ням. *Zaun* 'плот' (Міклашыч, Lex. palaeosl., 1020; Брукнер, 589; Фасмер, 4, 132; Борысь, Czak. stud., 86). Кароткі агляд версій гл. Арол, 4, 126.

**Ты́наўка** 'завірушка, птушка *Accentor*' (Некр. і Байк.). Параўн. укр. *тинівка* 'птушка *Prunella* Viell.'. Назва выводзіцца ад *тын* (гл.), іншая назва – укр. дыял. *плітнівка* 'тс' (ЕСУМ, 5, 569).

**Тындаль** (*тындэль*) 'капуста' ў загадцы: *тындэлічка невялічка, тындэль большой* (кобр., Рам., Мат. Гр. 1, БНТ, Загадкі). Параўн. укр. дыял. *тíндель* 'дэталь у возе' няяснага паходжання (ЕСУМ, 5, 569). Штучна ўтвораныя назвы, відаць, ад гукаперайма́льнага імітатыва, як укр. *тíнди-рíнди* – пра пустую балбатню, рус. *ты́нда* – пра дурную, неахайную жанчыну, польск. *tyndyrundy* 'ступа' ў загадцы. Параўн. *трынды-рынды* (гл.) і каш. *tindlac są* 'корпацца, марудзіць', польск. дыял. *tindlåčka* 'маруда' (SEK, 5, 149).

**Ты́ндра** 'хітрая жанчына' (Мат. Маг. 2). Няясна. Экспрэсіўнае ўтварэнне з перастаноўкай зычных ад *трындзець* (гл.)? Гл. таксама папярэдняе слова.

**Тыне́ць** 'тлець, прэць' (Юрч.), 'гніць ад сырасці' (Юрч. Сін.), *тыне́нне* 'гніенне, прэласць' (Юрч. СНЛ), параўн. серб. *тȉњати* 'тлець, гарэць', славен. *tínjati* 'тлець'. Беларуска-паўднёваславянская

ізалекса, што дае падставы для рэканструкцыі праслявянскага дыялектызма **tin'ati* 'слаба гарэць', звязанага з прасл. **tajati* (Куркіна, Этимология–1986–1987, 76; Диал. структура, 153), гл. *таяць*. Запрудскі далучае сюды *сціняціцца* 'пакрывацца тонкім лядком, замярзаць', *сціняцéць* 'зрабіцца кволым, змарнець (пра гароднiну)', якія праз стадыю 'сціскацца' ўзводзіяцца да **tęti* 'біць, сячы' (БЛ, 36, 58), параўн. *сцінаць*, *сцяць* (ЭСБМ, 13, 99, 112), што, дарэчы, можа быць звязана з **tinati* 'падразаць' як тэрмінам падсечна-агнявога земляробства, гл. Куркіна, Культура, 67. Верагодна, да названага праславянскага дыялектызма прымыкае па форме балг. дыял. *тинáе* 'прапускае ваду (пра гляняны збанок)', што ўзводзіцца да **tęti* 'цягнуць' (Рачава, Этимология–2003–2005, 192). Адносіны паміж названымі паралелямі застаюцца да канца не высветленымі, параўн. сумненні Сноя (Бязлай, 4, 181). Для беларускага дзеяслова не выключана сувязь з *тыня*, *тыніна* 'зараснік, забалочанае месца', $\textit{тынь}_1$ 'ціна, плесень', гл.

**Тынёнка** 'церніца' (бярэз., Сл. ПЗБ, ЛА, 4). Не зусім ясна. Відаць, ад назвы месца, дзе церлі лён, гл. *тынянка* 'пуня', або ад $\textit{тынь}_2$ 'тонкая дошка', гл. *тын*.

**Тынк** 'пакрыццё паверхні будаўнічых канструкцый' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Касп., Гарэц., Ласт., ТС, Сл. ПЗБ), 'тынкоўка, раствор для тынкоўкі' (Сцяшк., Шат., ПСл, Шушк.), 'матэрыял, якім забіваюць шчыліны ў сцяне' (Бяльк.), сюды ж *тынкавáць* 'пакрываць тынкоўкай' (Нас., Ласт., Касп.), *тынковáць* 'тс' (ТС): *tynkovác' й kołočki, и dranku* (Арх. Вяр.), *тинковáти* 'апрацоўваць, выпраўляць паверхню вапнай' (Горбач, Зах.-пол. гов.), ст.-бел. *тынковати* 'тынкаваць' (1695 г.), *тынкованье* (тынкоўкай) (1690 г., ГСБМ). Праз польск. *tynk* 'тс', якое з нова-в.-ням. *Tünche* 'тынкаванне', 'тынкоўка', а апошняе з лац. *tunica* 'скура', 'покрыва', 'абалонка'. Лацінскае слова, як і ст.-грэч. χιτών 'хітон, туніка', былі запазычаны праз фінікійскую мову з арамейск. *kittūnā́* < ст.-яўр. *kuttṓneth* 'тс' (Борысь, 659; Брукнер, 589; ЕСУМ, 5, 570).

**Ты́нка** 'пуня' (Рэг. сл. Віц.). Да *тын* (гл.), відавочна, памяшканне з вертыкальна пастаўленых калкоў або плах, параўн. *тынянка* 'тс'.

**Тынóк** 'загарадка з калкоў тычком' (ТСБМ, Ласт.), 'агароджа з тонкіх кійкоў, якія вертыкальна пераплятаюцца паміж жэрдак'

(віц., рэч., ЛА, 4), ‘пляцень’ (Ласт.). Памянш. да *тын* (гл.). Сюды ж *тынко́вы* (плот) ‘плот з частаколу (у адрозненне ад жардзяного плота)’ (брасл., Сл. ПЗБ).

**Ты́нфа** ‘сярэбраная манета, роўная 15 кап.’, памянш. *ты́нфік* (Нас.), *тынхвік* ‘15 кап. серабром’ (Шымк. Собр.), ст.-бел. *тынфъ, тинфъ* ‘сярэбраная манета вартасцю 18 грошаў’ (1688 г., ГСБМ). Запазычана са ст.-польск. *tynf*, *tymf* – манета, што атрымала назву ад імя манетчыка Андрэя Тымфы (ням. *Tümpe*, Брукнер, 589), фіксуецца з 1691 г. (Булыка, Выбр. пр., 181), паралельная лацінская назва манеты *tynfus*, мн. л. *tynf* засведчана ў кнізе Гарадзенскага земскага суда ў 1714 г., дзе прыраўноўвалася да 38 грошаў (Жлутка, 340).

**Ты́нцы-лы́нцы** – прыпеў у дзіцячай забаўлянцы: *тынцы-лынцы, балалайка* (глыб., Бел. дыял. 1). Гукапераймальны імітатыў ігры на струнным інструменце.

**Тынь**$_1$ ‘ціна, твань’ (Нас., Гарэц.), ‘плесень’: *у клеці дужа ты́ньню пахніць* (Юрч. Вытв.). Параўн. рус. смал. *тынь* ‘зялёныя водарасці, якія плаваюць густой масай, ціна’, ‘балоцістае, топкае месца’ (СРНГ), што ўтварае адзін арэал з беларускімі словамі. Верагодна, звязанае з *тынець*, гл.

**Тынь**$_2$ зборн. ‘колле, плахі для пабудовы тыну’ (Нас.), сюды ж *ты́нне*? ‘платы, парканы’: *пайшла ў вандроўку па-пад тынню* (Я. Колас). Параўн. польск. дыял. *tynia* ‘тонкая дошчачка або кіёк для плоту’ (MSGP), укр. *попідти́нню* ‘пад плотам, пад плятнём’ (Т. Шаўчэнка) ад *ти́ння* зборн. да *тин* ‘тын’, рэдкае рус. *тынь* ж. р. ‘агароджа, плот’, звычайна *ты́нье* зборн. ‘калоды паміж слупамі ў сценцы’. Вытворнае ад *тын* з старым канчаткам на *-ь* са значэннем зборнасці, параўн. ст.-рус. *чудь, сербь* як назвы плямён (Фасмер, 1, 305).

**Тынь**$_3$ – выклічнік раптоўнага дзеяння: *дабавіў туды капусты і тынь! – усё перамяшаў* (Рамза, Бел. гутарк.). Да *тыняцца*, гл.

**Тынь**$_4$ ‘месца на рацэ або возеры, якое зарасло трысцём’ (шкл., Мат. Маг.). Узыходзіць да прасл. **tyti* ‘разрастацца, таўсцець’, параўн. серб. *тити̏* ‘густа расці’ (Мартынаў, Зб. Крапіве, 214); паводле Мартынава (Лекс. взаим., 146–147), слова таго ж паходжання, што і *тын* (гл.) < **tynъ*, якое з’яўляецца славянскім пранікненнем у германскія мовы.

**Тынь-трава́** – паводле Насовіча (літаральна) ‘трава, якая расце пад тынам’, спалучэнне ўжываецца побач з *трынь-трава* ў значэнні ‘рэч, нічога не вартая, дробязь, пусцяковіна’ (Нас.); паводле Некрашэвіча і Байкова, *тынь-трава* – адпаведнік рус. *трын-трава* (Некр. і Байк.), параўн. *трын-трава́*, *трынь-трава*, гл. Па-за межамі Беларусі спалучэнне не ўжываецца (гл. СРНГ). Паводле Карскага (2–3, 88), уяўляе спалучэнне назоўніка з назоўнікам, першы назоўнік па паходжанні ідэнтычны *тынь*$_4$, гл. папярэдняе слова. Несумненна, што ‘трысцё’ як трава не даецца на корм жывёле, і таму спалучэнне атрымала другаснае значэнне ‘рэч нічога не вартая’.

**Ты́ня** ‘густыя балотныя зараснікі’: *зайшла ў таку тыню, шчо не вубрусці* (ТС), ‘гушчар, топкае месца’ (ЛМТ). Верагодна, фанетычны варыянт назоўніка ж. р. *тынь*$_4$ (гл.), параўн. *а тынь, а гушча!* (тур., Цыхун, уласн. зап.). Значэнне ‘гушчар’, паводле Мартынава (БЛ, 7, 69–70), пацвярджае паходжанне абодвух варыянтаў ад прасл. **tyti* з першасным значэннем ‘густа расці, шчыльнець, мажнець’. Сюды ж, магчыма, і гідронімы *Тыня* (басейн Гарыні) і *Tynionka* (басейн Віслы), а таксама тапонім Τουνι (= слав. *Tynьje*) у паўночнай Грэцыі, апошняе Голамб (MJ, 40–41, 119) выводзіць з прасл. **tynъ*. Пра магчымыя адпаведнікі гл. Арол, 4, 126.

**Тыня́нка** ‘павець, сцены якой зроблены з галінак, перапленых вакол вертыкальных або гарызантальных жэрдак’ (ТСБМ, ДАБМ, камент., 798, 799), ‘павець з тыну на чатырох слупах’ (Касп.), ‘прыбудоўка з тыну ўздоўж сцяны ў гумне’, ‘застаронак’ (полац., Нар. лекс.), ‘паветка, ушчычоная тынком’ (Вушац. сл.), *тъня́нка* ‘пуня або павець з тонкіх дошак ці плеценая з хворасту’ (мёрск., Нар. сл.). Рэгіянальнае адпрыметнікавае ўтварэнне з суф. *-ка* ад *ты́нены* (*ты́нены́й*) ‘абстаўлены драўлянымі плахамі’, *тыні́ць* ‘абстаўляць драўлянымі плахамі пограб, саджалку’. Да *тын* (гл.).

**Тыня́цца** ‘шкандыбаць, кульгаць’ (Аніч., Вопыт), *тыня́тысь* ‘чыкільгаць’ (Клім.), *тин’атис’* ‘блытацца, перашкаджаць’ (Горбач, Зах.-пол. гов.). Параўн. укр. *ті́нятися*, *тиня́тись* ‘соўгацца’, ‘сноўдацца, бадзяцца, валэндацца’, ‘штурхацца (сярод натоўпу)’, ‘блукаць, вандраваць’. Экспрэсіўнае арэальнае ўтварэнне няяс-

нага паходжання. Паводле ЕСУМ (5, 570) – гэта відазмененая форма **тинутися* 'ціха хадзіць, сноўдацца', якая ўзнікла з прасл. **ti(p)nǫti* 'ўдарыць', 'ціхенька хадзіць' і звязана з **te(p)ti*: рус. *ти́пать* 'злёгку ўдараць', 'ісці, крадучыся', н.-луж. *typotaś* 'чыкільгаць', 'дробненька ступаць', польск. *ciepnąć*, *ciepać* 'ударацьʼ, *cipać* 'ісці ціха, але без перапынку (пра дождж)', серб. *тёпсти се* 'бадзяцца, блукаць'. Магчыма, можа выводзіцца з прасл. **tyn'ati* 'быць ціхім, мірным', якое Сной (у Бязлай, 4, 181) параўноўвае са ст.-прус. *tusnan* 'ціхі', ст.-інд. *tūṣṇī́m* 'ціха, моўчкі'. Гл. таксама *тыпаць*.

**Тып** 'узор, мадэль', 'сукупнасць якіх-небудзь характэрных рыс, якасцей', 'знешні выгляд', 'чалавек з адмоўнымі рысамі, да якога ставяцца пагардліва' (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр.), 'мастацкі вобраз' (пач. XX ст., Прабл. бел. тэрм.), 'постаць' (Ласт.), ст.-бел. *типъ* 'друкаваны шрыфт' (1653 г., ГСБМ). Запазычанне (праз польскую мову) з заходнееўрапейскіх моў, параўн. франц. *type* 'ўзор', 'від, тып', разм. 'арыгінал, дзівак', 'тып, суб'ект', ням. *Typ* 'тып, узор', 'форма', 'вобраз', англ. *type* 'тып, род, клас; тыповы прадстаўнік', 'сімвал, вобраз', якія з позналац. *typus* 'адлюстраванне, вобраз', а апошняе ўзыходзіць да ст.-грэч. τύπος 'удар', 'пісяг (ад удару), след', 'адбітак, адлюстраванне, абрыс', 'узор, прыклад (у Новым Запавеце)' < τύπτω 'б'ю', роднаснае ст.-інд. *tōpati* 'штурхае', лат. *staŭpe* 'сляды конскіх капытоў', што ўзыходзяць да індаеўрапейскага кораня **(s)teu-* 'біць, штурхаць' (Фасмер, 4, 60; Брукнер, 589; Голуб–Копечны, 399; Голуб–Ліер, 495; Даза, 733–4; ЕСУМ, 5, 570; Арол, 4, 72). Сюды ж *тыпо́вы* 'адпаведны ўзору' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.) < польск. *typowy* 'тс', *тыпі́чны* 'тс' (Ласт., ТСБМ) < рус. *типичный* 'тс'; экспр. *ты́пус* 'непрыемная асоба' (ТСБМ), аформленае на ўзор лацінізма з суф. *-ус*, які характарызуе асоб па негатыўнай прыкмеце (Сцяцко, Афікс. наз., 70), параўн. *бы́кус*, гл.

**Тыпагра́фія** 'друкарня' (ТСБМ), ст.-бел. *типография* 'тс' (1633 г., ПГС). Хутчэй за ўсё, у названым значэнні запазычана праз рус. *типогра́фия* 'тс' ці непасрэдна з ням. *Typographie* або франц. *typographie* 'тс' (з грэч. τύπος 'адбітак' і γραφω 'пішу'), гл. Арол, 4, 72; параўн. польск. *typografja* 'майстэрства друку'

(Варш. сл.). Віткоўскі (Зб. Русэку, 241) для рускай мовы дапускае польскае пасрэдніцтва, відаць, праз старабеларускую мову.

**Ты́пацьъ** (*ты́пъць*) 'ісці (пра маленькіх дзяцей)' (мёрск., Нар. лекс.), 'ісці, лёгка ступаючы (пра дзяцей, старых)' (лаг., Стан.), сюды ж *ты́птацца* (*ты́птъцца*) 'хадзіць вельмі ціха' (мёрск., Нар. лекс.), *тыпты́сь* 'дрыжэць, трэсціся' (драг., Жыв. НС). Параўн. укр. *ти́пати* 'павольна ісці', рус. *ти́пать* 'хадзіць на дыбачках (на пальчыках)', польск. *cipać* 'ісці ціха, несупынна (пра дождж)', н.-луж. *typotaś* 'дробненька тупаць', славен. *típati* 'дакранацца, кранаць', харв. *tipati* 'тс'. Прасл. **tipati* 'ціха пастукваць, ціха ісці', магчыма, анаматапеічнага паходжання, суадноснае з прасл. **tъpati* 'тупаць', **te(p)ti* 'біць', **tъpъtati* 'таптаць' (Фасмер, 4, 60; ЕСУМ, 5, 570). Сной (Бязлай, 4, 182) параўноўвае з літ. *tipénti* 'хадзіць на пальчыках, на дыбачках (у тым ліку пра дзяцей, якія вучацца хадзіць)'.

**Ты́пец** (*ты́пэц, тэ́пыц*) 'сівец, *Nardus stricta* L.' (драг., Шатал.), *тыпэ́ць* 'тс' (Сл. Брэс.), *тэ́пыц* (драг., Жыв. НС). Гл. *ціпец.*

**Тыпі́ро** 'зараз, цяпер' (кам., Жыв. сл.). Мясцовы варыянт слова, фанетычна блізкі да паўд.-макед. *типъ́ра, типу́ра* 'тс' (<**te-pьrv-* з дэйктычнай часціцы і прыметніка **pъrvь* або **pьrvъ*, гл. БЕР, 7, 955). Гл. *тапер, тэпэр, цяпер.*

**Тыпсты́** 'моцна трасці; шукаць' (Клім.). Гл. *тэпсты́.*

**Ты́пус** 'звычайна чалавек з адмоўнымі рысамі' (ТСБМ). Гл. *тып*; у якасці экспрэсіўнай назвы не выключана збліжэнне з ід. *tipeš* 'дурань, кеп' (з іўрыта, гл. Астравух, Ідыш-бел. сл.).

**Тыра́да** 'доўгая шматслоўная фраза' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'месца, узятае цалкам з другога твору' (Ласт.). Запазычана літаратурным шляхам праз рус. *тира́да* або польск. *tyrada*, якія з франц. *tirade* < італ. *tirata* 'працягванне, цягненне' з народнага лац. *tirare* 'цягнуць' (ЕСУМ, 5, 571; Фасмер, 4, 60; SWO, 1980, 786; Арол, 4, 72).

**Тыра́ж** 'розыгрыш выйгрышаў', 'наклад друкаванага выдання' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рус. *тира́ж*, запазычанага з франц. *tirage* 'тыраж', з першаснага значэння 'выцягванне жэрабя', якое ад *tirer* 'цягнуць', што выводзяць з народнай лаціны (Фасмер, 4, 60; ЕСУМ, 5, 571; Арол, 4, 73).

**Тыра́н** ‘правіцель у старажытнасці, які захапіў уладу сілай’ (ТСБМ), ‘правіцель, улада якога заснавана на дэспатызме і гвалце’, ‘кат, прыгнятальнік’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Ласт.), *ты́ран* ‘тс’ (Вруб.), ст.-бел. *тыраннъ* (1562 г.), *тиранъ* (1574 г.), *тираннъ*, *тыранъ* ‘тс’ (ГСБМ). Культурнае запазычанне праз еўрапейскія мовы з лац. *tyrannus* < ст.-грэч. τύραννος ‘неабмежаваны ўладар’, паходжанне не вызначана (Махэк$_2$, 664; Брукнер, 590; Голуб–Ліер, 495; ЕСУМ, 5, 571). Сюды ж *тыра́ніць* ‘праяўляць дэспатызм, мучыць, прыгнятаць’ (ТСБМ).

**Ты́раць** ‘цяжка працаваць’ (Сцяшк. Сл.; Скарбы). Параўн. польск. *tyrać* ‘цяжка працаваць, не шкадуючы сіл і здароўя’, аргат. ‘красці’, ‘працаваць’ (Каня, Słownik), *tyrać*, *terać* ‘псаваць, нішчыць, траціць’, ‘надрывацца’, каш. *tërac*, *tèrac* ‘тс’, *utërac są* ‘змучыцца’, чэш. *týrati* ‘мучыць; катаваць (жывёл)’, славац. *týrať* ‘мучыць’. Арэальна, хутчэй за ўсё, запазычана з польскай мовы; узводзіцца да дыял. зах.-слав. **tyrati* няяснага паходжання. Не зусім надзейна звязваецца генетычна з прасл. **turiti* ‘паганяць’, ‘гнаць’, ‘турыць’ (Брукнер, 589; Махэк$_2$, 664; Рэйзак, 687; SEK, 5, 146–147). Пры прасл. **tiriti* ‘мучыць’ да **terti* ‘церці’ (Кралік, 637). Значэнне ‘красці’ ў польскай мове, відаць, у выніку збліжэння з усх.-слав. *тырыць*, гл.

**Тыра́чыць** ‘везці ў маленькай калясачцы’ (Бяльк.). Да *тара́чыць*, *таро́чыць$_1$* (гл.).

**Тырва́ць** ‘цярпець’ (Бяльк.), ст.-бел. *трвати* ‘трываць, цярпліва пераносіць боль, пакуты’. Са ст.-польск. *trwać*, польск. *trwać* ‘быць у пэўным стане’, ‘чакаць’, ‘працягвацца’; хутчэй мясцовы варыянт з мэтатэзай ад *трываць*, гл.

**Тыргé нь** ‘шморг’ (чавус., Нар. сл), ‘торк’, ‘таўхель’: *тыргéнь за палу* (Мат. Маг. 2). Аддзеяслоўнае ўтварэнне, да *торгаць$_1$*, *таргануць* (гл.) з дыялектным пераходам *а* > *ы* ў пераднаціскным складзе. Сюды ж *тыргíкаць* ‘кульгаць, ісці пакульгваючы’ (глыб., Рэг. сл. Віц.), гл. *таргікаць*.

**Ты́ргус** ‘бабка (картапляная)’ (баран., Наша слова, 1990, 2, 10). Няясна; магчыма, звязана з *тэгус* ‘тс’ (гл.).

**Ты́рзаць** ‘тузаць, торгаць, шморгаць’ (лях., свісл., пін., Араш. і інш.), ‘тузаць, торгаць’, ‘кляваць (пра рыбу)’ (ТС), ‘выцягваць, выпростваць мокрую аснову пасля апрацоўкі яе зольнай вадой,

лугам' (ТС; лях., Сл. ПЗБ). Суадноснае з *ту́рзаць* (гл.), варыянтнасць асновы тлумачыцца экспрэсіўным характарам слова.

**Тырка́н** 'чорны таракан, *Blatta orientalis*' (глыб., Жыв. НС). Фанетычны варыянт да *таркан*, *тарака́н*, гл.

**Тыркацéць** (*тыркоцéць*) 'тарахцець, трашчаць' (жытк., Жыв. НС). Фанетычны варыянт да *туркацець* 'тс', дзеяслова інтэнсіўнага дзеяння ад *ту́ркаць₁* (гл.).

**Ты́ркаць₁** 'тыкаць' (ТСБМ, Байк. і Некр.), 'утыкаць штонебудзь вострае' (Нас.), 'саджаць' (Нас., Юрч. СНЛ), 'закладаць, насаджваць (снапы ў азярод)' (рагач., калінк., Сл. ПЗБ), 'засоўваць (грэбень у валасы)' (рагач., Сл. ПЗБ), 'бадзяцца, валэндацца' (Зайка Кос.), *тыркаты* 'поркаць, утыкаць' (Клундук.), *ты́ркнуць* 'усунуць, тыкнуць' (Нас.), 'паказацца, з'явіцца' (Сцяшк.), *тыркану́цца* 'высунуцца' (Бяльк.), *тырну́ць* 'высунуць, выставіць, паказаць' (Юрч. СНЛ), сюды ж *ты́ркаць нос* 'заглядваць'; *утыркну́ць* 'уткнуць', 'спешна, на хаду падаць што-небудзь' (Нік., Оч.) – у сувязі з апошнім параўн. харв. *tȑk*, серб. *тр̑к: у тр̑ку* 'на бягу', *тр̏ка* 'беганіна'. Гукапераймальнае (рухапераймальнае) утварэнне ад *тырк* 'штоўх, пыр' (Нас.), 'тырк' (Байк. і Некр.), якое можна супаставіць з літ. *tùrk-terė́ti* 'штурхнуць' (Буга, Rinkt., 1, 490). Карскі следам за Шахматавым на фоне ўсх.-слав. **trъk-* разглядае як выпадак т. зв. трэцяга поўнагалосся (Карскі 1, 258) – экспрэсіўна параўтворанае *тóркаць* (Фасмер, 4, 132). Варбат (Исслед., 64) бачыць у рус. *ты́рнуть* 'усунуць' (пры *торкнуць*, гл.) ступень падаўжэння рэдукцыі ў дзеясловах на -**ati* і некаторых дзеясловах на -**nǫti*.

**Ты́рла** 'месца на пашы, дзе стаіць жывёла (авечкі, каровы, коні) у час гарачыні або ноччу' (ТСБМ), 'месца збору і адпачынку касцоў' (Ян.), *тырло* 'месца, дзе ў поўдзень дояць кароў' (П. Міс'ко). Параўн. укр. *ти́рло*, *тéрло*, *ти́рво* 'месца на пашы для збору жывёлы', 'такавішча', рус. *ты́рло* 'агароджанае месца, стойла для скаціны'. Паводле Фасмера (4, 132) і ЕСУМ (5, 572), запазычанне з рум. *tîrlă* 'загон для авечак', якое ўзыходзіць да серб. *тр́ло* 'зімовае памяшканне для жывёлы', дыял. *трла̀* 'тс', харв. *tŕlo* 'тс', балг. *тъ́рло*, макед. *трло* 'летні загон для авечак', генетычна звязаных з прасл. *tьr̥ti* 'церці' > *цéрці* (гл.); мяркуемая выходная форма **tьrdlo* (Куркіна, Этимология–1976, 30). Сюды

далучаюць таксама формы аналагічнага паходжання са значэннем ‘нераст, нерасцілішча’, ‘цёрла, церніца’ і інш., што ўзводзяць да прасл. *$t\mathring{r}$*dlo* (Борысь, 627) або да прасл. *$t\mathring{r}$*lo*, параўн. ст.-слав. **тръло** (ESJSt, 16, 991).

**Тырмазы́** ‘калыска, якую бралі ў час жніва’ (шкл., ЛА, 3). Параўн. *тормозова́ць* ‘тузаць’ (ТС), укр. дыял. *тормоси́ти* ‘цягаць, тузаць, трасці’. Аддзеяслоўнае ўтварэнне з дыялектнай фанетыкай (пераход *а* > *ы*; *с* > *з*) ад *тармасі́ць* (гл.), канчатак, як у *тычаны* ‘трыножнік для падвешвання калыскі ў полі’ (Касп.), гл.

***Тырно́ўка**, *тырны́ўка* ‘свята паміж Пакровамі і днём св. Міхаіла’ (Клім.), *тэрно́ўка*, *тарно́ўка* ‘свята, дзень Параскевы Сербскай, 14/25 кастрычніка’ (Талстая, Полес.). Назва выводзіцца з імені святой Параскевы Тырнаўскай, балг. *св. Петка Търновска* ад г. *Търново* ‘Тырнава (у Балгарыі)’, культ якой зліўся з культам св. Параскевы Сербскай пад агульнай назвай *пя́ценка* (гл.), падрабязней гл. Талстая, Полес., 558.

**Тырпа́чык** ‘зламаны ножык’ (Бяльк.). Відаць, варыянтная мясцовая форма да *тарпа́чык*, памянш. ад *тарпа́к* (гл.), адзначанага толькі як ‘спружыноўка’ побач з *трапач* ‘тс’ (рас., Шатал.), што можа разглядацца як форма з метатэзай ад *трапаць* (гл.); дзеяслоў *тырпа́чыць* ‘рэзаць, шаткаваць’ (Ян.), зафіксаваны ў іншай мясцовасці, пры *трыпачыць* ‘апрацоўваць зямлю спружыноўкай’ (рас., Шатал.) сведчыць на карысць такога паходжання. Дапускае магчымасць пры пачатковай змене *к* > *т*, напр., **карпачык* ад *карпаць*$_2$ ‘укараціць’ (гл.) або іншамоўны ўплыў – ад’ідэацыя іншых слоў, параўн. тур. *tirpan* ‘серп, каса’, гл. і наступнае слова.

**Тырпуга́**, *тэрпуха́* ‘мянташка’ (Сл. Брэс., Касп.), *трапуга́* ‘тс’ (ДАБМ), *тэрпу́ха*, *тэрпу́га*, *трыпу́га* ‘тс’ (зах.-палес., ЛП); сюды ж *тырпу́жыты* ‘мянціць касу’ (там жа). Няясна; параўноўваюць з укр. карп. *терпу́г*, *терпу́га* ‘піла’, *торпу́жити* ‘церці, шліфаваць’, рус. *терпу́г* ‘напільнік, рашпіль’, дапускаюць запазычанне з цюркскіх моў, параўн. тур. *törpü*, азерб. *төрпу*, ст.-цюрк. *törpüg* ‘піла’, ‘напільнік, рашпіль’, *törpi* ‘абстругваць’ (Фасмер, 4, 49; ЕСУМ, 5, 558). Аднак абмежаваны арэал ўжывання на захадзе ўсходнеславянскай тэрыторыі і пераважна аддзеяслоўнае паходжанне назваў рэаліі ставіць пад сумненне прынятую

этымалогію, ва ўсякім разе, дапускае мажлівасць збліжэння з *трапаць* (гл.), польск. дыял. *tyrpać* ‘торгаць, біць, штурхаць’, укр. *тéрти* ‘церці’, параўн. *терпýга* ‘апілкі’ (ЕСУМ, 5, 558), што вяртае да вядомай этымалогіі Міклашыча (353).

**Тырр**, *тыр-р* – выклічнік, выражае грукат хутка ад’язджаючага воза, раптоўны гром, нечаканы трэск ад падзення дробных прадметаў, гук пры разбіванні посуду, адначасовы стрэл з ружжаў (Нас.), перадае стук па штыкецінах: *палкыю па кольліх тыр-р* (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймальны імітатыў з інтэнсіўным значэннем, утвораны шляхам падваення апошняга гука, параўн. укр. *вурр* – пра гырканне сабакі пры звычайным *вур* (Смаль-Стоцкі, Приміт., 62, 148). Гл. таксама *тыр-тыр.*

**Тыр-р** – так спыняюць каня (Сцяц.), *тыр-р-р* ‘стой (да каня)’ (астрав., Ск. нар. мовы). Вакалізаваны волевыяўленчы выклічнік, параўн. *тр-р-р*, *тпру* (гл.). Сюды ж *ты́рканьня* ‘тпруканне’, *ты́ркаць* ‘тпрукаць’, *ты́ркнуць* ‘тпрукнуць’ (Юрч. СНЛ).

**Ты́рса** ‘від кавылю, кавыль валасісты, *Stipa capillata*’ (ТСБМ), *тырсá* ‘стэпавая трава *Stipa*’ (Ласт.). Параўн. укр. *ти́рса* ‘кавыль перысты, *Stipa pennata*’, рус. *ты́рса* ‘кавыль валакністы’, *ти́рса* ‘каласоўнік, мятліца’, польск. *tyrsa* ‘кавыль’, ‘калаўротнік, пустазелле’. Паводле Лаўчутэ (Балтизмы, 12), глухі варыянт літ. *dìrsė*, *dìrsa* ‘каласоўнік, *Bromus* L.’. Параўн. *ды́рса*, *гі́рса* (гл.), варыянт з пачатковым *т-*, хутчэй за ўсё, русізм або ўкраінізм, не вядомы народнай мове (гл. Кіс.).

**Тырсá** ‘апілкі’ (ТСБМ, Нар. Гом.; парыц., Янк. Мат., ТС; ветк., Ск. нар. мовы), ‘пілавінне’ (рэч., Нар. сл.; капыл., Жыв. сл.; бых., слаўг., касцюк., лун., ЛА, 1), *трісá* ‘тс’ (стол., там жа); *ты́рса* ‘пілавіны, апілкі, смецце’ (Бяльк., Ян., Растарг., Мат. Маг., Мат. Гом., ПСл; ганц., Сл. ПЗБ; слуц., карм., клім., чэрык., чач., лельч., ЛА, 1); *тырс* ‘тс’ (чач., ЖНС), *ты́рша* ‘пілавінне’ (калінк., ЛА, 1, Сл. ПЗБ), *ты́рста* ‘тс’ (Арх. ГУ). Параўн. укр. *ти́рса* ‘тс’, рус. *ты́рса* ‘тс’. Безумоўна, звязана з *цéрці* (гл.), *с (ш)* пасля звычнага асновы мае ўзмацняльную функцыю, падобную да аналагічнай у *пырса* ‘пілавінне’ ад *пырсь*, *пырскаць*, гл. Рэдкія дыялектныя формы *кі́рса*, *кірсá* ‘тс’ (гом., ЛА, 1) адлюстроўваюць фанетычныя з’явы варыянтнасці *k* ~ *t* на поўдні Беларусі, дзе

захоўвалася *t'* (гл. Векслер, Гіст., 228), параўн. старое літ. *tirti* 'спрабаваць, даследаваць тручы, паціраючы' (Смачынскі, 689).

**Тырту́н** 'бульбяная каша' (Сл. Брэс.), сюды ж *тырту́шка* 'тарка' (Сл. Брэс.; кобр., ЛА, 4), *тэрту́шка* 'тс' (жабін., кобр., ЛА, 4). Да заходнепалескіх утварэнняў ад *тэ́рты*, *тэ́ртэ* 'церці', у якіх *тэ-* ў ненаціскных складах часта пераходзіць у *ты-*.

**Тыр-тыр**, *тырь-тырь* – пра гукі стрэлаў з ружжа (Канкард. XIX ст.). Гукаперайманне. Паводле Брукнера (589), польск. *tyr* 'стрэл' можа паходзіць з іт. *tiro* 'тс', якое, у сваю чаргу, ад франц. *tirer* 'страляць', англ. *tear* 'разрываць', ням. *zerren* 'цягнуць', што сведчыла б аб польскім уплыве. Параўн., аднак, выклічнік *тырр* (гл.) з шырокай семантыкай, якая ўключае і названае значэнне, а таксама *ты́*ркало 'гульня ў вайну, калі крычаць тырр – страляюць' (ТС).

**Тырты́ця** 'дошка' (кобр., Скар. нар. мовы), ст.-бел. *тертица*, *тортица* (ГСБМ). Гл. *тарціца* 'тс', зыходная форма ўзыходзіць да прасл. **terti* і ўтворана ад дзеепрыметніка **tьr-tъ* 'цёрты', параўн. ст.-чэш. *třenice* 'дошка', мар. *třenica*, славац. *trenica* 'тс' (ад дзеепрыметніка **tьr-en-ъ*).

**Ты́рхаць** 'штурхаць', *тырхну́ць*, *тырхану́ць* 'штурхануць', *тырха́ньнік*, *тырха́ньніца* 'той, хто штурхае', *тырха́ньне* 'штурханне', *тырхану́тый* 'той, якога штурхнулі' (Юрч. Вытв., Юрч. СНЛ). Параўн. рус. пск. *тырхону́ть* 'з сілай піхнуць'. Арэальны фанетычны варыянт да *турхаць* (гл.) з пераходам *у* > *ы*, магчыма, экспрэсіўнага характару, параўн. *штырхаць*, *штурхаць*, гл.

**Тырц** 'тыц' (віл., Сл. ПЗБ). Магчыма, у выніку кантамінацыі рухапераймальных выклічнікаў *тырх* (гл. *ты́рхаць*) і *тыц* (гл. *тыцнуць*).

***Тырці́льніца** (*тыртілныця*) 'жанчына, якая трэ лён' (драг., Выг., З нар. сл.). Да *це́рці* (гл.), ад мясцовага *тэ́ртэ* (Бел. дыял. 2), параўн. *трэйка*$_1$, гл.

**Тырча́ць**, *тырчэ́ць* 'тарчаць' (ТСБМ., Нас., Бяльк., Ласт.; ашм., Стан., ТС; паст., рагач., в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'быць навідавоку', 'жыць абы-як' (Нас.), *тырча́ць*, *стырча́ць* 'вытыркацца' (Некр. і Байк.): *пусты колас у гору тырчыць* (Сержп. Прык.). Параўн. укр. *тирча́ти* 'тс', рус. дыял. *тырча́ть* 'грукаць, тарахцець'. Фанетычны варыянт да *тарча́ць* (гл.), мажліва, экспрэсіўна

маркіраваны. Карскі (1, 258) дапускае змену першапачатковага **tьrk-* па недастаткова ясных прычынах у сувязі з націскам і даўжынёй складу, звязаўшы з т. зв. «трэцім поўнагалоссем» у Шахматава. Узводзіцца да прасл. **tьrčati* / **stьrčati* 'тс' і, магчыма, звязанага генетычна з чэш. *tyčiti se* 'ўзвышацца' (Махэк$_2$, 650). Гл. таксама Фасмер, 4, 88; ЕСУМ, 5, 573; Арол, 4, 88. Сюды ж *тырчако́м* 'тарчма' (Адм.), *тырчко́м* 'тс', 'стаўма, у вертыкальным становішчы' (ТСБМ, Нар. Гом.), *тырчко́м*, *тырчма́*, *тыршма́* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *трышма́*, *тырьчма́* 'тс' (Бяльк.), *тырчма́* 'стаўма, старчаком', 'не прылягаючы, не прыстаючы' (ТСБМ), *тырчмако́м* 'тарчма' (Бяльк.); *тырча́нка* жарт. 'чарга' (Мат. Маг. 2). Гл. таксама *тарчма*, *торчма*.

**Тыршкля́** 'трашчотка' (Ласт.). Відавочна, гукапераймальнага паходжання, сюды ж і *тырсчэ́ць* 'тарахцець' (Ласт.) з узмацняльнымі нарашчэннямі *-с-* / *-ш-*, *-к-*, параўн. *тыркацець* (гл.), укр. *ти́ркати* 'трашчаць', польск. дыял. *tyrkawka* 'трашчотка'.

**Тыры́б** 'прасека праз лес' (кобр., Ск. нар. мовы). Нульсуфіксальнае ўтварэнне ад мясцовага дзеяслова *тырыбэ́тэ* 'церабіць (лес)', гл. *церабіць*. Параўн. рус. арханг. *тéреб* 'расчышчаная ад кустоў зямля пад раллю', алан. *теребé* 'пакосы, лугі', якія ўзыходзяць да *теребить* 'церабіць', апошняе звязваюць з *тереть*, *тру* (Фасмер, 4, 45–46). Значэнне, магчыма, пад уплывам *тыба$_1$*, гл. Сюды ж утварэнне *тырыбі́ж* 'расцяроб' (кобр., ЛА, 2) з суф. *іж-*, што адпавядае суф. *-еж* у прасторавым значэнні (Сцяцко, Афікс. наз.), суадноснае з *церабéж* 'тс', укр. *теребі́ж* 'месца, ачышчанае ад кустоў'.

**Тырыба́ніць** 'тараторыць, гучна і без толку гаварыць', 'насіць (несці), цягнуць што-н. вельмі цяжкае' (мёрск., Нар. сл.). Мясцовы фанетычны варыянт да *тараба́ніць$_{1,2}$*.

**Тыры́гаць** 'трэсці (пра электрычнасць)' (ТС). Шматкратны дзеяслоў ад *тóргаць* (гл.), фанетычна суадносны з *таргаць* (гл.), магчыма, з дадатковым экспрэсіўным адценнем. Параўн. экспрэсіўнае чэш. мар. *terygat'se* 'цягнуцца куды-небудзь, з цяжкасцю ісці' ў Махэка (Sebr. sp., 2, 1587), славац. *terigat'* 'цягнуць; калаціць, трасці', гл. *турыгаць*. Сюды ж магчыма аднесці і вядомае ў арго янаўскіх лабараў *тры́га*, *тыры́га* 'зямля, поле' (Бел. дыял. 1'), метафарычнае ўтварэнне на базе значэння 'тое, што патрабуе

клопату, тузаніны', аднак яго варыянты *цыра*, *цырыга* ў беларускіх сацыялектах схіляюць да запазычання з грэч. ξηρα 'суша, зямля' (Лукашанец, Сацыял., 72). Параўн. *сыра*, гл.

**Тырыé** 'пілавінне' (драг., Жыв. НС). Зборны назоўнік з дыялектнай фанетыкай, суадносны з *турыя́* (гл.).

**Тыры́ндзіць** 'гаварыць пустое, абы-што' (Сцяшк. Сл., Скарбы$_2$). Экспрэсіўны фанетычны варыянт слоў *тарандзіць*, *трындзіць*, гл.

**Ты́ры-пы́ры** слэнг. 'тое-сёе' (Рамза, Бел. гутар.). Рыфмаванае спалучэнне слоў гукапераймальнага паходжання, параўн. *тыр-тыр*, *пыр$_2$*, гл.

**Тырысава́ць** (*търъсъва́ць*) 'таптаць', *тырысава́цца* (*търъсъва́цца*) 'таптацца' (мёрск., Нар. сл.). Няясна; зыходная фанетычная форма, магчыма, *тарасава́ць*, *тарасава́цца* 'тс', гл. Аніч., Вопыт, 414. Апошняе можа ўзыходзіць да ст.-бел. *тарасъ* 'падкатны зруб пры асадзе горада' (1568 г.): *тарасы оные передъ собою катячи, перекопъ деревомъ наполнили*, параўн. укр. *тарасува́ти* 'масціць дарогу хмызамі', серб. *тара̀цати* 'масціць'; або да запазычанага польск. *tarasować* 'узмацняць, запіраць' ці дыял. *tarasić* 'таптаць, таўчы, прыгнятаць', што выводзяць з с.-в.-ням. *tarraz* 'земляны насып' ад лац. *terra* 'зямля' (Брукнер, 565; Трубачоў, Дополн. у Фасмер, 4, 23; ЕСУМ, 5, 521).

**Ты́ры-ты́ры** 'імітацыя ігры на скрыпцы': *тыры-тыры скрыпачка* (Дзіц. фальклор). Гукаперайманне, параўн. *тылі-тылі* 'тс'.

**Ты́рыцца** (*ты́рицьца*) 'церціся, аціраццa дзе-небудзь', *уты́рыцца* 'ўсунуцца, улезці': *утырився сюды* (Нас.), *ты́рыць* 'біць': *будзем ты́рыць суседняга хлопца* (уздз., Жд. 3). Параўн. укр. разм. *тиратися* 'гараваць, бедаваць', *ти́рити* 'цягнуць', 'піхаць, усучваць', рус. *ты́риться* 'ісці, прабіраючыся крадком', *ты́рить* 'красці', *сты́рить* 'украсці', мажліва, сюды ж з т. зв. жгонскай мовы *ти́рить у́паки* 'валіць валёнкі'. Цвяткоў (Затіскі, 2, 55) параўноўваў зваротны дзеяслоў з польск. *terać się* 'бадзяцца, аціраццa', трактуючы змену першага галоснага пры запазычанні ў якасці працэсу «нахілення або сціскання», як у польск. *rozterka* 'ўнутраны непакой, ваганне'; ст.-бел. *ростырк*, *розтырк* 'сварка, разлад' (1518 г., ГСБМ), аднак няяснымі застаюцца фармальныя і семантычныя адносіны паміж *тыраць* і *тырыць*. У рус. *тырить*,

*стырить* ‘красці, скрасці’ Кіпарскі (Зб. Бернштейну, 418) бачыць «двухбаковае чаргаванне» ў аснове **tur-* з першасным значэннем ‘схапіць, сцягнуць’, гл. *турыць*. Узыходзіць да прасл. **tyriti*, адносна першаснай семантыкі якога існуюць розныя меркаванні; зыходнае значэнне ‘скрытна знаходзіцца дзе-н.’ (Іваненка, Студії з ономастики та етимології. 2010, 72), што адпавядае семантыцы зваротнага дзеяслова ў Насовіча, параўн. і *стырыць* ‘стаяць, прысутнічаць, дзяжурыць’ (гл.), што ўрэшце можа быць звязана з гукапераймальным *тыр* (гл. *тыр-тыр*), параўн. рус. *тыр да ёр* ‘бязладдзе’, ст.-польск. *tyr* ‘папрок’, серб. *тир* ‘штуршок’ і інш., гл. *тыркаць*, *тырчаць*. Што да паходжання дзеяслова, то, відаць, яно звязана з прасл. **tirati* (гл. *тыраць*), якое выводзіцца з **terti* ‘церці’ (Сной$_2$, 766). Відавочна, на семантыку дзеяслова маглі паўплываць іншамоўныя запазычанні, сярод якіх для ўкр. *ти́рити* ‘цягнуць, валачы’ прапануецца запазычанне з рум. *tîrî* ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 572), а для рус. *ты́риться* ‘лезці, прабірацца’, *тырить* ‘красці’ – цыг. *te terés* ‘трымаць, мецць, браць’ (Баранніка ў, Язык и литература, Ленинград, 1931, 7, 153; Шапавал, ВЯ, 2007, 5, 113).

**Ты́сечнік** ‘лекавая расліна’ (брэсц., Сл. Брэс.), ‘крываўнік звычайны, *Achillea millefolium* L.’ (лях., Сл. ПЗБ). Калька з польск. *tysięcznik* ‘цвінтарэй, *Centaurium* Hill’, параўн. запазычаную форму *тысе́нчнік* ‘тс’ (свісл., Шатал.), альбо ўсечаная форма рус. *золототысячник* – кніжная назва з лац. *Erythraea centaurium* < ст.-грэч. κενταύριον ‘эрытрэйская трава кентаўраў’, якую (праз народную этымалогію) сталі разумець як *centum* ‘сто’ і *aurum* ‘золата’, праз ням. *Tausendgüldenkraut*, *Hunderttausendguldenkraut* ‘тс’ (Праабражэнскі, 1, 256; Фасмер, 2, 104; ЕСУМ, 2, 276).

**Тысымо́ныца** аргат. ‘тысяча’ (з мовы янаўскіх лабараў, Бел. дыял. 1). Магчыма, выводзіцца са ст.-прус. *tūsimt-ons* В. скл. мн. л. < **tūsemt-* < **tūsent-*, што ад с.-в.-ням. *tūsent* ‘тысяча’, параўн. Смачынскі, 694.

**Ты́сяць** ‘тысяча’ (Кліх), *tу́śаč* ‘тс’ (Карскі 2–3, 21). Трансфармавана пад уплывам польск. *tysiąc* ‘тс’, параўн. ст.-бел. *тысенць* ‘тс’ (1589 г., ГСБМ) і новаўтварэнні («на польский и чешский лад», Карскі 2–3, 248) ст.-бел. *тисѧць*, *тисѧчей* (XV ст.).

**Ты́сяча**, *ты́сеча, тысіча* 'лік і лічба 1000', 'колькасць, якая абазначаецца лічбай 1000' (ТСБМ, Некр. і Байк., ТС, Бяльк., Вруб.; ашм., Сл. ПЗБ); 'напасць, смерць': *каб цябе тысяча ўбіла* (маг., Рэгіян. асабл, 4), *ты́сячы* 'мноства чаго-небудзь, вялікая колькасць', 'вялікія грошы, капітал' (ТСБМ), *цісяча* 'безліч, многа': *грымаціць, бы там цісяча гармат смаліць* (Сержп. Прымхі), *cisiaczy* мн. л. 'тс' (Пятк. 3), ст.-бел. *тысяча, тисеча, тисяча, тысеча, тысеща, тысяща* 'тысяча', 'вялікая колькасць' (ГСБМ) з перавагай формы *тисяча* (Карскі 1, 237). Параўн. укр. *ти́сяча*, рус. *ты́сяча* 'тысяча', стараж.-рус. *тысяча* 'апалчэнне, якое дзялілася на сотні', ц.-слав. *тысѧща*, *тысѩща*, польск. *tysiąc*, н.-луж. *tysac*, *tysec*, в.-луж. *tysac*, чэш. *tisíc*, ст.-чэш. *tisúc*, славац. *tisíc*, славен. *tísoč*, харв. *tȉsuća*, балг. старое *ти́сеча*, ст.-слав. **тысѩщи**, **тысѩща** і **тысѧщи**, **тысѧща**. Прасл. **tysętja*, **tysętjь*, **tysǫtja*, **tysǫtjь*, роднасныя прус. *tusimtons* (В. скл. мн. л.); апошняя форма, як і літ. *tū̃kstantis*, лат. *tũkstuotis*, гоц. *þūsundi*, ст.-в.-ням. *dūdund*, нова-в.-ням. *Tausend* 'тс', выводзяіцца з і.-е. **tu-k'm̥t-ia* 'вялікая сотня' < пра-і.-е. **teū-* > **tūs-* 'набрыняць, пухнуць, таўсцець' + **k'm̥tom* 'сто' (Махэк$_2$, 643; Голуб–Копечны, 385; Скок, 3, 474; Фасмер, 4, 133; Чарных, 2, 275–276; Брукнер, 590; Борысь, 659; Сной, 766; ЕСУМ, 5, 574; Арол, 4, 126). Меркаванні пра запазычанне з германскіх моў (Ваян, RÉS, 24, 184 і інш.) спрэчныя, балтыйскія і германскія формы паралельныя да славянскіх, але не ідэнтычныя ім (Мілеўскі, Teoria, 318); балтыйскія формы, за выключэннем старапрускай, хутчэй запазычаны з ранніх прасл. **tūcentjā*, **tūcontjā* (Трубачоў, Слав. языкозн. VIII, 311). Славянскія формы з палаталізаваным пачатковым складам утварыліся ў выніку асіміляцыі з наступнымі мяккімі зычнымі, параўн. ESJSt, 17, 1003. Сюды ж *тысячагалоў* 'смолка, *Vaccaria pyramidata*' (ТСБМ), *тысячагоддзе* 'прамежак часу ў 1000 год', 'гадавіна тысячагадовай даўнасці', *тысячано́жка* 'мядзведка' (Мат. Гом.), *тысячанышка* 'сараканожка, мнаганожка' (драг., Сл. Брэс.), *ты́сяцкі* 'начальнік ваеннага апалчэння на Русі', 'галоўны распарадчык у вясельным абрадзе' (ТСБМ).

**Тысячалі́стнік** 'крываўнік, *Achillea millefolium* L.' (Адм.), *тысічалі́снік* 'тс' (бялын., ЛА, 1). Параўн. рэдкае укр. *тисяче-*

*лі́стник* 'тс' (Макавецкі, Sł. botan.). З рус. *тысячелі́стник*, якое з'яўляецца калькай з лац. *millefolium*.

**Ты́сячнік** 'багацей, уладальнік тысячнага капіталу' (ТСБМ), *ты́сячны* 'службовая асоба пры царскай уладзе' (Скарбы), ст.-бел. *тысячникъ, тисящникъ, тисечникъ, тисячникъ, тысечникъ* 'начальнік тысячы воінаў', *тысящникъ, тысещникъ, тысущник* 'начальнік тысячы воінаў' (ГСБМ). Вытворныя ад *тысяча* (гл.), у старабеларускую мову прыйшло са ст.-слав. **тысѧщьникъ, тысѫщникъ** 'начальнік атрада з тысячы воінаў', у сучаснай мове словаўтваральны тып асабовых назоўнікаў ад лічэбнікаў малапрадуктыўны (Сцяцко, Афікс. наз., 219).

**Тыта́н$_1$** 'бажаство з ліку волатаў, якое змагалася з багамі Алімпа', перан. 'чалавек вялікага таленту, надзвычайнага розуму' (ТСБМ), ст.-бел. *титанъ* 'тс'. Паходзіць ад ст.-грэч. Τιτάν (ад τιτώ 'сонца, дзень') (Арол, 4, 73; ЕСУМ, 5, 575). Запазычана ў сучасную мову, хутчэй за ўсё, праз польск. *tytan* 'тс'.

**Тыта́н$_2$** 'хімічны элемент' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Запазычана з ням. *Titan*, названы так ад н.-лац. *Titanium* вынаходнікам М. Клапротам паводле распаўсюджанай мадэлі хімічных тэрмінаў, параўн. ст.-грэч. Τιτάν 'сын Урана і Геі' і *uranium*, гл. *уран* (Арол, 4, 74).

**Тыта́н$_3$** 'вялікі кіпяцільнік' (ТСБМ). Назва ўзнікла як фабрычная марка, у якой адлюстравалася ідэя магутнасці (параўн. *тытан$_1$*). З рус. *тита́н* 'тс' (Арол, 4, 74).

**Ты́тул$_1$** 'загаловак кнігі', 'першая старонка кнігі, тытульны ліст' (ТСБМ, Гарэц., Некр. і Байк.), ст.-бел. *тытулъ, тителъ, титулъ* 'загаловак, назва', 'надпіс'. Са ст.-польск. *tytuł* 'тс', якое з лац. *titulus* 'тс', 'надмагільны надпіс', 'подпіс' (Булыка, Лекс. запазыч., 188), у ВКЛ таксама 'прычына, падстава, права' (Жлутка).

**Ты́тул$_2$** 'ганаровае або дараванае дваранскае званне (барон, князь, граф)' (ТСБМ, Некр. і Байк.): *у каго ў шкатуле, той і ў тытуле* (брасл., Рабк.), 'вясельны чын асоб, што маюць акрэсленыя функцыі ў рытуале' (беласт., Этнагр. зб., 112), ст.-бел. *тытулъ, титулъ* 'тытул, званне' (1438 г., ГСБМ). Са ст.-польск. *tytuł* < лац. *titulus* 'ганаровае званне, слаўнае імя', 'гонар, слава', 'подзвіг, заслуга', сюды ж ст.-бел. *тытуловати* 'называць' (1622 г.)

са ст.-польск. *tytułować* ‘называць’, якое з лац. *titulāre* ‘тс’ (Булыка, Лекс. запазыч., 198).

**Тытулёвы** ‘карункавы, цюлевы’ (Сцяшк. Сл.). Няясна; відавочна, ад *туль*, *тулі* (гл.), у тым ліку ‘вэлюм’, магчыма, пад уплывам *тытул*$_2$ ‘вясельны чын’.

**Тыту́нь**, *тыту́н*, *туту́н*, *туту́нь*, *тітю͡он*, *тютю́н* ‘тытунь сапраўдны, *Nicotiana tabacum* L.’, ‘махорка, *Nicotiana rustica* L.’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Бяльк., Касп., Кіс., Сцяшк., Вруб., Растарг., Сл. ПЗБ); *тытін* ‘тытунь’ (Сл. Брэс.; паўд.-брэсц., ЛА, 2); ст.-бел. *тытюнъ, титюнъ, тютюнъ* ‘тс’ (1685 г., ГСБМ). Запазычанне непасрэдна з тур., крым.-тат., кыпч. *tütün* ‘тытунь, дым’ (Фасмер, 4, 138; ЕСУМ, 5, 696), у ст.-цюрк. ‘дым’ (Др.-тюрк., 601) < *tüt-* ‘дыміцца, гарэць’, або праз польскую мову, параўн. ст.-польск. *tytuń*, *tutuń*, *tiutuń*, *tiutiun* ‘тытунь’ (Брукнер, 590; Борысь, 659). Сюды ж памянш. *тытуне́ц* ‘тс’ (Вушац. сл.). Гл. таксама *тыцюн*, *ціцень.*

**Ты-ты-ты** – пра гук, тупат, стук (мсцісл., Нар. лекс.): *і качачка казала: ты-ты-ты* (Вушац. сл.). Гукапераймание, параўн. *та-та*, гл.

**Тыф** ‘тыф, народныя назвы «брушняк», «гарачка»’ (ТСБМ, Аніч., Вопыт), *cif* ‘тс’ (Брасл. сл.), *ціф* ‘тс’ (Мова Сен.), *тіф*, *тіх* ‘тс’ (Арх. Вяр.), *тіф* ‘тс’ (Вруб.), *ціх* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *ты́фус* ‘тс’ (Гарэц., Некр. і Байк.), *тэ́фус* ‘тс’ (Пятр.), *ты́тус* (Зайка Кос.). Ад адаптаванага нямецкай мовай *Typhus* ‘тс’ медыцынскага тэрміна лац. *tўphus* ‘гарачка, ліхаманка’, грэч. τῦφος ‘дым, чад’, ‘здранцвеласць’ (Фасмер, 4, 63; Голуб–Ліер, 495; ЕСУМ, 5, 576; Арол, 4, 75); відаць, праз польск. *tyfus* ‘тыф’. У большасці славянскіх моў пры запазычанні магло адсякацца лац. *-us* як намінатыўны паказчык.

**Тых** – перадае гук ад біцця сэрца (Шат.; мсцісл., Нар. лекс.), *тых-тых* ‘тс’ (Нас.), ‘так-так, стук-стук’ (Бяльк.). Гукапераймальныя ўтварэнні. Сюды ж *ты́хаць*, *ты́хыць*, *ты́хъць* ‘хутка дыхаць’, ‘тахаць, стукаць’, ‘вельмі часта біцца (аб сэрцы)’ (Нас., Яруш., Бяльк., Юрч., Байк. і Некр.; мёрск., Нар. сл.), ‘дрыжаць, калаціцца (пра рукі)’ (Варл.), *тыхкаць* ‘біцца (пра сэрца)’ (Касп., Шат., Юрч., Яруш.), ‘цікаць, чыкаць’ (Некр. і Байк.), *тыханне*, *ты́хання* ‘біццё сэрца, тахканне’ (Бяльк., Байк. і Некр., Юрч. СНС),

‘пульс’ (Гарэц., Др.-Падб.); *тыхацца* ‘няроўна біцца’ (Касп.), *тыхкацца* ‘моцна біцца (пра сэрца)’ (Юрч. СНЛ); *тыхтання* ‘біццё сэрца’ (Яруш.) – апошняе з інтэнсіўным суфіксам *-т-*.

**Ты́хо-лы́хо** ‘шыта-крыта’ (драг., 3 нар. сл.). Да *ціха* і *ліха* (гл.) з заходнепалескай фанетыкай, параўн. ст.-бел. *тихо*, *тыхо* ‘ціха’, *тихота*, *тихость* ‘адсутнасць гаворкі, лагоднасць, пакора’ і *лихо* ‘зло’, ‘адчайна, рызыкоўна’ (ГСБМ); відаць, на аснове рыфмаванага выслоўя, параўн. *Cicho, bo budzie licho!* (ваўк., Федар. 4), або *Ot, ad licha cicha. a dabra ni czutno* (там жа), *Не чапай ліха, пакуль яно ціха* (Вушац. сл.).

**Тыц** – выклічнік, выражае раптоўнае дзеянне, нечаканую з'яву, сустрэчу (Нас., Пятк. 2, Сержп. Прык., ТС; даўг., іўеў., астрав., шальч., Сл. ПЗБ; мсціся., Нар. лекс.): *а ім у варотах тыц – Дыдона* («Энеіда навыварат»), *тыц! стаў конь, наравіцца!* (Ф. Багушэвіч), ‘дотык’: *вады на тыц рукі*; *тры разы тыц рукой* (леп., Нар. медыцына), *тыц-тыц* ‘тык-мык, пык-мык’: *тыц-тыц, і няма чаго сказаць* (астрав., Сл. ПЗБ), *тыц-мыц* ‘тык, тыц’ (карэліц., Нар. словатв.). Параўн. укр. *тиць* – для выражэння нечаканай сустрэчы (ад дзеяслова *ткнути*), *тиць-миць* ‘тык-мык’, рус. дыял. *тыц* – пра раптоўны рух, польск. *tyc* – водгалас утыкання (Вілен. сл.). Да *тыкаць* (гл.). Карэннае *-ц* узыходзіць да формы заг. ладу прасл. **tykati – *tъci* (ЕСУМ, 5, 577). Сюды ж *тыцаті* ‘шукаць’ (пін., Шатал.; Сл. Брэс.), *тэ́цнутэ (ногою)* ‘даць выспятка’ (драг., Ск. нар. мовы), *ты́цяты* ‘рабіць што-небудзь, пераходзячы з месца на месца’, а таксама ўскладненыя суфіксамі вытворныя *ты́цкаць* ‘тыкаць’ (ТСБМ, Ласт., Шат., Нар. Гом., Др.-Падб.); *ты́цканне* ‘тыканне пальцам’ (Ласт.), ‘звяртанне ўвагі на што-небудзь зробленае дрэнна, як бы папікаючы’ (Нар. Гом.); *ты́цкацца* ‘лезці ў чужую справу’ (Шат.), ‘соваць, тыцкаць’ (Касп.); *ты́цнуць* ‘сунуць’ (Жд. 1, ТС; люб., ЖНС), *ты́цнуцца* ‘ўсунуцца, умяшацца’ (Юрч. СНЛ), *тиц'нути* ‘тс’ (Горбач, Зах.-пол. гов.), *ты́цьнуты* ‘ткнуць’ (Клім.). Талстой (ЛП, 17) параўноўвае апошняе слова з серб.-харв. *ти̏цаті* ‘датыкацца’; Скок (3, 429) разглядае яго як вынік другаснай палаталізацыі з прасл. **tъk-*, гл. таксама Глухак, 618.

**Тыцэ́яць**, *тытіяти* ‘моцна і голасна сварыцца’ (драг., Ск. нар. мовы). Няясна. Магчыма, ад *тыц*, гл.

**Ты́цкала** ‘падкалочаная малаком і мукой яечня’ (Сцяшк.), *тыцкало* ‘смятана’ (Сцяшк. Сл.), *тыцкалка* ‘мачанка’ (Жд. 2). Усе ўтвораны ад *тыцкаць* ‘тыкаць, макаць’, гл. *тыц*.

**Тыць** ‘таўсцець’ (Скарбы): *razumny sochnie, a durny tyje* (ваўк., Федар. 4), *тыяць* ‘тлусцець, паўнець’ (Сцяшк. Сл.). Параўн. укр. *ти́ти* ‘тлусцець’, рус. *ты́ти*, стараж.-рус. *тыти* ‘сыцець, паўнець, гладчэць’; польск. *tyć* ‘тс’, н.-, в.-луж. *tyś* ‘квітнець’, чэш. *týt*, славац. *tyť*, серб. *ти̏ти* ‘паўнець, тлусцець’, ‘буйна разрастацца’, харв. *tȉti* ‘тс’, балг. *ту́чен* ‘тлусты’, макед. *тучен* ‘тлусты’, ‘урадлівы’, ст.-слав **тыти** ‘паўнець’. Прасл. **tyti* ‘гладчэць’, ‘набухаць, набрыньваць’ роднаснае літ. *tùkti* ‘тлусцець’, лат. *tũkt* ‘пухнуць, набрыньваць’, вал. *tyfu* ‘расці’, лац. *tumēre* ‘быць раздутым’, ст.-інд. *tū-ya-* ‘моцны, хуткі’, авест. *tavás-* ‘моцны’ < і.-е. **teu̯(ə)-* / **tou̯-* / **tū̆-* (Фасмер, 4, 144; Скок, 3, 475; Брукнер, 587; Махэк$_2$, 655; Голуб–Копечны, 399; Борысь, 657; ЕСУМ, 5, 575; ESJSt, 17, 1003). Параўн. таксама *тыл*, *тук*. Апафанічны варыянт прасл. **tyti* ў форме **toviti* захаваўся ў харв. *tòviti* ‘адкормліваць жывёлу’, *otȃva* ‘другі сенакос’ (Скок, 3, 475; Куркіна, Этимология–1976, 25), гл. *атава* і, магчыма, *товіст* ‘тоўсты’ (гл.), вывядзенне якога з **tl̥stъ* (гл. Карскі 1, 257) выклікае пэўныя фармальныя цяжкасці, у такім выпадку значэнне магло быць ‘адкормлены’.

**Тыцю́н** ‘тытунь’: *Czy й tèbe tycìùn je?* (Федар. 4). Гл. *тытунь*; мажліва, набліжанае да *тыц* (гл.) пры спажыванні нюхальнай табакі.

**Ты́цяты** ‘рабіць што-небудзь, пераходзячы з месца на месца’ (кам., ЖНС); 3-я ас. адз. л. *тыцяе* ‘цягнецца, пляцецца, ціха ідзе’ (Бес.). Няясна; магчыма, роднаснае чэш. *tejcet* ‘бадзяцца, швэндацца, аціраецца, лазіць (з месца на месца)’ – старачэшскае ў адносінах да яго (у выніку падаўжэння *ъ* > *у*) было б *⁺tycěti* (Махэк$_2$, 638). Да прасл. **tekti*, адкуль *цячы* (гл.). Семантычна суадносіцца з *тыцаті* ‘шукаць’ (Сл. Брэс.), якое, аднак, бліжэй да ўкр. *ти́цяти*, *ти́цькати* ‘біць заднімі нагамі’, серб. *ти́цати* ‘датыкацца’, славац. *tycat’* ‘торкаць’, што да прасл. **tycati*, **tъknǫti* (ЕСУМ, 5, 566, 577), гл. *тыц*.

**Тыч** ‘вочап у студні з жураўлём’ (пруж., ДАБМ, камент., 810), сюды ж зборн. *тыччо́* ‘тычкі для плота’ (докш., Янк. Мат.), *ты́чча* ‘тычкі’ (Мат. Гом.). Параўн. укр. зборн. *ти́ччя* ‘тычкі’, *тик*,

*тика* 'тычка, вяха', рус. *тыч* 'драўляны кол', зборн. *тыччé* 'тычкі, тычыны', польск. *tycz* 'жэрдка-падпорка', *tycza* 'тс', н.-луж. *tyca* 'тычка для хмелю ці гароху', в.-луж. *tyč* 'тычка', чэш. *tyč* 'тычка, жэрдка, дручок', славац. *tyč* 'палка, жэрдка, штанга, стрыжань, рэйка'. Паўночнаславянскае прасл. **tyčь* ад **tykati* 'ўтыркаць, убіваць, запіхваць'. Гл. таксама *тычка, тычына.*

**Ты́чак** 'фасоля, якая ўеццa' (беласт., Сл. ПЗБ), *тычáк* 'тс' (Вруб.). Утворана ў выніку семантычнай кандэнсацыі спалучэнняў *тычкавáя, ты́чкавая, тычкóва(я) фасóля* 'фасоля, якая ўецца па тычках' (Сл. ПЗБ, Сцяц., Мат. Гом., ПСл). Да *тыч, ты́чка* (гл.); з іншай суфіксацыяй *тычкýн* 'тс' (беласт., Вруб.).

**Тычаны́** 'трыножнік для падвешвання калыскі' (Касп.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *тыч* (гл.) у мн. л. па ўзоры *стаяны́* 'стаякі' і іншых назваў прыстасаванняў, што складаюцца з аднародных частак.

**Ты́чаць** 'соваць, усоўваць, тыкаць', *ты́чыць* 'торкаць, уторкваць' (ТС), *ты́чяті* 'соваць, даваць' (беласт., Сл. ПЗБ). Да *тыкаць* (гл.) паводле магчымага чаргавання ў прасл. **tykēti* > **tyčeti* > **tyčati* 'ўсоўваць, тыкаць'. Сюды ж *ты́чма* 'не адыходзячы ад каго-небудзь, увесь час папікаючы': *тычма тырчыш* (Нас.); як кантамінацыя з *тырчма тырчаць* (гл. *тырчаць*) з заменай першага спалучэння сінанімічным.

***Тычáць**, *тычя́ти* 'тырчаць' (Клім.), *тичйáти* 'тс' (Горбач, Зах.-пол. гов.). Параўноўваюць са старым серб. *тичати*, харв. *tičati* 'хавацца', 'здзіўляцца', 'сядзець на кукішках', славен. *tičáti* 'знаходзіцца, быць, тырчаць', што выводзіцца з прасл. **tyčati*, якое з **tykati* 'ўтыкаць, затыкаць', 'калоць, басціся' (Сной$_2$, 763). Бязлай (4, 179) славен. *tyčа̑ti* 'быць заткнутым, утыкнутым' трактуе як эсіў прасл. **tȳkati* 'датыкацца, калоць, басціся', які з'яўляецца ітэратывам ад **tъknǫti* 'тс'. Магчыма, да папярэдняга слова. Гл. таксама *тыкаць*.

**Ты́чка** 'вяха, вешка, уваткнуты ў зямлю шост, якімі пазначаюць дарогу, межы зямельных участкаў, мель, фарватар' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Касп., Байк. і Некр., Бяльк., Сцяшк., Растарг., ТС, Мал.; лід., пін., Сл. ПЗБ), 'знак забароны хадзіць ці пасвіць жывёлу' (Жд. 2; Нік., Оч.; ашм., Стан.), 'упіканне' (Нас.); 'кіёк' (Сцяшк.): *ja z taboju й tyczki hraй?* (у адказ таму, хто звяртаецца на «ты»;

Федар. 4), ‘высокі чалавек’ (Ян.); ‘завостраная палка, якой праводзяць баразёнку, як саджаюць гуркі’ (Бяльк., Булг., Мал., Гарэц., Федар. 6), ‘жэрдка для выцягвання вядром вады з калодзежа’ (Тарн.; іван., ЖНС; івац., Жыв. сл., Зайка Кос.), ‘вага ў студні з жураўлём’ (кам., ДАБМ, камент., 809), ‘прытык(а), шост і шнур з крукам для замацавання ля дна рыбалоўных снасцей’ (Крыв., Шат.), ‘вітка, якой перавіваюць калкі плота’ (стол., ЛА, 4), ‘ручка цэпа’ (малар., Выг.), ‘дзяржанне ў качарзе’, ‘вілачнік’, ‘дзяржанне ў памяле’ (ваўкав., ЛА, 4); ‘жэрдка, падвешаная ўверсе перад печчу’ (кам., ЛА, 4), ‘шост для падпірання павойных раслін’ (ТСБМ, Нас., Шат., Ян.), ст.-бел. *тычка* ‘вяха, знак мяжы ці забароны’ (1541 г., ГСБМ). Параўн. укр. *ти́чка* ‘вяха’, ‘апора для павойных раслін’, ‘жордачка’, ‘від гульні’, рус. *тычок* ‘патарчака’, польск. *tyczka* ‘кій, шост, вешка, утыканая ў зямлю’, ‘від гульні’, чэш. *tyčka* ‘кій, шост’. Відаць, рэгіянальнае славянскае ўтварэнне пры дапамозе суфікса *-k-a* ад **tyčь* > *тыч* альбо мясцовае ад ст.-бел. *тыка* (гл.) і суф. *-ьк-а*. Да *ты́каць* (гл.)

**Тычня́к** ‘плот, частакол’ (Мат. Мазыр.), *ты́чнік* зборн. ‘дубцы для агароджы’ (Мат. Гом.), *тычы́ннік* ‘частакол’ (леп., Рэг. сл. Віц.). Суфіксальныя ўтварэнні ад *тыч*, *тычына* (гл.), параўн. *тыччо́*: *насек тычча, буду плот гарадзіць* (докш., Янк. Мат.), *ты́чча* зборн. ‘тычкі’ (Мат. Гом.).

**Тычы́на** ‘жэрдка’ (Яруш., Шымк. Собр., Доўн.-Зап. 2), ‘вялікая палка, доўгі шост’ (ТСБМ, Шат., Адм., Ян.; пух., іўеў., Сл. ПЗБ), ‘тонкая жардзіна, якая ўтыкаецца ў зямлю’ (Нас., Растарг.), ‘завостраны шост’ (Гарэц., Байк. і Некр.), *тычына́* ‘тс’ (ашм., Стан.), *тычы́нка*: *хмель тычынку абвівае* ‘тс’ (Сержп. Прык.), ‘жэрдка, падвешаная ўверсе над печчу’ (свісл., Шатал.), ст-бел. *тычина* ‘вяха, тычка’ (1585 г., ГСБМ). Параўн. укр. *тичи́на* ‘тычка’, рус. *тычи́на* ‘тс’, польск. *tyczyna* ‘тс’. Утворана пры дапамозе суф. *-ін-а* ад *ты́каць*, *ткнуць* (гл.); не выключана ўтварэнне ад **tyčь* ці **tъkъ* (з падаўжэннем вакалізму асновы) і таго ж суфікса *-ін-а*. Сюды ж *тычы́н* ‘вочап у студні з жураўлём’ (ваўк., ДАБМ, камент., 810) са зменай родавага канчатка пад уплывам *вочап*, *тыч* і інш.

**Ты́чыцца** ‘датычыць, мець адносіны’ (ТСБМ), ст.-бел. *тычитися* ‘мець дачыненне’ (1388 г., ГСБМ): *вам се самых тыче*

(Александрыя), побач з *тычити* 'тс': *в томъ местѣ ничого не тычетъ Слуцка* (1499 г., ГСБМ). Відаць, запазычана з польск. *tyczyć się* 'адносіцца да чагосьці ці кагосьці' або скалькавана непасрэдна з лац. *attingere* (<*tangere* 'кранаць, датыкацца'), параўн. лац. *guod attingit* 'што да, як да, у дачыненні да', польск. *co się dotyczy* (-*tyczy* замест -*tycze*, гл. Ніч, Wybor pism, 2, 257; Банькоўскі, 1, 292), чэш. *co se týče*, славац. *čo sa týka*, славен. *kar se tega tiče, tikati se* 'датычыць, адносіцца'. Да *тычаць, тыкаць$_1$* (гл.); паводле Борыся (657), польск. *tyczyć* 'памячаць дарогу тычкамі' ад прасл. **tyčь*, гл. *тыч*.

**Ты́шча** 'тысяча, вельмі многа': *Адным поясам тышча падперазаны* (у загадцы). – *Снуоп* (мазыр., Сержп. Прык. і прым.). Параўн. рус. разм. *ты́шча*, дыял. *ты́сца* 'тс' (СРНГ). Алеграформа ад *тысяча*, гл.

**Ты́шчыцца** разм. 'пралазіць, прабірацца з цяжкасцю; лезці куды-небудзь' (ТСБМ, Шат.; лаг., Гіл.), 'хавацца, залазіць у шчыліну, у дзірку; зашывацца' (маладз., Янк. Мат., Варл.), *ты́шчыць* 'соваць' (Шат.), 'рыць, успорваць зямлю': *svińnia tyščuć łoh* (Варл.). Няясна. Мажліва, адзіны захаваны ў сучасных славянскіх мовах адпаведнік ст.-слав. **тъщати сѧ** 'спяшацца, імкнуцца, старацца, сіліцца', паколькі старое рус. *тщи́ться* 'тс', ст.-серб. *таштати се* 'тс' лічацца запазычаннямі праз царкоўнаславянскую мову (ESJSt, 17, 1007), як і ст.-бел. *тщитися* 'старацца', адзначанае выключна ў рэлігійных тэкстах (ГСБМ). Магчыма, што захаванню архаізма ў абмежаваным арэале садзейнічалі фармальна і семантычна блізкія літ. *kýščioti* 'соваць, усоўваць, запіхваць', зваротнае *kištis* 'умешвацца' няяснага паходжання (Смачынскі, 292).

**Ты́яка** 'тыя' (Сцяшк. Сл.). Форма 3-й ас. мн. л. ад *той*. Да *той – ты́я* (ТСБМ, Нас.), параўн. *ты́je* 'тс' (Вруб.), пашыраная лакальным суфіксам -*ка* (Карскі 2–3, 55–56).

**Тыя́ра** 'галаўны ўбор старажытных усходніх цароў; мітра Рымскага Папы' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.). Праз ст.-рус., царк.-слав. *тиара* (з XI ст.) запазычана са ст.-грэч. τιάρα 'галаўны ўбор персідскіх цароў, чалма', куды трапіла з персідскай мовы (Фасмер, 4, 55; ЕСУМ, 5, 577; Голуб–Ліер, 462). Для беларускай назвы магчыма пасрэдніцтва лац. *tiāra* 'мітра'.

**Ты́яць** 'тлусцець, таўсцець' (Сцяшк. Сл.). Да *тыць* (гл.), другасны інфінітыў, утвораны пад уплывам асабовых форм цяп. часу.

**Тьме́ны** 'бардовы' (драг., Сл. Брэс.). Да *цьмя́ны* (гл.), параўн. ст.-бел. *тьмяность* 'цьмянасць, зацемненасць' (1489 г., ГСБМ).

**Тэ**$_1$ 'тое': *возьмі тэ корыто* (Руб.). Параўн. укр. *те*, польск. *te*, дыял. *toje*, в.-луж. дыял. *te* 'тс'. Арэальна абмежаваная форма н. р. указальнага прасл. займ. **to* (ESJSt, 17, 1004), суадносная з *тэ́е* (гл. *тэй*), параўн. *то*$_1$ і *тое*$_1$, гл.

**Тэ**$_2$ 'ты' (кам., драг., Сл. ПЗБ). Да *ты* (гл.) з мясцовай заходнепалескай фанетыкай.

**Тэало́гія** 'багаслоўе' (ТСБМ), *тэолёгія* 'тс' (Пятр.), ст.-бел. *теология*, *феология* 'тс' (1595 г., ГСБМ). Запазычаны са ст.-польск. *teologia* 'тс', якое з лац. *theologia*, а апошняе са ст.-грэч. θεολογίᾱ 'навука пра багоў' ад θεός 'бог' і -λογία < λόγος 'слова' (Булыка, Лекс. запазыч., 162; ЕСУМ, 5, 546–7). Параўн. таксама ст.-бел. *теологъ*, што са ст.-польск. *teolog* 'тс'; другасныя варыянты, фанетычна набліжаныя да грэчаскіх формаў *феологъ*, *феолокгъ*. Таго ж паходжання народнае *тэлялёг* 'багаслоў'; студэнт-багаслоў; чалавек, што чытае ў царкве святыя кнігі' (Нас.), магчыма, іранічна і фармальна набліжанае да гукапераймальных слоў *таляхаць*, *талялёхаць* і інш., гл.

**Тэарэ́ма** 'матэматычнае палажэнне, правільнасць якога ўстанаўліваецца доказам' (ТСБМ). Праз рускую мову (*теорема*) з франц. *théorème*, якое з лац. *theorema* 'палажэнне, якое падлягае доказу' < ст.-грэч. θεωρέω 'гляджу на відовішча', 'разглядваю, абмяркоўваю, ацэньваю', θεώρημα 'відовішча' (Фасмер, 4, 43; ЕСУМ, 5, 547).

**Тэа́тр** 'род мастацтва, прадстаўленне відовішчаў', 'памяшканне са сцэнай і залам', 'месца важных падзей' (ТСБМ, Пятр.), *тэа́тар*, *тэа́тр* (Некр. і Байк.), ст.-бел. *театръ*, *театрумъ* 'тэатр, сцэна, памост' (1638 г.). Запазычана або са ст.-польск. *teatr*, *teatrum*, якія праз лац. *theātrum* узыходзяць да ст.-грэч. θέατρου, іян. υέητρον 'гледачы, публіка ў тэатры', 'прадстаўленне', або непасрэдна ад лац. *theātrum*, пра што сведчыць ранняя фіксацыя ў старабеларускай мове формы *театрумъ* (Булыка, Лекс. запазыч., 167). Прысутнічае не ва ўсіх славянскіх мовах, параўн. чэш. *divadlo*, славац. *divadlo*, харв. *gledalîšte*, што тлумачаць уплывам

пурыстычных тэндэнцый (Чарных, 2, 231–232; ЕСУМ, 5, 534; Скок, 1, 568; Фасмер, 4, 34).

**Тэ́бель** ‘свердзел’ (ТСБМ, Мядзв., Янк., Жд. 3, Касп., Арх. Вяр., ТС), *тэ́быль* ‘тс’ (драг., Жыв. сл.), *ты́бель* ‘тс’ (Пятк. 1), *тэ́бяль* ‘драўляны шып’, ‘свердзел’ (Сцяшк., Скарбы), *ту́бель, ты́бель, тэ́баль, тэ́бэль, тэ́бяль* (Сл. ПЗБ), *тэ́бель, тэ́бел, тэ́бол* ‘свердзел’, ‘драўляны гвозд, шпунт’ (ТС). Праз польскую мову, дзе *tybel* ‘драўляны гвозд, якім злучаюць часткі драўляных вырабаў’, рэдка ‘свердзел’, што, у сваю чаргу, з с.-в.-ням. *tübel* ‘гвозд, калок’, якое выводзіцца са ст.-в.-ням. **(gi)tubili* ‘выразка; стык; тое, што ўбілі’, ўрэшце ўзыходзіць да і.-е. **dheu̯bh-, dhubh-* ‘біць, дзяўбці; драўляны гвозд, клін’ (Köbler, Wörterbuch des althochdeutschen Sprachschatzen, Paderborn, 1993, 1098). Таго ж паходжання *дзю́бель* ‘прабойнік, клін, устаўка ў адтуліну’, што выводзіцца з н.-в.-ням. *Dübel* ‘гвозд, клін’, відаць, непасрэдна з нямецкай прафесійнай лексікі, магчыма, набліжанае да *дзюба, дзюбаць*. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 564; Вінцэнц. Сюды ж дзеяслоў *тэблёваць* ‘рабіць тэблем дзірку ў дрэве, свідраваць’ (ТС) і фанетычныя варыянты *тэблёва́ты* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *тэблява́ць* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.).

**Тэ́гус** ‘бульбяная бабка’ (Сцяшк. Сл.). Паходжанне няяснае. Відаць, запазычана вусным шляхам з ідыш, параўн. *tejgexe* ‘бабка, запяканка’, што ад ням. *Teig* ‘цеста’ (Астравух, Ідыш-бел. сл., 792), якое ўзыходзіць да і.-е. **dheigh-* ‘мясіць цеста’, больш ранняе ‘мясіць гліну’, адкуль і грэч. τεῖχος ‘мур’, τοῖχος ‘сцяна’ (Duden. Ethymologie, 841).

**Тэ́ечка** ‘сяброўка’. Гл. *тэйка, тайка.*

**Тэж** ‘таксама’ (Сл. ПЗБ, Мілк. Сл., Скарбы$_2$, Нар. Гом., ТС), *тэш* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тежъ, тэжъ* ‘тс’, *тежь, теже* ‘тс’ (ГСБМ). Выводзяць з польск. *też* ‘таксама’, ‘альбо’ (Карскі Труды, 314; Жураўскі, SOr, 10, 1, 40), якое з *teże*, што ўзыходзіць да праславянскага спалучэння ўказальнага займенніка **tъ* і ўзмацняльнай часціцы *že*, апошняе дало паўд.-слав. і ўсх.-слав. **tože*, зах.-слав. **tъže* з адпадзеннем канцавога *е* (Борысь, 630) з розным далейшым фанетычным развіццём, гл. таксама *тыж*, параўн. рус. *тож*, укр. *тож, теж*, славен. *tore(j)* ‘такім чынам’, в.-луж. *tež*, чэш. *též*, славац. *tiež*. Фанетычны варыянт *тэш* адлюстроўвае аглушэнне звонкага зычнага ў абсалютным канцы слова.

**Тэз** ‘месца, дзе сушаць ганчарныя вырабы’ (валож, Жд. 1). Гл. *тэзы*.

**Тэ́за** ‘тэзіс, асноўнае палажэнне’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Пятр., Баршч.). Запазычана з ням. *These* ‘тс’ праз польск. *teza*. Гл. *тэзіс*.

**Тэза́ўрус** ‘поўны тлумачальны слоўнік’ (ТСБМ), ст.-бел. *тезаврусъ* ‘тс’: *в книгахъ тезаврусъ, то есть скарбом называють* (1595 г., ГСБМ). Запазычана з лац. *thesaurus*, зафіксаванага ў лацінскамоўных тэкстах ВКЛ як ‘скарб, каштоўнасць, маёмасць’ (Жлутка, 335) з с.-грэч. θησαυρος ‘скарб, каштоўнасць, сховішча’. Значэнне ‘кніга, слоўнік’, відаць, пераноснае ад ‘тое, што запісана, улічана’.

**Тэ́зіс** ‘палажэнне’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘навуковы вывад’ (Ласт.). З лацінскага навуковага тэрміна *thesis* ‘тс’, які, у сваю чаргу, са ст.-грэч. θεσις; шлях пранікнення позні, хутчэй за ўсё, праз рус. *те́зис*, параўн. Арол, 4, 54; ЕСУМ, 5, 535. Гл. *тэза*.

**Тэ́зы**, *тызы* ‘насціл пад столлю, дзе сушыцца ганчарны посуд’, *тэ́за* ‘дошка ў насціле для сушэння гліняных вырабаў’ (свісл., БЛ, 18), *t'yzy*, *tyz'oųki* ‘паліца для сушэння вырабаў ганчароў’ (беласт., SFPS, 14), *тэз* ‘месца, дзе сушаць ганчарныя вырабы’ (івян., Жд. 1). Параўн. польск. *tyzy* ‘рышт у ганчароў, на які кладуцца дошкі або жэрдкі з кафляй’. Няясна; меркаванне пра запазычанне з польскай (Міхайлаў, БЛ, 18, 63) не аргументавана.

**Тэй** займ. м. р. адз. л. Н. скл. ‘той’ (Нас., Шымк. Собр.; бялын., Янк. Мат., ПСл, Варл.; в.-дзв. Сл. ПЗБ, Бяльк., Мат. Гом.): *тэй хозяин як жив, так и живе́ць* (маг., Рам. 4); ‘замяняе назоўнік, ужыванне якога лічыцца непрыстойным’ (Нас.): *тэй, што казали* ‘чорт’ (Растарг.); займ. ж. р. адз. л. Р., Тв., М. скл. ‘той, тае’ (Нас., Некр. і Байк.): *тэй каровы тут німа* (Варл.). Форма *тэй* фіксуецца ў старабеларускай мове з канца XVI ст. (КГС), да прасл. **tъjь*. Пра рэгіянальны рэфлекс *э* з *ъ* гл. у Карскага (Карскі 1, 154–157, 194, 235). Адносна фанетычнага развіцця выказваецца думка пра яго позні характар (там жа, 156) і сувязь з адпаведнымі з’явамі ў прыметнікавых формах, параўн. паўн.-ўсх. *злэй*, *друге́й* і інш. Параўн., аднак, факты, адзначаныя ў берасцяных граматах Залізняком (Сов. сл., X, 168), пра паралельнае існаванне рэфлексаў *-ый*, *-эй* і *-ой* на месцы **-ъјь* з некаторай перавагай заходняга

рэфлекса *-ый*. Паралельнае ўжыванне формаў *тэй*, *тый*, *ту͡ой* у беларускіх гаворках канстатаваў Карскі (2–3, 194), як і ўзнікненне формаў ускосных склонаў ж. р. *тэй* па аналогіі з *таéй* і формай м. р. *тэй* (там жа, 196). Марфалагічнае тлумачэнне для названай формы прапанаваў Ільінскі (Запіскі, 2, 280–281), гл. таксама Бузук, Sb. prací, 463; тое ж: Бел. мовазн. слав., 25–26. Меркаванне пра польскае запазычанне (Сабалеўскі, ЖМНП, 251, 137–143) не прымальнае з-за шырокага распаўсюджання названай формы на ўсходнеславянскай тэрыторыі. Сюды ж *тэ́іць* ‘тыя’ (гл.) *тэ́е* ‘тое’, *тэ́й жэ* ‘той жа’, *тэй-сей* ‘хто-небудзь, хтосьці’ (Нас., Бяльк.), *тей* ‘той’ (Шымк. Собр.). Гл. *той*, *тый*.

**Тэйга́ні** ‘пельмені’ (Сл. Брэс.). Хутчэй за ўсё, запазычана вусным шляхам з ід. *tejgi* ‘клёцка’, аформленага як назоўнік у мн. л. (гл. Астравух, Ідыш-бел. сл., 792), вытворнага ад ід. *teig*, *tojg* ‘цеста’ з ням. *Teig* ‘тс’, параўн. ням. *Teigtasche* ‘пельмень’.

**Тэ́йка** ‘сяброўка’ (калінк., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.). Гл. *тайка* ‘тс’, магчыма, з экспрэсіўнай заменай *а* > э пад націскам. Калі прыняць ідэю т. зв. дзіцячых слоў, то можна параўнаць з балг. *те́йка* ‘цётка’ (БЕР, 7, 899; з *те́та* ‘цёця’), н.-луж. дыял. *tejka* ‘бабуля’ (Шустар-Шэўц, 1502; параўн. в.-луж. *ćeta* ‘цётка’).

**Тэ́ка** ‘футляр для захоўвання пісьмовых прылад; партфель’ (Нас., Шымк. Собр.). Запазычана праз польск. *teka* ‘партфель, папка для папер’, памянш. *teczka* ‘тс’ (гл. *тэчка*), з лац. *theka* ‘футляр, чахол’ < грэч. ϑήχη ‘сховішча, скрынка’ (Борысь, 630; ЕСУМ, 5, 535).

**Тэкі́нскі** – назва пароды белых курэй (ТС). З рус. *теки́нский* ‘які мае дачыненне да тэкінцаў’ (тэкінцы – туркменская этнічная група).

**Тэкст** ‘тое, што сказана, напісана або надрукавана і звязана сэнсам’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.), ст.-бел. *текстъ* (XVII ст., ГСБМ). Мажліва, запазычана непасрэдна з лац. *textus*, аднак больш верагодна польскае пасрэдніцтва, гл. Булыка, Лекс. запазыч., 165; у тым ліку і для рус. *текст*, гл. Кохман, 217.

**Тэксты́ль** ‘ткацкія вырабы’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘валакно’ (Некр. і Байк., Ласт.). З заходнееўрапейскіх моў, параўн. ням. *textil*, франц. *textile* ‘прадзільны, ткацкі’, што, у сваю чаргу, з лац. *textīlis* ‘тканы’ > *texo* ‘ткаць’ (Фасмер, 4, 37); паводле Арла (4, 54),

у выніку адаптацыі заходнееўрапейскіх слоў і запазычанага рус. *тексти́льный* 'тканы' да лац. *textus* 'тканая рэч', таго ж паходжання, што і *тэкст*, гл. Параўн. польск. *tekstylia* 'тэкстыльныя рэчы'.

**Тэле-** пачатковы элемент складаных слоў (т. зв. абрамарфема) з агульным значэннем 'далёкае, аддаленае', што паходзіць ад грэч. τῆλε 'далёка' (< і.-е. *$k^{u}$*el-* 'далёкі'), гл. *тэлебачанне*, *тэлевізар*, *тэлеграма* і пад. (Арол, 4, 54; ЕСУМ, 5, 537).

**Тэлебача́нне** 'трансляцыя рухомых відарысаў, тэлевізія', 'установа, што перадае тэлевізійныя праграмы' (ТСБМ, Мова Сен.). Калька з рус. *телеви́дение* 'тс', што, у сваю чаргу, з'яўляецца паўкалькай з франц. *télévision* або англ. *television* 'тс', т. зв. еўрапеізмаў-гібрыдаў, утвораных на аснове грэч. τῆλε 'далёка' і лац. *visio* 'выява, бачанне' ў пачатку XX ст. (Арол, 4, 54; ЕСУМ, 5, 538). Гл. *тэле-* і *бачыць*.

**Тэлеві́зія** 'тэлебачанне' (ВСБМ; Рамза, Бел. гутарк.), *тел'евізіја* 'тс' (Вруб.); сюды ж *тэлевізі́йны* 'звязаны з тэлебачаннем' (ТСБМ). Запазычана з заходнееўрапейскіх моў, магчыма, праз польск. *telewizja* 'адзін з відаў тэлекамунікацыі', *telewizyjny* 'прызначаны для трансляцыі тэлеперадач'. Гл. папярэдняе слова. Аналагічнага паходжання *тэлеві́зар* 'апарат для прымання тэлеперадач' (ТСБМ) – еўрапеізм, утварэнне гібрыднага тыпу ад грэч. τῆλε 'далёка' (гл. *тэле-*) і лац. *visor* 'той, хто бачыць; глядач' (Длугаш-Курчабова, 497).

**Тэлегляда́ч** 'адрасат, прымальнік тэлевізійных перадач' (ТСБМ, Баршч.). Калька з рус. *телезри́тель* або з польск. *telewidz* 'тс'.

**Тэлепа́ті** 'ісці павольна' (беласт., Сл. ПЗБ). Гл. *целяпа́ць*.

**Тэлефо́н** 'апарат для перадачы і прыёму галасавых паведамленняў' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Еўрапеізм, распаўсюдзіўся разам з вынаходствам першапачаткова з франц. *téléphone* (1834 г.), пазней праз англ. *telephone* (з 1880 г.), утвораны з грэч. τῆλε (гл. *тэле-*) і φωνή 'гук, голас' (Арол, 4, 57). Сюды ж *тэлефанава́ць* 'гаварыць праз тэлефон' (Некр. і Байк.), разм. *тэлефо́ніць* 'тс' (ТСБМ).

**Тэліе́шчыті** 'падымаць, перавозіць з цяжкасцю' (беласт., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, звязана з зах.-палес. *teliš* 'цурбан,

абрубак; тулава без канечнасцей' (Арх. Вяр.), ст.-бел. *телеш* 'той, хто апрацоўваў калоды' (1569 г., ГСБМ). Гл. *цялеш*.

**Тэ́льбан** 'трыбух' (Сцяшк. Сл.). Гл. *тэ́льбух*.

**Тэльба́та** – пра жывёлу з вялікім чэравам (драг., ЛА, 1). Гл. *тэльбух*.

**Тэ́льбух** 'трыбух' (Сцяц.), 'страўнік, начынены мясам' (Мат. Гом.), 'чэрава; страўнік у свінні' (брэсц., ЛА, 1), 'жывот, бруха; тоўсты чалавек' (ТС); 'вялікі жывот; чалавек з тоўстым жыватом' (Мілк. Сл.). Сюды ж *тэльба́та* (гл.), *тэльбухава́ты* 'трыбухаты' (Сцяшк. Сл.), *тэльбухова́тый* 'тс' (Клім., Горбач, Зах.-пол. гов.; мазыр., З нар. сл.), *тел'бушйти* 'трыбушыць' (Горбач, Зах.-пол. гов.). Параўн. старое польск. дыял. *telbuch* 'жывот'. Няясна. Звычайна разглядаецца як варыянт польск. *terbuch* 'тс' з чаргаваннем *р / л* (Сцяцко, БММ, 2, 209), якое было характэрна для польскай мовы, гл. Брукнер, 567; ЕСУМ, 5, 541, 627; Глухак, 637 і інш. У Брукнера *telbuch* 'бруха', *terbuch*, *trybuch* 'тс', *trybuszyć* 'трыбушыць' узводзіцца да праславянскага кораня і параўноўваецца з *torba* (гл. *торба*). Фасмер адмаўляе роднасць каранёў *terb-* і *torb-* (Фасмер, 4, 96), аднак не выключае сувязі з прасл. **kolbъ*, што мае значэнне 'круглы, выпуклы', параўн. бел. *ке́лбухі* 'кішкі, вантробы' (гл.) пры *коўб$_2$* 'свіны страўнік', якое ў выніку замены *к* > *т* магло даць разглядаемую форму. Малаверагодна выводзенне на аснове укр. дыял. *телебу́х* 'вантробы жывёлы', *тельбо* 'вялікі жывот; чалавек з вялікім жыватом' прасл. **tъlbo*, **tъlbuch* арэальна абмежаванай інавацыі, гл. Шульгач, Слов. етим., 454; адносна яе распаўсюджання гл. Сяткоўскі, Słow. nazwy, 218 (на мяжы Польшчы, Украіны і Беларусі). Няясныя адносіны да прыметніка чэш. *tělpatý* 'тоўсты', якое Махэк$_2$ (639) параўноўвае з рус. *телепень*, *тельпень*, *тельпеш*, гл. *целяпень*, *цяльпеш*. Хутчэй за ўсё, гукапераймальнага (імітатыўнага) паходжання, параўн. ід. *telebenden* 'целяпацца, боўтацца'. Гл. таксама *цельбух*.

**Тэ́льманка** гатунак бульбы (ПСл, Мат. Гом.). Відаць, ад уласнага імя *Тэ́льман* (нямецкі камуніст, забіты нацыстамі).

**Тэля́чы** 'цялячы' (беласт., Сл. ПЗБ; Вруб.), ст.-бел. *телячий*, *целячий* 'тс' (ГСБМ). Гл. *цялячы*, *цяля*.

**Тэ́ма** 'галоўная думка, прадмет, змест твора; заданне' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.). Хутчэй праз ням. *Thema*, якое, у сваю чаргу, з лац. *thema* < грэч. θέμα (Рэйзак, 655). Літаратуразнаўчы тэрмін, паводле Краснея (Прабл. бел. філал., 64), запазычаны з рус. *тема* ў пачатку XX ст., дзе замацаваўся з часоў Ламаносава, аднак паралельна з ім ужываўся ў XVIII ст. адпаведнік грэчаскай форме *фема* 'тс' (Фасмер, 4, 40; Арол, 4, 58; Кохман, 235). Беласт. *тема́т* (Вруб.) з польск. *temat* 'асноўная думка' з пераносам націску на канец слова.

**Тэ́мбель** 'тоўсты свердзел' (У. Калеснік). Гл. *тэбель*; відавочна, з другаснай назалізацыяй.

**Тэмбр** 'акустычная афарбоўка гуку' (ТСБМ), *тэ́мбар* 'тс' (Некр. і Байк.). Відаць, праз польск. *tembr* 'тс', што з франц. *timbre* (ЕСУМ, 5, 542: непасрэдна з французскай мовы).

**Тэміе́жнік** 'прыгнятальнік' (Сл. ПЗБ), *тэміе́жыті* 'знішчаць, высякаць' (там жа), ст.-бел. *тямяжити* 'прыгнятаць' (1598 г., ГСБМ). З польск. *ciemiężca* 'тс' з падляшскай фанетыкай і заменай арыгінальнага суфікса на рэгулярны для беларускай мовы суфікс *-нік* са значэннем 'асоба мужчынскага полу па роду дзейнасці ці па схільнасці да чаго-небудзь' або ўтвораны непасрэдна ад запазычанага дзеяслова. З польск. *ciemiężyć* 'прыгнятаць, прыціскаць', што да прасл. **temati* 'прыціскаць, душыць' (Борысь, 80), гл. *таміць*. ЕСУМ (5, 544) для адпаведнага запазычанага ўкр. *темя́жити* дапускае сувязь з *тім'я* 'цемя'.

**Тэмп$_1$** 'ступень хуткасці, развіцця' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.), *те́мпо* 'тс' (Вруб.). Еўрапеізм, пранікненне праз рускую мову (*темп*), дзе з XVIII ст. выводзіцца з ням. *Tempo* ці непасрэдна з італ. *tempo* < лац. *tempus* 'тс' (Фасмер, 4, 41; Арол, 5, 59); беластоцкае слова праз польск. *tempo* 'тс' таго ж паходжання.

**Тэмп$_2$** 'гатунак бульбы' (Брасл. сл.), *тэ́мпа* 'тс' (слонім., Расл. св.). Ад рэгіянальных варыянтаў назваў гатунку, першапачаткова *тэмп* (БелСЭ, 2, 464), гл. *тэмп$_1$*.

**Тэ́мпера** 'фарба, расцёртая на яечным жаўтку' (ТСБМ). З рус. *те́мпера* 'тс', якое, у сваю чаргу, з італ. *tempera*.

**Тэмпера́мент** 'тып псіхічнай дзейнасці' (ТСБМ), *тэмпэра́мент* 'тс' (Некр. і Байк., Пятр.), ст.-бел. *тэмпэраментъ* 'тс' (1616 г., ГСБМ). Са ст.-польск. *temperament* 'тс', якое, у сваю

чаргу, з лац. *temperament* 'незалежныя суадносіны частак' (Булыка, Лекс. запазыч., 128).

**Тэмперату́ра** 'цеплавая характарыстыка' (ТСБМ), 'гарачка, павышаная тэмпература' (смарг., Сл. ПЗБ), *тэмпэрату́ра* 'тс' (Некр. і Байк., Ласт.). З рус. *температу́ра* 'тс' ці польск. *temperatura* 'тс', што, у сваю чаргу, з лац. *temperatura* 'стан'. Сюды ж *тэмперату́рыць* 'мець павышаную тэмпературу' (віл., Сл. ПЗБ).

**Тэ́нар** 'высокі тэмбр мужчынскага голасу' (ТСБМ, Пятр.), *тэно́р* 'тс' (Некр. і Байк.). Хутчэй за ўсё, праз польскую мову, дзе *tenor* 'самы высокі мужчынскі голас', якое з італ. *tenore* 'тс'. Форма з канцавым націскам з франц. *tenor*, якое таксама з італьянскай мовы (Арол, 4, 60), што ад лац. *tenēre* 'тэнар; трымаць', бо высокі голас «трымае» мелодыю (Фасмер, 4, 42).

**Тэ́нга** 'туга' (шальч., Сл. ПЗБ), *тэ́нго*, *тэ́ньго* 'старанна?': *будзе ахвотно й тэнго робіць, што схочэ* (Сержп. Прымхі), *тэ́нґа* 'вельмі добра': *тэ́нґа павячэраў* (мядз., Каўрус). З польск. *tęgo* 'туга', а таксама дыял. *tęngo* 'многа, добра', *tęgo* 'ўпарта; вельмі; хутка, шпарка' (Варш. сл.). Сюды ж *тэ́нгі* 'рослы, поўны' (воран., Сл. ПЗБ) з польск. *tęgi* 'тс'.

**Тэ́ндаль** 'гультаяваты дзяцюк' (слуц., Жыв. сл., 65). Экспрэсіўнае ўтварэнне гукапераймальнага пахожання, параўн. *тындаль*, гл.

**Тэндэ́нцыя** 'напрамак развіцця, накіраванасць' (ТСБМ, Пятр.), 'імкненне, нахіл' (Некр. і Байк.). Еўрапеізм, з лац. *tendēns* 'накіраванасць' праз ням. *Tendenz* або франц. *tendense* 'тс'. Магчыма, у беларускую прыйшло праз рускую, дзе адаптаванае з XIII ст. *тенде́нция* 'тс' (Арол, 4, 60).

**Тэ́ндэр** 'прычэп да паравоза'; 'конкурсная форма правядзення таргоў' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рус. *те́ндер*, дзе з англ. *tender* 'тс', 'заяўка на падрад' (Арол, 4, 60).

**Тэ́ніс** 'гульня з мячыкам і ракеткамі' (ТСБМ, Пятр.). З англ. *tennis* 'тс', што паходзіць ад франц., ст.-франц. *tenez* 'трымайце' (вокліч пры падачы мяча) < лац. *tenere* 'трымаць' (Арол, 4, 60; ЕСУМ, 5, 546). Праз рус. *теннис* ці польск. *tenis* 'тс'. Сюды ж, відаць, *тэ́ніска* 'сарочка з кароткімі рукавамі' (ТСБМ), што з рус. *тенниска* 'тс', якое, у сваю чаргу, утворана ад *теннис* < англ. *tennis* суфіксальным спосабам.

**Тэ́нкаць** ‘гаварыць бяссэнсна’ (ТС). Гукаперайманне. Параўн. з *цéнькаць*, *трэ́нькаць*.

**Тэнт** ‘парусінавая стрэшка’ (ТСБМ). З рус. *тент* ‘тс’, новае запазычанне з англ. *tent* ‘навес, палатка’. Параўн., аднак, ст.-бел. *tenda* ‘занавеска’ (XVII ст., ГСБМ), запазычанае са старапольск. *tenda* ‘нацягнутая заслона’ (Булыка, Лекс. запазыч., 111), што з народнага лац. *tenda* ‘тс’ (Фасмер, 4, 42).

**Тэ́нуты** ‘пабегчы; схавацца’ (Клім.), ‘зрушыцца з месца’ (Сл. Брэс.), ‘рэагаваць’ (пін., Бел. дыял. 1), *тэ́нутыся* ‘рушыць’ (драг., Нар. словатв.). Магчыма, звязана з серб. *тéнути* ‘жадаць’. Няясна; мяркуецца паходжанне ад **teknǫti* ‘пабегчы’ (ЕСУМ, 5, 546), параўн. *тыняцца*, гл.

**Тэ́нціць** ‘шанцаваць: *ня тэнціць беднаму Сцяпану* (Жд. 3: у слоўніку памылкова аб’яднанае з *тáнчыць* ‘танцаваць’). Няясна; магчыма суаднесці з польск. *tentować* ‘спрабаваць, рабіць высілкі дасягнуць’, што звязана з *tentacja* ‘спроба, высілкі’, гл. *тантацыя*.

**Тэнч** *ж.* ‘танката (пра ніткі)’ (навагр., З нар. сл.). Экспрэсіўны назоўнік, утвораны нульсуфіксальным спосабам ад *тóнкі* (гл.) з адлюстраваннем пераходу *о* > *э*. Параўн. *тóўсты*, *тоўшч*, *тэўшч*, гл.

**Тэ́нча** ‘вясёлка’ (Шатал., Сл. ПЗБ, Сцяшк., Скарбы, Жд. 1, Сержп. Грам., Мат. Гом., ТС), *тэнч* ‘тс’ (Сл. рэг. лекс.), сюды ж *тэнчóвік* ‘саматканы дыван’ (Рэг. сл. Віц.), *тэнчавéць* ‘пералівацца вясёлкай, святлець’ (Сцяшк. Сл.). З польск. *tęcza* ‘вясёлка’, таго ж паходжання, што і *туча* (гл.), параўн. мажлівую сувязь двух паняццяў у ст.-бел. *натура наша людскаꙗ ... показаласе ꙗко дꙋга, ꙗко тꙋча* (XVII ст., ГСБМ), што, відаць, калькуе польск. *tęcza* ‘дугападобная частка скляпення ў касцёле’ (Варш. сл.).

**Тэ́нчыць** ‘кленчыць, настойліва прасіць, дамагацца просьбамі’ (Скарбы). Няясна; параўн. фармальна і семантычна блізкае рус. наўг. *тéнжить*, *тéншить* ‘надакучваць, кленчыць, настойліва прасіць’, якое Фасмер (4, 42) выводзіць з польск. *tążyć*, *tężyć* ‘тужыць, сумаваць па кім-небудзь’ (гл. *тужыць*), што з арэальнага пункту гледжання падаецца сумнеўным. Мажліва, дзеяслоў працяглага дзеяння ад гукапераймальнага *тэнкаць* (гл.) або роднасны польск. *stękać* ‘стагнаць, скардзіцца’ з рухомым *s* (гл. *стэнкаць*).

Народнаэтымалагічнай сувяззю з апошнім Федароўскі (Федар. 1, 249) тлумачыў табуізаванне запазычанага *тэнча* і замену яго словам *вясёлка* для пазбягання праклёну *kab ty cieły wiek stenкай*, гл. таксама Астроўскі, Зб. памяці Слаўскага, 522.

**Тэ́ньдэ, тэ́ньдыка** 'там, недалёка' (столін., Бел. дыял. 1, Клундук). Магчыма, запазычанне з польск. *tędy* 'той дарогай, праз тое месца', якое да прасл. **tǫdy*, варыянты **tǫdě*, **tǫde* ад указальнага займенніка **tъ*, які ў заходніх славян выступае ў форме м. р. **tъnъ* (<**tъ* і **nъ*, гл. *той, ён*), гл. Борысь, 630–631. Фанетычна, словаўтваральна і семантычна адаптаванае на заходнепалескай глебе. Параўн., аднак, серб. косава-мятох. *тонде* 'там', для якога прапануецца спалучэнне ўказальнага займенніка з *онде* 'там' (ESSJ SG, 2, 683). Утварэнне з часціцай **te* па ўзоры *вэнь, вэньдзека* 'вунь' (гл.)?

**Тэо́рыя** 'навука, абагульненыя палажэнні, сістэма ідэй' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Пятр.). Запазычана з заходнееўрапейскіх моў праз польск. *teoria* 'тс', якое з лац. *theoria*, што, у сваю чаргу, з грэч. θεωρία 'назіранне, меркаванне, вучэнне' (Фасмер, 4, 43; ЕСУМ, 5, 43).

**Тэ́паць** 'ісці, тупаць', 'хадзіць няпэўна (пра дзіця і старых)' (ТСБМ, Янк. 2, Яўс.). Параўн. польск. *tępać* 'тупаць' (Борысь, 654: з другасным насавым), н.-луж. *tepaś* 'тс', балг. дыял. *тéпам* 'ісці марудна ад старасці ці па-дзіцячы'. Гл. *тупаць*; форма з экспрэсіўным або варыянтным вакалізмам, што можа ўзыходзіць да прасл. **tъpati*, параўн. *тыпаць*, гл. Аднак большасць даследчыкаў звязваюць яе з прасл. **tepti*, роднасным з літ. *tèpti* 'мазаць', лат. *tept* 'тс' з асноўным значэннем 'біць, стукаць', да якога праз чаргаванне ўзыходзяць і *тупаць, тупат*, гл. (Фасмер, 4, 45; Шустар-Шэўц, 1504; ЕСУМ, 5, 548; БЕР, 7, 949). Гл. наступнае слова. Сюды ж *тэ́пало* 'той, хто тэпае' (Янк. 2), *тэ́паць* 'лапаць, сандаля' (Яўс.), *тэ́пці* 'хатні абутак' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *тэ́пкацца* 'дыбаць, ісці' (Кал.).

**Тэпсты́** (*тепсти́*) 'ківаць, матляць, целяпаць' (кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.), *тыпсты́* 'моцна трасці; шукаць' (Клім.). Параўн. рус. дыял. *тепсти́* 'цягнуць, вязці з натугай', палаб. *tipst* 'трэсці', славен. *tepsti* 'біць, лупцаваць', харв. *tèpsti* 'збіваць масла; біць, стукаць; валачыць; плявузгаць', серб. *тѐпсти* 'збіваць масла,

пляскаць, боўтаць, калаціць’, роднасныя літ. *tèpti* ‘мазаць, шмараваць; біць, стукаць’ пры аблаўтным *tapšnoti* ‘ляпаць’ з інавацыйным суф. *-šno-* (Смачынскі, 673), payраўн. харв. *tȁpšati* ‘тс’. Прасл. **tepti* ‘стукаць, біць’ (гл. *цепаць*) з «інтэнсіўным» *s*, відаць, гукапераймальнага паходжання (Фасмер, 4, 45; Скок, 3, 460; Глухак, 623; Шустар-Шэўц, 1504; Бязлай, 4, 170–171; ЕСУМ, 5, 548; БЕР, 7, 949).

**Тэ́пталь** (*тэ́птыль*) ‘чалавек, які марудзіць’ (мёрск., З нар. сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *таптацца* (гл. *таптаць*) з суфіксам са значэннем асобы, названай па негатыўнай прыкмеце, і варыянтным вакалізмам.

**Тэпэ́р** ‘цяпер’ (кам., Сл. ПЗБ), *тепе́р* ‘тс’ (Вруб.), памянш. *тэпэ́рачка* ‘тс’ (беласт., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *теперь*, *тепере*, *теперя*, *теперечи* ‘тс’ (ГСБМ). Гл. таксама *тапер*, *тіпіро*, *цяпер* – варыянтныя формы першаснага спалучэння ўказальнага займенніка **тъ* або часціц **to*,**te* (гл. ESSJ SG, 2, 684) і прыметніка **pьr̥vъ / pьr̥vь*, параўн. укр. *тепе́р*, *тапе́р*, *це́пер* ‘тс’, рус. *тепе́рь*, *топе́рь* ‘тс’, чэш. *teprv(e)* ‘толькі’, серб. *то̀прв* ‘толькі, толькі што’ і інш. (Фасмер, 4, 44; ЕСУМ, 5, 547; Арол, 4, 61). Звязана з *той*, *тый*, *тэй* і *первы*, гл.

**Тэ́раз** ‘цяпер’ (Сл. ПЗБ), *тэ́рас* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, шчуч., З нар. сл.), *тэразне́йшы* ‘цяперашні, сучасны’ (гродз., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *теразъ*, *тэразъ* ‘зараз, цяпер’ (XVII ст.), *теразнейший*, *терезнейший* ‘цяперашні’ (ГСБМ). Са ст.-польск. *teraz* ‘толькі што’, *tenraz* ‘цяпер’ (XVI ст., ESSJ SG, 2, 654; Борысь, 630), сучаснага польск. *teraz*, *terazniejszy* з тым жа значэннем (Булыка, Лекс. запазыч., 157).

**Тэрако́та** ‘абпаленая каляровая ганчарная гліна’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). З рус. *террако́та* ‘тс’, якое, у сваю чаргу, з іт. *terra cotta* ‘абпаленая зямля’.

**Тэрапі́я** ‘лячэнне ўнутраных хвароб’ (ТСБМ), *тэра́пія* ‘тс’ (Некр. і Байк., Ласт.). Хутчэй непасрэдна з навалац. *therapeia*, дзе з грэч. θεραπεία ‘догляд, лячэнне’ або праз польск. *terapja* ‘лячэнне, майстэрства лячэння’ (ЕСУМ, 5, 349).

**Тэрары́зм** ‘палітыка і тактыка тэрору’ (ТСБМ), праз рус. *террори́зм*, дзе, верагодна, з нямецкай. Паходзіць ад лац. *terror* ‘жах’, гл. *тэрор*.

**Тэра́са** ‘ўступы зямлі або прыбудова перад домам’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Пятр.). Відаць, праз рус. *терра́са* ‘тс’, што, у сваю чаргу, з франц. *terrasse* ‘земляны насып’, звязанага з лац. *terra* ‘зямля’.

**Тэ́ркаць** ‘падаваць голас (пра гусей)’ (карэліц., стаўбц., ЛА, 1). Гукапераймальнае, магчыма, пад уплывам літ. *keȓkti* ‘кракаць’ з характэрнай перадачай *k>t*, гл. *ке́ркаць* ‘гагатаць’ і *та́ркаць* ‘крычаць (пра гусей)’.

**Тэ́рмас** ‘ізаляваны посуд для захавання цёплым яго змесціва’ (ТСБМ). Ад рус. *те́рмос* ‘тс’ з адаптаванага ў 1920-я гады ням. *Thermosflasche* ‘тс’ або ўтворанага непасрэдна ад англ. *thermos flaske* ‘тс’, у аснове якіх грэч. νέρμη ‘цяпло’ (ЕСУМ, 5, 556; Арол, 4, 64).

**Тэ́рмін**$_1$ ‘пэўны прамежак, канец устаноўленага часу’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Шымк. Собр., Ласт., Гарэц., Сержп. Казкі, Касп.), ст.-бел. *терминъ*, *тэрминъ*, *терменъ* ‘тс’ (1577 г., ГСБМ). Запазычана праз ст.-польск. *termin* ‘тс’, што, у сваю чаргу, з лац. *terminus* ‘мяжа, канец’ (Булыка, Лекс. запазыч., 192), або непасрэдна адаптаванага з лацінскай тэрміналогіі, што шырока ўжывалася ў судовай практыцы ВКЛ, параўн. *termini indiciarii terrestres* = *рокі судовые земские* ад ст.-бел. *рок* ‘акрэслены, прызначаны час’ (Жлутка, 332). Сюды ж *тэрміно́ва* ‘ў хуткім часе’ (Варл.), *тэрміно́вы* ‘які не церпіць адкладу’, *тэрмінава́ць* ‘прызначыць тэрмін’ (Ласт.).

**Тэ́рмін**$_2$ ‘абазначэнне, назва пэўнага паняцця’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Сюды ж, магчыма, ст.-бел. *термина, тармена* ‘кароткі спіс, нататка’ (1574 г.), *термината* ‘тс’ (ГСБМ), ‘копія, прабел старонкі’ (Ст.-бел. лексікон), што звязаны з с.-лац. *terminus* ‘слова ў строга вызначаным сэнсе’, гл. ЕСУМ, 5, 554; Арол, 5, 63.

**Тэрмі́нка** ‘хвілінка’, ‘запіска’ (Нас.). Відавочна, ад *тэ́рмін*$_{1,2}$.

**Тэрмо́мант** ‘фляжка’: *салдат забыўс’а тэрмомант* (гродз., Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Тэрмо́метр** ‘прыбор для вымярэння тэмпературы’ (ТСБМ), *тэрмо́мэтр* ‘тс’ (Ласт.), *тэрмо́мэтар* ‘тс’ (Некр. і Байк.). Запазычанне з франц. *thermometer* ‘тс’, штучнага ўтварэння пачатку XVII ст. на аснове грэч. τέρμη ‘цяпло’ і μέτρον ‘мера’ (ЕСУМ, 5,

555; Арол, 4, 63); апошняя форма запазычана праз ням. *Thermometer* 'тс' або дапасавана да народнага вымаўлення.

**Тэрно́вы** 'шарсцяны' (Мат. Гом.), *тэрно́ўка* 'вялікая хустка з кіціцамі' (ПСл). Гл. *тараноўка*, *тарноўка*.

**Тэро́р** 'запалохванне пагрозамі або забойствам' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Запазычаны рознымі шляхамі інтэрнацыяналізм, мяркуецца, знаны з XIV ст., франц. *terreur* з лац. *terror* 'страх, жах; тэрор', звязаны з лац. *terrēre* 'палохаць' (ЕСУМ, 5, 556; Арол, 4, 65).

**Тэрпа́тына**, *тэрпацін*, *тэрпенцін* 'шкіпінар' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *терпентина*, *терпетина* 'тс' (ГСБМ). Гл. *тарпатына*.

**Тэ́ртка** 'цёрка' (кам., пін., Сл. ПЗБ, З нар. сл., Сл. Брэс.). Гл. *та́рка*.

**Тэ́ртус** 'гул, шум; жах' (Касп.), 'клопат' (Сцяшк. Сл.), *tertes* 'спрэчка, блытаніна, непаразуменне': *и ich buй tertes za lon* (Арх. Федар.). Параўн. укр. *тарта́с* 'шум, галас', *ту́рту́с* 'стук, грукат', польск. *tertas*, *tartas* 'шум, галас, мітусня, неразбярыха', чэш. *tartas* 'тс', славац. *tartas* 'тс'. Лічыцца словам гукапераймальнага паходжання, гл. Брукнер, 566 (параўноўвае з славен. *tertranje* 'галас'), Махэк$_2$, 636 (аналагічна да чэш. экспр. *varvas*, *tarvas*, *harvas* з канцавым *-s,* як у *halas*), ЕСУМ, 5, 525 (пранікненне з польскай мовы). Паводле Чэкмана (Гісторыя, 115), па фанетычных прычынах паходзіць з мовы ідыш як *мэтлух*, *вэрхал* і пад. Да апошняга параўн. ід. *tertl-mertl* 'від гульні ў карты' (Астравух, Ідыш-бел. сл.), відаць, імітатыўнага паходжання.

**Тэ́рты** 'церці, мяць' (Сл. Брэс.); 'драць бульбу' (брэсц., ЛА 1), сюды ж з тым самым значэннем *тэ́ртэ, тэрті, тэ́рці* (драг., бяроз., стол., ЛА 1), *те́рти* 'пераціраць' (Вруб.), ст.-бел. *терти* 'церці, пілаваць' (ГСБМ). Заходнепалескія дыялектныя варыянты дзеяслова *це́рці* (гл.), што ўзыходзяць да прасл. **terti*, параўн. *тэртка*, *труха*, гл.

**Тэру́я** 'пацяруха ад сена' (пін., Нар. лекс.). Да папярэдняга слова шляхам далучэння да праславянскай асновы **ter-* суфікса *-*ьja*, што дало **terьja*> *teraja*, гл *цера́я*; *у* з'явілася пад уплывам фанетычных змен у слове: зацвярдзенне *r* у спалучэнні *-*rьja* магло выклікаць змену галоснага ў слабай пазіцыі. Параўн. *труя$_2$*, гл.

**Тэрц** ‘дрыжанне, тупат’: *скачуць, аш тэрц па падлозе ідзець* (Мова Сен.). Няясна, магчыма, звязанае з *тарцаваць* ‘стругаць дрэва ўпоперак слаёў’ (Ласт.), вытворнае ад *торц*, гл. *тарэц*.

**Тэрыто́рыя** ‘абшар, працяг зямлі’ (ТСБМ, Пятр.). Можа разглядацца як адаптаваны тэрмін з мясцовай актавай лаціны ВКЛ, параўн. лац. *territorium* ‘абшар, прыналежны да нейкага горада, ваколіца горада; поле, маёмасць, уладанне; рэгіён’ (Жлутка). Магчыма, пазнейшае абноўленае запазычанне праз рус. *территория* з франц. *territoire*, англ. *territory*, што ўзыходзяць да лац. *terra* ‘зямля’.

**Тэ́ска** ‘трэска’ (астрав., варан., Сцяшк.). Няясна, фармальна ўспрымаецца як фанетычны варыянт да *цёска* ‘тс’, што да *цяса́ць* ‘часаць, апрацоўваць сякерай’ (гл.), аднак арэальна і семантычна можа суадносіцца з літ. *tašyti* ‘тс’, лат. *test* ‘тс’, што да незахаванага першаснага **tèšti* (Смачынскі, 661). Гл. наступнае слова.

**Тэ́скаць** ‘нясці нешта патайное, ды неаднаразова’ (баранав., Мілк. Сл.). З вялікай верагоднасцю суадносіцца з *таска́ць* (гл.) пры чаргаванні *а* > э ў сувязі з пераносам націску на першы склад дзеяслова шматкратнага дзеяння; пра «адноўленае» пад націскам э на месцы карэннага *а* гл. Карскі 1, 104; аналагічна *штаны́* / *штэ́нікі* і пад.

**Тэст** ‘выпрабавальнае заданне’ (ТСБМ, Улас.). Запазычана з англ. *test* ‘выпрабаванне, даследаванне’ ў XX ст., выводзіцца праз франц. *test* ‘ганчарны посуд’ з лац. *testu*, *testa* – ‘посуд, у якім правяралі якасць атрыманага металічнага вырабу, першапачаткова ў алхімікаў’ (Сной$_2$, 762; ЕСУМ, 5, 561; Арол, 4, 67). Сюды ж *тэстава́нне*, *тэсці́раванне* ‘праверка ведаў абітурыентаў’ (Каўрус, Словаклад).

**Тэсць** ‘цесць’ (Сцяшк., Пятр., Сл. ПЗБ), *тест’* ‘тс’ (Вруб.), ст.-бел. *тесть*, *цесць* ‘тс’ (ТСБМ). З польск. *teść* ‘цесць, свёкар’, гл. *цесць*. Сюды ж *тэ́сця* ‘цешча’ (Сцяшк.), *тэ́шча* ‘тс’ (кам., Сл. ПЗБ), *те́шча* ‘тс’ (Вруб.), ст.-бел. *тесча*, *теща*, *цеща* ‘тс’ (XVI ст., ГСБМ).

**Тэ-тэ-тэ** – выклічнік, які выражае здагадку, недавер, нечаканасць, незадаволенасць, здзіўленне і іншыя пачуцці: *te-te-te!* – *każe wiecier*, – *pokul chwalko nachwalicsa, to budźka nabudziecsa*

(Пятк. 2), ‘падтакванне’ (Сержп. Прымхі). Параўн. укр. *те-те-те* – выражае здзіўленне, задавальненне, рус. *те-те-те*, *тэ-тэ-тэ* ‘тс’, польск. дыял. *te-te-te* – выражае сцвярджэнне, сюды ж ід. *te-te-te* ‘ну-ну, ну але’ (Астравух, Ідыш-бел. сл.). Першасны выклічнік паводле Смаль-Стоцкага (Приміт., 22); Копечны (ESSJ SG, 2, 630–648) пагаджаецца з невытворным паходжаннем выклічніка, сінанімічным *ta-ta-ta*, гл. *та-та.*

**Тэ́т-а-тэ́т** ‘сам-насам, удваіх без сведак’ (ТСБМ). Еўрапеізм, паходіць з франц. *têt-a-tête*, відаць, праз рус. *тет-а-тет* ‘тс’.

**Тэ́ты** ‘гэты’: *тэты горшчык; у тэтым куточку* (Ян.), сюды ж *тэточкі* ‘гэтакі’ (Мат. Гом.). Спалучэнне дэйктычнага *тэ* (< прасл. **te*) і часціцы *то* (< **to*), дапасаванай па родзе (ESSJ SG, 2, 650), аналагічнае да *сеты* ‘тс’ (гл.); паводле Бузука – падобнае ўтварэнне *цéто* з *ці ето* (Svesl. zb., 164), гл. *ці* і *гэты*, паводле ESSJ (SG, 2, 119) – з *це,* параўн. укр. *це* ‘гэта’, і *то*$_1$, гл.

**Тэтэ́ра**$_1$ ‘цяцера, *Tetrao tetrix*’ (пін., Бел. дыял. 4), ст.-бел. *тетеря*, *цецера* ‘тс’ (1710–1711 гг., ГСБМ); сюды ж *тытыру́к* ‘цецярук’ (Сл. Брэс.). Параўн. укр. *тетéря*, рус. *тетéря* ‘цяцера’. Заходнепалескі фанетычны варыянт да *цяцера* (гл.) на базе гукапераймальнага **ter-*, **tir-*, прадстаўленага ў літ. *teterva*, лат. *teteris*, прус. *tatarvis* ‘цяцёрка’, ст.-інд. *tittirah* ‘курапатка’ і пад.

**Тэтэ́ра**$_2$ ‘вясельны гасцінец’, памянш. *тэтэ́ронька* (Сл. Брэс.). Параўн. укр. *тетеря* ‘кулінарны выраб’, рус. *тетеря* ‘тс’. Няясна, гл. ЕСУМ, 5, 562; паводле Шымкевіча (Корнеслов, 2, 83), укр. *тетеря* ‘рэшткі кіслага аржанога цеста, прыпраўленага соллю’ ідэнтычна *тетеря* (птушка), гл. *тэтэра*$_1$; матывацыя пераносу няясная.

**Тэўшч** ‘таўшчыня’ (Мат. Гом.; навагр., З нар. сл., Жд. 2, Янк. 2), *тэ́ўшча* ‘тс’ (слонім., Нар. лекс.), *тэ́ўшчар* ‘тоўсты’ (Сцяц.), сюды ж *тэ́ўсць* ‘паўната, таўшчыня; таўстун, таўстуха’ (дзярж., Нар. сл.; Кал.). Да *тоўшч* (гл.), хутчэй за ўсё, у выніку экспрэсіўнай змены пад націскам *о* на э («аднаўленне» квазі-карэннага галоснага), пра ўмовы фанетычнай дыялектнай з’явы гл. Карскі 1, 154–158.

**Тэ́хкацца** экспр. ‘марудна рабіць што-небудзь’ (віл., Нар. сл.). Гукаперайманне, параўн. *тохкаць* ‘таххаць, торгаць, стукаць’ (гл.), магчыма, з экспрэсіўнай зменай галоснага.

**Тэ́хніка** 'сукупнасць прыёмаў і машын; навыкі дейнасці' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Пятр.). Еўрапеізм, што распаўсюдзіўся з ням. *Technik* 'тс' у сярэдзіне XIX ст. Праз новалац. *technika* выводзіцца з грэч. τέχνη 'майстэрства, уменне' (Фасмер, 4, 54; ЕСУМ, 5, 563; Арол, 4, 69).

**Тэ́хталь** 'від гульні ў карты': *гралі ў тэхталя* (Я. Колас). Няясна; гл. наступнае слова.

**Тэ́хціць** 'берагчы, складаць' (Сцяшк. Сл.). Да *тахціць*, *тохтаць*, *тухтаць* 'пакаваць' (гл.), магчыма, з экспрэсіўнай перагаласоўкай галосных пад націскам. Гл. таксама *тэхкацца* 'марудна рабіць што-небудзь'.

**Тэ́чка** 'партфель' (Нас., Сцяц., Жд.; лях., Янк. Мат.), 'сумка' (Сл. Брэс., Альп.; пін., Бел. дыял. 1), *тэ́цка* 'тс' (паст., Сл. ПЗБ). З польск. *teczka* 'тс', гл. *тэка*.

Даведачнае выданне

# ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## Том 14

## Т

У к л а д а л ь н і к і:

**Лучыц-Федарэц** Іван Іванавіч,
**Цыхун** Генадзь Апанасавіч,
**Шакун** Надзея Сцяпанаўна

Рэдактар *Т. А. Гарбачэўская*
Мастацкі рэдактар *І. Т. Махнач*
Камп'ютарная вёрстка *В. Л. Смольскай*

Падпісана да друку 08.12.2017. Фармат 60 × 90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 21,0. Ул.-выд. арк. 20,2.
Тыраж 600 экз. Заказ 1475.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/18 ад 02.08.2013.
Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, г. Мінск.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Транстэкс».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/37 ад 29.01.2014.
Вул. Чапаева, 5, 220034, г. Мінск.

ISBN 978-985-08-2203-1

